# УЛАДЗІМІР КАРПАЎ

*ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ*

# УЛАДЗІМІР КАРПАЎ

*ТОМ ПЯТЫ*

---

## *ПРЫЗНАННЕ Ў НЯНАВІСЦІ І ЛЮБВІ*

Успаміны і апавяданні

## *КРЫЛАТЫ ЎЗЛЁТ*

Літаратурна-крытычныя артыкулы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

# ВОСЕНЬ СОРАК ДРУГОГА

*З успамінаў*

Мы развіталіся ў маленькай вёсцы Зуі, дзе размяшчаўся штаб нядаўна створанай брыгады Сямёна Міхайлавіча Кароткіна — на Віцебшчыне традыцыя даваць спецыяльныя назвы партызанскім злучэнням не прыжылася,— адчуваўся ўплыў недалёкага фронту.

З месяц назад сына і жонку вывезлі ўначы з «нічыйнай» Слабады, наладзіўшы шумны спектакль. Перавярнулі ў хаце ўсе рэчы і справілі гвалт. Трэба было, каб ніхто не мог абвінаваціць слаўную, спагадлівую сям'ю, што ў першыя дні вайны прытуліла нас.

Хлопцы, якія ўдзельнічалі ў катавасіі, рабілі гэта «папутна», маючы галоўнай задачаю нарыхтоўку солі для брыгады. Таму, пакуль яны праводзілі сваю зацяжную аперацыю, жонка і сын разам з імі жылі ў Тошніку — недалёкім ад Слабады лесе, памагаючы гатаваць ежу і мыць кацялкі.

У Зуях іх пасялілі ў хаце побач са шпіталем, і яны заняліся другім — сталі збіраць маліну для раненых. Харчаваліся ж у шпітальнай кухні.

Апошнюю ноч перад расстаннем мы правялі разам. На прыгуменні знайшлі стажок пад навяснай стрэшкаю, забраліся на яго, закапаліся ў сена і прагаварылі да світання.

Што асталося ў памяці з тае начы і сонечнага ранку? Зорная свежасць і мурожныя пахі. І яшчэ — родная цеплыня. Так, так! Яна ўспрымаецца сэрцам і, саграваючы яго, не растае, а як бы астаецца ў табе. Я не помню дакладна, аб чым мы гаварылі. Але магу прысягнуць: гаворка была наіўная, далёкая ад выпрабаванняў, што чакалі нас. У жонкі ёсць фотакартка — яна ў шаснаццаць: лабатая, адкрытая, з грыўкаю, у просценькай пазычанай шапцы-баядэрцы і паношаным, таксама чужым, палітэчку. А на адваротным баку надпіс-напамінак старэйшаму брату: «Не забывайся, што твая сястра, як і ты, моцна стаіць за справу рабочага

класа». Мне здаецца, размова наша па духу была цюцелька ў цюцельку падобная да гэтага надпісу. Ва ўсякім разе такі след застаўся ад яе. Помню толькі, калі мы першыя прачнуліся з сынам, я ўзяўся за «ТТ». Разбіраў, чысціў пісталет і страшэнна ганарыўся, што вачаняты ў сына паблісквалі. Група, якая ішла з Зуеў за лінію фронту, была невялікая. Збіты пад Віцебскам лётчык — бледны, зняможаны, у шлеме і пазелянелай скуранцы, што пабывала ў зямлі. Порсткая, коратка пастрыжаная студэнтка-медычка ў ботах і перашытай з шыняля куртцы. Старшыня райвыканкома — пажылы, брывасты, з добрымі, нібыта выцвілымі вачыма, у брызентавым плашчы. Яго жонка з сястрою — яшчэ поўныя, у гадах жанчыны, якія, відаць, баючыся ліхіх прыгод, апранулі на сябе лепшае, што захавалася ў іх. І, нарэшце, мая жонка з сынам, які быццам бы збіраўся ў госці — у туфельках, шкарпэтках, кароткіх штоніках, у белай кашульцы і седлаватай — даніна часу — іспанцы з кутасікам. Суправаджалі іх два маладыя хлопцы-партызаны — падводчык і праваднік, апранутыя з нейкім паляўнічым шыкам. Але ўдзельнічалі яны ў такіх паходах не ўпершыню і трымаліся па-будзённаму спакойна. Праўда, у праводніка на шыі вісеў новенькі аўтамат,— ППШ! — і хлопец часцей, чым трэба, кратаў яго, папраўляў. І таму здавалася: ён падцягнуты, спружыністы ў рухах і можа пры зручным выпадку пальнуць са сваёй новенькай зброі проста ў густое сіняе неба, што не паспела стаць вераснёвым.

На вуліцу праводзіць іх высыпалі раненыя — на мыліцах, з падвязанымі рукамі, забінтаванымі галавамі, і медсёстры — у халатах і белых касынках. Сталі ланцужком уздоўж плота. Прыйшоў Кароткін, акуратны, сабраны, шчыра паціснуў кожнаму, хто адыходзіў, руку, даў маёй жонцы адрас сям'і.

— Хоць і ў гарадку жывуць, а свой агарод займелі,— сказаў з сумнай усмешкаю,— памогуць. У іх там і светамаскіроўкі няма. Так што скупым не будзеш.

— Харошага вам хлопца пакідаю,— адкрыта ляпнула жонка.— Глядзіце, беражыце яго.

— Пастараемся,— аж трохі сумеўся Сямён Міхайлавіч.

Помніцца, я наогул здзіўляўся з жонкі.

За дзень іх папярэдзілі: у раёне так званых «Віцеб-

скіх варот» становішча ўскладнілася і не выключана, што прыйдзецца шукаць глухіх няходжаных сцежак. Сёй-той адмовіўся ісці, чакаючы лепшых дзён, а яна вось напрасілася і ідзе.

Жонка стаяла перада мной, апусціўшы бязвольныя рукі, але глядзела амаль спакойна — нельга плакаць развітваючыся, бо інакш бяда будзе падсцерагаць абаіх.

О, як тады я любіў гэтыя вочы, у глыбіні якіх замёр і ўспыхваў асцярожны бляск! О, як любіў іх заўсёды! І ў слязах — бы ў расплаўленых перлах. І зыркія, ззяючыя, пабольшаныя радасцю. І нейкія тужлівыя ад адданасці, ад жадання, каб мне было лепей. Любіў пацямнелыя ад гатоўнасці кінуцца на любога, хто пасмее пакрыўдзіць мяне, сказаць грубае слова напоперак, або поўныя просьбы быць справядлівым і вартым справядлівасці.

Як і ўсе светлыя вочы, яны мянялі колер. Калі яна апраналася ў зялёную сукенку, вочы маладзелі, адлівалі ізумрудам. Калі надзявала бурштынавыя завушніцы з каралямі, шэрыя ад прыроды,— адлівалі залацістым, нешта абяцалі. На іх адбіваўся чысты, ясны ранак, хмуры адвячорак... Яна ведала гэта і гулліва карысталася дарам-сакрэтам, як жанчына, якая кахае і хоча быць каханаю.

На людзях жонка дазволіла пацалаваць сябе, не абдымаючы, і хоць я пацалаваў яе ў губы, яны здаліся мне халаднаватымі, сухімі.

Падводчык пасадзіў сына ў перадок калёс, нагружаных чамаданамі, баульчыкамі, хатулямі, ускочыў сам і шмаргануў лейцамі. Дасюль стаяла суш, і я заўважыў, як з колаў, бы вада, па спіцах пацёк пясок. Але недзе за лесам лілавела хмара, з якой ліў дождж. За ёй, таксама з пасмамі дажджу, плыла другая. А па-над імі каромыслам выгнулася вясёлка. І вось туды, пад дажджавыя хмары, рушыла падвода з чародкаю людзей.

Такой, падобнай на пахавальную працэсію, і асталася гэтая карціна ў памяці. Аколіца Зуёў выглядала бедна — здратаваны жывёлаю выган, з дрэў — адна разгалістая груша з парудзелым ніжнім галлём пры дарозе. І толькі ўводдалі — лес... Курыць пыл. Парыпваючы, цягнецца фурманка, за ёй — абапал і ззаду, некалькі невясёлых людзей. Усё!..

А назаўтра наша група ў дзесяць разведчыкаў-сувязных, якую падабралі ў Зуях прыбыўшыя з-за лініі фронту прадстаўнікі Мінскага і Вілейскага абкомаў партыі, рушыла ў другі бок — на захад.

Заданне ў нас было разнастайнае. Штаб партызанскага руху меў звесткі: гітлераўцы ўключылі некаторыя раёны Заходняй Беларусі ў генеральную акругу рэйхскамісарыята Остланд, у якую ўваходзіла Літва, і літоўскія калабаранты нібыта аддалі загад заняць нашы пагранічныя кардоны на былой заходняй граніцы. Абследаваўшы яе, трэба было праверыць, так гэта ці не. Мы атрымалі пісьмо ЦК КП(б)Б, дзе падкрэслівалася важнае значэнне партызанскіх удараў па камунікацыях ворага, па якіх ішло ўсё неабходнае на Усходні фронт,— якраз разгаралася Сталінградская бітва. Мы павінны былі наладжваць сувязь паміж існуючымі атрадамі, стаць рэгістратарамі новых невядомых груп і атрадаў, што маглі сустрэцца па дарозе, і ў прыватнасці ўстанавіць лёс атрада Асташонка і Хведара Маркава, які пасля заканчэння спецшколы ў жніўні сорак першага быў накіраваны ў тыл ворага і ад якога не было вестак... Мне, апрача гэтага, даручалася сабраць матэрыял аб Мінску — аб пашпартным рэжыме ў ім, аб кантрольна-прапускных пунктах, праверках і аблавах, аб барацьбе мінчан з захопнікамі.

Мінск! Туды ў добрыя мірныя дні я ездзіў на залiковыя сесіі. Там, калі пачалася вайна, здаваў апошні дзяржаўны экзамен і перажыў бамбёжку — прыціснуты навалаю выбухаў, ляжаў на прывакзальным бруку, прыкрыўшы дзяўчынку, якая раптам асталася адна. А потым, дзякуючы ўдачы, уціснуўся ў поезд, які, праўда, ішоў ужо не ў Віцебск, куды трэба было мне, каб трапіць на Сіроцiншчыну, у Доўгую Ніву, дзе я настаўнічаў і дзе асталася сям'я, а ў Магілёў, адкуль ужо дзе чыгункаю, дзе пехатою я дабраўся дамоў...

Нашай групе шанцавала: у Чэрвеньскія лясы з намі адной дарогаю да Бягомльшчыны кіраваўся спецатрад пад камандаваннем Бліна — як казалі, Героя Савецкага Саюза. Гэта здорава аблягчала нам задачу: адпадалі многія клопаты — аб праваднiках, аб галаўной разведцы і вартавых на прывалах і днёўках.

Ноччу, беручы нахрапам, мы з блінаўцамі перасеклі чыгунку Віцебск — Полацк прама па пераезду, выставіўшы толькі бакавыя заслоны.

Шум узнялі даволі вялікі. Нэкалі вазніцы. Калёсы ў спешцы саскоўзваліся з насцілу, колы чыргалі па рэйках, саплі ад натугі коні, і вазы трэба было агулам ставіць на памост. Кляцала зброя, брыньчалі кацялкі. Чакаючы, што вось зараз пасвятлее ноч, мы збоч гужам перабеглі адзін, другі пуць і як бы ныpнулі ў цемрадзь, што па другі бок палатна здалася яшчэ цямнейшай. І толькі тады засвісталі кулі і ў неба ўзвілася ракета.

Рэйкі, коні як бы адкінулі мяне назад — у мінулае. Асляпіўшы, яно нібы ўварвалася ў мяне разам са штуршком крыві ў скроні. Мільганула карціна ўцёкаў з Доўгай Нівы... Старшыня калгаса даў мне шэрую, у яблыках, жаробку. Але калі мы запрэглі яе ў калёсы, як з-пад зямлі вырас чорнабароды муж нашай школьнай тэхнічкі і, тарашчачы налітыя крывёю вочы, ухапіўся за аброць — ён сам прэтэндаваў на кабыліцу. Давялося, каб паказаць сваю рашучасць, дастаць для пастраху з-пад клункаў сякеру і, хвастаючы неаб'езджаную жывёліну, імчаць, куды скіравала яна сама — проста па поплаву, што распасціраўся перад школай... Ад думак — галоўным усё-такі былі жонка з сынам — заныла сэрца: як яны там? «Фронт не чыгунка!»

На гэтую карціну набегла другая. Мы ў вёсцы Слабада, куды збочылі пад вечар з шашы, каб пераначаваць. Я паю жаробку. Губы ў яе чулліва ўздрыгваюць, і ў мяне на душы робіцца хораша. Але толькі на міг, бо ў наступную хвіліну я чую, як нехта крычыць, што там, на шашы, бяда, і, хоць хапаюся за хамут, цудоўна разумею: не-э, танкі не абгоніш!..

Але як толькі ракета патухла і над намі зноў самкнулася цемра, успаміны як і нахлынулі, адляцелі. Астаўся толькі боль — у сэрцы.

...Далей ляжаў самы небяспечны адрэзак дарогі — там, у наваколлі, не было партызанскіх атрадаў, і яе трэба было пакрыць за ноч, каб дасягнуць Заходняй Дзвіны, дзе непадалёк дзейнічала брыгада Мельнікава і мог пагражаць, па сутнасці, адзін нямецкі гарнізон з Улы.

З атрада Бліна найбольш каларытнымі былі двое: сам камандзір і камузвода Валодзя Леўшын — высокі, хударлявы, з вялікімі сумнымі вачыма. З ім я і пасябраваў, і, калі ішлі пазней лясамі, гутарылі пра ўсё высокае — літаратуру, радзіму, мужнасць ленінградцаў

у блакадзе. Рэагуючы на ўсё востра, ён, аднак, знешне заставаўся сумным і трохі вялым, быццам бы яго тачыў боль або ён думаў адну недадуманую думу, і спакойна пасмоктваў сваю неразлучную люльку.

Бліна, як потым высветлілася, толькі прадставілі да ганаровага звання Героя, але, абнадзееены, ён жыў на высокай хвалі, трошачкі пазіраваў, насіў папаху з чырвоным донцам, хоць наперадзе было бабіна лета і калі халадала, дык толькі на світанні. Прысадзісты, загарэлы, з быстрымі карымі вачыма, звязаны як вузялок, ён прымаў рашэнні не дужа задумваючыся, верачы ў сваю шчаслівую зорку.

Магчыма, гэтая акалічнасць спрыяла і таму, што, дасягнуўшы Заходняй Дзвіны, мы не фарсіравалі яе, а спыніліся ў прыбярэжнай вёсцы, здаецца, Ярошава — непадалёк ад Улы.

Што абумовіла блінаўскае рашэнне? Ён разумеў: атрад стане прыцягальнай сілаю і папоўніцца тут добраахвотнікамі. Да таго ж байцы ў яго атрадзе былі абмундзіраваны не вельмі. Зусім растаптаўся абутак. У такім жа становішчы былі і мы. А ля Улы некалі размяшчаўся наш аэрадром, як помніцца, цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў і склады з армейскім абмундзіраваннем. У неразбярысе першых ваенных дзён абмундзіраванне разабралі сяляне з навакольных вёсак. Так што прадстаўлялася магчымасць сёе-тое здабыць і апрануцца лепей. Забягаючы наперад, скажу: мне дастаўся новенькі, з іголачкі, лётчыцкі шынель, які я і пранасіў, пакуль не выйшаў са справаздачаю ў савецкі тыл. Але многія з партызан і партызанскіх камандзіраў, з якімі мы сустракаліся пазней, недаўмявалі — з кім яны маюць справу? А гэта, як вядома, часам не шкодзіць.

Восень стаяла залатая, бязветраная. Дзвіна несла воды плаўна, велічна. Цурчала толькі ля берагоў. Нас з Валодзем Леўшыным здзіўляла, чаму ёй, такой спакойнай прыгажуні, не шанцавала ў песнях, як, скажам, Дняпру ці Нёману.

Свае аперацыі мы праводзілі па начах. У адной з вёсак напаткалі работніка Бешанковіцкага лясніцтва — прыпісніка. Як афіцэру прапанавалі ўступіць у атрад Бліна — нам расцi забаранялася. Жвавы, рухавы, ён, не задумваючыся, абяцаў знайсці зброю і выканаць параду. Аднак, калі мы праз дзень прыйшлі зноў, яго дома не аказалася. Жонка — бледная, поў-

ная, з высокім жыватом жанчына — замітусілася, запрасіла нас за стол, не ведала, што падаць. Паважаць людзей трэба таксама ўмець. Нехта націснуў на курок вінтоўкі і стрэліў у столь. Жанчына схапілася за галаву, прысела, а мы пайшлі шукаць гаспадара. У мяне была звычка насіць электрычны ліхтарык на гузіку шыняля. І калі мы ўвайшлі ў хлеў, дзе ўздыхала карова, я ўключыў святло. Палову хлява займала агароджанае жэрдкамі сена. І вось недзе на вышыні грудзей мы ўбачылі падэшвы. Разам з чобатамі выцягнулі і чалавека.

Надзіва, ён збянтэжыўся нядужа. Абабіўшы сянную пацяруху, ухмыльнуўся і з нейкай незразумелай палёгкаю павёў нас назад у хату. Падышоўшы да жонкі, пагладзіў яе жывот — і тады мы ўбачылі: жанчына ў цяжку.

Я сам адчуваю — пішу не з той сур'ёзнасцю, якую вымагаюць падзеі. Цяпер іх трагічнасць бачыцца мне выразней, але тады я ўспрымаў іменна так. Чаму? Мусіць, таму, што быў па-маладому шчыры і прасталінейнасць часам прымаў за адзнаку адданасці справе.

Але жыццё было куды складанейшае.

Лёс нават карае тых, каму яно здаецца простым. Мы далі свайму новаму знаёмаму старэнькі «сміт-вісон», памаглі ўступіць у атрад Бліна. Кінуўшы-рынуўшы ўсё, што меў, прыхапіўшы з сабою жонку, ён прыстроіўся да атраднага абоза. Аднак, як на тое, з паловы дарогі перамяніў рашэнне і адаслаў жанчыну назад — хай раджае ў сваёй вёсцы. І, як трэба было чакаць, яе ўжо на аколіцы перанялі паліцаі. Наздзекаваўшыся, прывалаклі паміраць да брамы роднае хаты...

А зараз некалькі слоў пра сябе.

Сам факт, што тваю зямлю топчуць чужынцы, выклікаў у мяне боль. Здзек жа гітлераўцаў — з людзей, са звыклых форм жыцця — мучыў. Пад Слабадою разам з намі трапіла ў акружэнне і было разбіта Лепельскае мінамётнае вучылішча, і я ўжо тады прыхаваў сабе пісталет, карабін, гранаты. Не забыўся і на бінокль, планшэт, шырокі рэмень з партупеяй. І наогул многае тады пачынаў саматугам. Але, як стала ясна цяпер, я цьмяна ўяўляў і небяспеку, што пагражала краіне, і змаганне, якое разгаралася наўкол. Дый, пом-

ніцца, вельмі карцела заявіць аб сабе так, каб адразу змяніўся і ўласны лёс і лёс сям'і. Апанавала ідэя шумнай адплаты — узарваць камендатуру, пакараць раённых верхаводаў. Паведаміўшы пра свой намер Кароткіну — да мяне ў Слабаду па начах часта прыходзілі партызаны,— я знайшоў работу ў Шуміліне і стаў наязджаць туды на веласіпедзе — да мястэчка было кіламетраў дзесяць. Але неўзабаве нада мной навісла пагроза арышту — знаёмствы, якія я заводзіў, дый тое, што жыў за гарамі, за лясамі, насцярожылі паліцыю бяспекі, і мне прыйшлося, адмовіўшыся ад сваіх задумак, падацца ў партызаны.

Сямёна Міхайлавіча Кароткіна, як даваеннага сакратара райкома партыі, паважалі ўсе. Яму верылі, яму без ваганняў уручалі свой лёс. І, калі я прыйшоў у Зуі, то літаральна ж на другі дзень звярнуўся да яго — папрасіўся на заданне: сувязі, што я займеў у мястэчку, трэба было ўсё-такі скарыстаць. Праўда, слухаючы, Сямён Міхайлавіч доўга глядзеў паўз мяне — думаў, аднак нарэшце кіўнуў — як здалося лбом.

У дапамогу мне далі спакойнага, рабочага гарту ўральца, што перад вайною сакратараваў у парткоме славутага Бярэзінскага камбіната,— Леаніда Палітаева, які амаль разам са мною трапіў у атрад, і мы рушылі ў дарогу.

З людзей, з якімі я пазнаёміўся ў мястэчку, мы выбралі двух: Пятра Шаройку — былога курсанта Лепельскага мінамётнага вучылішча, пра якое я ўжо ўспамінаў, і галоўурача раённай бальніцы.

Пятровы бацька і мачыха жылі ў вёсцы, што ледзь не ўпрытык прымыкала да Шуміліна, і хлопец пасля таго як вучылішча перастала існаваць прыплёўся дамоў — у канцавую хату, ля зялёнай грэблі, за якой паднімаўся лес, а потым уладзіўся на Шумілінскую біржу працы, дзе стаў ведаць мабілізацыяй падвод у мястэчку. Маладосць як бы жыла ў ім, і, нягледзячы ні на што, ён заставаўся яснавокім і, як уяўляецца цяпер, кучаравым.

— Гэты зробіць! — згадзіўся Леанід, праводзячы вачыма стройную постаць хлопца, які адыходзіў ад нас пасля сустрэчы.— Пад'едзе пад камендатуру, выцісне створку ў акне... і памінай як звалі! Тым больш цяпер якраз гоняць падводы рамантаваць шашу. А калі што, прыкрыем...

Як ні дзіўна, будучы афіцэр-мінамётчык, фактычна, паняцця не меў аб супроцьтанкавых гранатах. Прыйшлося ў тым жа Тошніку праводзіць рэпетыцыі. Асабліва ўражала хлопца, што кінутая граната ўзрывалася імгненна, як толькі кранался якога-небудзь прадмета. Здзіўляла: як яна, такая важкая, не давала асколкаў, і ўся сіла яе заключалася ў выбуховай хвалі, што забівала людзей, ірвала метал.

Маладосці спадарожнічае мужнасць. Але, можа, ніхто і нішто,— калі толькі раздумацца,— так не шкадуе сябе, як тая ж маладосць. Калі Пятро забываў галіцца, над губамі і на шчоках у яго яшчэ бялеў, віхрыўся пушок. Ён любіў лес, неба, бацьку. Гаворачы пра радзіму, расчульваўся, змаўкаў і адкашліваўся.

Каб застрахаваць яго ад звыклага з дзяцінства, якое таксама можа расслабіць чалавека, мы забаранілі яму ў той дзень начаваць дома і параілі пераначаваць у гумне. Але ён, хутчэй за ўсё праз гордасць, не паслухаўся нас. А магчыма, захацелася развітацца з домам, і, зразумела, лежачы ў пасцелі, ён доўга варочаўся, уздыхаў, мацаў пад падушкаю, дзе ляжаў пісталет.

Бацька ж, як назаўтра паведамілі нам вяскоўцы, заўважаў таямнічыя сынавы адлучкі, змены ў яго настроі. Бачачы ж, як той мучыцца ў пасцелі, не звёў вачэй сам і, дачакаўшыся, калі сын знямогся, выцягнуў з-пад падушкі пісталет, ахнуў і раскатурхаў жонку. Праз гадзіну стары ўжо прамаваў у казарму чыгуначнай аховы, якая была на другім канцы вёскі, спадзеючыся — пакораю, прызнаннем выратуе Пятра. А яшчэ праз гадзіну, калі бралася на золак, з мястэчка прымчалі гестапаўцы, як называлі звычайна супрацоўнікаў СД і паліцыі бяспекі. Яны звязалі хлопца і, прымусіўшы старога запрэгчы каня ў калёсы, на якіх Пятро і збіраўся ехаць выконваць прысуд, шпурнулі проста на голыя дошкі — тварам уніз...

Каб немцы не разгадалі, што нам трэба, і не ўжылі сваіх захадаў, мы назаўтра ж выклікалі на яўку галоўнага ўрача Шумілінскай бальніцы — ваеннага эскулапа з акружэнцаў, папрасіўшы прыехаць з жонкаю,— няхай паездка выглядае і як візіт да хворага пацыента і як прагулка.

Яны прыкацілі да нас на адзін з Казекаўскіх хутароў. Ён — у прарызіненым плашчы з башлыком, яна,

як сапраўдны грыбнік,— з кошыкам, нажом, у просценькай паркалёвай сукенцы, у шэрым пыльніку і какетлівай, завязанай стрэшкаю хустцы ў буйны сіні гарошак. Спружыніста саскочыўшы з драбінак, з якіх звісалі ягоныя ногі, урач прывязаў каняку да азярода, узяў доктарскі саквояжык пад паху і, усміхаючыся жонцы, памог ёй злесці з калёс так, каб не загалялася сукенка. З застыглай усмешкаю паслаў па грыбы ў недалёкі бярэзнічак, наказаўшы быць навідавоку.

Не марудзячы, мы зайшлі ў чыстую палавіну хаты, селі за стол. Без лішніх прадмоў выклалі яму заданне — любымі сродкамі знішчыць раённых верхаводаў.

Ён, мусіць, чакаў усяго, але не гэтага, хоць астаўся спакойным, і як глядзеў у акно, так і працягваў глядзець — праявілася прафесійная вытрымка: урачу часта прыходзіцца выбіраць, як паводзіць сябе — гаварыць праўду, паўпраўду або хлусіць. Але я ўсё-такі заўважыў: вочы ў яго сталі зыбкія і ён пазіраў ужо ў акно не толькі каб сачыць за жонкаю.

Поўны яшчэ ўчарашняга гневу, я наступіў пад сталом на Лёневу нагу і рашуча паклаў далонь на стол.

— Вы непакоіцеся за супругу? — спытаўся.— Тады давайце мы возьмем яе з сабою. А вы ў мястэчку пусціце чутку, што яна паехала да сваіх.

З нейкай неймавернай хуткасцю, нібыта ён быў падрыхтаваны да гэтага, вочніцы ў яго напоўніліся слязьмі.

— Да сваіх? — прастагнаў.

Мяне перасмыкнула.

— Чаго гэта вы? Можа, баіцёся спаліць масты? Тады скажыце.

— Не-не!.. Я даю вам слова...

Лёня не падтрымаў мяне, і аперацыя, як яно хутчэй за ўсё павінна было стацца, сарвалася. Але мне ўспомнілася ўсё гэта вось яшчэ чаму. Гледзячы ўслед калёсам, бачачы, як эскулап хуценька шморгае лейцамі, я чамусьці зусім не думаў пра яго жонку, як, нагул, не думаў, ці можна гвалтам зрабіць чалавека героем... Лёня меў рацыю: непасільнае заданне — бяда і для справы, і для чалавека, на чые плечы ўзвалілі такую ношу. Але хіба можна — і гэта адкрылася мне,— каб кожны выбіраў сабе справу сам і па сваіх сілах? Хіба радзіма сама не мае права, асабліва ў цяжкую хвіліну, паслаць на смерць кожнага — ідзі і па-

мры? Тым больш пры такіх абставінах — выканай або памры!

Не ведаю, ці здагадваўся пра мае думкі і перажыванні Кароткін. Па-мойму, так. Бо пасля гаворкі са мною па яго прадстаўленню я быў уключаны ў групу разведчыкаў-сувязных і назначаны намеснікам камандзіра.

Міншчына!

Яна сустрэла нас узгоркаватымі барамі, грыбным пахам (баравікі, помніцца, траплялiся да канца кастрычніка), павевамі смалы-жывіцы, родны водар якой узмацняла бабіна лета. Сустрэла пабурэлымі палямі, нязвыкла парэзанымі, праўда, не межамі, а разорамі на вузкія палоскі, ад чаго было вельмі горка; бярозавымі гаямі і асінавымі пералескамі, што наліваліся барвовасцю; ляснымі, яшчэ не асеннімі дарогамі, толькі ў нізінах каляіны якіх поўніла вада; чыстымі-чыстымі лужынамі проста ў мурагу; балотамі і балотцамі, у якіх трохі пабольшала ціхай вады і якія параслі з берагоў лазою, а далей — рэдкімі карлікавымі сасёнкамі.

Вялікія, пры гравейках і шашы, вёскі, мы абыходзілі — там працавалі валасныя ўправы. Туды наязджалі па смакату і хлеб зондэркаманды. У некаторых жа заселі гарнізоны, іператвораныя ў казармы школы былі абсыпаны зямлёю, аблытаны калючым дротам.

Калючы дрот перагароджваў подступы і да мастоў на шасейных дарогах, дзе ў самых нечаканых месцах выраслі дзоты і кулямётныя гнёзды.

Страхуючыся ад раптоўных нападаў, немцы пачалі высякаць лес, які блізка падыходзіў к дарогам. Самі ставілі засады ля прыдарожных крушняў, у кар'ерах.

У бой нам уступаць забаранялася. Дый нельга было падвяргаць небяспецы вяскоўцаў. І заходзілі мы толькі ў невялікія лясныя вёскі. Але і тады па-партызанску — не з канца, а агародамі. Разведвалі, як і што ў наваколлі, слухалі скаргі, давалі парады, праводзілі сходы. Бачылі: жывуць падвойным жыццём — шэрым, у працы і трывогах, і падспудным — з надзеяй на заўтрашні дзень. Чулі: за абразамі хаваюць партызанскія лістоўкі. Заўважалі: былыя калгасныя будынкі часцей стаяць цэлыя. Пад павецямі — як вымела.

З блінаўцамі мы развіталіся на развілцы лясной да-

рогі — Блін з атрадам ішоў у Чэрвеньскія лясы, а мы да Паліка — скрыжавання многіх тадышніх дарог.

Як знарок непадалёку шарэла адкрытая нямецкая легкавушка. Яна з разгону ўдарылася ў хвою, і радыятар яе ажно ўрэзаўся ў камель. За баранкам, схіліўшыся, сядзеў немец, мышасты мундзір якога на спіне як бы прастрачылі, і ён пацямнеў ад крыві. Побач у споднім валяліся яшчэ двое.

Я абняўся з Валодзем Леўшыным, развітаўся з камандзірам, які ўжо красаваўся ў сядле на махнаногім коніку.

Неўзабаве коннікамі сталі і мы.

Гэта было рызыкоўна — не ўсюды праедзеш, дзе пройдзеш. Дый большала турбот, тлуму. Затое на конях можна было зберагаць сілы, хутчэй перасоўвацца, пашыралася магчымасць манеўру.

Нашу групу ўзначальваў спакойны каржакаваты алтаец, з бедным добрым тварам — Мікалай Сідзякін. І міжвольнае спаборніцтва, якое ўзнікла пры пошуках сёдлаў, не парушала дружнай згуртаванасці, што ўсталёўвалася між намі.

Аднаго ж разу коні проста выратавалі нас.

Партызаны спалілі мост на шашы Лепель — Бягомль. Аднавіўшы яго, немцы ўзмацнілі ахову шашы і ў адказ, каб адплаціць, зачасцілі з засадамі. Дарог многа, але ў такіх груп, як наша, дый у мясцовых партызан былі ўлюбёныя. І вораг ■ часам уведаў іх.

Гэтым разам нам трэба было пераехаць вядомую ўжо шашу.

Ноч выдалася густая, зорная. Лес і крушні каменняў абапал лясной дарогі, якая перасякала шашу і па якой мы ехалі, чарнелі, быццам намаляваныя тушшу. І вось тут, падпарадкуючыся нейкай інтуіцыі, Сідзякін замест таго, каб паслаць наперад пару разведчыкаў і асцярожна наблізіцца да шашы, падаў каманду: «У галоп, мора шырокае!»

Восеньскія ночы не толькі цёмныя, яны старожкія. Фырканне, храп коней, тупат капытоў, бразгат усяго жалезнага, што было ў нас, абрынуліся на шашу, як навала. Крэсячы з бруку іскры, мы пераляцелі цераз яе, і толькі, калі ўварваліся ў лес, захліпаючыся, заляскаў кулямёт і ў разнабой затрашчалі стрэлы. Немцы, як пасля дайшло да нас, думалі: шашу перасякае цэлы эскадрон.

Першых мінскіх партызан мы сустрэлі ў вёсцы Кветча, што стаяла на беразе запушчанага, убогага Сергучоўскага канала з яго драўлянымі масткамі-шлюзамі.

У чыста вымытай хаце, дзе пахла выпечаным хлебам, баршчом, а на вокнах зеляне́ў альяс, мы з Сідзякіным прадставіліся камандаванню атрада «Жалязняк».

Створаны яшчэ ў сорак першым на нелегальным сходзе камуністаў Бягомльшчыны, ён пераважна складаўся з тутэйшых людзей. Камандзірам яго быў малады, гадоў дваццаці пяці, усмешлівы, увесь у рамянях лейтэнант Раман Дзякаў; камісарам — былы сакратар Бягомльскага райкома партыі Сцяпан Манковіч — умудроны вопытам партыйнай работы чалавек; штаб жа ўзначальваў падпалкоўнік Каваленка — інтэлігентны, у ваеннай уніформе, са знакамі адрознення на пятліцах. Праўда, форма ў яго была паношаная, замест шпал — абшытыя кумачом палачкі, але ўсё роўна ад яго патыхала нечым штабным, службісцкім, і, як здаецца мне цяпер, на носе паблісквала пенснэ.

Яны па-рознаму сустрэлі нас: Дзякаў дружбацкімі абдымкамі, паляпваннем па спіне, Манковіч стрымана, чуць прасвятлеўшы толькі, калі прачытаў наш, надрукаваны на шматку крамніны, мандат. Падпалкоўнік жа наогул не даў праявіцца сваім пачуццям і астаўся такі, які быў спачатку,— сур'ёзны, заклапочаны.

Селі за стол, і Сідзякін выняў з планшэта газеты, пісьмо ЦК КП(б)Б.

За вокнамі ішло амаль мірнае жыццё. Бразгалі вёдрамі жанчыны, праходзілі з рэзгінамі вяскоўцы, партызаны ў цывільным і напаўваенным, падпяразаныя паверх пінжакоў і ватовак рамянямі, на якіх былі павешаны гранаты ў скураных торбачках. Далёка над самым небасхілам лётаў нямецкі «кастыль-разведчык». А мы гаварылі і гаварылі.

Увайшоў зухаваты ад'ютант у нямецкай форме. Казырнуўшы, далажыў Дзякаву:

— Падрыўнікі чакаюць, таварыш камандзір!

Дзякаў адмахнуўся рукою — зараз, маўляў.

У мяне, апрача «ТТ», быў яшчэ «каровінскі» пісталецік, які пры выпадку можна насіць пад пахаю. Гаворачы, я механічна выняў яго з кішэні і перакідаў з далоні на далонь, не заўважаючы, з якой цікавасцю

Дзякаў сочыць за мной. Калі ж на парозе з'явіўся ад'ютант, ён не вытрымаў, сказаў:

— Пакажы,— па-змоўніцку падміргнуў мне і, узяўшы пісталецік, раптам узвёў курок.

Па чыста вымытай падлозе паўзла сонная восеньская муха. Дзякаў, падміргнуўшы другі раз, прыцэліўся і стрэліў. На маснічыне замест мухі зацямнела дзірачка. Але праз хвіліну з яе павольна паказалася мушыная галава.

— Ха-ха-ха! — засмяяўся Дзякаў і пайшоў з хаты. Плечы ў яго ўздрыгвалі, і было відаць, які ён малады і колькі ў ім сілы.

У Кветчы мы рашылі не спыняцца. Папярэдзіўшы — ёсць дырэктыва вяртаць на ранейшае месца дыслакацыі партызан, якія самадзейна кіруюцца за лінію фронту, паабяцалі завітаць па навіны і пошту, калі пойдзем назад, і рушылі на Палік і Старыну, якія часта і не зусім добрым словам успомніў у гаворцы і Манковіч.

У прылеснай вёсцы Пастрэжжа мы пакінулі адпачыць і рыхтавацца да далейшага паходу сваіх хлопцаў, і ўтрох — Сідзякін, праваднік і я — падаліся далей.

Памінуўшы сасоннічак, трапілі ў змешаны лес. Здалося, і восень тут іншая — пахмурная, сырая. Золата на дрэвах мала, кармінавых колераў няма зусім. Не пачырванелі нават асіны. Непадалёк крумкаў груган. І не крумкаў, а неяк сіпеў і хрыпла па-сабачаму гаўкаў.

А праз колькі крокаў пад нагамі ужо хлюпала. Выбіраючы сушэйшыя лапіны, сігаючы ад куста да куста, мы перайшлі адно балота, другое.

На доўгай, пабурэлай паляне, дальні край якой спускаўся таксама ў балота, паміж пашчэпаных шэрых карчоў пасвіліся каровы. Паставіўшы нагу на корч, сівы барадач у шапцы-кучомцы, у доўгай світцы, з вінтоўкаю за плячыма, плёў кошык.

— Мабыць, адбіць у немцаў такую худобу было лягчэй, чым пераправіць сюды? — падкалупнуў яго наш праваднік.

— Давай топай, топай,— неахвотна азваўся дзед, не адрываючыся ад работы.

Потым пайшоў зноў лес — альховы, парослы крапівою, маліннікам. Часцей сталі сустракацца сухадрэві-

ны, і ўсё чарнейшай станавілася зямля. Калі яна пачала рудзець, з кучы ламачча, кімсьці накіданага тут, мы выбралі палкі і ўжо гразкай сцежкаю, а дзе і па кладках, мусілі прабірацца па лесе-балоце. Коўзкія жэрдкі пад нагамі зыбаліся, прагіналіся ў ваду і ратавалі толькі кійкі-палкі.

Колькі мы ішлі? Доўга. Але калі, потныя і стомленыя, адчулі пад нагамі зямлю, нас ураз аклікнулі.

Гэта была Старына! — востраў непадалёку ад возера Палік з яго багністымі бяскрайнімі балотамі і забалочаным лесам.

Мы бачылі ўжо нямала партызанскіх лагераў. Адны нагадвалі табары, дзе толькі замест кібітак стаялі буданы з яловай кары. У другіх панаваў мудрэйшы парадак — нават кухні, сталовыя пад паветкамі. Бачылі мы і выстраеныя ў рад пад зялёнымі шатамі зямлянкі, дзе можна было зімаваць. Але такога!.. Зямлянкі на Старыне былі з падрубам у некалькі вянкоў, вастраверхія дахі старанна абкладзеныя дзёрнам, вокны акуратна зашклёныя, сцежкі пасыпаны жоўтым пяском.

Ля зямлянкі, да якой нас падвялі, стаяў вартаўнічы грыб, і вартавы пад ім, вітаючы нас, урачыста адкінуў на выцягнутую руку прыстаўленую да нагі вінтоўку.

Унутры аказалася прасторна, светла, столь абабіта парашутным шоўкам. Каля акна сакрэтнік і ложак, на якім, укрыты па грудзі коўдраю, ляжаў мажны, круглатвары чалавек з бародкаю-клінком і быстрымі разумнымі вачыма. Поруч, на табурэціку, пачціва сядзелі, мяркуючы па знаках адрознення, батальённы камісар з насцярожанымі пучкастымі брывамі і капітан, у якога на вузкім гарбаносым твары застыла ўвага.

— Старык,— прадставіўся гаспадар зямлянкі і зрабіў шырокі жэст рукою.— Прашу к нашаму шалашу. З навінамі, вядома?

Батальённы камісар з капітанам усталі, уступаючы нам месца.

— Значыць, узмацніць удары?! — прачытаўшы ліст ЦК і перадаўшы яго батальённаму камісару, самавіта пакашляў Старык.— Інтуіцыя, як бачыце, не падводзіць нас... Патрэбны моцныя ўдары, а значыць і моцныя злучэнні! — стукнуў ён кулаком аб кулак.— Цяпер яны павінны стаць баявымі адзінкамі. Асабліва дзе ёсць кадры і ўмовы.

«Старына... Старык... Дывізія...» — падумаў я.

Сідзякін з ваеннымі падаліся ў суседнюю зямлянку — пазнаёміць з лістом начальніка штаба. Мяне ж Старык (В. С. Пыжыкаў) папрасіў астацца, і мы праз колькі хвілін непаспешліва шпацыравалі з ім па маляўнічай палянцы, акаймаванай шапатлівымі бярозкамі. Над галавою са свістам праляцела чарада качак, і праз хвіліну пачуліся іх узрушаныя крыкі.

— Цяпер будуць лятаць і каркаць, пакуль не замерзне Палік,— нездаволена сказаў Старык.

Слухаючы яго лаканічныя, як бы акруглыя фразы, я здзіўляўся і ягоным словам, і таму, што сям-там паміж бярозак заўважаў постаці аўтаматчыкаў,— яны вартавалі свайго камандзіра. Ад каго? І вось дзіва! Усё тут было прадумана, эфектна, а ва мне абуджаліся сумненні.

Навошта яно? Адкуль скепсіс, які адчуваў я ў Кветчы, калі гаворка заходзіла пра пачынанні Пыжыкава-Старыка? Што гэта — слабасць? Дзівацтва? І ўсё-такі хацелася верыць гэтаму пажылому, безумоўна, умудронаму жыццём чалавеку, які з маленькай групаю добраахвотнікаў прыйшоў сюды з-за лініі фронту, згуртаваў навокал сябе бліжэйшыя атрады і, выношваючы планы арганізаванай масавай барацьбы, паставіў перад імі задачу расці ў большыя адзінкі. Што ж датычыць яго слабасцей — калі гэта толькі слабасці — у каго іх няма?

— Навошта тут ахова? — усё ж не вытрымаў я.

Пыжыкаў хітра прыжмурыўся і, прачытаўшы мае думкі, насмешліва пагразіў кіем, які захапіў з сабою з зямлянкі.

— Яна ахоўвае камдзіва. Па-нашаму, лагічна. Дый французы кажуць, што жыхарам неба таксама патрэбны званы.

Яго жартоўнае прызнанне гэтаксама было прадумана і збіла мяне з панталыку.

— Правільна,— згадзіўся я.— Але... ці да іх цяпер?..

— Ого! Ну-ну! — падзадорыў і здзівіўся Пыжыкаў-Старык, беручы ў жменю бародку-клінок.— Наслухаліся ўжо... Аднак ці не далёка зойдзеш такой дарогаю? Вы чулі што-небудзь, ну, скажам, пра Слаўку Пабядзіта? Вунь якая клічка! Слава і перамога. А ён, па-нашаму, быў пачынальнікам агульнагарадскога

падполля ў Мінску. Мужнасць, бачыце, і тая бывае розная. То яна водгук на чужую мужнасць, то прынятая эстафета. А Пабядзіт, чуеце? Пабядзіт — пачынаў і сцвярджаў яе. Нам таксама даводзіцца нешта сцвярджаць. Пагаварыце з камбрыгам Варанянскім. Ён з «Мсціўцам» недалёка стаіць...

Так, перад намі паўставалі зусім нечаканыя пытанні. Іх трэба было вырашыць сабе, каб потым праўдзіва далажыць пра бачанае і чутае за лініяй фронту.

Брыгада «Народныя мсціўцы» існавала пакуль што намінальна. Атрад «Барацьба», які меўся далучыцца да «Мсціўца», не спяшаўся з гэтым. Але ідэя стварыць партызанскую дывізію імпанавала Варанянскаму. Яна аднаўляла звыклую армейскую субардынацыю, узмацняла адзінаначалле. Яна ўзаконьвала, рабіла пэўнымі ролю, месца маёра Варанянскага ў барацьбе, дзе з першапачынальнікаў па званню ён быў старшы. Адначасна ён не мог не бачыць і адмоўнага, што несла з сабою дывізія Старыка, які сцягнуў у балоты Паліка процьму народу.

Сустрэў нас Варанянскі ля штабной зямлянкі. У форменнай фуражцы, статны, падцягнуты, з перакрыжаванымі на грудзях рамянямі ад планшэта і маўзера, стаў да нас неяк ваяўніча, чуць бокам, нібы нарыхтаваны к дуэлі. Смуглы, валявы, па-вайсковаму строгі твар, стальныя спакойныя вочы. У ім, украінцу з-пад Палтавы — у паставе, у твары,— заўважалася нешта горда-казацкае, выхаванае, мусіць, доўгім прабываннем у воінскіх кавалерыйскіх часцях.

Штабная зямлянка аказалася прасторнейшай за Старыкову, але больш сціплай — акно, стол пры ім, нары абапал, на абшаляваным даху-столі злева — партрэт Сталіна, справа — карта Савецкага Саюза з нанесенай лініяй фронту. На стале карта-кіламетроўка, паперы, маленькі радыёпрыёмнік.

— З Мінска,— растлумачыў Варанянскі, перахапіўшы мой позірк.

— У вас там ёсць сувязі? — спытаўся я.

Ён нахмурыўся, відаць, рашаючы, якая павінна быць мера шчырасці, і адказаў ухіліста:

— Мы, вайскоўцы, тут піянеры. Рэшткі майго дывізіёна сувязі ды байцы лейтэнанта Яськова пачыналі ў гэтых мясцінах рух. Праўда, пазней з'явілася арцелька «Гоп са смыкам». Але пашумела, пашумела і знік-

ла... А мы, не ведаю, за кошт каго болей і раслі — уцекачоў-палонных, мінчан ці актывістаў з вёсак. Мой першы камісар Саша Макарэнка, не скажу нават, дзе часцей бываў — у атрадзе або ў Мінску. Ён і галаву там зложыў. Увесну гестапаўцы напалі на след падпольшчыкаў. Сталі вешаць, расстрэльваць. Саша кінуўся ратаваць, выводзіць у лес, і загінуў. Быў на канспіратыўнай кватэры ў сябра, члена падпольнага гаркома, калі туды гестапаўцы наляцелі. Выскачыў у акно з другога паверха і вывіхнуў нагу. Зразумела, нагналі на Беламорскай вуліцы. Адстрэльваўся пакуль было чым, а апошнюю пусціў у скроню...

Мне ўявілася ўзгоркаватая, незабрукаваная, з драўлянымі дамкамі Беламорская вуліца і тое, як гітлераўцы гналіся за кульгавым, знясіленым чалавекам, цаляючы яму ў здаровую нагу, каб захаваць для катаванняў, допыту, і я, відаць, паблядцеў, бо Варанянскі больш лагодна дадаў:

— З чыгуначнікамі, к прыкладу, дык у нас самыя трывалыя сувязі былі. Перапраўлялі яны нам усё — і медыкаменты, і зброю. А ў сакавіку з'явіліся цэлай купаю на чале з Фёдарам Кузняцовым — начальнікам рускіх паравозных брыгад. Ён цяпер у мяне камісарам у «Мсціўцы».

— Вы дазволіце пагутарыць з імі? — захваляваўся я, здзіўляючыся сваёй удачы.

Варанянскі ўзняў бровы.

— Калі ласка. Але, на жаль, сам Кузняцоў на заданні. Ці елі вы хоць сёння? Мо заначуеце? Давай, лейтэнант, арганізуй, як кажа камандзір «Штурмавой», абстаноўку. Хоць, праўда, у нас няма ні мёду, ні сала.

Толькі тут мы звярнулі ўвагу на маладога белазубага ваеннага з адданымі, шырока адкрытымі вачыма, які невядома як аказаўся ў зямлянцы і моўчкі стаяў за спінаю ў Варанянскага.

— Знаёмцеся, дарэчы. Гэта і ёсць наш Яськоў, з якім закладаўся падмурак,— кіўнуў на яго Варанянскі.

Старык не спытаўся, ці елі мы, а Варанянскі спытаўся, і яго натуральная ў такіх умовах гасціннасць неяк адразу размежавала іх.

Спаць нас паклалі ў штабной зямлянцы. За акном шумелі елкі, шапацела блізкая асіна, і пад гэты адна-

стайны гоман-шапаценне заснулася лёгка, само сабой. Аднак у сне, помніцца, прыйшла трывога — прысніўся распластаны на бурай, перамешанай са снегам зямлі Саша Макарэнка, потым вакзал у паніцы, якім бачыў яго тады, у пачатку вайны; рэйкі, якія сыходзіліся недзе ўдалечыні, і чорная навісь над усім гэтым — ад пажараў, што заняліся каля аэрадрома. І было млосна, і сэрца сціскалася ад жалю і спачування.

У Пастрэжжа мы вярнуліся з зухаватым кубанцам, якога даў нам Варанянскі ў праваднікі і які, як хлапчук, быў улюбёны ў свайго камандзіра.

— Пабачылі б яго ў баі,— ідучы наперадзе, падбіваў ён русы выгарэлы чуб.— Праўда, яму, як Васілю Іванавічу Чапаеву, на кані б, [illegible] шашкаю. Але дзе тут разгорнешся. Ды я ўсё адно ніколі не чуў, каб ён каманду лежачы падаваў. Пры ім не здрэйфіш, не абарвешся. Калі што, бацьку роднаму не даруе. Будзь хоць папам рымскім, а раз адступіў ад баявога закону — расплачвайся.

Яму хацелася нагаварыць як мага болей добрага пра Варанянскага, ён аж не паспяваў вымаўляць словы.

— А па-вашаму — як? У нас толькі папусціся...

— А калі здалося, што адступіў? — усё-такі запярэчыў я.

— Не бойцеся, яму не здасца!

І столькі веры чулася ў ягоных словах, што грэх было разбураць яе, і я прамоўчаў. Дый быў пад уражаннем размовы з чыгуначнікамі-мінчанамі.

Чакаў мяне і яшчэ сюрпрыз. Перад хатаю, дзе атабарыліся нашы хлопцы, сустрэлася жанчына — у ватоўцы, суконнай хустцы, з рукзаком за плячыма і кошыкам у руцэ.

«Здалёк, напэўна. Ці не з Мінска?» — цюкнула мне.

Я запрасіў яе сесці на бярвенне, што ляжала пад плотам ля веснічак. Узмахнуўшы рукамі, бы крыламі, пасміхаючыся, жанчына скінула рукзак, развязала хустку. На плечы і спіну ўпалі цёмныя хвалістыя валасы. Яна, пэўна, зрабіла гэта не толькі, каб адпачыць. Ведала: інакшай стане ўся яна. І сапраўды — неяк адразу сталі прыкметнымі мілы, вяснушкаваты твар, вялікія, у сініх кругах вочы і маладыя яркія вусны. Яна яўна была рада, што дадыбала нарэшце да партызанскай вёскі, што сярод сваіх, і ў яе абудзілася гуллі-

васць. Даўшы паглядзець на сябе, падобная ўжо на дзяўчыну, яна страсянула галавою, дзвюма рукамі сабрала ззаду валасы ў жмут і завязала іх у куксу.

— Ну, пытайцеся,— бліснула вачыма.

— Ды пытанне будзе адно,— трошачкі ашарашана прамовіў я: — Як там?

Яна ўздыхнула.

— Хіба раскажаш... Гарыць, бахае амаль кожную ноч. Адны знішчальнікі са сваёй «кішанёвай артылерыяй» чаго вартыя! Камендант Клюге забараніў салдатам, як сцямнее, паказвацца на Пушкінскім пасёлку, на Даўгабродскай і Першамайскай вуліцах. Так што іх цяпер танкеткі патрулююць... Але затое новыя аблавы, арышты пачаліся. Можа, страшнейшыя, чым увесну. Друкарню, дзе падпольная «Звязда» друкавалася, раскрылі... Па вуліцах здраднікаў водзяць, каб выдавалі.

Я папрасіў паказаць дакументы, расказаць, якімі прабіралася дарогамі, ці спыняў хто па дарозе.

Яна пайшла, азіраючыся і сумна ўсміхаючыся мне, а я астаўся сядзець. Думалася пра Мінск, пра дзіўны, бадай што людскі лёс гарадоў. Адны зазналі горыч паражэння. Другія, трапіўшы ў блакаду ці грудзьмі прыкрываючы радзіму, выстаялі, і аб іх разбіваецца лютасць ворагаў. Трэція, апаленыя вайною, адно пачалі жыць па яе законах. Чацвёртыя ж, наогул, не ўведалі, што такое светамаскіроўка. «Ці не там цяпер і мае?..» Некаторыя, прыняўшы агонь на сябе, застылі ў глухім здранцвенні. А некаторыя, хоць і захопленыя ў палон, асталіся страшнымі для ворага. Многія, малыя і вялікія, прыкрыўшыся агнём зенітак, пад бомбамі робяць, што патрабуе вайна,— адпраўляюць салдат на фронт, забяспечваюць неабходным. А ёсць і такія, што далёка-далёка ад фронту нясуць сваю вахту, і вайна там адчуваецца толькі па цане хлеба, цяпла і сну. Ды яшчэ хіба што побач з'явіліся шпіталі і людзі атрымліваюць трохвугольныя салдацкія пісьмы, атэстаты, пахвальныя. «Ці атрымаюць атэстат мае?..» І ўсё-такі, мусіць, знойдзецца адзіная мерка, якая дасць потым падставы меркаваць, як удзельнічаў горад у вайне...

І хацелася ўжо служыць Мінску, памагчы яму, і здагадка — некалі самому, гэта ясна, таксама прыйдзецца пабываць там — ужо спакушала. О, як я быў удзячны Кароткіну!..

А тут яшчэ неба!.. Яно яўна пабяднела — зніклі кучавыя воблакі, іх падмянілі хмаркі-пасмы, якія чамусьці некуды спяшаліся; аднак таго, што адыходзіць, шкада, і халаднаваты блакіт, і скупое сонца, яго кволая цеплыня здаваліся яшчэ даражэйшымі.

Другі наш «хаўрус» — з атрадам, што з членамі міжрайкома мінскай зоны кіраваўся з-за фронту ў Пухавіцкія лясы,— быў менш шчаслівы.

Не паспелі мы, фарсіраваўшы Бярэзіну, прыйсці ў вёску Мсціж, дзе стаяў атрад, аблюбаваць хаты і разысціся ў пошуках харчоў, як нехта з хлопцаў гукнуў мне ў акно:

— Валодзя, немцы!

Я схапіў бінокль і, выскачыўшы на падворак, узабраўся на дах хляўка. Па шашы Зембін — Бягомль, якая пралягала поруч, на самай справе пыліла калона грузавікоў. Аддаўшы распараджэнне гукаць астатніх і шукаць Сідзякіна, я стаў збіраць «маёмасць».

Перабягалі мы вуліцу, калі грузавікі паказаліся ў канцы вёскі. Як гаварылася, нам не раілі ўвязвацца ў бой. Але разумеючы — карнікаў абавязкова трэба затрымаць, каб атрад падрыхтаваўся да абароны і з гэтага боку, мы адкрылі агонь. З кузаваў, куляючыся цераз барты, сталі падаць на зямлю салдаты — у касках, з ранцамі за спінамі, у мышастых шынялях. Падалі спружыніста, на жывот, і адразу агрызаліся чэргамі.

Мы з Сідзякіным парашылі адыходзіць к Уборку — немцаў там быць не магло: далей гэтай вёскі дарогі не ішлі, навокал распасціраліся балоты і недалёка амаль без берагоў цякла Бярэзіна.

Адстрэльваючыся, дварамі і агародамі мы адступілі на прыгуменне. Стала чуваць: у другім канцы, дзе асталяваўся атрад, таксама разгортваецца бой — ушчалася ружэйна-аўтаматная пальба, застракаталі кулямёты, забухкалі міны. Значыць, карнікі наважылі ўзяць вёску і нас у клешчы.

Прыйшлося залегчы ў лагчынцы — за валунамі, у ямінах, на роснай ад восеньскай вільгаці траве, якая ўжо не высыхала за дзень.

Не заўважаючы, што мокры па вушы, я перапаўзаў ад валуна к валуну і страляў, страляў.

Колькі мы трымаліся, не даючы немцам замкнуць акружэнне і адрэзаць нас ад лесу, не скажу — гэта быў мой першы ў жыцці бой. Але калі адступілі ўсе ў лес і пабрылі па калена ў твані, кіруючыся назад за Бярэзіну, здарыўся цуд — у небе загуў самалёт. І не з тым ныючым, што пілаваў душу, падвываннем, а з роўным знаёмым гулам — наш! Зрабіўшы круг над Мсціжом, ён як бы спыніўся, і з яго, набіраючы хуткасць, пасыпаліся вастраносыя бомбы. Наваколле скаланулі выбухі.

Назаўтра прыйшлі жахлівыя весткі. Душачыся злосцю, карнікі абрынулі яе на вяскоўцаў — старых, жанчын, падлеткаў. Прыганялі іх да калгаснага склепа і, калі прыгнаны ступаў на парог, стралялі яму ў патыліцу. Вось тады і аказаўся наш самалёт-разведчык і, зразумеўшы, у чым справа, паспрабаваў спыніць злачынства — скінуў бобмы. Мяркуючы — супроць іх распачынаецца аперацыя, карнікі, не марудзячы, пагрузілі ў кузавы сваіх забітых і, не скончыўшы апазнавання забітых партызан (для гэтага яны прыхапілі нават здрадніка), пакінулі Мсціж.

Мне шанцавала — я часта сустракаў людзей моцных, каларытных. А мо наогул так было — ва ўмовах партызанскай барацьбы яны выраслі як на дражджах і праяўляліся надзіва яскрава.

Івана Мацвеевіча Цімчука, камісара брыгады «Народныя мсціўцы», мы знайшлі ў Руднянскім лесе, на беразе Дзікага возера,— ён ствараў там базы для падпольнага Лагойскага райкома, друкарні, а таксама для будучай брыгады «Бальшавік».

Нарадзіўся Цімчук у прыкарпацкай вёсцы Грушка з бурлівай крышталёвай рачулкаю. У гады грамадзянскай вайны байцом-добраахвотнікам Сёмай Самарскай кавалерыйскай дывізіі біўся з дзянікінцамі, з урангельцамі. Па пахі ў іржавай вадзе фарсіраваў Сіваш, граміў банды Махно, Цюцюніка. У баях быў двойчы паранены. А калі партыя абвясціла ленінскі прызыў, уступіў у яе рады. Напярэдадні ж Вялікай Айчыннай вайны працаваў дырэктарам Першага Беларускага зверасаўгаса.

Ён сядзеў на пеньчуку, а перад ім, жэстыкулюючы і прысядаючы, каб лепей бачыць Цімчукоў твар, таптаў-

ся аброслы шэрай шчэццю дзядзька. У ваеннай фуражцы, у чорнай, падпяразанай шырокім рэменем дублёнцы, апушанай па бартах і ўнізе, з калодкаю маўзера, павешанай на раменьчыку праз плячо, Цімчук выглядаў самавіта, але не зусім па-ваеннаму. Круглы твар яго, карыя, з хітрынкаю вочы ўсміхаліся, і таксама неяк мірна, па-цывільнаму і, відаць, не са слоў селяніна, а з яго пацёртага выгляду, са смешных прысяданняў.

За ім паблісквала Дзікае возера — спакойнае, люстраное. На золку нахапіўся колкі марозік, з дрэў падала жоўтае і зялёнае лісце. Трапляла яно і ў ваду, якая здавалася зыркай, важкай, як жывое срэбра, і плавала на ёй, як плаваюць дзіцячыя папяровыя караблікі, не тонучы і ледзь кранаючыся паверхні.

— Вось бачыце,— знаёмячыся з намі, пасур'ёзнеў Цімчук.— Дзядзька скардзіцца і бядуе, што за ноч абавязкова разы тры заходзяць партызаны, і кожны са сваімі прэтэнзіямі. Тое дай, тое падай. Наспеў, відаць, час размеркаваць вёскі паміж атрадамі. Хай назначаюць камендантаў. Праўда? — звярнуўся ён да селяніна.

— Гэта, можа быць, дзела,— згадзіўся той, аднак круцячы няпэўна рукою і пацепваючы плячом.

Вось такім вясёлым і сур'ёзным аднačасова, на пяньку, мне і запомніўся Цімчук. Тым болей што, завадзіўшы нас па сваіх уладаннях і пачаставаўшы засквaранай салам бульбаю ў Хадаках, ён зноў пацягнуў нас з Сідзякіным на ўзлесак. Сеў на пень і, паклаўшы планшэт на калені, пачаў пісаць ліст Цэнтральнаму Камітэту аб тым, што набалела.

Гэта ўзбурыла яго.

— Рух сапраўды становіцца ўсенародным! — нечакана выгукнуў ён, кладучы на планшэт самапіску.— Але навошта цягнуць усіх у балоты, ад якіх тры гады скачы, ні да якой чыгункі не даскачаш. Што за прычына знайшлася ў жыцці? Дзе яна? Ды як ты пракорміш сабраных людзей? Навошта і каму гэта трэба?

«Што за прычына ў жыцці?..» Ці не гэта, апрача ўсяго, дае яму сілу? — падумалася мне.— Варанянскі, Старык таксама спасылаліся на прыклады з жыцця. Але логіка там куды прасцейшая: «Бачыце, так было. А чаму не можа быць цяпер?» Варанянскі ж, наогул імкнецца абысціся без вывадаў. Яму важны

факт сам па сабе і тое, як суадносіцца той са статутам. Але ўсе яны, зразумела, шукаюць лепшага для барацьбы, хоць і адводзяць сваёй асобе рознае месца ў ёй...

— Куды падзеліся «гопсасмыкаўцы»? — схіліў Сідзякін гаворку на іншае.

Цімчук, безумоўна, здагадваўся, пра што была размова ў нас з Варанянскім, а значыць, здагадваўся, чаму Сідзякін задаў сваё пытанне, і скарыстаў выпадак, каб унесці карэктывы.

«Гоп са смыкам» — накіп,— адмахнуўся, як ад надакучлівай заядзі.— Вырваліся з лагера ваеннапалонных, раздабылі веласіпеды, баян і давай куражыцца. Наладжвалі канцэрты, трыбушылі нямецкія сепаратныя пункты. Не забываліся, вядома, і на сялянскае. А цяпер вось у «Штурмавую», здаецца, нырнулі... Аднак не думайце, сапраўднае супраціўленне ў нас з першых дзён. Пасля нелегальнага сходу, на якім абралі тройку для кіраўніцтва, аформіліся сельскія партыйныя арганізацыі. Ну і, вядома, пайшло-загуло. У Кораньскім, Швабскім, Бесядскім, Слабадскім, Астрожацкім сельсаветах,— ён з нейкім гордым задавальненнем пералічваў гэтыя назвы, гучанне якіх само прыносіла яму асалоду,— зарадзіліся партызанскія групы...

Я чакаў, ці трапіць і ў сувязі з чым у гэты пералік Мінск, і дачакаўся.

— Але што возьмеш з дробных груп? У снежні Мінскі падпольны гарком падказаў: трэба аб'ядноўвацца. І з другой паловы лютага стаў рэгулярна пасылаць папаўненне. Так што к сакавіку і наш «Мсцівец» вырас да двухсот чалавек. А гэта ўжо іншае! Сталі праводзіць засады на шасейках, дыверсіі на чыгунцы. Ліквідавалі паліцэйскія ўчасткі ў Беларучах, Слабадзе, Янушкавічах, Корані, Крайску. А ў чэрвені ў Валянцінаўскім лесе прынялі адкрыты бой. Лоб у лоб. Удзень. А гэта — этап! Цяпер жа вядзём барацьбу за хлеб. Сяляне хаваюць яго, а мы палім сцірты ў нямецкіх маёнтках... Калі ж гаварыць пра цяжкасці, то аснаўная загвоздка адна — зброя, тол. Усё, што можна было сабраць на месцы былых баёў, падчысцілі, сабралі. А ведаеце, з аднаго Іліянскага раёна ў «Мсцівец» каля паўтары тысячы заяў пададзена...

Цімчук паківаў галавою і зноў схіліўся над планшэтам. А я глядзеў на крутыя Цімчуковы плечы, на твар,

што стаў раптам упартым, і пранікаўся вераю ў яго. Гэта быў другі пасля Кароткіна чалавек, які прымусіў мяне глыбей думаць пра вайну, пра сябе і народ у вайне.

Пабываўшы ў «Штурмавой», пакаштаваўшы хлеб-соль, пададзеныя па камандзірскаму загаду: «Ану, арганізуйце абстаноўку!» — мы рушылі на былую заходнюю граніцу. У той жа дзень траплялі пад вінтовачна-кулямётны і мінамётны агонь, потым — зноў і зноў, але ратавалі то ваеннае шчасце, то коні, то ноч.

Мясціны, пакінутыя чалавекам, дзе відаць яшчэ сляды яго рук, выглядаюць дужа сумна. Сумнай, закінутай выглядала і граніца. Некалі дагледжаная, пабаранаваная палоса, з якой ва ўяўленні заўжды звязваліся рамантычныя гісторыі і прыгоды, удзерванела, падняліся бярозкі, купкі елак. Заставы і кардоны спавіў нябыт. Будынкі без рам, падворкі зараслі спарышом. Не, захопнікам не ўдалося нават часова перакроіць карту — перашкодзіў народны рух!

Далей ехалі зусім асцярожна — ніхто дасюль не бываў у заходніх абласцях Беларусі. Дый вёскі выглядалі трохі інакш — вузейшыя вуліцы, брук, сляды пабелкі на платах, на камлях прысад.

Пад Маладзечна, у раёне лясніцтва Руда, з прыгодамі адшукалі групу капітана Чаркасава. Гэта, відаць, быў яго часовы лагер — размяшчаўся ён у лясным масіве, адкуль, калі я не памыляюся, чуваць былі гудкі паравозаў. Дый буданы аставаліся не прыстасаванымі да зімоўкі.

Заявіліся мы перад узыходам сонца. Яго яшчэ не было відаць. Але па ўсім угадвалася: яно вось-вось пакажацца з-за небасхілу — воблакі над галавою былі падсвечаныя, надзіва яркія.

Нягледзячы на тое, што яго пабудзілі, Чаркасаў узрадаваўся нам, бы званым госцям. Пацягваючыся і крэкчучы, у споднян кашулі, абняў Сідзякіна, мяне і толькі пасля прыгладзіў растрапаныя ў сне валасы і прыняў маладцаватую паставу.

— Шанцуе ж нам! — выгукнуў, трымаючы руку на патыліцы і перасмыкаючы ад холаду плячыма.— Ух, ты!.. Надоўга?

Навокал узвышаліся калматыя, выносістыя елкі, пад імі — змайстраваныя на скорую руку буданы,

столікі з лаўкамі. І толькі тое, што зямля тут была вытаптаная — аж праступалі жылістыя карэнні елак, а столікі чыстыя, старанна выскрабленыя нажом, сведчыла: абжыта месца даўнавата. Ва ўсякім разе наведваюцца сюды часта.

На нашы галасы з суседняга будана вылезлі яшчэ двое — чарнявы і бландзін. Зашпільваючы на хаду зелянковага колеру гімнасцёрку, бландзін прытрымаў таварыша вольнай рукою і, аказаўшыся наперадзе, прычасаў грабеньчыкам бялявыя, акуратна пастрыжаныя валасы.

— Што за шум? — хрыплаватым голасам спытаўся ён.

— Новыя госці, Хведар! Ты шукаеш сувязей, а тут шукаюць цябе,— адказаў Чаркасаў, абдымаючы ўжо адразу Сідзякіна і мяне за плечы і моцна прыціскаючы да сябе.— Даходзіць?

— Тады за жыватоўкай з бузіны пасылай... Выдумалі таксама! — як бы не паверыў той.

Трапляюцца ж выпадкі! Во казка! Гэта і быў Хведар Маркаў, за чый лёс непакоіліся ў абкоме. Я глядзеў на яго, бы на дзіва, а ён, як ні ў чым не бывала, паводзячы шэрымі свавольнымі вачыма, шыбаваў да нас, адрасуючыся пакуль што да аднаго Чаркасава.

Яны ўсе былі ў дабрадушным, прыўзнятым настроі, калі свет здаецца несур'ёзным і хочацца пакепліваць з другіх. Нават навіна, якая павінна была ўскалыхнуць Маркава, відаць, здалася яму не зусім сапраўднай. А можа, тут было другое — гордасць, жаданне паказаць: ну, што ж, радасць дык радасць, але я не хлапчук. Аднак, калі ён падышоў і працягнуў руку, я заўважыў: на шэрыя дзёрзкія вочы набягаюць слёзы.

Страціўшы па дарозе таварышаў, Маркаў нейкі час дзейнічаў адзін. Але і потым, калі ўзначаліў групу, атрад, часта сустракаўся з ворагам твар у твар. Чалавек рэдкай мужнасці, ён пабываў нават у Вільнюсе, дзе, успомніўшы колішняе — барацьбу з пілсудчыкамі, пакараў здраднікаў і наладзіў патрэбныя сувязі. Няўрымслівы, кемлівы, ён неадменна прымаў удзел у засадах, у дыверсіях на чыгунцы, у разгроме ўпраў, варожых гарнізонаў, заўсёды наперадзе, заўсёды там, дзе агонь. Ён здолеў наладзіць такія сувязі з насельніцтвам, што яно дапамагала атраду чым толькі магло, вяло разведку, паведамляла пра планы ворага.

— Дык, значыцца, шукаеце — ухмыльнуўся ён.— Тады ўмова. Атрымаю ўзрыўчатку, зброю, дзе наша ні прападала, гэта гебітскамісараўская цацка — твая.

Ён палез у кішэню штаноў, выняў панікеляваны афіцэрскі «вальтэр» і працягнуў мне:

— Трафей. Узяў асабіста пад Свянцянамі. Цёпленькі! На, патрымай для большай спакусы.

— Не хваліся,— зайшоўся смехам Чаркасаў.— Мае хлопцы таксама пазаўчора састаў з жывой сілай пад адхон пусцілі. Дванаццаты. Дык, кажуць, немцы пасля цэлую плашч-палатку пілотак назбіралі. Ясна?

— Нічога, мы таксама пускалі. І з пілоткамі, і з фуражом.

— Ну ладна. Трэба ў атрадзе мітынг правесці, пазнаёміць з пісьмом ЦК. Праўда?

Праз дзень-два нахапіўся марозік. Ён зацягнуў зямлю корачкаю. З падлеску пачало падаць лісце. Праўда, неахвотна, па адным, нечакана. Сарвецца і ляціць чаранком уніз. Колькі яго апала за ноч? — няшмат, але ўкрыла зямлю, прыглушаючы крокі. А гукі ў лесе, наадварот, як бы ажылі, сталі званчэйшымі.

Правяраючы, ці ідуць хукаўкі, мы з Сідзякіным, аднак, абліліся па пояс вадою, расцёрліся ручніком, і толькі тады паселі за столік пад елкаю. Снедалі моўчкі — Чаркасаў і яго першыя госці аставаліся, мы ад'язджалі, але, відаць, сумна думаць пра далёкае, няхай сабе і харошае. Нават безжурботны Маркаў, які толькі што скончыў пісаць дакладную ў абком, гаварыў вяла, задумваючыся.

Развіталіся мы амаль без слоў. Нам, вядома, было няўцям, што, зрабіўшы справаздачу за лініяй фронту, наша група, апрача мяне, вернецца да Маркава — прывязе з сабою аўтаматы, узрыўчатку і стане ў яго брыгадзе ядром, з якога вырасце атрад Чапаева.

Аўса ў Чаркасава не знайшлося, сена было ў абрэз, і галодныя коні, як толькі зразумелі: мы вяртаемся назад,— самі зрываліся на рысь. За месяц я прывык да свайго грывастага сібірачка, навучыў яго адгукацца на покліч, балаваў. Цяпер я таксама прыпас яму пачастунак — лусту хлеба, і ён ухітраўся, павярнуўшы галаву, на хаду хапаць з маёй рукі губамі.

Зноў чарадою пайшлі начныя вёскі, граніца, знаё-

мыя атрады, брыгады. І зноў ратавала, абраная тактыка — каб не ўвязаўся небяспечны хвост, пераходы рабілі ад аднаго партызанскага атрада да другога. Перарнюем, адпачнём — і новы рывок...

Заходнюю Дзвіну гэтым разам фарсіравалі з коньмі. Ноч была зорная, з вышыні глядзеў вузкі рог маладзіка, і вада ў рацэ фасфарыцыравала, свяцілася. Плывучы следам за лодкаю на паваду, коні пахрапвалі, у іх вачах па-д'ябальску палыхала, і яны стрыглі вушамі. Выбраўшыся ж на супроцьлеглы бераг, перасмыкаліся ўсім целам, і ад іх ва ўсе бакі ляцелі пырскі. Да таго ж, як гэта часта бывае восенню, неба зацягнула шэрым, сыпанула крупою. Коні былі мокрыя, і прыйшлося, каб сагрэць іх, бегчы з імі побач, пакуль не высахлі.

Днявалі мы ў лесе, кіламетраў за восем ад чыгункі Віцебск — Полацк. Надвор'е папсавалася зусім. Раз-пораз пачынаў ісці снег. Думалася, гэта на ўдачу. Але як толькі мы наблізіліся да знаёмага пераезду, шуганулі асвятляльныя ракеты і застракаталі кулямёты. Здаецца, два. Добра — у снежнай каламуці святло ракет не дасягала зямлі, і яе не ўсю ўкрыла бель. Рассыпаўшыся, мы мусілі вярнуцца на месца сваёй днёўкі.

Тут, сярод аснежаных елак з самотна апушчанымі лапамі-галінамі, мы развіталіся з чатырохногімі сябрамі. Каб зусім прагаладаўшыся, яны маглі пайсці шукаць сабе новых гаспадароў, прывязалі іх да дрэў ледзь-ледзь. І мала хто з нас астаўся тады абыякавым...

Стаўшы пешым, я быццам вярнуўся на зямлю. Навокал была знаёмая Сіроцініпчына, і кожная пачутая бяда болем аддавалася ў сэрцы. Жыхароў вёскі Чысці гітлераўцы сагналі ў кароўнік, замініравалі яго і ўзарвалі. Пралілі яны кроў і ў Слабадзе. Забілі маю лепшую вучаніцу Ірачку Ізафатаву. Наздзекаваўшыся, распаролі ёй жывот клінком і кінулі на прыдарожнай абочыне, забараніўшы нават хаваць...

Дарогі Міншчыны, сустрэчы з людзьмі многае мне раскрылі. Але разам з гэтым ва мне як бы прарэзалася адчуванне віны: мінула болей года пякельнай вайны, а што зроблена канкрэтна? Дый як там з самымі блізкімі?

У Зуях я заглянуў да Леаніда Палітаева. Ішоў і вагаўся. Як я даведаўся, ён узначальваў ужо асобы ад-

дзел брыгады, быў поўны высокіх планаў, кахаў. Ці да мяне яму цяпер? Каб схаваць збянтэжанасць, я падарыў яму «каровінскі» пісталецік: «Аддай сваёй...» — сказаў і не зусім паверыў, калі ён, расцалаваўшы мяне на развітанне, раптам сумеўся:

— Зусім затакаваўся, дурань! Як я мог забыцца?.. Тваё лінію фронту перайшлі, не мучайся... Хоць «Віцебскія вароты» і закрыты...

І зноў дарога, кароткія прыпынкі ў партызанскіх вёсках. Харчы мы нарыхтавалі яшчэ на Міншчыне, таму прасілі толькі бульбы, малака, вады. У адной з прыфрантавых вёсак я забег у крайнюю хату — захацелася піць.

Была раніца. У вокны ліліся касыя праменні не такога залацістага, але затое зыркага восеньскага сонца і палоскаю клаліся праз усю хату. Ля печы, якраз у канцы сонечнай палоскі, выжыльвалася з вілкамі суховенькая бабулька з добрым, маршчакаватым тварам. На ложку спалі віхрастыя дзеці і чорная кошка.

Я пераступіў парог, акінуў хату позіркам і, раптам адчуўшы холад у жылах, скамянеў — над ложкам, прыколатыя к сцяне кнопкамі, віселі фотакарткі: я з жонкаю і яна адна — тая, у шаснаццаць! Божа мой, значыць, загінулі! Значыць, як і думалася, Лёню не хапала сіл сказаць праўду!

Як не свой, я ступіў да гаспадыні. Мусіць, твар у мяне быў страшны, бо яна, трошачкі выняўшы вілкі з печы, як бы засланілася імі.

— Адкуль у-у вас здымкі? — з цяжкасцю паварушыў губамі.

— А божухна!.. Маруся знайшла за аколіцаю...— ахнула яна, здагадваючыся, чаму ў мяне адымае мову.— Спадабаліся, і вывесіла во... Паглядзіць і плача. Праўда, цяпер не цяжка заплакаць...

Але бабуся была касая, і мне здавалася, што яна хлусіць, не можа глядзець на мяне.

— Яны, бедныя, толькі што паказаліся, а немцы тут як тут,— тараторыла яна, зноў палохаючыся майго выгляду.— Вашы, канечне, хто куды. У нас за гумнамі лён. Бягуць, ногі ў ільне заплятаюцца. А немцаў, мабыць, рэчы зацікавілі... Чаго вы так глядзіце на мяне? А божухна!

Пайшоў я з хаты, слаба разумеючы, што адбываецца навокал. У галаву лезла ўсякая ўсячына. Успаміна-

ліся Магілёў, настаўніцкія курсы, на якіх, убачыўшы будучую жонку, я рабіў усё толькі для яе. Вярзлося-ўспаміналася, як перад ад'ездам, не адчуваючы пад нагамі зямлі, крочылі мы па Першамайскай вуліцы, смеючыся пыталіся ў міліцыянера, дзе ў іх у Магілёве загс, а пасля, збянтэжаныя, шукалі сведак, каб падпісаліся пад шлюбным дакументам; як ехалі да мяне на Камарыншчыну ў пустым цемнаватым вагоне, дзе верхнія лаўкі зыходзіліся над галавою ўшчыльную, бы столь, і адтуль чулася сярдзітае буркатанне: «Маладыя людзі, у грамадскім месцы так сябе не трымаюць!» Уяўлялася, як потым па вечарах разам складалі планы ўрокаў; як у час паездкі ў саўгас са спектаклем яна прастудзілася і ёй зрабілі ў Чарнігаве аперацыю і адразу, тут жа, перавезлі ў роддом; як потым захварэла сама Святланка, і ўрач шапнуў мне, што надзеі няма; як я з нявінным тварам адпраўляў жонку пад Гомель у дом адпачынку, а пахаваўшы дачку, таксама прымчаў туды; як поўны рэўнасці і падазрэнняў, стоячы за дрэвам, шукаў яе сярод адпачываючых, якія слухалі канцэрт у «зялёным тэатры», і супакоіўся адно, калі ўбачыў: яна, пастрыжаная, худзенькая, у светлым плацейку з палярынкаю, сядзіць з краю, побач з пажылай поўнай жанчынаю... А пасля нарадзіўся сын!..

«Няўжо я болей не ўбачу іх?» — Не будзе каго любіць, раўнаваць, з кім звязваць заўтрашні дзень? Істота мая паўставала супроць такой несправядлівасці...

Звязаліся мы з армейскай палкавою разведкаю праз штаб брыгады Дзячкова. У навакольныя вёскі прыбывалі бежанцы. Таму каб за намі ніхто не ўвязаўся, разведчыкі назначылі месца для тайнай сустрэчы. Аднак, калі мы з'явіліся туды і рушылі ў дарогу, з цемры вынырнула і прыстроілася да нас чалавек трыццаць.

Разведчыкі ведалі тут кожны корч і вялі калону ўпэўнена. Толькі ў адным месцы, праводзячы праз замінараваную лапінку, захваляваліся, загадалі ўзяцца за рукі і ступаць след у след. І зноў я, думаючы пра сваё, мала зважаў, што за маладым сасоннікам, які ўвесь час аставаўся ў нас справа, іншы раз мігцеў касцёр і пры ім тупалі постаці ў нацягнутых на вушы пілотках.

Пахаладала. Мяла пазёмка. І калі мы наблізіліся да нямецкай баявой аховы, што праходзіла тут па ша-

шы, мяцеліца разышлася як мае быць. Скавытаў вецер і гнаў, гнаў снег, слепячы вочы.

Немцы паставілі ўжо снегазатрымальныя шчыты — відаць, па гэтай шашы, пры патрэбе, яны перагрупіроўвалі войскі. І вось, калі мы падышлі да шчытоў, ля якіх мяцеліца ўправілася намесці сумёцікі, то ўбачылі на ўзгорку вартавога, які стаяў спінаю да нас і ўзіраўся ў нічыйную паласу.

Што было рабіць?

Бясшумак ні ў кога не аказалася. Адступаць і шукаць іншае месца для праходу разведчыкі палічылі яшчэ небяспечнейшым. Страляць жа было нельга — узнялася б трывога, пры якой гітлераўцы напэўна адкрылі б агонь па нічыйнай паласе і справацыравалі б адкрыць яго нашых. Можна ўявіць, у якім бы становішчы тады апынулася наша калона.

Знайшоўшы між шчытоў праход, мы падняліся на шашу. Старшы разведчык жэстамі загадаў мне адабраць пару хлопцаў і астацца на бруку, трымаючы вартавога на мушцы.

Наперадзе курылася ў пазёмцы нізіна і некуды плыў хмызняк — ужо нічыйны! Па адным, чамусьці прыгінаючыся, людзі сталі перасякаць шашу, і, здавалася, не было канца ім. Нарэшце я адчуў: прабег апошні. А вартавы ўсё стаяў як скамянелы — нібыта не бачыў нічога.

Калі, вільнуўшы, хвост калоны знік у хмызняку, кінуліся бегчы і мы ўтрох. Беглі, спыняючы дыханне, азіраліся, але вартавы не ракеціў і не страляў. Чаму? Баяўся за сваё жыццё? Спачуваў нам? Магчыма. Бо калі ўсё-такі пусціў ракету, яна ўпала не ў хмызняк, дзе мы ўкрыліся, а значна правей, куды праз імгненне паляцелі злыя, вісклівыя міны.

З цяжкасцю пераводзячы дыханне, я слухаў іх празлівыя выбухі, і, бачанае, пераЖытае за гэтыя месяцы нібыта ўваскрэсла ва мне, расло, адкрывала шырэй вочы. Я знаў: там, за хмызняком,— наша баявая ахова. Нас абавязкова там акліпнуць. Але цяпер гэтак жа выразна я ўсведамляў і другое: наша баявая ахова не толькі там. Яна ўсюды. Таму, каб знішчыць нас, трэба сцерці з зямлі гарады, вёскі, лес, поле — усё жывое.

# РАЗВІТАННЕ

*Апавяданне*

Я доўга выбірала, куды мне пайсці. Дзе пабыць з табою сам-насам? Каб папрасіць — умацуй, падкажы, пакінь... Мае думкі ў няволі. Ты мне неабходны, можа быць, больш, чым раней...

Асабліва начамі цяжка. Ты сам некалі казаў, што ўначы і боль балючэй і пакуты вастрэй. А тут яшчэ трызніцца, як цененька, нібы канаючы, стогне Аліза. Амаль штоноч па загаду шэфа праводзяць «акцыі» і пад акном, на двары, бясконца ўздыхае дамарошчаны дазорца. Які тут сон? Ляжыш з заплюшчанымі, нават прыжмуранымі вачыма, чакаеш раптоўнай бяды і думаеш, думаеш.

Успамінаецца Вільня, наша знаёмства, бацька... Ты прыйшоў тады,— я памятаю, як сёння,— у час перапынку. На вуліцы мяцеліца, у настаўніцкай холадна. Я з хусткай на плячах — ля грубкі, грэю рукі і грудзі. А ты... ты ў блёстках снегу, ружовашчокі. І, можа быць, таму, што я мерзла, што стаяла, сцяўшы плечы, ты здаўся лахматым дужым.

«Бэр [1],— падумалася мне.— Ха!.. Які ён мастак?.. Ён бэр...»

«Знаёмцеся»,— назваўшы тваё імя, адрэкамендаваў дырэктар.

Хто ведаў, што ў гэтую хвіліну рашаўся мой лёс? Што праз дзень, пасля сходу ў Саюзе настаўнікаў, ты пойдзеш праводзіць мяне, будзеш чытаць свае вершы, выдаючы іх за чужыя? Якое дарагое ўсё гэта! Як хораша, калі цябе кахаюць!.. Успамінаецца, і як ты маляваў мне карцінкі, каб я па іх развівала мову вучняў. Як расказваў на экскурсіі пра ліловы сон баравы. Як вадзіў мяне ў летні тэатр «Лютня»... А твая ўяўная хвароба! Калі ты наважыў праверыць, ці ўсхвалюе мяне твая бяда...

---

[1] Мядзведзь *(яўр.)*.

Вядома, нялёгка жылося. Бацька петаваўся — вядома, кушнер-саматужнік. Ну і што? Восьмы клас кончыла пад вэксаль. Сама зарабляла прыватнымі ўрокамі. Але ж кончыла! Калі вольнай слухачкаю паступіла ва універсітэт, нас, студэнтаў-яўрэяў, эндэкі прымушалі сядзець асобна. Праўда, пратэстуючы, я разам з другімі стала слухаць лекцыі стоячы. Але ж усё роўна вучылася, лічыла сябе шчаслівай! Адзінаццатага лістапада — у дзень незалежнасці Польшчы — яўрэяў у аўдыторыі эндэкі не дапускалі наогул. Але ж было каханне, надзеі на лепшае! Мы жылі... Што яшчэ трэба?

Не скажаш, былі забабоны, была наіўнасць. Бацька не хацеў і слухаць, каб мы пабраліся. Трэба было спачатку выдаць старэйшую сястру. Дый ты — «капцэн», «апікейрас» [1], як ён казаў. А мы ўзялі і — быццам гэта зусім не датычыла нас! — запісаліся ў казённага рабіна. Пасмяяліся з традыцыйнага балдахіна, з'елі прынесены торцік, прыгубілі чаркі — і ўсё. Нават гаварылі, што выдатна атрымалася...

Табе забаранілі настаўнічаць за вальнадумства. Пазбавілі сталай работы... Але падумаеш! Зарабляць можна і на дэкарацыях, на рэкламах, на этыкетках для цукерачнай фабрыкі «Фартуна». Ты ж мастак!.. А я? Што я? Я цешылася кожны раз, калі вярталася са школы і ты сустракаў мяне ля Зялёнага моста. Адбіраў партфель, а потым і самую на руках нёс на трэці паверх. Нёс і заходзіўся ад смеху: «Не можаш вышэй — бяры ніжэй...»

Усё, вядома, помніцца... Помню, і як ты, калі хто з жанчын спрабаваў фліртаваць, адразу вымаў з кішэні фотакартку і паказваў: «Гэта — мая Сара...» Першы зборнік вершаў так і падпісаў — Бэр Сарын. І першую дачку, дамогся, назвалі Алізай — радасцю.

А што казаць, калі пасля вызвалення Заходняй, пераехалі ў Ліду. Стала так добра, што варушылася трывога. Я — у школе, ты — у райана. Пішаш карціны, закладаеш падмурак краязнаўчага музея. Вітаў самога Купалу, які балатыраваўся па нашай акрузе. Збіраўся маляваць партрэт Сайчыка. «Які твар, постаць! Сапраўдны беларус, рэвалюцыянер...»

І вось абрыў. У каламутную прорву, у нейкі вір не-

---

[1] Бядняк, бязбожнік *(яўр.)*.

чаканых падзей, расставанняў, сустрэч... Але мы і тады асталіся непапраўнымі... Нават калі трапілі ў мінскае гета з Алізай і Сонечкай на руках.

Прызнацца, мяне і тады крыху непакоіў гэты аптымізм. Пачуем апоўначы гул самалёта — наш! Канечне, разведка, і, значыцца, за ёй наступленне... «Перадалі: праз станцыю прамчаў санітарны састаў — «Ага! Значыцца, б'юць. І, канечне, неўзабаве пакоцяцца дабрадзеі туды, адкуль з'явіліся...» Ты нават узяўся калекцыяніраваць нямецкія загады, аб'явы, што вывешваліся ў гета: «Перадам у музей. Лепшы рэчавы доказ!..» Калі я прамаўчала, здзівіўся, упікнуў: «Ну, чаго ты? Навошта панікаваць? Давай ужо да канца верыць у навіны «Інд вілн азой» [1]. А на выпадак весці ўлік злачынствам».

Душа падказвала — падзеі больш грозныя, небяспека больш страшная. Але я не пярэчыла: баялася, ці не маладушнасць гэта, ці не гаворыць ва мне страх за дзяцей. Хоць не магла ўцяміць, як ты можаш, жывучы ў крывабокай халупцы, у цеснаце і голадзе, носячы латы нявольніка, збіраць па вечарах дзетвару, расказваць розныя байкі і, выраблаючы маніпуляцыі рукамі, паказваць на сцяне цені звяроў, людзей. Бо, даруй, дабрата твая, імкненне жыць, быццам усё найважнейшае ў заўтрашнім дні, і таму ўсё ідзе, як павінна ісці, выглядалі наіўнымі.

Цябе не выбіла з каляіны сама Сонечкіна смерць. Калі я загарнула дзіцятка ў чужую падраную хустку і па Сухой вуліцы панесла на могілкі, ты не забыўся, на што забылася я,— прыхапіў кавалак дошкі, каб выкапаць ямку. А потым... каб не аставацца сам-насам з горам, пайшоў збіраць дзяцей.

І вось, успомніўшы гэта, я і наважыла, каб хоць у думках пагаварыць з табою, пайсці сюды — да Сонечкі. Прыйсці, легчы на ўзгорачак, абхапіць яго рукамі і выказаць табе ўсё-ўсё... Але калі прыйшла, разгубілася — ні ўзгорачка, ні таго месца. Усё перакапана. Нават параскіданы каменныя пліты са старых магілак. І — равы, равы. Перамяшаліся і словы, што наважыла сказаць.

Ага!.. Пасля кастрычніцкіх свят, на якія гітлераўцы правялі першае «скарачэнне гета», ужо не было

[1] Так хочацца яўрэям *(яўр.)*.

сем'яў без ахвяр. Дванаццаць тысяч! Зямля ў Тучынцы, кажуць, стагнала, пакуль танкі з чырвона-белымі кругамі трамбавалі яе. А мы?..

Мне і цяпер многае няясна. Што, напрыклад, апрача як будаваць «маліны» ствараць падпольныя групы ці, як ты, складаць спісы гітлераўскіх злачынстваў, можна было рабіць? «Калі вораг намеціў цябе знішчыць, змагайся за жыццё — гэта таксама барацьба»,— як сказаў ты. Помніш?.. «Калі цяжка адпомсціць зараз, рабі так, каб адпомсціць потым...» Але хіба гэта адпавядала падзеям? Ці не замнога мы думалі аб сваім жыцці і замала, каб найдаражэй прадаць яго? Адкуль узялася надзея, што ўсё яшчэ можа і без нашых намаганняў выкіравацца да лепшага? Адкуль з'явіліся людзі, якіх зночэўку спакусілі разглагольстванні Эпштэйна? «Сапраўдных яўрэяў болей чапаць не будуць». Ха! «Кончыцца вайна, іх пераправяць у Палесціну!»

Не, не, я, здаецца, сама не ведаю, што гавару. Пры чым тут ты? Каб не было веры, імкнення жыць, адпомсціць потым, не было б нічога. Нельга ўраз, па ўзмаху рукі, стварыць падполле, узняць людзей, павесці за сабой. Такіх цудаў не бывае!

Але ж былі і другія людзі. Гебелеў, напрыклад, з яго гатоўнасцю да нечаканасцей. З яго мужнасцю, уменнем жыць для барацьбы.

Ён, Мойша, бачыў далей, чым мы. Часамі я нават разглядала яго — хацелася зразумець, у чым сакрэт. Твар як у многіх. Праўда, адкрыты лоб, строгія, засяроджаныя вочы. Але, мусіць, у гэтай вось пільнай строгасці, у нацэленасці на адно і заключалася разгадка. Бясспрэчна, ён шмат у чым вызначыў новы кірунак. Тое, што мы аб'ядналі падпольныя групачкі, наладзілі сувязь з наваколлем,— яго заслуга. І пазней яго можна было сустрэць усюды: у падзямеллі камсамольцаў, на «радыёстанцыі», на Юбілейнай плошчы каля юдэнрата пры адпраўцы падпольшчыкаў у партызанскі атрад.

Помніш? Усе падцягнуліся, заняліся сваім. Ты сеў за падрыхтоўку патрэбных дакументаў. У лясныя раёны пайшлі ганцы. Мы ўзяліся шыць цёплае адзенне, маскхалаты, рукавіцы з двума пальцамі...

А Эма Родава? Сціплая, чуйная! З яе талентам канспіратара і чалавеказнаўцы, што так неспадзявана

праявіўся. Колькім скептыкам яна мазгі ўправіла, узначальваючы тройку камсамольскіх агітпропаў! Забывалася на сябе. Злавала, калі ёй прыносілі хлеб з юдэнратаўскай сталоўкі. Хоць у роце і не было нічога, акрамя бульбяных лушпаек... Хочаш абразіць — спытайся, ці выканала даручэнне... Ты ж ведаў сам...

І ўсё-такі скажу: мы і паловы не зрабілі б, калі б не завіталі пасланцы гаркома, Сайчык са «Звяздой». Як можна гэтага не бачыць? Усё ж стала такім і не такім.

З'явілася «жаночая група» сувязных на чале з Эмай. У юдэнрат, нават на біржу працы да Эпштэйна, у рабочыя калоны заслалі сваіх людзей. У гарбарні, на швейнай фабрыцы, на абутковай труцілі кіслатой скуры, мануфактуру. На лікёра-водачным — спірт. Кралі палявыя тэлефоны, падэшвы, цёплую бялізну.

Табе дасталося найцяжэйшае — турма. Цяпер я зразумела: ты выбраў яе сам. Хоць і строіў з сябе кепікі. Паштальён, маўляў. «І да тых і да гэтых у давер'е ўцёрся. Турэмшчыкаў малюю. Любяць яны, як і ўсялякія дэспаты, пазіраваць і ўвекавечваць сябе». Дабіўся — у «карысныя яўрэі» залічылі. Старшынёй калоны паставілі... Бедны мой! Хіба гэтым табе было займацца? Які ты актор? Вайна, выходзіць, не толькі ахвярамі страшная...

Не, не, я не дакараю цябе. Ты сваё зрабіў! Важна было і адпомсціць нелюдзям пасля. Але я хачу пра другое сказаць...

Чалавек у жыцці праз шмат выпрабаванняў праходзіць. Ды не кожнае з іх праверка яму. Але ёсць адно выпрабаванне. «Няўмольнае, як кажуць. Гэта — калі ты перад смяротнай небяспекай рашаеш, як быць. Тады цана твая на далоні. Смерць не перахітрыш, не падкупіш. Тут — або так, або гэтак. Няма зыбкай сярэдзіны, як няма і куды адступаць... Над многім ты прымусіў тады задумацца мяне, дарагі!

Дык вось. Ты ведаеш — пра сакавіцкі пагром нас папярэдзіла гарадская разведка. Дый ад юдэнрата быў запатрабаваны спіс на пяць тысяч чалавек. Нібыта для адпраўкі на тэрміновыя работы. Але ўключаць у яго людзей, якія працавалі на прадпрыемствах, заба-

ранілі. На нявіннае пытанне — а ці можна ўносіць у спіс старых? — адказалі «ўсё роўна».

Гэта ты ведаеш — запісаў нават сабе. Але не ведаеш, што было далей. Калі на зборны пункт аб'явілася толькі жменька даверлівых, каты кінуліся па дамах. Хапалі без разбору — усіх, хто трапляў пад руку. Забралі сірат, выхавацельніц з дзіцячага дома... А калі не хапіла іх, гаўляйтэр загадаў пакрыць недабор з рабочых калон.

Мойша, Мойша! Хай бы лепей гэтага, вядома, не было. Хай!.. Але што тады сталася б? Я сама, даруй, сказала б: чаму цябе чорны год не забраў? Чаму па нашых законах каменнямі не закідалі? Я палохала б табой Алізачку. Ворагам зычыла б тваю ганьбу... А так, уяўляючы, як трымаў ты сябе, поўнюся гордасцю. І хоць сэрца абліваецца крывёю, хоць не хацелася жыць, я бласлаўляю цябе. Даўгоў за табою не засталося!..

«Вахман, адпусці яго! Гэта карысны яўрэй. Кюнстмалер...» — «Слухаюся, пан начальнік. Выходзь, юдэн!» — «Выходзь, Мойша, ты сёння перабудзеш тут».— «Не магу, пан начальнік».— «Што-о?» — «Я выйду, калі пакінеце разам са мною астатніх...»

Кат жуіраваў, паказваў сваю ўладу. Нічым не рызыкуючы, знаў толькі сябе. А ты ставіў на карту жыццё. Яму карцела, каб быў скончаны яго партрэт. Табе трэба было застацца самім сабою і ўратаваць асуджаных. І гэта ведаючы, з кім маеш справу!

Мне расказвалі, як яны білі цябе, як упіхнулі назад у калону і пагналі на таварную станцыю. Аднак — во чалавечая слабасць! — надзея, як і ў цябе, не хацела знікаць. Толькі калі пачула размовы пра Старыцкі лес, убачыла на паліцаі тваю кубанку, зразумела: «Загі-і-інуў!» Я рвала на сабе валасы, білася аб сцяну. Адпароўшы латы, вышмыгнула з гета. Дабегла, паверыш, аж да Фаніпаля, і ніхто не пацікавіўся, не спыніў мяне, расхрыстаную, амаль непрытомную. Хапала навокал гора без майго. Гора, Мойша, аказваецца, было ўсеагульнае...

Не! Зноў усё перамяшалася ў маёй галаве. Я збіралася сказаць табе... Магчыма, галоўнае... Расстрэльвалі не толькі ў Старыцкім лесе. Рабочую калону, якая

ўваходзіла ў гета па Шорнай вуліцы, спынілі перад варотамі. Чакаючы далейшых загадаў, прымусілі легчы на снег. Па тых жа, хто рынуўся ў гета з надзеяй знайсці паратунак у тайніках, адкрылі агонь. Пачалі забіваць і тых, хто ляжаў. А назаўтра гетаўскія паліцаі з гамбургскімі яўрэямі ўзяліся падбіраць трупы. Так што на могілках вырас яшчэ адзін доўгі пакручасты вал...

Таму я не знайшла ўзгорачка, пад якім ляжала наша Соня, і ўзнялася на гэтую пакручастую магілу. Укленчыла. Як-ніяк, але загінуў ты ў адзін дзень з імі...

Не, даруй, я кажу і гэтым разам не пра тое...

Калі немцы запатрабавалі спіс, Эпштэйн прапанаваў юдэнратаўцам уключыць у яго старых і дзяцей. «Нам няма на каго спадзявацца. А здаровае, маладое заўсёды спатрэбіцца». Пасля ж расправы на Шорнай, соваў усім дулі, ляпаў сябе па лбе і дзьмуў на ўзнятую ўгору далонь, паказваючы, што ўсякія іншыя вымудры ўратавацца — бязглуздзіца. «Ну, што? — моршчыў нос.— Перахітрылі? Выйгралі? Думалі — хто заступіцца, паможа? Але нічога, нічога — і гэта прыдасца. Кроў прымусіць дбаць аб сабе, падкажа, у што верыць...»

Праўда, цяжка было чакаць іншага ад гадунца Тарунскага «Бейтара» [1]. Але каб стаць людаедам?.. Шэф зарганізаваў нешта накшталт гетаўскай службы бяспекі — хай свае выдаюць і знішчаюць сваіх. І Нохім Эпштэйн, безумоўна, тут як тут. Ведаў: найгоршаму сабаку — самы смачны кавалак.

Як гэта назваць. Мойша? Выгадваць нешта на жыцці і смерці! Пляваць на святое, каб адно ўзняцца над другімі і дамагчыся свайго!

Захопнік, безумоўна,— вораг. Яго, вядома, трэба выкрываць. Але хіба меншы вораг вось такі, хто гандлюе табою? Хто глядзіць на цябе як на гліну? Ці дацэньвалі мы гэта? Ці не баяліся лішніх ахвяр? Нібыта там, дзе ўсе асуджаны, могуць быць лішнія і не

[1] Маладзёжная сіяністцкая арганізацыя *(яўр.)*.

лішнія ахвяры. Пагроза смерці, што навісла над кожным, як бы ўраўноўвала... Не, Мойша, яна і размежавала нас!..

Ну вось цяпер і пра галоўнае... Я папрасілася на тваё месца.

Немцы, будучы і турэмшчыкамі, хварэюць на педантызм. Неспадзеўкі ім заманулася брукаваць турэмны двор,— парадак павінен быць ва ўсім. І я стала падносіць брукаўшчыкам каменне. Потым працавала ў пашывачнай майстэрні, у пральні. Надрывалася і тым часам, як і ты, збірала звесткі аб зверствах, ахове. Але... Але і аб даносчыках... Удалося выявіць нават тых, што атрымлівалі паёк у турэмнай кладоўцы, не служачы нідзе, і перадаць спісы Марыі Чорнай, што прыходзіла з горада нібыта ў пашывачную...

Сакавіцкі пагром прымушаў спяшацца. З гаркомаўскімі праваднікамі адпраўлялі ўсё новыя партыі. Адпраўлялі і без праваднікоў — нібыта нарыхтоўваць дровы, торф, каб шукалі месцы для цывільных лагераў. Міхел Гебелеў знайшоў спосаб перапраўляць у беларускі дзетдом дзетвару. Каб адвесці бяду ад блізкіх, уцекачоў выкрэслівалі з уліковых кніг як нябожчыкаў. Іхнім сем'ям памагалі з ахвяраванняў спецыялістаў.

Але шэф з камендантам таксама вялі сваё. Узмацнілі ахову. Апрача жоўтай латы загадалі насіць нумар свайго дома. Па нядзелях увялі «пераклічкі». Каля драцяной агароджы, па вуліцах, на Юбілейнай, дзе, перш чым ісці на работу, збіраліся людзі, пачала шнырыць гайня Эпштэйна. Я гавару пра гэта, каб ты зразумеў мяне...

Нядаўна высачылі Гебелева. Былі дні, калі ён па некалькі разоў хадзіў на сувязь у горад. З дакументамі на імя Русінава, з сталярнымі інструментамі пад пахай прабярэцца да драцяной агароджы, пераапранецца ў руінах і — няма. Той раз ён таксама нырнуў у руіны. Але ледзь паспеў зняць пінжак з латамі, як аказаўся ў руках здраднікаў.

Прыйшла чарга і Алізачкі... Суседцы зрабілі пашпарт на ўкраінку. Упісалі яе сына, Алізу. Афармілі

прапіску ў горадзе. Я выкупала дачушку... Праляжала з ёй ноч абняўшыся і адправіла... на смерць — пачаўся новы пагром...

Выпусціўшы калоны рабочых, гета ачапілі. Прыслужнікаў, ха, замкнулі ў будынак, прыставілі ахову. Во гонар!

Тры дні цягнулася бойня. Зганялі людзей на плошчу, грузілі ў машыны. Хворых і старых расстрэльвалі на месцы. Пунькі, халупы, дзе, на іх думку, мог хтонебудзь хавацца, закідалі гранатамі. Потым пусцілі сабак-сышчыкаў. За імі — прыслужнікаў. Яны заходзілі ў дамы і па-яўрэйску крычалі тым, хто хаваўся, каб вылазілі з «малін». Пагром, маўляў, скончыўся, і вярнуліся рабочыя калоны... Вось чым кончылі!..

Прызнаюся, жыццё як бы страціла сэнс. Ты загінуў, загінулі дзеці — я адна... Ні дома, ні родных. Мала асталося і таварышаў, з кім пачынала падполле.

Але ў чалавека ёсць мінулае. Дый нясе ён у сабе нейкае святло. Мусіць, для будучага. І няхай наўкол апраметная цемра — ні агеньчыка табе, ні гуку,— яно напамінае: я ёсць, засцерагае ад ліха, не дае прыняць беспрасветнасць.

Я хадзіла як не свая. Адзінае, што звязвала мяне з жыццём, было падполле — цэнтр уцалеў. А калі б не? Страшна падумаць! Магло б згаснуць і святло, якое насуперак усяму яшчэ цеплілася. Нават усведамленне, што трэба адплаціць ворагам,— я адчуваю,— прывяло б да якога-небудзь дзікага ўчынку. А што, магло ж быць і так, што ў роспачы пачала б клясці жыццё, людзей — усё. Ха! Паўстала б супроць іх.

Не, Мойша, апошняга, мусіць, ужо не магло здарыцца. Я... палюбіла і, здаецца, як Эма... Гора, гора!.. Яна таксама трапіла ў рукі катаў. Але пачытаў бы ты яе лісты з турэмных засценкаў! Напісаныя з раструшчанымі пры допытах ступнямі.

Аднак, пачакай!.. Зараз я кончу... Справа ў тым, што з атрада Будзённага прыйшло заданне — утаймаваць здраднікаў. Патрабуюць уцекачы з гета, камандаванне. Каб не выклікаць дадатковых рэпрэсій, цэнтр рашыў выманіць іх у лес. Хай не толькі другія, а і самі пераканаюцца, што беспакаранай здрады не бывае.

І вось — не страшна вымавіць і гэта — я на біржы працы. Ха!.. Сам Эпштэйн задаволены мною. Яму, бач, імпануе — я «заходніца», ведаю гатычны шрыфт, старажытную мову... Ты, вядома, не ўхваліў бы маёй рызыкі, а можа быць, і нашай задумы. «Хіба гэта галоўнае?» — спытаўся б. Так, так, Мойша, і гэта галоўнае!..

Няхай не крыўдзяць цябе мае словы... Прыйшла сюды, пачала спавядацца, і здаецца ўжо: жыццё маё пачыналася не ў Вільні, дзе нарадзілася, сустрэлася з табой, зведала каханне. Нават не ў Лідзе. Хоць там упершыню і стала вольная, адчула, што работа, сям'я — шчасце... Не, не! Цяпер я ведаю: яно пачыналася тут. У гэтым гіблым месцы, дзе я страціла самых дарагіх. Дзе перажыла хвіліны, трагічнейшыя за якія не выдумаеш. Але дзе ўсвядоміла сябе часцінкаю другіх.

Пашанцуе мне ці не? Хто ведае. Але, клянуся, хачу перад усім аднаго — каб хапіла сіл і хітрасці здзейсніць задуманае і трапіць да лясных таварышаў.

Ты разумны і добры. Даруй і бывай! Ты назаўсёды астанешся са мною...

# ПАЧУТЫ СТОГН

## СПРОБА УЯВІЦЬ ІМГНЕННЕ

*Апавяданне*

Гы-ы!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Няўжо, калі я збочыў у руіны, ён шыбануў у мяне каменем? Ад злосці. Ад таго, што падвялі нервы. А мо проста, каб абваліць на зямлю... Глядзі, Валодзя! Глядзі! І давай за вугал вунь той шалудзівай каробкі. Ну! Ну!

Ён, вядома, віжаваў даўно. Мо з самага ранку. І тады, калі я адпраўляў людзей у атрад. І тады, калі грузавік паехаў і я ішоў у аптэку... Ай-яй! Там жа ў падвале — пашпарты, шрыфт, медыкаменты... З лішкам хопіць, каб павесілі і Юрку, і яго любоў...

А гэты, безумоўна, выявіў сябе толькі, калі спалохаўся, што можа ўпусціць мяне. Калі здалі нервы ў сволачы!

Хто ён? Немец? Сынок белагвардзейца? Наш бобік? І як высачыў? Зноў нешта не дагледзелі? Ці зноў здрада?

Стоп! Думай, Валодзя! Можа, ён яшчэ не паведаміў пра грузавік, і пагоні не паслалі. Можа, не ўправіўся перадаць і пра аптэку...

Ісай Казінец смяяўся, калі гаварылі, што ёсць прадчуванне. А яно ёсць... Як ён зваў мяне? Тузенбахам. Чэхаўскім Тузенбахам. Не! Гэта я казаў, што стараюся пад Тузенбаха... Кпіў па-сяброўску і Гена. О як добра было б, каб ты, мой Гена, пачуў мяне зараз! Аднакашнік ты мой, друг ты мой!..

Ці не занадта мы рызыкавалі? Ці не занадта былі захоплены адным? Штодзень. З самага пачатку.

Помніш прыёмнік? Помніш, што ў квартале немцы не жылі, і яго адключылі ад электрасеткі? І ўжо тады прыходзілася ісці напрапалую — поначы праводзіць лінію, падключаць да радыёзаводскай. Сваю лінію! Пад носам у немцаў! А прыёмнік дзе схавалі? Пад эта-

жэркай! Завесіўшы шторкаю. І слухалі, запісвалі, лежачы на падлозе. Во канспірацыя!

Стоп! І ці не хітрыш ты трошачкі сам з сабою, Валодзя? Каб падбадзёрыцца? «Цэ ж було та за вадою пішло»,— як кажа мама... Бедная мама! Ці не давядзецца і ёй зноў мучыцца, як тады, калі нашы палеглі пад бамбёжкай ля Замбрава?.. Не, не! Хаваць сябе рана... А вось азірнуцца назад не шкодзіць. Той не чалавек, хто адно ацэньвае другіх. А раптам бяда пачынаецца з цябе самога?

Ну, ну!.. Успамінай, Валодзя! Разбірайся. Прыйшлі Воранавы. Так? Два Міхалы — сын і бацька. Ты іх таксама ведаеш, Гена. Электраманцёр і начальнік друкарскага цэха. З'явілася «хатняя друкарня» на Рымарнай. Сыпанулі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро... харчовыя карткі для падпольшчыкаў. Як мае быць...

Але і гэта не газетныя габарыты... Як і чакалі, знайшліся яшчэ хлопцы... Свірыдаў, Барыс Пупок... Эх, Барыс, Барыс! Недарма ты быў чорны, як жук. Ён з Ліды, Гена. Як пачалася вайна, адразу рвануў на ўсход, але пад Мінскам перанялі. Загналі ў Драздоўскі лагер, адтуль — у турму. А калі спатрэбіліся паліграфісты, перавялі ў друкарню. Жыў у пакойчыку, побач з ратацыйным цэхам,— ні рабочы, ні вязень. Нават пасмейваўся з сябе і з усіх... Не, Валодзя, і тут, здаецца, усё ў парадку...

Праўда, далей пайшло больш складанае. Адкрыліся дзве магчымасці. Мы яшчэ спрачаліся з табой, Гена, калі ты прыдыбаў з Дзяржынска. Помніш праблему? Пашыраць «хатнюю друкарню» і тым часам ствараць рэзервовую або, як прапанаваў Воранаў-старэйшы, набіраць газету ў Доме друку, а друкаваць у яго дома. Успомніў? Камітэт схіліўся на апошняе — так было хутчэй.

Бо сапраўды — як ты будзеш чакаць, калі навокал гарлапаняць, агатукаюць і немцы і іх падпявалы. Самым ходкім словам зрабілі «капут».

Да таго ж уначы вахманы стаялі толькі ля брамы і галоўнага ўвахода. Унутры Дом друку не ахоўвалі. Праўда, на другім паверсе жыў шэф з сям'ёю. На чацвёртым — чорнарабочыя — палонныя і вартавыя. Але ж ты ведаеш, што за махіна гэты Дом. Так што пры пэўных захадах набор начамі можна рабіць. Асабліва — у зацішным складзіку для шрыфтоў... Ну і ру-

шыла... У домік Воранавых, як па канвееру, пайшлі гранкі, заціскачкі, вярстаткі, друкарская фарба, ручныя валікі, папера. Нават перавалачны пункт арганізавалі...

А як працавалася! Любата! Невядома адкуль і сілы браліся. Гадзінамі з навушнікамі сядзеў. Паверыш на руцэ ад пісання аж мускул развіўся. Паміж вялікім і ўказальным пальцамі. Як жаўлак які... Сустракаўся, вядома, і з партызанскімі сувязнымі. Апытваў,— пакуль прасіцца не пачыналі. Цэлы стосік блакноцікаў спісаў.

Аднак, відаць, як з вады, побач вырастала і бяда.

Ы-ы!..

Не, Валодзя, гэта не камень. Далей ты, мабыць, не пабяжыш... Прытуліся да сцяны. Плечуком. І думай, думай! Толькі так можна перамагчы слабасць. Трымайся, думай і сачы. У цябе, хутчэй за ўсё, астаецца адно — сустрэцца з ім твар у твар і страляць. Ён, безумоўна, паявіцца неўзабаве...

Пэўна, з тых, што наняліся нядаўна. Бач, як старанна вёў... Баязлівы да здрады, такі пасля часцей са скуры лезе, каб выслужыцца. І не толькі таму, што баіцца новых гаспадароў. Знарок распальвае сябе. Шалее, каб сцвердзіць сваю здатнасць ва ўласных вачах...

Памятаеш метамарфозу «тройцы» з Ваеннага савета, з якой напрадвесні пачаўся правал?

Амбіцыя, бравада. «Не хавацца, а выяўляць трэба!..» Дзейнічалі, нібыта гулялі ў вайну і ваенных. Нарады, дзяжурствы ў штабе, загады... О, як шалеў, Гена, Казінец, калі даведаўся аб правале! «Засыпаліся, сукіны сыны!..» А як праваліліся, ураз скіслі. Пачалі тыцкаць пальцамі адзін на аднаго, а потым і на другіх... Выдалі Зайца, Сямёнава... Душа аж шчыміць ад агіды. І бадай, не менш, чым ад небяспекі, што насунулася вось цяпер на нас...

Успомні Жудро, Сашу Макарэнку. Камісара «Чатырыста пятага»! Прымчаў з лесу, каб ратаваць нас. Да іх, аказваецца, таксама дапяў адзін з «тройцы» — паслала СД. І калі паднацiснулі на яго — укленчыў, прызнаўся, назваў астатніх.

Другая такая ж ануча — адкуль толькі спрыт узяўся! — прывяла эсдэкаўцаў на кватэру да Жудро. Перш чым страляць у замкнутыя дзверы, пераконвала: «Васёк, адчыні, свае! Саша, скажы там яму...»

Другі паверх, адзіныя дзверы... Скакалі ў акно. Саша звіхнуў нагу. І можна ўявіць, як ён адступаў, як адстрэльваўся?! Цалюсеньку добу валялася цела на вуліцы. Чакалі — а раптам хтось прыйдзе, а раптам хтось будзе бедаваць... Жудро ж пашэнціла больш — Саша адцягнуў увагу на сябе. Але пры перастрэлцы ў пакоі паранілі і Васю. Праўда, мама з сяброўкамі схавала ў надзейным месцы, ды высветлілася — раны цяжкія. І хоць было позна, пераправілі ў бальніцу. Але і туды, ужо да мёртвага, прыявяла ануча сваіх гаспадароў. Во якая актыўнасць у такіх!..

Ох, як балюча! Як шкада!.. І, можа, зараз мацней, ніж калі на Нямізе, слухаў маму, якая прынесла гэтую горкую навіну. Можа, нават мацней, чым і тады, калі, шукаючы слоў, пісаў пра іхнюю гібель, бегаў па сваёй каморцы, як апантаны. Бо цяпер, апрача ўсяго, абурае: гінуць самыя лепшыя! А такая вось дрэнь пакуль што жыве. І калі б выбавіўся адсюль, запатрабаваў бы... Прасіў бы... Пад сонцам не павінна быць поскудзі. Барацьба ідзе ў імя светлага! І нам наканавана не толькі ваяваць з чужынцамі, а і вынішчаць дзікае мяса...»

А дзе ж выжлятнік? Схаваўся і пільнуе? Няўжо аказаўся хітрэйшы і разгадаў мой план? Незразумела толькі, чаму не свістаў дасюль? Пэўна, меркаваў: у паніцы нараблю глупстваў, кінуся хавацца куды да сваіх... Няўцям было, што могуць памагчы і руіны... Але чаму не свішча ён зараз? Спадзяецца справіцца сам? Не хоча дзяліць славы?.. Ну, ладна, пабачым...

Ох, як горна!.. У аблаву трапіў і тата... Не ўбярог і яго. А гэта ж нядаўна адпраўляў чарговую партыю за Дзяржынск. Падбіраў, думаў пра кожнага, а пра тату і не ўспомніў... Эх, Валодзя, Валодзя! І толькі цяпер прыгадаў, што твар у яго ўжо бялеў ад старасці... і занадта многія ведалі яго ў горадзе...

І знаеш, Гена, як атрымалася? Мы сядзелі за банкетным сталом, а эсдэкаўцы якраз у гэтую хвіліну цягнулі яго ў машыну... Жарты, анекдоты. Мурлыкалі «Запавіт», «Арленка», а яго мардавалі ў засценку. Раніцою слухалі па радыё святочную перадачу з Масквы, калектыўна запісвалі першамайскі загад, а ён, непрытомны, распластаны валяўся на голых нарах.

Добра, хоць у барацьбе свае законы. Кроў, пралітая за справядлівую справу, мацуе яе. А той, хто загінуў...

Ён жа астаецца сумленнем, дарадцам жывых. У гэтым, пэўна, і зарука, што ўсё рухаецца наперад.

І, прызнаюся, калі гарком даручыў пісаць ліст Цэнтральнаму Камітэту, гэта толькі і суцяшала мяне. Помніш, калі ты зайшоў якраз?

Помніш, як прысягалі мы тады ад імя мінчан, што беларускі народ быў і астаецца верным дружбе савецкіх народаў? Ён ганарыцца працай сваіх пабрацімаў у тыле, іхняй мужнасцю на фронце. Запэўнівалі — і там, на свабоднай зямлі, яны могуць ганарыцца нашай барацьбою. Успаміналі Жудро, Макарэнку... І зноў прысягалі: мы з гонарам пройдзем праз нягоды. Так было, так будзе!..

І хоць набліжаўся новы жахлівы дзень — калі ў скверах і на рыначных плошчах зноў наважылі вешаць нашых, пачалі збіраць подпісы. Тысячы подпісаў. І сабралі...

— Стоп!.. Але не — і тут, па-мойму, усё ў парадку. Інакш нельга было...

Аднак чаму так ляцяць думкі? Чаму падкошваюцца ногі? Цягне зямля? Руіны быццам хістаюцца і сонца пячэ ў вочы? Касматае, сляпучае!.. Трымайся, трымайся, Валодзя, чаго б гэта ні каштавала. Бо як жа інакшай ты дастанеш з кішэні пісталет? Як будзеш страляць, калі бахнешся на зямлю? Ты ж абавязкова тады на міг зробішся бездапаможным. А потым... калі нават і ўдасца выцягнуць «ТТ», шпік — гэта відаць па ўсім! — проста наступіць на тваю руку. Нябось, вышкаляны, стараецца. А раз наступіць — ты ў ягонай уладзе. А самае крыўднае — не абясшкодзіш ужо...

Пачакай, што я хацеў дадумаць? Дзе пралік? Хто мог прадаць?.. Што нам трэба зыначыць?..

Так, так... Возьмем зноў хоць бы «Звёздачку». Праўда, гарком прысpяшаў мяне. Але ж усё ішло па плану.

Ухвалілі назву. Законнік Вася Жудро яшчэ раней абгрунтаваў: «Правільна — «Звязда»! Хай свеціць, як і дасюль».

І выйшла ж. Убачыла свет. Назва... каб мацней білися сэрцы, набраная даваенным шрыфтам. Побач: «Таварышы! З сённяшняга дня... пішыце!..» О-о! Затым — перадавая «Шырэй барацьбу!», «Весткі з франтоў», «Партызанскія навіны». І, само сабой, гумар — жывём і не кашляем!..

Да скону не забудзецца ноч, калі вычытваў карэктуру... Да скону?!. Мама плакала ад радасці і гладзіла мяне, як барадатае дзіва... Хлопцы абдымалі...

Але навошта, як і раней, за мной аставаўся Дзяржынск?.. Каб быў у гушчы падзей. Хоць... Цяпер ужо можна і тут прызнацца... Я любіў гэтую «нагрузку». Колькі мне? Дваццаць пяць. Не так ужо многа. Але я... маладзееў, Гена!..

Калі я апошні раз пабываў у нашым Дзяржынску? У пачатку месяца? Так? І верыш, выбраўшыся з мінскіх руін, захмялееў. Над галавой — неба, хмурынкі. На край свету полем крочаць слупы. У жылах прыдарожных бяроз — сок. Вунь, бачыш, у адной надсеклі камель і між карэнняў, прыкрыўшы яловай лапкаю, паставілі вышчарблены гляк... А за бярозамі? Прасторы адкрытай вады. І там, дзе мелка,— лотаць. Жоўтыя кветкі, бы матылі, якія вось-вось успырхнуць. Праўда ж? Праз дзень-два ўзарвуцца набрынялыя пупышкі, зеленаватае воблака ахіне дрэвы, і па пералесках пакоціцца зялёны шум.

Каюся, Гена, каюся! Я нахлябтаўся тады чужога халоднага соку... Нават збочыў з дарогі да пянька. Сядзеў, асляплены навакольным святлом, аглушаны птушыным шчэбетам. Песціўся, пакуль не спахапіўся і не прымусіў сябе прагаласаваць. Ехаў далей, прызнаюся толькі цяпер, у кузаве з веснушкаватым вахманам.

Во здзяцінеў!..

Але што са мною? Я і зараз, здаецца, п'янею і... падаю. Падаю, Гена! Потарч, не заплюшчваючы вачэй... І чаму няма болю? Толькі гарачым абдало грудзі... Ці магу я хоць варушыцца?

Стоп, Валодзя! Сачы, сачы!.. І не забывайся на тое адно, што асталося... Бо факт — вінаваты хтось з тых, каго адправілі ў лес. Прывёў за сабою хвост або выдаў. Дый сам ты, Валодзя, дапусціў памылку. Стаяў, назіраў збоку, ці ўсё будзе добра, а потым расчуліўся — памахаў таварышам у грузавіку. О, як трэба, канечне трэба перадаць гэта ў гарком!.. Няхай робяць вывады. Мы яўна пагарджаем небяспекай, празмерна даверам... І гэта, калі супроць нас цэлая вымуштраваная плойма.

Хоць... Пачакай!.. Глядзі праўдзе ў вочы!..

Ці мог уратавацца, скажам, Сямёнаў-Жук? Мог. Калі яны з'явіліся ля брамы, ён ужо бег па калідоры.

Спагадлівая суседка, схапіўшы за руку, уцягнула яго да сябе. З тайніка ён вылез, калі ўзнятая ў доме калатня ўжо кончылася... Ды не сцярпеў — захацелася паглядзець з-за фіранкі ў акно. Глянуў — і сустрэўся позіркам з эсэсманам, які клыпаў па тратуары ззаду ўсіх.

А Ісай? Сам Слаўка — заўсёды сабраны як спружына? Разважлівейшы з разважлівых. Хіба яму было ўвязвацца ў бяду з Ляляй? Або ісці на яўку з партызанскаю праваднічаю, калі ў горадзе аблавы і павальныя арышты? Калі, наадварот, трэба было стаіцца, як патрабаваў ад другіх. А вось узяў дый пайшоў... А галоўнае — адчыніў брамку, падняўся на ганак, не выслаўшы наперад сувязную, якая была з ім... І ступіў ужо не ў сенцы, а ў турэмны засценак...

А Пупок?.. Хіба цяжка было здагадацца, што калі «Звязда» трапіць у СД, адтуль адразу ж рынуцца ў Дом друку? Праўда, выручыў шэф. Успомніў? Цаніў Пупка за спрыт — той умеў набіраць і па-беларуску і па-нямецку. Выратаваў! Ды не ад выпадку, не ад сябе... Калі назаўтра яго таварышка па падполлю праз дзірку ў плоце вывела Пупка на Ціхую вуліцу, ён успомніў, што без пінжака... Во не было б большай бяды! Але як ні маліла жанчына, не паслухаўся — вярнуўся. І, вядома, улез у нерат... А падрыхтоўка паўстання? У ёй жа — наша сіла і наша слабасць...

Што гэта? Пралікі? Ліхацтва? Безадказнасць? Магчыма... Але ці не вярней, Валодзя, што гэта — барацьба. Яе эпізоды. Сведчанне — чалавек перад усім створаны для працы, а не вайны. Ён жыве мірам. І калі ваюе, дык дзеля таго ж міру... Хіба мы не вучыліся ваяваць? І кожны раз нанава?..

Дзяржынск!.. Няўжо ўсё гэта было, Гена? Былі чырвоны гальштук, камсамольская работа, інстытут журналістыкі, дружба з табою?..

Што ты робіш цяпер, кіжавец мой? Рыхтуеш лістоўку? Панёсся на веласіпедзе ў нядаўна створаны атрад? Ма-лай-чына!.. Калі я стараўся ўявіць сабе чыстую цягавітую сям'ю, я ўспамінаў вашу. Чэснае партыйнае. Надта ўжо лёгка дыхалася ў вас, хораша думалася, і самому карцела быць лепшым. Недарма мой сын — твой цёзка. Недарма навокал цябе згуртаваліся хлопцы са «Штампоўшчыка». Урастай, урастай, Гена, у рабочых! Яны падкажуць, як і што рабіць. А калі прый-

дзецца ту́га, схаваюць... Помніш, як яны слухалі расказ пра падзеі ў Мінску? Як пасля ў вашым садзе дзівіліся на зорнае неба, пачуўшы гул Іл-4, што ішлі на бамбёжку?

А помніш, як ахала твая маці?.. «Валодзечка» ды «Валодзечка!» «Прагаладаўся, канечне, галубок!» Як абняла, пацягнула да стала, кпіла з вусаў, з бародкі, якія адпусціў. Як бедавала, даведаўшыся пра ліха з татам. Супакойвала — усё будзе гаразд...

Мяне заўсёды інтрыгавала ў казках, як, жадаючы даведацца, ці далёка пагоня, уцекачы кідаюцца на зямлю і прыпадаюць да яе вухам. Неяк здарылася, што я не правяраў, чуваць так што-небудзь ці не. Слухаў, як гудуць тэлефонныя слупы, як дрыжаць і гудуць рэйкі, калі набліжаецца цягнік, а зямлю не слухаў. Цяпер жа хочаш не хочаш — слухай. І дзіва!.. Я выразна чую крокі! Нехта бяжыць да мяне. Аж спатыкаецца. Бліжэй, бліжэй... Нават не адзін. А два, тры. З розных бакоў. Хтось з іх, безумоўна,— той. Хто астатнія? Сябры? Ворагі? І каторы падбяжыць першы?..

Не, навошта ашукваць сябе? Хто б яны ні былі, ратунку, Валодзя, няма. Помніш, казаў Казінец: «Можаш — змагайся! Не можаш — не брудзь у сабе чалавечае,— памірай».

Але цяжка прыняць адзіноту і цемру. Нялёгка развітацца з сябрамі. З сонцам! Пад ім і боль не боль... Крыўдна: ёсць... былі яшчэ сілы. Душа прагне змагацца. Мрояцца кнігі, напісаныя сумленна, душой... Горка: новае гора дабавіцца маме. Страціла дачку, унукаў... На дарогах вайны загубілася мая Ліда з Генкам. Закатавалі ў засценках тату. Пагналі ў Германію брата. Гіну і я... Адна астаецца! З вялікай сям'і!.. Шкада, што не твая будзе і «Звёздачка»...

Не, Гена, мы ўсё-такі былі часам наіўныя. Але... Але не ведаю, ці зрабілі б мы больш, каб былі іншыя.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ы-ых!

# ЦАНА РАДАСЦІ

*Апавяданне*

Ну, ну, смялей, хлопчык! Гэтаму вучыцца не трэба. Вось так. Правільна, дарагі мой! Ты думаеш, мне не козытна? Козытна, хлопчык. Але ой як добра, што ты сапеш ля сэрца. Млявы, цёпленькі. Што маё малачко цячэ ў цябе цурком. Ну, смакчы, смакчы, любы.

Табе і неўпрыцям, як гэта нітуе нас. Што ты з кожнай хвілінкаю робішся даражэйшы, найдаражэйшы, немаўлёнак мой! Хоць куды ўжо, здаецца?..

Ну, добранька! Тады давай пагаворым трошкі. Скажы мне вось, напрыклад, хто нас запіша? У якую кнігу? Як будуць пісаць? Ну, вядома, бацька, маці. Гэта ёсць. Знойдзем і хросных. Але дзе той загс? У штабе? Як запоўніць графу «месца нараджэння»? Няўжо — лясны лагер? От здорава! Адзін будзе хваліцца — я масквіч. Другі — я гамельчанін. А ты як скажаш? Лесавічанін? Ха-ха-ха!

І наогул. Калі ты нарадзіўся? Трыццаць першага? Не, лясак мой, гэтым днём я цябе не запішу. Скажу нарадзіўся ў ноч на першае студзеня сорак трэцяга. От як. Бо каму трэба, каб з-за некалькіх гадзін ты старэйшы на цэлы год аказаўся? Мы з табой спрактыкаваныя ўжо. Недарэмна столькі перажылі. Так, лясак?

Эдзік, падыдзі, глянь на сына! Ён жа выліты ты. Чэснае камсамольскае. Гэтак жа і грымаснічае, калі штосьці не даспадобы...

Ну, на першы раз досыць. Пераясі яшчэ. Бачыш, адрыгаецца. Дай хусцінку, Эдзік, яна на тваіх нарах, пад падушкаю, і бяры ўжо свайго аніку-воіна. Ды асцярожна. Хопіць — і так паспытаў, пачым фунт ліха. Глянь толькі, ці не дзьме з акенца. Шыбы, нібы ў казцы пра снежнае царства — з лёду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чаго ты прачнуўся чуць свет! Няўжо есці ўжо захацеў? А мо напурыў зноў? Давай перапаўю. Цяпер

гэта пакуль самае важнае для нас. І ціха, ціха. Не разбудзі бацьку. Прачнецца — а-та-та дасць. Ён толькі што з задання вярнуўся. Ледзь не пад самы Мінск хадзілі. Знясіліўся зусім.

І-і, хлопчык!.. Сёння ранічкой камбрыг заглядаў. Калі расказала яму пра гаворку з табой, смяяўся. Казаў, што ты — лясак, вядома, але не чысты. Бо жыць пачаў у горадзе і там жа баявое хрышчэнне прыняў...

Мы з тваім таткам напрадвесні пабраліся. І таксама без усякага загса. Нават у розных месцах жылі. Я ў драўляным доміку за калючым дротам, а ён з тваёй бабуляй за некалькі кварталаў ад мяне... На Беламорскай вуліцы... Гаротная вуліца, хлопчык! Пра яе цэлую гісторыю можна напісаць. Як і пра Драздоўскі лагер. Хоць той і праіснаваў усяго з месяц...

Твая мамка з татам вучыліся да гэтага. У політэхнічным, трэці курс канчалі. Мала што і заўважалі навокал сябе. Стыпендыю выдатнікам давалі, ну і гналі «пяцёркі». Вайна як гром сярод белага дня для нас выбухнула. Мяне з аднакурснікамі на аэрадром зараўноўваць узлётныя дарожкі паслалі. А тату твайго — лавіць нямецкіх дэсантнікаў. Многа іх пераапранутых скідалі. Ля парку Чалюскінцаў, ля аэрадрома, навокал горада.

А неўзабаве і танкі іхнія ўварваліся... Нашых лаўцоў разам з другімі мужчынамі ў канцэнтрацыйны лагер засадзілі. У той самы Драздоўскі... Расстралялі Ізю Махліса — быў сярод нас такі весялун, балака. Тыя, што бялявыя, з блакітнымі вачыма, пачалі свае пашпарты аддаваць, каб ратаваць таварышаў...

Нам, дзяўчатам, пашанцавала болей — мы асталіся на волі. Я, Вера Раманоўская, Ніна Галубенка ў разбураным хлебазаводзе знайшлі цеста. У пакарэжаных цыстэрнах на чыгуначных пуцях — алей. Узяліся пячы перапечкі. Напёкшы, беглі ў Дразды. Пішчом лезлі за калючы дрот... Колькі радасці, хлопчык, тады было! Як яны елі гэтыя перапечкі!

Калі ж удалося выбавіць іх адтуль, наша студэнцкая сям'я зноў сабралася. Табе, вядома, і неўпрыцям, што такое студэнцкая дружба. Асабліва пры выпрабаваннях. Кажуць, гэта — узаемавыручка, падтрымка адзін аднаго. Не-е! Наша дружба была паветрам, якім мы дыхалі, сонцам, якое саграва ла.

А рашучасць, хлопчык!.. Сярод нас была Ліда Сы-

соева. Дыпламантка-камсамолка. Калі нейкі фрыц паспрабаваў прыставаць да яе, яна проста плюнула яму ў зрэнкі. А калі той стаў здзекавацца — наматаў яе касу на руку і тузануў направа-налева — прыгразіла: «Здзекуйся, гад, здзекуйся, але помні — табе і твайму Гітлеру ўсё роўна капут!» І гэта калі яны пад Масквой былі... Расстралялі, вядома, Ліду. Без суда, на месцы...

І каб ад мяне гэта залежала, я пасля перамогі помнік бы ёй ля нашага Політэхнічнага паставіла. За чысціню, за гонар...

Праўда, інстытуцкі інтэрнат немцы пад шпіталь занялі. Разбрыліся мы, хто куды. Але купкамі. Некалькі чалавек, у тым ліку і я, перасяліліся ў дом Белдзяржпраекта. На Акадэмічную вуліцу. Ды і адтуль нас хутка пратурылі. Уначы проста. Прыехалі на аўтамашынах, забегалі па лесвіцах. У дзверы загрукалі: «Вэк, вэк!»

Добра, што на двары пусты домік былой пажарнай аховы стаяў.

Аказалася — гэта авіяштаб нейкай лётнай групы прыбыў. Аблюбаваў сабе дом і рашыў атабарыцца ў ім. Так што, калі будынак абгарадзілі калючым дротам, мы таксама асталіся за драцяной агароджай. Нават пад аховай вартавых. І, вядома, не так сабе. Дзяўчат-студэнтак прымусілі мыць кухонную пасуду ў сталоўцы. Студэнтаў — калоць дровы для кухні. Праўда, за гэта, як узнагароду, выдавалі кацялок супу, а часам і іншыя недаедкі.

Затое Новы год адсвяткавалі мы на злосць усім, хто банкетаваў у сталоўцы. Хлопцы расстараліся шнапсу, мы сцібрылі на кухні цыбулі, хлеба. Седзячы за бяседным столікам, спявалі колішнія песні. І паслухаў бы ты, хлопчык, што за пачуцці ўкладвалі мы ў словы! Якім цудоўным, невымоўна дарагім здавалася адабранае ў нас! Гэта праўда — каб як след ацаніць што-небудзь, яго спачатку трэба страціць...

Я не ведаю, як склаўся б наш лёс, каб у горадзе не з'явіўся Верын бацька — Сяргей Антонавіч. Яго, старога камуніста, па-мойму, знаў кожны дзесяты мінчанін. Апошняе, можа, найбольш і ўразіла мяне. Што гэта было? Спакойная ўпартасць? Гатоўнасць служыць справе, не думаючы ні пра сябе, ні пра сваіх дзяцей? Успомніўся і твой дзед — ён партызаніў у грамадзянскую вайну.

Трывожнае хваляванне ахапіла мяне. Нібыта разам з гэтым спакойным, упэўненым чалавекам прыйшло прывітанне аднекуль. Мне асабіста.

Мы і раней строілі розныя планы. Але былі яны нейкія беспрадметныя. Ім бракавала дзелавой сур'ёзнасці, а нам — пачуцця адказнасці за падзеі, а значыць — і той неабходнай сілы, з якой пачынаецца справа... Мы ненавідзелі чужынцаў. Сваю нянавісць выказвалі ўголас. Дэманстравалі яе, адзначаючы святы... І перад сабой, такім чынам, аставаліся сумленнымі. І во гэтае адчуванне, як ні дзіўна, дазваляла... растрачваць запал і нянавісць абы-як.

З'яўленне Раманоўскага быццам працверазіла нас, забараніла жыць як набягала.

Не, праўда, яшчэ адно...

Чалавеку, хлопчык, даводзіцца за жыццё трымаць многа іспытаў. І кожны з іх вызначае яму цану. Вартасць яго. Хоць часам і выпадковую... Але ёсць такі экзамен-іспыт, у час якога чалавек як на далоні. Вось ён! Вось яго вартасць! Гэта іспыт смерцю, мой хлопчык. Той момант, калі чалавек глядзіць у вочы сваёй смертухны...

Мы з тваім татам бачылі, як паміраў адзін. Прозвішча яго я і цяпер не ведаю. Чула: «Слаўка», «Слава»... Прывезлі яго ў Тэатральны сквер на грузавіку. Паставілі пад пятлёю. Рукі звязаны. Сам змардаваны зусім. Аднак трымаецца з годнасцю, нібы ўся гэтая катавасія датычыць другога. Нібы не яго, а ён судзіць сваіх катаў. Казалі, што следчы, які вёў допыт, ашалеў ад бяссілля і загадаў вартавому пратknуць Слаўку язык штыком вінтоўкі. Ды, стоячы і з нанізаным на штык языком, ён так і не дакрануўся ні да паперы, ні да алоўка. Дык вось, калі кат накінуў яму на шыю пятлю, Слава нешта выгукнуў — зразумела для нас, сагнаных на месца пакарання. Але язык жа быў паранены... І тады, карыстаючыся, што ногі не былі звязаны, Слава выспяткам абваліў ката на зямлю. Удар быў такі моцны, што з нагі Славы сарваўся чаравік.

Хіба такое можа прайсці бясследна, хлопчык?..

Ну, ладна... Так, а не іначай, а твой татка і я сустрэліся з Раманоўскім на ягонай кватэры. У доме па Слясарнай. Адказваць на пытанні стараліся з выглядам спрактыкаваных падпольшчыкаў. Аднак толькі тут — у пакойчыку са светлымі абоямі, разгалістым

фікусам і просценькай мэбляй — самі даведаліся, што нумар лётнай часці, у размяшчэнні якой мы жылі, 31 537, што гэта — часць цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. Дальнага дзеяння.

Чуеш, як я загаварыла, хлопчык?.. Глядзі, ідзе каза рагатая...

І яшчэ скажу, хоць разумею: і гэта не для цябе. Выйшлі мы з доміка Раманоўскіх з адчуваннем, што ў нас займае дух... Ростам я, бачыш, быццам дзяўчынка, ды наогул... Але ведала: татка твой і дасюль кахаў мяне. Аднак каб паказаць гэтае, прызнацца — ні-ні! А тут, ледзь збочылі па пратаптанай дарожцы ў руінах, схапіў маю руку і прыпаў вуснамі. Я ж, недатыка, вырвала яе, злавіла ягоную руку і таксама пачала цалаваць. А потым, укленчыўшы, абняла таткавы ногі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Побач з нашай зямляначкай, хлопчык, майстэрня ёсць. У ёй такія майстры працуюць, што з вінтовачнай рулі ды жалезнага ламачча аўтамат робяць. Во яны твайму бацьку і змайстравалі інструмент. Бачыш, як клапоцяцца? А ён ужо начовачкі выдзеўб. Праўда, не дужа гладкія. Але нічога. Мы ў іх полку пасцелем і пакупаемся не горш, чым у купленых. А потым абсушым і сянца пакладзём. От калыска будзе — любата!

Пачакай адно, каб у зямлянцы пацяплела. Печка ўжо гарачанькая. Вада закіпела. Давай пакалышу трошачкі і далей раскажу. Яно ж толькі пачынаецца ўсё. А я — балбатуха, люблю расказваць.

Сталі мы з таткам разведчыкамі. Ты слухай, слухай. Ён у атрад каб паказацца камандаванню, схадзіў. Вярнуўшыся праінструктаваў і мяне. Падзел працы ўвялі. Я выкінутыя ў смецце загады па штабе стала падбіраць, скарыстаную капіравальную паперу з машыннага бюро... А татка падсумоўвае здабытае. На папяроснай паперы піша. А пасля скруціць хітранька рулончыкам — і ў адтуліну алоўка, замест грыфеля.

Вера Раманоўская прыйдзе пагуляць да нас — забярэ алоўкі і новае заданне пакіне.

Так і балансіравалі на лязе нажа...

А тут раптам ты яшчэ заявіў аб сабе!.. Несла я раз пасля банкету паднос бруднай пасуды на кухню, пераступіла парог, і на табе — штурхель у бок. Ледзь не ўпусціла сваю ношку. Во зарабіла б! Уяўляеш?..

Але павер мамцы, наўрад ці былі ў мяне чысцейшыя, шчаслівейшыя дні, як тыя. І хоць жыццё неяк завастрылася адразу, мы нібыта на крылах ляталі. Татка мяне любіў, я — яго. Ён мяне імкнуўся засланіць сабою, я — яго. Дый справа спорылася. Што яшчэ трэба? Кожнаму па дваццаць аднаму, кожны кахае, стараецца на сябе большы цяжар узваліць, у заўтрашні дзень верыць. Страшна, вядома, але радасна затое...

Ну вось, зараз налью ў начовачкі вады, праверу тэмпературку локцем. Мая мама кнопкаю мяне звала. Крычала, калі я, дзівячыся, вочы тарашчыла. Але сур'ёзныя гаворкі ўсё-такі вяла. Дык яна казала, што лепшага за локаць градусніка наогул, пэўна, няма. Так, так... Не верыцца? Але пабачыш сам, калі мы з табою будзем куп-куп рабіць... Што, прыемненька? Ну, вось. Гэта толькі спачатку страшна!

І слухай, слухай. Пад восень заўважыла я — у штабе нейкі неспакой. Ад'язджаюць, прыязджаюць. І ўсё — «Сталінград, Волга!». Сёе-тое пакаваць узяліся.

«Ага,— думаю,— ясна!..»

Татка на веласіпед — і зноў у атрад...

Ці здагадваліся мы, як і куды ўсё выкіруецца? Так, лесавічанін-мінчанін, здагадваліся. Але даруй нам, дарагі, не маглі іначай паступіць. Яны ж тылавыя, прагэта значыць мірныя гарады бамбілі. Да Масквы прарываліся! Колькі такіх, як ты, немаўлят, забілі і маглі яшчэ забіць!.. Дай я ружовую пятачку пацалую...

Да таго часу пагрубела я ўжо, жывот узняўся. Раіліся мы з таткам, як лепей усё зрабіць і, чэснае камсамольскае, плакалі...

Калі Вера паведаміла, што з атрада прыбылі міны, пайшлі на Слясарную. Удакладнілі ўсё з Сяргеем Антонавічам. Дамовіліся — узрываць станем у час вячэры. Бо снедаць і палуднаваць афіцэры мелі права ў любы час. А вось вячэраць мусілі роўна ў дваццаць нуль-нуль па гадзінніку.

Да гэтай пары ніхто нават не садзіўся за стол — чакалі начальства.

Дакладна за хвіліну ў залу па дывановай дарожцы ўбягаў генеральскі сабака. За ім непаспешліва ступаў сам генерал — лысаваты, бравы. Грымела «Хайль!». І толькі пасля ўжо ўсе займалі свае месцы адпаведна ваеннаму рангу.

Паглядзеў бы, хлопчык, як важна яны садзіліся.

З якім гонарам. Я нават разглядала іх — карцела зразумець: а як жа з сумленнем? Куды яны яго падзелі? Здаецца, людзі як людзі. Няўжо ёсць сіла, здольная зусім асляпіць чалавека, вытруціць з яго пачуццё справядлівасці, чалавечнасці? Зрабіць сляпым пыхлівым выканаўцам?

Я неяк трапіла ў склад, які непадалёку ад нас знаходзіўся. Аказалася — туды эсэсаўцы звозілі рэчы ахвяр. Не верыцца проста! Асобна акуляры, асобна грабеньчыкі, асобна дзіцячыя чаравічкі... Усё растасавана, падлічана, запрыходавана!

А як шаноўныя асы распісвалі свае палёты! Асабліва калі ўдавалася наляцець знянацку, пакінуць горад у агні. Калі пасля кожнай новай хвалі можна было пачынаць бамбіць ад паласы пажараў...

Ну, ладна! Затое і мы прыдумалі... У зале яшчэ з зімы чыгунная печка стаяла. Вырашылі замініраваць яе — няхай і асколкі будуць.

Праўда, непакоілі таварышы, з якімі я жыла ў доміку. Але прыдумалі, як засцерагчы ад небяспекі і іх...

Што я мусіла рабіць? У спецыяльна сшытым поясе пранесці міны ў сталоўку. Улучыўшы момант, выкруціць з іх затычкі, укруціць у адну ўзрывальнік, у другую — дэтанатар і падкласці міны пад дно печкі... Дык вось, затычкі я павінна была знарок пакінуць у кішэнях рабочага халата як рэчавы доказ... Ну і, вядома, трэба было забараніць таварышам заходзіць да нас, не раскрыўшы прычыны... Гэта таксама цяжка было...

Напярэдадні, за суткі, татка вырваў чаку з узрывальніка. Мы замерлі аж. Пачалося! І помню — нейкае казытлівае халаднаватае адчуванне апанавала мяне... Нібы і ў нас пачало адбывацца такое ж, як і ў узрывальніку.

Без асаблівых ваганняў пайшлі да бабулі. Стомленая хатнімі клопатамі,— цэлы дзень на нагах,— яна ўжо ў ложку ляжала.

— Мама,— сказаў твой тата,— заўтра раніцай вы павінны пайсці з Мінска. Пойдзеце па Слуцкай шашы да вёскі Мякота. Зразумелі?..

У тую ноч мы не заснулі. Усталі з сонцам. Зноў паўтарылі маніпуляцыю з затычкамі і ўзрывальнікам... Старанна падперазалі мяне тым поясам і доўга правяралі, ці не ўгадваецца ён за складкамі шырокага плацця, якое я цяпер насіла.

Да авіяштаба ішлі марудна — у мінах быў грымучы жэлацін. Дроцік ва ўзрывальніку, што праз пэўны час мусіў парвацца, усё танчэў... Набліжаўся і сам момант... Але, хлопчык, ваганні і тады не мучылі мяне. Быў, вядома, страх. Былі думкі... Я ж таксама мела маму, горад, дзе нарадзілася. Я, як і другія, вучылася ў школе, насіла кароценькія сукенкі, уздыхала, купалася... Ну, зразумела, і ты... Але, клянуся, я дасюль не ведаю, ці лягчэй мне было б, каб не было цябе... Чэснае камсамольскае, не ведаю. Усё-такі ўдваіх...

Раніца выдалася шаўкавістая, ясная. Здаецца, раней такой і не бачыла ніколі. А сонца сляпучае, вялікае. І ўсё навокал чыстае-чыстае.

Прамаршыравала каманда салдат. На процілеглым тратуары, адказыраўшы адзін аднаму, размінуліся два афіцэры. Папраўляючы на хаду рэмень, прайшоў паліцай у чорным шынялі.

«Падонак! — нават пашкадавала я.— Не мог астацца чалавекам!»

Здалося, навакольнае святло хлынула ў мяне, і я нібы захліпнулася ў ім. Дый наканаваны лёс здаўся не такім ужо безнадзейным. Аднак у той жа момант мяне абдало і холадам.

Не падыходзячы да варот з вартавым, мы развіталіся. І ўсё ж, хлопчык, гэта, можа, і было самым цяжкім. Перад тым як ісці з дому, Эдуард рашуча сказаў: «Не бойся, Славачка, я побач». Але чым ён мог памагчы зараз? Чым падтрымаць? Я разумела яго становішча і, каб не цягнуліся секунды, адвярнулася і пайшла: яму выпала чакаць мяне па другі бок будынка — туды выходзіў балкон з кухні і адтуль я павінна была падаць яму знак, як усё выйшла.

У запасе ў мяне былі мінуты. На работу я магла прыйсці, ну, на паўгадзіны раней за другіх «вольнанаёмных». У такую рань на кухні звычайна завіхаўся толькі повар Эрых. Астатнія яфрэйтары і обер-яфрэйтары, якія абслугоўвалі сталоўку і жылі паверхам вышэй, прыходзілі пазней, хвілін праз пятнаццаць. Вось за гэтыя пятнаццаць хвілін я і мусіла ўправіцца.

Дзверы мне адчыніў Эрых — непамыты, заспаны. Зіркнуўшы касымі вачыма, моўчкі паклыпаў да водаправоднай ракавіны.

Я надзела рабочы халат, узяла паднос і падалася ў сталовую залу.

Маскіровачныя шторы на вокнах учора апусцілі, і ў зале было цёмна. Я запаліла святло — не шкодзіла праверыць, ці не спіць тут у крэсле хто-небудзь з яфрэйтараў, якія любілі пасля вячэры дапіваць рэшткі з афіцэрскага стала. Сабіраючы на паднос чаркі, фужэры, абышла залу — не, нікога не было.

Як на спутаных, чужых нагах наблізілася да чыгуннай печкі. Паставіла паднос на рог бліжэйшага стала. Прыслухалася. Але ў скронях стукала — і нічога нельга было пачуць. Каб супакоіцца, перавяла дыханне. Так і ёсць — у кухні ўжо збіраліся — данёсся бразгат пасуды.

Хутка развязала пояс, паклала міны на падлогу. Потым узялася выкручваць затычкі. Намаганнем волі перасіліла дрыжыкі ў руках. Але зноў захвалявалася, калі стала падкладаць міны пад дно печкі. Другая ніяк не лезла — перашкаджала першая. А тут я яшчэ выразна пачула крокі — нехта ішоў сюды па калідоры. Пот заліў мне вочы. Помню толькі, што металічны цок — міна прыліпла да міны — супаў са скрыпам дзвярэй.

І раптам ты, хлопчык! Знячэўку ўздрыгнуў, пацягнуўся і застукаў у бок. Я не ведаю, была тут сувязь аднаго з другім, толькі я імгненна, быццам апаленая здагадкаю, схапіла за край паднос і рванула яго на сябе. Крыштальныя ашкалёпкі пырснулі і разляцеліся па падлозе.

Потым мяне скаланула радасць — я ўбачыла, як круглеюць, наліваюцца шалёнасцю Эрыхавы вочы. Значыць, хутчэй за ўсё, увагу ён звярнуў не на печку!

— Русіш швайн! — зайшоўся крыкам, не могучы ад абурэння пераступіць парог.

Ох, каза-дзераза!..

Ён крычаў на нас часта. Асабліва калі хапала работы. Бачачы, што мы не дужа завіхаемся, шпурляў абы-чым — гарачымі патэльнямі, мокрымі анучамі. Вочы тады ў яго касілі яшчэ больш. Але мы не надта баяліся гэтага шаленца, бо ведалі яго слабінку. Повар-яфрэйтар гандляваў усім — і сваім і чужым. Ён недаважваў афіцэрам порцыі масла, недадаваў кавалачкаў мяса і, не саромеючыся, пры нас збываў крадзенае «налева». Паглядзеў бы ты, якім трыумфам свяціліся яго косыя вочы, калі ён набіваў грашыма кашалёк і трос ім над галавой,

Аднак цяпер была іншая сітуацыя... Я паднялася і стала перад ім, згодная і на тое, каб ён выцяў мяне. Я ж ратавала цябе, сябе.

— Я пастараюся заплаціць вам спаўна, гер Эрых,— мармытала, прысягаючы.— Мне паможа муж, свякруха. Далібог...

Ці то маё абяцанне, ці то мой выгляд маленькай, нехлямяжай цяжарнай жанчыны зрабілі сваё — рукі ён не падняў.

— Падбяры! — гаркнуў.

Вось і ўсё, радасць мая. Падмяла я венікам ашкалёпкі, ссыпала іх у памыйнае вядро і выйшла на кухонны балкон. На, Эдзік, глядзі, якія мы!.. А цяпер давай вытрамся як след і ляжам бай-бай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Фу, які ты! Як ні купай цябе, аказваецца, усё роўна пад пахамі патнічка. Бачыш, аж пачырванела. Мая мама ра́дзіла некалі прысыпаць яе пылком ад дзеразы, якім нават парэзы і раны гояць. Але дзе ты знойдзеш дзеразы ўзімку...

Ды нічога. Неўзабаве, пэўна, у нас з табой лепшыя лекі знойдуцца. Расстараемся пудры. А мо і тальку сапраўднага! Гэта ж усё-такі Масква! Во як будзе! У яселькі цябе ўладжу. Сама, як абяцаюць, зноў за навуку вазьмуся. Цуд, ды і толькі! Зноў за «пяцёркамі» давядзецца ганяцца, каб стыпендыю апраўдаць. Але, зразумела, ужо не адным гэтым жыць буду. Шкада толькі — з бацькам, мінчанін ты мой, прыйдзецца разлучыцца. Вайна ж не скончылася, ён тут патрэбен. Ніколі яшчэ не было, каб яна ўсім шчасце прыносіла. Дай пацалую... Ды і нам з табой цераз лінію фронту пералятаць... Што, страшна?.. Гудзіш? Ну, гудзі, гудзі. Ты маеш цяпер права.

3 Зак. 535

# НЕ ТРАВАМІ РОСНЫМІ

*Апавяданне*

Мне няма ў чым апра-аўдвацца, таварышы! Хоць, канечне, сёрбала, як той казаў, адным лапцем боршч з немцамі. А гэта, як вядома, на думку некаторых, ганьба ўжо. Нібыта цэлы народ мог эвакуіравацца. Глупства, зразумела, а ўсё роўна — заўважылі? — усе пачынаюць з тлумачэнняў, чаму на акупаванай тэрыторыі асталіся. Не змагла, маўляў, бо раджала. Ехала ў поездзе ўжо, ды яго разбамбілі. Абагналі, маўляў, нямецкія танкі за Талачыном... Таму і мне прыйдзецца сказаць пару слоў, каб недамовак не было.

А ў Друскеніках лячылася. Прыняла якраз гразевую ванну, сабралася паблукаць па бары, а з рэпрадуктараў навіна ў спіну...

Мусіць, няма страшнейшага, як апынуцца ў такі час не дома. Дзе той Мінск? На краі свету. Ды, як бывае, падвярнулася спадарожніца. Слаўная такая, шчырая, яшчэ дзіця. Усё абуралася: «Як яны смелі, ды як пасмелі!» Удзвюх локцямі праклалі сабе дарогу на перон. З горам папалам дачохалі да апошняй літоўскай станцыі. А там... та-ам поезд як у нерат увайшоў. Спыніліся, а паабапал вагонаў нямецкія аўтаматчыкі — вітаем, панове!

Аднак уначы мы з Нінаю, нікога не падгаворваючы, прашыліся праз варту і пабеглі. Куды? А хто яго ведае. Толькі раніцою, распытаўшы, узялі кірунак на Гродна. Раней я сама здзіўлялася, як гэта салдаты запамінаюць, дзе што фарсіравалі, дзе трымалі абарону, перафарміроўваліся, за якія населеныя пункты біліся. А цяпер ведаю: калі звязаны з чым-небудзь жыццём — не забудзеш.

Ураджай у тым годзе выдаўся надзіва. Жыты стаялі сцяною, у рост чалавека. Ярына аж буяла. Я ў сям'і дзевятая, перадапошняя, расла. У хутараніна за парабчанку была. На фабрыцы працавала і ўжо толькі тады

вучыцца пачала. Так што цану хлеба ведаю. А тут яго топчуць, дратуюць. У прыдарожных жытах людзей палягло мо не меней, чым на дарогах.

Пляцемся, гаруем. Хутаранін успомніўся. Ён, бывала, сваіх коней у чужыя аўсы пускаў. Хай у другіх меней будзе, а яго коні пад'ядуць. Душыў усіх работаю, усё пад сябе гроб. Раз я, кароў пасвячы, арэхаў нашчыпала. Дык, калі вярнулася дамоў, і іх адабраў... Яго ў нас Гегемонам празвалі: адгарадзіўся, маўляў, платамі, жэрдкамі і царавау. Але не думайце, што сам смачна еў ды піў. Дзе там! Хоць, каб пыл у вочы пусціць, і выходзіў у святы дзень за вароты, садзіўся на лавачцы і калупаў у зубах. А калі каго абразіць надумае, адхіне крысо і псуе паветра. Ніна проста верыць не хацела. «Не можа быць ды не можа быць!..»

А Гродна гарэла ўжо. Давялося абыходзіць. Галодныя, прыбіліся да вайсковай пашматанай часці. Хоць і забаронена было, пашкандыбалі ззаду. Усё ж болей пэўнасці. Але пасля аднае бамбёжкі агледзелася я, а паблізу ні душы. Былі і не стала. Знікла і Ніна? Куды? Ніколі, можа, так самотна не было. Навокал усё гіне, а я адна...

Ля Пятрышчына натоўп, да якога я прыстала, абстралялі нямецкія танкі. Уцякаючы, наткнулася на аўтамашыну. Гарыць, як касцёр. У кабінцы вадзіцель задыхаецца... Правай рукою вочы прыкрыў, а другой ручку дзверцаў намацвае і не можа намацаць. Падбегла яшчэ жанчына, і мы памаглі яму на зямлю ссунуцца. Потым плашч-палатку знайшлі, плачучы, адцягнулі ў бліжэйшую хату.

Усё перамяшалася ў мяне. Ледзь не галашу. Але ў Мінск прыйшла з думкамі — нешта ж трэба рабіць.

На Нямізе з нямецкімі салдатамі сутыкнулася. Мышастыя, у ботах з шырачэзнымі халявамі. Смяюцца, нясуць звязкі чаравікаў, кардонныя каробкі. Параўняўшыся, затупалі, пачалі свістаць. Думалі — пабягу.

Ад дома, канечне, асталіся руіны. Адно пазнала пакарэжаны чайнік ды спінку ложка, што з цэглы тырчаліся.

Мінск бы мурашнік. Хоць немцы ой як стараліся, каб заціх хутчэй.

Прытулак знайшла на Камунальна-Набярэжнай. У пакойчыку — машына швейная, ложак засцелены, у

буфеце — чай, цукар. Мала, відаць, чаго гаспадары захапілі з сабою.

Пра мужа казалі рознае. Адны — што загінуў яшчэ пры бамбёжцы, другія — што бачылі яго непадалёк ад горада. Стаяў на абочыне шашы ў споднiках, а ў нагах гімнасцёрка, галіфэ і боты валяліся. Нібы гэта хтосьці загадаў раздзецца, цывільную вопратку забраў, а сваю кінуў. Спякла я крыху хлеба, бульбы — і ў Дразды: а мо Марка там. Прыйшла. Лагер немцы зрабілі ля Свіслачы, на поплаве. Але зямля ўжо чорная — ні травінкі. Ваенныя ад цывільных вяроўкай адгароджаны. Прыпала я да дроту, пачала гукаць. Ня-ма! Сонца і тое, здаецца, пацямнела.

Марка мой з-пад Смаленска. Замкнула я, вярнуўшыся, сваю каморку і пайшла. Думала: распытаю ў сваякоў, а можа, і за лінію фронту патраплю. А дзе ты такое адзіночкаю зробіш. Крылаў жа няма — не птушка.

Праўда, дабралася да Віцебшчыны. Фронт не за гарамі. Зайшла ў вёску. Казекава называецца. Выбрала хату. Стаіць асобна паміж двух азерцаў. Абгароджана новым частаколам. Сетка на ім сушыцца. На двары бярвенні з разабранай будыніны. Хлеў пачаты. Вянкі чатыры пакладзена. У хляве конь хрумстае авёс. Ля шула плуг, барана.

Спахапілася — адкуль гэта ўсё раптам? Нацягана, канечне, калі неразбярыха ўшчалася. На бярвенні, мусіць, не адну сцяну ў калгасным кароўніку разабраў. Але было позна. На парозе паказаўся гаспадар. Насупіўся, прытрымаў сабаку, які хацеў быў прашмыгнуць між нагою і вушаком.

Доўга маўчаў, чухаў нос — вымяркоўваў, як быць. Пэўна, я не першая вось так завітала да яго. Потым, узяўшы за ашыйнік сабаку, ступіў з ім на ганак і прапусціў мяне ў хату.

Я і цяпер сябе дакараю — навошта зайшла? Хіба не бачыла, што за гусь? Чаго, наогул, паддалася — не плюнула, не крутнулася, не пайшла? Такія ўсё роўна на адкрыты гвалт, пры людзях, не адважацца. Баяцца яны сведак, сволачы!

А як пакацілася, так і пакацілася. У час вячэры стала распытваць пра дарогу і ўжо амаль сябе не памятала. Рукі самі да завушніц пацягнуліся. Во дурнішча! Просценькія яны ў мяне былі, але ўсё-такі зала-

тыя. Адно шкада — каму? А ранічкою, калі пайшла па яго ўказцы, проста на нямецкі гарнізон напаролася...

Вярнулася ў Мінск — скура ды косці. Праўда, з лістоўкамі, якія па начах на дарогі скідалі нашы самалёты.

Так пачалася мая падпольная дзейнасць.

Напачатку група сабралася са знаёмых. Разам працавалі на «Камунарцы». Кіраваць даручылі былому, як і мой муж, партыйнаму работніку. От чалавек быў! Кватэра ягоная і штабам стала. Балазе ў глухім закутку Нямігі, на другім паверсе, знадворку лесвіца. Хто туды ідзе ці спускаецца адтуль — відно з вуліцы. Дый сям'я малая, ціхая — ён, жонка ды адзінаццацігадовая дачка Люся. Жывуць цяжка, надгаладзь, але неяк весела, без скаргаў. Слаўная сям'я.

Як мы толькі не шкодзілі тады! Уладзіліся на гарбарны завод, на дражджавы, у пякарню. Адна з нашых — кандыдат навук — нанялася прыбіральшчыцаю ў будынак Акадэміі. Ой, як спатрэбіліся і яе веды і хімікаты, што паплылі адтуль! Адзін наш рызыкант ухітрыўся самаробным зарадам узарваць на Камароўцы калодзеж, калі да яго падагналі нарабаваных кароў. Уяўляеце? Статак сабе, а ахова сама сабе. «Дражджавікі» спускалі пад падлогу маляс салодкі. Сплывае па раўчуку да рэчкі, а там з вёдрамі чакаюць яго...

Праўда, увесну пачаліся арышты.

Аднак вось што хацелася сказаць. Тут бы зжахнуцца, заплюшчыць вочы — ліецца кроў, сотні таварышаў на шыбеніцу, пад расстрэл трапілі. Аж не — мы як бы ўзняліся на прыступку. Падпольная «Звязда» пачала выходзіць.

Я не ведаю, як лёс аднаго ўплывае на лёс другіх. Але ўплывае. І, мусіць, ужо тым, што робіцца вядомы, што ты пазнаў у ім сваё... Я не знаходжу, як сказаць. Але, па-мойму, у такой пераемнасці і хавалася наша сіла.

У верасні мяне паслалі на сувязь з партызанскім атрадам, у якім змянілася камандаванне. Звялі з напарніцаю. Глянула я на яе, бацюхны,— Ніна! Мая Ніна! Пасталела, падцягнулася, хоць тут жа, калі асталіся сам-насам, не змагла не пахваліцца, што ў яе на кватэры сам сакратар падпольнага гаркома жыве.

Узяўшы махоркі, мыла, «Звёздачку», мы басанож выбраліся з горада. Тапачкі, у якія зашылі газету, надзявалі толькі там, дзе чакалі небяспекі. Але, калі ў Пясочным нас затрымалі партызаны, распаролі свой абутак і ўручылі ім «пропускі».

У вашым лагеры пасялілі нас наводшыбе. У будане з яловай кары. Завялі нейкія маторы: слухайце, якая сіла! Забаранілі хадзіць самім.

Камандзір ваш — прыкінуўся прасцяком. Выслухаў нас, пакалупаў у носе. Ажывіўся трошкі, калі пачуў, што на адпраўку ў лес сёе-тое назапашана. Распарадзіўся падрыхтаваць падводу, мукі, мяса.

Але назад адпу-усціў мяне адну. Каня далі маладога, наравістага. Пакуль ехала, знервавалася ўшчэнт. Як было дамоўлена, завезла падарункі да Ніны. Ды там яшчэ больш расстроілася. Нінін бацька прыняў прывезенае неахвотна. Згрузіўшы ў сенцы, адразу выправадзіў:

— Ідзі, Маруся, ідзі...

Адчуваючы нядобрае, ускочыла я на калёсы і да Нямігі. А тут, як на ліха, па Савецкай калона грузавікоў. Ледзь перачакала, супакойваючы каня-недарэку. Уцяміла: навошта ён мне! Збочыла ў тупічок, кінула і — да свайго Герасіменкі. Але вось там і сустрэлася з найстрашнейшым. Па прыступках надворнай лесвіцы кулём кацілася Люся, а за ёй эсэсманы зводзілі расхрыстаную, як не ў сваім розуме, Герасіменчыху.

Што astава-алася рабіць? Кінулася папярэджваць, каго ведала...

Камандзір ваш гэтым разам наогул не глядзеў на мяне. Спытаўся адно пра мужа, дзе працаваў, дзе зараз. Пахмыкаўшы ў кулак, паслаў адпачываць у колішні будан.

А там пуста, як і не жыў ніхто. Толькі на саломе, у кутку, Німіна хустка. Але праз нейкі час і яе забраў ардынарац. Прынёс пасцілку, сказаў, каб я нікуды не адлучалася, нічога нікому не гаварыла.

Мучыў голад. Гняла няпэўнасць. Няўжо зноў праваl? Ляжала я на саломе, чакала: вось-вось нешта здарыцца яшчэ.

Разы два паўз будан прабег ардынарац. Правялі мужчыну ў дэмісезонным паліто, без шапкі. За ім — кабету з падлеткам. Следам прайшоў камандзір, нешта мармычучы сабе пад нос.

Ад таго, што мяне так прынялі, ад думкі — недарма нас раздзялілі з Нінаю, аж выпіць захацелася. Цюкнула: і мужчына, і кабета з падлеткам таксама з Мінска. Але ў той жа час ахапіла і нейкая любасць. Быццам ніколі не даводзілася бачыць ні такога неба, ні такіх воблакаў. Пануры ельнік і той здаўся як з казкі.

Ад пераджытага я захва-арэла. Правалялася некалькі дзён. Выпаўзала толькі пагрэцца на сонейка ды паглядзець на лес.

Не паспела паправіцца, выклікалі да камандзіра. Узрадавалася, накіравалася ў штабную зямлянку ледзь не подбегам.

Камандзір сядзеў за столікам, курыў. Калі падышла, пусціў, быццам пазяхаючы, дым, разагнаў растапыранымі пальцамі.

— Сядай бліжэй, не з'ем. А? Як кармілі?

— Нічога,— падзякавала я.

Столік стаяў ля акенца. Праз шыбы лілося святло, і твар камандзіра бачыла я добра. І слова даю, потым мне ясна зрабілася: ён толькі хоча выглядаць свойскім ды памяркоўным, а на самай справе яму проста сумна важдацца са мною.

— Мы тут намыслілі паслаць цябе ў райцэнтр,— сказаў, напускаючы на сябе выгляд, што збіраецца азаласціць мяне.

— Ку-уды?

— У Мінск усё роўна табе нельга. Грошай дамо... Піўную адкрыеш...

— А гэта навошта?

— Будзеш настрой вывучаць, дакладваць. А?

Сэрца ў мяне ўпала. Але, каб не выдаць, што зразумела яго,— тады яшчэ горай стане,— запярэчыла:

— Якая я гандлярка, таварыш камандзір? Я не толькі ў піўных, а і на рынку ніколі нічога не прадавала. Пра настрой жа, калі трэба, давайце хоць зараз далажу...

На мяне быццам забыліся. Другія ішлі на аперацыі, вярталіся. Хлопцы з гаспадарчага ўзвода будавалі зямлянкі, уцяплялі буданы. А я як валялася ў сваім дзіравым, бы рэшата, так і валялася. Ніна як у ваду канула. Пра падзеі ў Мінску і почуту не даходзіла. Даруйце, за глыток самагону пярсцёнак бы аддала. Бяда!..

Пасля адной ночы, калі апалае лісце ўкрыла шэрань, я не вы-ытрывала. Да таго ў атрадзе прысягу прымалі... Мяне, вядома, і блізка не падпусцілі. Ох! Няўжо вінавата ў чым?.. Ну, і падпільнавала яго... Пераняла, калі да сваёй зямлянкі падыходзіў. Закаціла істэрыку. «За што такое? Хіба вам жывадзёрам быць?..»

І што, па-вашаму, ён зрабіў? Скрывіўся, калупнуў зямлю ботам. Заўважыўшы, што да брычкі, якая стаяла тут жа, прыклыпала карова, закрычаў на яе. І зноў мяне асяніла: не, дарэмна я сілюся прымусіць яго адкрыта пагаварыць са мною. Навошта яму я, лішні клопат? Хапае свайго. Ускладняе гэта толькі ўсё, а карысці — ніякай...

Але рабіць нешта ўсё-такі яму трэба было.

— Ну, добра,— пачухаў ён нос,— будзе табе дзела, калі не церпіцца. Але там, дзе скажуць...

Што далі мне з сабою? Ліпавы пашпарт, адрас амаль невядомага чалавека, маршрут, і я пайшла.

І ўсё-такі мне пашанцавала. Мусіць, сумленных людзей куды болей. У драўляным блакітным доміку на Базарнай вуліцы райцэнтра сустрэў мяне раскудлачаны вуграваты мужчына. Не даўшы растлумачыць да канца, чаго я завітала, загадаў скінуць вопратку і лезці на печ. Траціць не было чаго. Дый знясілела я, адубела зусім. А тут пе-еч! Сушацца грушы-гнілкі, на крупах пляцёнкі цыбулі. І цяпло, вядома, сухое, знаёмае.

Так мы і пачалі дзелавую гаворку — я звесіўшыся з печы, гаспадар седзячы тут жа, на пяколку.

Ён, як выявілася, па прафесіі ветэрынар быў, а служыў у раённай паліцыі. Належаў да тых упартых, якія чамусьці лічаць, што самае важнае слова іхняе. Да таго ж, носячы форму бобіка, меў справу толькі з жывёлаю.

Навучаная горкім вопытам — ці не хутаранін трапіўся зноў? — гаворку я павяла на высокіх нотах. Ён жа — наадварот — спакойна, нават валасы на галаве для паважнасці прыгладжваў. І толькі пасля ўзбурыўся. Саскочыў з пяколка, выбег на сярэдзіну пакоя.

— Не-э, не-э! — захліпнуўся словамі.— Прабачце! Хіба можна так шах-мах? Мы ж усё-такі не мурашкі. Наўрад ці каму хочацца, фарсіруючы канаву, легчы пад ногі другім, не ведаючы, ці паможа гэта фарсіраваць яе. У мяне адно жыццё. Дый я не толькі я. У доме жонка. Светачка ёсць.

— Але вайна ёсць вайна. Не пабіўшы яек, яешню не спячэш,— запярэчыла я, хоць гаварыць стала цяжэй.— У кожнага перад ёю абавязак.

— Няхай! Але мы савецкія людзі...Вунь раніцай наш паліцмайстар сустрэўся. Падазваў і прапануе мне: «Хадзем арыштантаў біць!» Але ж гэта ён...

Тры дні пражыла я ў блакітным раі. Гаспадар мала стыкаўся дома — быў на службе, бегаў па маіх заданнях, а я абагравалася. Памыла галаву, залатала вопратку... А калі адкрыліся сякія-такія магчымасці на электрастанцыі, на радыёвузле і пошце, падалася назад.

Другі раз у гарадок ехала, як і ў Мінск — на падводзе. Везла кумпяк, мяшок жыта, міны. Не трацячы часу, сустрэлася з кім трэба. Хлопцы аказаліся як на падбор. Прыходзілі па чарзе, слухалі моўчкі. Ад роспачы, як заўважыла, людзі таксама смялеюць.

Сэрца абліvалася крывёю, толькі калі глядзела на гаспадыню з Святланкаю.

Пакуль суд ды справа, пакуль сабраліся ўсе, каб ісці з гарадка, надышла камендацкая гадзіна — ні аста-авацца, ні і-ісці. І гаспадар павёў нас вулкамі, нібыта арыштаваных.

На шчасце, сыпануў снег. Але затое, як выйшлі ў поле, дык і згу-убілі арыенціры. Натрапілі на нейкую вёску. Вырашылі браць праваднікa. Ды не паспелі адчыніць весніцы на агародзе, як забахалі стрэлы. Зноў давялося блукаць, пакуль зноў-ткі не наткнуліся на агароды. І тады вось вухнула. Раз, другі, трэці... Вярнуліся, значыцца, назад, пад гарадок...

Барацьба, па-мойму, як і праца, бярэ ў палон. Калі нас абстралялі, мы, акалелыя, мо з паўгадзіны ляжалі ў снезе. Потым, як з завязанымі вачыма, кружылі яшчэ болей. Я, можа, упершыню на такім сёмым небе была. Уяўляла, што робіцца ў гарадку, як су-устрэнуць нас у атрадзе, і нават ікала ад радасці.

Напярэдадні — памятаеце? — «рама» вашых на паляне заўважыла і абстраляла. Камандзіра раніла. Таму прымаў ён мяне ў сваёй зямлянцы. Я ніколі і не бачыла такой прасторнай. Абабіта паркалем. Ложак з горкай падушак. Размаляваны кветкамі куфар. Між імі, ля акенца, як і ў штабной зямлянцы,— столік. Герань, гадзіннік, талерка з кавалкам ружовага сала. На ўсім сляды гаспадарлівых рук.

Я кажу вам пра гэта, бо разам з радасцю ў мяне абудзілася і жаданне ва ўсім бачыць добрае. У зямлянцы светла, утульна, рука ў камандзіра на перавязі. Захацелася выліць душу. Можа, нават прызнацца ў няўдзячнасці.

— А дзе ж Ніна, мо скажаце? — спыталася з надзеяй, што цяпер усё пойдзе інакш.— Я засумавала па ёй...

Камандзір адкінуў кажух, які ўкрываў ногі. Жылы на шыі надзьмуліся, як ад бо-олю.

— Ты лепей спытайся, дзе і што робіць яе кватарант! — гаркнуў.— Сказаць? А? Ну дык вось, нядаўна выступаў там у вас перад рабочымі вагонарамонтнага. Са спецыяльна пабудаванай трыбуны выступаў, а абапал мурлачы. Ясна? На якое ліха мне раздвойвацца? Сама спачатку скажы! Ці не занадта самастойная ты? Ці не кіруе хто гэтай тваёй самастойнасцю? І чаму не апраўдваешся? Сама адчуваеш — не апраўдаешся. Так? Ну і маўчы тады...

— Я пытаюся, Ніна дзе? — ірванулася я.

Ён як бы не пачуў маіх слоў. Я паўтарыла іх — ён зноў астаўся глухім. Вы, пэўна, ведаеце, ягоны спосаб выказваць знявагу. Аднак нешта ўсё ж стрымлівала яго, не давала распеціразацца. Мусіць, апасаўся — вернецца некалі муж, пачне шукаць канцы. З настойлівых яны, партыйныя работнікі. Дый нашы поспехі ў аперацыі стрымлівалі, відаць... Сеў, узяў запалку са століка, завастрыў зубамі і пачаў чысціць зубы.

І, паверыце,— што за праява? — зноў ва мне ўскалыхнулася даўняе. Я аж разгубілася. Ну-ну,— падагнала сябе. Глянула на брычку за акном, на карову, якая і цяпер жавала сена, скеміла: а-а!.. Тут камуністы, і я прама скажу — нічым ён не лепшы за маіх колішніх «дабрадзеяў»! «Раздвойвацца»? Падумаць толькі!..

Ну, а раніцою, вы, відаць, здагадаліся ўжо, атрымала я зноў даручэнне — чыкільгаць назад, у злашчасны гарадок. Неадкладна. Бо вельмі неабходна даставіць пісьмо начальніку раённай паліцыі — гэта таму — памятаеце? — які замест зарадкі кожную раніцу хадзіў арыштаваных біць. Можа, згодзіцца супрацоўнічаць з намі? І верце ці не верце, не да жартаў было, а я ўсміхалася. Можа, не ўсміхалася, але, слова даю, адчуванне было — усміхаюся. Дудкі, падумала, цяпер мяне ўжо нічым не напалохаеш! Пісьмо я, канечне, пе-

радам, але па-свойму. Сустрэну з мяшочкам семак якога-небудзь найбольш важнага бобіка ля казармы і аддам. Скажу: ад начальнікавай сястры, што настаўнічае ў Старыцах. Хай, калі пажадаюць, катуюць і расстрэльваюць яго... Ну, а вярнуўшыся сюды, пайду да вас... І калі лаю сябе цяпер, дык толькі за адно — чаму не зрабіла гэтага ра-аней. Пара было зразумець, што і я не лыкам шытая, і адказваю за ўсё, хоць да ўсяго ў жыцці кожны раз даходзіш нанава... Ён жа цяпер пра сябе іначай ужо не гаворыць, як у множным ліку...

# ЗІМА СОРАК ТРЭЦЯГА

*З успамінаў*

Цяпер я часта думаю, чаму была трывога, а не страх. Мусіць, таму што вайна ўжо стала побытам. Усе мы жылі на высокай хвалі. Верхалазы, як вядома, не заўважаюць прывычнай вышыні.

Мела значэнне і яшчэ адно...

Праз лінію фронту нас пераводзіла палкавая разведка, якая ведала на сваім участку кожную карчажыну, пень. Праўда, разведчыкі гэтым разам рызыкавалі. Ноч была цёмная, кружыла мяцеліца, і яны рашылі не пятляць хмызнякамі і пералескамі, а ісці проста па лёдзе нядаўна скаванага марозцам возера, што як бы разразала перадавую лінію. Ні мін, ні нямецкіх патрулёў там пакуль што не было, і толькі часам для пастраху немцы адкрывалі кулямётны агонь, пускаючы чэргі нізка, над самым лёдам,— кулі нават рыкашэцілі. Але так бывала праз пэўныя інтэрвалы, і мы ўбачылі пацеркі трасіруючых куль ужо за сваёю спінаю.

Таксама шчасліва — дзе на сялянскіх санях, дзе пехатою — мы адолелі сотні кіламетраў. Фарсіраваўшы ў знаёмым месцы чыгунку Віцебск — Полацк, а пад Улаю — Заходнюю Дзвіну, трапілі ў лясы Міншчыны. І мала таго, што трапілі, мы ўстанавілі своеасаблівы рэкорд у часе — не кажучы пра Віцебшчыну, ад Бягомля амаль пад самы Мінск шырокай палосаю пралегла партызанская зона, куды немцы адважваліся паказвацца толькі ў час карных экспедыцый.

Да таго ж я ўжо не хваляваўся наконт сям'і — жонка і сын ўсё-такі перайшлі лінію фронту і цяпер жылі на Урале. Хіба ўсё гэта не прымушала спадзявацца: шчасце нас не пакіне і далей! Дый зусім не верылася, што загнаная ў патроннік цябе чакае *твая* куля, што цябе могуць схапіць, выкруціць назад рукі, а тады... Няхай нікому не выпадзе такое, што было б тады!..

Не скажаш — другія гінулі, гінуць, але ж пры чым тут ты? У цябе свая і толькі свая зорка. Дый як ты можаш загінуць або трапіць у лапы ворага, калі над табою роднае неба, навокал іскрыцца ў снезе мілая сэрцу зямля, а побач таварышы.

А ўсё-такі?.. Рэчка Вяча і Радашковіцкая шаша, што служылі граніцаю партызанскай зямлі, асталіся ззаду. І хоць ты апрануты нішто — шапка-кучомка, на шыі вязаны шалік, кажушок, парыжэлыя боты. Але ўсё гэта страшэнна чужое, ніколі раней табою не ношанае. У кішэні ж — ліпавыя дакументы, узятыя ў нябожчыка селяніна з «нічыйнай» Гайны (ёсць такая вёска на Лагойшчыне). Дый ступаеш ты зусім не як селянін, а неяк спружыніста, высока задзіраючы галаў.

І ўжо ля Паперні, дзе, прыкрываючы подступы да Мінска, стаяў гарнізон літоўцаў, захутаная ў хустку Соня, якая сядзела ў перадку саней побач з Іванам Луцкім, папярэдзіла:

— Не лічыце зор, Валодзя. Апусціце галаву...

Гэтая дзяўчына наогул глядзіць на людзей крыху іранічна, з выклікам, і разумее іх больш, чым хацелася б ім самім. Цяпер жа яе смуглы твар, гарэзлівыя, крыху раскосыя карыя вочы, здаецца, дрыжаць ад насмешкі і спачування. Луцкі ж, пашморгваючы лейцамі, астаецца спакойны, амаль абыякавы, мусіць, верачы, што ўсё і так будзе добра.

Даў іх у маё распараджэнне слаўны Іван Мацвеевіч Цімчук — цяпер сакратар падпольнага Лагойскага райкома партыі. Праўда, няхай даруюць мне мае таварышы: у вайны свае законы давер'я і недавер'я. Да мяне прыходзіў ваенны вопыт, і я папярэдне праверыў іх — будучых сваіх сяброў, на справе.

З Мінска якраз чакалі аўтамашыну — яна павінна была прывезці гранаты, рулоны паперы, фарбы і шрыфты для райкомаўскай друкарні. Я падахвоціўся паехаць разам з усімі пад Астрашыцкі Гарадок і прыняць гэты скарб. Па дарозе, у кустах ля шашы, і пазней на самой шашы, калі перадавалі падпольшчыкам абсмаленага подсвінка і паспешна згружалі з кузава прысланае багацце, я назіраў за Іванам і Соняй...

І вось я з імі еду ў Мінск.

— Вы лепей сядайце на сані,— ціха папрасіла мяне Соня.

Мы выбралі базарны дзень і праз колькі кіламетраў ехалі ўжо ў абозе. Наперадзе пагойдваўся крыж нашага мышастага сібірачка, а ззаду ківалася і фыркала з заінелымі вачамі і храпаю рыжая конская морда. Рыпела пад палазамі, а абапал іскрыўся, сляпіў снег.

Нечакана і раптам адкрыўся горад. За ўзгоркаватай зіхотнай разлегласцю, аснежаны і далёкі, ён здаўся зусім колішнім. Гэта ўражанне ўзмацнялася яшчэ тым, што найлепш відаць былі сапраўды цэлыя ўскраінныя домікі ў белых садках і знаёмыя абрысы будынкаў Акадэміі навук, опернага тэатра, стромкая вежа чырвонага касцёла і амаль блакітны гмах Дома ўрада.

Палічылі за лепшае мінуць кантрольна-прапускны пункт на Даўгінаўскім тракце. І, збочыўшы ўслед яшчэ за адной падводаю, жоўтым прасёлкам падаліся да Балотнай станцыі, маючы на ліхі выпадак апраўданне: у тым раёне дом Луцкага.

І зноў, як помніцца, амаль не было страху. Былі толькі хваляванне і трывога — як усё пойдзе там, у горадзе, ці ўдасца падабраць патрэбных хлопцаў, перагаварыць іх — рабіць тое, што трэба...

Хоць на сцяне доміка Луцкага і сінела шыльдачка «Дабралюбаўскі праезд, 13», стаяў ён наводшыбе, як хутар. Гэта было зручна і нязручна. З вокнаў відно, хто падыходзіў да доміка. Затое і табе пры патрэбе давялося б бегчы па пустцы. Ды на той момант важнейшым здалося першае.

Чыстая палавіна была цёплая, утульная. Пастаўленыя ўпрытык шафы і вясёленькая паркалёвая шырма на дроце падзялялі яе на дзве часткі. У меншай — бакоўцы, стаялі ложкі, у большай — драўляная канапа пры глухой сцяне, фікусы і стол у кутку, каля аднаго з вокнаў — швейная нажная машына. У вокны, на якіх таксама зелянелі вазоны, лілося святло і надавала ўсяму вельмі мірны знаёмы выгляд.

Старыя ў Луцкага паехалі на вёску мяняць транты. Дома асталіся толькі меншая сястра ды брат. І мне падумалася, якім адданым, самаахвярным трэба быць, каб згадзіцца паставіць пад небяспеку не толькі сваё, а і іх жыццё — такіх на выгляд непрактыкаваных і бездапаможных без бацькоў. Няўжо Іван таксама тады не думаў пра магчымую бяду?

Але як так? Не дужа даўно былі разгромлены друкарня «Звязды», гарадскі партыйны камітэт, райкомы. За якіх некалькі начэй зніклі сотні мінчан — былі і не стала. Зусім нядаўна душагубкі вывезлі новыя тысячы з гета...

Мусіць, сама мужнасць бывае рознай. Праўда, дасюль я бачыў Ваню больш за якім-небудзь мірным заняткам — калі згружалі прывезенае з грузавіка, калі ён кіраваў канём, а потым па-гаспадарску распрагаў яго на сваім двары... І мне здавалася, дый цяпер здаецца, што ён, былы настаўнік, і на свой удзел у падпольнай барацьбе глядзеў як на работу. А сумленныя людзі, як вядома, працуюць не толькі тады, калі ім гэта падабаецца ці выгадна. Ваня, па-мойму, не мысліў, што нешта ў яго жыцці магло быць іначай. Ён рабіў тое, што трэба было рабіць, што рабілі сумленныя людзі. Ён, вядома, добра разумеў: на выпадак правалу яму, яго блізкім уготаваны турма, катаванні, смерць. Але хіба ёсць іншы выхад? І наогул, чым ён лепшы або горшы за другіх? Інакш кажучы, мужнасць ваеннага часу ў Івана Луцкага неяк натуральна вырастала з мужнасці мірных часоў.

Гэта быў працаўнік на вайне.

Я ведаў людзей, здольных на подзвіг. У іх хапала мужнасці, зняўшы вартавога, уварвацца ў каравульнае памяшканне, выхапіць з кішэні «эфачку» і прымусіць ворага адысці ў куток з узнятымі рукамі. Яны маглі сярод белага дня на людным вуліцы на вачах усіх расстраляць здрадніка. Але яны не былі народжаны для штодзённай, я сказаў бы, цягавітай барацьбы, калі яна кожную хвіліну выпрабоўвае цябе «на разрыў». І не гадзіну ці дзве, а тыдні, месяцы. Такой, напрыклад, здавалася мне Соня — гарэзлівая, крыху бестурботная. Такім здаваўся і Яша Шымановіч — падпольшчык, які пры мне прывёз Лагойскаму райкому гранаты, шрыфт, паперу і з якім я бліжэй пазнаёміўся ў першы ж дзень у Мінску. А вось Ваня мог, як бы не заўважаючы небяспекі, упарта, настойліва рабіць сваё з дня ў дзень.

І яшчэ. Ёсць людзі, якія рызыкуюць, ідуць на подзвіг, нешта маючы на мэце — славу, будучыя аддарункі, прошчаны грэх. Яны вераць: іх подзвіг штосьці апраўдае і будзе адзначаны. А пасля, калі дзеляць здабытае з таварышамі, часамі бяруць сабе львіную до-

лю. Ваня ж належаў да тых даверлівых бессярэбранікаў, якіх выхавалі трыццатыя гады. Ён добраахвотна браў на сябе цяжар, браў, бо нельга было не браць, астаючыся сумленным.

У першы ж дзень над намі навісла бяда — сувязі, што далі нам за лініяй фронту, аказаліся ненадзейныя. Соня, пасланая па адным з адрасаў, дзе я меркаваў асталявацца, вярнулася задыханая, гнеўная.

— Гэта здрадніца чыстай вады, Валодзя! — крыкнула яна з парога, знясілена прытуліўшыся спіною да зачыненых дзвярэй.

Я памог ёй распрануцца, пасадзіў на канапу.

— Супакойся.

— Хацела пазваніць у СД! Нават узялася за тэлефонную трубку. Астудзіў толькі мой пісталет. Ох, як карцела, Валодзя, націснуць курок!..

— Тэлефонны шнур парвала?

— Толькі папярэдзіла. Падвяла да акна і паказала — глядзі, падлюга, гэта ж нашы. А потым пятляла...

Я папрасіў паклікаць Ваню. Ён прыйшоў са двара, пахнучы марозцам і сенам. Заўважыўшы нашу ўзрушанасць, моўчкі ўтаропіўся на мяне шэрымі ўважлівымі вачыма.

— Ну што ж,— выслухаўшы, пацісnуў плячыма,— будзеш жыць у нас. Я, між іншым, падрыхтаваў сваіх. Паўлік ужо дзяжурыць.

Мне захацелася абняць Ваню, падзякаваць яму, але я пабаяўся, што маю падзяку прымуць за сентыментальнасць.

Ранейшы план рухнуў. Прыходзілася ўсё пачынаць нанава. З чаго? Лежачы на ложку ў бакоўцы, пазіраючы на далёкае, як здавалася, акно, за якім стаяла мутная цемра, я доўга не мог заснуць.

За падушкамі, на другім ложку, пахрапваў Ваня і спакойна дыхаў Паўлік. Часам далятаў металічны, з падвываннямі, гул самалёта, і, калі ён набліжаўся, у вокнах тоненька трымцелі шыбы.

Уяўляўся горад. Пустыя, знявечаныя, у белай зімовай цемры вуліцы. Рэдкія ўцалелыя гмахі, дзіўныя сярод руін. Замураваныя, з вузкімі амбразурамі вокны ў цокальных паверхах. Прыгорбленыя вартавыя ля

пад'ездаў за драцяной агароджаю. Гулкія крокі падкутых патрулёў... У некаторых раёнах, як казаў Ваня, яны стараюцца не паказвацца — баяцца...

Пасля гаворкі, якая адбылася ўвечары з Ванем і Шымановічам, я сяго-таго выбраў — новых, па ўсім надзейных, смелых людзей, якія ўжо праявілі сябе. Так у абставінах, якія скламіся, было найлепш. І заўтра аднаго з іх — Алеся Матусевіча — Соня павінна была запрасіць да мяне. Журналіст, супрацоўнік рэдакцыі «Беларускай газэты» добра зарэкамендаваў сябе, ведаў нацыяналістычныя колы і быў знаёмы з вярхушкаю палітыканаў-спекулянтаў.

Ці прыйдзе ён? А калі прыйдзе, што прынясе з сабою?

Ва ўяўленні паўставаў вобраз элегантнага, крыху іранічнага мужчыны, які ведае нешта такое, чаго не ведаеш ты, які жыве сярод такіх людзей і рэчаў, сярод якіх ты ніколі не жыў і жыць не будзеш. Чужое, варожае абуджае цікавасць. Матусевіч дакрануўся да гэтага чужога і таму, апрача ўсяго, інтрыгаваў сам па сабе. Да таго ж я ведаў: ён пераправіў у «Штурмавую цэлую друкарню — бяры і выдавай партызанскую газету.

Ён прыйшоў з Соняй гадзін у пяць, калі кароткі лютаўскі дзень хіліўся к канцу. Шыбы, разрысаваныя марознымі лапкамі, ужо не іскрыліся, а сінелі, і пакой пачыналі напаўняць прыцемкі.

Пераможна зіркнуўшы на мяне сваімі мілымі вачыма, Соня счакала, пакуль мы працягнулі адзін аднаму рукі, і нячутна выйшла.

— Ваня,— даляцеў з кухні яе голас,— я пабуду на падворку...

Не, Алесь Матусевіч аказаўся іншым. Кранутая сівізной галава, адкрыты твар, хударлявая, шырокай косці постаць. Больш таго — простанароднае, сялянскае праглядвала ва ўсім яго вобліку. Нават было нешта ад традыцыйнага лерніка, які ўсталяваўся на палотнах нашых мастакоў. І толькі журботны нахіл галавы, старанна расчасаныя на прамы прабор хвалістыя валасы ды праніклівыя вочы, у якіх свяцілася ўвага, выдавалі ў ім інтэлігента.

— Значыцца, вы з-за лініі фронту?.. Гэта добра...— сказаў ён з густым беларускім «г», і стала відаць, што мая адкрытасць яму спадабалася.— Гэта вельмі дарэ-

чы... Такія падзеі! Ста-алінград!.. Нашы спадары забегалі і пры ўсякай нагодзе, як зладзеі, азіраюцца на бакі.

— Кожнаму сваё.

— Зразумела... Нават у канцылярыю СД да Шлегеля радзей сталі бегаць. «Нешта трэба дзеяць,— цвярдзяць,— дзеяць!..» Хоць рукі, як і раней, ад крыві не высыхаюць...

Я чакаў экспрэсіўнага жэсту, бурнай рэакцыі, але Матусевіч бадай што спакойна расшпіліў паліто і, распрануўшыся, пашукаў вачыма вешалку. Я ўзяў з ягоных рук паліто, аўстрыйскую шапку-капялюш, шалік і павесіў іх на цвік, убіты ў вушак. Здагадаўся: новы мой знаёмы ні аб чым не будзе распытваць і пастараецца сам расказваць так, каб не было патрэбы задаваць пытанняў яму. Пранікаючыся ўвагаю да яго нейкай вельмі натуральнай вытрымкі, я сказаў:

— Мусіць, недарэмна Дантэ памясціў іх папярэднікаў на самае дно пекла — у апошні круг.

— Яны ежма елі не толькі другіх, а і адзін аднаго. Грызліся за смачны кавалак, за цёплае крэсла. Гуляючы, зразумела, у прынцыповасць. Праз «прынцып» нават даносілі ў СД — Казлоўскі на Сянкевіча, Сянкевіч на Казлоўскага... А цяпер, напалоханыя Сталінградам, спяшаюцца яшчэ болей. Знайшліся аматары, якія спрабуюць стварыць новую партыю. Нелегальную і з прыцэлам!

Матусевіч нечакана наблізіўся да мяне і ўзяўся за гузік майго пінжака.

— Я разумею, чаго вы чакаеце, і зраблю, што ў сілах. Дарэчы, я ўжо адправіў жонку і старэйшую дачку ў партызанскую зону. Пусціў пагудку — да сваіх у вёску. Верныя людзі таксама ёсць... Рэкамендую Грышу Страшко...

Вайна, магчыма, як нішто іншае, агаляе вартасць чалавека, паказвае цану яго слоў і шчырасці. Гэта — выпрабаванне. Жорсткае, ды амаль беспамылковае. Выпрабаванне страхам, нястачамі, болем і мукамі, правам забіваць другога. Гвалтоўна ўварваўшыся ў жыццё людзей, яна ўсё перайначвае: пераключае падзеі на большую хуткасць, дае страшэнную сілу выпадку, ставіць цябе ў залежнасць ад яго, прымушае па-свойму глядзець на кроў, смерць і заўтрашні дзень. Таму яна гартуе адных і разбэшчвае другіх, узнімае [redacted] закарвашак іх

душ самае мутнае — такое, што можа ніколі б і не паднялося на поверхню ў мірных умовах.

Раніцою таго дня мне давялося быць сведкам жахлівай сцэны.

Вязні з гета падкупілі паліцаяў, і тыя мірыліся, што каля калючага, у некалькі столак, дроту ішоў гандаль. З горада сюды неслі бульбяныя лушпайкі і бульбу, шурпаты, з мякінаю хлеб і мерачкі круп, а з-за дроту — прымусы, залатыя пярсцёнкі, адзенне. Хоць натоўп віраваў і жэстыкуляваў больш, чым на базарыталкучцы, гандаль-абмен ішоў бясшумна. І ўсё-такі сёння паліцаі адкрылі агонь — мусіць, нехта данёс «па начальству». Натоўп кінуўся ўрассыпную — адны назад за дрот, другія ў бліжэйшыя руіны.

Не скажу — сёй-той з гараджан кіраваўся спагадаю і дарма аддаваў прынесенае. Але другія!.. Яны ж нажываліся на тых, хто быў аддадзены голаду, гвалту і смерці. Што можа быць больш дзікім?! Адкуль гэта магло прыйсці? Значыць, кроў і гразь часта бываюць разам — іншага адказу не знойдзеш. А прыватныя забягалаўкі, дзе пояць ачышчаным дэнатуратам і самагонкаю з бузіны? А картачныя прытоны і тайныя абартарыі, што пачалі адкрывацца ў горадзе?! Хіба гэта не здрада колішняму, хіба няма тут сувязі з тым, што робяць здраднікі-палітыканы?

І вось дзіва: разам з гэтым, насуперак гэтаму — мужная барацьба. Я, відаць, не памылюся, калі скажу: тысячы мінчан мелі да яе дачыненне. І не проста блаславілялі яе, з'яўляліся ворагамі ворагаў (такіх была абсалютная большасць), а так ці інакш прымалі ў ёй удзел, рызыкуючы найдаражэйшым.

Я сказаў пра гэта Матусевічу. Той стомлена ўсміхнуўся.

— Вы звярніце ўвагу, амаль кожную ноч недзе нешта ды будзе гарэць...

Мінск!

Я толькі што пакінуў партызанскі край — бязмежны лясны разліў, дзе жыццё аставалася савецкім і, натуральна, барацьбе было падпарадкавана ўсё: і намаганні, і думкі, і побыт. Але і тут, у паланёным горадзе, дзе размясціліся шматтысячны гарнізон ворага, яго армейскія рэзервы, штаб корпуса аховы тылу групы

войск «Цэнтр», штаб і войскі карнага корпуса СС, упраўлення войск СД, палявой паліцыі, абвера,— сіла народнага супраціўлення была не меншай. Гэта здавалася неверагодным, але было так. І ні злавесныя засценкі, ні канцэнтрацыйныя лагеры, ні блізкі Трасцянец і далёкі Асвенцім не маглі нічога змяніць. Мінчан вывозілі на катаржныя работы, вешалі на тэлеграфных слупах, у скверах на таполях, на спецыяльна пабудаваных шыбеніцах, расстрэльвалі ў падвалах круглай турмы, на старым астрожным двары, у Тучынцы і пад Койданавам, а супраціўленне нарастала. Што за праява і як назваць яе?

Калі сцямнела, зайшоў Яша Шымановіч.

— Хопіць,— сказаў ён з парога,— трэба перабазіравацца.

— Што? — не зразумеў я.

— Збірайцеся, пойдзем да мяне. Няхай Луцкія хоць ночы дзве паспяць спакойна. А заўтра магу пазнаёміць з латышом і прафесарам. Далібог, спадабаюцца.

Зухаваты, бледны твар яго кранула ўсмешка. Аднак па тым, як хутка ўсмешка знікла, зрабілася ясна: ён не толькі просіць, але і настойвае, бо прывык весці рэй.

— Што ж, можна,— памяркоўна згадзіўся Ваня, прычыняючы за Шымановічам дзверы.— Балазе недалёка...

Мы выйшлі ўдвух.

Ноч была зорная. Удалечыні мігцелі, як толькі мігцяць у мароз,— зырка і зябка,— рэдкія гарадскія агні (немцы светамаскіроўкі яшчэ не ўводзілі).

Здавалася, Яша Шымановіч яшчэ халасцяк. Так незалежна, без асобай аглядкі прымаў ён рашэнні і павадзіў сябе. Аказалася ж, у яго ёсць жонка і дачушка — такая ж, як і маці, бялявая, з вялікімі здзіўленымі вачыма. Кажуць, валасы, як кужаль. Сапраўды, валасы ў дзяўчынкі былі шаўкавістыя, мяккія, як лён, іх цягнула пагладзіць.

— Зіна, гэта Валодзя,— прадставіў мяне Яша жонцы: значыць, усё было абмеркавана загадзя і разам.

Уважліва разглядаючы мяне, тая прывіталася, спусціла з рук дачку, і неўзабаве на стале ўжо дымілася міска тушонай бульбы, стаялі квашаная капуста, гуркі.

— Падсілкуйцеся,— прапанавала гаспадыня.— У Луцкіх не надта густа...

Цяпер, калі пісаліся гэтыя радкі, прызнаюся: я вагаўся, расказваць ці не пра тое, што адбылося далей. Ці варта? Ці не зразумеюць усё гэта па-свойму і не пакрыўдзіцца сёй-той? Ды потым рашыў — трэба. З рознымі людзьмі выпадала сустракацца ў тыя часы і ў розныя трапляць варункі. Значыць, яны таксама пакідалі свой адбітак на падзеях і жыцці. Дый само жыццё, як выяўлялася, было больш складанае.

Не паспеў Яша, у якім ужо ўскалыхнуўся азарт расказчыка, дайсці да галоўнага ў сваіх падпольных прыгодах, як у раму пастукалі. Патрабавальна, з пагрозаю.

Гаспадыня збялела, але тут жа рашуча ўзяла дачку на рукі і падышла да акна. Адхінуўшы фіранку, глянула на двор. Пасля неяк знясілена, відаць, таму, што ад сэрца адлягала, павярнулася да нас.

— Там Саўчык,— кіўнула яна галавою на акно.

Цяпер збялеў Яша. Твар у яго пагрозліва завастрыўся, тонкія ноздры драпежна раздзьмуліся. Ён ляпнуў сябе па кішэні, правяраючы, ці пры ім пісталет, і рынуўся з пакоя.

У раму загрукалі мацней. Пачулася валтузня — спачатку на дварэ, потым у сенцах. Дзверы ў пакой прыадчыніліся і з сілаю зачыніліся.

— Не пус-скаеш?.. Ага! — настыраўся нехта з п'яным натхненнем.— Думаеш, я дарэм-мна табе гранаты цягаў? Трасцы!.. Падзялілі паміж сабой усё мяса, што партызаны прыслалі, а мне вантробы адны. Пусці, праверу!.. Я не менш рызыкаваў!..

Гэта магло кончыцца кепска. Я адчыніў дзверы і стаў на парозе.

Яша за каўнер трымаў нізкаdébрослага чалавека ў кавалерыйскай бекешы і шапцы-вушанцы, а другой рукою стараўся заціснуць яму рот. Чалавек вырываўся і ўсё хацеў нешта крыкнуць яшчэ.

— Ану, годзе! — сказаў я.— Як не сорамна?

...Назаўтра Яша пазнаёміў мяне з Аляксандрам Платаісам — начальнікам гаража ў Доме друку.

Сустрэліся мы з ім проста на Пушкінскай вуліцы. Прывіталіся, як знаёмыя, і нетаропка падаліся да парку Чалюскінцаў, дзелавіта і паціху размаўляючы.

У паношаным дэмісезонным паліто, з пустым левым рукавом (я ведаў, што ў яго калісьці была раздроблена ключыца), худы, высокі, ён зрабіў на мяне моцнае ўражанне. Чым? Хутчэй за ўсё сваім выглядам. Дакладней, неадпаведнасцю гэтага выгляду ўнутранай сіле, што адчувалася і ў перакананасці, з якой ён гаварыў, і ў суровым, нібыта застылым на адной нейкай думцы, вузкім твары. Было відаць, ён належаў да людзей, якія маюць у жыцці свае пэўныя ясныя задачы і паслядоўна здзяйсняюць іх, чаго б ім гэта ні каштавала. Ён не баяўся ні бруду, ні бяды. Піў з немцамі і нават памагаў ім красці ў саміх сябе, толькі каб гэта памагала яму рабіць сваё. І яму верылі свае і чужыя. Калі ж пазней, арыштаванага,— ён усё-такі аказаўся больш масавіком, чым канспіратарам,— гестапаўцы катавалі яго і наўмысна налягалі, ціснулі на раздробленую некалі ключыцу, Платаіс так нічога і не сказаў ім ні пра сябе, ні пра другіх. Мусіць, гэта была яго апошняя задача, якую ён паставіў перад сабою.

Мы падышлі да парку. Пасля разбурэнняў — пячныя бляшаныя трубы дымілі проста з вокнаў і ў будынку Акадэміі навук — парк выглядаў як далёкі некрануты бор.

— Ладна,— згадзіўся Платаіс на развітанне.— Пароль запомніў. Людзі ёсць і будуць. А пры патрэбе, вядома будуць аўтамашыны і гэтак далей. Шкада во — пагаварылі мала...

З паркам Чалюскінцаў аказалася звязанай і другая сустрэча.

Цяпер гэтага доміка няма — згарэў. А тады ён стаяў непадалёку ад увахода ў парк, сярод гонкіх меднастволых сосен. У раскрыжаваным, разбураным горадзе ён здаўся мне казачным — у гурбах снегу, з расчышчанай да ганка сцежкаю, з аснежаным, прысыпаным ігліцаю дахам. А галоўнае — з коміна, зусім як у казцы, віўся блакітны дымок, пахла жытлом, смалой-жывіцаю, і навокал мірна, па-лясному стаялі хвоі.

Праўда, тут жа, за агароджаю, казка канчалася. Амаль насупраць, цераз вуліцу, за недабудаванымі дамамі, размяшчаўся лагер ваеннапалонных і маячылі постаці вартавых. Кожную раніцу лагерныя вароты расчыняліся і з іх выязджалі пакрытыя рагожамі сані (часцей цэлы абоз) — вывозілі тых, хто сканаў за ноч

ад бяссілля, марозу і голаду. Але тут, сярод мілых сэрцу сосен, казка ўсё-такі нагадвала пра сябе. Дый хіба многа трэба, каб фантазія чалавека стварыла жаданы свет? Асабліва калі гэтага хочаш...

Жыў у доміку супрацоўнік Акадэміі навук П. І. Фінкевіч, які, прырабляючы на жыццё, рамантаваў газніцы, чайнікі, рабіў вёдры і цынкавыя ночвы. Вось сюды ў домік-майстэрню і павінен быў прыйсці прафесар Дарожкін — біёлаг, вядомы некалі сваімі гатункамі ракаваўстойлівай бульбы.

Сувязь з Мікалаем Апанасавічам адкрывала вялікія магчымасці і была на той час прынцыпова важнай. У Мінску адкрыўся так званы штаб Розенберга, што мусіў арганізавана рабаваць здабыткі нашай навукі. Супольнымі сіламі немцаў і іх прыслужнікаў ладзілася чарговая правакацыя — стварэнне «Беларускага культурнага згуртавання», якое б аб'яднала творчую інтэлігенцыю і «наблізіла сваю культуру да еўрапейскіх культурных асноў». Інакш кажучы, апрацоўвала б народ у патрэбным захопнікам духу і рабіла б як мага больш людзей прама або ўскосна вінаватымі перад роднай уладаю. Таму патрэбна была не адна аператыўная інфармацыя.

Дасюль мы хадзілі з Яшам плячо ў плячо або, падстрахоўваючы мяне, ён назіркам дыбаў ззаду. А тут, у парку, мы як бы забыліся адзін на аднаго.

Калі я зайшоў у дом, Яша, разваліўшыся, сядзеў на тахце, а гаспадар — пажылы, з вялікімі залысінамі мужчына, завіхаўся каля стала, падсунутага ўжо да тахты.

— Мы рашылі гэтую сустрэчу абставіць фундаментальна,— засмяяўся Яша і адкрыта падміргнуў мне.— Балазе адзін заказчык Пятра Іванавіча сёння жыватоўкай расплаціўся. Нават калі хто і зойдзе, дык няхай заходзіць.

Пярэчыць, не пакрыўдзіўшы яго і гаспадара, было позна.

— Вам відней,— сказаў я, бачачы, як ківае ў знак згоды лабатай галавою і шчыра ўсміхаецца Фінкевіч.

Пераняўшы мой позірк, паставіўшы на стол шызыя, закаркаваныя папяровымі затычкамі пляшкі, ён падышоў і ўзяўся рукамі за мае плечы.

— Няўжо з-за лініі фронту? А? — спытаўся дрыготкім голасам.— Паверыце, мо толькі цяпер і адчу-

ваеш, якім яно было колішняе. Давай, Яша, памагай мне...

Я і раней заўважаў, як харашэюць людзі пры ўпамінанні аб Вялікай зямлі. Нават і тыя, што пабойваліся яе або сумняваліся — ці зразумее яна іх пакуты, ці даруе ім, што, можа, не ўсё зрабілі ў вайне, што маглі? Прыме пад увагу варункі, у якія трапілі, або астанецца глухой да ўсяго, апрача анкеты? Бывалі ж выпадкі...

Прафесар Дарожкін прыйшоў не адзін. Узяў з сабой дачку — маленькую кучаравую дзяўчынку, і ў дзвярах спачатку паказалася яго схіленая спіна — ён чакаў, пакуль дзяўчынка, трымаючыся за яго руку, пераступіць парог.

Узяў з сабой дачку!.. Гэта не магло быць проста канспірацыяй. Значыць, ён загадзя прымаў любое заданне і гатовы быў ісці на самыя вялікія ахвяры. Праўда, ва ўсім гэтым мог таіцца і напамінак: «Добра, я згодзен і пайду на ўсё, але пайду не адзін. Не забывайцеся, калі ласка, і на гэта...»

Яшчэ маладжавы, з цёмнымі, зачасанымі назад валасамі, са смуглым, чуць усходнім тварам і быстрымі, разумнымі вачыма, ён спыніўся каля дзвярэй, не выпускаючы даччыной рукі.

— Як там Іван Мацвеевіч? — спытаў, прывітаўшыся, і сеў на тахту побач з Яшам. Узяў дачку на калені.

— Наводзіць савецкія парадкі ў раёне, арганізуе самаабарону ў вёсках,— адказаў я.— Прасіў перадаць прывітанне.

— І доўга прабіраліся да нас?

«Выпрабоўвае»,— падумаў я і, падхоплены свавольным пачуццём, выняў з кішэні новенькі «ТТ».

— Бачыце, яшчэ не паспеў заржавець.

Дарожкін узяў пісталет, непрыкметна зірнуў на дату выпуску.

— Але, яшчэ цёплы... Вас, бясспрэчна, цікавяць нашы справы?..

Седзячы за накрытым, як для бяседы сталом мы доўга гаварылі пра дзейнасць розенбергаўскага штаба, пра вучоных, якія асталіся ў Мінску, пра апошнія захады немцаў. А калі дамовіліся аб паролі і яўках, я папрасіў:

— Зрабіце, Мікалай Апанасавіч, так, каб як мага меней каштоўных дакументаў трапляла ў нямецкія

рукі. Забірайце іх і хавайце ў тайніках. Яны яшчэ спатрэбяцца нам. Хай будуць на прыкмеце і людзі, якіх варта вывесці з горада. Астатняе пазней — праз сувязных...

Тым часам Іван Луцкі і Соня рыхтавалі новыя сустрэчы. На явачную кватэру па Цнянскай вуліцы — двухпавярховы, барачнага тыпу дом, атынкаваны і знадворку,— Ваня прывёў Лідзію Дзявочку. Яна загадвала аптэкаю па вуліцы МОПРа. У тайніках аптэкі хаваліся не толькі медыкаменты, бінты, назапашаныя для адпраўкі ў лес, але і лістоўкі, міны, атрыманыя адтуль.

Калі я ўвайшоў у пакой, то ўбачыў стройную сімпатычную дзяўчыну з простай, строгай прычоскаю, у сціплым, але з густам пашытым гарнітуры.

Яна сядзела за круглым сталом, што стаяў пасярод пакоя, і гартала кніжку. Убачыўшы мяне, устала і падала вузкую руку.

— Добра, што вы спазніліся,— ухмыльнулася.— Добра, што і гаспадар з Луцкім на пасту.— І без асаблівага пераходу, спяшаючыся, пачала гаварыць: гітлераўцы ў час чарговай блакады наважылі ўжыць атрутныя газы і бактэрыялагічныя сродкі.

— Трэба нешта рабіць, папярэдзіць, таварыш Валодзя!..

Другі раз я сустрэўся з Дзявочкаю праз некалькі дзён. Але ўжо не з адной — яна прывяла з сабою таварышаў: Захара Галу, які працаваў па загаду падпольшчыкаў у гарадскім камісарыяце, і рабочага чыгуначнай таварнай станцыі Вікенція Шацько.

Помніцца, яны здаліся мне таксама прыгожымі не толькі таму, што былі маладыя. Шацько — чубаты, з шырока пастаўленымі, страшнаватымі для дзяўчат вачыма; Гала — з прыемным, тонка акрэсленым тварам, які бывае ў людзей з чулай, паэтычнай душою.

Мы селі за круглы стол. І, бачачы, што ўсе маўчаць, я прапанаваў:

— Ну што ж, таварышы, пачнём. Прашу, расказвайце, калі ласка, якія ў вас навіны.

— У нас? — нахмурыўся Шацько, скідаючы з калена руку друга, які, мусіць, хацеў стрымаць яго.— Чаму мы павінны гэта рабіць?

— Хаця б таму, што вы прыйшлі сюды.

— Два месяцы назад, пасля разгрому, нас таксама спрабавалі сабраць. І таксама «дэсантнікі з-за лініі фронту». Прыляцелі, маўляў, уручаць урадавыя ўзнагароды... Вы, грэшным чынам, не ўзнагароды прывезлі?

— Няхай так...— адказаў я.— Але ж вы ўсё роўна, дарагія таварышы, у маіх руках. Ёсць у гэтым логіка?

У адчайных вачах Шацько палыхнула нядобрае святло: ён не прыняў майго жарту.

— О не! — выгукнуў.— Пакуль вы тут, вы ў нашых! — І палажыў на стол наган.

— Вікенцій,— умяшалася Дзявочка, бачачы, што я таксама кладу перад сабою «ТТ».

— Спакойна! — папрасіў Гала.

Цяжка сказаць, чым бы гэта ўсё скончылася, але ўвайшоў Іван Луцкі і разрадзіў атмасферу. Дый мае паводзіны рабілі сваё. Аднак было ясна: трэба нешта яшчэ, і я загаварыў пра Вялікую зямлю, пра падзеі на франтах. І зноў пачалі мяняцца, расцвітаць людзі.

— Вы не крыўдуйце,— сказаў Гала.— Нядаўна арыштавалі чалавека, які першы з нас тут, у руінах, і на Лагойскай дарозе пачаў вайну. Караў і падрываў... Мы богатварылі яго.

На вачах у Дзявочкі закружыліся слёзы.

— Сапраўды. Вікенцій як ашалеў. Захар ірвецца ў лес. Яму абрыдла гуляць у вернападданага!..

Ні Захара Галы — «Зорыка», ні Вікенція Шацько «Агнёва» няма цяпер у жывых. Зорык і Агнёў!.. Чаго варта, скажам, адна майская аперацыя Вікенція і яго сяброў. Ім удалося на вачах у аховы замініраваць эшалон з авіябомбамі, замаскіраванымі цюкамі сена. Міна была запаволенага дзеяння, і эшалон, як і разлічвалі, дайшоў да станцыі Рудзенск, куды перад гэтым прыбыў састаў з бензацыстэрнамі. І, вядома, вухнула! А юны Зорык, чые аўсвайсы, пропускі дазвалялі і ўдзень і ўначы дзейнічаць падпольшчыкам, разведчыкам і сувязным!.. Аднак тады Шацько і Гала толькі набіралі разгон. Ды мне здаецца, што ўжо і тады ўгадвалася іх слаўная, ахрышчаная агнём і смерцю будучыня.

Зусім не збянтэжаны сутычкаю, быццам яе і не было, Шацько паскардзіўся:

— Немцы насцярожаныя, як восы. З толам упраўляцца нязручна і цяжка. Няўжо мы такія бедныя, што

няма «магнітак»? Дайце «магніткі»! Няўжо не даходзіць, што міны тут у сто разоў важаць? А чыгуначнікі выканаюць заданні.

— Гэта праўда — хочацца ў партызаны. Вельмі...— задуменна азваўся Гала.— Але, прызнацца, мне ўсё болей давяраюць. Спадар бургамістр збіраецца нават паслаць у Нямеччыну вывучаць вопыт работы з моладдзю. Бачыце, які гонар... І я, зразумела, астануся. Толькі дайце жывую справу...

Я адыходзіў першы. Развітаўся і ўбачыў, што не аднаму мне сумна ад гэтага развітання.

Справы, здавалася, разгортваліся шчасліва. Сяброў станавілася ўсё больш. І якіх сяброў! Але трывожыла думка: ці ва ўсіх хопіць вытрымкі чакаць — ідзе ж вайна! — пакуль тое, што стваралася, прыйдзе ў рух і ты зоймеш вызначанае табе месца, адчуваючы побач плячо нябачнага, надзейнага друга, а за спіною — цэлую дзяржаву.

На гэтую думку навёў мяне яшчэ Алесь Матусевіч. Я востра адчуў яго прагу да спраў. Ён звязаўся з падпольным Лагойскім райкомам і пасылаў туды разведдадзеныя. Ён устанавіў сувязь з партызанскай брыгадаю «Штурмавая». Шукаючы новых спраў, ён прыйшоў да мяне.

Калі я прапанаваў Шацько і Галу парваць найбольш небяспечныя сувязі, яны задумаліся.

— Гэта можна,— нарэшце сказаў Вікенцій.— Але пры адной умове — калі дазволяць самі справы.

— І сумленне! — выгукнуў Зорык.

Многія з іх, па-мойму, былі перакананы, што ў вайну адна задача — наносіць ваенны ўрон ворагу, што цана людзей пасля вайны будзе вымярацца ў першую чаргу гэтым. Асабліва тых, хто быў на акупаванай зямлі, хадзіў побач з ворагам і мог дацягнуцца да яго рукамі. Дальнія мэты здаваліся, бадай, нечым эфемерным. Сапраўды, што можна было сказаць роднай уладзе, калі ты не забіў ніводнага немца ці нямецкага паслугача, калі не ўзарваў ніводнага ваеннага склада ці станка ў заводскім цэху. А што даваць такую справаздачу давядзецца, ведалі ўсе — прывучылі тыя ж трыццатыя гады.

Значыць, трэба было нешта рабіць. Больш таго, як паказалі наступныя дні, гэта падсвядома жыло і ва мне.

Жыў я зноў у доміку на Дабралюбаўскім пераездзе.

У першыя ж суткі, як я перабраўся туды, зноў адбылося ЧП, ды не адно... Ужо сцямнела, у правы ўступіў каменданцкі час — той цягучы, трывожны час, калі на вуліцах пуста і іх як бы поўніць чаканне нядобрага. А перад гэтым кружыла яшчэ мяцеліца. Усё замяло снегам. Сумёты грабянямі ўзнімаліся каля платоў, домікаў, выраслі папярок вуліц. Ні саннага, ні чалавечага следу, а за некалькі крокаў — каламуць, імгла.

Ваня ўбег да мяне з варанай бульбінаю ў руцэ: пэўна, вячэраў.

— Нехта, Валодзя, да нас ідзе. Хто б гэта мог? Што сказаць, калі стане пытацца пра цябе? І наогул?..

Гэта быў Алесь Матусевіч. Узрушаны, задаволены, ён аберуч прывітаўся са мной і, ужо сам, як добра знаёмы, распранаючыся, загаварыў:

— Ваш пікет за квартал мяне сустрэў. Здарава!.. Але даруйце, што не вытрываў. Такія справы! Вы толькі пачытайце! Атрымаў пад распіску. Як знарок для вас.

Я ўзяў даволі тоўсты збрашураваны стос паперы, які Матусевіч сунуў мне, і, гартаючы, пачаў праглядаць.

Сапраўды, гэта было цікава. Я трымаў у руках адрукаваны на шапірографе першы нумар «Бюлетэня», дзе ўрачыста і ўзнёсла абвяшчалася аб стварэнні так званай «Незалежнай партыі». Статут, праграма, хроніка — усё як належыць.

— Звярніце ўвагу на задачы і мэты,— не мог спыніцца Матусевіч.— Барацьба на два франты! Бачыце хроніку — «Нямецкія і савецкія ахвяры»? Што гэта? Правакацыя абвера?

— А можа, трук саюзнікаў.

— Якое вераломства!.. Ведаеце, гэта ж усе яны, залежнікі і незалежнікі, днямі збіраюцца на банкет. Будуць адзначаць соты нумар сваёй «Беларускай газэты», якая верай і праўдай служыць гітлераўцам. Дык як жа так можна? Якая брыда!

Матусевіча пакідала вытрымка. У ім, мірным чалавеку, які да вайны, як я ўжо ведаў, з любоўю аратага толькі і пісаў пра тарфянікі ды асушку балот, абуджалася жорсткасць.

Газнічка мігала. Змрокі ў пакоі ўздрыгвалі. І ў гэ-

тай мігатлівай паўцемры постаць Матусевіча выглядала яшчэ вышэйшай, а твар гнеўна-барвовым.

— Вы маглі б трапіць на іх зборышча? — спытаўся я, сам зараджаючыся азартам.

— На банкет? — перапытаў ён, і мала што змянілася ў ім — таргануліся хіба вусны.— Пры жаданні, думаецца, мог бы...

Некалі мы з Леанідам Палітаевым таксама спрабавалі расправіцца з местачковымі верхаводамі. Але марна. Для ўдачы, відаць, трэба, каб падобная думка зарадзілася не толькі ў нас адных. Трэба, каб яна жыла ці хоць бы падспудна выспявала ў тых, хто мусіць ажыццяўляць яе. Патрэбны і адпаведны накал у барацьбе. А гэтага ўсяго, відаць, там не аказалася. Галоўны ўрач местачковай бальніцы мог бы перадаваць партызанам розныя лекі, мог бы нават, рызыкуючы, пры выпадку аказаць медыцынскую дапамогу, але на большае тады ён не быў здольны і стаў адступнікам. А тут? Хутчэй за ўсё, тут справа абстаіць іначай. На мяне нахлынулі думкі.

— Слухайце, дарагі Алесь,— дакрануўся я да яго пляча.— А што, калі ўзяць ды шарахнуць гэтую брыдоту? Ці сумленна будзе, калі, маючы такую магчымасць, мы пройдзем міма? Колькі захавалася б жыццяў, душ!..

Цяпер твар у яго, астаючыся спакойным, пачаў усё-такі змяняцца і ўвачавідкі,— Матусевіч нібы худзеў.

— Знішчыць? — спытаўся ён, сярдуючы не то на мяне, не то на самога сябе.

— Але!.. Атрымаеце ўсё, што трэба. Нават аўтамашыну. Хочаце — «опель-капітана», хочаце — грузавік. Пры патрэбе, апрача шафёра, будуць хлопцы.

Запала маўчанне. Стала чуваць, як у другой палавіне закашляўся Ваня Луцкі.

— Ну што ж, я разумею...— прамовіў Матусевіч праз хвіліну.— Ну што ж... Прыйдзецца толькі вывезці меншую дачку і сёе-тое з бібліятэкі...

І вось што кінулася ў вочы: Алесь трымаў сябе ўжо так, быццам заданне мусіў выканаць нехта іншы.

Што гэта было? Хутчэй за ўсё — усвядомленая неабходнасць.

Раніцою па заданне прыйшла Соня. Яна паспела ўжо схадзіць на рынак і купіць сабе кубанку — барашкавую, з яркім донцам, перакрыжаваным нашыўкамі. Стаўшы каля люстэрка, пагардліва кінула хустку на спінку канапы і, радая, што пазбавілася ад яе, надзела кубанку. Свавольна, набакір.

— Дома прышыю чырвоную пасачку. Вось так, наўскос,— паказала яна, хітра гледзячы то ў люстэрка, то на мяне, і стала, горда ўзяўшыся ў бокі.

Паружавелая з марозу, у зухаватай кубанцы, яна падабалася сабе, і гэта весяліла яе, падбівала на свавольства.

— Што новага на базары? — сумеўся я.

Ад адчутай незалежнасці, ад таго, што можа збянтэжыць старшага, Соня павесялела зусім.

— Бачыла спекулянтаў, беднасць. Што яшчэ? Нават аблавы не было...— І раптам пагасла.— Там адзін немец хадзіў. З бутэлькай брандвейна. І ўсё соваў, соваў усім, быццам не прасіў, а загадваў, каб купілі. За каго яны нас прымаюць, Валодзя?..

Але хмарка як хутка набегла, так хутка і рассеялася.

— Мне сёння да Страшко?

— Так.

— Адчаяны ён, Валодзя! Як порах загараецца...

Яна пайшла. Пакрысе разышліся і астатнія. Дазорным астаўся адзін Паўлік.

Падзеі бралі мяне ў палон, падганялі, кружылі галаву. Я адчуваў гэта. Разумеў: у такіх умовах вытрымка асабліва патрэбна. І ўсё-такі прага зрабіць нешта яшчэ і яшчэ большала. Расла і вера ў людзей — вунь якія яны і на што ідуць!

Ноччу я не кончыў чытаць «Бюлетэнь». Адхінуўшы шторку, каб бачыць увесь пакой, схаваў пісталет пад падушку і лёг на ложак.

У пакоі, які я палюбіў ужо за простую ўтульнасць, было цёпла, светла. Цікалі ходзікі, па-мойму, цвыркаў цвыркун — гэтак мірна, з адцяжкаю.

Я чуў, як стукнула брамка і нехта ўвайшоў у сенцы.

«Паўлік»,— падумаў з удзячнасцю. У дзверы пастукалі.

— Уваходзь,— дазволіў я.

На парозе паказаліся двое... бравых, у форме ўкра-

інскага батальёна. Адзін з вінтоўкаю, другі з ручным кулямётам.

Марудзіць было нельга. Калі яны адны і я апярэджу іх, гэта можа выратаваць. Стрэлаў на вуліцы не пачуюць. А калі і пачуюць, не так страшна: немцы часта страляюць самі — па варонах, па ляпных карнізах руін, па фарфоравых чашачках на тэлеграфных слупах з абарванымі правадамі.

Не спускаючы з няпрошаных гасцей вачэй, я сунуў руку пад падушку.

Але тут здарылася нечаканае. Тыя хуценька паставілі зброю ў дзвярах і адступілі на некалькі крокаў.

— Мы да Полі... Дзе яна?..— заспяшаўся чарнявы, вышэйшы ростам, падазрона і насцярожана сочачы за маёй рукою.

Ён яўна здагадваўся, што пад падушкаю, і баяўся як таго, што я выхаплю пісталет і пачну страляць, так і таго, што проста ўбачыць у маіх руках зброю.

— Сядайце,— прапанаваў я.

Набеглі новыя асцярогі. Небяспека пакуль што мінула мяне. Але потым, калі яны зноў возьмуць зброю? Выйдуць на вуліцу? Убачаць сваіх?

— Даўно знаёмы з Поляй? — пацікавіўся я, каб выгадаць час.

— Не вельмі...— вінавата адказаў чарнявы.— Мы ж са зміёўскага гарнізона. Ведаеце, пад Сёмкавым Гарадком? Сюды па боепрыпасы прыязджаем... Поля нам пра навіны расказвае...

«Ага!..» — ускіпела ва мне, і я пайшоў напралом — іх трэба было ашарашыць. Устаўшы з ложка, я выняў з-пад падушкі пісталет, сунуў яго ў кішэню і ступіў да дзвярэй. Заўважыўшы, як госці бялеюць, кінуў:

— А пра Сталінградскі разгром яна вам расказвала? Чулі? Думалі пра заўтрашні дзень?

Чарнявы закруціўся на крэсле, але другі астаўся сядзець са сцятымі губамі. Ад адчаю нешта рашуча выспявала ў ім.

— Мы пакінем вам патронаў і частку гранат,— сказаў ён, прыкурваючы ад запальнічкі і прагна зацягваючыся дымам.

— Гэтага мала! — не згадзіўся я.— Для вас мала.

— Ён наш камандзір,— падказаў чарнявы.— Ён можа рашаць... Але, відаць, трэба пагаварыць з астатнімі.

Ён пачаў праяўляць ініцыятыву, пэўна, клапоцячыся ўжо аб будучым. Гэта было добра, але хацелася пачуць другога.

— Адказ дазвольце даць заўтра,— здагадаўся той аб маім жаданні.— Хоць шмат хто з нашых шукае спосабаў звязацца з партызанамі.

Ён гаварыў зласнавата, з выклікам, ды яму хацелася давяраць. Было відаць: наўрад ці адступіць ад прынятага рашэння, хоць дужа прагне шчаслівага канца. І таму з ім можна размаўляць начыстату.

— Будуць умовы,— перабіў яго я.— Калі шэф заартачыцца — расстраляць. Казармы спаліць. Усе боепрыпасы, зброю ўзяць з сабой. Пойдзеце з правадніком...

Каюся зноў — я больш думаў пра справу, чым пра сваіх сяброў. Праўда, крыху апраўдвала акалічнасць — я не так ужо многа думаў і аб сабе. Але хіба гэта мяняла сутнасць таго, што я рабіў?

Калі вярнуўся Ваня, я расказаў пра здарэнне і папрасіў падрыхтавацца: яму выпадала самае небяспечнае — прасачыць за выкананнем намечанага плана і адвесці гарнізоншчыкаў у партызанскую зону.

А мне самому? Самому трэба было тэрмінова перабрацца на другую кватэру — на Беламорскую, 48... да Міколы Саўчыка. Чым я кіраваўся? Зноў жа пачуццём, што мацавалася тут, у Мінску. І варта сказаць, яно не падвяло мяне. Я трапіў у сям'ю, дзе панавалі нястачы, беднасць, але з імі — і глыбокая адданасць колішняму.

Яша Шымановіч прыехаў па мяне на «опель-капітане». За квартал шафёр — Уладзімір Некрыш — падняў капот і пачаў корпацца ў маторы, пакуль я не сеў у машыну.

Дасюль я бачыў адны ўскраіны: Старажоўку, Камароўку, Пушкінскі пасёлак, раён Балотнай станцыі, парк Чалюскінцаў... Домікі тут у большасці ўцалелі. Толькі скасабочыліся, паслеплі, ураслі ў зямлю. А ў цэнтры... што тут было!

Па Лагойскім тракце мы выехалі на Савецкую вуліцу. Не, не на вуліцу — яе не было,— а на расчышчаны праезд сярод аснежаных руін, з якіх тырчалі пакарэжаныя прэнты. І хоць злева, над імі, на Златай гур-



Валянцін Таўлай, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Карпаў, Аляксей Зарыцкі, Янка Брыль, Аляксандр Шарапаў. 1945 год.



Удзельніца Мінскага падполля Варвара Феафілаўна Мацюшка дзеліцца ўспамінамі з Уладзімірам Карпавым. 1946 год.

цы, маячыў касцёл з адцятай званіцаю, а насупраць — забруджаны камуфляжам дом, усё роўна здавалася: едзеш па нейкіх раскопках — пачатых і пакінутых. Толькі за Свіслаччу можна было з горам папалам пазнаць некалі знаёмае — будынкі, каробкі былых будынкаў, сквер. Затое руіны тут былі яшчэ страшнейшыя. Яны ўзнімаліся знявечанымі грамадзінамі, якія, здавалася, вось-вось рухнуць. Ад былога кінатэатра «Чырвоная зорка» захавалася адна фасадная сцяна. Над чорным дзвярным праёмам навіс балкон. Як ён трымаўся?

Сям-там руіны абваліліся, аселі, сталі курганамі. Па мёртвых кварталах людзі праклалі сцежкі, і яны чамусьці праходзілі якраз па гэтых курганах. Але найбольш уразіла мяне, што патрушчаная цэгла прабівалася праз снег, і сцежкі былі рудыя, быццам з-пад іх праступала ржа ці кроў.

Навокал панавала бязлюддзе. Сустрэліся толькі некалькі аўтамашын ды абоз вялізных крытых фур, што цягнулі крыжастыя біцюгі з хвастамі-куксамі.

Ехалі мы да прафесара Клумава, які загадваў хірургічным аддзяленнем Першай гарадской бальніцы. Калі збочвалі на Ленінскую вуліцу, на рог выйшаў патруль палявой жандармерыі — з аўтаматамі, у касках, зеленкаватых шынялях. У аднаго з жандараў на грудзях вісела бляха-паўмесяц. Яна надавала яму амбітны выгляд. Ён адчуваў гэта і трымаў галаву важна, з гонарам.

Колькі жыццяў падпольшчыкам і партызанам выратаваў Яўген Уладзіміравіч! Чатыры палявыя партызанскія шпіталі абсталяваў ён, забяспечыўшы іх медыцынскімі інструментамі, прэпаратамі, перавязачным матэрыялам — усім неабходным. А той, хто прайшоў праз вайну, ведае цану індывідуальнага пакета або ампутацыйнага нажа, тым больш калі ён замяніў нажоўку ці ржавую лучковую пілу.

Мажны, яшчэ моцны, з пушыстай, кранутай сівізною шавялюраю, Клумаў стаяў перад намі, чакаючы, што мы скажам.

— Я хачу пазнаёміць вас з таварышам Валодзем. Ён з-за лініі фронту, прафесар,— сказаў Яша.— Вы не супраць?

— Ну-ну, цікава,— узняў калматыя бровы Клумаў, не асабліва здзіўляючыся Яшавым словам.— Але спа-

чатку прызнайся, чаму я, па-твойму, магу быць супраць? Хіба гэта не радасць? Твая і мая?.. Ты знаеш, аб чым гэта сведчыць?

— Аб чым, прафесар?

— О-о-о!

Такое было ў навіну. Ні падобнай адкрытасці, ні падобнай адлучанасці ад трывог і клопатаў аб сабе я яшчэ не сустракаў.

Жэстам ён паказаў нам на белыя табурэткі каля белага стала.

— Чытаю Дастаеўскага. Яго «Дзённік». Іншы раз ёсць патрэба разабрацца і ў псіхалогіі ніцшыянства. Але вось цікава, і там адчуваеш — чалавеканенавіснікі асуджаны. Наогул. Што іх жывіць у жыцці? З жывога, вядома. Нічога. А што яны могуць? Могуць зняважыць людзей, прынесці ім пакуты, праліць мора крыві і захлынуцца ў ёй. Усё!.. Таму важна адно — прыспешыць іхнюю пагібель. Хоць, праўду кажучы, хочацца, каб каштавала яна не столькі, колькі каштуе... Ну, а як там матухна Масква?

Я пачаў расказваць.

— Ды іначай не магло быць! — усклікнуў Клумаў.— А ты, друг падпольшчык, пытаешся...— і, нібыта ў тым добрым, што пачуў, ён чэрпаў сілу, стаў напорыста развіваць думкі, як і што, паводле яго меркаванняў, варта зрабіць, каб падзеі разгортваліся больш шчасліва.

Я сказаў, чаго завітаў да яго.

Яўген Уладзіміравіч задумаўся, правёў па твары далоняй і працягнуў руку. Але ў гэтай згодзе я не адчуў нядаўняй рашучасці, хоць ён і паскардзіўся:

— Так, з гэтымі партызанскімі сувязнымі б-бывае ўсякае. Часам за дапамогай звяртаюцца проста ферты, якім мора па калені. «Дайце», «Падрыхтуйце», «Майце на ўвазе»... Вы не дазволіце паказаць вас жонцы? У мяне няма ад яе сакрэтаў. Галя, ідзі сюды!

У дзвярах з'явілася пажылая жанчына ў чорным. На жаль, яна толькі і запомнілася такой — добры твар, сівізна на скронях і чорны ўбор.

— Галя,— пявуча сказаў Клумаў,— паглядзі, Галя! Гэты таварыш адтуль, разумееш? Паслухай, што гаворыць ён пра Маскву!

У ім, відаць, ускалыхнуліся ўспаміны, туга. Ён падсунуў сваю табурэтку жонцы і стаў ззаду, паклаўшы

ёй на плечы рукі. Падняўся быў і я, але Клумаў энергічна заківаў галавою.

— Сядзіце і расказвайце. Расказвайце, калі ласка...

Я, зразумела, не ведаў тады, што ўгатавана гэтым слаўным, мужным людзям, якія мацавалі адно ў адным веру і гатовы былі на ўсё. А ўгатавана было цяжкае...

Доўга затрымлівацца было нельга — набліжаўся каменданцкі час.

— Ну-ну,— уздыхнуў Клумаў.— Вы маеце рацыю... Перадайце там, што я выканаю лю-убое заданне...

Чалавек адчувае мяжу магчымага, за якой — бяда. Гэта пачуццё абвастраецца, калі ходзіш побач з ёю. Калі для ўдачы патрэбны дзесяткі шчаслівых выпадковасцей, то для правалу — усяго адна нешчаслівая. Здавалася, усё павінна быць наадварот: чалавек прывыкае да небяспекі і няўдач. У ім нешта прытупляецца ад іх. Верхалазы, паўтараю, не заўважаюць прывычнай вышыні. А вось адчуванне, што напяты да апошняга выратоўчы пояс, калі ты возьмеш у рукі яшчэ цяжар — парвецца, пэўна, ёсць і ў верхалазаў. Ва ўсякім разе я адчуў — мяжа!

Праўда, многае само прыйшло да свайго лагічнага канца. З задання вярнуўся Ваня Луцкі. Усміхаючыся, далажыў, што расквятараваў гарнізоншчыкаў са Зміёўкі ў лясной вёсцы Якубовічы, і тыя чакаюць мяне. Чакае таксама Цімчук і, здаецца, аддаў распараджэнне падрыхтаваць сякога-такога зелля для сустрэчы. А тут, у горадзе? Алесь Матусевіч адправіў дачку і атрымаў ад нас усё патрэбнае. Шаферу Некрышу перадалі загад у час быць з машынаю на Абойнай вуліцы, паблізу ад доміка, дзе збяруцца прыслужнікі, і вывезці за горад чалавека, які падыдзе з паролем. Я схадзіў да Матусевіча і ў апусцелай кватэры прадыктаваў лістоўку-прысуд. Да таго ж не было сакрэтам — пасля тэрарыстычнага акта ўсе кантрольна-прапускныя пункты закрыюць, і горад будзе блакіраваны. І нарэшце — вось яно прадчуванне! — Платаіс перадаў праз Яшу нямецкі план Мінска і навіну: у СД пачалі паступаць няпэўныя, але сігналы — угадвалася нейкая актыўнасць. Значыць, заставалася або стаіцца і чакаць, або

тэрмінова пакінуць Мінск. Платаіс настойваў на апошнім, абяцаў аўтамашыну.

Аднак у прызначаныя тры гадзіны машына не прыйшла. Не было яе і ў чатыры. «Няўжо бяда?..» Збіты з тропу, я загадаў Ваню запрагаць вернага сібірачка. За гэтыя дні ён адпачыў, пасыцеў, поўсць на ім заільснілася.

Гэта чамусьці надавала ўпэўненасці, і мы рушылі ў дарогу даволі бадзёра. Каб мінуць кантрольна-прапускны пункт, Паперню, паехалі паўз Балотную станцыю на Бараўцы.

Як і тады, кіраваў Ваня Луцкі, як і тады, захутаная ў хустку, побач з ім сядзела Соня. Але настрой і думкі былі іншыя. Я ад'язджаў ад небяспекі, ад магчымай бяды, мой ад'езд адводзіў яе і ад другіх, але разам з радасцю ва мне жыў смутак. Было вельмі шкада таго, што пакідаў у Мінску, трывожна за Матусевіча, горка... за многае горка. Непакоіла і прадчуванне — гэта яшчэ не ўсё...

Праз кіламетраў сем дагналі сялянскую падводу. Я саскочыў з саней і, прабегшы, падсеў да дзядзькі. Паклажа яго здалася мне незвычайнай — клумкі, чамадан, кнігі, хатнія рэчы, але я не надаў гэтаму значэння. Папрасіў закурыць.

Сутанела. Сінелі неба, лес на даляглядзе, узгоркаватае снежнае поле. Мацнеў мароз.

У кажуху, кучомцы дзядзька, не ведаючы, як трымаць сябе, насцярожана маўчаў. Не вельмі хацелася гаварыць і мне.

Чаму Ваня не папярэдзіў мяне аб Цнянскім торфазаводзе? Пэўна, забыўся ў клопатах і хваляванні. Але як толькі мы выехалі на адзін з пагоркаў, вячэрнюю ціш разарвала чарга. Над галавою прасвісталі кулі.

— Стой! — пачуўся вокліч.— Злазь з саней! Хутка!

Я штурхануў дзядзьку локцем і папрасіў:

— Гані, гані, браток!

Але ён, нешта буркнуўшы, саскочыў у снег і нацягнуў лейцы. Узняўшы галаву, ззаду спыніўся і наш сібірачок. Хамут у яго палез на вушы.

Толькі цяпер я ўбачыў занесены снегам дзот і чатыры постаці, што выраслі з снегу. Па шынелях і зброі пазнаў — немец і салдаты так званага «ўкраінскага батальёна».

Што адказаў мне дзядзька, я не пачуў і толькі па тону здагадаўся: даваў нейкую параду.

А тыя набліжаліся.

Дзядзька кінуў лейцы і пабег насустрач.

— Сцяпан! — крыкнуў.— Гэта ж я, Сяргей, з Бараўцоў! Няўжо не пазнаў?

— А гэтыя адкуль? — апускаючы вінтоўку, спытаўся Сцяпан.

У галаве раптам усталявалася яснасць. Думкі сталі выразнымі, быстрымі. Такімі быстрымі, якімі, па-мойму, ніколі не былі.

— Мы таксама з Бараўцоў! — гукнуў я і шэптам сказаў сваім: — Без загаду не страляць.

Цяпер карціна выглядала так. Насустрач Сцяпану спяшаўся дзядзька. Двое ахоўнікаў напрасткі шыбавалі да мяне з Ванем. Немец, пераважваючыся шкандыбаў да Соні, вымяркоўваючы падысці, калі абшукаюць нас. Ды ранейшай насцярожанасці ў іх не было.

Астатняе адбылося за хвіліну — гранічна скандэнсаваны прамежак часу, калі падзеі набягаюць адна на адну, адбываюцца паралельна, і цяжка аднавіць іх парадак.

Той, хто падышоў да Вані, аказаўся найбольш вопытным. Ён схапіў яго за жывот і адразу намацаў пад рэменем пісталет. Але ад нечаканасці разгубіўся. Разгубіўся і Ваня. Адмахваючыся ад ахоўніка, як ад прывіду, ён пачаў адступаць.

Бачачы гэта краем вока, я сказаў «свайму» ахоўніку:

— Мы партызаны. Ясна? Хочаш страляцца — давай. Не — паедзем разам... Скажы і таму!..

А той, зрабіўшы некалькі крокаў з працягнутай рукою, успомніў, што ў яго ёсць вінтоўка.

Выбару не было. Не вымаючы «ТТ» з кішэні, я стрэліў. «Мой» ахоўнік ахнуў, схапіўся рукамі за жывот і, скурчыўшыся, асеў на зямлю. Другі ж стрэліў. Але не ў Ваню, а ў мяне, ва ўпор. Я якраз паварочваўся да яго, і куля парвала мне верхнюю губу. Ды болю я не адчуў. Як цяпер помню, вялікі палец у мяне пацягнуўся, каб узвесці курок, але думка: «Навошта? У мяне ж самаўзвод!..» — спыніла палец, і я стрэліў зноў. Ахоўнік з разведзенымі рукамі павярнуўся спінаю, зрабіў крок і выпусціў вінтоўку. Але ўпалі яны разам і пасля таго, як я стрэліў яшчэ раз.

Ужо ад першага стрэлу ўсё прыйшло ў рух. Дзядзькаў конь шарахнуўся ўбок і панёсся па цаліку. Немец, не дайшоўшы да Соні, кінуўся назад. Не ведаю, што сталася з дзядзькам. Бо калі я стрэліў па немцу і той упаў, я ўбачыў аднаго Сцяпана. Узняўшы рукі ўгору, ён няшчадна мацярыўся і бег да дзота.

— Агонь, туды вашу мацы! — заходзіўся ён у крыку, не разумеючы, што сам перашкаджае ім страляць па нас.

Мы ўпалі на сані. Я схапіў лейцы, але Соня прымусіла мяне зноў прыгнуцца і прыкрыла сабой.

Сібірачок імчаў пад гару наўгалоп. І калі з дзота застракатаў кулямёт, кулі ішлі ўжо недзе над намі.

Дзядзькаў конь, апісаўшы дугу, таксама выскачыў на дарогу і, калі мы спускаліся ў лагчыну, дагнаў нас. Соня выцерла мне твар хусцінкаю і перасела на другую падводу. Нагамі расштурхала рэчы, якія перашкаджалі ёй зручна прыстроіцца. Хто знаў, што яны — Алеся Матусевіча і што назаўтра яго стрыечны брат прыйдзе па іх да нас у падпольны райком? Дый калі б і зналі, наўрад ці падумалі пра іх. Не ведаю, як каму, а мне — я разумею, гэта жорстка,— хацелася спяваць.

Так, мне шанцавала. Не ведаю, ці вінаваты ў гэтым той, каму шанцуе. Мусіць, трохі вінаваты — значыць, паміж ім і акалічнасцямі ёсць усё-такі згода. У райкоме я даведаўся: на Бягомльскім аэрадроме чакаюць першых самалётаў. Гэта прымусіла мяне спяшацца — я атрымліваў магчымасць хутка трапіць на Вялікую зямлю. У дадатак — Цімчук таксама збіраўся ехаць са справаздачаю ў партыйны цэнтр зоны.

Пакінуўшы сабе для аховы двух знаёмых па Мінску гарнізоншчыкаў, я здаў астатніх, выведзеных са Змііёўкі, у брыгаду «Бальшавік» і разам з Цімчуком рушыў у дарогу.

Выехалі мы на двух вазках. Коні былі рэзвыя, надвор'е мяккае, імглістае, і дарога адразу набыла характар раднаснай паездкі ў запаветнае.

Пасля перажытага ў Мінску ўсё наўкол здавалася невымоўна дарагім, родным. Асабліва лес, ляшчэўнік з залацістымі каташкамі і бярозы — нейкія зварушліва стройныя, пранозліва чыстыя на фоне трошачкі па-

цямнелага лілаватага неба. У лесе звычайна цяплей. Нават пад'язджаючы да яго ўзімку, ты адчуваеш ласкавыя павевы. Напрадвесні ж у зацішку, пад сонцам, цеплыня тут як бы агортвае цябе, пранікае ў душу. І гэта тады, калі яе вельмі прагнеш.

Захутаўшыся ў чорную доўгую дублёнку, паклаўшы паміж ног жоўтую калодку маўзера, Іван Мацвеевіч сядзеў задумана, сцішана. Ён, пэўна, думаў пра Вялікую зямлю, куды я кіраваўся, думаў пра сябе, і свае заўтрашнія дзелавыя сустрэчы.

— Хораша! — выгукнуў я, калі мы вынесліся на ўзгорак і Цімчукоў ад'ютант — рыжы, з густым засевам вяснушак на твары, маўклівы дзяцюк, які кіраваў канём, даючы нам палюбавацца навакольнай красою,— нацягнуў лейцы.

— Тут недалёка, на шасейцы, мы летась засаду рабілі,— азваўся Цімчук, прадаўжаючы думаць пра сваё.— Абстралялі грузавік. Але, мусіць, агонь аказаўся радкаватым. Многія з немцаў паспелі ўкрыцца ў кювеце... Агрызацца пачалі — галавы не падымеш. Але кулямётчык наш... Паблізу масток быў. Дык ён пад ім прабраўся на другі бок шасейкі і часануў уздоўж кювета...

— Пазнаю почырк,— парадаваўся я партызанскай кемлівасці.

— Ого!..— захоплена ўхваліў Цімчук, жмурачыся ад навакольнага рассеянага святла.— Тым болей што гэтай шасейкай немцы ўжо болей не ездзяць. Вяскоўцы перакапалі яе, перагарадзілі заваламі, спілавалі тэлефонныя слупы.

Твар у Цімчука павесялеў, і ён, як па клавішах, прайшоўся пальцамі па калодцы маўзера.

— Гітлераўцы, па сутнасці, распараджаюцца адно ў райцэнтрах. На астатняй тэрыторыі — савецкія формы жыцця... Бежанцаў-мінчан і тых прымаем у цывільныя лагеры. Можа — працуй у кравецкіх або шавецкіх майстэрнях. Умееш — у гарбарнях або пекарнях. Наладзілі выраб аўчын. Валім валёнкі. Працуюць млыны. Жыхароў цывільных лагераў неўзабаве мабілізуем на сяўбу, а потым — уборку ўраджаю. На пасяджэннях райкома камандзіраў і камісараў заслухоўваем не толькі наконт баявой дзейнасці. Расказвай і пра выхаваўчую работу... Плюс інстытут інструктараў. Работа з сакратарамі пярвічных арганізацый. У пар-

тыю, браток, прымаем, як у мірны час... І задача цяпер новая — галоўныя ўдары па камунікацыях. Біць іх на дарогах і такім чынам абараняць мірнае насельніцтва... У драматычным яно становішчы пакуль што...

Ёсць людзі, якія жывуць адным. Аб ім не стамляюцца гаварыць. Пра яго толькі турбуюцца, для яго шукаюць лепшага, найлепшага. Астатняе як бы па-за іх увагаю. Але, будучы вось такім апантаным, Цімчук аставаўся багатым у сваіх праявах, бо ягоныя клопаты былі пра вялікае і высокае — дабро другіх.

Мне зрабілася зайздрасна, захацелася ўзяць гэта сабе ад Цімчука — удумлівага, разважлівага, для якога клопаты аб народзе сталі прафесіяй, сэнсам жыцця.

Начавалі мы ў Хадаках, і помніцца: неяк само сабою нехта, пэўна гаспадар, нацепліў нам лазню, і мы ўсмак «папакутавалі» на палку, хвастаючы сябе духмяным бярозавым венікам.

Бягомльскі аэрадром запомніўся начным. Чакаючы самалёта, мы пасяліліся ў бліжэйшай ад аэрадрома вёсцы і ўдзень спалі ў напаўпустой хаце на саломе, накіданай проста на падлогу. Не помніцца, дзе і як мы харчаваліся, з кім я сустракаўся ў той час. У памяці запала толькі, як штовечар, калі пачынала змяркацца, мы адыходзілі з хаты, і як вярталіся назад, калі набліжалася каламутнае, апалавае світанне.

У цемры ўсяго аэрадрома, вядома, відаць не было. Яго прастора адчувалася толькі па тым, як паласкаліся наўкол змрокі і мігцелі цьмяныя кастры.

Прыляцеў самалёт нечакана. Але, калі пачуўся яго рокат і з зямлі ў неба шуганула полымя кастроў, якіх як бы пабольшала, ён і не падумаў зніжацца. Наадварот, даўшы над аэрадромам круг і прывітальна бліснуўшы агеньчыкамі, пачаў аддаляцца. Аднак неўзабаве, праз колькі хвілін, да вушэй даляцеў свіст рассякаемага крыламі паветра — на зямлю рынуўся і сеў планер. Адзін, другі...

Не паспелі госці падысці да кастроў, а ахова адцягнуць цяпер ужо бездапаможных і непатрэбных «птушак» да ўзлеску, як усё паўтарылася. Толькі другі ці трэці планер, што якраз прызямліўся паблізу ад нашага кастра, раптам як бы нырнуў, ударыўся аб зямлю грудзьмі і стаў старчма. З фанерных яго бартоў у розныя бакі сыпанулі рыбападобныя, з наканечнікамі на насах міны розных памераў. І тут жа, а можа, на-

ват перад гэтым, у пакутлівай цішыні разлёгся стогн-крык. Найбольш аператыўныя з нас, падварушыўшы агонь у кастры, кінуліся з палаткаю да планера.

Колькі іх прыляцела ў тую ноч? Не ведаю. Бо я быў сярод тых, хто нёс пілота да санітарнага паста.

І ўсё-такі адзін самалёт сеў — старэнькі двухматорны біплан «Р-5». Ён даставіў людзей у фюзеляжы і прыцягнуў з сабою цэлы поезд планераў. Садзіўся ён апошнім, за планерамі, на пасадку пайшла процьма часу, і яму, замаскаванаму бярозкамі, давялося перабыць дзень на ўскрайку аэрадрома.

З першым крылатым пасланцом выпала ляцець камандзіру брыгады «Жалязняк» Раману Дзякаву, начальніку штаба той брыгады — падпалкоўніку Каваленку, якія накіроўваліся ў распараджэнне Штаба партызанскага руху, мне і цяжкапараненым, якім былі патрэбны складаныя аперацыі.

Калі біплан вырулiў на ўзлётную палосу, пачалася пасадка. Надвор'е, праўда, папсавалася. Дзьмуў вецер, па небе несліся рваныя хмары, і з іх паспешліва раз-пораз вынырваў і тут жа хаваўся малады месяц. Але шчаслівымі здаваліся і тыя, хто праводзіў нас.

Садзіўся я апошні. Паціснуўшы рукі сваім ахоўнікам, якія заставаліся ў тутэйшым атрадзе, абняўся з цыганкаватым сімпатычным камандзірам атрада.

— Махнём? — прапанаваў расчулена.

Той, пэўна, чакаў і жадаў гэтага, бо моўчкі заўсміхаўся, сарваў з галавы кубанку і ўзяўся расшпільваць новы, пашыты па фігуры кажушок. Заціснуўшы між ног аўтамат, я таксама зняў вушанку і здабыты яшчэ пад Улаю шынель. Пераапранаючыся, здагадаўся: камандзір чакае ад мяне яшчэ нечага і, можа, праз гэта і пайшоў на абмен, хоць ваенная форма партызанамі цанілася на вагу чыстага золата.

Да зброі прывыкаеш, як да жывой істоты. Але ў тую хвіліну не было шкада нічога. Я пацалаваў прыклад аўтамата і перадаў яго ва ўчэпістыя рукі камандзіра — ні ў паветры, ні за лініяй фронту ён не быў мне патрэбен. Дык няхай служыць тут!

У фюзеляжы гарэла адна электрычная лямпачка. Упокат ляжалі параненыя. Пахла лекамі. Мы — Дзякаў, Каваленка і я — прымасціліся купкаю побач з люкам. Было цесна, нязручна. Нават нельга было выцягнуць ногі. Да таго ж Дзякаў абклаўся мяхамі і ля ног яго,

загорнуты ў мешкавіну, ляжаў абсмалены кабанчык — падарунак камандзіру прыфрантавога аэрадрома, які надумаў траляваць зброю і людзей на планерах.

Зараўлі маторы. Самалёт уздрыгнуўся і затрымцеў, гатовы разваліцца. Поўнячыся радасцю, я заўважыў, як крыва ўхмыльнуўся Дзякаў, і выпрастаўся напружаны Каваленка. Я гутарыў перад гэтым з Дзякавым і ведаў яго крыўду — «раней, калі пачыналі, быў патрэбен, а цяпер, калі набралі моц, распатрэбіўся». Ведаў таксама, што ў вярхах палічылі мэтазгоднейшым, каб і Каваленка быў у арміі.

«Новыя задачы..— нагадаліся Цімчуковы словы.— Та-ак новыя!.. Рашаючы іх, мала аднаго гарачага сэрца, як мала і аднаго ваеннага вопыту...»

Перад адлётам Дзякаў выпіў. Яму хацелася пагаварыць, ды рокат матораў, брынчанне фюзеляжа перашкаджалі яму. Але нешта збіралася ў ім, і нарэшце ён не вытрываў. Развязаўшы адзін з мяшкоў, запусціў у яго руку і выцягнуў жмут грошай.

— На, Валодзя, вазьмі! — пакрываючы гул, бразгат і брынчанне, прапанаваў ён.— Згодзяцца!

— Дзякую! — крыкнуў я ў адказ, прыціснуўшы далоню да грудзей.— Але не варта! Дзякую!

— Ат,— махнуў ён рукою.— Хочаш, я і табе дам, падпалкоўнік? З танкавай калонай нічога ад гэтага не станецца. А хто ведае, як там усё выкіруецца! Бяры...

Каваленка адхінуўся і памацаў на пятліцах шпалы — палачкі, абцягнутыя чырвонай матэрыяй. Наогул — разам з тым, як мы набліжаліся да запаветнай пасадкі, ён набіраўся паважнасці і аддаляўся ад нас.

Праўда, ён сабраўся быў усё-такі нешта адказаць, але не паспеў — ва ўсе шчыліны і дзірачкі, што аказаліся ў сценах фюзеляжа, рынула асляпляльнае святло. Сумненняў не магло быць — мы трапілі ў абцугі пражэктараў. Потым пад намі нешта ўзарвалася. Я кінуў позірк на здранцвелага Каваленку і заплюшчыў вочы. Увушшу ў мяне зазвінела. Ніхто не мог падумаць, што мы па той ужо бок фронту, што пражэктары — нашы, а ўзрыў — ракета-сігнал — «Я свой!».

# ЖАН

*Апавяданне*

Чаму вы так глядзіце на мяне? Вывучаеце? Хочаце зразумець? Ну, што ж, калі ласка. Але я клянуся, нічога не збіраюся таіць.

Навошта? У ім усё было і застаецца мне дарагім. Позірк, я яго, паверыце, адчувала спінаю. Мяне калаціла, калі я думала, што ён глядзіць на мяне. Цягнула накінуць хустку, захутацца. Сястра Эльза аж злавала...

Праўда, я ведала: высокі, гожы, ён падабаецца не мне адной. Яго, па-мойму, і з лагера ваеннапалонных выбавіла кабета — выдала за мужа. Вы ведаеце, што ў час бамбёжак есці хочацца? Так і ў нас, жанчын, у вайну вырастае прага да радасцей. Няхай хоць якія-небудзь ды будуць. Няхай хоць адчуеш, што ў цябе ёсць жыццё, што яно тваё і яго пакуль не адабралі.

Я не ведаю, ці разумеў гэта Жан. Наўрад. Тады навошта гавару? Проста так, бо карціць. Бо ўпотай мучылася гэтым. Яму занадта шанцавала... Гестапаўцы ў час вераснёўскага правалу выкрылі і яго кватэру... Ён не раз трапляў у аблавы. У яго стралялі і на вуліцы... А як з кватэрамі шанцавала! Ён мяняў іх амаль штомесяц і звычайна выбіраў, дзе гаспадарыла жанчына. І за каго б ні выдаваў сябе — за цырульніка, за гадзіннікавага майстра, прадаўца з камісійнага магазіна — яго прымалі. Прымалі, хоць ніхто не ведаў ні яго сапраўднага прозвішча, ні з якіх ён мясцін і хто яго-ныя бацькі.

Асабліва ўражалі яго вочы. І цяпер не ўмею, як апісаць іх... Блакітныя, глыбокія. Валасы ён фарбаваў, і я не скажу, які іх натуральны колер. Але вочы!.. Я здзіўлялася: як можна захаваць іх такімі спакойнымі, чыстымі? Ён жа рызыкаваў і забіваў, можа, больш, чым хто ў Мінску. У сорак першым, калі звязацца з лесам захацеў, адзінаццаць чалавек у ноч паслаў.

А летась аб'явіўся нейкі Іван Іванавіч. Назваўся падпалкоўнікам. Вербаваў мінчан у партызанскія атрады. Збіраў людзей на Ваенных могілках, саджаў у грузавік і вёз прама ў турму. Дык яго заманілі ў магільны склеп на тых самых могілках і аглушылі малатком... Жан наогул, як сам казаў, дзейнічаў «чыстай зброяй» — пісталетам, фінкай. Уначы — на вуліцах, днём — у руінах. З напарнікам, а то і адзін.

Мінск жа разбураны. Вам і ўявіць цяжка. У цэнтры — адны руіны, высмаленыя каробкі. Як з зямлі раскапаныя. І хавацца можна, як у раскопках або ў закінутых катакомбах. Генерал фон Шперлінг нядаўна на пахаванні — яны іх пышна адзначаюць — прызнаўся, што ў гэтых руінах лягло больш за тысячу шэсцьсот акупацыйных чыноў і іх памагатых. А Жан... ён жа спецыяльную аператыўную групу гаркома ўзначальваў... Я адхіляюся? Ну, добра, буду больш пра сябе, толькі не хмурцеся, калі ласка. Ён жа прасіў мяне. Мне трэба як мага падрабязней. Бо іначай не будзе пакою...

Той раз я хадзіла ў атрад «Смерць фашызму». Управілася хутка. Перадала спісы здраднікаў, разведданясенне, а назад мне далі лістоўкі і кароценькую запіску: «Жан! Дастань, калі ласка, патронаў да «парабелума». Запіска, як бачыце, пустая. Без подпісу. Але на душы было хораша: як-ніяк, а яна — яму! Асабіста. І перадаваць яе, зразумела, буду не так, як лістоўкі.

Дакументы ў мяне — хо-хо! Я з немцаў, якія аселі ў Беларусі ў дваццаць другім. Ехалі паводле нейкага пагаднення з Паволжа ў Германію, дабраліся ледзь не да самай граніцы, але пагадненне ўзялі ды скасавалі. Ведаеце, як бывае. І мы аселі, бо вяртацца ўжо не было як. Мову родную, натуральна, ведаю не горш за рускую або беларускую. Выгляд, бачыце, таксама арыйскі. Адна залацістая скура з рыжымі космамі чаго вартыя. Так што не дужа і хавала сваю пошту. Запіску завязала ў насоўку, лістоўкі паклала ў кошык з мякінай і яйкамі.

Пашанцавала без прыгод пераехаць рэчку Вячу, якую ў нас граніцай называюць, мінуць Паперню. Там гарнізон стаіць. Гадкі такі, з прыдзірлівымі бобікамі. Але праехалі і яго. Удалечыні ўжо Мінск паказаўся. І тут нас спынілі. Не ведаю, адкуль і ўзяліся. Чалавек

шэсць. Ну, няхай бы немцы ці папернскія службісты. Для іх хоць дакументы што-небудзь значаць. З імі пацваліцца можна. А то нашы, калі меркаваць па гаворцы, з Заходняй. Ім, што я немка,— нават, за радасць. У навіну паказваць сябе пры такіх акалічнасцях. Які халуй адмовіцца беспакарана паздзекавацца з таго, хто нагадвае яму гаспадара? Няма такіх халуёў. Загадалі злезці з саней, адысці на крок. Ператрэслі сані, выбралі яйкі з кашолкі, высыпалі мякіну на снег і, вядома, знайшлі лістоўкі.

У мяне яшчэ тлела вера ў свае чары.

— Хо-хо! — пачала я.

Але яны звалілі мяне з ног і пачалі біць. Шчыраваў асабліва адзін — вёрткі, з губамі-нітачкамі. Ён мяне і ўдарыў першы. Абшукваючы, прымусіў разуцца, сабраўся быў падраць панчохі, але не здолеў — яны ў мяне шарсцяныя — тыцнуў мне імі ў твар, шпурнуў у сумёт. І ўсё з расцягнутымі губамі, з ухмылачкаю: знай, сучка, нашых! А потым звязаў рукі дзягай мне, возніку і пагнаў перад сабой. А астатнія, свіснуўшы каню ў вуха, абселі нашы сані і памчалі да Паперні як на фэст.

Жан неяк папярэджваў: калі давядзецца туга, самае важнае не патураць сваёй слабасці. Бо папусціўся ў малым, папусцішся і ў большым. Рашучасць гэтак жа выспявае ў чалавеку, як і перакананні. Першае слова тут — гук, пададзены камертонам.

Але здарылася, што ў мяне, як наліха, ніхто і не пытаўся ні аб чым. Не вымушаў ні хітраваць, ні прызнавацца. Мяне проста збілі. Пасля церлі снегам твар, скроні. Потым звязалі рукі і павялі — расхрыстаную, у чаравіках набасанож, і я толькі і думала, як бы зашпіліцца, як завязаць на чаравіках матузкі, на якія раз-поразу наступала... Разумееце, мяне пазбавілі патрэбы абараняцца. Я апынулася ва ўладзе сляпой сілы. Яна ненавідзела мяне, выкрыла і вяла знішчаць. Што я магла зрабіць? Пачаць зноў какетнічаць або прасіць літасці? Паспрабаваць падкупіць? Прыгразіць будучай расплатай? Ну што? Я ж ведала: усё гэта дарэмна, ды апрача пустачы, холаду нічога не адчувала і калі што бачыла, дык хіба сляпую бель бяскрайнюю. Снег, снег! Пад нагамі, абапал, наперадзе...

У СД мяне дапытваў сам Фройлік. Дакладней, не дапытваў, а... не ведаю, як і сказаць. Я была загавары-

ла па-нямецку, але ён прыжмурыўся і, гідзячыся вымавіць у адказ слова, адно губамі і вачыма паказаў ахове на мае рукі — ён, як здалося, навылёт мяне бачыў!

У цёмным, смярдзючым закутку з мяне сарвалі вопратку. У сарочцы пасадзілі на нейкае крэсла з падведзенымі рознакаляровымі правадамі. І зноў, бачачы, як спрытна, натрэніравана бяруць мае рукі, ногі ў зацiскачкі, я зжахнулася ад уласнай асуджанасці, сораму, ад усведамлення марнасці што-небудзь рабіць: задача і ў гэтых катаў заставалася тая самая — знішчыць мяне. Праўда, дадалося яшчэ адно — жаданне абняславіць як блудную немку.

Калі мяне адлілі вадою, то зноў павялі да Фройліка. І зноў ён не словамі, а грымасай загадаў сцягнуць з мяне сарочку і біць, мяняючы бізуны. Яны ў іх былі розныя — гумавыя, плеценыя з дроту, раменныя, са свінчаткай на канцы...

Назаўтра ўсё паўтарылася. Мяне зноў білі. Рабілі перакур і зноў білі. Толькі я ўжо ведала, што запіскі, адрасаванай Жану, у маёй насоўцы няма. Гэта спалохала як бы нанава. Наконт лістовак я магла схлусіць — знайшла і несла ў горад, каб пахваліцца. А што выдумаеш наконт запіскі? Яе, зразумела, належала перадаць. Каму? Калі? Дзе? Ва мне закіпала бяссільная крыўда. Якое глупства! Якая раўнадушнасць! Ці не таму гэта, што і ў лесе я не зусім свая? Навошта было пасылаць недарэчную пісульку? Хіба я не магла сказаць пра злашчасныя патроны вусна?.. *Добра ім там!..*

Але і гэтым разам Фройлік, які вырастаў у маіх вачах у злога духа, не патрабаваў прызнання. Наадварот. Перш чым пытацца, распарадзіўся, каб мне запхалі ў рот кляп. Я разумею цяпер: ён не хацеў, каб я пачала выкручвацца, настойваць на сваім, каб разлютавалася. Гэта праўда: першае слова — само па сабе сіла.

На трэці дзень я амаль звар'яцела. Ад болю, ад сваёй бездапаможнасці. Я кляла аўтара запіскі, Фройліка, катаў, кляла лёс. Нават думкі пра Жана абуджалі злую прыкрасць. Памяць падсоўвала двухсэнсавыя сцэны. Жанава вытрымка здавалася езуіцкай. І калі каты, схапіўшы мяне, сталі заганяць пад пазногці

іголкі, я, поўная агіды да сябе і ўсіх, пачала выкрываць, дзе і калі заўтра можа адбыцца яўка.

Ноч я не спала — стыла на нарах. Дранцвела, мучылася. Верылася, што Жана, як заўсёды, выратуе выпадак. Ён куды-небудзь з'ехаў з горада — падаспела тэрміновая справа... Захварэў... А можа, хто-небудзь бачыў, як вялі мяне па вуліцах, або заўважыў, як гестапаўцы ставілі засаду... Але раны шчымелі, сукравіца, запякаючыся, прысыхала да сарочкі, і варта было, забыўшыся, сцепануць плячыма, павярушыцца, як востры боль перасмыкаў цела, і ад надзей не заставалася звання.

«Госпадзі, я падвяла Жана! Госпадзі!..» Уяўлялася, як яны схопяць яго ў нашым цемнаватым калідоры, як выкруцяць рукі, пацягнуць у машыну, і я стагнала, кусала пальцы.

І ўсё-такі я, мабыць, на нейкі час забылася. Бо дзень нахапіўся знячэўку — не было і раптам засвяціліся шчыліны ў дзвярах, пад дзвярыма. Я правяла ў сутарэнні СД, у сваім катуху, ужо трэцюю ноч, але толькі цяпер заўважыла, што ён вузкі, як склеп, што падлога ў ім цэментная, смярдзіць мачой, хлоркаю.

Стала страшэнна агідна. Нават брыдка дакрануцца да сябе...

Калі мяне праз нейкі час прывялі да Фройліка, я нават не адразу заўважыла, што ў пакоі ёсць яшчэ нехта. Увайшла, упяла вочы ў Фройліка: «Што лабаты надумаў?» Гляджу. А ён, счакаўшы хвіліну, нечакана закруціў галавою і кісла скрывіўся. Быццам бы яго расчараваў мой выгляд.

— Ну? — звярнуўся да мяне па-руску.— Не спалася, Эма? Шкада. Але, спадзяюся, цябе пакармілі сёння? З Эльзай яшчэ не бачылася? — І, нібы жадаючы нечым пацешыць, скасіў лупатыя вочы.

Вось толькі тады, прасачыўшы за яго позіркам, я і ўбачыла Жана. Трымаючы закладзеныя за шыю рукі, той стаяў тварам да сцяны.

— Павярніцеся,— дазволіў яму Фройлік.

Жан апусціў рукі і павярнуўся. Я чакала, што ён заварушыць жаўлакамі, апячэ мяне позіркам, плюне. Але ў ім нішто не здрыганулася. Ён пакратаў пальцамі занямелых рук і, дастаўшы з кішэні грабеньчык, зачасаў свае хвалістыя валасы. Яго, відаць, толькі што

прывялі, і ён дыхаў здароўем, сілаю. Што будзе з ім праз якую гадзіну, дзве?..

Мяне апанавала роспач. І паверыце, не таму, што пятля на шыі зацягвалася, што праз мяне арыштавалі сястру, значыцца, смяртэльная небяспека павісла і над ёй. Не!..

Жан стаяў са спакойным, мо нават прасветленым тварам, і сэрца маё знемагала ад жалю, прасілася служыць яму, гарнулася да яго... Ні пра што іншае я ўжо не думала. Не, думала. Але толькі ў сувязі з ім, думаючы пра яго. Я бачыла, што Жанаў позірк слізгануў па мне, як па чужой, і зноў спыніўся на Фроліку. Гэта было горш за ўсё. І, можа, толькі тады да мяне зусім выразна дайшло, што я натварыла!

Не памятаючы сябе, жадаючы хоць гэтым адпомсціць следчаму — на, глядзі, мне нічога не страшна! — я ўсхліпнула і кінулася да Жана. Укленчыўшы, абхапіла ягоныя ногі, прыпала да іх і пачала цалаваць.

Апамятацца памог мне Фройлік. Стукаючыся патыліцаю аб высокую спінку крэсла, паказваючы кароткім пальцам на Жана, Фройлік зарагатаў. Твар у яго азыз, яму не хапала паветра, а ён усё тыцкаў пальцам-карантышом у Жана і не спыняўся — рагатаў.

Ненавідзячы яго ўсімі фібрамі душы, упэўненая, што гэта здзек з маёй любві, слабасці, з майго раскаяння, я перакрывіла яго і высалапіла язык.

— Жан, даруй мне! — выгукнула ў роспачы.— Я богам прашу!..

Так я другі раз выдала Жана.

Вам цікава, як павёў сябе Жан?.. Ён ніколі ні ў чым не быў дробязны. Застаўся такім і тут. Адно адступіў ад мяне, паківаў галавой:

— Якая ты ўсё-такі нікчэмна-наіўная, Эма. Як я не бачыў раней? Ты, па-мойму, і тут ні разу не ўспомніла ні радзімы, ні блізкіх. Як ты можаш так? Ты нават памерці не ўмееш па-людску.

Гэта, вядома, быў прысуд. І вынес мне яго не Фройлік, а самы найдаражэйшы чалавек, чыёй блізкасці я прагла... Але, але, іменна — нікчэмная, нявартая жалю істота! І ў барацьбу я — правільна, правільна! — уступіла не надта дашукваючыся яе сэнсу, а так, праз сваю экзальтаванасць, без рашучасці пайсці на ўсё. Дый уступіла перад усім, каб слухаць і слухацца Жана.

І вось, калі ласка, нá — я страціла і яго. Беззваротна. Дый не страціла, а сама адмовілася, аддала на гвалт і знішчэнне. Дык навошта тады жыць? Навошта?

Ці адчуў мой настрой Фройлік? Не ведаю. Але перш чым выправадзіць з пакоя, перавальваючыся, па нейкай адмысловай дузе наблізіўся да мяне і паблажліва паляпаў па плячы.

— Не бядуй, Эма, парадак...

І ўсё-такі я, пэўна, яшчэ хітравала сама з сабою. У паўзабыцці я цалавала Жану рукі, прасіла зрабіць сваёй. У закутках душы тлела надзея памерці даравана. Ахвяраю. Здавалася, што смерць не страшная, што я прымірылася з ёй. Што яна — збавенне ад жахаў, ад блытаніны, у якую я трапіла. Хай усё гэта будзе, але... але толькі пры ўмове... Каб я сваёй смерцю штонебудзь зрабіла для яго! Каб ён дараваў мне хвіліннае пацямненне розуму! Зразумеў! Ну, якая я здрадніца, што змянілася ва мне? Тыя самыя думкі, тое ж каханне, тая самая гатоўнасць выконваць ягоныя заданні. Адно хіба — пасталела і ў думках, і ў каханні, і ў жаданні змагацца. О калі б ён зразумеў!..

Аднак для гэтага трэба было хоць бы яшчэ раз сустрэцца з ім. І я пачала шукаць спосабаў.

Вам зноў не падабаецца, як і што я расказваю?.. Падобна на завучанае? Гэта, пэўна, таму, што я дзесяткі разоў перабірала ўсё ў галаве, у думках расказвала самой сабе, размаўляла і з Фройлікам і з Жанам... Казаць далей?.. Добра...

Час для мяне цягнуўся, амаль не дзелячыся на дні і ночы. Пра тое, што надыходзіў дзень, я здагадвалася больш па светлых шчылінах і гуках. У калідоры часцей тупалі падкутыя боты, часцей чуліся крыкі, валтузня, стогны. Скрыгатаў замок на маіх дзвярах — прыносілі баланду, як здань, з'яўлялася прыбіральшчыца плёхаць вадою — мыць падлогу: немцы дужа баяліся эпідэмій.

На пятыя ці шостыя суткі я праз шчыліну ў дзвярах папрасіла наглядчыка перадаць Фройліку, што маю яшчэ нешта сказаць яму.

Ён сустрэў мяне без асаблівай цікавасці. Кончыўшы нешта пісаць, замыліў губы, нахмурыўся, тыцнуў аўтаручку ў нагрудную кішэню, задаволена паглядзеў на яе. І, паверце, гэтая правінцыяльная звычка — насіць аўтаручку ў нагруднай кішэні, каб яе бачылі, яго

прыказчыцкае самалюбаванне, як бы знялі павязку з маіх вачэй — кат, які строіў з сябе супермена, быў проста грубы, пасрэдны чалавек і, апрача жорсткасці ды здрадлівай хітрасці, выхаванай на службе, нічога не меў.

Калі я сказала, што хачу назваць месца дыслакацыі атрада, куды хадзіла, а таксама прозвішча чалавека, які пісаў запіску, Фройлік важна варухнуўся і пачухаў мезенцам лысае цемя.

— Ну-ну,— пацікавіўся ён, як цікавяцца дзіцячай лухтой.

Але дзынкнуў тэлефон. Рэзка, коратка, і Фройлік змяніўся. Шчокі ў яго абвіслі, ён ператварыўся ў слых. Нават вылецела з галавы, што варта шчыльней прыціснуць да вуха тэлефонную трубку...

— Ну, чаго вылупілася? — відаць, скеміўшы нарэшце, што я разумею па-нямецку, загарланіў ён, калі асцярожна паклаў трубку на рычаг.— Ты чула што-небудзь? Кажы, свіння!

— Але,— прызналася я, ужо не дужа баючыся, што ён пачынае шалець.

Аднак Фройлік нібы наткнуўся на нечаканую перашкоду.

— І наконт сябе чула? — спытаўся ашаломлена.

— Але.

— І што скажаш?

— Мне трэба падумаць.

— Не бойся, твой *святы* даўно раскалоўся і сыпле як з меха. Згадзіўся нават выступіць у друку. Паказаць? Дый усё роўна — пустата, капут.

Назаўтра, як я і чакала, ён выклікаў мяне на новую вочную стаўку. І, божа мой, што я перажывала! Ішла з закладзенымі назад па-арыштанцку рукамі, але быццам на спатканне — няхай апошняе, горкае, але ўсё-такі спатканне.

Жан стаяў пасярод пакоя. Праўда, рукі яму таксама загадалі трымаць за спіною, але гэта надавала ягонай паставе незалежны, бадай што, горды выгляд. Заўсёды бездакорны гарнітур на ім быў яшчэ амаль не пакамечаны. Толькі не было гальштука і расшпілены каўнер. Нават тое, што Жан аброс светла-каштанавай шчэццю і пад вачыма, на шчоках ляглі цені, рабіла яго падзвіжнікам.

— Падыдзі к свайму хаўрусніку,— урасцяжку сказаў Фройлік.

З сэрцам, якое нібы вырасла, наблізілася я да Жана. Супроць нас было акно, святло падала Жану на твар, і худзізна яго стала яшчэ прыкметнейшая. У вочы кінуліся пачарнелыя, парэпаныя вусны. Значыць, яго не білі — марылі голадам і не давалі піць!

Ён не паглядзеў на мяне, аблізаў сухім языком засмяглыя губы і ўтаропіўся ў акно, дзе сінела неба і плылі пашматаныя аблачынкі. У мяне навярнуліся слёзы. І што за насланнё? — мне здалося, што на грудзях у Жана нешта бліснула. Няўжо крыж? Адкуль Жан узяў крыж? Навошта надзеў?.. Каб не так катавалі? Каб гэта абярнулася дакорам мне? А мо захацелася паказаць, што пакутуе за высокае? А мо ўспомніў маці і пацягнула стаць бліжэй да яе, пачэрпнуць у гэтым сілу? Уявілася і сама маці, відаць, здаровая, чыстая,— жанчына-працаўніца, карміцелька... Божа мой!..

Але тут, як і той раз, дзынкнуў тэлефон.

Фройлік падазрона зірнуў на мяне, на Жана.

— К сцяне! — вяла распарадзіўся.

Мы адышліся да сцяны і, узняўшы рукі, абаперліся на яе. Адчуваючы Жанава дыханне, блізка бачачы яго профіль, баючыся зірнуць яму на грудзі, я вымавіла адным і губамі:

— Рыхтуецца правакацыя, Жан. Вялікая правакацыя!.. Яны намыслілі выпусціць ад твайго імя лістоўку. А мне прапанавалі даць падпіску і адправіцца ў лес. Узялі заложніцай сястру. Як быць — згаджацца? Узняць бунт?

Я разумела, гэта дзіка. Здрадзіла, выдала чалавека, а цяпер у яго ж прашу парады. Але мне трэба было яго слова! Трэба было паказаць, што я гатова страшнай ахвярай апраўдацца перад ім, паспрабаваць уратаваць яму жыццё, адвесці чорны паклёп.

Ён прыкрыў вочы.

— А як жа з Эльзай?

— Усё роўна... Іншага выйсця няма!

— Увогуле ты маеш рацыю...— праз момант бліснуў ён вачыма, і плячо яго кранулася мяне.— Але ўжо — ні грана хітрасці, Эма! Гэта — умова. Загад. Раскажаш там праўду. Яна зараз патрэбна не менш, чым мы з табой.

— Таму і крыж? — баючыся, што ён засярдуе, усё-такі спыталася я.

— Які крыж? А-а! Не, да гэтага яшчэ не дайшло...— крыху разгубіўся ён.— Але што ты думаеш? З такім вылюдкам, як Фройлік... можа, і варта — сярод д'яблаў — пабыць праведнікам. Хоць у аднаго мексіканскага мастака, як мне казалі, сам Хрыстос крышыць гэты крыж молатам...

Вось, бадай, і ўсё... Наспех падлячыўшы ў турэмнай бальніцы, мяне выправадзілі ў дарогу. У атрадзе таксама чамусьці спяшаліся. І, калі на Бягомльскі аэрадром з-за лініі фронту прыляцеў самалёт, адразу адправілі з ім. Астатняе, таварыш следчы, вам вядома... Грамадзянін? Ну, што ж. Я само сабой, разумею, што кругом вінаватая...

# ЖЫВОЕ СЯЧЭННЕ

*Маленькая аповесць*

Цяпер гэта здаецца бадай што зданнёвым — такое яно багатае на нечаканасці...

Нашу дэсантную групу, пакуль дапусцілі на лётнае поле і дазволілі грузіцца на «Дуглас», з якога спехам знялі падвешаныя бомбы, два тыдні трымалі на хутары. «Калі вам сваіх людзей не шкада, мне сваіх шкада» — паўтарала Грызадубава, якая ўзначальвала тады Унукаўскі аэрадром, і спакойна спасылалася на якую-небудзь прычыну — надвор'е ці небяспеку на трасе.

Не ведаю, як другія, а я проста пакутаваў. Даймалі думкі аб новым незвычайным заданні: мы ляцелі напомніць ворагу,— так, так! — што кроў людская не вадзіца. Не цярпелася спаткацца з таварышамі, якіх не бачыў амаль паўгода. Што там з Матусевічам, Платаісам, Грышам Страшко? Ці жывыя?.. Хоць пра Матусевіча і Грышу я сёе-тое чуў у Маскве, ды гэта яшчэ больш распальвала мяне.

Але нам не шанцавала. Абсалютна. Калі мы падляцелі і далі круг над расчышчанай партызанамі палянаю, выявілася: прызямляцца нельга, навокал ідзе бой. Праўда, выратаваў камандзір «Дугласа» — ён ведаў яшчэ адну лапіну, дзе можна прызямліцца. «Тут рукой падаць, у чэрвеньскіх лясах»,— бачачы нашы выцягнутыя твары, кіўнуў ён на ілюмінатар. Аднак тое, што ў паветры было «падаць рукою», на зямлі выглядала крыху інакш. Ад Лагойшчыны, дзе мы павінны былі асталявацца, нас аддзялялі дзесяткі пакручастых кіламетраў, чыгунка і аўтамагістраль Мінск — Масква, што моцна ахоўваліся.

Да таго ж, з групы я адзін бываў тут раней. Таму план, як пераадолець нечаканыя перашкоды, аказаўся занадта складаным. А як вядома, дзе складанасць — там новыя цяжкасці. Я згараў ад нецярплівасці.

Але ўрэшце, з прыгодамі, мы дабраліся да Руднянскага лесу, дзе знаходзіўся падпольны Лагойскі райком, пераначавалі ў зямлянках. Ранкам, пакінуўшы рукзак, плашч-палатку, я з праваднікам — ёсць жа ўсяму канец! — ужо спяшаўся ў Буды, дзе, як сказалі ў райкоме, стаяла спецгрупа, прысланая штабам партызанскага руху, і можна было сустрэць Матусевіча, а магчыма, і Грышу Страшко.

## 1

У брамцы, на якую мне паказалі, стаяў пажылы мужчына ў касаваротцы, з непаслухмянымі, зачасанымі назад валасамі. Заклаўшы нагу за нагу і прытуліўшыся плечуком да шула, ён чытаў газету. Нешта сярдзітае праглядала ў яго бледным твары. На маё пытанне аб Матусевічу ён без цікавасці змераў мяне позіркам і, не сказаўшы ні слова, даў прайсці на падворак.

У чыстай палавіне хаты, дзе ўсё, што можна, было пафарбавана і пабелена, я знайшоў адну жывую душу — жанчыну, якая гаротніцаю стаяла ля акна, упершыся лбом у пераплёт рамы.

На мой стук яна не адказала, не зварухнулася і калі я без дазволу пераступіў парог.

Я назваў сябе. Не ведаю, ці заўважыла яна маё замяшанне, ці сёе-тое чула пра мяне, але вейкі ў яе як бы ўспырхнулі.

— А-а-а!.. Праходзьце...— запознена прапанавала яна праз сілу.— Ды Алеся няма. Пайшоў з групай пад Мінск... Праходзьце! — паўтарыла ўжо з большай гатоўнасцю даваць тлумачэнні.— Сёння, відаць, вернецца. Хоць нядаўна праязджалі з «Штурмавой»... Палохалі, што нашы, здаецца, трапілі ў бяду.

— Яны што, бачылі?..— пачаў я, здагадваючыся: перада мной Матусевічыха.

— Не. Але чулі страляніну і разрывы гранат у тым баку.

— Ну і што?

— Гэта праўда...— згадзілася яна, папраўляючы прычоску.— Алесь не траціць розуму, як іншыя!

У голасе яе чуліся сярдзітыя ноткі — яна, відаць, належала да людзей, якія злуюць, калі бяда пагражае іх блізкім. Але ёй самой хацелася верыць: з мужам не здарылася нічога кепскага, і, глушачы трывогу, яна

стала хваліць яго разважлівасць і вопыт таварышаў, што пайшлі з ім.

— А гэта хто? — спытаўся я пра мужчыну ў касаваротцы, які ўсё стаяў у брамцы.

— Не пазналі? Мурашка. Гэта ж Рыгор Мурашка!..— і зноў загаварыла пра Алеся, называючы яго то дзіцём, то хітрушчым-хітрушчым.

— Праз агонь здолеў прайсці...— уздыхнула яна, змахнуўшы пальцам са шчок слёзы і зноў чуць злуючыся.— Алеська, ты мой Алеська!.. А хіба мог ён пагадзіцца з чужынцамі, калі так даражыў сваім? Не мог і замкнуцца ў сабе — ён жа энцыклапедыя хадзячая.

І вы не здзіўляйцеся! Верце ці не, а гэта праўда... Ёсць людзі, якія ведаюць прыроду, гісторыю свайго краю. Трапляюцца, канечне, знаўцы фальклору, этнаграфіі. А ён усё ведае, ён усяго знаўца. А там, дзе веды,— там любоў...

Успомніце пры ім, калі вернецца, ну хоць бы вопытнае поле на Камароўскім балоце. Пабачыце — адразу як падменяць. Слова ўжо не дасць уставіць. Засыпле скорагаворкаю: і што гэта старэйшая балотная станцыя ў былой Расіі — «у Еўропе нават!», і што перад вайною на ёй тое і тое адкрылі. Нездарма штаб РР — і тут жа расшыфруе: рэйхсляйтара Розенберга — вывез у Нямеччыну разам з вучонымі дзве платформы зямлі з яе асушаных палеткаў і пайшоў, пайшоў...

Хоць увогуле, трэба сказаць, закваска ў яго мірная, і ён, вы, мусіць, прыкмецілі ўжо самі, з маруд. Прыходзіць да рашэння паволі, быццам нехаця. Дый наважыўшыся на што-небудзь, не надта спяшаецца.

Я дзівілася нават: чаму б гэта? А потым дайшло, зразумела. За спінаю ў яго — лясная Тхарніца, калі чулі. Камяністыя палі, як скрозь на Лагойшчыне... Праўда, мала хто з нас не паспытаў пастуховага хлеба. Гэта так. Пастухоўства ва ўсіх у нас — пачатковая прафесія. Але не ўсім пастухоўскае, сялянскае ў кроў пранікла. У Алеся ж яно ўкаранілася. Не вырвеш. Было і калі вучыўся, засталося і калі выбіўся ў журналісты.

Ён, калі хочаце, мяне яшчэ да жаніцьбы змусіў машыністкай стаць. Не знайшлося дзяржаўных курсаў, дык на прыватныя ўладзіў. «Хай у руках нешта будзе...» А пачытайце яго перадваенныя «Агні на ба-

лоце», «Пятро Брагінец»... Яны ж усе пра скупую зямлю. Пра тое, што яе трэба прымусіць, каб яна стала шчадрэйшая. І перш за ўсё — наша пакрыўджаная...

А навуку проста грыз. Спярша ў вышэйшай пачатковай. Чыталі пра такую? Настаўнікі там у грамадзянскую і зарплаты не атрымлівалі. Хіба бацькоўскі савет падкіне часам з самаабкладання. І вучоба, канечне, залежала болей ад тых, хто вучыўся, а не вучыў. Але, калі ласка,— паступіў у сямігодку. І не абы-куды — у Мінск! Зрабіла, значыць, сваё тхарніцкая ўпартасць... Ну, а там з такой жа заўзятасцю пісаць пачаў. За старарэжымшчыкаў у лясніцтвах, у зямельных органах узяўся... Аднак першы нарыс, які надрукаваў, называўся «Дзіва на балоце». Во як!.. Ну, а пасля — «Звязда», вучоба на вячэрнім геафаку. На геаграфічным усё ж такі!

Вайна, калі хочаце, і тая застала яго ў камандзіроўцы. Сакратар Акцябрскага райкома паказаў тады яму кавалак солі, здабыты бурам. Рашылі адзначыць, канечне. Але смех — не аказалася чарак. Давялося піць сырыя яечкі і наліваць гарэлку ў шкарлупінне. І пачулі б вы, як пазней расказвалася пра гэтую апошнюю мірную радасць!

Яна змоўкла, каб ціха паплакаць. Але ад гордасці доўга маўчаць не здолела, дый баялася думак, якія гнала ад сябе.

— Знаў ён шмат і пра розных акінчыцаў, што вынырнулі аднекуль,— звяла яна цёмныя бровы, відаць, спахапіўшыся, што дапусціла нешта легкадумнае.— Як міленькіх знаў! З усёй іхняй паднаготнай!

Ведаў і тое, што захопнікам, каб размаўляць з людзьмі, патрэбны адступнікі. Як ты абыдзешся без іх? Хочаш не хочаш — выкалупвай са шчылін, прывозь у абозах.

Ну і прывезлі, выкалупалі. Сталі выходзіць газеты, часопісы. З'явіліся лістоўкі з плакатамі!.. І няма чаго казаць, сваёй хлуснёю шмат у каго адбіралі волю. Таму, калі хочаце, у Алеся і нарадзілася ідэя...

Было тут, магчыма, і жаданне памацаць усё самому, быць сведкам. Ведаеце, які ён?.. Перад тым, як ісці ў выдавецкі ўпраўскі аддзел, з'ездзіў у сваю Тхарніцу, у Мачаны да цёткі. Каб застрахавацца ад нечаканасцей, падшукаў кватэру на Пушкінскім пасёлку, дзе нас не ведалі... І таксама спакваля, па-дзелавому...

Прынялі яго ахвотна. Ім было на руку акружаць сябе людзьмі. Далі Алесю, як ён казаў, ровар, наборшчыкаў, вярстальшчыкаў. Абавязалі вазіць адбіткі цэнзару, у рэдакцыю. А як жа? Тэхнічны рэдактар! Садзіся на гэты самы ровар і каці праз увесь горад. Спачатку на плошчу Свабоды, дзе апартаменты гера Шрэтэра, а потым на Рэвалюцыйную, ці, як па-іхняму, вуліцу Рагнеды — дзе «Беларуская газэта» і кватэра Казлоўшчыка.

Так што ўся кухня адкрылася перад маім Алесем. Вазі ды глядзі. А там ад аднаго гэтага самага Казлоўшчыка вырваць магло.

Пабачылі б, з якой пыхай гэты шляхціц абараняў радкі, што адстаўлялі пры вёрстцы з яго артыкулаў! Як таргаваўся за месца на паласе. «Мае «ўгодкі» падымеш. Во сюды! Хто я табе? А гэтую пісаніну — уніз! Ты кінь мне ўраўнілаўку. Мы яшчэ не ведаем, што ён за беларус... Можа, наогул, прытрымаць трэба...» А пабачылі б, як размяркоўвалі там ганарар, прэміі! Як навыперадкі падхалімнічалі перад Шрэтэрам, усміхаліся, нават стоячы за спінай у яго. Хіхікалі, рагаталі, калі знак падаваў. А потым кожнае кінутае ім слова скланялі. А як жа — устаноўка!.. А што вытвараў Казлоўшчык, каб баяліся яго самога?! Для пісьмовага стала выкапаў недзе мармуровы прыладак, стосы даведнікаў, кніг. Ласку сваю, а значыць, і даброты дарыў адным прыслужнікам. Няхай будзе вядома: ён таксама ўладар і воінскі начальнік. Эліта! А галоўка — як у ката. Што там змесціцца? І, каб падмацаваць сябе, знарок пры супрацоўніках званіў у СД і вёў размовы. «Во з кім маю справу, з самім Шлегелем!» З дапамогай Акінчыца нават Сянькевіча спіхнуў з рэдактарскага крэсла і сеў у яго!..

А той закіпеў, зразумела, стаў у апазіцыю. Але не да гаспадароў. Дзе там! Хоць, помсцячы за няміласць, быццам бы і гуляў у лібералізм. Лез у душу кожнаму — шукаў паплечнікаў ды ахвяр для абвера. «Самакіраванне! — пляскаў па сцёгнах.— Які ім клопат?» Гэта, значыць, пра такіх, як Казлоўшчык. «Дапалі да кармушкі — і здаволіліся!» Нават грáзіўся нейкім Тамілам, які толькі загадай, усё зробіць. «Не звяліся яшчэ людзі. Дзеяць трэба, дзеяць!..» Алесь яго саракушам-жуланам называў. Ёсць драпежнічак такі. Умее спяваць ля разбуранага ім жа гнязда. Засвішча, як бе-

расцянка ці чорнагаловая валасянка, і чакае даверлівых.

І так усе. Як клубок змяіны...

У нас пішучая машынка была. «Ундэрвуд». Купілі мы яе даўно, яшчэ маладымі. Помню, тады іх паступіла ў Мінск усяго дванаццаць. І каштавалі яны неймаверна дорага. Прыйшлося ўлезці ў даўгі.

Ну дык... Вярнуўся Алесь пасля адной са сваіх паездак як палатно... Глянула я на яго і ахнула — няўжо не заўважала раней? — сівізна на скронях! Пачаў сівець залацісты мой. Дый бледнасць пры сівізне, калі хочаце, ой якая страшная! Ну, канечне, кінулася з роспытамі, каб засланіць ад небяспекі. А ён і гаварыць не можа. Толькі калі акрыяў патрошку, выправіў Нату з Адачкай: «Пагуляйце там, каля дому». І адно галавой усё круціў.

— Не магу, Рая!.. Яны горшыя за чужынцаў. Сядай! Вышэй сіл маіх!

Калі я выходзіла за яго, блізкія абывацелі палохалі: глядзі — вёска. Зручна ці не зручна, прыйдзецца ўступаць. А я і тады смяялася: «Ці я камандаваць замуж іду або ваяваць з мужам?» І калі ён браўся за штонебудзь з імпэтам, слухалася безагаворачна. Дый верыла яму. А калі верыш, адразу пачынаеш любіць або ненавідзець тое, што ён любіць або ненавідзіць.

Заміраючы, калі з калідора даляталі крокі ці шоргат, села я за машынку і з горам папалам надрукавала лістоўку... Што паробіш? І прызнаюся: тужыла ўпотайкі па начах — здагадвалася, куды ўсё хіліцца, у думках падказвала сёе-тое.

Самі мяркуйце. Зачасціў Грыша Страшко. Таксама журналіст. Падкупаў мяне якой-небудзь выдумкай. Дзяўчатак даводзіў да віску. Падбіваючы чупрыну, спрачаўся з Алесем. Аднойчы на золку завітаў... Але дзе тыя наіўныя, якія паверылі б, што яму прыспічыла ляцець чуць свет проста так? Калі яшчэ каменданцкая гадзіна!.. Прыязджалі з Лагойшчыны. Зіркалі на вокны, шушукаліся. Бывала, і начавалі. Або... Расказы пра Мурашку. Чуць што — Мурашка ды Мурашка. З якой гэта ласкі? Сухі, нашорстаны. І наогул, быццам застыглы на адной якой думцы. Няўжо толькі таму, што ў яго імя? Што планы былі склікаць нейкі пісьменніцкі з'езд?..

І напраўду... Праз некаторы час Алесь прынёс у кішэні шрыфт.

Браў напачатку з даваеннага набору, што пыліўся ў запасных рэалах. А пасля і з кас стаў прыхопліваць. Ды не думайце, адно той, што трапляў пад руку,— з надзеяй пазней разабрацца. Ого! Не будзь то Алесь! Ён і ў апошні дзень жыцця ад раскладу не адступіць.

Ей зноў не спадабаліся ўласныя словы. Але яна не нахмурылася, як той раз, а ўсміхнулася — хітравата, з лёгкай пагардаю да сябе.

— Але, вядома, слухалася не толькі я...— нібыта згубіўшы думку, праз хвіліну прызналася: — Слухаўся і ён мяне. А маўчалі мы ў такіх выпадках, бо разумелі адно аднаго без слоў. І я раней трошачкі прыбяднялася. Калі бяда на парозе, рупіць прыбядняцца.

Ну, як і трэба было чакаць, за шрыфтамі пайшлі вярстаткі, валікі, пластмаса на абліўку валікаў... У мяне заставаўся адзін клопат — ён, мой Алесь. Як на спружынах стала хадзіць. Прышыла яму патаемныя кішэні ў паліто. Ахоўваючы, як ні пярэчыў, навязала Адачку. Хай бярэ з сабою ў такія дні. Яна ў нас беленькая, мілая — сапраўдны талісман. Узяла на сябе клопат хаваць прынесенае з друкарні.

Дом, дзе мы пасяліліся, драўляны, хоць і двухпавярховы. Каб уцяпліць яго, калісьці насыпалі на гарышча пяску. Дык у ім я і зрабіла схованку. Пажарнай інспекцыі, зразумела, не было, жыхары трымалі на гарышчы розны хлам, сушылі бялізну. Так што возьмеш таз, пакладзеш Алесеў здабытак, кінеш паверх бялізну і лезеш, як па гаспадарчых справах.

І пахваліцца магу — ой, якімі дружнымі мы адчувалі сябе тады! Як хораша размаўлялі, смяяліся! Паглядзім адно на аднаго і смяёмся. Не бянтэжыла нават — ці не ўпустую ўсё! Ці не занадта далёкая мэта пастаўлена? Вайна ж! Дый дзеці!.. А калі адправілі назбіранае багацце ў Манылаўскі лес, цешыліся, быццам самі дзецьмі былі... Ох!..

І ўсё-такі, як аказалася, дасюль яна бадзёрылася — саромелася паказаць слабасць. Але, бачачы, як я слухаю яе, усё больш рабілася сабою.

— Дзе ж тут справядлівасць? Дзе? — выгукнула раптам з надрывам.— Хіба цяпер майму залатому пагібаць?.. Вернецца — не адстану, хоча ці не, няхай бярэ наступны раз з сабой.

## 2

Яе чыста жаночая логіка перақанала мяне больш, чым што. Я рашыў чакаць Алеся — праўду іншы раз прымаеш душою. Дый проста я не меў права рабіць інaчай.

Пасцель мне, калі стала змяркацца, паслалі ў гумне, на духмяным, коўзкім сене. Паклаўшы пры баку аўтамат, слухаючы пяшчотны піск ластавак, я настроіўся заснуць. Хораша думалася пра Раісу Сямёнаўну, уяўлялася, як заўтра сустрэнемся з Алесем. Здзіўляла — чаму гэта немцы не чапаюць Будаў?.. Дарэчы, падобнае неразуменне апаноўвала мяне і ў самалёце. Калі мы перасякалі лінію фронту, у цемрадзі, нагадваючы жураўліныя кліны, засвяціліся кастры партызанскіх аэрадромаў. Чаму немцы даюць ім гарэць? Рукі не даходзяць? «Ага!..»

Я ўжо засынаў, калі пачуў, што нехта сіліцца ўзлезці да мяне на сена.

— Хто там? — спытаўся я наўмысна па-нямецку.

— Свае,— як здалося, непрыхільна азваўся мужчынскі голас.— Захацелася пажупіць, як кажуць у нас на Случчыне.

Раней я не чуў яго голасу, але пазнаў — Мурашка.

— Давайце руку!

Ён узлез, дыхаючы з прысвістам, сеў у нагах. Сабіраўся быў закурыць, але адумаўся.

— Няўжо яны сапраўды напароліся на засаду? — спытаўся, быццам я хаваю ад яго нешта.— Алесь — цяпер самы блізкі мне чалавек. Хоць дружба ў нас не такая даўняя...

Адчувалася: нашорстаны дагэтуль Мурашка, як бы ўспомніўшы — яму варта быць дабрэйшым, паступова мякчэў і сам ужо напрошваўся на споведзь.

— Звяздоўцы заўсёды былі навідавоку,— праз хвіліну загаварыў ён.— І Алесь, зразумела. Па карэспандэнцыях, па рабоце ў сельскім аддзеле. Машыністак ведалі па машынным бюро. Бывала, Раіса Сямёнаўна слухае, што ёй дыктуеш, перамаўляецца з другімі, а як забавішся сам, адразу прыспешвае: «Давайце! Далей! Давайце!» Прыкмячалі нават іхнюю малую Адачку. Чысценькую, з вачанятамі-незабудкамі, з коскамі, шаўкавісцейшымі за кужаль.

Нельга сказаць, каб Алесь лёгка ішоў на збліжэнне. Наадварот, як бы ахоўваў у сабе нешта запаветнае, да якога падпускаюць не ўсіх. Але да мяне цягнуўся...

Ён, бачыце, употай ад жонкі ўсе рэспубліканскія газеты павыпісваў. Богатварыў друкаванае слова. І сваю павагу да яго, зразумела, пераносіў на нашага брата. Чытаў майго «Сына», «Салаўёў святога Палікара», ведаў біяграфію. Дый людзям, відаць, даецца чуццё, якое падказвае, як ставіцца да іншых сабе падобных. Псіхалагічная сумяшчальнасць ці несумяшчальнасць, так сказаць. Яны дзейнічаюць.

У той час я адважыўся і пачаў друкаваць у газеце аповесць «Насуперак лёсу». У аснову яе сюжэта паклаў дзейнасць славутага анархіста на Гомельшчыне. Савіцкага. Чулі, пэўна? Хаваючы між слоў задуманае, распісваў яго экспрапрыяцыі і выдатны талент канспіратара. Разумееце, канспіратара?.. І, сустракаючыся з Алесем у рэдакцыі, мы часцяком гаманілі пра ўвішнасць майго героя.

— «Насуперак лёсу»,— ківаючы галавою, ухмыляўся Алесь.— Па-мойму, прыдасца каму-колечы.

— Я пісьменнік-прафесіянал, у мяне адна песня,— падкуплены, што цябе разумеюць, прызнаўся я.— Задумаў яшчэ рэч — «Таварышы».

— Таксама не шкодзіць напомніць сяму-таму...

Аднойчы мы разам выйшлі на вуліцу. З настаўленымі каўнярамі падаліся да плошчы Свабоды. Я — трымаючы пад пахаю папку з рукапісамі, якую баяўся пакідаць дома, ён — ведучы неразлучны веласіпед.

Па небе насіліся хмары. Над абязглаўленай вежай ратушы са шкілетам гадзінніка кружылі галкі. Прахожых не было. Дарогу перабег толькі жоўты шалудзівы сабака, як шалёны, апусціўшы морду і хвост. Але мы ўсё роўна збочылі ў сквер і селі на лавачку.

Я прывык к Мінску, любіў яго. Разбураны горад прыгнятаў мяне. Рабілася горка, трывожна. Я сказаў пра гэта Алесю.

— Вядома,— згадзіўся ён.— Але затое ёсць дзе хавацца... Як падабаецца вам пісаніна Казлоўшчыка? Знарок спекулюе на самых нізкіх пачуццях. Дзе ў яго сумленне?

— А навошта яно? — спытаўся я, прыняўшы яго шчырасць.— У кішэні пісталет, кніжачка, куды запісвае анекдоты і дадзеныя аб палітычна ненадзейных.

Прыехаў у гарнітуры, перашытым з польскай уніформы, а цяпер, нябось, у доме — як у камеры хавання на вакзале.

Алесь, пэўна, чакаў ад мяне такіх слоў. Ды яны і пераконвалі яго ў нечым. Крутнуўшы педаль веласіпеда, які прыставіў да лавачкі за спінай, задумаўся.

— Ён жа сам сябе ставіць па-за ўсякім законам... А неўзабаве з Берліна прыбудзе яшчэ папаўненне. Яго павадыр прывязе партыю гадунцоў, каб паставіць на ключавых пазіцыях.

Не было сумненняў — Алесь наважыў нешта рабіць або ўжо рабіў: адкуль такая дасведчанасць? Але адначасна і падумалася: дзейнічае ён, хутчэй за ўсё, адзіночкай. І гэта, мабыць, з недавер'я да людзей. З імкнення быць самастойным. Бо бачыў, як і я, правалы. А мо праславутая прабуксоўка колаў — як у паравоза, што мусіць цягнуць цяжкавагавы састаў.

Наіўнасць!.. Мне захацелася памагчы яму, засцерагчы ад скараспелых рашэнняў. Колькі людзей гіне, кідаючыся на ворага стрымгалоў. Усе ахвяры праз гэта. А ў мяне ж сякі-такі вопыт з грамадзянскай. І, каб ліквідаваць недамоўкі, я сказаў:

— Гэты Акінчыц выдаваў нашых людзей, яшчэ калі быў юрысконсультам Грамады. Праўда, яго судзілі пасля разгрому. Далі восем гадоў, але мігам выпусцілі. Спрактыкаваны...

— Ведаю,— ухмыльнуўся Алесь.

— Пасля баёў на Халхін-Голе вербаваць прыхільнікаў у Вільню прыязджалі японцы з консульства. Дык ён і з імі ўстанавіў кантакт! А потым з Казлоўшчыкам ля граніцы залажыў кодла, каб перапраўляць да нас гітлераўскіх паскуднікаў. Буду жыць — напішу.

І ўсё-такі, гаворачы гэта, я раптам адчуў... У мяне з'явілася адчуванне, што я бягу за нечым і адстаю ад яго. Бягу і адстаю...

Праз тыдзень сапраўды прыехаў Акінчыц.

Мы з Алесем якраз сядзелі ў рэдактарскім кабінеце — як і было заведзена пры пісьмовым стале, насупраць гаспадара, які з сур'ёзна-важным тварам высоўваў і засоўваў шуфляды ў стале.

Не заўважаючы яго зіркаў, я маляваў ветракі на палях газеты, што ляжала пад рукамі. Алесь, як потым я здагадаўся, хітра чакаў, што з гэтага будзе. І дачакаўся. Не могучы пераносіць маёй вольнасці, Казлоў-

шчык чмыхнуў і выхапіў з сярэдняе шуфляды лісток паперы:

— На, малюй, калі не церпіцца!..

І тут жа паружавеў. Усхапіўшыся, крануўся быў ісці з-за стала. Але раздумаў і абапёрся на яго растапыранымі пальцамі.

Я бачыў партрэт Акінчыца ў «Чырвоным сейбіце». Яшчэ ў дваццаць шостым. І, трэба сказаць, ён мала змяніўся. Той жа пануры вузкаваты твар з трагічна ўзнятымі бровамі, тыя ж каротка падстрыжаныя вусы, востры падбародак. Набытымі былі хіба вера ў сябе ды прыхаваная пагарда, што цьмяна свяцілася з вачэй. Высокі, яшчэ дужы, ён выслухаў вітанне, стоячы ў дзвярах, і толькі пасля, гледзячы на аднаго Казлоўшчыка, рушыў да стала-трыбуны і пацiснуў працягнутую яму руку.

Трымаючыся на ўзятым парадным узроўні, Казлоўшчык пакланіўся і назваў нашы прозвішчы.

— Матусевіч? — зморшчыў рот Акінчыц, глянуўшы скоса на столь.— Мурашка? Не так даўно чытаў... Аднак не ведаю, каму спатрэбілася навучаць бандытаў і цікаўных разявак правілам канспірацыі. Навошта наогул зараз штурхаць думкі ў гэтым кірунку?

На твары ў яго, пад туга нацягнутай скурай, варухнуліся жаўлакі — ён узбуджаў сябе.

— Хочацца засцерагчы ад правалаў? Бо вызвольнікі ўжываюць крайнія захады? А? — вырак ён.— Інтэлігенцкая слізіна-гнілоцце! Ні больш ні менш. Бо як ты не будзеш страляць у тых, хто не можа ачысціць сябе сам? Што загадаеце рабіць з народамі, якія далі ачмурыць сябе і адмаўляюцца супрацоўнічаць з тымі, хто нясе ім вызваленне, свабоду?

Алесь сядзеў, паклаўшы вузлаватыя, як у селяніна, рукі на калені, і толькі варушыў пальцамі. Літаральна за хвіліну дасюль, пакутуючы, ён расказваў мне пра трагедыю, што спасцігла вёску Паніжэўшчыну — суседнюю з яго роднай Тхарніцай. Эсэсаўцы перабілі там усіх мужчын у сем'ях, з якіх хто-небудзь пайшоў у партызаны. Мелі, бясспрэчна, спісы, нарыхтаваныя памагатымі, але выстраілі паніжэўцаў на вуліцы і наладзілі спектакль. Хадзілі ўздоўж радоў, заглядалі ў вочы і паказвалі пальцам. Во якія, маўляў, пільныя — бачым вінаватых навылёт!

Мне за сорак, я таксама мужыцкі сын, за спінаю не адна гэтая вайна, але мне стала страшна за Алеся. Аднак ніводзін мускул не здрыгануўся на яго твары. Вось як!

А праз дзень Шрэтэр учыніў яму наганяй. Крывячы поўныя вусны, злуючыся, што сам заўважае, як бязбожна нявечыць мову, перакрэсліў усе загалоўкі на першай старонцы.

— Тут!..— застукаў алоўкам па паласе, глытаючы словы, каб неяк прыхаваць сваё бяссілле.— Тут гаворыцца аб зямлі, якую мы... гм, наважылі, вярнуць баўэру... Так? А вы, гм, скупіцеся. Чорт!.. Дзе вялікія літары? Расцягалі?.. І перадайце там, каб гэтым «Насу-у-перак лёсу»... як тут кажуць па-вашаму?.. закругляліся. Каб у наступным нумары, гм, друкавалі канец... Ферштейн?..

Калісь я пытаўся ў Алеся: якое, перад усім, пачуццё ён вынесе з вайны? Ён тады адказаў — прагу. Каб спыталіся ў мяне, я адказаў бы іначай — вытрымку і голад. Жылі мы з жонкай цяжка. Спусцілі на таўкучцы, што было можна і няможна. Я разумеў: Шрэтэрава забарона — гэта падазрэнні і новыя выпрабаванні-нястачы. Але прыняў факт па-філасофску. Пачуўшы навіну ад Алеся, я, даю слова, засеў за «Таварышаў». І хоць даводзілася лавіраваць, працаваў з трапяткой радасцю. «Ага, разгадалі — дайшло! Значыць, даходзіла і да другіх — каму адрасавалася!» І няхай калісь скажуць: «Друкаваўся бог ведае дзе»,— усё роўна пісаць! У гэтым адна апора, адзінае выйсце. І няхай «Таварышаў» таксама прыкрыюць; мне, можа, удасца хоць словам перакінуцца з тымі, дзеля каго жыву. Я забыўся, што такое свежае паветра...

Сустрэліся мы з Алесем праз некалькі месяцаў. На Камароўскіх вілах, непадалёку ад танка, што стаяў там з пачатку вайны. Вялікі, трохвежавы, ён прабіўся амаль праз увесь захоплены ўжо немцамі горад, але тут знерухомеў, акамянеў. І нямецкія салдаты, якія пасля праязджалі паўз яго, не праміналі выпадку сфатаграфавацца.

Я стаяў і назіраў якраз за адным такім выпадкам. З пад'ехаўшага бронетранспарцёра саскоквалі салдаты. Заліхвацка папраўлялі пілоткі, рамяні на шынялях — рыхтаваліся ўвекавечыць сябе ля некалі грознай машыны. Алесь і вёрткі чупрыністы хлопец падышлі ня-



Выступленне Уладзіміра Карпава
на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі.
У прэзідыуме на пярэднім плане:
Пятрусь Броўка, Юрый Збанацкі.
27 красавіка 1971 года.



Адна з сустрэч на партызанскай Лагойшчыне.
У цэнтры — былы сакратар Лагойскага падпольнага райкома партыі Герой Савецкага Саюза Іван Мацвеевіч Цімчук (прататып Зімчука ў раманах пісьменніка).
Злева ад яго — Герой Савецкага Саюза Марыя Барысаўна Осіпава.
Другі справа — Уладзімір Карпаў. 1963 год.

чутна, і я ўздрыгнуў, калі Алесь дакрануўся да мяне.

— Учора тут адбывалася яшчэ страшнейшае,— дыхаючы мне ў вуха, сказаў ён сіпла.— Вешалі, а потым здымаліся. Любяць яны гіпнатызаваць сябе.

Ён схуднеў зусім. Уваччу паблісквала вінаватае, сярдзітае святло. Знаёмыя мне аўстрыйскі капялюш і дэмісезоннае паліто сядзелі на ім як чужыя.

— А знаеце, што асуджаны крычаў людзям, калі яго цяглі к вісельні? «Чаго вы гледзіцё? Абурайцеся! Чаму вы не абураецеся?»

— Усіх не перавешаюць! — аскірзнуўся хлопец, неяк кулаком, быццам у яго была не рука, а кукса, ускудлаціўшы чупрыну.

— Спакойней, Грыша,— папрасіў яго Алесь.

— А што тут такога?

— А тое, што ў падобных месцах панатыканы вочы і вушы,— не вытрываў я, злуючыся на яго разухабістасць і ўяўляючы перажыванні чалавека, якога валаклі на смерць.

— А як жа тады быць са словамі вісельніка?

— Гэта праўда — усяму ёсць мяжа,— панурыўся Алесь.— Я таксама папярэдзіў рэдакцыю, што кідаю работу і еду настаўнічаць на вёску.

Я адчуў галавакружэнне.

— Зразумела...

— Але па-сапраўднаму зразумеў я сваё і Алесева становішча пазней — калі марозным лютаўскім днём ён, задыханы, прыбег да мяне дамоў.

Я перадрукоўваў «Таварышаў». Спяшаўся скончыць, каб потым, не дакараючы сябе хоць у гэтым, ісці, як мусіў, банкетаваць.

Справа ў тым, што «эліта» парашыла адзначыць выхад сотага нумара «Беларускай газэты». Падвярнуліся і грошы — вялікім тыражом выпусцілі «Каляндар». Ну, а раз так — само сабой напрашвалася бясплатная ідэйная выпіўка з закускай, якая, апроч усяго, на думку яе ініцыятараў, павінна была кансалідаваць сілы, падаць сяму-таму надзею самому выбіцца ў «эліту». Што ж тычылася маёй асобы, то мне наогул не было як адмовіцца — гэта канчаткова дэмаскіравала б мяне. Да таго ж, у Мінск з новай партыяй гадаванцаў і ідэяй стварыць раду зноў завітаў Акінчыц.

Таму, натуральна, словы, якімі Алесь пачаў размову, выклікалі ў мяне прыкрасць.

Адмовіўшыся сесці, ён прыклаў палец к губам. Спытаўся на мігі, ці адны мы, і кінуў знячэўку, як загад:

— Сёння ты, Рыгор, нікуды не пойдзеш.

— Чаму? — не надта ветліва пацікавіўся я.

— Дазволь не тлумачыць...

Я пацепнуў плячыма, крутнуўся і адышоў да акна. Як цяпер помню — убачыў жоўтага сабаку, які з апушчанымі мордай і хвастом перасякаў вуліцу. «Няўжо той самы?» — з прымхлівым страхам цюкнула ў галаву, і я зазлаваў.

Алесь ашчарэпіў мяне за плечы.

— Ну, добра. Слухай!.. Спачатку і мне думалася: яны людзі. Аслеплі ад самаўлюбёнасці, дый мазгі набакір. Цяпер жа ведаю: маразм; і, каб бараніць жывое, патрэбны не адны словы!

Калі мы селі, як змоўшчыкі, схіліўшы галаву к галаве, ён, разумеючы, што значыць зараз для мяне давер'е, палагаднеў. Глухавата ад пераэкытага ўзрушэння загаварыў пра Сталінград. Пра неабходнасць аддаць столькі энергіі, колькі яе аддаюць на фронце, пра тое, што верхаводы збіраюцца стварыць корпус самаааховы — інакш кажучы, развязаць міжусобіцу.

— Разумееш...— сышоў на ледзь чутны шэпт.— Я сустрэўся з чалавекам з Вялікай зямлі, і ўсё неяк стала іначай...— Прызнаўся: жонкі з старэйшай дачкой у горадзе ўжо няма. І, калі пашанцуе, праз колькі гадзін ён сам, Адачка і яшчэ адзін таварыш — «Помніш, ля танка?» — пададуцца следам...

А я слухаў яго і мучыўся — знішчаў сябе і зайздросціў яму. «Аддаць столькі энергіі, колькі яе аддаюць там! — ліхаманкава думаў.— Пара, Рыгор, пара!.. І напісанае як мага хутчэй адпраўляй на святую зямлю. Хай ведаюць, з кім ты... Хоць, безумоўна, вучыць людзей, як захоўваць сябе ў барацьбе, мала... Але ж і канец яшчэ далёка!..»

І вось што атрымалася! Алесь быццам бы не гуртаваў вакол сябе людзей, але тыя, каму даводзілася быць поруч, міжволі ўцягваліся ў барацьбу...— уздыхнуў Мурашка.— Ну, ладна, спіце. А гэта вам газета. Прагледзьце заўтра. Ён яе ў Манылах заснаваў... Ніхто, вядома, думаць не думаў, што гэтая кальчужка таксама будзе яму замалая, што яго пацягне вось сюды, у спецгрупу, і ён адгадуе бараду, набудзе жоўтую скуранку...

## 3

Прыжмурыўшыся, я з прыемнасцю крэкнуў і расплюшчыў павекі. Сям-там страха свіцілася, і ў гумне панаваў сіняваты морак. Непадалёк, на прутку ад паплецiны, шчабятала ластаўка. Святло падала на яе, і было відаць, як трапечацца белая ластаўчына шыйка. Недзе перарывіста ныў «фоке-вульф». Але зусім не верылася, што вайна блізка.

Раіса Сямёнаўна прынесла вады, ручнік. Палівала моўчкі, прыслухоўваючыся да гудзення «фоке-вульфа». За ноч яна, пэўна, не звяла вачэй, асунулася, счарнела. Было аж не па сабе — як гора можа знішчаць чалавека.

— Збіраюцца ісці ў пошукі майго залацістага-серабрыстага,— паведаміла, беручы ад мяне ручнік і цярэбячы яго канец.— Кажуць: калі забілі, кінуць на месцы. Хіба замініруюць толькі. Ох!..

— Не трэба. Ніхто ж не бачыў нават, што яго ранілі.

— Во і па-мойму... Хоць я і папрасілася... Мурашка таксама сабраўся...

Прысутнасць мая станавілася лішняй. Было не да мяне. У словах Раісы Сямёнаўны чуліся адчужанасць, дакор. «Чаго табе яшчэ? — як бы пыталася яна.— Ты жывы, а ён трапіў у засаду і, можа, мёртвы. Чаго ты чакаеш мёртвага? Мала табе, што сам жывы, а ён мо загінуў?»

Пацалаваўшы ёй руку, якую яна не давала падносіць да губ, я адмовіўся ад снедання і пайшоў з Будаў.

Але за ваколіцаю мяне дагнаў Грыша Страшко. Цяжка дыхаючы, абняў, прытуліў галаву да майго пляча.

— Лепей бы мяне... калі гэта абавязкова!..

— Пачакай, што вы як згаварыліся. Алесь не з такіх, каго можна хаваць загадзя,— суняў яго я.— Мне трэба высветліць некаторыя акалічнасці, і ты памажы мне. Можа, захочацца і перайсці да нас.

— Я разумею, разумею...— заспяшаўся Грыша.— Цябе цікавіць банкет? Вядома... Алесь кідаўся як у клетцы. А тут бяда па бядзе — спалілі Тхарніцу, выбілі сям'ю цёткі ў Мачанах, праз якую перапраўлялі друкарскае абсталяванне... І да ўсяго — заданне... не выкананае!..

Я ўзяў яго пад руку і павёў да недалёкай крушні дзікага каменю, сабранага перад вайной з прыдарожнага поля. Пасадзіў, прымасціўся сам.

— Няясна? — вінавата здагадаўся ён.— Ну, я буду спакойней. Бачыш... Калі ўсё падрыхтавалі, Алесь раптам адкрыў нечаканае. Аказалася, каб надаць банкету дэмакратычнасць, на яго запрасілі і проста так. Ясна? Алесь, само сабой, аж жахнуўся... Спадзеючыся, што не ўсё яшчэ прапала, пабег папярэджваць некаторых...

Я, праўда, не падзяляў ні мук яго, ні захадаў. У вайны свае законы. Агонь выклікаюць і на сябе. Але ён слухаць не хацеў.

— На сябе — калі ласка! — бубніў.— У крайнім выпадку — на дзяцей сваіх, як мая Рая. Але не на тых, хто ні ў чым не вінаваты і, значыць, нічога не знае. Дзеля каго ж мы ваюем тады?

І калі ўбачыў за бяседным сталом знаёмую дзяўчыну-наборшчыцу, звяў. Беспаваротна, як сам потым прызнаўся.

Я, канечне, разумею — з яго характарам нялёгка даводзілася... А тут яшчэ банкетаваць з брыдой, піць пад антысавецкія тосты, усміхацца і ведаць: сам упускаеш зручны выпадак, які наўрад ці падвернецца яшчэ.

Дый усё як бы павярнулася яму на злосць. Захмялелы Казлоўшчык неспадзявана загарэўся сімпатыяй. Падсеў, палез з пацалункамі. Угаворваў нікуды не ехаць. А калі разыходзіліся, забыўся на апекуна і пацягнуўся разам. Ішоў і рагатаў ад уласных здрадніцкіх планаў. Уяўляю, што было з Алесем, калі яны параўняліся з «опель-капітанам», які прыслалі тваё хлопцы для страхоўкі!

Я маладзейшы. Да вайны зваў Алеся дзядзькам. Яшчэ зялёным газетчыкам, пасля КІЖа, сустракаўся з ім у гасцініцах, на аб'ектах. Але і тады з ім добра было. Карцела большага, лепшага... А ў вайну і гаварыць няма чаго.

Сам я раскіданы трошкі — ёсць грэх. Нават уступіўшы ў барацьбу, браўся то за адно, то за другое. Дый гэта здавалася нейкім несапраўдным. Быццам ёсць і быццам няма. Працуючы ў магазіне, адпускаў падпольшчыкам хлеб на падробленыя карткі. Забяспечваў партызан соллю. Раздабыўшы «Звязду» пускаў па руках. Але і гэта рабіў гуляючы, бо не мог не рабіць.

Не ведаю, што гэта і было. Абмежаванасць? Насланнё?.. Алесь раскатурхаў мяне, пацягнуў за сабой. У мяне, як кажуць, з'явілася другое дыханне. І, можа, таму... я і разышоўся!..

«Вось табе суд! Вось табе кара!» — падумаў. Ён жа, па сутнасці, перакрэсліў усё ранейшае. Парушыў уласнае слова! Адмовіўся ад магчымасці, якую абавязаны быў скарыстаць! І з-за чаго? З-за мяккацеласці. Быццам тыя, што выклікаюць агонь на сябе, заўсёды адны? Быццам не бамбяць захопленых ворагам гарадоў? Не ўзрываюць сваіх электрастанцый? Не пасылаюць салдат на верную смерць?.. Ці не прасцей тут усё? Здрэйфіў і выдумаў прычыну!

Разумеючы, чым гэта можа кончыцца, я, аднак, знайшоў хвіліну і выпаліў яму ўсё ў вочы, хоць з лесу па нас і прыбыў пасланец.

Чакаў, канечне, выбуху, разрыву. Але мой Алесь толькі пакутліва скрывіўся:

— Ладна! Памагай во, няўрымслівы...

Што заставалася рабіць? Мы пагрузілі на сані сякія-такія рэчы, захуталі ў коўдру Адачку... Раісу Сямёнаўну знайшлі ў невялікай вёсачцы Палеткі. Але тут падзеі завіравалі яшчэ хутчэй. Праз гадзіну да нас прыскакаў камандзір атрада «За бацькаўшчыну». Потым са світай — камбрыг «Штурмавой». А на світанні мы ўжо майстравалі касы, сартавалі шрыфты. Знайшоўся самавук-рэзчык, які ўзяўся за загаловак.

Аднак... Ты чуеш? На маю радасць, Алесь і гэтым разам застаўся Алесем. Здорава выйшла. Як па-пісанаму. З Мінска прымчала яго пляменніца і, захліпваючыся, адрапартавала, што ў горадзе арыштоўваюць настаўнікаў. Не, ты слухай, слухай. І вось, каб задаваць у гэтым тон, Акінчыц адтэрмінаваў свой ад'езд. Нават, каб было зручней і ўсё было пад рукамі, перабраўся з гасцініцы да Казлоўшчыка. Во як!.. Прысаромлены, я выбраў момант і папрасіў Алеся ўзяць мяне з сабой. Ён, вядома, бачыў, якімі вачыма глядзеў я на яго пры гэтым, як чакаў яго слоў. Здагадваўся, канечне, і пра тое, што думаў аб ім хвілінку назад. Чуеш? Заўважаў, здагадваўся, але... Мяне аж скаланула, калі ён даў адказ:

— Ладна, паедзем. Ты мне патрэбны... як і Мурашка. Але май на ўвазе: падазрэнні ў іх цяпер могуць быць падмацаваны фактамі. Даходзіць?

Я кінуўся абдымаць яго, але ён не даўся:

— Добра, пасля. Папраў во чуб. Не такая гэта, Грыша, прыемная справа,— дадаў стаічна.— Дый ці пераканаем яшчэ камбрыга. У яго таксама ёсць планы, што і як рабіць...

Выехалі мы ў нядзелю — «на рынак». І ведаеш, што запомнілася? Неба і снег, якія трошачкі асадзілі сонечныя промні. Узімку, бачыш, снег адбівае іх. А вось напрадвесні сонца ўжо кранаецца... І, мабыць, гэта і ёсць пачатак усяму.

Прыкметы вясны расчулілі Алеся. Ён проста ўбіраў іх у сябе, і, седзячы спінай да партызана-фурмана і жанчын, якіх усё-такі далі нам для маскіроўкі, не адрываў позірку ад снегу, ад неба на даляглядзе.

Мне надта хацелася стаць упоравень з ім. Але я адчуваў: бракуе нейкай сілы. Ці не той, якую даюць выпрабаванні, пакуты? Мая ж біяграфія пакуль што змяшчалася на лісціку сшытка... Рыпеў снег пад палазамі, фыркаючы, даволі жвава трухала наша кабылка, а мне і гэта здавалася, бадай, несапраўдным, падстроеным — як у дзіцячых забаўках. Не, я часамі ўспамінаў, куды і чаго мы едзем, але хутка забываўся і ахвотней думаў аб сабе, аб тым, як складзецца пасля маё жыццё.

Нешта ад забаўкі бачылася і ў самім нашым плане. Аўтамашыну мы раздабудзем па паролю, які ты некалі даў Алесю. Потым, назаўтра, пад'едзем да дома, дзе жыве спадар Казлоўшчык. Зойдзем да яго ў кватэру, раскідаем падрыхтаваныя лістоўкі з абвінавачваннем і, калі не здасца па-добраму, будзем страляць... І зусім ігнаравалася, што супроць дома — гарадская паліцыя. Што побач з кватэрай Казлоўшчыка — рэдакцыя газеты, а на ніжніх паверхах — кіно «Навіны», салдацкія казармы з каравульнай службай. Стрэлы могуць успалашыць і вартаўнікоў, і салдат, і паліцаяў... Дый нам проста могуць не адчыніць дзверы, бо ў іх даўно прасвідравана вочка. І калі *яны* сапраўды сабралі факты, *ім* даволі пазнаць Алеся...

Мінск адкрыўся нам ураз, як толькі ўз'ехалі на пагорак. Я глядзеў на знаёмыя гмахі Акадэміі навук, Дома ўрада, і сэрца маё шчымела ад замілавання. Я і не думаў, што яны такія дарагія мне!

Перагаворы наконт машыны Алесь вёў з загадчыкам гаража Дома друку — хударлявым, старанна паголеным чалавекам з пустым рукавом, засунутым у кі-

шэню паношанага паліто. Гаварыў той як бы нехаця, словы вымаўляў з прыціскам і аб тым, што ён прыбалт, можна было здагадацца па напружаных рухах губ.

Яго спакойная дысцыплінавасць — ён нават не спытаўся, навошта нам аўтамашына,— зусім акрыліла мяне. Канечне, усё пойдзе як задумана, як павінна ісці! Бо як жа іначай? За нас жа ўсё — і людзі і справядлівасць! І хоць Алесь заставаўся насупленым, быццам рашаў цяжкую задачу, у грудзях у мяне заценькаў зухаваты матыў: «Фіць! Фі-іць!..» І гэты прыўзняты настрой, калі, здаецца, само мора па калені, не пакідаў мяне ўвесь астатак дня і потым у сне.

Калі мы пад'ехалі да злашчаснага будынка, мяне ўжо нішто не бянтэжыла — ні матацыклы з кулямётамі на процілеглым баку вуліцы, ні вартавыя-бобікі ў пад'ездзе.

Пакінуўшы машыну ля ўвахода, мы па драўлянай заследжанай лесвіцы падняліся на трэці паверх. Прыслухаліся. Дом спаў. Толькі на вуліцы, чуваць было, тахкаў матор нашай машыны — шафёр не выключыў.

З гэтага моманту я жыў як у сне, хоць усё заўважаў надзіва востра. З'явілася здольнасць назіраць за сабой як бы збоку, распараджацца сабою, як распараджаюцца другім чалавекам.

Дзверы ў рэдакцыю аказаліся незамкнутыя. Страхуючы адзін аднаго, мы пайшлі па пакоях. Нідзе нікога не аказалася. Але ў рэдактарскім кабінеце наткнуліся на бабульку. Выпнуўшы жывот, яна несла пішучую машынку да прысадзістай тумбачкі.

Магчыма, я памыляюся і гэта прыйшло пазней, але... Мне здалося, што сцены, рэчы ў пакоі, бабулька з перавязанай шчакою — пэўна, балелі зубы — заліты святлом, а сам я ступаю па мяккім дыване.

«Ну, ну»,— падагнаў я сябе і закамандаваў:

— У крэсла, бабуля! Ша! — І, шукаючы, як бы мацней ашаламіць яе, адзначыў сабе, якая яна нечаканая ў гэтым казённым, застаўленым масіўнай мэбляй кабінеце.

Алесь, які, нібы ведаючы, прыхапіў з кватэры, дзе начавалі, нож, перарэзаў тэлефонны шнур, паклаў на пісьмовы стол лістоўкі.

— Цяпер хадзем — рашуча сказаў мне.

Вузкім калідорам мы падаліся да дзвярэй з вочкам.

Паправіўшы капялюш, Алесь націснуў кнопку, і за дзвярыма, як здалося, далёка-далёка дзынкнуў званок.

— Хто-о та-ам? — урасцяжку спытаўся заспаны голас.

Пакуль што ўсё ішло амаль па плану.

— Гэта я, Матусевіч,— азваўся Алесь.— Прывёў, спадар рэдактар, чалавека замест сябе.

— Хвілінку...

Але у дзвярах тут жа пстрыкнулі замкі. Адзін, другі. Бразнуў ланцужок — дзверы, мусіць, адмыкаў нехта іншы.

Мы ўваліліся ў застаўленую шафамі пярэднюю. Перад намі ў цёмна-шэрай піжаме, якая рабіла яго яшчэ вышэйшым, з кіслым ад сну тварам стаяў Акінчыц.

— Які дурань прыходзіць у такую рань? — зморшчыўся ён, відаць, спецыяльна для гэтага настаўлення адчыніўшы дзверы.— Цяжка прывыкаць да парадку? А?

Ён, відаць па ўсім, чакаў, што мы, камечачы шапкі, спынімся ля парога, папросім прабачэння. Ды Алесь, нібы словы адрасаваліся не яму, насунуў глыбей капялюш і прайшоў у пакой.

Мне і раней кідалася ў вочы Алесева ўпартасць. Яна дадавала яму сілы, была нейкай спружынай, ці што. Цяпер жа гэта ўпартасць нібы акасцянела ў ім, выпрастала яго, зрабіла тут гаспадаром.

Гэта адчуў і Акінчыц.

— Назад! — закрычаў ён, кінуўшыся следам.— Дзе вы знаходзіцеся? Уладзік, сюды! А я пазваню...

— Выконвай прысуд, Грыша! З такімі не дагаворышся! — нібы пашкадаваў Алесь.

Выхапіўшы пісталет, я стрэліў. Акінчыц ікнуў, адступіў на крок. Але, зрабіўшы намаганне, стаў падаць не да мяне, куды хіліла, а да Алеся — зразумеў: справа ў ім. Падцягнуўшыся на локцях, схапіў яго за ногі. Алесь стрэліў таксама.

У гэты момант я заўважыў Казлоўшчыка. Трымаючыся за ручкі дзвярэй, ён выглядаў з суседняга пакоя. У руцэ ў яго ўздрыгваў вальтэр. Я зноў ускінуў пісталет і, не цэлячыся, націснуў спуск. Аднак стрэлу не пачуў. Аказваецца, пры падачы перакасіла патрон. Казлоўшчык дробненька заморгаў і, быццам нехта, не даючы пераступіць парог, ірвануў яго назад, ляпнуў дзвярыма з французскім замком...

Рабіць тут больш не было чаго. Раскідаўшы рэшту лістовак, Алесь пацягнуў мяне з кватэры. І ў час. Прашываючы дзверы, за якімі знік Казлоўшчык, у нас паляцелі кулі. Але, чэснае камсамольскае, мне ўжо здавалася, што небяспека мінулася. Я нават прапанаваў захапіць машынку, верачы, што і гэта цяпер абыдзецца...

Грыша ўжо не сядзеў на каменні, а таптаўся перада мной, жэстыкулюючы і грымаснічаючы. Яму не ставала слоў.

— А што Алесь? — паддаўся і я азарту.

— Алесь?.. А-а!.. Выцер пот з ілба і пачаў спускацца па прыступках. Толькі на другім паверсе, па-мойму, сказаў: «Дарэмна Казлоўшчык думае, што схаваўся і што машынку, напраўду, не шкодзіла б прыхапіць. Да яго апетыт прыходзіў, калі еў...

— Пачакай. А як жа салдаты?

— Не чулі, мабыць.

— А паліцаі?

— Думаю, Казлоўшчык не рашыўся страляць у вокны. Рамы падвойныя, разаб'еш шыбы — а на дварэ сакавік. А мо проста не скеміў. Дый наогул не вельмі пуляў — баяўся, мусіць, рэчы папсаваць... Як па-твойму, пашанцуе нашым на гэты раз?

Алесь вярнуўся праз дзень. Ім сапраўды пашанцавала, калі толькі так можна сказаць: трапіўшы ў засаду, група страціла ўсяго аднаго разведчыка, які першы заўважыў небяспеку і па чыім знаку астатнія скаціліся ў кювет і адпаўзлі прэч ад гіблага месца...

На гэтым мне і трэба было б скончыць расказ — круг падзей замкнуўся. Але я — даруй, чытач! — не магу: апрача логікі фактаў ёсць логіка пачуццяў. Алесь выйшаў з выпрабаванняў пераможцам — жывы, цэлы. Гэта так. А вось тыя, што перажывалі за Алеся, што ахоўвалі яго, загінулі. І разведчык, які папярэдзіў таварышаў, і Раіса Сямёнаўна, і Мурашка, і Грыша...

Раіса Сямёнаўна напаткала сваю смерць у час апошняй блакады. У меднастволым бары, сярод гонкіх сосен пры шашы Лагойск — Плешчаніцы. Я тады з таварышамі таксама рваў блакаднае кальцо. І даю слова, каб сустрэўся з ёй, ведаючы яе, астаўся б верным партызанскім законам. «Прыгніцеся! Не глядзіце, што

ноч,— крыкнуў бы Раісе Сямёнаўне.— Навошта ісці ва ўвесь рост. І страляйце! Страляйце! Вы гэтым абараняеце сябе...» А калі б куля ўсё-такі знайшла яе, узваліў бы на спіну і, чаго б гэта ні каштавала, схаваў бы ў гушчары, пад вываратнем або яшчэ дзе. Не даў бы і Мурашку кіравацца, куды ён падыбаў,— на хутар. Як можна?! Хутар жа на далоні! І кожны здагадаецца: некаторых, хто не прабіўся праз блакаду, пацягне іменна сюды. Суняўшы кроў, я перавязаў бы яму рану і таксама памог бы знайсці схованку... А Грышу? Грышу б проста забараніў быць бясклопатным, загадаў бы шанаваць сябе...

Але дарогі нашы не скрыжаваліся.

За крыкамі «ўра!», у гарачцы бою, які асвятлялі рэдкія вогнішчы, запаленыя немцамі, ніхто не заўважыў, як упала Раіса Сямёнаўна. А вось карнікі, што пачалі прачэсваць бор, калі развіднела, заўважылі. Зняможаная, жанчына ляжала сярод верасоў, на выжарыне, і немец-аўтаматчык, нешта крыкнуўшы, даў па ёй чаргу.

Параненаму Мурашку спачатку пашанцавала. Ён выпаўз на ўзлессе і ўбачыў хату, дзе напярэдадні дняваў. Аднак тут яму якраз і загадалі ўстаць, падняць рукі. Адны кажуць, што ён не выканаў загаду і быў расстраляны ва ўпор, як і Раіса Сямёнаўна. Другія ж сведчаць іначай: нібыта бачылі, як эсэсаўцы цягнулі яго непрытомнага па турэмнай лесвіцы і за дзень да вызвалення Мінска расстралялі на астрожным двары.

Грыша ж Страшко загінуў, ужо будучы супрацоўнікам «Звязды». Ехаў на грузавіку ў камандзіроўку, і ліхі выпадак падпільнаваў яго. На крутым павароце Грышу вынесла з кузава і ўдарыла аб зямлю галавою...

Як відаць, іх канец не звязаны з Алесем. Але вось дзіва! Калі цяпер я ўспамінаю і гэта, у маім уяўленні паўстае Бярэзіна, якую мы таксама, не прарваўшы блакады, фарсіравалі тады — адыходзячы ў балоты Паліка. Паволі, але магутна імкнула яна ў сваіх нізкіх зялёных берагах, і я, як здаецца мне цяпер, душою адчуў яе пругкі стрыжань, што, трошачкі выпрамляючы плынь, нёс нястомныя воды. Так, так! Нават адчуў яе жывое сячэнне, якое цікавіць людзей, калі яны вызначаюць напор і моц ракі.

# О, ГЭТАЯ ШЧЫРАСЦЬ!

*Апавяданне*

> Не изменяйся, будь самим собой.
> Ты можешь быть собой, пока живешь.
> Когда же смерть разрушит образ твой,
> Пусть будет кто-то на тебя похож.
>
> *Шэкспір*

Прывезлі іх да нас на Шырокую ў душагубцы. Вылезлі яны, помню як цяпер, апошнія. Спачатку — прафесар. Потым — Галіна Мікалаеўна, якой ён памог сысці. Пацалаваўшы ў лоб, паляпаў па шчацэ і ўзяў пад руку. Заўважыўшы — здаля цікуем мы, зняў памяты капялюш і, сівы, враспраплечы, памахаў нам.

Чаму яго накіравалі сюды? Славутага хірурга, вучонага. І чаму ў канцлагер, а не ў Трасцянец або Нямеччыну, як часцей за ўсё?

Лагер абуджае ў людзях падазронасць. Абвастрае пачуццё справядлівасці: побач небяспека, і лёгка можа стацца, што заўтра-паслязаўтра жыць ужо давядзецца не табе. Таму надта хочацца, каб той, каму пашанцуе, заслужана карыстаўся дабротамі жыцця. А тут яшчэ холад з голадам... Навокал загаманілі.

— Чулі, «гер»? Гер-гер... Чаго, цікава, цацкаюцца з ім, бы з госцем? Таму што падпольшчык? А мо што клічка гучная? Самарын?

— Эге, не вяжацца.

— Не бойся, вяжацца. Арышты вунь як ішлі, так і ідуць.

— А можа, спадзяюцца, што час навучыць пірагі есці?

— Ведаем мы іхнія спадзяванні. Калі Зязіна ўзялі, ураз нібы ў ваду кануў. А ўрач — што, горшы? Ого-го!

— Гэта правільна — ■ кім ён звязаны? Каму справаздачу даваў? А самадзейнасць — яна заўжды таго...

Не зусім верылася ў гэтыя скептычныя і зласлівыя нагаворы, але, прызнаюся, хацелася, каб было іменна так.

Мяне моцна білі ў СД. Білі, як б'юць асуджаных на смерць, калі трэба адно — вырваць пэўнае слова. Таму ўсё на белым свеце здавалася гідкім. Не было і заўтрашняга дня. Не ставала сілы пачаць усё спачатку,

не было гатоўнасці нанава прайсці праз жахі ў засценках. Дый не верыла я ў Клумава да канца. Яго шчырасць, па-мойму, дэканспірыравала нас, а дабрата была бесхрыбетная, паказная. Мы ведалі, пра што гаварыць уголас, пра што шаптацца. Ён, здаецца, не ведаў і гэтага. Не сачыў за сабою, не кантраляваў сябе. А ляпнуўшы што-небудзь, і думаць не думаў папраўляцца, ну, ці хоць бы папракнуць сябе ў думках. Праўда, да яго хіліліся. Студэнты-практыканты калісь дык пачыналі гаварыць па-ягонаму — расцягваючы словы і трошачкі заікаючыся. І гэта таксама злавала — слепата нейкая!..

Нарадзіўся ён у Маскве. Як сведчылі прыхільнікі, пераняў ад маці любоў да музыкі, ад ліберальнага адваката-тутулі — яшчэ нешта. Гімназістам вызубрыў латынь, грэчаскую, нямецкую, французскую. Захапляўся Лермантавым, Дастаеўскім. Калі верыць, прымаў удзел у студэнцкіх хваляваннях... Адвакат, музыка, Дастаеўскі, студэнцкае вальнадумства, ха-ха!

І далей не дужа артадаксальна было. Маскоўскі універсітэт, практыка ў якасці звышштатнага ардэнатара ў белакаменнай. Потым — царская армія, Нова-Кіеўскі ваенны шпіталь, званні. Не шмат каму такое выпадала... Хоць пасля дэмабілізацыі, як кажуць, задурыў — адмовіўся ад працы ў матухне Маскве, паехаў у Беларусь. Служыў у земскіх бальніцах Лоеўшчыны, калясіў па вёсках. Пабываўшы ў сялянскіх хатах, загарэўся жаданнем латаць тагачасную беднасць. Завёў парадзістых свіней — чуеце? — і адорваў беднякоў парасятамі.

Мяне гэта ўсё раздражняла, насцярожвала. Усё, усё! І яго ідэалізм, і яго імкненне быць самім сабою, і яго культуртрэгерства. Нават тое, што ён, масквіч, палюбіў Беларусь і лічыў яе другой радзімай.

Я ведаю, як далёка можна зайсці ў сваім адмаўленні. Але ўсё-такі... У першую сусветную вайну Клумаў зноў апынуўся ў армейскіх лазарэтах. А за гады Савецкай улады ўзняўся да славутасці. Ну і, зразумела, павылазілі пытанні: адкуль такая адданасць? што канкрэтна жывіць яе? ці прыйшло б усё гэта, каб не рахуба?

Або!.. Уцякаючы з бежанцамі з ахопленага агнём Мінска, Клумавы далей Бярэзіны не пайшлі. Чаму? Прытулак аблюбавалі пад Пухавічамі, у прылеснай

хатцы, якую яшчэ ўвесну знялі пад дачу. Во супадзенне! Жылі там, пакуль не атрымалі калектыўнае пісьмо. Там пісалася, што ўцалелыя гарадскія бальніцы немцы захапілі пад шпіталі і пакінулі мінчанам адну паўразбураную Першую Савецкую, дзе ўпокат ляжаць хворыя, парадзіхі, раненыя.

Упікнуць Клумава, што ён з кійком, у атопках на распухлых нагах прычыкільгаў у Мінск, не ўпікнеш. Людзі хварэлі, раджалі — жыццё ішло сваімі дарогамі. Дый сама я мусіла працаваць. Але...

Не, калі моцна хочаш знайсці што-небудзь, заўсёды знойдзеш. Асабліва такое, што кіне цень на непрыемнага табе чалавека. Важна захацець. Важна пачаць... Але ў дадзеным выпадку, бадай, і гэта не трэба было — разам з колішнімі супрацоўнікамі пісьмо падпісала «сцерва Станіслава»! Фіфа з «пакрыўджаных», якія пырскалі ўжо слінай. Значыць, Клумава запрашалі не адны сябры. Значыць, яго вяртанне было на руку не толькі ім. Ён жа персона! Знайшліся няўрымслівыя. Дакапаліся — к прыезду Клумава ў Мінск меў таксама дачыненне нейкі нямецкі саноўнік, у якога захварэла жонка. Інакш кажучы, хочаш, чаго б ні каштавала, давесці сваё — ха-ха! — падмачы рэпутацыю свайго дабрадзея. Або дзяўбі ўжо завучанае. Праўда тады — у цябе ў кішэні...

Лагер наш быў звычайны — высокі плот, вартавыя вышкі, калючы дрот. Стандартны набор будынкаў — рэчавы склад, лазня-санпрапускнік, кухня каравульная. Той жа «габерзуп» з неабабранай бульбай, тыя ж блокі. Усё як усюды. Хіба што — пад барак адведзена даўжэзная былая стайня. На двары жолабы, з якіх некалі кавалерысты-«самарцы» паілі коней. Ды яшчэ хіба — праклятая гіблая будыніна з тыфознымі, якой баяліся, як чумы, і адкуль санітары-яўрэі выносілі трупы.

Перад тым, як душагубка прывезла Клумавых, са стайні, дзе ў адной палавіне туліліся старажылы, якія хадзілі на работу ў горад, а ў другой — бабулькі з малалеткамі, здаецца, з-пад Полацка, апошніх вывезлі. Было — і не стала. У памяці засталося толькі, што яны ўсе кашлялі. Надрыўна, закідваючы назад галаву, каб схапіць паветра. І яшчэ адно. Праз гэты кашаль камендант часта ўрываўся да іх і страляў у столь... Дык вось, калі прывезеных прынялі ў лазні душ, вызваленую па-

лавіну яшчэ дэзінфіцыравалі, і навічкі мусілі сланяцца па двары. Помніцца, хусткі ў жанчын папрымярзалі да валасоў... Але гэта я так. Нагадалася, як рынуліся яны займаць нары.

Праўда, Клумавым уступілі «лепшае месца» — дзе менш дзьмула. Аднак лагерны ўрач, як толькі прачуў, што яны тут, адразу забраў іх і павёў да сябе. У малюпасенькую каморку ў асобным доміку — у так званы медыцынскі пункт.

Клумавы выглядалі дарэшты знясіленымі. Асабліва Галіна Мікалаеўна. Пасля допытаў і катаванняў у турме яна, як казалі тыя, што паспелі перакінуцца з ёй словам, загаворвалася і мала каго пазнавала. Дый яе цяжка было пазнаць. Ад змардаванасці ў яе ажно патанелі валасы і павылазілі цэлымі пучкамі. Гэта мучыла яе, і яна бясконца папраўляла рваную пуховую хустку.

Даўней я кпіла са слабасцей прафесаршы. Кпіла з таго, што яна старалася быць маладой, што баялася старасці, маршчын. Кпіла, што, здагадваючыся — жончыны трывогі звязаны з ім, жадаючы падбадзёрыць яе, Клумаў — ха-ха! — знарок захапляўся ёю: «Як-кая ты малада-ая, Галя! Мне про-оста няёмка за сябе. Не-э, сур'ёзна, скажы, хто з тваіх аднаго-одак выглядае, як ты? Ну-у? табе ж со-орак пяць, не болей!» Але цяпер я — я! — пазайздросціла ёй. Слова гонару! Ведучы жонку ў медпункт, бачачы, як яна хукае на замёрзлыя рукі і хапатліва запраўляе рэдкія валасы пад злубянелую хустку, Клумаў гладзіў яе спіну і казаў:

— Нічога, галубачка, нічо-ога! Не хвалюйся. Яшчэ не ўсё страчана. Толькі не пап-пускайся, малю. Помніш, як ты спа-алохалася вобыску?.. А т-тады, у лесе?..

«Што гэта? — думала я, праводзячы Клумавых позіркам.— Гульня? Самагіпноз? Звычайнае глупства? Асаблівы дар? Няўжо сапраўды ёсць такая здольнасць? І калі яе шанаваць, не транжырыць, яе, як відаць, хапае на жыццё. Колькі яму? Многа. А ён, асляпіўшы сябе, і знаць не хоча аб пераменах у жонцы. Кахае сваю Галю мацней, чым калі!»

Хоць мне было пад трыццаць, я не мела сваёй сям'і. Ды, калі казаць праўду, не перажыла і кахання. Не вельмі верыла ў яго раней, не вельмі верыла і тады. Глядзела як урач — усё працай. Трэба — яно прыходзіць, не трэба... Мужчыны выклікалі ў мяне неда-

вер'е. Вераломства, фатаваты ганарок... Я таксама не дужа падабалася ім — бракавала, відаць, жаноцкасці. А магчыма, залішне было непрымірымасці да іх слабасцей, замнога настырнага жадання навязаць сваё. Не памагалі ні косы, ні плечы, ні постаць.

Бацька мой юрыст. У трыццаць дзевятым кінуў хворую маці. Я, камсамолка, стаяла тады перад самастойным жыццём і, вядома, у абурэнні — як ён пасмеў?! — адраклася ад яго. Ён зрабіўся ненавісным мне... А неўзабаве страціла і маці. Пры першай нямецкай бамбёжцы, нават не змагла адкапаць яе труп з-пад руін.

Не скажу чаму, але гэтыя дзве падзеі зліліся ў маёй свядомасці ў адно, абудзілі бязлітаснасць да ўсіх і сябе. Ажно як бы высмалілі. Бачылі гузаватую вярбу, у дупле якой раскладалі агонь?.. Вось такой і ўвайшла я ў вайну.

Навокал гарэла, ірвалася, а я перавязвала, аперыравала. Цывільных клала ў палаты. Ваенных адпраўляла з падарожнымі машынамі. Апошні раз, ведаеце, як адправіла? Распласталася ўпоперак маставой і не ўстала, пакуль не ўзялі... І тых, што засталіся, не кінула. Разумела: яны адны цяпер звязваюць мяне з жыццём.

Я, пэўна, пачала свой расказ не з таго. Выпускаючы з-пад увагі галоўнае. Але паверце — я клянуся! — старамодныя клумаўскія сентыментальныя любошчы збянтэжылі многіх. Іменна многіх!.. Хоць я зноў, адганяючы слабасць, старалася прынізіць і гэта — і ў сваіх і ў чужых вачах.

Твар у твар мы сустрэліся праз некалькі дзён — у чарзе па абед. Гэта, па-мойму, была адна з найганебных працэдур у лагерным побыце — калі мы, вязні, пад наглядам паліцаяў (не дай бог, каб хто стаў у чаргу двойчы!) атрымлівалі кансервавую бляшанку баланды.

— Ду-ушачка, вы? Значыцца, памагло-о ўсё-такі!..— радасна здзівіўся Клумаў, дакранаючыся вусамі і губамі да маёй рукі.— Галя, паглядзі, яна жыва-ая! Як і мы... Калі вывелі нас на т-турэмны двор і пачалі за-заганяць у душагубку, ду-умалі — усё! Добра, што нехта папярэдзіў, зачы-ы-няць дзверы шчыльна — кане-эц, а возьмуць на ланцужо-ок — не ўсё яшчэ к-кончана. Узялі на ланцужо-ок!

Галіна Мікалаеўна ўскінула на мяне жаласны позірк, вінавата зморшчылася і ўзялася папраўляць валасы.

Не, да капітуляцыі было далёка. Падумаеш!.. Потым я нават дакарала сябе, што пачала ўсміхацца, трэсці прафесарскую руку, спачувальна ахаць. Перад кім? Навошта? Хіба не ўсё роўна? Але словы «памагло ўсё-такі» не праляцелі міма. Клумаў, як выявілася, быў у курсе маёй падпольнай дзейнасці і штосьці рабіў, каб выратаваць мяне...

— Заходзьце да нас! — сакатаў ён, прапускаючы мяне наперад і сумнымі вачыма запрашаючы палюбавацца на днявальнага, які важна арудаваў чарпаком ля бочкі.— Гэта ўжо не пашкодзіць. Мо-ой шаноўны доктар, раз-зумееце, раздабыў сахары-ынчыку. Пагаворым пра лес, навіны.

Аднак было відаць: сам Клумаў таксама жыве на нервах. І хоць стараецца не паказваць выгляду, хоць ужо на другі дзень рынуўся працаваць у тыфозны барак, сілы ў яго канчаюцца — здае сэрца, мучае застарэлы дыябет. Вуглаваты твар яго змарнеў, ад чаго вушы, здавалася, адтапырыліся, вараслі.

Яшчэ па дарозе сюды сёй-той з нас ухітрыўся выкінуць на маставую пісульку — з просьбай перадаць блізкім, дзе каго шукаць. І як ні цяжка даводзілася нашым на волі, мы сяды-тады праз старажылаў, якія расчышчалі вуліцы, атрымлівалі пасылкі-пакуначкі.

І вось што тут зноў нечакана высветлілася — сярод разнашэрсных людзей, якія па самых розных прычынах трапілі ў лагер, амаль не было такіх, каму б у свой час Яўген Уладзіміравіч не зрабіў дабра... Для санітаркі Гэлі, такой шчырай, увішнай жанчынкі, з якой мне выпала валяцца побач на нарах, ён зняў у сваім пакоі фіранкі — на штонікі сыну. За аперацыі немцы ўвялі плату — і Клумаў часцяком уносіў грошы за тых, каго апераваў. Калі сваякі ўдзячных хворых прыносілі яму што-кольвечы з харчоў, Галіна Мікалаеўна зараз жа гатавала «ўсеагульны» абед. А цяпер вось тыфозны барак!

Праўда, дабрата і шчырасць бываюць старэчыя. Хто-хто, а наш брат гэта ведае. Яны ад слабасці. Ад усведамлення, што дні твае ідуць к канцу, цябе хутка не будзе, а другія застануцца. Яны ад боязі быць забытым, ад жадання — няхай потым хоць хто-небудзь

успомніць добрым словам. Але тут, сярод лахманоў, жорсткасці і пакут, выразней, чым дзе, стала відаць — не, Клумаў наогул не мог іначай жыць. І ў медпункт да Клумавых, у якіх у горадзе не было родных, назаўтра ж сталі заглядаць не толькі хворыя...

Не хаваючыся, як звычайна, ад ветру за сцяной якой-небудзь будыніны, я села на жолаб і пачала сёрбаць баланду як не свая. Не зрэагавала нават, што два санітары на насілках панеслі міма труп тыфознага. Памяць, як бы на злосць мне, падсунула выпадак — Клумаў рабіў аперацыю... Як заўсёды ў такія хвіліны, адчужаны ад навакольнага, з насупленымі бровамі — надзвычай густымі, яшчэ не пасівелымі, якія надавалі яму сярдзіта-нездаволены выгляд... Хірургічная сястра падавала інструменты, тампоны, а ён чараваў.

Але нечакана ў аперацыйную ўварвалася Галіна Мікалаеўна. Ламаючы рукі кінулася да яго:

— Жэня, там прыйшлі з вобыскам!..

— Ну і што? Не перашкаджай,— папрасіў ён.

— Жэнечка, гестапа...

— Эсдэ,— паправіў ён.— Хто пусціў сюды пабочных асоб? — І толькі калі асістэнтка абняла разгубленую жанчыну за плечы і павяла да дзвярэй, дадаў: — Супако-ойся, я чакаў г-гэтага. І ты ведала...

Гэля неяк расказвала — яе арыштавалі пазней,— што, калі Яўген Уладзіміравіч сядзеў ужо ў турме, партызаны расправіліся з мінскім бургамістрам. Проста на вуліцы. Сцягнуўшы з таратайкі, расстралялі ва ўпор і кінулі на брук. Гестапаўцы прывезлі яго ў бальніцу скрываўленага, з трэснутым чэрапам. У імкненні выратаваць, выклікалі Клумава для кансультацыі.

Быў, магчыма, і езуіцкі прыцэл. Ведаючы прафесарскую шчырасць, спадзяваліся: Клумаў пастараецца паказаць сябе. Гэта ж не выдаваць тайны сваіх паплечнікаў. Ну, а калі так станецца, можна будзе спадзявацца і на большае. Спрабавалі ж яны прымусіць яго рабіць стэрылізацыі... Аднак Клумаў прайшоў па палаце, задаў некалькі пытанняў бледнай «сцерве Станіслаўне», якая, склаўшы, як у малітве, далоні, стаяла ля непрытомнага бургамістра, і схаваў рукі за спіну.

— Пасля пераждытага я ту-ут, паны, не дара-адчык. Ён жа не жанчына...

Сама я да Клумавых усё-такі наўрад ці пайшла б. Але пацягнула Гэля. Аказваецца, не збаяўшыся, яна

перад гэтым з старажыламі, якіх гналі на работу, выбралася з лагера, расстаралася ў горадзе інсуліну і вярнулася назад... З волі, ад сына!

Заўважыўшы, што я вагаюся, Гэля ажно праслязілася:

— Якія вы сапраўды! Вам маліцца на яго трэба. Каб не падкупілі следчага, хіба вы былі б тут?

Укрытая лахманамі, Галіна Мікалаеўна ляжала на тапчане, а Яўген Уладзіміравіч, як наведвальнік у бальніцы, сядзеў ля яе ўзгалоўя. Калі рыпнулі дзверы, схамянуўся, прапанаваў сваю табурэтку.

— Другой няма, тава-арышы. Сядай, Гэлечка, да Галі... Ёй нездаровіцца...

Схіліўшыся, ён патрымаў далонь на лобе ў Галіны Мікалаеўны, паляпаў яе па шчацэ.

Аб чым ён думаў? Што перажываў? Ва ўсякім выпадку, малаверагодна, каб думкі ў яго сігалі далёка і былі радасныя. Але пачаў гаварыць даволі бадзёра, з колішняй годнасцю.

— Сёння ўначы ся-адзеў ля акна і слухаў, як пралятаді нашы бамбардзіроўшчыкі. Цудо-оўная, скажу вам, музыка. Аж адгукаліся шыбы... А неба, неб-ба!..

— Гэта — «Іл-4»,— узрадавалася Гэля, абдаючы яго святлом сваіх васільковых вачэй.— Я таксама чула.

— Даст-таеўскі, можа, вастрэй, чым хто, адчуваў асуджанасць усякіх прэтэндэнтаў на місію юберме-эншаў. І давёў: не-э, дудкі — прырода чалавека мацнейшая за чалавека! Памятаеце? Цёмныя інстынкты бяссільныя супраць жывой плыні жыцця, хоць і здольныя ўзбаламуціць яе. Забіваючы і лютуючы, яны забіваюць сябе. Самі ж да агіднасці хочуць жыць...— І, памаўчаўшы, без пэўнай сувязі дадаў: — Доктар даве-эдаўся, што рыхтуецца ч-чарговая разгрузка лагера. Прыйдзецца запаўня-аць анкеты. І, як кажуць, з вельмі цікавымі пунктамі. «Чым хварэ-эў?» «Калі?» «Чым хво-оры?» «Ці даўно?» Так што рабіце вы-ывады. А ў мяне сё-оння адзін памёр...

Яго развагі, тон зноў здаліся мне наіўна-дзівацкімі. Інтэлігентшчына! Парада ж абразіла — на яе патрэбна было асобае маральнае права.

— А вы? Ужо зрабілі? — пацікавілася я, адвярнуўшыся да акна.

Ён развёў рукамі.

— Мы-ы? Шчыра? Але ле-пей не будзем пра нас...

Яшчэ раз дзякую, Гэлечка, за інсулін. Пасля ўколу быццам на-анава нарадзіўся. Вось з чаго ўжо да-аво-дзіцца цешыцца. Ці не замала для чалавека?..

— Вы намякаеце на ўцёкі? — спыталася я, ужо з настырным жаданнем прагнучы гаварыць пра раней-шае і на нечым злавіць Клумава.— Але чаму вы самі раней не скарысталі зручных магчымасцей? Былі прычыны?

— У пэўным сэнсе — т-так... І першая — што сумленне паставіла на по-ост. Хоць, можа, і прымусіла дзейнічаць не заўсёды разважліва. Ды як ты раз-зважлівым будзеш, калі недзе паміраюць, сыходзяць крывёю. Ну, а потым п-позна стала. Уцёк бы адзін — арыштавалі б дзесяткі... Скажыце мне ле-эпей, няўжо сапраўды недзе ёсць ле-эс, калматыя елкі?.. Воля?..

Чаго я хацела ад яго? Што яшчэ старалася давесці сабе і яму? Я бачыла, як змрачнее Гэля, як, не паварочваючы галавы, здзіўлена косіцца на мяне Галіна Мікалаеўна, ды зрабіць з сабою нічога не магла. Мяне душыла злосць, душылі слёзы. Ад сораму, ад крыўды, ад пратэсту.

У мяне, вядома, не было сумненняў, па які бок барыкады Клумаў. Адчувала, што і ў закідзе — робіць, бо не можа не рабіць — мала справядлівасці. Дапускала, што ніхто, апрача Клумава з яго рэпутацыяй праўдалюба і арыгінала, не здолеў бы дамагчыся такой аўтаноміі, якая развязала ўсім нам рукі. Бальніца стала нейкай суцэльнай явачнай кватэрай. Дапрызыўным пунктам. Пашпартным сталом. Базай. З нашай «Персавецкай», як з лёгкай рукі адной малой Танечкі называлі мы сваю бальніцу, знікалі нават скатаваныя ахвяры, прывезеныя эсдэкаўцамі да нас, каб мы падлячылі іх для новых катаванняў.

Хіба магло ўсё гэта быць, каб да кагосьці не сыходзіліся ўсе ніці? Каб нехта не дадаваў волі адным, не стрымліваў другіх, не абавязваў трэціх?.. Каб не было гэтай шчырасці?.. «Куды падзеўся хворы бандыт, што мы даставілі вам?» — падступаліся з кулакамі да Клумава ў СД. «У мяне ў бальніцы, па-мойму, іншыя функцыі,— з выклікам адказваў ён.— Я не вахман».— «Тады дзе доктар Свістуненка? У лесе? Хто пераправіў яго?» — «Спытайцеся ў сваіх супрацоўнікаў. Яны павінны ведаць лепей за мяне — гэта іх абавязак і спецыяльнасць». Ай-яй-яй!..

Ён замураваў сябе ў бальнічных сцэнах. Абходы, аперацыі, назначэнні, вочныя і завочныя кансультацыі... Цяжка было сказаць, з кім, апантаны, ён змагаецца з большым імпэтам — з гітлераўцамі ці з чалавечым болем...

А я? У нейкай сваёй прадузятасці нават гэта ставіла яму ў віну! Не давярала, абвінавачвала і ў тым, што яго двойчы арыштоўвалі і выпускалі. Не думала, як яму пасля даводзілася брацца за ранейшае. Штосьці важнае прытупілася ва мне, не давала па-чалавечы мысліць.

Насуперак логіцы, у лагеры мы многа спявалі. Няхай паціху, ледзь чутна, але спявалі. Каб была разрыўка, дзяцініліся, дзівачылі. Гэта, як і агульнае няшчасце, зблізкала нас. Шчадралюбная Гэля прывязалася да мяне, як малая... Але выйшлі мы разам ад Клумавых толькі на ганак. Заплакаўшы наўзрыд, Гэля кінулася з прыступак і пабегла ад мяне, як ад пачвары. Потым, праўда, перасіліўшы сябе, вярнулася і, заікаючыся зусім як прафесар, выдыхнула мне ў твар:

— Вы-ы!.. А ведаеце вы... што ён меў справу яшчэ з першым падпольным гаркомам?.. Хоць... які вам клопат? Вы ані не ўяўляеце, што значыць, напрыклад, для байца перакананасць: калі параніць, рану загояць! Шоўк у спірце — і стэрыльны матэрыял і надзея. А хто іх даваў, перапраўляў у лес?

— Ты глядзіш праз ружовыя акуляры, Гэля. У яго шчырасці — гардыня, самалюбаванне!

— А ў вас горай, у вас — шоры... злая жорсткасць... Быць самім сабою... Мажа, і першыя няўдачы ў вайне былі таму, што некаторыя забыліся, хто яны...

Я не звяла вачэй цэлую ноч. Адчувала, што не спіць і Гэля. Заснула толькі на світанні, калі нашы «Іл-4» вярталіся з задання на свае аэрадромы.

Прыніжаная, прысаромленая, я мучылася і пакутавала. Успамінала то адно, то другое. Калі не ставала сіл, ажно стагнала. У бараку было холадна. Навокал кашлялі, варочаліся, мармыталі спрасонку, і мне здавалася: гэта капошыцца нейкая бясформенная, калматая, задыханая істота.

Назойліва ўспаміналася наша Танечка... Эсдэкаўцы прывезлі з турмы яе маці. Не спускалі з вачэй, пакуль не радзіла, і праз дзень павезлі назад. А дзіця — Танечку — Клумаў настояў — пакінулі. І вось раз-пораз,

нібыта я трызніла, мне ўяўлялася гэтая дзяўчынка. І ў ложку, калі Яўген Уладзіміравіч выслухоўваў яе, рабіў з ёй гімнастычныя практыкаванні, гудучы, як яна. І пазней, калі Танечка падрасла, калі на просьбу паказаць, як любіць прафесара, сціскала кулачкі, сціскалася ўся і аж чырванела ад напружання. Уяўляўся сам Клумаў, толькі ўжо ў смярдзючым тыфозным бараку, паміж нар, худы, змучаны, як і хворыя, якіх лячыў. «Персавецкая»,— гучала ўвушшу.

Не было сумнення — і ў маё жыццё ўваходзіў Клумаў. Уваходзіў як штосьці неабходнае, якое хоць і не пагаджаецца са звыклым, але без чаго не абыдзешся. І калі раніцой я ўбачыла Яўгена Уладзіміравіча — ён кіраваўся ў барак да тыфозных, напяваючы ў вусы арыю Радамеса,— мне захацелася дагнаць яго, пайсці поруч.

У той дзень, калі збіраліся разгружаць лагер, нас пабудзілі зацемна. Аддзяліўшы мужчын, пагналі ў лазню. Абдаючыся там вадой, Гэля, якая нечакана аказалася ля мяне, раптам усхліпнула і зайшлася плачам. Не ведаю як, але я адчула, што і ўсхліп, і галашэнне датычаць мяне. Ведаючы адходлівы, добры Гэлін характар, я не здзівілася, але ўстрывожылася — цяпер усё магло быць.

— З Клумавым што? Так? — схапіла я яе за руку.— Ну? Кажы толкам!

Вусны не слухаліся Гэлі. З васільковых вачэй, адразу расцякаючыся па мокрых шчоках, цяклі слёзы. Але калі яна загаварыла, я не паверыла ёй. Па яе выходзіла, што Яўген Уладзіміравіч, запаўняючы анкету, запісаў усе свае хваробы і нават прыбавіў уяўныя.

— Што ён — звар'яцеў? — сціснула яна кулакі, трымаючы рукі пры грудзях.— Не знае, чым гэта кончыцца? Або сапраўды паверыў, што нездаровых павязуць лячыць у Бараўляны? Вунь перад гэтым разам таксама верылі. Шафёр, які адвёз першую партыю, ад паехаўшых пісьмо прачытаў... Але, калі пагрузілі астатніх і ўкінулі да іх труп тыфознага, пераканаліся... Растлумачце хоць вы яму!

Мы наспех адзеліся і, калі стала можна, пабеглі шукаць Яўгена Уладзіміравіча. Аднак цяпер ролі нашы памяняліся — Гэля абвінавачвала Клумава ва ўсіх смяротных грахах, а я прасіла, каб яна з вывадамі не спяшалася.

Збегаўшы ў медпункт, да тыфознага пекла, мы знайшлі прафесара ля лазні — ён яшчэ не мыўся. Пазваўшы, адвялі далей ад электрычнага ліхтара.

Ішоў снег. У скупым святле ён кружыў і, здаецца, не падаў. Худы, згорблены Клумаў у гэтым кружэнні быў падобны на страшны прывід. На штосьці такое, аб чым я чытала толькі ў Эдгара По, Конан Дойла ці бачыла ў кашмарных снах.

Ён, відаць, здагадаўся, чаго мы прыбеглі, чаго чакаем ад яго, і апярэдзіў нашы пытанні.

— Учо-ора я дазволіў двум хворым п-пахадзіць...— усміхнуўся ён, аббіваючы пальчаткай з плячэй і адваротаў паліто снег.— Во было радасці! Цешыліся, як некалі Танечка...

— Яўген Уладзіміравіч! — заківаўшы галавой і ўсхліпваючы, не дала яму гаварыць далей Гэля.— Што вы нарабілі? Як вам не сорамна? Няўжо верыце правакатарам? Гэта ж ганьба!

Клумаў, нібыта на яго замахнуліся, адступіў, пахіснуўся.

Гэля рванулася да яго, падтрымала, прыпала шчакой да пляча.

— Вы зразумейце нас!..

— Стара-аюся...— адхіліў ён яе са знаёмаю гордай адкрытасцю.— Але зразумейце і вы... Ехаць працаваць у Нямеччыну мне даўно прапаноўвалі. Графа Монтэ-Крыста з мяне і Галі не атрымаецца — старыя. Дык паваюем хоць так. Мёртвыя часам таксама памагаюць жывым... І не бойцеся... Пашкадуй я Галю — і тая, бедная, пакрыўдзілася б на мяне. Кроўна пакрыўдзілася б... Таму прашу — болей ні слова! Я загадваю нарэшце!..

На нешта яшчэ спадзеючыся, чамусьці ўзяўшыся за рукі, мы пабеглі шукаць лагернага ўрача. Світала.

А калі добра развіднела, прыкаціла душагубка. Ахова накіравалася ў барак забіраць вязняў, якія значыліся ў спісах. Вывелі з медпункта і Клумавых. Пастаяўшы на ганку, яны, як і той раз, узяліся пад рукі і паволі спусціліся па прыступках. Першым у душагубку палез прафесар. Потым, працягнуўшы руку, памог узабрацца Галіне Мікалаеўне.

— Бывайце, таварышы! — зняўшы капялюш, гукнуў нам — мы зноў назіралі здаля.

Падвялі яшчэ вязняў, і праз колькі хвілін дзверы ў душагубцы зачыніліся. Гэтым разам шчыльна. Стрэліўшы з выхлапной трубы, страшная машына забуксавала і кранулася, выкідаючы з-пад колаў пласціны спрасаванага жоўтага снегу.

Душа мая зайшлася. Не маючы сіл трываць, я ўдарыла кулакамі сябе ў грудзі і рванулася. Аднак чыесьці рукі схапілі мяне і спынілі. Але цяпер я ўжо ведала — уцяку! Па дарозе ў Тучынку, там, калі будуць заганяць у вагоны, на першым перагоне, але ўцяку. І калі толькі гэта прынясе карысць другім, не буду хавацца!

# ГОРКІ ВЯНОК

*Апавяданне*

Я не хочу!.. Мне боязна, Захарык! Далібог. І, чуеш, не хмурся. Ты ж сам бачыш... Купляю, ўсё навырост, а пройдзе паўгода — і зноў усё малое, кароткае. Паглядзі на рукавы. Вунь якія... Нядаўна яшчэ грыўку насіў. А цяпер назад ужо зачэсваешся. Хлопчык ты мой! Сынок!.. Рукі мае да шчакі туліў, хінуўся. Любіў тварык хаваць пад паху. Прынюхваўся. А цяпер калі і цалуеш, ідучы куды, дык у лоб, у плячо. Бы нябожчыцу.

Навошта ты так?

Крыўдна ж!.. Забываешся і на тое, што было. Яго быццам і не было. Нібыта і не я гэта цябе сабою выгадавала. Сабою, Захарык!..

Я і ў радзільным ляжала, а бацька твой ужо хвастом накрыўся. Шукай красуна ў полі. Выпісвацца пара, а вас спавіць няма чым. Ні полкі, ні распашонкі. Дый куды круглай сіраце ісці? Да чужых наймацца? А які дурань возьме цябе з дваімі дзецьмі? Добра, што месяц у пакоі мацеры і дзіцяці дазволілі перабыць. Доктарка адзін камплект выпісала. А другі — права не мае. Законніца такая была... Але астатнім сорамна стала — склаліся, купілі.

А што далей было рабіць? У сірочы прытулак вас збагрыць? Ды я хутчэй бы крыжам легла. Разарваць сябе на кавалкі дала б. Вы ж — адзінае, што я мела. Жывое, цёпленькае, сваё...

Праўда, Жэнечку неўзабаве бог узяў. Але ж ты жывы! Адзін, але астаўся. Значыць, ёсць на белым свеце роднае...

Уладзілася прыбіральшчыцай у дом груднога дзіцяці. Туды з усяго горада падкідышаў збіралі... Навокал разруха, горад пасля палякаў у руінах. Хацелася ці не хацелася, пачала працаваць.

Пад лесвіцай сабе каморку адгарадзіла. Ты — з падкідышамі, а я — з вёдрамі ды памялом з лыка. Па лесвіцы хто ідзе — быццам бы па галаве ступае.

Ды хіба ты ўжывешся з людзьмі, калі нястача кругом. І тое ім не так, і гэта не так. Са сваім, маўляў, адно кешкаешся, а падлога брудная. На свайго не надыхаешся, а чужыя хай спруцянеюць...

Плюнула, канечне, перапавіла цябе і пайшла. У ноч, у слоту. Не даждуць! Не прыгонная!..

Кім толькі не была пасля! І карміліцай, і кухаркаю ў нэпманаў, і пасудамыйкай у харчэўнях. Усім была... А ты рос і скрозь пры мне. На вачах. Не хварэў нават. І хоць, вядома, ношанае насіў, але чысценькае. На цябе прахожыя аглядаліся, думалі — дзяўчынка. А я, як па-твойму, заўсёды сытая або расчасаная была?

Аднойчы гаспадыня цябе тапачкам выцяла. Дык я ў яе, гадзіны, жмут валасоў з галавы вырвала. Атласны халат папалам распаласавала. Вішчэла яна, бы свіння асатанелая, у плот ушчаміўшыся.

Выгналі, вядома. Што ім? Начавала з табой на лаўцы ў скверы. Захутала ў транты, прыціснула да грудзей і легла. Ногі калеюць, лісце падае, шамаціць наўкол, а мы ляжым. Аднаго баялася, каб дождж не лінуў.

Злітаваўся гасподзь бог — падабраў нас прахожы, да сябе прывёў. Але таксама добрым жлобам аказаўся. Палова дома ўласная, кватаранты ў трох пакоях, а сам на Камароўскім рынку старцуе. Ды праз год памёр. Застудзіўся. Дзіва што — на голай зямлі часцей сядзеў. Ну, суседзі і падвучылі — адсудзіла я гэтыя паўдома. Хоць свой дах над галавою. Усё круціцца лягчэй.

А там ты ў школу пайшоў. У нулёўку. Дагодлівы, слухмяны... Хай бы век так было. Настаўніца не нахваліцца. Смяялася ўсё: ты яе «мая цётачка Вольга» называў. Далоні ёй гладзіў. Бацькі няма, абароны няма — дагаджаў.

Не скажу, ціхманы быў, ціхманы і астаўся. Калі нават піянерам стаў, усё адно болей з малымі таварышаваў. Лялькі ім майстраваў, розныя спектаклі наладжваў. Адкуль што бралася тады. Мяне вучыць узяўся. Адзнакі пачаў ставіць, выгаворваў, калі што не так рабіла. Другія саромеюцца, а ты на школьныя сходы за руку мяне вядзеш. Я цешуся не нацешуся. Дзякуй богу, у людзі выходзіш, і я тут жа!.. Як заснеш — гля-

джу не нагледжуся. Хоць ад трывогі сэрца і калоціцца...

Лямпа патухне — газы няма — камінак распаліш. І чытаеш, чытаеш. Куды ідзеш, таксама на хаду ў кнігу глядзіш. За вершыкі прыняўся. Пра вясну, пра лета. Пра зіму адно не любіў. Мусіць, даўся табе холад у знакі... Словы з'явіліся. «Напасаран», «Камсамольск на муры»...

Святыя абразкі, якія, бы скарб, хавала, і тыя сталі замінаць табе. Знаць не хочаш, што не магу я свайго крыўдзіцеля таксама з сэрца выкінуць. Бацька ўсё-такі табе. Дый я другіх ні да яго, ні пасля не мела. А ўспомні, калі ягоную фотакартку павялічыла і павесіла на сцяну? Хай глядзіць, зайздросціць... Ты ж на яго падобны. Сам ганарышся, што паходзіш з рабочых... А памятаеш? Адвярнуўся і пайшоў з пакоя, бы пакрыўдзілі цябе. Потым жа пра нейкі абавязак, пра высокія рэчы разважаў, рукамі размахваў. Табе справядлівасць падай, а мне як? Думаў ты пра гэта? Як мне без дзевы Марыі ды светлых успамінаў жыць?

Дый наогул, што ні дзень — горай. Пакуль прыбіральшчыцай у цэнтральнай паліклініцы працавала, мірыцца яшчэ можна было. Сустракаў, калі позна дзяжурыла. А як кінула паліклініку? Калі бялізну чужую стала мыць ды лекавымі травамі займацца?

Сам пра справядлівасць дзяўбеш, а гэта справядліва? Сорамна, сынок. Хіба я не знаю, што ты, каб мне нешта давесці, летам піянерважатым у лагер паехаў? Навошта мне твой заробак, калі цябе побач няма? Навошта ўсё? Спытайся ў суседкі. Данута і тая засведчыць. У яе, здаецца, ёсць яшчэ чуць сумлення. Яна бачыць мае пакуты.

Я ж цябе ўжо гады ў рады бачу. Не патрэбная ўжо! То сходы камсамольскія. То сходкі — мусіць, дзяўчаты завяліся. Многа іх, ласых на гатовенькае. Вунь якая галава! Голас які! Сам цыраваць можаш, сам абед згатуеш... А мне як! Скажы!..

А мне як? Скажы, святая Марыя? Бачыш, што сталася? Навалачы ж гэтай процьмы цэлая! У горад ад Балотнай станцыі ўваходзілі бы на шабас які. У барабаны білі. У горны трубілі. Нават каскі з рагамі. Загады паналеплівалі, і ўсё адным канчаюцца — смерць, смертухна. А мой юнак ужо.

Калі бамбілі і завод Кірава загарэўся, на дах уза-

браўся, каб бачыць. Захарык... на дах! Да сваёй «цётачкі Вольгі» злётаў. У яе квартале, бач, таксама гарэла. Маці са страху заходзіцца, не знае, што схаваць куды, а яму вунь якія рэчы карцяць.

Гаварыць стане — сам не ведае што. Пойдзе куды — нібы зноў-такі штосьці згубіў і шукае. А тут турма паўнюткая. Лагеры арганізавалі канцэнтрацыйныя. Такога і слова, тфу, не было раней. А ён быццам блазнаваты і сам не свой. Глядзець, святая Марыя, не магу: сэрца пераварочваецца. Што будзе? Абарані!

Калі дзіцём быў, ведала, як ратаваць. Захутаю ў што ёсць — і прэч ад небяспекі. Крыўдзіць хто — сабой засланю. Не сунімаюцца — хай на сябе наракаюць... А тут? Што ты зробіш з гэтым насланнём? Пачвары ж! Да чатырох гадзін дня хадзіць толькі дазваляюць... На Кастрычнік, найсвяцейшая дзева, у Тэатральным скверы і другіх месцах жанчын вешалі. Падлетка аднаго павесілі. У кепачцы, худзенькага...

Значыць, адно выйсце. Сказала яму — прамаўчаў. Ды нейкі чужы зрабіўся. Ёсць дома, няма — усё роўна ціха. І раптам:

«Добра, мама».

«Матка боска, дзякуй табе! — думаю.— Пачула!..»

Паступіў кур'ерам ва ўправу. Праўда, спярша ў друкарню збіраўся... Ды хіба не ўсё роўна? З яго розумам, з яго руплівасцю. Ён жа па-нямецку — бы семечкі лускае. А галоўнае — прыдзірацца ніхто не пасмее. У Нямеччыну не пагоняць. Паёк дадуць. Працуе ўсё-такі.

І сапраўды. Акуратны, дагледжаны... Двух месяцаў не прайшло, перавялі ў бюро спецыяльнае. У пакойчыку асобным стаў сядзець.

Самому бургамістру Іваноўскаму ўпаў у вока. Важнаму такому, з тытуламі. Ён і задачнік па арыфметыцы даручыў Захарыку з нямецкай мовы перакласці. Да нас некалькі разоў заязджаў. Дробным макам рассыпаўся, хваліў Захарыка. Усынавіць прапаноўваў. Міратворац чысты... Пазней нават збіраўся Захарыка ў Нямеччыну паслаць — знаёміцца, як працуюць там з моладдзю...

Ды чалавеку скрозь мала... Ох!.. Зноў зацягнула майго да таварышаў. Збяруцца — спяваюць, як калісьці, танцуюць, вершы расказваюць. А які тут зборышчы, калі патрулі ў падкутых ботах пад вокнамі шпацыруюць. Калі адзін на другога можа нагаварыць. Прычына для зайздрасці заўсёды знойдзецца.

Захарык, праўда, і там акуратна трымаўся. Я знаю... Загуляліся былі аднаго разу... Гаспадыня, вядома, пакінула ўсіх, каб поначы не ішлі. А мо вымяркоўвала што. Хто іх, людзей, зразумее. Захарыку з дачкою ложак падрыхтавала. Дык ён, бедалага, пасцяліў палавічок на падлогу побач і праспаў да раніцы. А назаўтра, як на духу, расказаў...

Аднак, калі выняла з схованкі абразкі, павесіла на покуце — зойдзе хто, таксама няхай бачыць — зноў узяўся за сваё. Ды яшчэ з большай зацятасцю. Маўчаў, пакуль даруй, найсвяцейшая Марыя, не зняла я іх.

А хіба такое прывядзе да дабра? Сакрэты, сябры завяліся. Асабліва адзін не падабаўся — плячысты з чубам. Па-мойму, і жанаты ўжо. На таварнай станцыі працуе. Захарык яго Чубчыкам зваў. І за чуб і за песню, якую часценька спяваў...

Таго, хто сам сябе шануе, і гасподзь бог беражэ... Гляджу аднойчы — па гародзе бадзяюцца. У скляпок спусціліся. Туды — з нейкім скруткам, адтуль — без яго. Матка боска! Во-во, пачынаецца! Я тады там усё абшарыла, агарод пры месяцы перакапала. Думала звар'яцею.

А там і пайшло, пайшло... У самыя маразы, перад вадохрышчам, зарыпелі дзверы ў дрывотніку. Я без хусткі, у адной камізэльцы, як была — на двор. Падкралася да дрывотніка і туды. Спачатку, вядома, асляпла: цёмна там у нас. А потым прывыкла. Бачу — касцёр разабраны, дровы ў кучу збоку складзены. А Захарык з прыяцелем, седзячы на калодцы, анучамі вінтоўку абкручваюць. Ледзь не самлела я.

Не знаю, чаго б і натварыла... За якія такія грахі? Няўжо цябе, найсвяцейшая, угнявіла? За плотам паліцай жыве. На вуліцы розныя машыны гудуць. А яны тут з вінтоўкамі, змоўшчыкі. Кулямёты, гарматы нічагусенькі ў свой час не зрабілі, а яны нешта вінтоўкамі зробяць! Самагубцы няшчасныя! З глузду з'ехалі!.. Ды,

ўспомніўшы цябе, святая Марыя, аддыхалася. Адно загадала: каб духу гэтых ламачын тут не было і каб болей ніколі не бачыла я іх разам.

А калі пасля пытацца стала: ці ж я яму ліха хачу. Ці ж я не люблю яго? — проста ашаломіў мяне. «Не ўсякая, мама, любоў,— кажа,— любоў!»

І, думаеш, абразуміліся? Наадварот! Падгаварылі «цётачку Вольгу», каб распытала ў мяне, што болей пра іх ведаю. Пераканаўшыся — мала, парашылі ўсё-такі напалохаць. Каб баялася і адчапілася, значыць.

Чую неяк уначы — Захарык заварушыўся на ложку. Маснічыны зарыпелі. Дзверы азваліся. Яны ў нас вісклівыя ўзімку... Ну, вядома, я за халат. Але калі прачыніла дзверы ў сенцы, нешта белае цап мяне за крысо — і пацягнула да сябе. Вырвалася, канечне. Калені дрыжаць, калачуся. Не знаю, як і перабыла да світання. А як прыйшла да Захарыка — спіць, аказваецца, ён. Ні літасці, ні спагады ў праведніка. Вось калі папагаласіла, папаплакала перад ім...

А тут увесну зноў вешаць пачалі... Матчына сэрца не сабе служыць. Звяду павекі — Захарык перад вачыма павешаны. То на суку, то проста на тэлефонным слупе. Няўжо, думаю, я дзеля гэтага гадавала яго? Няўжо дарма праз такое працерабілася?

Даруй, найсвяцейшая Марыя, рашыла сцяною ўстаць. Калі ён заікнуўся быў, што не шкодзіла б мне на час у вёску пераехаць, асатанела, ускруцілася. Не магу! Няўдзячнасць такая! Дурнота! Сам пішчом у пятлю лезе!

«Хопіць! — залямантавала.— Не будзеш слухацца — прымушу! Выбегу вось зараз на вуліцу і закрычу: «Немцы, дзе вы? Тут камсамолец!..»

О матка боска, што з ім сталася!..

Што з ім сталася? Данутка! Арыштавалі ж майго хлопчыка. Прама на рабоце. Калі вялі ў СД, на вуліцу Астроўскага, вырваўся, пабег. Але дагналі. Ох, збілі, кажуць, у кроў. У адным чаравіку павялі далей.

Што рабіць, Данутка? Як і дзе тут рады знайсці? Бегала да настаўніцы, шукала Чубчыка. Хацела спытацца, ці не яны прадалі майго хлопчыка. А калі не, дык хай памагаюць. Ды выявілася — забралі і іх.

Кінулася ва ўправу, да Іваноўскага. Усё-такі прафесар, доктар, інжынер, усынавіць Захарыка хацеў.

Калі заязджаў да нас, мяне па плячы ляпаў. Быць не можа — упрашу!

Прашмыгнула ў кабінет. Укленчыла ля стала. Ён па той бок, а я па гэты. Прасіць пачала, хоць адны яго ногі і бачу.

Скрыжаваў ён іх спачатку. Ну, думаю, выслухае. Але хутка проста паставіў, задрыгаў адной. Тупнуў. А я малю, ногі яго малю. Няўжо не чалавек, не паможа? Захарыку не паможа?..

Што ён потым крычаў, да мяне не даходзіла. Помню толькі, што, калі адсунуў нагамі крэсла і схіліўся праз стол, усё слінай пырскаў і рыжую бараду сабе запляваў. І словы помню: «Кар'ерыст!.. Жалезам гарачым!..» Зразумела: цяжка давядзецца майму ненагляднаму...

Дамоў бы выкручаная прывалаклася. Стала ўспамінаць. Бацюхна! Мой жа Захарык, аказваецца, даўно кіраваў нечым. Ён, бач, падпольшчыкаў дакументамі забяспечваў. Узоры подпісаў, пячатак перасылаў. Пра ўсякія намеры і сакрэтныя змены інфармаваў. А таксама — чуеш, Данутка? Ты слухай, слухай! — некалькі падвод са зброяй кудысьці пераправіў. Першы пра нейкіх «тыграў» у лес паведаміў. І пра тое, што на гвалт і смерць дзяцей хочуць вывезці ў Нямеччыну. А калі ж Чубчыка сцапалі, узначаліў падрывы на чыгунцы. Некалькі груп узначаліў... Хлопчык ты мой! Зорык ты мой, як цябе таварышы называюць! А найгорш, Данутка, сувязную арыштавалі і пісьмо ягонае з заявай перахапілі. Прасіў лясных таварышаў у партыю прыняць. Хацеў Кастрычнік камуністам сустрэць... Вось, аказваецца, які ён кар'ерыст! А хіба даруюць такое, калі завируха не на жытку, а на смерць пайшла? Вядома, не. Як не даруюць і ім...

Надысь да турэмнай брамы хадзіла з перадачай. Напякла піражкоў, яблык расстаралася. Хай пачастуецца небарака. Але дзе там, хіба прымуць. «Ідзі, ідзі адсюль!» Морды свае ад злосці адварочваюць. Быццам бы гэтыя піражкі і яблыкі сама ў іх просіш або гвалтам адабраць збіраешся. Быццам бы твая прысутнасць тут — абраза ім. Ты ім сонца засціш і дыхаць не даеш. Быццам гэта менавіта ты іхніх дзяцей забіць памыкаешся.

Упала я на зямлю, загаласіла. А калі выспяткаў надавалі, устала і паплялася. Хапаю паветра, бы ры-

ба, якую з вады выкінулі. Адна на ўсім белым свеце!.. Ні я нікому не патрэбна, ні мне хто!..

Прахапілася потым, гляджу — на Нямізе я. Здзівілася, ахнула. Сонца свеціць, людзі па тратуары ідуць. Дзіва! Ля піўнога ларка салдаты тоўпяцца. Гергечуць, у руках куфлі, на пену дзьмухаюць. Лезе ж у горла!.. А па бруку з цокатам бяжыць запрэжаны ў таратайку конь. Пазнала... бургамістраў. Да нас на ім прыязджаў. Убачыла і самога — за спінаю ў фурмана. Разваліўся, трымае бародку ў жмені.

Усхадзілася ўсё ва мне. Пад горла аж падступіла. Як гэта? Майго хлопчыка дапытваюць, катуюць за турэмнымі мурамі, а гэты, хто яго не пашкадаваў і мо на пакуты адправіў, важнічае і бог ведае каго строіць з сябе. Сплавіў, мусіць, чарговую партыю драждждзэй, паклаў грошы ў кішэню і здаволены. А можа, і яшчэ горай — балбатаў пра любоў сваю да людзей, і новыя спісы, каго арыштаваць, каго ў Нямеччыну адправіць, рыхтаваў...

Ды ёсць, пэўна, усё-такі справядлівасць.

Не паспела я прыбавіць кроку, каб крыкнуць яму, што пра яго думаю, як у таратайку ўскочыў трэці. Пра што яны там гаварылі, не знаю. Але калі бургамістр закрычаў, хлопец схапіў яго за каршэнь і рвануў з сядзення. Бы з-пад зямлі вырас яшчэ адзін і стрэліў спадару ў грудзі. Двойчы. Не выпускаючы каўнера, стрэліў і хлопец, які сцягнуў яго з таратайкі. А пасля тузануў і кінуў на брук — валяйся, падла!

І гэта ўдзень, пры сонцы. Навідавоку!.. Во табе, вазьмі!..

Людзі, вядома, хто куды — далей ад граху. Каму хочацца без дай прычыны ўстраваць у калатню. Салдаты і тыя ад піўнога ларка шуганулі ўроссып. Разам з другімі пабегла і я. Бягу, а душа радуецца — на, з'еш!.. Як, добра? Гэта табе за майго Захарыка адплата. За слёзы мае.

Назаўтра зноў з перадачай да турмы пайшла. На злосць. Хай б'юць, хай здзекуюцца. Мне не прывыкаць. У мяне свая задача... Ды і што аставалася рабіць? Сядзець дома склаўшы рукі? Адной-адзінюткай?

Ля турэмнай брамы натоўп. І зноў тыя самыя мурлатыя. Аднак не чапаюць пакуль нікога. Толькі морды па-ранейшаму вернуць.

Чую, нехта за рукаў мяне тузае. Азірнулася —

дзяўчо гадоў шаснаццаці. Кудзеркі залацістыя. Галаву падняць не смее. «Прывітанне ад Зорыка,— шэпча і хлебныя карткі ў рукі совае.— Ён, кажа, просіць вас, каб трымаліся...— і захліпнулася: — Яму, цётачка, на допыце руку пераламалі...»

Як я дабралася дамоў, не памятаю. Мы з табой суседзямі ледзь не дваццаць гадоў жывём. Добра ці пагана — няважна. Але ніколі я табе не хлусіла. Магла прамаўчаць, буркнуць што-небудзь не так. Але схлусіць — не-э! Дык вось павер — не ела, не піла трое сутак. Бы ўчадзела.

Што ж гэта такое? Дзе той бог, калі ён ёсць? Дзе? Хіба можна столькі на аднаго чалавека валіць? Заб'юць яны Захарыка. І магілы пасля не знойдзеш. Не будзеш знаць, куды кветкі прынесці... Не хачу я гэтага! Хопіць!.. Не хочу!..

# ТРЫ ПАЦАЛУНКІ

*Старонкі жыццяпісу*

## 1

У сям'і яна была доўга адзіная. Бацька ў навакольных карыстаўся павагаю. І, натуральна, яе балавалі, песцілі, цалавалі. Але сям'я была рабочая, гэта адбілася на Галі па-свойму.

Хто найбольш уплываў на яе? Хутчэй за ўсё — бацька. І хоць у доме гаспадарыла квахтуха-клапатуха маці, лад жыцця падстройваўся пад яго — стрыманага, негаваркога, у вечным палоне сваіх думак. Ён і дома мала сутыкаўся — быў то на рабоце, то на сходах, то на рыбалцы. Але затое, калі аставаўся дома, навокал ураз большала парадку. Жыццё рабілася плынным, імкнула ў пэўным кірунку. Бацькава воля адчувалася — і можа мацней — пасля яго смерці: заведзенае ім захоўвалася свята. «А мазалі шанаваць трэба» — асабліва. І, магчыма, таму Галя саромелася, калі яе балавалі, ціскалі. Нават крыху гідзілася. Зіркаючы спадылба на дакучлівага добразычліўца, употай выцірала пацалаванае месца далоняй.

Сказвалася тут і такая акалічнасць — маці хваравіта любіла чысціню. Яна ледзь не штодня купала дачку, расчэсвала, заплятала і пераплятала яе рыжыя кудзеркі, прыдзірліва сачыла за плацейкамі. Галіна пасцелька, вясёленькія, у кветках навалакі на падушках былі чыстыя-чыстыя, старанна адпрасаваныя. Праўда, тое, што ты маеш у дастатку, не вельмі цэніцца. Падросшы, Галя вярталася са двара растрапанай у баталіях мурзаю, але маці адразу, з парога, цягнула яе да ваннячкі і, вымыўшы, пераапранала ў чыстае.

І гэта само сабой уваходзіла ў натуру.

Такой от настырнай забіякай-чысцюлькаю, якая, праўда, паспела палюбіць Купалу, пачала весці дзённік, марыла вучыцца далей, нароўных сябравала з хлопцамі, і ўвайшла Галя ў вайну.

Ага, мусіць, варта нагадаць і яшчэ адно. Галя нікуды, апрача піянерскіх лагераў, не выязджала, і род-

ны горад у яе вачах быў бадай адзіным утульным куточкам у свеце, дзе ўсё здавалася дарагім — і грукатлівая, у таполях вуліца, дзе яна жыла, і зялёнае, з павевамі раздолле аэрадрома пад бокам, і заўсёды забітая саставамі таварная станцыя, і таямнічае ў прыцемках чыгуначнага дэпо, куды Галя дзяўчом бегала да бацькі, носячы абед. І хто ведае, можа, магутныя «ФД», «СУ», поўныя сілы перад дарогаю, ды срабрыстыя крылатыя самалёты першымі і абудзілі ў Галі адчуванне — радзіма і там, за небасхілам, куды імкнуць рэйкі і дзе знікаюць срабрыстыя птушкі. Тым больш, гледзячы на іх, хораша думалася і пра наступнае — заманлівае, светлае, што чакала цябе.

Калі не лічыць, што Галя перажыла бамбёжкі,— якраз бамбілі яе запаветныя мясціны, бачыла ахопленыя агнём ангары, саставы на станцыі, яна сутыкнулася з немцамі праз дзень, як тыя ўвайшлі ў горад.

Не спытаўшыся ў маці, падагнаная злой цікаўнасцю — тое, што адбылося, здавалася неверагодным — Галя, каб у нечым пераканацца і сёе-тое разведаць, пабегла па ваду да калонкі. Дзяўчына схілілася ўжо над поўнымі вёдрамі — хацела ўзяць іх і несці дамоў,— як нехта ашчарэпіў яе ззаду за стан і, наваліўшыся грудзьмі, смачна, з адцяжкаю, цмокнуў у шыю. Перасмыкнуўшыся ад нечаканасці, Галя адступіла. Перакуліўшы вядро — тое, што стаяла пад кранам, у страху азірнулася.

Перад ёю, абутыя ў боты, але ў трусіках, стаялі двое — белабрысыя, з крутымі атлетычнымі плячыма дзяцюкі. Што яны — немцы, можна было здагадацца па акуратнай кароткай стрыжцы баксёраў і халодных белазорых вачах. А галоўнае — па шырачэзных халявах і бессаромнаму нахабству — яны ўхмыляліся і гулліва шчэрылі зубы.

— Ком... цу мір!..— убачыўшы, што Галя спапяляе іх зіркам, пазваў яе пальцам адзін з голых і, каб было зразумела — з неба, заглушаючы усё, на пасадку ішоў «Ю-89»,— зрабіў непрыстойны жэст.

Апанаваная агідаю, абурэннем Галя плюнула, хацела была крыкнуць: «Як вам не сорамна?» — але пранізлівы, з прысвістам, гул самалёта быццам бы наваліўся на яе, сціснуў скроні, і яна, усхліпнуўшы, кінулася прэч.

Першае жаданне ў яе было паскардзіцца маці —

хай заступіцца, абароніць і неяк адпомсціць за нечуваны здзек. Аднак тут жа ёй стала ясна: гэта недарэчна — што зробіць тая, калі права абражаць, здзекавацца гэтыя нахабнікі заваявалі, і ты цяпер у параўнанні з імі — нішто? Наадварот, каб не ўцягваць маці ў небяспечныя прыгоды, трэба ўсё ўтаіць ад яе — хай не пакутуе, не наклікае на сябе бяды. Хопіць з яе і меншай сястры.

Не ведаючы, што ж усё-такі рабіць, Галя прамучылася з паўгадзіны, баючыся — маці заўважыць яе ўзрушанасць і спытаецца, што з ёй. Але потым, падхопленая парываннем,— апошняе слова павінна было астацца за ёй! — яна ляпнула брамкаю і подбегам падалася назад да няшчаснай калонкі.

Поўныя, па беражкі, вёдры стаялі на месцы! Што гэта было — новы здзек? Лавушка? Падазраючы — непадалёк засада, прагнучы сутычкі з крыўдзіцелямі, Галя з выклікам узяла вёдры і, ускінуўшы галаву, панесла іх, знарок ідучы па бруку.

Уначы яна не спала. Роіліся, даймалі думкі — пра сябе, маці, немцаў, пра разбураны горад. У перадна-вальнічнай духаце, як бы зусім побач, чуўся гул самалётаў. Ад таварнай станцыі далятаў свісткі манеўровай «кукушкі» і грукат транзітных цягнікоў.

Паязды ішлі па ваеннаму графіку — часта і, як здавалася, у адным кірунку — на ўсход. І трывожныя Галіны думкі імкнуліся ўслед за імі — у начную цемрадзь, туды, дзе фронт, дзе вольныя родныя прасторы, што падпіраюць яго. І, можа, упершыню, варочаючыся ў гарачай пасцелі, пакутуючы ад уласнага бяссілля, Галя так выразна адчула, як расце, мацнее ў яе пачуццё, з якім толькі і можа жыць вера ў заўтрашні дзень і з якім, прачнуўшыся, душа нітуецца сама з сабою... І калі за акном услед за маланкаю разлегліся грымоты, а ў бляшаны дах ударылі гулкія, бы шрот, кроплі, агорнутая гэтым пачуццём Галя расплакалася. Каб не выдаць сябе, уткнулася тварам у падушку. Захацелася, каб хутчэй надышло світанне і можна было бегчы да сяброў па школе — выліць душу — ёсць жа ў яе Любаша, Андрэй, Нэла? Яны памогуць ёй...

Адкуль Галі было знаць, што калі назаўтра яна збочыць на суседнюю — Брылеўскую — вуліцу, то перажыве яшчэ страшнейшае: убачыць, як нечым узлаваны расхрыстаны матацыкліст будзе ганяцца за баса-

ногім хлапчуком, пакуль не прыцісне таго пярэднім колам да плота. А потым, шалеючы, пагоніцца за Галяй. І спатрэбяцца месяцы, каб вярнулася здароўе, каб Галя магла перагаварыць з сябрамі, якія самі прыйдуць да яе, спадзеючыся — яна павядзе рэй.

## 2

Надышло і мінула купалле. У агародзе зноў зачырванелі макі. Зацвіла пад вокнамі ліпа. Праўда, не пышна, не па-залатому, а так, што неўзабаве квецень апала. Усталяваліся гарачыня, пыл. І, можа, таму, апрача ўсяго, Галі пачало ўспамінацца даўняе не бачанае ўжо год — лес, поле, асветленыя самым зыркім — ліпеньскім — сонцам.

Пагойдваючыся, спеюць жытнёвыя каласы. І помніцца, калі ўзяць іх, вусатых, у такую пару на далонь ды пацерці, вылушчацца цёплыя, васковыя зярняты. У блакіце ж звініць жаваранак. Спыніўся ад захаплення, трапечацца і заходзіцца песняй. І тут жа, поруч, у ціхай завадзі красуюцца белыя лілii. Шукаючы спажывы, бунтуюць ваду порсткія качаняты. Ага,— так, так! — другі раз пакоўніліся сем'і зайцоў, вавёрак... І гэтае настырнае жыццё, яго краса, што была, ёсць, а значыць, будзе вечна, набывала для Галі незвычайную цану, патрабавала: заслані, вазьмі пад сваё крыло — у бядзе роднае бліжэй да сэрца.

Яшчэ тады, калі была прыкута да ложка, Галя ўпотай ад маці — што прывыкала ва ўсім бачыць бяду,— перачытала многія кнігі, з якімі расла. Шукаючы і прагнучы нечага, дзівілася: усё і тут мела глыбейшы сэнс.

Згадаўшы — нядаўна было купалле, Галя захапіла з сабою на сходку «Сон на кургане». І, калі ўволю нагаварыліся, прытаміліся, прачытала аб вырваным з грудзей сэрцы-паходні. Помніце? «З грудзей вырві сваё сэрца!» Хвалюючыся, заўважыла: усе, хто дасюль спрачаўся, спяваў песні, танцаваў,— сціхлі. У маленькі пакой з фікусамі, з карункавымі сурвэткамі, патэфонам увайшло нешта вялікае — са сваімі надзеямі і гарэннем. Словы паэта, які сам стаў яшчэ больш дарагі, прымусілі паглыбіцца ў сябе. Яго сум аб жаданым стаў сумам аб страчаным. Ён падказваў: абавязак чакае цябе ўсяго!

І калі Андрэй, у чыім доме адбываліся зборы, пайшоў праводзіць Галю, размова ў іх кружыла толькі навокал гэтага. Прабіраючыся паміж руін, часам адно за адным, яны ніяк не маглі сказаць усяго, што хацелася. Над імі, зніжаючыся для пасадкі, пагрозліва сігналілі ўспышкамі і раўлі самалёты, а яны гаварылі і гаварылі.

— Так жа? Праўда? — гарачыўся Андрэй, паглядаючы на рыжыя, як сонца, Галіны валасы, на яе вуглаватыя плечы, да якіх яму карцела дакрануцца.— Збіраць зброю і весці агітацыю — мала! Я сканструяваў, Галка, міну...

Гэтага прызнання Галя чакала, але ўсё роўна спынілася. Азірнуўшыся, яна як бы адвяла забіяцкі позірк таварыша і нездаволена зморшчыла губы.

— Чаму ты маўчаў раней?

Андрэй не быў баязліўцам, дый вайна ўсё рабіла прасцейшым. Аднак перад ёю ён адчуваў сябе яшчэ зялёным — аднакласніцы сталелі раней.

— Але, баяўся, што не атрымаецца,— сказаў паслухмяна і ўсё-такі зноў абдаў святлом сваіх вачэй Галю — кволую, у лёгкай сукенцы, трошачкі кароткай для яе.

Яна паспешліва накруціла кудзерку на палец. Саромеючыся нечага жаночага, што сама заўважыла ў сабе, насупілася, абцягнула сукенку.

— Ладна. Заўтра я ўзгадню з астатнімі, і пойдзем разам, калі ты не супроць.

— Скажаш! Але як тваё, Галка, здароўе? І куды пойдзем? Ты ўжо намеціла?

— Ага...

Яны выбралі глухую, цёмную пару — перад досвіткам. Выявіўшы, калі мяняюцца вартавыя, дамовіліся: правядуць аперацыю пад канец начной вахты, калі пільнасць каравульных прытупіцца.

Цяжка сказаць, як бы Галя паводзіла сябе, каб напарнікам быў не Андрэй. Праўда, на таварнай станцыі кожны закутак і сцежка былі знаёмыя. Жыла ўпэўненасць: знанае з дзяцінства не падвядзе і, калі што якое, паможа. Але гэта быў пачатак незвычайнага, пасля чаго ўсё павінна стаць іншым. Нават стаўленні да роднага дзяцінства. Нават адносіны з маці, чые слёзы і роспач прыйдзецца пераажыць, адносіны з Андрэем, які, безумоўна, стане смялейшым,— з усім!

і ўсведамленне гэтага халадзіла сэрца. Прысутнасць жа гатовага ісці з ёй на плаху Андрэя рабіла ўсё чуць... падобным да гульні. Тым больш Андрэева паслухмянасць, відаць жаданая яму, узнімала Галю ва ўласных вачах, падказвала — камандуй.

Не сустрэўшы жывой душы, яны прабраліся на тэрыторыю станцыі. Пасля моцнай майскай бамбёжкі лямпачкі на ліхтарах тут замянілі на сінія, але ўсё роўна было светла. І, каб перасекчы пуці, давялося паўзці пад таварнымі саставамі, прыслухоўвацца, зноў паўзці — і так аж да крайняга тупіка, дзе ўпрытык стаялі запасныя скаты.

Дагэтуль аб прысутнасці аховы і тых, хто фарміраваў і расфарміроўваў саставы, Галя з Андрэем *здагадваліся* толькі па ляскату буфераў ды няясных мімалётных ценях. Іх адзначала толькі нешта амаль падсвядомае. Адсюль жа, з-пад скатаў, дзе яны ляжалі на жыватах, адчуваючы, як казыча ноздры пах мазуты, іржы і жвіру, Галя і Андрэй *убачылі* вартавога — ссутулены, ён стаяў ля вялізных дэпоўскіх варот і кашляў у кулак. Аднак блізкасць адно да аднаго не дала ім адступіць. Скарыстаўшы новы прыступ кашлю, яны, трымаючыся за рукі, кінуліся пад сцяну дэпо. У зацень. Праз запасны ўваход прашмыгнулі ў прыбудоўку, а потым у дэпо, дзе над рамонтнымі ямамі, пабліскваючы, чарнелі паравозы.

Выбух дагнаў іх, калі Андрэй і Галя нырнулі назад у руіны. Чакалі: убачаць агонь, ды яго не было. Толькі ў небе, у тым баку, дзе знаходзілася дэпо, падаючы, згасала хвастатая іскра.

Як было дамоўлена, тут яны павінны былі адразу разысціся — кожны сваёй дарогаю. Але адчуванне акрыленай узрушанасці, любві да ўсяго, што бачылі вочы, затрымала іх.

— Ты прапахла мазутам, славянка! — засмяяўся Андрэй, не здольны стрымаць нахлынуўшую на яго радасць.— Чэснае камсамольскае! Вопратку, мабыць, прыйдзецца спаліць, ха-ха! От узбунтуюцца дома! Цяжка з імі!.. А калі адыдуць, пачнуць шкадаваць, што пахудзелі...

Галя адказала яму згоднай усмешкаю. І хоць твар яе быў відзён невыразна, Андрэй мог паклясціся: на шчоках у яе ямачкі. Гэта расчуліла, замілавала яго канчаткова.

Спыніліся яны ля правалу ў знявечанай сцяне, якая ноччу выглядала высокай, вастраверхай і трымалася толькі цудам. Патыхала струхлелай цэглаю, кіслым, даўкім, чым пахнуць закінутыя руіны. Але ў Галі з-пад сэрца прабілася казытлівая слодыч. Яна агарнула дзяўчыну, прымусіла прыслухацца да сябе. Таму, калі Андрэй знячэўку працягнуў да яе рукі, яна не адступіла, а замерла ў чаканні, не то здзіўляючыся яго жаданню і смеласці, не то падбадзёрваючы яго і выхваляючыся сабою: «Ну, ну!..»

Гэта перадалося Андрэю. З цяжкасцю падняўшы рукі, ён сціснуў Галіны скроні далонямі, асцярожна прыцягнуў яе да сябе і пацалаваў у вусны, як цалуюць ікону або дзіця, якое баяцца разбудзіць. А Галі здалося: на яе абрынулася гарачая хваля... Абпаліла...

Закружыўшы, панесла на сваім грэбені.

Хіба маглі яны тады дапусціць, што праз дзень, абваліўшы пад адхон цягнік за светафорам, ранены Андрэй памрэ ў лапах эсэсманаў, а Галя ў адчаі і горы, помсцячы за яго,— нацяжной мінаю, удзень, на пасажырскім вакзале! — узарве вагон-сталовую, калі гаманлівая салдатня з падышоўшых эшалонаў выстраіцца атрымліваць абед...

## 3

У канцы сорак другога года падаў голас падпольны гарком камсамола. Асталяваўся ён у лясной вёсачцы, непадалёк ад Лысай Гары, у адным пераходзе ад Мінска. Устанавіўшы сувязь з групаю «Вырві сэрца!», прыслаў газеты, узрыўчатку, інструкцыю, як падтрымліваць канспірацыю. А калі спатрэбіліся падпольшчыкі, якія вялі б работу ў часцях праціўніка, выклікаў Галю да сябе — несучы страты на фронце, немцы мусілі падчышчаць свае тылы і ахову аэрадрома збіраліся даручыць славакам.

Выслухаўшы заданне, Галя перакананa адказала: «Ну і цудоўна! Па-мойму, мы справімся. Яны ж славяне...» — яна ўспомніла Андрэя. Дый у ёй яшчэ была прышчэпленая бацькам і жыццём вера ў людзей працы. Шчыра недаўмяваючы, як магло здарыцца, што нямецкія рабочыя марудзяць і падпарадкуюцца гітлераўцам, Галя верыла: гэта анамалія, і яна неўзабаве

міне. Дык што ўжо было казаць пра славакаў — братоў па крыві! Але калі Галя пайшла назад у горад, калі паднялася на Лысую Гару, з якой адкрыўся сіні прастор — пакрытыя лесам узгоркі, звіліна дарогі ля бліжэйшага з іх, вёска з азяродамі на ягоным схіле... «Ці не так і ў іх там, у Карпатах?» — падумалася ёй, і краявід, вёска, якія маглі быць падобнымі да славацкіх, быццам вярнулі дзяўчыну на зямлю. Падумалася: усё гэта, вядома, у прынцыпе правільна. Правільна наогул... А як будзе з тымі славакамі, што пасяліліся ў казарме на Аэрапортаўскай і, старанна захоўваючы распарадак, трымаюцца абасоблена? Хто яны і па чыёй волі тут?

Але трэба аддаць Галі належнае: яна ўсё-такі пачала з таго, з чаго, хутчэй за ўсё, пачаў бы і бацька, Андрэй — хацелася зрабіць славакам дабро. Уладзіўшыся афіцыянткаю ў аэрапортаўскую сталоўку, адчуваючы на сабе іх увагу,— яда чамусьці абуджае гулівасць,— Галя ажно пачала шкадаваць смуглявых, як аказалася, вясёлых хлопцаў, гатовых заляцацца да яе. Ахвотней за іншых, яна стала абслугоўваць іх, згадзілася мыць ім бялізну.

Асабліва даспадобы быў Ярак Халупка, начальнік аховы — русавалосы, падцягнуты, з уважлівымі зыркімі вачыма. Маладзейшы па ўзросту за падначаленых, ён не ў прыклад ім трымаў марку і, седзячы кожны раз за адным і тым жа столікам, стараўся размаўляць з Галяй без жадання здабыць яе прыхільнасць.

Дый пытаўся ён звычайна пра дробязі — як называецца па-беларуску хлеб, зямля? Ці разумее Галя слова «неба»? Ці мае ўяўленне аб славацкіх песнях? Галя нагледзелася на ліха-злыбеду, што прынеслі з сабой акупанты. Яе здзіўлялі памеры і жывучасць зла ў іх. Адкуль яно такое? Але і Халупка здаваўся дзіўным — занадта адкрыта наіўным. Праз сваю частую ўсмешку, праз тое, што нявечыў беларускую мову, быў бездапаможны перадаць Галі свае думкі. Аднак сумненняў не было — ён добры.

Гэта стала відавочна, калі аднойчы яго прарвала.

— От здорава, Галю, выходзіць! — расплачваючыся за вымытыя падкаўнерыкі і сарочкі, сказаў ён так, як гавораць пра вынашанае.— Наша ж мінулае — таксама суцэльная барацьба. За што толькі мы не ваява-

лі. І каб вызваліцца з прынук. І каб быць самімі сабою. Каб гаварыць і маліцца, як хочацца.

— Маліцца? — не ўсміхнулася Галя, разумеючы,— ён абавязкова будзе правяраць гэта.— Там, дзе моляцца, не ваююць.

— А табе нічога не даводзілася чытаць пра табарытаў і брацікаў? Ды, зрэшты, каго я экзаменую!

І хоць выяўлялася: ён ведаў шмат, чаго не ведала яна, з таго разу Халупка ўжо чакаў Галіных слоў — лічыў іх справядлівымі і прадбачлівымі.

Надышла восень — з познімі світаннямі і ранніми змярканнямі. Прырода жыла па сваіх адвечных законах. Але Галі ўжо здавалася: сёлета ўсё адбываецца неяк незвычайна, ва ўсякім выпадку так, як даўно, а можа, і зусім не было.

Па начах сон не ішоў да яе. Глуха ракатала неба, і гэты рокат, як і ўсякі гук і боль, трывожыў мацней, чым удзень. Бударажылі думкі — яна для славакаў ужо не проста Галя, а нехта, за кім вялікая краіна і каму праз гэта адкрыты шляхі-дарогі, скрытыя ад другіх. Гэта адно адбірала спакой, прымушала цягнуцца з апошніх сіл.

У кастрычніку Галя арганізавала ўцёкі першых славакаў. Захапіўшы зброю, пагрузіўшы боепрыпасы на «Татры», яны як праваліліся — былі і не стала. Але мінуў тыдзень, і гарком прыслаў сувязную з нечаканай навіною — за Галяй сочаць, і ёй давядзецца пакінуць горад.

Развітацца з домам! З тым, што яна рабіла і можа зрабіць, наступаючы? З усім, што стала даражэйшым за сябе... З сэрцам, якое кровоточыла, Галя знайшла другую кватэру маці і сястры, папярэдзіла пра небяспеку сяброў і выклікала на яўку Халупку.

Ён прыйшоў, як заўсёды, хвіліна ў хвіліну. Прычыніўшы за сабою дзверы, расправіў пад папругаю гімнасцёрку — шынель павесіў у пярэдняй — і, падышоўшы да Галі, якая стаяла ля старамоднай шафкі, моўчкі са схіленай галавою пацісну ёй руку.

— Бяда, таварыш Халупка,— без падрыхтоўкі, цікуючы, аднак, як успрыме ён навіну, паведаміла Галя.— Мне прапануюць неадкладна выйсці ў партызанскую зону...

Яна не сумнявалася ў яго рашучасці весці барацьбу да канца. Не. Але ёй раптам закарцела нешта высвет-

ліць. Можа, таму яна і словы «мне» і «неадкладна» вымавіла з націскам.

— Окамжытэ? — звёў ён густыя бровы.— Нам пагражае правал? Ці я не правільна зразумеў, Галю?..

Халупка не аддзяліў яе ад сябе і сваіх салдат!

Што ў гэтым было? Усведамленне: няшчасце з Галяй можа прывесці да агульнага няшчасця? Што Галін лёс — гэта і яго ўласны лёс, лёс яго салдат? А можа, нават, ён наогул сваё змаганне ўжо не мысліць без Галі?

Яна з удзячнасцю паглядзела яму ў вочы і захлынулася ад гордага пачуцця — вочы ў Халупкі ўздрыгнулі, і ён апусціў іх.

— Я слухаю цябе, Галя, і загадзя згодзен з табою. З усім... Мой бацька — мірны настаўнік, і той казаў: ні сіл, ні здольнасцей не пакідай для таго свету. Разумны ён быў, Галю...

Звечара надвор'е сапсавалася, і аэрадром закрылі. На золку ж туман пагусцеў так, што перамяшаўся з хмарамі. Волкая крупчастая шэрань ахутала наваколле, неба. Каб адвесці віну ад падначаленых, якіх выводзіць было позна, Халупка зняў некаторыя пасты і перад канцом каменданцкай гадзіны рушыў з Галяй на лётнае поле.

Навошта Галя настаяла і пайшла з ім? Перш за ўсё для пэўнасці. Дый як было не скарыстаць апошняй магчымасці? Самой! Дый ускласці ўсё на Ярака Халупку значыла — ахвяраваць ім. Загадзя свядома. Да таго ж таварышы перадалі: у Галіным доме ўжо ўсё перавернута, выкрыт і тайнік на агародзе, дзе ляжала зброя і маркаю шкодаўскіх заводаў. Значыць — у СД ведаюць шмат чаго...

«Юнкерсы» стаялі разгорнутым франтам. У тумане выглядалі зданёва,— у іх нібыта абвіслі крылы, і самі яны адступілі ў туман, як толькі Галя з Халупкам наблізіліся.

Ён узяў на сябе далейшыя, і калі, выхапіўшы з кішэні тэрмітны шар, Галя чырканула ім аб запалкавы карабок, яшчэ крочыў — непаспешлівы, рашучы.

Аднак да аўтамашыны яны падбеглі разам.

— Рыхле! — папрасіў ён, задыхаючыся ад пяшчотнасці.— Хутчэй, Галю! Богам прашу!

Туман за спінаю засвяціўся, зрабіўся бэзавым, і дзіўна стала, чаму навокал яшчэ ціха. Але калі машы-

на, падскочыўшы, рынулася наперад, ззаду разлёгся выбух, і Галя міжволі заплюшчыла павекі, быццам успышка, што недзе парвала туман на шматкі, шуганула перад вачыма.

Насустрач панеслася знаёмая родная вуліца, па-ранішняму пустая і шэранькая. Халупка ўперыўся ў ветравое шкло. Ды Галя ўсё роўна адчувала: другім сваім зрокам ён сочыць за ёй, і яго думкі — усе! — пра яе адну.

Мінулі Галін домік з голай чорнай ліпаю ў садку. Халупка сумна ўсміхнуўся.

— Не жаль?

Занятая сваім, лічачы выбухі, што грымелі за спіною, яна прамоўчала і толькі адмоўна страсянула кудзеркамі. Аднак ён, як і раней — не адрываючы позірку ад вуліцы, як бы спотайку ўбачыў і гэта. Вочы яго павузелі.

— А мне, Галю, жаль. Як і сваіх смрэк і букаў пад Левачкай... Нам толькі б праскочыць Бетонны мост...

І такі смутак прарваўся ў яго словах, што Галіна сэрца абарвалася. Прыйшла здагадка: Халупка і дасюль, калі гаварыў пра сваю радзіму, калі прызнаваўся ў адданасці ёй, трошачкі меў на ўвазе і яе, Галю.

Любасць ударыла ў Галіны грудзі. Ёй захацелася ехаць і ехаць з Халупкам, нечым аддзячыць яму, неяк супакоіць яго — расчуленага і ўтрапёнага. Падхопленая парываннем, яна паклала далонь на руку, якой ён учэпіста трымаў абаранак, і пагладзіла яе. Зноў з небывалай радасцю ўбачыла, як на сківіцах у яго напружыліся жаўлакі і зусім павузелі вочы. Пры скупым святле загарэлыя твары — шэрыя. А тут яшчэ ў дадатак Халупка пабляднеў. Але і гэта прынесла радасць — бледнасць рабіла яго прасцейшым, сваім. Небяспека ж, якая вісела над імі, пасля поспеху адно абвастрыла хвіліну.

Наперадзе ў тумане паказаўся Бетонны мост — гарбаты, нібы аблыселы. А потым — нібы заштрыхаваныя,— у касках постаці, якія заступілі яго праездную частку.

Халупка адкінуўся на спінку сядзення, націснуў на тармазы і з ходу развярнуў машыну. Яна завішчала і, ледзь не ўз'ехаўшы на драўляны тратуар, спынілася. І ў гэтую хвіліну туман прашыла чарга. Некаторыя кулі былі бранябойна-запальныя, і здалося: пацер-

кі-светлячкі панесліся прама ў вочы. Машына тузанулася, асела на бок.

— Усё! — выдыхнуў Халупка і, шукаючы яе позірк, патрабавальна паляпаў пальцам па сваёй тугой, старанна паголенай шчацэ.— Нех са пачы. Калі ласка...

Галя не зразумела яго. Але калі сэнс Халупкавага жэсту дайшоў да яе, рашуча закруціла галавою.

— Не, Ярак! Не! Адна я нікуды не пайду!

Яму ўсё-такі ўдалося павярнуць машыну багажнікам да моста.

— Табе яшчэ трэба паклапаціцца пра апошніх!— крыкнуў ён і зноў падставіў шчаку.

Каб не гэта яго настойлівая — наіўная і адчайная — просьба, Галя наўрад ці паслухалася б. Але тут нешта затрымцела ў яе грудзях. Яна ўсхліпнула, абхапіла яго шыю і прыпала губамі да тугой Халупкавай шчакі.

Скамянелы, ён усё ж праз момант адхіліў яе. Выскачыў з машыны. Выхапіўшы з кабуры пісталет, пачаў адстрэльвацца.

# СЁСТРЫ

*Апавяданне*

Цяжка сказаць, калі да Галі прыйшло гэтае рашэнне. Але, на мой одум, прыйшло яно як нешта, што не магло не прыйсці...

Галя мне не проста свая. Калі памерла мама, Галя забрала мяне з вёскі. Прытуліла, уладкавала ў ФЗН. Аставалася старшай, калі я пачала рабіць вярстальшчыцай у Доме друку. І так да самага замужжа... Дый я любіла яе не проста як старшую. Мы як бы таварышавалі з ёю, хоць я і слухалася ва ўсім... Мы, жанчыны, можа, вастрэй за мужчын адчуваем прыгажосць адна ў адной. Я была закаханая ў Галю. Мне падабаліся яе постаць, гордая галава, вочы. Вы прыгледзьцеся — яны ж жывуць, пераліваюцца. Я аж замірала, калі, бывала, тулілася шчакою да яе шчакі.

Вайна застала мяне ў Ляхавічах. Гэта ў Заходняй. Я працавала ў райкоме, а муж у савеце Асаавіяхіма. Але прытулак я знайшла ў свякрухі, зноў-такі пад Мінскам. Мела я тады ўжо сына, была ўцяжку Лілечкай. А ў свякрухі, як-ніяк, свая хатка, прысядзібны ўчастак, карова. Дык выйсця не было — я знала: Галіну кватэру разбамбілі, а сама яна падалася на ўсход.

І вось цуд! У вайну, мусіць, заўсёды так. Памог выпадак... Дасюль я носа на вуліцу не паказвала. Палохалі чуткі. У Мінску немцы пракалолі цяжарную жанчыну штыком. А тут знячэўку адчаялася — пайшла. У самую пашчу — у Дразды!.. Раніцой адтуль да нас, у Масюкоўшчыну — а гэта кіламетраў пяць,— гул далятаў. Казалі, што там асуджаных па радыё на расстрэл выклікалі... І вось бачу — ля калючага дроту, за якім кішэлі счарнелыя здані,— Галя. У паласатым сарафанчыку з накідкай, у самаробных брызентавых тапачках. Вылітая бежанка... Аказваецца, як і я, прыцягнулася сюды шукаць мужа.

Ніколі — ні раней, ні пасля — не плакалі мы так. «Жывыя!..»

Найцяжэй было астацца самім сабою. Хіба хто з нас ўяўляў такімі падзеі, што абрынуліся на галаву, ці ворага, з якім давялося мець справу?

Дый асабістыя беды на нейкі час засланілі астатняе. Схільная да фантазій, Галя чамусьці ўявіла, што муж трапіў у палон. Яна плакала, бегала на вакзал, на таварную станцыю. Калі спыняўся састаў з ваеннапалоннымі, кідалася па пероне, крычала: «Саша! Я тут, Саша!.. Ці няма сярод вас шафёра Сашы? А?» Узбіралася на віядук і, калі цягнік праходзіў пад ім, зноў крычала, скідала печаную бульбу — палонных часта вазілі на платформах з высокімі бартамі. Ледзь не штодня бегала і да руін колішняга дома, крэйдай пісала пісьмы, новы адрас. Уцякаючы тады з Мінска, яна прыхапіла з сабой мужаву споднюю кашулю. Дык цяпер хавала і перахоўвала яе, як немаведама якую каштоўнасць. А пайшоўшы на работу, надзявала пад сукенку.

Знайшла Галя сабе каморку ў драўляным доміку на вуліцы Энгельса. Уладкавалася прыбіральшчыцай у казіно. Праца брудная, цяжкая. Падумаць толькі — дровы насіць, паліць печы, мыць падлогу, настылыя лесвіцы... Казіно атабарылася ў Доме прафсаюзаў, дзе і генеральны камісарыят. Прыступкі там, як вядома, шырачэзныя, колькі іх — не пералічыш. А тут яшчэ халады, начныя дзяжурствы.

Афіцэры-наведнікі, адазваўшы ў калідор, соваюць пакункі з бруднай бялізнаю — вымый. Не пытаюцца, хоча яе хто мыць ці не. Бяры, мый — і ўсё. Бо ты існуеш ужо цяпер, каб карміць і дагледзець іх. Гэта — твая доля. А яны — заваёўнікі. Іх справа — распараджацца і папіхаць. Некаторыя не плацілі нават пасля. А на вуліцы сустрэнешся — сыдзі з тратуара... І гэта трэба было цярпець уражлівай Галі, якая дасюль часамі бачыла абразу там, дзе ёю і не пахла...

І ўсё-такі як была яна акуратыстка, чысцёха, так і асталася. Хістаецца ад стомленасці, а працуе. Захавалася яшчэ гэтая годнасць... Дый асцерагацца мусіла — выганяць. А хто ты без аўсвайса? Зловяць на вуліцы, прывалакуць на зборны пункт — і ты ў Германіі або ў лагеры накшталт драздоўскага... Як у зачараваным коле...

Удалыя аперацыі афіцэры адзначалі банкетамі. У казіно — ён жыў паверхам вышэй — прыходзіў сам гаўляйтэр. Падцягнуты, задаволены, у сваёй светла-гарчычнай форме. Велікадушна адкрываў бяседу, чокаўся з тымі, хто найбольш вызначыўся, ляпаў іх па плячы. Праўда, пры ім напіваліся не дужа. Не вельмі разыходзіліся і потым, калі гаўляйтэр, зірнуўшы пад рукаў на гадзіннік, ішоў дамоў — прадбачлівы, ён пакідаў назіраць за парадкам памочніка або ад'ютанта. Але затое ўсе ўволю рагаталі, курылі і выхваляліся.

З іх размоў-выхваленняў паўставала карціна нялюдскага гвалту. Але адначасна бясспрэчным рабілася і другое — ідзе барацьба, і недзе не дужа далёка.

Гаварылі і пра ахвяры. Праўда, ужо з аглядкаю. Бо раз, падвыпіўшы, лейтэнанцік, у якога забілі брата, быў праслязіўся. Дык яго гаўляйтэр тут жа збэсціў і адхвастаў па шчаках...

Але чым мацней афіцэры выхваляліся і клялі «сабатажнікаў», «бандытаў», тым больш выраслі тыя ў вачах. Абураны, угневаны гаўляйтэр, безумоўна, пабіў лейтэнанта дзеля навукі прысутным — не смейце распускаць нюні, вы — немцы, а здавалася — пакараў ён жаласлівага небараку за тое, што ён сваім выглядам выдаў сакрэт. І, значыцца, важны, калі за яго так жорстка караюць сваіх... Толькі гэта трошкі і радавала...

Галя расказвала, што пасля скандалу з няўдачлівым лейтэнантам яна, вяртаючыся ранічкаю дамоў, прыглядалася да кожнага сустрэчнага — ці не падпольшчык? — і поўнілася любасцю...

У жніўні нечакана-негадана прышкандыбаў мой Вася. Трапіў у акружэнне пад Смаленскам, але яго адпусцілі — ні абмундзіравацца, ні пастрыгчыся яшчэ не паспеў. Быў ён худы, абраслы. З ранейшага, свайго на ім асталіся адны парыжэлыя боты.

Аднак доўга пажыць Васю з намі не давялося. У студзені яго разам з былым супрацоўнікам сельсавета і яшчэ двума камуністамі арыштавалі.

Я не кажу пра сябе. Галя і тая не магла даць сабе рады. Мусіць, успамінала свайго мужа, ставіла на Васева месца і мардавалася, строіла неверагодныя планы. Даведалася, што адзін з заўсёднікаў казіно, былы белагвардзеец,— пракурор. Знайшла подступы. Пачала маліць яго, абяцала аддзячыць. Многа з апошняга

перацягалі мы яму. Але, вядома, дарма. Калі зразумелі гэта, Галя кінулася да гаспадыні казіно. Тая — да генеральшы. Гаўляйтэр памарудзіў некалькі дзён, але ўсё-такі даў дазвол на сустрэчу з Васем. Нават паслаў з Галяй праважатага ў турму. Аднак, калі сястра пераступіла парог тамашняй канцылярыі, яе сустрэлі са здзіўленнем — вязня з дзевяноста другой камеры Шчуцкага Васіля сёння ўначы расстралялі за сувязь з партызанамі і хаванне зброі.

Навошта гаўляйтэр зрабіў свой жэст? Што гэта было? Здзек? Жаданне яшчэ больш запалохаць? Паказаць — вось якая яна бязлітасная штука, акупацыйная машына? Уявіць не магу... Але гэта, бадай, абразіла Галю мацней чым што. Гаўляйтэр і думкі не дапускаў, што яна здольная затаіць крыўду, узбунтавацца, прыпомніць... Ён проста запалохваў, пагарджаў ёю, намі! Любіў палохаць, каб яго баяліся.

Само сабой, высокі начальнік меў сваю прыслугу. Страву яму на кухні ў казіно гатавала спецыяльная кухарка. Але калі чакалі гасцей, генедыке-фрау, як звалі генеральшу, брала служанак і з казіно. Сервіраваць стол, быць на пабягушках. Да гаўляйтэра наймалі толькі маладых служанак — семнаццаці-васемнаццацігадовых. Сталая, шчырая Галя вылучалася з іх сваёй спрактыкаванасцю, і генеральша ўпадабала яе... Пачакайце, пра што гэта я? Усё зноў уявілася... Ага!.. Дык вось, нават пасля расстрэлу Васі нічога не перамянілася.

Але Галя ледзь не звар'яцела. Бачыла — у грудзях у мяне заклякла ад гора, ад нянавісці. Таму і слухаць не захацела, каб я з дзецьмі далей была ў Масюкоўшчыне. «Загінеш! І сама і Жэнечку з Ліляй загубіш. Што ім, нелюдзям, абыходзіць?.. Там жа ведаюць, што ты камсамолка!..»

Давялося перабрацца ў Мінск.

Прыцягнулі з папялішча ложак, разгарадзілі камодай на дзве палавіны пакойчык і сталі жыць. Дзесяць месяцаў прасядзелі мы на Галінай шыі. Праўда, памагала свякруха. Галя выстаралася харчовыя карткі на дзяцей, я мыла чужую бялізну. Атрымлівала за гэта натурай — соллю, махоркаю. Хадзіла мяняць іх на крупы. Але чым асаблівым магла памагчы старая жанчына? Што значылі чатырыста грамаў эрзацхлеба на месяц? Ці многа ты заробіш на бялізне?

У Жэні пачаўся рахіт, на хлопчыка балюча было глядзець. І, праклінаючы ўсё на свеце, давялося ў снежні, перад Новым годам, занесці дзяцей назад да свякрухі — там хоць малако ёсць,— а самой паступіць судамыяй у сталоўку суда. Чаго толькі не перажыла я там!

Некаторыя кажуць, каб немцы так не лютавалі, не разгарэлася б і такой барацьбы. Я таксама часамі пыталася ў сябе: а што, калі б сапраўды яны не чынілі гвалту? І кожны раз схілялася да думкі — так не магло быць, бо яны фашысты. А па-другое, калі б былі і не фашысты, а хто-небудзь іншы, усё роўна аставаліся б захопнікамі. А значыць — чужынцамі, ворагамі Савецкай улады. Інакш кажучы, барацьба ўсё адно пачалася б і была б не менш зацятая. Людзям толькі трэба было аглядзецца, узненавідзець, вызваліцца ад улады неспадзяваных падзей, выбраць месца ў барацьбе.

Мы з Галяй пачалі шукаць сувязі з падполлем. Не толькі каб адплаціць за тое, што вытваралі немцы. Не. А каб наогул быць са сваімі. Праўда, палохала неадпаведнасць. Мы — і цэлая ўзброеная да зубоў плойма... Дый трэба было думаць пра дзяцей, ратаваць іх... Але які гэта быў паратунак?

Да таго ж Галя не спускала з думак мужа. Толькі раней яна меркавала, што ён трапіў у палон, а цяпер фанатычна верыла — на фронце і ваюе адчайна. Так што выходзіла: калі яна хоча быць вартай яго, то абавязкова павінна рабіць нешта сама. Можа ж здарыцца, што пасля перамогі знойдуцца дабрадзеі, якія з ухмылачкай намякнуць: «Вядома, казіно... Як ты ўсцеражэшся? Гразь, яна ліпу-у-чая!» Пераняла ж раз зусім незнаёмая гарбуха, біла сябе ў горб: «Служыш, гадаўка? Такія ў нас во дзе сядзяць...» Дык няхай тады за яе гавораць справы. Каб Саша, калі спаткаюцца, глядзеў шырокімі зіхотнымі вачыма — «Вунь якая яна ў мяне!» А тым, хто падначвае, нагаворвае, мог бы адрэзаць: «Пачакайце, пачакайце! Вы самі спачатку зрабіце, што яна зрабіла, а потым ужо і ацэнкі давайце».

У канцы вясны генеральны камісарыят перавялі ў новы будынак. Побач з ім падрыхтавалі кватэру гаўляйтэру, і генеральша прапанавала Галі перайсці да яе пакаёўкаю. Пакаёўкаю да гаўляйтэра! Да чалавека, які хацеў, каб адно яго імя наводзіла жах на людзей!

Так неспадзеўкі адкрылася вунь што!

Я дасюль тройчы бачыла яго. Першы раз на парозе кухні судзейскай сталоўкі. У адчыненых дзвярах. Мы якраз абіралі бульбу, а кухарка, якая толькі што вымыла галаву, сушыла валасы над плітой. Я нават не ўяўляла сабе, што так можа крычаць чалавек, з якога выпірае здароўе, самавітасць. Добра, што ад'ютант, які аказаўся за яго спінай, падаў нам знак устаць, а кухарцы — знікнуць. Другі раз — гаўляйтэр выступаў перад паліцаямі ў парку Горкага, а потым тут жа, ля трыбуны, раздаваў ім узнагароды. Ён паставіў для зручнасці нагу на нейкі табурэцік і не пазіраючы на бобікаў, што выцягнуліся перад ім, соваў пададзеныя ад'ютантам чаравікі з жалезнымі шыпамі на падэшвах. І, нарэшце, бачыла яго ў Тэатральным скверы ў страшны майскі дзень, калі вешалі нашых. Я ведала: надзея марная. І ўсё-такі, не могучы прымірыцца з Васевай смерцю, пайшла шукаць яго сярод асуджаных. «А што, калі?..» Гаўляйтэр, акружаны світай, красаваўся непадалёк ад увахода ў сквер і з гаспадарлівай строгасцю назіраў за тым, што адбывалася наўкол.

Так ці інакш, але гэты ганарысты, з цяжкімі сківіцамі юберменш, які кожную хвіліну мог даць волю свайму гневу, зрабіўся ў маіх вачах увасабленнем сілы, што засціла свет і прынесла мне і другім бяду.

Мусіць, нешта падобнае, хоць па-свойму, адчувала і Галя. Бо, калі я сказала ёй пра гэта, яна стрэльнула ў мяне позіркам і пачала кусаць ражок хусткі.

— Ён нават цярпець не можа,— перасмыкнулася,— калі хто-небудзь у яго прысутнасці моцна гаворыць. А сам? Калі дома, адно чуваць — яго голас. Дзярэ горла ў тэлефонную трубку, крычыць на ад'ютантаў, на прыслугу, на сабак. Выключэнне — хіба рыжы Бербал. З ім толькі і ходзіць прагуляцца па двары. Астатнія, паверыш, проста безгалосыя робяцца. Стараюцца схавацца куды, не трапляць на вочы. Нават генедыке-фрау ў сваім бялюткім халаце. Нават дзеці. За сталом сядзяць — не варухнуцца. Муштруе, займаецца шагістыкай. Паказвае, куды біць, каб мацней балела. А ўвечары піша п'еску, чытае кнігі. І ва ўсіх дванаццаці пакоях — Гітлер, Гітлер, Гітлер...

Выпадак сутыкнуў Галю з Надзяй Траян, а мяне з Мікалаем Пахлябаевым — работнікам у кіно...

Прывяла Надзю Галіна прыяцелька, з якой сястра дзялілася сваімі думкамі і планамі. Маладзенькая, порсткая, у кудзерках, Надзя з парога, памахваючы сумкай і кветкамі, прапанавала сястры выканаць заданне — знішчыць вырадка.

Сяброўцы Галя верыла, але многае тут выглядала падазрона. Траян не мела канкрэтнага плана. Адмовілася арганізаваць сустрэчу з камандаваннем партызанскага атрада, ад імя якога нібыта дзейнічала.

Галя затрывожылася. Тым больш тая, улавіўшы яе ваганне, раптам выняла з сумкі жмут грошай. І калі грукнула дзвярыма, Галя накінула ўжо хустку, каб бегчы ў СД — даносіць на падасланага агента. Давялося астуджваць, угаворваць: «А калі яна наша? Тады што?»

Гэта было ў аўторак. А ў сераду, пераняўшы Галю ў калідоры, гаўляйтэр упяў у яе халодныя зрэнкі і спытаўся: а што рабіла б яна, калі б ёй прапанавалі забіць яго. «Калі б грошы давалі? А? Шмат — шмат!»

Мужнасць у чалавека, як, скажам, і дабрата,— ад прыроды. Але ў адрозненне ад дабраты яна, мусіць, у большай ступені залежыць ад абставін. Ёй патрэбна пэўная атмасфера, ці што.

У СД, відаць, разумелі, што, пасылаючы правакатараў, яны не толькі выяўляюць сваіх ворагаў, а і збіваюць хвалю мужнасці. Гаўляйтэр, безумоўна, не ведаў пра наведванне Траян. Іначай сястру выгналі б, пасадзілі — чаму не выдала падбухторшчыцу? Але і ён сваімі эківокамі таксама папярэджваў магчымы Галін учынак. Паказваў, што ён усё і ўсіх бачыць навылёт, і любыя захады асуджаны на правал.

Аднак ні СД, ні гаўляйтэр не ўлічвалі, што яны гэтым самі бударажылі думкі, скіроўвалі іх на тое, ад чаго намагаліся адвесці. Размова з гаўляйтэрам напалохала Галю. Гэта так. Але гэтая ж размова прымусіла і ўпэўніцца. «Баюся не адна я. Баіцца і ён!.. Значыць, адчувае небяспеку. А значыцца — нягледзячы на ўсе меры, што прымае ахова, небяспека для яго астаецца... І нанесці яму ўдар мне, мусіць, лягчэй, чым каму іншаму».

Вось чаму, калі я правяла Пахлябаева, Галя трымала сябе спакойней. Нешта як бы цвярдзела ў ёй.

Дзіўна склаўся лёс і гэтага чалавека. У баях пад Мінскам Пахлябаева раніла, і ён трапіў у Клінічны га-

радок. Калі Мінск занялі немцы, яго, як і яшчэ некалькіх другіх параненых армейцаў, выратавала медсястра — расстаралася цывільную вопратку і далячыла дома.

Ён прынёс з сабой кавалак сала. Сказаў, што партызанскае. Пераконана заявіў, што гаўляйтэр усё роўна асуджаны, і прапанаваў сустрэцца з Марыяй Чорнай. «О-о!» — працягнуў, называючы яе прозвішча, і ўсё неяк стала на дзелавую нагу.

З гэтага часу, не ведаю як у Галі, у мяне з'явілася адчуванне — я мушу падымацца на крутую скалістую гару. Мне цяжка, я спатыкаюся, ногі слізгаюцца, але спыніцца, каб перавесці дух, ужо нельга, як нельга і вярнуцца назад — не дазваляе нешта мацнейшае за мяне. Дый за спінаю — адна чарната.

Ва мне і дасюль жыло адчуванне стомленасці. Нават людзі часта здаваліся на адзін твар. Тэатр ад нас быў усяго за паўтара квартала, але я, ці дасцё веры, не памятаю, працаваў ён або не. Добра не памятаю таксама, ці хадзілі трамваі па Савецкай. Бо было не жыццё — мадзенне. Дзень не адрозніваўся ад вечара. Таму адчуванне цяжкага пад'ёму не гняло мяне. Наадварот. Наперадзе засвяціўся выратавальны агеньчык. Ён мігцеў, нешта абяцаў.

Але прыспешваць падзеі яшчэ не хацелася, хоць задуманае станавілася патрэбай. Мяне як бы падпірала ўпартасць: «Ага! Ну-ну!..»

Месцам яўкі Марыя Чорная прызначыла падножжа «Пацёмкінскай лесвіцы», як мы называлі спуск па вуліцы Карла Маркса да набярэжнай. Сястра папрасіла правесці яе, і мы, апрануўшы лепшае, накіраваліся туды разам. Ішлі, па-мойму, трымаючыся пад ручкі. Ведалі: трэба размаўляць, паводзіць сябе як заўсёды, а яшчэ разумней — ісці адна за другой назіркам. Так хоць, калі што, хто-небудзь уратуецца — непадалёк руіны. Але крочылі моўчкі, раз-пораз сціскалі адна адной пальцы.

Па набярэжнай прамаршыраваў узвод салдат. Прамчаў матацыкліст з аўтаматам, у касцы і ахоўных акулярах. Ля ўвахода ў парк хлапчук суконкай глянцаваў боты нейкаму ферту. З усяго небяспечным мог аказацца толькі ферт. Але сэрца тахкала. Крыху паспакайнелі, калі ўбачылі Пахлябаева. Перакінуўшы дажджавік цераз плячо, у расшпіленай кашулі, берэце,

ён шыбаў каменьчыкі ў рэчку і заляцаўся да жанчыны ў простым строгім гарнітуры. «Чорная!» — падумалася чамусьці з рэўнасцю, быццам тая станавілася паміж мной і Галяй.

— Кажаце, білеты, можна лічыць, у кішэні? — даляцеў да мяне яе грудны голас.— Давайце тады зверым гадзіннікі...

Галя вярнулася дамоў пазней. Застала мяне ля акна. Здагадалася, што чакала яе ні жывая ні мёртвая. Кінулася на шыю.

«Гэта, здаецца, што трэба!.. Сказала: іначай нельга, калі хачу астацца сумленнай... Пойдзеш заўтра з ёю... Глядзі ва ўсе вочы, Валечка!»

Як ні дзіўна, стала лягчэй — рашаючае набліжалася.

Спаслаўшыся ў сталоўцы на хваробу дачкі, я адпрасілася з работы. Як заўсёды клапатлівы і далікатны, Мікалай праводзіў мяне да Татарскіх агародаў.

Галя мела рацыю — Чорнай сапраўды хацелася верыць — спакойная, простая. «Калі трапім пад праверку, ты маўчы,— параіла, як рушылі ў дарогу.— Я пастараюся сама выкруціцца». Але занадта многа было пастаўлена на карту, і я, каб застрахавацца, усё-такі рашыла: убачу, што здраджвае, скажу — сама правярала яе. Гэта, вядома, было наіўна, але падавала якуюніякую надзею — я ж рызыкавала Галяй, дзецьмі!..

Нібыта разгадаўшы мае мыслі, Марыя прасвятлела:

— Вернешся, схадзі да сваіх. Хай пусцяць пагалоску, што рэйскамісар дае Галі кватэру і тая забірае ўсіх да сябе. Днямі мы вывезем тваіх.

Яна ведала пра Масюкоўшчыну! А галоўнае — ужо мела планы!.. Сказала гэта, калі перайшлі рэчку Вячу. У Беларучах жа стомлена ўсміхнулася: «Ну, вось і віншую — дома!» І мне стала так хораша, цёпла, як бывае толькі з Галяй, калі сястра, адчытаўшы за штонебудзь, знячэўку дабрэла і забывалася на маю правіннасць...

Галю я застала ўзрушанай.

— Ну як? — не дала яна мне распрануцца, зняць хустку.

— Здаецца, парадак...

— Учора ў госці прыходзілі Готберг, доктар Кайзер, Янецкі. Сядзелі ў кабінеце за столікам ля каміна.

Я падкладала дровы, мяшала ў каміне... Рыхтуецца нейкая «грандыёзная» акцыя. Самая масавая. Гаўляйтэр пасля кружыў на дыване, напяваў сваё «Гайлю-гайлю...». Паклікаў мяне з калідора, сунуў «Бон-бон», выскаліўся... Значыць, зноў тысячы ахвяр! Дзеці, старыя. Баюся толькі загінуць першай. Ты загінеш, а ён астанецца!

— Пачакай, выслухай спачатку...

Я ведала, што Галя злуе, абураецца, калі ёй не даюць выліць душу. Але астатнім часам толькі так, пераключаючы гаворку на іншае, удавалася супакоіць яе.

— Чорная прыйдзе нібыта нешта купляць у нас. Разумееш?

Было відаць: рашэнне выспела ў Галі, яна поўная душэўных сіл, хоць і мучыцца. Небяспека падпільноўвала яе ў адным — яна магла перагарэць. Я наўрад ці здолела б вытрымаць такое напружанне. Але разумела яе лепей, чым яна сябе. Абняўшы Галю, я прытуліла яе галаву да свайго пляча і пачала гладзіць валасы.

На сястру спусцілася нейкая святая наіўнасць. Я ж, наадварот, трымалася, як пільны вартавы пёс.

Калі зноў завітаў Мікалай, Галя раптам узялася ўгаворваць яго, каб разам з намі ўцякаў у лес.

— Што вы сяброўеце з Валяй, вядома не толькі сумленным людзям,— пераконвала яна.

Той тужліва, нібы згаджаючыся, ківаў галавой, але ўхмыляўся:

— Вам добра, але мне як з пустымі рукамі? Узарву кіно з фрыцамі, тады і гайда. А пакуль камандзіроўку ў Ліду вазьму.

— Правільна,— жорстка пацвердзіла я, хоць на вачах закіпалі слёзы.— І наогул, Мікола, табе няма чаго рабіць тут. Ідзі...

Калі ж у дзвярах паказалася Марыя Чорная і, павітаўшыся, пачала таргавацца, мне здалося, што на Галіным твары праступіла і блукае ўсмешка. Трохі іранічная, нецярплівая.

Хімічны ўзрывальнік да міны быў разлічаны на суткі. Чорная растлумачыла гэта, паказала, што рабіць, каб прывесці міну ў баявую гатоўнасць. Сцены ў нашай каморцы тонкія. Я напявала песенькі, якія здолела ўспомніць, а яны размаўлялі, намячалі план, як і што мініраваць у спальні. Потым Галя засунула мі-

ну пад спружыну свайго матраца, і мы ўтрох, сеўшы на ложак, сталі гушкацца. За сцяной у суседа-паліцая адзначалі нейкую падзею — стаяла п'яная гамана, а мы гушкаліся, як малыя, правяраючы, ці не адчуем міны... Выходзіла — вымаць з узрывальніка чаку і ўстаўляць яго ў міну трэба прыблізна а другой гадзіне ночы — калі пунктуальны гаўляйтэр звычайна спіць. Дамовіўшыся і пра гэта, Чорная пацалавала Галю ў лоб і пайшла.

Міна была паўкруглая, як палакіраваная. Узрывальнік пабліскваў меддзю. Усё здавалася дыхтоўным, добра прыгнаным. Аднак, калі сястра — я трымала міну — уставіла ўзрывальнік у гняздо, ён увайшоў не да канца. А нам чамусьці засела ў галаву, што ён абавязкова павінен схавацца ўвесь... Мы ўзяліся калупацца ў міне, заганяць узрывальнік сілай. Вокны ў пакойчыку былі старанна завешаны, гарэла газнічка, і гэта, мусіць, неўзабаве памагло нам скеміць, чым могуць кончыцца нашы практыкаванні.

Зараджаная міна адразу стала грознай. І ўсё-такі мы жылі на такой хвалі, што Галя, прыкінуўшы, прапанавала схаваць міну да раніцы пад падушкамі. Я катэгарычна запратэставала. Абкруціла яе анучай, паклала ў вядро і вынесла ў туалет.

Леглі на Галіным ложку. Абняліся. Доўга ляжалі моўчкі, слухаючы, як б'юцца нашы сэрцы, і толькі часам сціскалі адна адну ў абдымках.

— Ты не спіш? — дыхнула ў самае вуха Галя, калі я нарэшце сцішылася.— Мы зусім забыліся на другіх... Немцы, бясспрэчна, адкажуць на кроў кроўю. Праўда?

— Большай крыві, чым ёсць, не будзе. Ты ж сама казала пра акцыю. Спі. А па-другое — як быць з вайной? Яны будуць цябе біць, а ты, каб іх не ўгнявіць, толькі вачыма лыпай? Тады ж і партызанскую барацьбу трэба прыкрыць, і іхняе права на беззаконне прызнаць. А думаеш такой пакорай каго ўратуеш?

У шэсць гадзін мы былі на нагах.

Галя ўсхапілася першая. Паспешліва, але стараннa стала адзявацца. Яна, відаць, усё абдумала загадзя. Дастала з камоды мужаву кашулю, прымерала па шырыні плячэй, апранула. Выбрала любімую сукенку, агледзела сябе ў люстэрка, памылася, пачала прычэсвацца. Я сачыла, шкадавала і захаплялася ёю. І калі, узяўшы сумачку з мінай, яна ля парога, яшчэ раз развітваючыся, падняла руку, мне нясцерпна захацелася крыкнуць: «Якая ты прыгожая, Галя! Мне страшна за цябе... Глядзі, каб было добра!» Але я задушыла гэты крык і пажадала:

— Ні пуху ні пяра!

— К чорту,— адказала яна са знаёмай нецярплівасцю.— У адзінаццаць у Тэатральным скверы...

Пра тое, што давялося ёй перажыць, я даведалася пазней. Але, даю слова, многае ўгадала. Узрушаная душа празарлівая. Мікалай расказваў, што перад боем, у якім яго раніла, ён сніў шпіталь і палату. А калі сапраўды трапіў туды, жахнуўся — яны былі цюцелька ў цюцельку такія, як бачыў у сне.

Я ведала, што за брамкай ля ганка сястру двойчы павінны абшукаць вартавыя, але яна абавязкова абвядзе абодвух. Першага загаворыць, другога абдурыць. Возьме мятлу і стане падмятаць двор, пакуль попка зазяваецца або адыдзе на колькі крокаў і можна будзе прашмыгнуць у дом. Потым у раздзявалцы ля прыслугі яна павесіць паліто, падвяжа міну пад грудзьмі і надзене фартух. Так з мінай і будзе хадзіць па доме, сустракацца з гаўляйтэрам, дзяжурнымі афіцэрамі, з генедыке-фраў. Божа мой!.. Потым, улучыўшы момант, яна загадзя атрымае дазвол пайсці, калі ўправіцца з уборкай, да зубнога ўрача. А галоўнае... галоўнае, пранікне ў спальню гаўляйтэра і, можа, пад насцярожаным сабачым позіркам таго ж Бербала, пакладзе міну пад матрац.

Кажуць, самае страшнае — ісці ў атаку без зброі. Безабаронны, адкрыты ўсякаму ліху, дый заняты адным, што нечага чакае. На рабоце я не знаходзіла сабе месца, уздрыгвала ад скрыпу дзвярэй: ці не па мяне? Але як толькі ўспаміна́ла Галіну, спакайнела... Слаўная ты мая! Колькі шчаслівых выпадкаў павінна ты знайсці і скарыстаць! Колькі вытрымкі, сілы павінна

ў цябе быць! I гэта ведаючы, што даволі аднаго ліхога выпадку, каб ён усё перакрэсліў. З мінаю ля сэрца! У логаве, дзе ўсё супроць цябе... Дарагая ты мая! Адкуль у цябе такая сіла, што мацуе і мяне?..

Я да крыві прыкусіла губу, каб не кінуцца бегчы, калі ўбачыла сястру ля фантана. Самотна схіліўшы на плячо галаву, яна разглядала бронзавага хлопчыка з лебедзем. Заўважыўшы мяне, пайшла насустрач.

— Здаецца, усё... Мужнасць, Валя,— гэта шчаслівае спалучэнне... Хадзем хутчэй! — выдыхнула.— Марыя з машынай чакае нас на Траецкай гары... Казала, што дзяцей з свякрухай вывезлі ўчора. Праўда, ля Сёмкавага Гарадка адарвалася і збегла Красуня... Хадзем хутчэй...— а сама смыкае рукаў Сашынай кашулі, што вылез з-пад манжэта сукенкі... О, калі б я магла памагчы і ў гэтым!..

# КАЛІ СТОГНЕ ДУША

*Апавяданне*

Мы ўвайшлі ў лес. Ураз стала відаць — вечарэе. І не так таму, што святло, калі канае дзень, ідзе ад небасхілу, а ў лесе яго закрываюць дрэвы, як таму, што навокал усталёўвалася нерухомасць — дрэвы, кусты замерлі ў нейкім чаканні.

У прыдарожных кушчах залівіста спяваў дрозд. Але, калі я звярнуў на гэта ўвагу, стала чуваць: спявае ён не адзін — лес поўніцца птушынымі галасамі, ад якіх, як здалося, нават пахарашэлі асіны з іх ільнянымі каташкамі і прыкметнейшымі зрабіліся ўкрытыя пушыстымі коцікамі залацістыя вербы, рэшткі снегу пад імі.

Салаўіная пара не надышла. І мусіць таму, што спевы драздоў першыя абвяшчалі вясну, яны здаваліся невымоўна дарагімі. Востра адчувалася ўласная сіла. Верылася — усё будзе добра. Ды я наогул люблю, калі спяваюць дразды. Люблю за іх адкрытую радасць, за тое, што яны ўсёй істотаю славяць жыццё.

Ішлі мы ўдваіх са спадарожніцаю, якую я нядаўна дагнаў. У ніцяной хустцы з махрамі, у паношанай плюшаўцы і мужчынскіх чаравіках — як звычайна апраналіся гараджанкі, ідучы мяняць транты ў вёску,— яна таксама кіравалася ў партызанскі атрад. Некалі мы ўжо сустракаліся з ёю, і я, адабраўшы на правах знаёмага яе хатулі, узваліў іх на свайго мышастага коніка. Гаворка ў нас была не пра вясёлае, але я ўбіраў у сябе залівістыя трэлі і радаваўся, што дразды перадавалі нас бы эстафету.

Раніцою ў невялікай вёсцы Альхоўка, дзе воля заваёўнікаў праяўлялася па-свойму — калі альхоўцы, скажам, не выходзілі працаваць на шашу або не здавалі малака, з бліжэйшага гарнізона выпускалі па вёсцы два-тры снарады,— мне давялося размаўляць з адным уцекачом з Мінска.

Яго сумная гісторыя і сам ён проста ўразілі мяне...

Уцякач аказаўся маёрам-акружэнцам. З запалымі грудзьмі, з карычневымі плямамі на лбе і лысіне, ён кашляў і, закрываючы пры гэтым рот далоняй, азіраўся наўкол. Шэры, шурпаты, як зрэбнае палатно, твар у маёра сінеў, і ён аж сціскаўся.

Полк яго трапіў у акружэнне на другі дзень вайны і з баямі адыходзіў на ўсход, пакуль пры пераправе цераз раку Шчару пад Слонімам не быў разгромлены. Маёра ў гэтым баі раніла. Праўда, няцяжка. Але ў сумятні ён трапіў пад грузавік, і толькі таму, што пясок на лясной дарозе змясілі колы і гусеніцы, астаўся жывы.

Адхаяў яго ляснік з недалёкай леснічоўкі — даглядаў, карміў. А напрадвесні, пераапрануўшы ў сялянскае, зноў выправадзіў у дарогу. Праз тыдзень, ідучы начамі, днюючы на хутарах, у стагах сена, маёр пасля прыгод прыдыбаў у Мінск, дзе жыла яго сястра. Схаваўся спачатку на гарышчы, а потым у падполлі невялікага сестрынога доміка. Скляпок, куды раней ссыпалі на зіму бульбу, пашырылі, адгарадзілі куток, замаскіравалі, паставілі ложак. Да новай вясны пражыў там маёр, пакуль сястра раздабыла яму дакументы і вывела сюды, у Альхоўку.

Паглядаў ён на мяне неяк дзіўна — баяўся і радаваўся адначасова. Баяўся, што яго не зразумеюць, і ўпотай радаваўся, што зможа пакпіць з любога. Ён не здаўся ў палон, не меў спраў з ворагам, страціў здароўе. І гэта давала яму падставы ганарыцца сабою.

Але плаціў ён за ўсё пакутамі. Ахвяраваў вачыма, слыхам, лёгкімі і, натуральна, расчульваючыся, не мог не шкадаваць сябе. Недзе там, на волі, вясну змяняла лета, лета — восень... Свяціла сонца, ішлі дажджы, зелянела трава. Людзі там, праўда, мелі свае клопаты, але затое бачылі гэтае дзіва, дыхалі свежым паветрам, а ён задыхаўся, гніў у сырой цемрадзі, чакаючы справядлівага збавення, якое, верыў, абавязкова прыйдзе...

Калі я сказаў яму, што магу ўзяць яго ў спецгрупу, ён расцвіў: «Ну, вядома... Дзякую, дзякую!»

Аднак, калі я дадаў: гэта будзе магчыма толькі, калі ён паабяцае аддаць за лічаныя дні столькі сілы, колькі патраціў бы, ваюючы ўвесь час, косці ў яго нібыта размяклі, і мы разышліся.

— Та-ак...— працягнула мая спадарожніца, якая нечакана страпянулася, калі я загаварыў пра дзіўную маёраву слабасць.— Значыць, тут яго мяжа...

Цокалі падковы. Мой конь, збалаваны тым, што я звычайна насіў у кішэні хлеб, штурхаў мяне ў бок і, калі я, адмахваючыся, трапляў яму па пысе, фыркаў, звінеў цуглямі. Ды гэта не палохала драздоў. Лес аж звінеў ад іх спеваў, і стваралася ілюзія, што спявае, заходзіцца радасцю ён сам.

— У падполлі я працавала з Жанам...— нечакана прызналася мая спадарожніца: я для яе быў адтуль — з Вялікай зямлі.

Я сабраў увагу, бо сёе-тое ўжо ведаў пра выключную смеласць гэтага чалавека і аднойчы бачыў яго, статнага, у брыгадным лагеры Старыка-Пыжыкава. Да таго ж Жана арыштавалі за некалькі дзён да майго паходу ў Мінск, і мне добра помнілася, як бедавалі, тужылі яго сябры.

— З Жанам? — перапытаў я, стараючыся зразумець раптоўную шчырасць жанчыны, у чыёй маўклівасці дасюль усё-такі чулася прыхаванае імкненне аставацца чужой. Дый, прызнаюся, мне былі антыпатычны замкнёныя людзі. І, пэўна, таму, што многія з іх пад напнутай стрыманасцю хавалі пустату. Каб адважыцца на слова, ім трэба паслухаць другіх, і, зразумела, яны непазбежна позняцца. А каму патрэбна запозненая ісціна? Да таго ж, бывала, я трапляў у нязёмкае становішча. Ляпну — і пашыўся ў дурні. І тады тыя, хто прамаўчаў, мелі права ўхмыляцца. Знаў я і такіх маўчуноў, якія, калі ўзнікала вострая гаворка, каб не сказаць сваё слова або не быць сведкам,— проста ўцякалі...

Спадарожніца быццам не пачула майго пытання, але, каб не пакрыўдзіць мяне зусім, загаварыла далей.

— Вы ведаеце, як яго схапілі? Не? Устаў раніцою, зрабіў зарадку, убачыў, што гаспадыня гатуе нішчымную поліўку, і засмяяўся: «Пачакайце, цётка Маша, я зараз! Мая сувязная, напэўна, з лесу вярнулася. Можа, чаго прынесла з сабою». Накінуў паліто і пабег...

Узважваючы, што і як гаварыць далей, яна замаўчала. Ды тое, што ўскалыхнулася ў ёй, аказалася мацнейшым за недавер'е-засцярогу.

— Я тады жыла на Рэвалюцыйнай,— рашыла яна растлумачыць для яснасці сёе-тое: — З Падлеснай нас

выселілі, бо панаязджалі пратураныя са Смаленска эсдэкаўцы — яшчэ больш зацятыя, чым мінскія. Але новая кватэра аказалася нават зручнейшай — паддашша звязана з суседнім домам, з цёмнай кухні, што была ў суседкі, можна трапіць у другі пад'езд... Дый суседка — неўраўнаважаная, шаленаватая жанчына, упадабала Жана. І ён сам у трывожныя дні, пасля вераснёўскага правалу сяды-тады знаходзіў у нас схованку. Калі забіў зондэрфюрэра, хаваўся таксама не дома, а тут...

Вы чулі, як гэта яму ўдалося? У цэнтры горада, на вуліцы, халоднай зброяй!.. Прыбег запарушаны снегам, з пабялелымі вушамі. «Ух, халадэча! — смяецца.— Няхай знаюць, што барацьба не спынілася. Так-так, толькі так!»

Я начавала якраз у суседкі. Каб было цяплей, ляглі мы з ёй на адным ложку. А яго і гэта ўзрадавала: «От раскоша!.. Пісталет зондэрфюрэру, аказваецца, сам Гітлер падараваў... Пусціце пагрэцца!» І, не зважаючы на пратэсты, суседчын віск, ушыўся між нас. А як ушыўся, праз хвіліну захроп, як праведнік. Толькі на твары страшнаватая ўпартасць... Ну, а раніцой зноў за сваё — жартачкі, зарадка, абліванне ледзяной вадою. Вечна так!

Марыў падполле аднавіць. На нейкі час выводзіў людзей з горада. Арганізаваў уцёкі раненаму пры арышце «Бацю». Чулі пра такога? Яго следчы з СД паклаў падлячыць у бальніцу... Нейкім спосабам, без друкарні, якая таксама была разгромлена, выпусціў лістоўку: жывы, маўляў! Ні стомы, ні перадышкі, ні перашкод... І вось выйшаў адзеты на скорую руку з кватэры і знік...

Чаканне бяды робіць людзей забабоннымі. Вы, мусіць, таксама сустракалі такія выпадкі. Суседка сасніла сон — бачыла Жана на белым кані, у чырвонай папасе. Зжахнулася. «Белы конь! Гэта ж небяспека, Шурачка! — зашаптала, разглядаючы свой спалоханы твар у люстры: А чырвоная папаха, ай-яй,— смерць! Няўжо нельга памагчы?..»

У роспачы, кідаючыся, я збегала да Жана на кватэру. Потым рашыла прасачыць за тымі, каго з гета водзяць працаваць у СД. У Смаленскую, у Мінскую. Праз іх, калі толькі там Жан, таксама можна ўстанавіць сувязь... І не паверыце! Натрапіла на сясцёр, якія

прыбіралі ў сутарэннях адной з гэтых крывавых установў.

Праз трэцяга чалавека перадала прыметы.

А калі атрымала адказ, што Жан сапраўды там, не ведаю, чаго было болей — радасці, што жыве, ці адчаю?..

Яна гаварыла, а ў маім уяўленні паўставаў корпус медінстытута, дзе размяшчалася мінская СД, яго сутарэнні, разгароджаныя дошкамі на катухі, што служаць камерамі для вязняў і гаўптвахтаю для ўласных штрафнікоў. Сыра, холадна. Голыя нары, набітая саломаю падушка, і больш нічога. Лямпачкі і тыя гараць толькі ў калідоры. За сталом з тэлефонам і паперамі — наглядчык. Тоўсты, флегматычны. З такой тупою прывычкаю — бясконца корпацца ў паперах, гартаць гросбух... Бяда!..

— Праўда,— расказвала тым часам чуць жвавей спадарожніца,— першыя дні на допытах Жана не білі, а схілялі на здраду. Следчы Фройлік пералічваў яго злачынствы, псеўданімы, прозвішчы — паказваў, што знае ўсё, і кпліва грымаснічаў. Значыць, трэба было, пакуль засталіся сілы і чысты твар, нешта вынайсці. Выхад павінен быць знойдзены як мага хутчэй і чаго б гэта ні каштавала.

І вось тут ён атрымаў маю пісульку. Яе сунула яму ў руку сімпатычная рахманая прыбіральшчыца — як адразу падумалася, з тых, што заўсёды і ва ўсім за слабых ды пакрыўджаных.

Няёмка ў такую хвіліну гаварыць пра другараднае. Але вы зразумейце мяне. Можа, гэта зусім не другараднае. Жан часта загараўся, як порах. Дзейнічаў з перакананнем, што няма немагчымага. Усё ў яго было сваё... Баця, якога ён паважаў, пачаў быў неяк выгаворваць яму, што занадта рызыкуе. І як, па-вашаму, ён зрэагаваў на гэта? Не стаў ні апраўдвацца, ні абяцаць што-небудзь, а адно паблажліва толькі і вуркатаў: «Ну, Баця, хопіць. Ну, хопіць!» — ды хітранька жмурыўся сам сабе. Вы во паслухайце ўважлівей!

Думка, што запіска — правакацыя, безумоўна, мільганула ў яго. Але чым ён рызыкаваў? Важна было — правільна павесці сябе. І ён асцярожна, каб не палохаць дзяўчыны, паклаў ёй руку на плячо. Тая сцялася, зірнула на сцяну, за якой гаманілі штрафні-

кі-літоўцы, узяла вядро і выйшла. Але вачыма, у якіх былі слёзы, усё-такі бліснула на Жана.

Калі пстрыкнуў замок, Жан, як пісаў пасля, кінуўся да дзвярэй. У шчыліны паміж дошак прабівалася святло... Ён пазнаў мой почырк...

Суседчына маці некалі працавала зубапратэзісткай і ў іх сям'і вадзілася золата. Я ведала, што суседка панатыкала яго за шпалеры, хавала ў тайніках. Перагаварыўшы з ёй, мы напісалі Жану, што ёсць магчымасць наняць адваката і падкупіць следчага. Але... Ён адказаў адразу і рашуча. Не — ні ў якім разе! Нават як бы прыкрыкнуў на нас. Ніякай дыпламатыі! У адносінах да яго такое не паможа, і мы толькі наклічам на сябе бяду.

Я зноў уявіў, як бурлілі-кіпелі ў Жана думкі!.. Але пайшлі яны, як мне здалося, у незвычайным кірунку. І гэта, мусіць, таму, што ў яго з'явілася незвычайная прасветліна. Ведаючы — распыляцца нельга, ён ухапіўся за тое, што падвярнулася. Дый практыка падпольнай барацьбы падказвала: ідучы няходжанымі сцежкамі, часамі хутчэй даб'ешся поспеху, чым цвяроза ўсё ўзважваючы або астаючыся прамым як палка.

Допыт — гэта паядынак, і яго можна павесці не толькі па прынцыпу «так», «не». Тым болей сам-насам з такім тыпам, як Фройлік. Перад кім ты будзеш дэманстраваць сябе? Перад садыстам. Езуітам? Хіба нельга, калі спатрэбіўся час, збіць такога з тропу? Хай нават думае, што намацаў у табе слабінку, што, нягледзячы на сваю непрыступнасць, ты можаш паддацца.

— Я не баязліўка,— ужо не могучы стрымацца, гаварыла мая спадарожніца.— Аднойчы, калі несла ў сумачцы пісталет, да мяне на мосце цераз Свіслач паліцай прывязаўся. Абшукваць палез. Дык я яму пад нос гэтую сумачку: «На, глядзі, калі цікава!» — і раскрыла пад самымі зенкамі... З дакументамі сястры, на якую ані не падобная, сем патрулёў прайшла... А тут мне стала страшна. Не, я верыла ў Жана, у яго ўдачу. Не ўпершыню было ісці на рызыку і цэлым выходзіць з агню. Зусім жа нядаўна, прачуўшы, што адступнік, праз якога пашыраўся правал, будзе выступаць на мясакамбінаце. Жан, ведаеце, што надумаў? Узяў і стаў рыхтавацца да публічнага яго пакарання! І хоць дорага гэта нам каштавала, прыйшлося замкнуць дзверы і выкінуць ключ у акно. З другога паверха.

Ёй зрабілася горача, і яна зняла хустку. Перапле-ценыя «карзіначкаю» цёмныя косы раскудлаціліся і ўпалі на плечы. Чамусьці саромеючыся гэтага, яна хутка падхапіла іх і закруціла ў куклу.

— Перадаваць яму пошту ўзялася старэйшая сястра — Нэся, якая мыла ў камерах падлогу,— перадолеўшы збянтэжанасць, зноў пачала яна.— Калі назаўтра Нэся зайшла ў яго закутак як прызнаны друг, Жана вывелі за парог і дазволілі стаяць пры дзвярах.

Я ўявіў: прытуліўшыся плечуком да вушака, Жан разглядаў яе — русавалосую, чарнабровую, з вялікімі ласкава-вінаватымі вачыма. За сцяною шумяць, лаюцца штрафнікі. Праз перакрыцці і столь прабіваюцца прыглушаныя крыкі — там катавальня і Фройлікаў кабінет. А Нэся, сцяўшы плечы, спяшаючыся, кладзе пад падушку прынесенае.

— Жана, як ён пісаў, кранула, што дзяўчына не дыхала пры гэтым і разгубілася, калі трэба было хаваць ягоныя лісты пад кофтачку на грудзях. Дый наогул... Прыязнасць у Жана часта вырастала з шкадавання... Карацей, з гэтага часу ён стаў пісаць пісьмы і Нэсі...

Што ж датычыць тых, якія асталіся на волі, Жан стаў клапаціцца пра іх яшчэ мацней, чым дасюль. Нават здавалася, што піша ён не з страшнага засценка, а з нейкай канспіратыўнай кватэры, адкуль відней. Ён засцерагаў іх ад памылак. Падказваў, як і што рабіць, каму давяраць, каго слухаць. Наказваў, каб пісалі, як там, на фронце. І што зусім у яго натуры, праўда, намёкамі, прасіў чыркануць, ці цэлы трафейны пісталет — той, што адабраў у зондэрфюрэра. Бо пісталет гэты, бачыце, быў імянны, падараваны!..

Ну, а следства, над якім, відаць, круціў мазгамі не адзін следчы, ішло сваім парадкам. Нехта вышэйшы за Фройліка, што, мусіць, глядзеў на Жана як на падвопытнага, траціў цярпенне і даў следчаму б большую свабоду. Дый усякая вяровачка ўецца да пары...

Мне да болю зрабілася шкада Жана, хоць не верылася ў благі канец. Не верылася — і ўсё! Уявілася, як бяруць яго на чарговы допыт, як, выходзячы з камеры, заспаны, асветлены святлом, ён чапляецца нагою за парог і спатыкаецца. А калі паднімае вочы, бачыць адразу дваіх — вартавога-эсэсмана, які ўскінуў аўтамат, каб страляць, і за яго плячыма белы твар Нэсі. Каб

дзяўчына авалодала сабою, Жан хмурыцца, сашчапляе, як і трэба вязню, рукі за спінаю і спакойна ідзе ўжо знаёмай дарогаю... Ма-ла-дзец!.. І пакуль ідзе, падымаецца па лесвіцы, мінае дзверы і вартавых, думае пра Нэсю.

Фройлік сядзіць за сталом, шырока рассунуўшы локці. Круглая галава яго патанае ў плячах. Шышкаваты лоб з рыжымі бровамі як бы навісае над шчылінамі вачэй.

— Ну? — пытаецца ён, калі Жан спыняецца перад ім, і, не дачакаўшыся адказу, стукае алоўкам па стале.— Хопіць валаводзіць, Дзедушкін! Ты ж усё-такі на казённых харчах і адрабляцца аднымі дурыкамі не зусім сумленна.

— Я слухаю вас...— кажа Жан. І іранічна са смуткам думае: а галоўнага *яны* так і не ведаюць — ні яго сапраўднага прозвішча, ні яго роднай вёскі пад Баранавічамі, дзе жыве маці.

Не лагаднеючы, Фройлік грузна паднімаецца. Закінуўшы правую руку за спіну, з заклапочанай важнасцю дэфіліруе па пакоі. Жан умее прыкмячаць смешнае ў людзях. І калі Фройлік адыходзіць ад яго, заўважае лысае, прыкрытае рэдзенькімі валасамі цемя следчага, і Фройлікава важнасць адразу становіцца для яго камічнай і нікчэмнай.

Фройлік адчувае гэта. Спыніўшыся, дапытліва глядзіць на Жана, цямнее з твару.

— Сядай! І падзякуй богу, што не да смалян трапіў! Хоць і мы не лыкам шыты.

Ён не цярпіць, калі хто не адводзіць сваіх вачэй ад яго позірку. Вярнуўшыся за стол, сярдзіта садзіцца. Падцягнуўшы жывот, дастае з сярэдняй шуфляды паперку. Не перадае, а пускае яе па стале да Жана.

— Падпішы во... Дарэчы, і называецца так, як ваша апошняя. Жан пацепвае плячом.

— Я не палітык, пане следчы.

Фройлік, хутчэй за ўсё, чакаў такіх слоў. Выпнуўшы ніжнюю губу, ён ківае галавою. Потым з гідлівай грымасаю перагінаецца цераз стол і робіць нарэшце тое, што карцела яму даўно,— бярэ Жана за каўнер. Перакруціўшы, цягне да сябе, і каўнер душыць Жанаву шыю.

— Не хочацца? Тады мо даць падумаць? Але помні ўсё-такі, што час працуе не на смертных, Дзедуш-

кін. Дый многа вас, як і нас, дарэчы. Праўда, вас — у турме, а нас на волі. І кожны хоча быць першым...

— Розуму не дабяру, як Жан не гвазданууў яго ў пераноссе,— з роспаччу закруціла галавою спадарожніца.— Але клянуся, што стрымала Жана не боязь катаванняў ці пабояў. Ён проста даў сабе слова і не меў права сарвацца, прайграць у навязанай следчаму гульні. Помніце яго — «Так, толькі так!..» Перамог сваю гордасць — усё перамог. І гэта, калі раней, трапіўшы ў пераплёт, нават драпіну хаваў ад нас, каб мы, крый божа, не шкадавалі яго...

Ну, як было, відаць, і задумана, Жан перастаў існаваць для Фройліка. І калі ў абед у камеру не прынеслі баланды, не далі піць, хоць і звадзілі ў прыбіральню, стала ясна, што ўгатавана яму...

Жанчыне сцяла горла, і яна змоўкла. Але пастаралася схаваць нахлынуўшую слабасць. Нібыта адкашляўшыся, глыбока ўздыхнула. Аднак гэта таксама атрымалася ў яе як усхліп.

— Дзівак!..— усё ж узяла яна сябе ў рукі.— Паверыце, у першыя хвіліны яму нават зрабілася лягчэй. Яго пакінулі ў спакоі, і можна было цалкам аддацца сваім клопатам...

Яе апасенні, узрушанасць перадаліся мне. Захацелася ўмяшацца ў падзеі, у нечым засцерагчы Жана, адхіліць бяду, што, па ўсім відаць, насоўвалася на яго.

Жан яшчэ ў першы дзень пастараўся ацаніць абстаноўку. Пераканаўся: дзвярныя завесы ледзь ліпяць. Замок стандартны, замыкаецца сам. Наглядчык сімпатызуе Нэсі і не заляцаецца адкрыта, бо асцерагаецца штрафнікоў, і, можа, таму не дае ім спуску. Але ён не такі ўжо і службіст — адлучаецца з калідора, ходзіць прымаць душ, дазваляе Нэсі самой адмыкаць камеры... Але было яшчэ невядома, як трапляюць сюды і выходзяць з сутарэння сёстры, як і калі гетаўскіх работнікаў гоняць назад у гета. Ці ёсць вартавыя на нядаўна пабудаванай чыгуначнай ветцы, пракладзенай праз руіны к Дому ўрада... Чакаючы ўчора, пакуль Нэся вымые падлогу, ён ухітрыўся патрымаць у руках ключ ад замка — плоскі, просты. Але трэба было нарысаваць яго і папрасіць у чарговым пісьме таварышаў, каб як найхутчэй зрабілі дублікат...

Энергія бурліць у Жана. Ён нават не глядзіць на падсуседзяў і, не тоячыся, мерае камеру — чатыры

крокі сюды, чатыры назад. Ды пад вечар раптам адчувае: паветра, якое ён выдыхае,— гарачае і сушыць вусны. Аднак, падавіўшы трывогу, каб эканоміць сілу, прымушае сябе легчы на нары і заснуць.

Чым болей цела прагне вады, тым часцей галаву абдае гарачынёю, і галава гарыць. На другія ці трэція суткі Жан ужо трызніць у сне.

Ён чуў, што ў хвіліны пакут і небяспекі людзі ўспамінаюць найдаражэйшых, і гітлераўцы скарыстоўваюць гэтую акалічнасць — прыстаўляюць да знясіленага ад пакут чалавека «слухача». І, трэба сказаць, яны рэдка памыляліся — вязні прагаворваліся, звалі найвярнейшых таварышаў... Таму Жан, стараючыся сачыць за сабой і ў забыцці, прымушае сябе раз-пораз прачынацца. І гэта знясільвае зусім.

Аднак раніцою ён зноў бярэцца за пісьмы. Прыспяшае таварышаў. Хай прысылаюць камбінезон або іншую якую апрануху з нашытымі латамі. Хай расстараюцца пакулля, машыннага масла, брытву, ніткі. Просіць падрыхтаваць прыстойны гарнітур, грошы, боты. Указвае нават памер — сорак трэці. Раіць падбадзёрыць Нэсю, рыхтаваць і яе ўцёкі. Дзякуе за ключ...

Але назаўтра сёе-тое ўскладняецца. Праўда, прынесеную з волі вопратку Нэся хавае ў надзейным закутку. Аднак мые яна камеру, калі Жана павялі ў прыбіральню, і перакінуцца з ёй словам не выпадае. Дый, назіраючы пасля за ёй самой у шчыліну, Жак заўважае: дзяўчына знячэўку спыняецца, забывае пра асцярожнасць, нервова шморгае павязаную на шыі новую, у ружах, касынку.

Пачынае мучыць і смага. Не дае думаць, высмальвае нутро, адбірае сілы. І нельга ў сухім роце паварушыць распухлым языком, аблізаць ім парэпаныя губы.

У сне наваліліся кашмары. Жан бясконца апранае і скідае камбінезон, мажа твар машынным маслам і нешта намагаецца дадумаць. А дадумаць вельмі неабходна, бо жыве перакананне — калі дадумае, нешта адразу зменіцца да лепшага. Але дадумаць не ўдаецца, і гэта распальвае прыкрасць.

Недзе на золку яго як падкідае. Здаволены, што прачнуўся, ён спаўзае з нар на падлогу і пачынае абмацваць яе. Поўзае і шарыць рукою. Смага раздзірае яго. Але ў кутку ля дзвярэй Жан раптам уздрыгвае ад радасці — у ямачцы сыра. Пераадолеўшы агіду, пры-

падае калючым падбародкам да халоднага шурпатага цэменту і ліжа яго.

Ён разумее: пакуль Нэся выканае просьбу і ліне ў гэты куток вады, пройдзе болей сутак. Але ўсміхаецца, непаспешна вяртаецца да нар, лажыцца і заплюшчвае павекі.

Лепей думаецца і пра Нэсю — мілая, слаўная дзяўчына. Пакуль што, фактычна, рызыкуе адна яна ды яшчэ хіба Шура, гэта, значыць, мая субяседніца... І мне здаецца: ён ужо кахае сваю нечаканую памочніцу. Ва ўсякім выпадку, калі потым цягне дрыготкімі губамі першы глыток вады, Нэся яўна вырастае для яго ў збавіцельку, засланяе другіх, становіцца галоўнай надзеяй. А хіба можна з яго душою не кахаць сваю надзею?

Але ж апрача надзеі была і смяротная небяспека? Наплывалі прадчуванні, туга?..

— А я, я сапраўды на нітачцы вісела,— прызнавалася тым часам спадарожніца.— І калі б эсдэкаўцы ўхапіліся за кончык, як піць даць абарвалі б нітачку... Аднак яшчэ раз прашу — зразумейце мяне! Аб сабе я не думала не таму... Мы разумелі, што значыць ён для падполля. Яго энергія, вера бралі ў палон. Яго хацелася слухаць і слухацца...

Мне не раз даводзілася чуць падобныя расказы жанчын. І заўсёды, расказваючы, яны пранікаліся ўспамінамі і плакалі. Але мая субяседніца стрымалася. Мне здалося нават: вочы ў яе сталі сушэйшымі. «Ого!» — падумаў я.

— Праз нейкі час ім пашанцавала,— сказала яна стрымана,— наглядчык пайшоў прымаць душ.

Вось Нэся адмыкае камеру, бярэ вядро і пераступае парог. Але, сумнення няма, штрафнікі навастрылі вушы — гоман, дрэнчанне ў іх сціхае,— і неабходна, каб усё паўтарылася, як заўсёды.

Аднак за той кароткі момант, калі Нэся ўваходзіць у камеру, яна ўпраўляецца адарыць Жана позіркам... Ён жа, калі паднімаецца з нар, узмахнуўшы рукамі, абнімае яе за плечы і горне да сябе. Трымае ўсяго міг, але адчувае яе трапятанне, якое згасае ад адданасці. Дый яна сама, прыхінуўшыся да Жанавых грудзей, кранаецца губамі яго рукі і тут жа ставіць вядро, якое бразгае вочапкай.

Стараючыся дыхаць роўна, бярэцца мыць падлогу, а ён атрымлівае магчымасць глядзець на яе, колькі

хоча. Глядзіць і думае, што прыйдзецца напісаць, каб была лагаднейшая з наглядчыкам і агрызалася, крычала на вязняў — такая грубасць спадабаецца таму... І вады, як мага болей ліла вады! А потым, потым хай зробіць толькі адно, а астатняе ён бярэ на сябе.

Не прывыкаць!

Ён з радасцю бачыць, як Нэся кладзе пад падушку пісьмы, лусту хлеба і, хуценька схапіўшы накрэмзаныя ім паперкі, суе ў выраз пад кофтачку. Пасля, памарудзіўшы, каб утаймаваць узрушанасць, унурваецца і выходзіць, пабліскваючы краёчкам вачэй. «Да-ра-гая!..»

Мусіць, у гэтую хвіліну, калі сэрцы іх ядналіся і нылі ад пагрозы, што вісела над імі, канчаткова і выспеў яго план. Адчайны, дзёрзкі, але, можа, адзіна магчымы — выбрацца на волю разам з гетаўскімі работнікамі, калі тыя будуць вяртацца назад. «Так, толькі так!»

Пад падушкаю ён знаходзіць не адны пісьмы і хлеб, там аказваецца гумавая трубачка, плітка шакаладу. Пра ваду і ежу цяпер можна бадай што не клапаціцца...

Нарэшце настае прызначаны дзень.

Пачынаецца ён звычайна. Прыходзяць сёстры. Вешаюць паліто на цвік непадалёк ад стала наглядчыка. Грукочучы ботамі, панылы эсэсман вядзе на допыт вязня з крайняй камеры, а наглядчык, сеўшы за стол, пачынае гартаць свой гросбух. Маладзейшая сястра знікае — ідзе па сваіх справах. Нэся бярэцца мыць калідор. Штрафнікам удалося дастаць шнапсу, і яны гагочуць, пацяшаючыся перад пачастункам.

І ўсё-такі Жан адчувае нешта незвычайнае. Яно ідзе ад Нэсі. Дзяўчына ўнікае глядзець на дзверы Жанавай камеры і часта пазірае туды, дзе шумяць штрафнікі, прыслухоўваецца да глухіх енкаў, што, здаецца, прасочваюцца праз сцены і столь. Яна змізарнела за ноч, згорбілася. Нават тое, як Нэся, выпрастаўшыся ля вядра, запраўляе мокрымі рукамі пад хустку непаслухмяныя пасмы, выглядае як нешта цяжкае для яе.

Няма сумнення — яна са страхам чакае і баіцца хвіліны, што пачне набліжацца, як толькі хто-небудзь з эсэсманаў аддасць даніну нямецкай педантычнасці, і да Жана нікому ўжо суткі не будзе клопату. Яна, безумоўна, нагарадзіла для сябе цэлы частакол перашкод, адну страшнейшую за другую. Але самая страш-

ная, вядома, з іх — штрафнікі. Яны абавязкова пачуюць, як яна будзе адмыкаць замок і адчыняць дзверы. Кожны лічыць, што мае права на бяспраўную, і яны віжуюць за ёю, ловяць момант, калі можна ўбачыць яе голыя ногі. Яны, магчыма, ужо раўнуюць яе... А хіба не можа быць, што яны проста ў змове з наглядчыкам, і той назнарок выходзіць з калідора, каб праверыць і выкрыць яе?

У дагадкі не хочацца верыць. Жан гоніць іх. Але як на тое яны атрымліваюць усё новыя і новыя пацвярджэнні. Калі наглядчык адлучыўся, Нэся асцярожна наблізілася да дзвярэй і замест таго, каб адамкнуць замок, суе ў шчыліну... плітку шакаладу, якую, відаць, не ўправілася пакласці пад падушку, калі прыбірала камеру...

Цяжка было Жану зносіць здзекі Фройліка. Яшчэ цяжэй — прымушаць сябе лізаць брудную падлогу. Але адкуль узяў ён сілы сцярпець гэты злашчасны шакалад?.. Ды вось сцярпеў. Мала таго, адразу засеў за пісьмо, у якім прасіў Нэсю быць мужнай, не забываць, што яна, як і ён, асуджана на смерць, і ёй, як і яму, няма чаго траціць. «Дык як жа тут, дарагая, не скарыстаць адзінае выйсце?» — пытаўся. Праўда, ён бачыў, як яна, сунуўшы шакаладку ў шчыліну, схапілася за шыю, як душыла сябе і круціла галавою.

Мусіць, гэта быў самы цяжэйшы для Жана час. Ён не разумеў Нэсі. Яна ж дасюль знаходзіла ў сабе сілы насіць перадачы. Яе і дасюль маглі злавіць на гарачым учынку — з доказамі злачынства... Дый, наогул, дні яе былі злічаны. Яе ж усё роўна чакала куля ці душагубка. Дык што ж адабрала ў яе рашучасць? Няўжо тое, што ў калідоры светла? Што чуць-чуць пабольшала рызыкі? Было ж відаць, як яна пакутуе, як хоча і ніяк не можа зрабіць, чаго ад яе чакаюць.

Яшчэ раней Нэся прынесла яму нешта накшталт долата. Як толькі штрафнікі захраплі, ён узяўся за работу — ночы за тры-чатыры завесы на дзвярах можна аслабіць і ў патрэбную хвіліну выдраць іх. Няхай Нэся адно падышла б да дзвярэй штрафнікоў і пачала пацвельвацца. Прычым можна зрабіць уступку і Нэсінай слабасці — калі на ліхі выпадак штрафнікі заўважаць, як ён будзе выдзіраць завесы, а потым ставіць дзверы на месца, і ўзнімуць гвалт, хай крычыць, заве

ахову сама. Абураючыся з Нэсінай маладушнасці, шукаючы ёй апраўдання — «Не, яна ўсё-такі малайчына! Яна зрабіла такое, чаго б не зрабіла другая...» — ён спадзяецца яшчэ выратаваць надзею на ўцёкі, выратаваць пачуццё, што нараджалася ў іх тут — у смярдзючым катуху! Пад пагрозаю смерці! На краі бездані, ля самага абрыву! І, як заўсёды, бярэ ўвесь цяжар на сябе — каму патрэбна жыццё без мужнасці! Ды так ён рабіў і раней. Бо разумеў: калі цяжэйшае бярэш на сябе, аднадумцы таксама падстаўляць плячо... Не можа быць выключэннем і Нэся...

Уражаны, узрушаны гэтымі думкамі, я пільней прыглядзеўся да сваёй спадарожніцы. Паплечніца Жана!.. Не, не, якi яна маўчун? Яна проста асцерагалася — так, так! — што я па-свойму зразумею Жана і тое, што адбылося з ім. А магчыма, проста баялася страціць частку самой сябе, не хацела аддаваць дарагога чалавека на чужы суд. Хай астаецца незалежным, удачлівым — такім, як ведалі яго людзі. Быццам бы не было ні Нэсі, ні зняважлівых несправядлівасцей жыцця... А загаварыла — што паробіш з сабою, калі боль і словы рвуцца з цябе. Калі сама, відаць, гатова аддаць жыццё за хвіліну такога кахання. А можа, і не прыязнасць, а нешта большае.

— Вось так..— уздыхнула яна, прыжмурыўшыся аднак, каб праверыць, якое ўражанне пакідаюць яе словы.— Калі з завесамі было скончана, Жан раніцою ўбачыў за сталом з гросбухам зусім незнаёмага чалавека — прылізанага, усмешлівага, з фельдфебельскімі лычкамі. Штрафнікі, аказваецца, данеслі, што былы начальнік пакідаў пост і занадта даяраў прыбіральшчыцы.

Ну, а новая мятла?.. Шарфюрэр пачаў з таго, што з ухмылачкаю абшукаў палітоны, якія сёстры, прыйшоўшы, вешалі ля стала, і, не забываючыся раз-пораз разглядаць сябе ў люстэрка, якое насіў, як запісную кніжку, у нагрудным кішэні, касіўся на Нэсю, пакуль тая прыбірала ў камерах і раздавала абед.

Праўда, на другі дзень дзяўчыне ўсё-такі ўдалося перадаць Жану пошту. Але ў яе пісьме не было ні слова наконт яго прапановы. Наадварот, як бы між іншым паведамлялася, што ў сцяне катуха павінна быць забітае шалёўкамі акно, якое выходзіць на вуліцу... Ну, а яшчэ праз дзень, іранічна тыркаючы пісталетам

Жана ў лапаткі, фельдфебель перавёў яго ў другую камеру...

— Мне страшна і падумаць, што тады давялося яму перажыць! К чарцям сабачым паляцела ўсё. Ён жа цяпер, калі і ўцалее, па начах стагнаць будзе! Ні кахання, ні мужнасці! Лепей і не пачынала б...

Яна не паспела дакончыць — нас аклікнулі. Голас мне здаўся знаёмы. І хоць да лагера аставалася далёка, я адказаў паролем.

З прыдарожных кустоў вывалакліся двое — прыгорблены, з торбачкаю за плячыма, і камлюкаваты, шыракаплечы, з карабінам напагатове. Але, што здзівіла мяне, карабін у яго быў настаўлены не на нас, а на сутулага.

— У чым справа? — пазнаў я абодвух.

— От узяў дэзерціра ў Альхоўцы,— сярдзіта кінуў нізкарослы.— Хваліцца кішкой сваёй тонкай. Трынаццаць месяцаў, кажа, у склепе прасядзеў!..

Лясныя гушчы і тут звінелі ад птушыных спеваў. Непадалёк бег ручай, і яго мілагучны плёскат хораша ўплятаўся ў галасы драздоў. Але раптам самы бліжэйшы з іх зацёхкаў хоць і залівіста, ды не так радасна. Ціўкнуў раз, другі і сціх. І ў той жа міг, як па заказу, дразды змоўклі ўсе. На лес навалілася цішыня, праз якую прабівалася адно цурканне вады.

Потым недзе далёка рыкнула гармата, і край неба ў тым баку пачаў ружавець.

# AVE, MARIA!

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПОДЗВІГУ

*Апавяданне*

Вясною сорак трэцяга, перад тым як зноў ляцець у тыл ворага, я атрымаў магчымасць пабываць на Урале. Партызаны там былі яшчэ дзівам, і мяне бясконца запрашалі на сустрэчы — і ў самім Ніжнім Іргінску, дзе жыла мая сям'я, і ў навакольныя вёскі, куды я хадзіў з худзенькай, сумнавокай бібліятэкаркаю-ленінградкай.

Маімі слухачамі былі пераважна жанчыны — бабулі, салдаткі, часта ўдовы. Слухалі яны мяне, як слухаюць пасланцоў-апавяшчальнікаў змораныя, спагадлівыя працаўніцы — уважліва, уздыхаючы. Пыталіся, ці не сустракаў на партызанскіх сцежках уральцаў і як гэта наогул можна жыць побач з ворагамі: «Да іх жа рукою дастанеш...»

— Кажаце, і ўральцы? — перапытвалі амаль хорам, і ўсе зноў замiралі ў чаканні.

— А прозвішчаў не памятаеце?

— Значыць, і тыя, хто прапаў без вестак, могуць астацца жывымі?

— Ай-ёй! Малайцы!

— А як там жанчыны? Мусіць, больш чым каму дастаецца?

— Тут важна не папусціцца толькі.

— І камандзіркі ёсць?..

Пад канец сходу найбольш чуллівыя дабрэлі да слёз. На хвіліну знікалі і вярталіся з яйкам, з чарачкаю мёду, з цёплай шаньгаю. І гэтыя імгненні былі мне самыя пакутлівыя. Як ты адмовішся? Але і як возьмеш бедны падарунак з худых, парэпаных рук?!. Выручала бібліятэкарка-ленінградка. На ўтрыманні ў яе была хворая маці, і з харчамі даводзілася зусім туга.

У хаце ці чырвоным кутку, дзе адбываліся сходкі, пахла нагрэтай, прынесенай з вуліцы сырасцю. За метр ад стала з газнічкаю туліліся змрокі. У мігатлівым,

зыбкім святле жанчыны здаваліся быццам бы намаляванымі на старой пажухлай іконе, і хацелася аддаць ім, цярплівіцам, цяперашняй нашай апоры і сіле, душу... І пазней, праз колькі месяцаў, сустрэўшыся ў партызанскай вёсцы на Лагойшчыне з Марыяй, я слухаў яе, успамінаў уралак і думаў: «Во лёс!..»

Нарадзілася яна ў вялікай сям'і. Але, як толькі пачала помніць сябе, сям'я стала меншаць. Зачасцілі беды. Загінуў пад Дзвінскам на полі непатрэбнага яму бою старэйшы брат. Потым памёр другі — ранены пры ліквідацыі эсэраўскага мяцяжу ў Кранштаце... Набожная маці прыціхла, замкнулася, перастала маліцца. Зняла з покуці абразы, апрача багародзіцы: «Веру, заступніца, ты рабіла сваё, хоць і не дайшлі твае словы!» І гэты своеасаблівы матчын бунт, уразіўшы Марыю, успрыняўся ёю таксама як праява бяды.

Талачынскі раён багаты на лясы. Гуту акружаў бор. Палюючы, бацька знаходзіў там разрыўку пасля работы. Дзятва бегала туды па ягады і грыбы. У бары нават узімку было цяплей. Таму Сакаўцы і на сваім агародзе пасадзілі дрэўцы. Палівалі, даглядалі: «Хай растуць, жывыя ж. Можа, і парадуюць каго...»

Вучылася Марыя адно з каляд да вялікадня: «Ведаю, дачушка, маўчы... Але табе ў салдаты не ісці, памажы трошачкі!» І Марыя памагала — падлеткам пайшла на гуту. Праўда, гуту неўзабаве закрылі. Рабочыя пачалі раз'язджацца. Марыя з братам таксама знайшла новы прытулак — на шклозаводзе «Труды» пад Полацкам, дзе і дарасла да з'ёмшчыцы аконных лістоў.

Вялікая таямніца — як фармуецца чалавек. Ад прыроды, пэўна, даецца толькі закваска. Астатняе залежыць ад часу, ад абранага або наканаванага месца... Ці ўплываюць пры гэтым выпадкі? Напэўна. Яны могуць павярнуць лёс чалавека, яму можа пашанцаваць і не пашанцаваць. Перад ім могуць паўстаць глухія перашкоды — і гэта раніць яго. Або, наадварот, могуць адкрыцца неабсяжныя далягляды — і гэта акрыляе яго. Але сутнасць чалавека ўсё-такі вызначае іншае — больш пастаяннае. Такое, што ты ўбіраеш у сябе з дзяцінства, што з табою, пакуль ты сталееш, што жыло да цябе, жыве з табою і, раптам адкрытае, робіцца тваім запаветным, якое ты бярэшся несці праз гады.

Так ці інакш, гэта адбывалася з Марыяй у сям'і шкловыдзімальшчыка, у лясным рабочым пасёлку, а пасля на заводзе «Труды». Маленькая Манька бегала сярод зялёнай раскошы, сябравала з такой жа босай дзятвою, карміла ў сцюжу сініц, памагала дома маці. А галоўнае — там яна стала здагадвацца, хто яе друг і што процістаіць ёй. У шаснаццаць гадоў яна стала сельскім жаночым арганізатарам. Ёй шкада было жанчын, шкада гаротніцы-маці з яе страхамі, з бясконцым імкненнем звесці канцы з канцамі, і яна ў драўляных «трёпах» хадзіла па вёсках, праводзіла дэлегацкія сходы. У Новым Саколіне, дзе жылі стараверы, на дзяўчыну спусцілі сабак. Але яна знайшла паплечніц і сваё зрабіла...

І ўсё-такі быць бы Мані-Марыі простай работніцаю, ды ўмяшаліся час, камсамолія — выбралі спачатку народным засядацелем ад моладзі: «Любіш справядлівасць — калі ласка!»; а потым і старшынёй райдзетбюро ЮП [1]: «Якраз па табе, дзейнічай. А там і вучыцца пойдзеш...» І рушыла, закружылася!

Ужо маючы дзяцей, Марыя паступіла — сталася ж нарэшце! — у юрыдычны інстытут. Захапілася крымінальным правам. І хоць пасля заканчэння інстытута адкрылася магчымасць працаваць у Вярхоўным Судзе, дзе праходзіла практыку, дамаглася — пакінулі пры інстытуце, далі магчымасць рыхтавацца ў аспірантуру.

К гэтаму часу памерла маці. Падаіла карову, паставіла даёнку на лаву ў сенцах, але працадзіць малако не паспела — здало сэрца. Няшчасны выпадак забраў жыццё ў бацькі. Братоў, якія засталіся жывымі, раскідала па краіне. Старэйшая сястра, абзавёўшыся сям'ёй, пасялілася няблізка — пры шклозаводзе «Кастрычнік». Так што Айчынная вайна напаткала Марыю адну-адзінюткую. Нават дачка паехала на канікулы да цёткі. Сын жа Юра... Калі Марыя на другі ці трэці дзень вайны, выбраўшы момант, прыбегла ў Краснае Урочышча, дзе знаходзіўся дзіцячы садзік, дзеці сядзелі ўжо ў аўтобусе. Якраз непадалёк разарвалася бомба. Малыя загаласілі, аўтобус рушыў...

Гэты пачуты плач-крык як бы захрас у вушах Марыі. Ён толькі часам прыціхаў, каб зноў і зноў ледзя-

---

[1] Юных піянераў.

ніць сэрца. Асабліва калі яна, бачачы жахі, заплюшчвала вочы і замірала ад прадчуванняў.

Марыя кідалася як не свая. Выходзіла за горад: «Паедуць, тут хутчэй убачу!» Далучалася да бежанцаў, якія з хатулямі сунуліся па Магілёўскай шашы. Ды страх размінуцца з сынам — «А што, калі вярнуліся другой дарогаю?» — гнаў назад.

На яе вачах гарэў, рушыўся горад, гінулі людзі... Ад думак развальвалася галава, але неўзабаве над усім пачало панаваць адно: «Бараніцца! Узяць пад ахову што можна. Ўратаваць!»

Счарнелая, змучаная, дабралася яна да «Кастрычніка». Па дарозе, пакуль былі сілы, падносіла чужых дзяцей, памагала зняможаным кабетам, якія, нягледзячы ні на што, цягнуліся на ўсход.

Сястра сядзела за сталом. Праз акно яна бачыла, як кіравалася ў дом Марыя, аднак не спаткала яе ля парога, не ўстала. У чорным плацці, гладка прычасаная, са старанна вымытым бяскроўным тварам, яна заплюшчыла вочы і, як нямая, паварушыла вуснамі.

— Бяда? З Томачкай? — пачала ўгадваць Марыя.

З вуснаў сястры вырваўся стогн.

У пакоі было светла. Ад сонца ўсё адлівала залацістым. Знаёмыя рэчы — круглы стол, засланы цыраткаю, крэслы, сервант, вазоны, якія так любіла сястра,— стаялі на знаёмых месцах, і свядомасць ніяк не магла пагадзіць сястрын выгляд з навакольным. У гэтым чамусьці хавалася нешта дужа страшнае. Пазіраючы на сястрын лоб — белы і, пэўна, халодны, як у нябожчыцы, Марыя кінулася да яе.

— Ну, Таця, кажы ж! — папрасіла, адчуваючы, як млеюць, аднімаюцца ногі.

У пакой убегла рыжае золатца з коскамі, што тырчалі ў розныя бакі. Дзяўчынку, відаць, папярэдзілі, бо яна, асабліва не здзіўляючыся, падбегла да Марыі і, ашчаперыўшы, падняла да яе ўдзячны твар.

— Ма-амачка! — заплюшчылася ад шчасця.

— Што ў вас тут? — настойліва паўтарыла Марыя, радуючыся і ў той жа час трывожачыся.

Гэта дайшло да сястры, пакрыўдзіла, але і вярнула мову. З вачэй выкаціліся слёзы.

— Немцы нашых мужыкоў пастралялі. Усіх, каго схапіць управіліся і хто не паспеў за Бярэзіну пераправіцца. Ах-ах! Нават пахаваць не далі. За што та-

кая кара, Маня? Няўжо ўсё гэта дарма нелюдзям пройдзе?..

І доўга пасля таго, як палеглі спаць,— Марыі з дачкою паслалі на падлозе,— прыціскаючы да сябе дрыготкае доччына цела, яна чула енчанне сястры:

— Тваёй абароне аддаёмся, святая божа-маці! Табе ўручаем патрэбы нашы... Выбаўляй нас ад злой прыгоды, дзева Марыя!..

Сястра была схільная да фантасмагорый. Але цяпер Марыі, якая пакутавала разам з ёю і шкадавала не менш, чым швагра, самой у дрымоце падалося: сястра падганяе і яе. Марыю закалаціла...

З надзеяй — у Мінску абавязкова пакінута антыфашысцкае падполле, яна, не бавячыся, пачала збірацца назад: «Буду хоць памагаць!..» Ага, а навошта яна брала з сабой дачку? Перад усім, пэўна, каб затуліць сабою, быць разам. Каб адчуваць сябе... смялей і не наклікаць новай бяды на сястру. Яна нават разыграла перад суседзямі камедыю:

«Усё! Нагі маёй тут болей не будзе!»

Мінск трохі працверазіў яе. На вуліцах траплялiся адны немцы — салдатня, увешаныя зброяй палявыя жандары ў касках, афіцэры ў лёгкіх мышастых шынялях і фуражках з высокім верхам. Па маставой, грукочучы, каціліі грузавікі-фургоны; калываліся на выбоінах нязвыкла нізкія камуфляваныя легкавушкі; падскокваючы на сядзеннях, праносіліся матацыклісты ў плямістых плашч-палатках — усё страшэнна чужое і бяздушнае.

Стаяў сонечна-ветраны дзень. Пажарышчы, руіны пылілі. Рудым, выцвілым здавалася само неба.

Каб прыглушыць тугу, маці з дачкою пасядзелі ў першым, што трапіўся, скверыку, прыгаршчамі напіліся з водаразборнай калонкі. Але перад Бетонным мостам нечакана сутыкнуліся з першай знаёмай — былой супрацоўніцаю юрыдычнага інстытута — і, распытаўшы, чутачку паспакайнелі: кватэру, як аказалася, ніхто яшчэ не заняў, а Марыяй ніхто не цікавіўся.

Падсуседка Ліда — проставалосая, у заношанай расхлістанай кофтачцы, сустрэла радасна: «Манечка! Цэлыя?» Пацалаваўшы ў абедзве шчакі, як гасцей, павяла ў пусты пакой. Зашпільваючы кофтачку, заплакала, стала пералічваць, хто якія сцягнуў рэчы.

— Як у тым лесе. Ні закону, ні права. Газеты пі-

шуць, што сам намеснік Гітлера прыязджае распараджацца. Але неяк будзе. Я табе падушку і коўдру дам. Генка, дзе ты?.. От добра, што вярнуліся!

У дзвярах вырас карапуз — поўненькі, мурлаты. Парога не пераступіў, а, сеўшы, перапоўз яго. Потым, падняўшыся, з працягнутымі ручкамі патэпаў да маці.

— Глядзі, Геначка, хто вярнуўся! — цешылася Ліда, гладзячы яго па галоўцы і абдаючы Марыю з Томаю святлом сваіх разгубленых вачэй.— Усё смялей будзе.

Яе колішняя, мірная, дамашняя неахайнасць была нейкая запушчаная, але Марыя, прагна слухаючы Ліду, заходзілася ад замілавання.

Назаўтра яна была ўжо на ціхай Заслаўскай вуліцы — у інтэрнаце юрыдычнага. Слухаючы гаману знаёмых студэнтаў, якія адкрываліся ёй, праслязілася.

— Вось здорава! — шчыравалі тыя.— Апрача ідалаў, і не бачыш нікога!

— Дзякуй, Марыя Барысаўна!.. За што? Як вам сказаць? Хоць бы за тое, што завіталі да нас.

— За тое, што болей нас стала!..

А Марыя слухала іх, і ёй хацелася абняць кожнага — такім звыклым, блізкім дыхнула на яе.

У барацьбы свая логіка. Тут важна пачаць. Пры наступнай сустрэчы былая супрацоўніца па інстытуту паведаміла: у лесе ля яе вёскі ў буданах жывуць акружэнцы. Робяць вылазкі — спалілі валасную ўправу, сепаратарны пункт. Але большасць з іх — раненыя... Давялося шукаць, як падступіцца да аптэк. Калі пашанцавала знайсці сцежачку ў гетаўскую бальніцу, давялося пераапранацца — нацягваць у руінах заношаную кофтачку з нашытай латаю і шмыгаць у калоны, што вярталіся з работы ў гета, або прабірацца туды пад калючай драцяной агароджаю. І хоць абавязак сувязной з акружэнцамі астаўся за былой супрацоўніцаю, выпала выбіраць маршруты, па якіх зручней перапраўляць у лес бінты, вату, стрэптацыд... Студэнты — тыя, з інтэрната, раздабылі паперу, капірку. З'явілася магчымасць памагаць навакольным людзям разбірацца ў падзеях, а разам з'явіліся і клопаты — як распаўсюдзіць напісаныя лістоўкі, каму і калі расклейваць іх або несці на таварную станцыю, вагонарамонтны завод... Адзін з трэцякурснікаў — смуглы кучаравы хлопец — быў яўрэй. Значыць, трэба было па да-

кументах зрабіць яго цыганом. А калі бяда навісла і над цыганамі — раздабыць зусім новы пашпарт. Дый як, наогул, будучы падпольшчыкам, ты абыдзешся без аўсвайсаў, бальнічных лістоў, што памаглі б табе «выплыць на паверхню»? А тут, як на тое, правалілася супрацоўніца па інстытуту, і, хочаш не хочаш, ты мусіш устанаўліваць сувязь з турмою, шукаць золата. Так набягалі патрэбы мець сваіх людзей ва ўстановах ворага, заводзіць явачныя кватэры, дзе б можна было сустрэцца з таварышамі або схаваць назбіраную зброю...

Асабліва думкі даймалі ўначы. Калі хілілася на вечар, камендацкая гадзіна гнала дамоў. У чатырох сценах, пасля перажытага ўдзень, час быццам бы спыняўся, але ноч наступала ўраз і цягнулася бясконца. Працаваць-сляпіцца пры газнічцы не было як — не хацелася, каб якая-небудзь выпадковасць прыцягнула чужую ўвагу. Упарта напамінала аб сабе недаяданне. Таму, выпаліўшы ў грубцы — каменны вугаль, які знарок скідалі з тэндара машыністы, можна было назбіраць ля чыгуначнага палатна,— клаліся спаць. Тома ў цяпле засынала хутка, уздрыгваючы. Але ад гэтага яшчэ вастрэй адчувалася адказнасць за яе, успаміналіся дзённыя ўзрушэнні, і сон адлятаў.

Барацьба завязалася не на жыццё. У хвіліны душэўных пакут прыходзілі планы... І каб можна было спыніць жахлівую смертаносную машыну, перагарадзіўшы ёй дарогу, Марыя наўрад ці пашкадавала б сябе — хай толькі забуксуе. З гэтым яна вырасла. Але хіба машына забуксуе? Значыць, патрэбны асаблівыя захады!..

Неяк яна ўбачыла гаўляйтэра. Ён крочыў па тратуары Ленінскай вуліцы. Спераду і ззаду яго ішла ахова, а па маставой, трошачкі прыадстаўшы, сунуўся бліскучы шэры лімузін. Сярэдняга росту, камлюкаваты, гаўляйтэр ступаў важка, нібы топчучы асфальт, і зусім не махаў рукамі. І што тады кінулася ў вочы — патыліца і кароткая шыя ў яго былі на адной лініі. Навокал узвышаліся жоўтыя руіны, і дзіўнай, жорсткай выглядала яго каменная хада, яго камлюкаватая пастаць... «Вось хто правіць тут і кіруе! — падумала Марыя.— Вось каму напомніць бы, што палка мае два канцы. Ці не памякчэў бы?..»

У галаву Марыі біў немы Юркаў крык, і яна засынала толькі на золку.

Прачнуўшыся першай, Тома з цікавасцю разглядала пабляднелы ў сне матчын твар і, пэўна, таму што сталела сама, кожны раз адкрывала: маці, насуперак усяму, прыгажэе — трошачкі расплывісты твар хараша акрэсліваецца, і нешта як бы падсвечвае яго знутры.

— Ма-ма-чка, ты ў мяне самая, самая!..— прызналася яна, калі азадачаная Марыя пачынала церці вочы і моргаць.

Наіўная Томіна пахвала абуджала жаданне паглядзець на сябе ў аконную шыбу — люстэрка таксама ўкралі,— і хоць было няёмка, словы дачкі жылі ў падсвядомасці, прыбаўлялі сілы.

— Калі ты, Маня, поруч,— падхоплівала Ліда,— далібог, весялей. Быццам заступіцца можаш. Бач якая!..

Але аднойчы, калі Марыя, трымаючы на ўлоннях Генку, перабірала пальцамі яго рэдкія даўгія валосікі, Ліда неспадзявана праявіла самастойнасць.

— Прымільгалася ты ўжо з Томай,— буркнула.— І сёння я цябе з ёй не пушчу. На кожным кроку паліцаі з жандарамі. Кажуць, гэты рэйхкамісар свае парадкі заводзіць. Прапускі розныя, аблавы. Генку возьмеш! І лепей агародамі вяртайся...

Марыя спачатку ажно спалохалася — што з ёю? Ды, убачыўшы, як цямнее поўны, хоць ужо збляклы ад недаядання Лідзін твар, зразумела: ігнараваць яе нельга. Гэтак яна выказвае свае новыя адносіны і да яе, Марыі, і да навакольнага. Адмова кроўна абразіць жанчыну. Дый ці мае Марыя права не прыняць яе ахвяры?

— Ты ж не ведаеш, куды я зараз пайду! — усё-такі, адчуваючы, што Лідзіна рашэнне накладае на яе новую і, можа, самую высокую адказнасць, папярэдзіла яна.

— Ведаю! Не на рынак!..

З Генкам ісці было куды вальней. І, несучы яго на плячах, цалуючы раз-пораз у ножку, Марыя ледзь не трыумфавала. Аднак, калі гаркомаўскі сувязны перадаў ёй падпольную «Звязду» і Марыя, сунуўшы яе за рызінку Генкавых шараварчыкаў-паўзункоў, пайшла назад, усё перамянілася. Хлопчык, як і раней, ківаў галавою, пальчыкам лез Марыі ў нос, а ў яе балела сэрца і хацелася па-сестрынаму маліць: «Маці божая, толькі б не цяпер, толькі б не цяпер!..»

На Бетонным мосце іх затрымалі. Паставілі ў чаргу, каб праверыць дакументы і абшукаць.

Кружыў калючы сняжок. Ля дэпо зычна перакліkaліся паравозы. Убаку, ля парапета, знерухомела група мужчын пад канвоем.

— Геначка, родны, заплач,— папрасіла Марыя. Але той, думаючы, што з ім жартуюць, прыцмокнуў языком і засмяяўся.

Тады, апанаваная адчаем, Марыя ўшчыкнула яго. Хлопчык сцяўся і зайшоўся плачам. А калі яна, як аглухлая і сляпая, баючыся пакаўзнуцца, рушыла да правершчыкаў, учапіўся ў яе валасы і забіў ножкамі ў грудзі.

— Сунімі сваё шчанё, абмочыцца! — крыкнуў брывасты жандар з бляхаю-паўмесяцам на грудзях.— Дзе дакументы? — І ўдарыў кулаком між лапатак.

Цяжка сказаць, хто каго вёў далей — Марыя Генку ці ён яе. Увайшла яна ў свой пакой без сілы. Пастаяўшы ля ложка, бухнулася на яго і зарыдала. Хаваючы газеты пад падушку, адчула, як нехта абняў яе, задыхаў у галаву. Перад вачыма замаячыў брывасты жандар, потым — саноўны немец на Ленінскай вуліцы, але Марыя, скалануўшыся, паступова стала спакайнець — ля яе была Ліда, дый наперадзе чакала страшнейшае, якому трэба будзе ісці насустрач.

Не, не меншая таямніца і тое, як вырастае сярод людзей старшы! Праўда, прырода ў гэтым выпадку дае яму чуць болей, чым закваску. І перад усім — уменне выбраць сабе і другім месца ў падзеях. Ды прызнаным важаком ён становіцца толькі тады, калі, ідучы за ім, аднадумцы шкадуюць і ахоўваюць яго самога. «Ты — нам, мы — табе»,— як казала Ліда. Ва ўсякім разе, так было ў падполлі.

І зноў-такі — набрацца б тут розуму Марыі, працверазець — пад крылом жа дачка, Генка... Стрымаць бы трохі запал. А заадно адкінуць свае перажыванні — слёзы, спагаду: без іх лягчэй. Аж не!..

Яшчэ ў першыя дні паклялася быць з Марыяй сям'я Марчукоў. Дык вось... Дажджлівай восеньскай непагаддзю, калі Марчукі садзіліся вячэраць, нехта пастукаў да іх у акно. Не пастукаў, а пашкроб — няўпэўнена, з просьбаю. Яму адчынілі. У сенцы ступіла аброслая, скура ды косці, здань у салдацкім, як пажаваным, шынялі. За гэта пагражала смерць, але незна-

ёмца без слоў правялі ў дом, пасадзілі за стол. Мала гэтага — пакінулі жыць у сябе, пакуль, акрыяўшы, чалавек не здолеў пайсці, як і прыйшоў, у цёмную, хоць вока выкалі, ноч.

Аднак праз месяц да Марчукоў дакаціўся погалас: *іхні* ваеннапалонны зноў за калючым дротам.

Тады старэйшая дачка Марчукоў, не думаючы, што рашаецца на адчайнае: «Можа, і мой недзе гэтак жа пакутуе!» — падалася з сяброўкаю ў лагер.

Вароты ў гіблым месцы ахоўвалі эсэсманы і аўчаркі — звяр'ё, што кідалася на кожнага, хто не быў апрануты ў нямецкую форму. Сабак падбіралі рослых, грудастых, у жоўтых падпалінах, каб палохалі выглядам.

Калі жанчыны падышлі да варот, эсэсманаў там не аказалася — на варце сядзелі адны аўчаркі. Ведаючы — могуць быць разарванымі, жанчыны ўсё-такі накіраваліся да іх. Набліжаліся крок за крокам і гаварылі — дзелавіта, ласкава, як з людзьмі. Так што, калі з'явіліся ля каравульнага памяшкання, у начальніка палезлі на лоб вочы. Ды жанчыны не адступіліся: упёрлі самагон і залатую пяцёрку яму ў рукі, хоць ён і лаяўся на чым свет стаіць. Дабіліся і дазволу пашукаць сваіх сярод вязняў. Але, несучы праз гадзіну на спіне напаўжывых мужчын, яны зусім не ведалі, што чакае іх пры выхадзе з лагера. Ці не пацяшаліся дасюль з іх? Аднак аўчарак у варотах ужо не было — расстраляныя, яны валяліся ў кювеце.

Дык як жа Марыя магла быць іншай?

Напрадвесні, ставячы на кон жыццё, яна сама арганізавала ўцёкі палонных. Праўда, па-свойму — з распрапагандаванай аховаю, што ганяла калону на работу, з партызанскім правадніком, які нёс на плячах мяшок з белай латкаю, каб і ў прыцемках можна было бачыць яго. Потым яшчэ і яшчэ. Некалькі разоў па пратаптанай дарожцы адпраўляла ўзброеных мінчан і сагітаваных салдат славацкага батальёна — спачатку ў атрад капітана Нікіціна, потым — «Дзядзі Колі», «Дзімы».

У такіх выпадках звычайна кажуць: памагае фартуна. Гэта правільна — за Марыю былі і людзі і абставіны. Але з-пад увагі тых, хто так кажа, выпадае вельмі важнае: гэтыя абставіны яна ўгадвала наперад або стварала сама, як сама падбірала і людзей.

Сувязі Марыі пашыраліся — поспехі прыносяць сяброў. Яе людзі збіралі зброю, грошы. На бежанскім пункце, дзе тайна вербавалі будучых шпіёнаў, яны выяўлялі прозвішчы тых, хто праходзіў спецыяльныя медыцынскія агляды. Блыталі прагнозы надвор'я, якія давала метэаралагічная станцыя лётным часцям, закапалі каштоўную апаратуру фізічнай лабараторыі універсітэта...

Ды тут, відаць, недзе быў дапушчаны пралік. А магчыма, кагосьці насцеражыла Марыіна хадня па горадзе — занадта універсальнай стала яе дзейнасць.

Ліда сустрэла яе ў калідоры сумным дакорлівым позіркам.

— Пачакай, не заходзь да сябе,— папярэдзіла, і Марыі кінулася ў вочы: яна прычасалася, прыбралася.

— Не разумею...— прызналася Марыя.

— Прыходзілі, Маня, па цябе. Можа, і цяпер за вокнамі сочаць. Наш прыводзіў. Вастраносы такі, як курашчая баба, што не шануе сябе. Гразіў, калі другі раз не застане, возьмуць Тому заложніцай. Так што я расстаралася лупін, мукі і напякла ляпёшак. Вопратку таксама падрыхтавала. Сама ты, вядома, не адступішся... Дый трэба, каб вальней табе было...

І Марыю асяніла — Ліда прыбрала сябе ў парадак, каб развітацца, быць рашучай. Зразумела: марудзіць сапраўды нельга. І праз паўгадзіны ўжо сачыла ў акно, як дачка ў злінялай хустцы, у вялікіх, не па ёй, куртачцы і буцах прабіралася агародамі, каб кіравацца супроць начы к далёкай цётцы. А яшчэ праз паўгадзіны пасланцы з СД зноў калацілі Марыін пакой, паставіўшы Ліду тварам да сцяны.

З гэтага часу Марыя ўжо не мела сталага прытулку. Дый жыццё змянілася ў корані — для яе страціла значэнне, што яна есць, дзе спіць. І глядзела за сабой больш па звычцы, каб быць як усе. Цяпер яе істота прагнула выпрабаванняў, жыла *адным*. *Яму* Марыя аддавала сілы, у ім і чэрпала іх.

Калі камандаванне атрада «Дзімы», прапанаваўшы пакончыць з іншымі справамі, даручыла шукаць спосабаў, як пакараць гаўляйтэра, па чыёй віне чыніўся гвалт і лілася кроў, Марыя, разумеючы, чаго гэта будзе каштаваць ёй і другім, прыняла заданне як узнагароду. Ёй даўно ў снах трызнілася — пралітая па

гаўляйтэравых загадах кроў дыміцца, усё навокал ахутвае імгла-дым. Дык як жа было не заявіць нелюдзям: хочаце вайны — яна вам будзе! Як не паспрабаваць засланіць блізкіх ад маньяка?

Але ■ чаго тут пачынаць? Як падступіцца да саноўнага ката, калі падыходы к дому, дзе ён жыве, перакрыты сакрэтамі, патрулямі, а яго самога ахоўвае цэлая плойма ахоўнікаў?

Марыіны хлопцы кінуліся збіраць даныя. Высветлілі: гаўляйтэр ужо не ходзіць па горадзе. Ездзіць у суправаджэнні двух-трох, як і яго машына, лімузінаў. Нумары на іх штодзень новыя; едучы ў калоне, гаўляйтэрскі лімузін мяняе месца — ён то пасярэдзіне, то наперадзе. Нават ежа з цокальнага паверха, дзе ўстроілі кухню, падаецца ў сталовую ліфтам і перш чым трапіць на стол, трапляе ў рукі доктара, які бярэ пробу.

Тады ўзялі стаўку на засады. Пачалі гойсаць па горадзе ў грузавіку, спадзеючыся на шчаслівы выпадак. Адну з найбольш увішных паплечніц Марыя паслала працаваць у радыёкамітэт — шукаць яшчэ людзей і магчымасцей. Да супрацоўніцтва прыцягнулі прыбіральшчыцу генеральнага камісарыята. Аднак знішчальнікі так і не сустрэлі картэж і, зразумела, не змаглі расстраляць або расціснуць гаўляйтэрскі лімузін. Галоўны дыктар, на якога ў радыёкамітэце была ўзята стаўка, аказаўся баязліўцам. Прыбіральшчыца ж клялася: калі і пашанцуе занесці міну ў кабінет гаўляйтэра, яе ўсё роўна выявяць ад'ютанты, якія штораніцы аглядаюць там кожны закутак.

Стала вядома: правальваюцца планы і ў другіх. У Тэатральным скверы схапілі дэсантнікаў. У афіцэрскай уніформе, русавалосыя, незалежныя, яны шпацыравалі па алеях, але аўтаматы ў іх віселі на правым плячы, рулямі ўніз, як немцы не носяць. Жану, які ўзначальваў у падпольным гаркоме аддзел па барацьбе з агентамі СД і акупацыйнымі чыноўнікамі, удалося замініраваць пабудаваную для выступлення гаўляйтэра трыбуну ў Смалявічах, але мітынг сарваўся — фон Кубэ па нейкіх прычынах не прыехаў. У драматычным жа тэатры, наадварот, міна ўзарвалася раней, як заявіўся туды гаўляйтэр...

І ўсё-такі кропля за кропляй дзяўбе нават камень: Марыі ўдалося натрапіць на работніка кінатэатра «Навіны» Мікалая Пахлябаева.

Сустрэчу наладзілі ў кіназале, на дзенным сеансе. Гледачоў было мала. Пахлябаеў, якому паказалі Марыю, прабраўся да яе і сеў праз адно вольнае месца. Як было дамоўлена, хутка абарвалася стужка, і гэта дало ім магчымасць выйсці з залы разам.

Седзячы ў заваленай рэкламным хламам каморцы за крываногім рыпучым сталом, Марыя разгледзела Пахлябаева — добра апранутага, ужо без слядоў некалі перажытых у шпіталі пакут.

— Мне сказалі, што вы знаёмы з пакаёўкай Кубэ. Гэта праўда? — усё ж даверылася яна нейкаму чуйнаму, як напятая струна, пачуццю-прадчуванню.

— Я сябрую з яе сястрой,— прыўзняў той брыво, і ў Марыі адлягло ад сэрца: ён здагадваўся, чаго яна тут, і сам прашчупваў яе, іначай адказаў бы працей — не аддзяліў сябе ад пакаёўкі, а проста кіўнуў бы. І сапраўды, прыжмурыўшыся, каб прыгасіць бляск порсткіх вачэй, ён дадаў: — Я прасіў бы прадставіць мяне камандаванню...

Пад Вішнёўкаю, дзе атабарыўся самы гадкі ў наваколлі гарнізон, іх спыніў патруль. Але памог выгляд Пахлябаева — берэт, каверкотавы гарнітур, нямецкі плашч, перакінуты цераз руку,— іх прапусцілі. І вось, калі ішлі далей паміж жытоў, палявой малаезджанай дарогаю, абочыны якой параслі травою, Пахлябаеў прызнаўся:

— Я вельмі ўдзячны вам, Марыя! Вы далі мне магчымасць вырвацца на прамую, як кажуць спартсмены. І мне рупіць сказаць вам: «Блаславёная ты, і блаславён плод жыцця твайго...» Адкуль бяруцца ў вас сілы?

— Ад вас, відаць...— не захацела гаварыць пра гэта Марыя.

Яна чакала: Пахлябаеў засмяецца, але ён спахмурнеў, унурыўся. Нават паблядпеў,— з ілба і скроняў, як бляднеюць людзі, якія ў нечым клянуцца.

— Крыўдна, вядома, паміраць з ласкі на пацеху,— сказаў з прыціскам.— Асабліва калі хочацца яшчэ сёе-тое давесці. Але дзейнічаючы на свой страх і рызыку, я рыхтаваў сябе і да найгоршага...

Ён спыніўся, ды паглядзеў не на Марыю, а ўдалячынь, дзе да залацістага жытнёвага разліву спускаўся блакіт.

— Словам, я аддаю сябе ў ваша распараджэнне. У поўнае распараджэнне, Марыя! — І ўсё-такі не стры-

маўся: — А ці не лепш мне самому ўзарваць кіназалу пры якім-небудзь урачыстым праглядзе? Я ж усё-такі мужчына!

Марыя паправіла густыя валасы, што выбіліся з-пад хусткі, задумалася. Прачырыла наском туфлі дарожку на пыльнай зямлі.

— Дзякую. Вы кемлівы... Але міну запаволенага дзеяння ў вас не скарыстаеш. А значыць, трэба будзе ахвяраваць вамі. Ды ці многа «за», што пашанцуе? Хай гэта застанецца на крайні выпадак. А цяпер — Мазанік...

Мінула некалькі дзён марнага чакання. Але, калі пачало ўжо здавацца: патрэбны нейкія тэрміновыя заходы-вывады, Пахлябаеў праз сувязную — касірку прыватнай гадзіннікавай майстэрні, перадаў: загад выкананы — у дзевяць раніцы Марыю будуць чакаць ля ўвахода ў парк імя Горкага.

Ад Алены Мазанік у Марыі асталося дваістае ўражанне. Какетлівае плацце, чужая прычоска са старанна ўкладзенымі буклямі, залаты медальён на шыі. Разам з гэтым — яшчэ маладыя, прыемныя, засмучаны твар, стомленыя, але неспакойныя рукі. Адчувалася: яна абдумала сваю тактыку — рашыла паводзіць сябе няпэўна — так, каб потым, на ліхі выпадак, выйсці сухою з вады.

— Вы маеце канкрэтныя прапановы? — спыталася, калі Пахлябаеў і сястра пайшлі.

— Я прапаную вам знішчыць рэйхскамісара,— проста сказала Марыя.— Пакараць за кроў і злачынствы супроць чалавечнасці.

— Мне? Вы сур'ёзна?

— Вельмі. Праўда, гэта ў выпадку, калі вы маеце намер астацца сумленнай.

— Ну, маё сумленне хай вас не турбуе,— закапыліла губы субяседніца.— Вас хто-небудзь упаўнаважыў?

Яна перапраўярала Пахлябаева! І гэта тады, калі, як казалі, сама спрабавала шукаць падпольшчыкаў... Чаго б? Разумее: ёй памыляцца адзін раз? А мо прыглядаецца, выбіраючы, нечага чакае — мне, маўляў, ніколі не позна? Рашыла: дзейнічаць будзе толькі напэўна? Ці наогул з тых натур, якія прымаюць рашэнні ў самы апошні момант — і напярэдадні стараюцца не думаць, куды выкіруюцца падзеі заўтра, бо так лягчэй?

— Яго, Галя, усё роўна пакараюць,— больш лагодна сказала Марыя.— Ёсць вышэйшая справядлівасць, якой нельга пагарджаць. Ён злачынца. Дый самой табе гэта трэба не менш, чым нам.

Тон, Марыіна цярплівасць і тое, што яна назвала яе Галяй, як завуць у сям'і, спадабаліся Мазанік, паджывілі яе.

— Да мяне ўжо звярталіся з падобнымі прапановамі,— не то даверылася, не то пакпіла яна.— Палохалі, паказвалі, што ёсць грошы. Я думаю нават паведаміць гаўляйтэру.

— Каб вас і ваш дом узялі пад асобы нагляд?

— Не. Каб мяне не правяралі так па-дурному...

— Пахлябаеў, Галя, казаў мне, што яшчэ да вайны ЦСУ выдала інструкцыю. Згодна яе аўтамабілі без шын лічацца спраўнымі. А вось калі ў іх няма акумулятараў — няспраўнымі...

Гэтым разам Марыя накіравалася ў атрад п сястрою Мазанік — пікантнай, рашучай, якая старалася маўчаць і раз-пораз хмурылася.

Марыя ведала: яна — удава, працуе судамыйкаю ў сталовай, мае дзяцей, якія жывуць у прыгараднай вёсцы. Бачачы, як жанчына крывіцца і хапаецца за борт, калі кузаў грузавіка, на якім пашанцавала пад'ехаць да Паперні, падкідае на ўхабінах, шкадуючы яе, Марыя, як толькі саскочылі на зямлю і абабілі з вопраткі пыл, паклала ёй руку на плячо:

— Усё будзе добра, Валя. Свякруху і дзяцей вашых вывезем... Дый, наогул, хочаш быць смелай — будзь смелай да канца. Так лепш.

...У горад яны вярталіся паасобку — спачатку Валянціна, а назаўтра, другім маршрутам,— Марыя.

Марыя ішла адна па пыльнай дарозе, глядзела на неба, на стомленае жнівеньскае поле і зноў, зноў перабірала, ацэньвала ўсё ў галаве. Рашучасць рабіла яе празорлівай. І як ні прыкідвала, найбольш пэўным здаваўся план з мінаю, пра якую яна некалі казала Пахлябаеву. Толькі б Мазанік паверыла ў поспех, даверылася б, дала слова сабе і ёй...

На кантрольна-прапускным пункце эсэсман — пажылы, пануры дзядзька са шчокамі, падобнымі на галіфэ,— праверыўшы дакументы, раптам ні з таго ні з сяго зазлаваў на Марыю. Пагуляўшы ў кішэні манетамі, хацеў быў яшчэ нешта запатрабаваць, але папярх-

нуўся, сарваў з шыі аўтамат і выцяў Марыю прыкладам па патыліцы. Удар быў моцны, і яна, страціўшы прытомнасць, з паўгадзіны ляжала ў кювеце, куды нагамі спіхнулі яе эсэсманы.

Галава балела, развальвалася. Галавакружэнне, адчуванне моташнасці былі ў Марыі і праз дзень. Так што, калі яна, узгадніўшы планы з Мазанік, зноў падалася ў атрад, то мусіла ўзяць з сабою сувязную, хоць рашучасці і пабольшала.

Міны ў атрадзе знайшліся адразу. А вось узрывальнікі аказаліся ўсе трохсутачныя. Таму давялося шукаць у суседніх спецгрупах.

«Хоць бы гэтыя былі сутачныя! — хвалявалася Марыя, слухаючы наказы-тлумачэнні.— Людзі ж рызыкуюць! І калі не ўдасца, наклічам бяду, большую чым была...»

Узрывальнікі ёй параілі схаваць у прычоску, міны (на ўсякі выпадак дзве) пакласці ў кашолку з брусніцамі. Далі яек, круп, кавалак сала.

Назад Марыя з сувязной пайшлі сцішаныя — гняла адказнасць. Ля «пагранічнай» рэчкі Вячы, не згаворваючыся, сталі на калені, пакланіліся, пацалавалі зямлю.

— Цяжка, Марыя, на душы. Дома дзеці, а вяртацца не хочацца,— прызналася з затуманенымі вачыма сувязная.

Гэта была скарга, споведзь. Марыя зірнула на жанчыну, на высокае, з яшчэ цёплымі хмурынкамі неба, дзе луналі, распластаўшы крылы, буслы.

— Ім, вядома, лягчэй,— згадзілася.— Але нічога... Далей, цёзка, пойдзеш адна. Мне ўжо лепш.

— Што вы? — жахнулася тая.— Вы не так зразумелі мяне!

— Ідзі, ідзі! Мы з табой незнаёмыя.

Праз колькі крокаў з прыдарожных кустоў выйшлі паліцаі. Марыя бачыла, як самы высокі пальцам падзваў сувязную і пачаў абшукваць. Але іншай рады не было, як ісці да іх. Ад нервовага напружання карцела рассмяяцца.

— Чаго ржэш? Што чаргі няма? — даволі прыхільна спытаўся паліцай, які абшукваў сувязную.— Вытрасай свае шмоткі!

Прысеўшы, Марыя паволі пачала вымаць з кашолкі яйкі, крупы. Думкі працавалі ясна, выразна. Калі су-

вязную адпусцілі і ўсе акружылі Марыю, яна, усё смеючыся, сама рынулася ў атаку:

— У мяне, хлопцы, засталося некалькі марак. Магу даць... Але ж, мусіць, і ў вас ёсць сёстры?..

Высокі гаваркі паліцай састроіў дураслівую міну і ўваткнуў цясак у брусніцы. Сэрца ў Марыі абарвалася.

— Гы-гы, страшна? — зарагатаў ён.— З гэтага і пачынала б, родзічка! — І, зняўшы з галавы пілотку, падставіў як жменю.

Стараючыся, каб не дрыжалі рукі,— няхай баязлівец памірае тысячу разоў! — Марыя паклала ў пілотку пару яек і пад непрыстойныя жарты павярнулася да паліцаяў спінаю. Пачуўшы галёканне, плюнула: яе палохалі, мяркуючы, што пабяжыць. З нейкай злой тугою падумала: гэта сустрэча не апошняя. Абавязкова затрымаюць і будуць правяраць каля воданапорнай вежы ў Паперні і, зразумела, на кантрольна-прапускным пункце пры ўваходзе ў горад. Прычым, не выключана, зноў давядзецца мець справу з пажылым эсэсманам, у якога шчокі бы галіфэ. Але... яна, Марыя, усё роўна пройдзе і там...

Цяпер асталося перадаць прынесенае Алене Мазанік. Ды тая, насуперак дамоўленасці, на яўку не прыйшла. Не паказалася і на другі дзень. Што за прычына? Арыштавалі? Вагаецца? Раздумала? У дадатак да ўсяго перадалі ад Ліды: зноў прыходзілі гестапаўцы, пагражалі — забяруць ужо Генку. І зноў немы Юркаў крык стаяў у вушах, ірваў сэрца.

Марыя змяніла кватэру, дакументы, прычоску. Паслала Лідзе маршрут, па якім лягчэй трапіць у партызанскую зону. Загадала тэрмінова вывезці з Масюкоўшчыны старую з дзецьмі — хай і там будуць спалены масты да адступлення. Выклікала на явачную кватэру Пахлябаева — няхай таксама дзейнічае і прыме захады, каб адхіліць небяспеку ад сябе... Верыла: тут справа не ў Мазанік, а ў нечым непрадбачаным.

Сапраўды — неўзабаве тая перадала: гаўляйтэр выязджаў з горада, і яна, не жадаючы лішні раз рызыкаваць, чакала, калі ён вернецца. А заўтра, пад вечар, Марыя можа прыйсці проста да яе дамоў.

Гатовая і на горшае, Марыя пайшла па ўказаным адрасе. З парога, ведаючы — за сцяною жыве паліцай, прывіталася:

— Добры дзень, гаспадынька. Мне казалі вы туфлі прадаяце?

— Прадаю, праходзьце,— запрасіла Алена, кладучы побач на канапу чырвонае шыццё, над якім, відаць, карпела дасюль, але не ўстала.

Гэта было нечакана і пасля перадуманага насцярожыла. Аднак Марыя, не спыняючыся, ступіла да канапы — старамоднай, з высокай спінкаю, з палічкамі на ёй. Перавяла дух.

— Тут усё,— працягнула пакунак.— Як зарадзіць, я пакажу. Заўтра прысуд павінен быць выкананы.

Яна разумела: не варта называць рэчы сваімі імёнамі, але, каб падкрэсліць, што назад дарогі няма, пайшла на гэта свядома:

— Адкладваць больш нельга. Кат павінен быць знішчаны.

Алена ўсміхнулася.

— А я хіба супроць? — прашаптала і кіўнула на сцяну.— У іх там п'янка — удалося недзе хапнуць куш. Але давайце цішэй...

Яны ўважліва, прыжмурыўшыся, паглядзелі адна на адну. Не скажаш, як з няпэўнасці вырастае пэўнасць, але ім раптам адкрылася: Марыі — што гэтая прыгожая, дапытлівая жанчына пранікласся задачаю і пойдзе на смерць; Алене ж — што непахісная госця мае права патрабаваць ад яе найцяжэйшага, бо, каб мела магчымасць, сама б пайшла на гэтае найцяжэйшае або паслала сваю дачку. Адкрылася і яшчэ: патрэбна вось такая шчаслівая сустрэча, каб яны змаглі праявіць сябе.

Адчуваючы адна да адной удзячнасць, яны абняліся. Потым Марыя адхіліла Алену і, трасучы за плечы, каб не адводзіла позірку, пацалавала ў лоб. І Валянціне, якая была ўзялася шукаць туфлі ў скасабочанай шафцы, здалося: яны спраўляюць абрад — адна ў нечым прысягае, а другая благаслаўляе яе.

— Таргуйцеся, таргуйцеся,— падагнала яна іх, выціраючы далоняй слёзы са шчок.— А я папяю.

— Сапраўды! — ачулася Марыя.— Збор у Тэатральным скверы. Галіне, падклаўшы міну, лепш за ўсё прасіцца да зубнога ўрача... Валіны дзеці і старая ўжо ў небяспецы...

— Салавейка каласо-ок,— зацягнула Валянціна,— салавейка каласо-ок!..

За сцяною грымнуў рогат.

Ноччу Марыя не спала. Узважваючы, перабірала то адно, то другое. Успаміналіся дачка з сястрою: «Хто ведае, якія звесткі ёсць у картатэцы СД?» Нявесела думалася пра Ліду з Генкам, пра Пахлябаева, які адмовіўся ісці ў лес: «Зраблю з ваша, тады, калі ласка...» Здабываючы алібі, ён арганізаваў сабе камандзіроўку ў Заходнюю — але ці ўратуе гэта, калі ўсчнецца калатня? Трывожылі промахі. Валіна свякруха паскнарнічала — напакавала занадта многа рэчаў, і давялося наймаць яшчэ падводу ў самой Масюкоўшчыне. Рэчы завезлі ў Мінск, і наняты падводчык ведае, дзе іх згружалі. Такім чынам, калі толькі гестапаўцы дабяруцца да яго і паднаціснуць — сёйтой таксама апынецца пад ударам...

Пра сябе Марыя не думала — само яе месца сярод людзей вымагала рызыкі. Яна, Марыя, ужо не належала сабе. Адчуванне сваёй залежнасці ад таго, што трэба было зрабіць, панавала над астатнім. Дый хіба можа чалавек рашаць — дыхаць яму ці не.

Раніцою Марыя аддала апошнія распараджэнні і пашыбавала ў сквер. Паслаўшы паперу на лаўцы, непадалёк ад фантана, расклала тавар — піражныя, купленыя ў прыватнай кандытарскай. І, можа, толькі тут думкі ў яе схіліліся да самой сябе — вельмі хацелася ўбачыць, як перамажа справядлівасць, і хоць чутачку... адпачыць.

— Чаму так доўга? — выдыхнула яна, калі падбегла Алена.— Сведкі былі?

— Адзін сабака...

Неўзабаве яны ўжо трэсліся ў грузавіку — Марыя ў кабіне, Алена і Валянціна ў кузаве. Ды ўчэпістыя рукі гаўляйтэра ўсё яшчэ як бы цягнуліся за імі. За грузавіком нечакана ўвязаліся матацыклісты і легкавушка. Нават развітаўшыся з шафёрам і перайшоўшы Вячу, жанчыны напароліся на немцаў. І толькі пад Беларучамі, убачыўшы купку партызан на чале з прыкметным і таму знаёмым Марыі барадачом у жоўтай скуранцы, далі волю слязам...

Вось тады — на другі ці трэці дзень пасля іх прыходу — я і ўбачыўся з Марыяй у Янушкавічах — вёсцы, цяпер вядомай многім. У садку пры хаце, якую мне апісалі ў атрадзе, кусціўся бэз, цвілі махровыя астры. На зялёным ад спарыша двары мірна блукалі

куры і гарланіў вогненны, быццам размаляваны певень. Аднак на чыстым, выскабленым ганку сядзелі партызаны з карабінамі і стаяў «максім».

Я ведаў: Марыя ўвесь гэты час страшэнна перажывала і настаяла правесці ў скляпку на агародзе эксперымент з мінаю. А калі ўзрыў адбыўся са спазненнем, слухаць не стала, што вінавата халоднае надвор'е. Ведаў я і тое, што нядаўна каля дома гаўляйтэра на поўначы раўлі пажарныя машыны. Рэдакцыі газет у Мінску атрымалі загад рыхтаваць аршынныя, у жалобных рамках, партрэты гаўляйтэра. Адменены ўсе прапускі, горад блакіраван. Ходзяць чуткі: «галоўных злачынцаў» СД схапіла...

Марыя толькі што вымыла галаву. Ля печкі на табурэтцы стаяў эмаліраваны таз з вадою. Схіліўшы галаву на плячо, Марыя стаяла побач і праціРала ручніком валасы — густыя, ледзь не па калені.

Я дасюль не сустракаўся з ёю, але ўгадаў — яна, ясны твар, разумныя, з паволокаю вочы, чорныя як смоль даўгія валасы. Яна скоса глянула на мяне, паклала на табурэтку ручнік, уздыхнула.

У чыстай палавіне, з якой у цемнаватую кухню праз расчыненыя дзверы лілося святло, чуліся ажыўленыя галасы.

— Вы да мяне? — спыталася, бачачы, што я моўчкі разглядаю яе.— Напэўна, распытваць будзеце?

— Ты, Маруся, раскажы пра паведамленне шведскага радыё,— падказалі з чыстай палавіны.

— У Мінску яшчэ засталіся нашы,— як бы не пачула яна і стала пералічваць паплечнікаў, над якімі яшчэ вісела небяспека.— Дала, дурная, угаварыць сябе... Пахлябаеву, бачыце, усё мала. Шафёру Фурцу заманулася быць з ім: «Дзе ён, там і я...» А што, калі сам на цугундэры? Маглі ж угледзець, калі падвозіў нас. І калі пабяжыць на вакзал, каб сустрэць і праінфармаваць, пападуцца абодва...

Вочы ў Марыі ўздрыганулі, на іх закружыліся слёзы.

Я сустракаў многа мужных людзей. Але мушу прызнацца: такую натуральную, глыбокую мужнасць я бачыў упершыню. У ёй як бы жыла душа народа, яго гора і вера. Здавалася, Марыя ведала ўсё, і нават тое, чаго чакалі ад яе жанчыны там, на Урале. Бо яна ўвабрала ў сябе іхні боль, цярплівасць і дабрату.

# ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБВІ

*Апавяданне*

Чые сляды прывялі іх к дому? Калі гэта здарылася? Пасля дыверсіі ці паездкі ў Жукаўку? Дыверсію праводзілі ўсяго ўдвух — з Сяргеем. У гарком жа ездзілі толькі з Надзюшкаю...

Прымусіў сябе неяк звыкла ўспомніць...

Ішоў дождж. Запалкі ў кішэні намоклі, тэрмітны шар не загараўся. Ён чыркаў, чыркаў ім аб карабок, а пстрычкі і знаёмага шыпення, што нараджалася б у глыбі шара, не было. Але потым,— калі вось-вось павінны былі прайсці вартавыя,— у Сяргея шар успыхнуў. Цемрадзь затрапятала ад іскрыстых, шыпучых агнёў. У зіхатлівым святле, якое не давала ценяў, пад дажджом, што, здаецца, гнаўся ўслед, і абрываліся — радыя: усё-такі ўдалося, і ніякія аўчаркі не возьмуць следу!.. Што ж датычыць Жукаўкі, прыгоды адно надараліся, калі ехалі туды — калі ўкрыты посцілкаю тросся на калёсах, падкурчыўшы доўгія ногі. Тады небяспека сапраўды насунулася была, і Надзюшцы двойчы — у Паперні і Вішнёўцы, давялося адбрэхвацца ад бобікаў з заставы — вазіла, маўляў, у горад да ўрачоў «тубіка» брата...

Злуючыся — стукат у сенцах аж разлягаўся, мяркуючы, гэта чарговая аблава або праверка, Андрэй падхапіўся з ложка.

У дзвярным праёме спалохана мігнулася постаць у белым. Яе было ледзь відно, але па руках Андрэй пазнаў: маці.

— Што рабіць, Андруша? — абяссілена спыталася яна.

— Запаліце газнічку,— адказаў незадаволена,— і пастарайцеся пагаварыць з імі самі...

Ён знарок не стаў апранацца, а як быў — у трусіках і майцы — выйшаў з бакоўкі ў большы пакой, дзе чуліся ўжо чужыя галасы і грукат. У вочы кінуў-

ся сярэдніх год, лабасты, з тварам на клін эсдэкавец, у цывільным, які, трымаючы левую руку за спінаю, махаў правай перад Надзюшкіным носам, прымушаючы яе маргаць і прыплюшчваць вочы. Астатнія — маці, бабуля, дзед, Васілёк і Лізавета купкаю схлупіліся ля буфета. Толькі Ганначка, спехам укрытая матчыным халатам, бестурботна, з раскінутымі ручкамі, спала на канапе за абедзенным сталом. Два эсэсманы — адзін на парозе і другі пры купцы ля буфета,— падрыхтаваўшы аўтаматы, што віселі на шыі, чакалі распараджэнняў.

Убачыўшы Андрэя, лабаты зіркнуў на салдата, што стаяў у прычыненых дзвярах. Той падцягнуўся. Андрэю цюкнула: значыць, у іх ужо ёсць дамоўленасць наконт яго, значыць — прыйшлі з арыштам... У Жукаўцы таксама былі сігналы, і першы запатрабаваў, каб Андрэй пераходзіў на нелегальнае становішча і з тыдзень пасля пасяджэння не дазваляў вяртацца ў Мінск. Значыць, трэба было паводзіць сябе інакш, чым надумаў — можа, нават задрацца. Дый сэрца нібыта акунулася ў кіпень і застукала ў скроні. Грозячы Надзюшцы пальцам, эсдэкавец не-не дый поркаў у яе твар — у пераноссе, у куток рота, папярэджваючы — пакуль што стрымліваецца, а можа тыцнуць і ў вока.

— Чаго вам трэба ад яе? — крыкнуў Андрэй, рашуча пяцярнёй зачэсваючы назад русыя прамыя валасы.— Пытайцеся ў маці. Яна тут гаспадыня.

Эсдэкавец скасіў на яго павузелыя вочы, з выпнутымі грудзьмі падышоў і, узяўшы за падбародак, павярнуў яму галаву, быццам жадаючы паглядзець на профіль.

Андрэй адступіў, але бачачы — рука зноў цягнецца да яго падбародка, з сілаю адштурхнуў яе — эсдэкавец хутчэй за ўсё быў з тых, што, верныя прафесійнаму вопыту, паказваюць сябе пазней.

— Л-ла-адна. Ідзі апр-р-анайся, законнік! — як бы сапраўды прымірыўшыся з яго недатыкальнасцю, пагладзіў руку эсдэкавец і варухнуў кусцістымі бровамі.

Пераступіўшы парог бакоўкі, падхоплены парывам, Андрэй кінуўся да ложка, выцягнуў з-пад матраца пісталет, ліхтарык, схапіў вопратку, чаравікі і, ведаючы — створкі акна па прывычцы толькі пры-

чыніў звечара,— сігануў у сад. Здзіўлены: стрэлы не грымяць, пераскочыў цераз агароджу на суседскую сядзібу. У руінах ушчэнт разбуранага квартала нацягнуў вопратку, абуўся. Са злой радасцю адзначыў: чаравікі трапіліся дзедавы — пусцяць аўчарку, гэта саб'е яе з панталыку.

Парашыў: будзе хавацца ў сябе на хлебазаводзе. Але, трывожачыся за астатніх членаў штаба, забег — тры каменьчыкі ў дах галубятні — да Сяргея. І ўсё-такі, калі, падсвечваючы ліхтарыкам, прысеў на ахапак саломы ў заводскім коміне, дзе раз ужо начаваў пасля таго, як хлебазавод вывелі са строю, калі ўбачыў высока над сабой круглую лапінку сіняга неба, сэрца сціснула непрыкаяная адзінота.

Памяць выцягнула са схованак і падставіла вачам — на, глядзі! Успомнілася, як Надзюшка-трэцякласніца ў наіўным жаданні апранацца прыгажэй, аднойчы адпарола ў школьнай раздзявалцы ад чужога палітэчка футравы каўнер і назаўтра прышыла да свайго заношанага. Як потым, калі падрасла, ён неяк ішоў з ёю па Савецкай, і адзін з сустрэтых хлопцаў, атарапеўшы, пачаў тузаць кампаньёнаў за рукавы: «Паглядзіце! Вунь! — І зазлаваў: — Ды паглядзіце ж, дурні, можа, болей і не ўбачыце такой!» Вось і Сяргей душы не чуе, баіцца глядзець ёй у вочы.

А маці? На яе плячах, пакуль не скончыў рамеснага вучылішча, трымалася ўся мнагаротая сям'я. Як толькі і помніць яе — вечна ў рабоце. Дый цяпер усё ў доме — на ёй. Нават Васілёк не навучыўся яшчэ як след бараніцца і, калі крычыш на яго, адно просіцца: «Ну, Андруша, ну!» — хоць з такімі ж, як сам, падшывальцамі выштукоўвае ўжо з цвікоў «жучкі» і раскідае па вуліцах. А Лізавета? Ёй зусім нядаўна падабалася, што ад яго пасля работы пахла хлебам. Яна толькі-толькі пачынае сніць дзявочыя сны. Усяго пазаўчора расказвала... Упусціла свой капеечны пярсцёнак у рэчку. Вада быстрая, светлая, падхапіла яго і пакаціла з сабой. «І сэрца маё нібы пакацілася,— перайшла на шэпт.— Бягу па беразе і гляджу, як ён віляе між каменьчыкаў. А тут ні адтуль, ні адсюль шчупак. Хайло разявіў. Але я тыц руку ў ваду — пярсцёначак і нанізаўся на палец. Сам!..»

Апоўдні завітаў верны Сяргей. Прынёс печанай бульбы і голуба — каб праверыць, ці саслужыць пры

крайняй патрэбе службу. Але, калі яго пусцілі, ён даўся ў закуродымленую сцяну, выбіў крыло, і яго, трапяткога, у сажы, Сяргей сунуў назад за пазуху. І як не храбрыліся, гаворка не клеілася.

— З таварнай станцыі паведамляюць, што немцы пачалі падвозіць хлеб ажно з Польшчы,— каб падвесяліць сябе і таварыша, нарэшце страсянуў чубам Сяргей і паспрабаваў усміхнуцца.— А ты еш! Мабыць, прагаладаўся. Я раней не мог прыйсці.

— Якая тут яда! — з прыкрасцю адмахнуўся Андрэй.— Ты як маці...

— Што маці? Што маці? — нечакана ўсхадзіўся той.— Забралі тваю маці. І Надзюшку забралі! І Лізавету і Васілька. Іх ратаваць трэба!

Дасюль пра сваіх не дужа думалася — жывуць як усе. Поўны турботных задумак, увагу трымаў на тых, хто рызыкаваў,— баевіках. Ды, калі прызнацца, думаючы пра іх, таксама болей баяўся за аперацыі — дзеля гэтага ж уступілі ў барацьбу! Нямала значыла і тое, што небяспека ў самога абуджала сілы, нават вабіла. Да таго ж — шанцавала. І, калі бачыў: другія гінуць, само сабой карцела падазрэнне — у нечым недзе, відаць, вінаваты самі.

І вось Сяргеевы словы адабралі дасюлешнюю яснасць. Аказалася: разам з ім рызыкавалі маці з Лізаветаю і Васільком, дзед з бабуляй... І таму, што яны рызыкавалі, яму лацвей было дзейнічаць. Ён як бы засланяўся імі. Эсдэкавец не паслаў з ім салдата, бо адчуваў: яны гатовы на нечаканасці — дзед насупіўся, бабуля ўзяла за руку Лізавету, маці шукае нешта наўкол позіркам... Яны і ён былі, як дрэвы ў лесе, дзе кожнае памагае нечым другому. І невядома, каму цяжэй або лягчэй. Ва ўсякім разе вось ён, уцёк, выратаваўся. А яны? У маці, бабулі, Надзюшкі яўна было на мэце бараніць яго. А ў яго самога... было?.. Яго ўцёкі зробяць іх віну канкрэтнай і могуць дарага ім абысціся. Надзюшка, дык тая, пэўна, ужо ў эсдэкаўскім засценку, і лабаты дапытвае яе. З пострахам, пасля чаго, кажуць, валасы лезуць пасмамі... І ўсётакі, выгадваючы час, Андрэй спытаўся, пстрыкаючы ліхтарыкам:

— Вось так і ратаваць?.. А?..

Сяргей разгубіўся, відаць, пакутуючы і ад навіны, якую прынёс, і ад таго, як рэагуе на яе Андрэй,—

пануры, з пукатымі надброўнымі дугамі ў скупых успышках ліхтарыка.

— Што-о?— працягнуў ён няўцямна.

— А тое, Сярожа... Мабыць, з рахунку не скінеш і такую ісціну... Чым людзі бязлітаснейшыя да сябе, тым, як правіла, лепш справе. Дый сувязей з турмой пакуль што няма.

— Тады давай хоць пераправім у лес астатніх. Іх, далібог, таксама забяруць! Чэснае камсамольскае. Ні Надзюшка, ні маці твая не даруюць пасля.

— У СД, мусіць, і разлічваюць якраз, што мы рыпацца будзем. Нездарма выбралі за прыманку малую са старымі.

— Усё роўна! Каб былі не свае, ты іначай разважаў бы,— упікнуў ён, падумаўшы аднак,— каб не гэта Андрэева зацятасць, можа, так і не слухалі б яго ўсе.— Не забывайся таксама на ўзрыўчатку з шарыкамі,— дадаў:— Тол ужо заўтра спатрэбіцца. А твае, калі хочаш, могуць самі прыйсці, куды скажам.

Разумеючы — Сяргей прыкінуў словы пра тэрмітныя шары і ўзрыўчатку, схаваныя на гарышчы ў доміку, каб надаць аперацыі крыху іншы характар, Андрэй цяжка ўздыхнуў: «Няўжо так можна было падумаць пра яго?..»

Ці не падманваў сябе ў нечым Андрэй, калі нарэшце адчаяўся — правільна, трэба застрахавацца? Мусіць, усё-такі чуць падманваў. Бо іначай чаго ён браўся за ўсё сам? Ці не таму, каб не ставіць пад удар таварышаў? І калі спачатку вагаўся, дык таму, што тачылі сумненні: ці ёсць у яго наогул права займацца гэтым, калі чакае другое, трэцяе, пятае? І хто ведае, магчыма, так да канца і не вырашыў сабе... Бо, пасяліўшыся на канспіратыўнай кватэры ля Балотнай станцыі, нібы забыўся на дом і ўласную бяду.

Аднак, калі начной хліпатою апынуўся ў сваім садзе і адчуў пад нагамі кволую траву, аж скалануўся — нешта сцяла яму дыханне, быццам не быў тут доўгія гады. Зарупіла, як малому, пастаяць пад яблынькаю, можа, нават прыпаўшы да яе разгалістага ствала. Мокрая вераснёўская зямля, кара яблынек, яблыкі на іх — пахлі. Недзе тут жа была градка па-

мідор, бульба, і, далятаючы разам з парывамі дажджу, іх пахі казыталі ноздры.

Андрэй прабраўся да акна. За ім, у цёплай цемры, спіць Ганначка з заціснутымі ў кулачкі рукамі. Яна, здаецца, не дыхае і некалі нават палохала гэтым бабулю. Спіць дзед, у якога заўсёды нешта клякоча ў горле. Як заўжды, турбуючыся аб другіх, калі клёкат у яго пераходзіць у прыхліп, бабуля, безумоўна, цокае языком або пачынае тармасіць дзеда за плечы... І, вядома, не спіць сама яна — вечная клапатуха — сядзіць чуйна, як на варце, не варушачыся і не ўздыхаючы.

Счакаўшы, Андрэй асцярожна пашкробся ў шыбу. Сапраўды, бадай што ўраз, за шыбаю гайданулася фіранка. Але, калі створкі расчыніліся, бабуліны рукі перагарадзілі яму дарогу.

— Чаго вы? Пара б, здаецца, прывыкнуць...— засердаваў ён, адхіляючы яе рукі і тулячы яе галаву да сябе.— Я па вас...

Як сталы мужчына, паляпаўшы яе па старых плячах, цыбаты, расхлістаны, улез у акно. Асцярожна, паддаючыся раптоўнаму, зусім не сталаму жаданню, адсунуў абедзенны стол і, хмыкнуўшы, схіліўся над канапаю. Ганначка праз сон тварам адчула яго дыханне. Не ведаючы — каго, абняла сама, але не прачнулася.

— Пабудзіце яе і дзеда,— папрасіў Андрэй.

Бабуля роспачліва застагнала.

— Нелюдзі ж, Андрушанька! Яны ж усяго два дні як былі тут,— залямантавала, баронячыся.— Ну, до, до, не буду! Ты хоць бы паеў. Я ж знала, што заглянеш. А потым бяры Ганначку, дзеда. А я... Як я кіну ўсё? Як ты без мяне адзін будзеш? Дакранулася, во, і сэрца зайшлося — бы на агні згараеш.

Ён не даслухаў яе і, напраўду адчуўшы голад, злуючыся на сябе за гэта, заспяшаўся ў сенцы, адкуль можна было ўзабрацца на гарышча.

Першымі днямі вайны стары домік згарэў. Працуючы на будоўлях, Андрэй намысліў тады пабудаваць новы і, калі ў горадзе ўжо гаспадарылі немцы, з дапамогаю сябрукоў, збудаваў, не забыўшыся на тайнікі — хітрыя, з выдумкаю,— у лежаку, у падвойным даху.

Ён спрытна напакаваў толам рукзак, зноў замаскіраваў тайнік і сабраўся быў вяртацца назад, як на вуліцы забахалі стрэлы. Калі будавалі домік, улічылі і такое. Андрэй адчыніў дахавае акно, па дошцы з набітымі планкамі спусціўся да рыштка і скокнуў у сад. Блытаючыся ў сухім бадыллі, якога, здаецца, і не было ў садзе, дапаў да плота.

У руінах мёртвага квартала зноў сеў на цагляны грудок. Абхапіў галаву: так ці іначай ён прынёс у дом чарговую і, можа, непапраўную бяду. І каму? Тым, адзіным, што асталіся ў яго і як бы нанава рабіліся яму дарагімі. Праўда, цяпер ён наўрад ці прызнаўся б, што абажанне яго расло разам з тым, як згушчаліся хмары над роднымі. У гэтым, і цяпер падавалася яму, была нейкая непаўнацэннасць. Нават слабасць. А ён, сцвярджаючы — не цяпер жыць для сябе, усё мог даравацъ — сабе, людзям,— але не слабасць! Ды яшчэ, калі змагаешся з нелюдзямі! Калі твае беды і няшчасці — нішто ў параўнанні з людскімі... І ўсё-такі душа ў яго рвалася, ныла.

А тут яшчэ выявілася: страляніну ля дома пачалі Сяргей з хлопцамі, якія ўсё ж, каб ахоўваць яго,назіркам следавалі за ім і заўважылі засаду. І другое — пасля допытаў і катаванняў дзеда з бабуляй адправілі ў Трасцянец, на гібель, а Ганначку — у прытулак для дзяцей, бацькі якіх былі пад следствам або пакараны смерцю.

Сяргей прыбег на кватэру ля Балотнай станцыі нібыта з адной ідэяй — «расчыхвосціць» школу, дзе некалі вучыліся. Немцы ператварылі яе ў зброевы склад, латалі, перакройвалі і чысцілі там абмундзіраванне, што паступала з фронту. Грузчыкамі і чорнарабочымі ў школе працавалі колішнія аднакашнікі. Ахоўвалі ж яе пакуль што два вартавыя, якія стаяць ля пад'езда і толькі праз паўгадзіны па чарзе абходзяць будынак.

— Пакінем акно незамкнутым, падбяром ключы ад класаў — і, лічы, усё ў парадку! — пераконваў ён, але хутка не вытрываў: — Ты ведаеш, што ў прытулку, дзе Ганначка, дзяцей не толькі мораць голадам?.. У Надзюшкі ж, перадаюць, валасы выпадаюць!..

— Ведаю,— адвёў Андрэй пацямнелыя вочы, бляднеючы ад жадання тыцнуцца галавою ў плячо друга-таварыша.

— Яны дзяцей донарамі зрабілі!

— Ведаю! Але давай пра гэта, калі можна будзе не аднымі эмоцыямі казыраць... А гарком зараз просіць падкінуць вопраткі, гранат. Так што — дзейнічайце.

— Навошта ты так? Ты ж сам мучышся. Я тады без цябе вазьмуся. Чэснае камсамольскае! Хоць крыўдзіць цябе і грэх...

Дзіцячы прытулак уразіў іх убогай чысцінёю. Не, не ўбогай — казённай. Да жуды. Сцены і столь пабелены, але наспех — палосамі, праз якія праступаюць застарэлыя падцёкі. Вымытая падлога лушчыцца, як ад каросты. Крываногія ложкі засцелены шэрымі бальнічнымі коўдрамі. Смярдзіць хлоркаю, застаялым, цяжкім духам.

Дзяцей відаць не было. Апасаючыся — іх некуды павялі, дымячы кароценькай сігарэтаю, Андрэй загадаў Сяргею паклікаць загадчыцу. У цемнаваты калідор выйшла мажная, у гадах, жанчына. Папраўіўшы на хаду прычоску з буклямі, абцягнула кофтачку. Пагдядаючы на оберштурмфюрэрскі пагон Андрэя, нарыхтавалася слухаць.

Ганначка ляжала адна ў вялікім, спрэс застаўленым ложкамі, пакоі. Без крывінкі на твары, з упятымі ў столь вачыма. Важным стала, каб яна не крыкнула, не рванулася да яго.

— Падрыхтуйце яе,— каўтануўшы сліну, каб зняць спазм, сказаў Андрэй з акцэнтам, але не так, каб прымусіць сястру адарваць позірк ад столі.

Божа мой, як ён любіў яе зараз — худзенькую, безуважную, пастрыжаную, з вялікімі, бы ў дарослай, вачыма. Як ахвотна сказаў бы ёй пра гэта!.. Баючыся абудзіць яе ўвагу, ён стараўся не глядзець на сястру, але міжволі пазіраў. Аднак, на шчасце, яна аставалася безудзельнай — мусіць, бралі яе адсюль не раз, і Ганначка добра ведала: тут нічога не зменіш.

— Уставай, пойдзеш,— распарадзілася загадчыца, не падыходзячы.

Ганначка паднялася і, як загіпнатызаваная, пачала нацягваць на сябе засціраныя неданоскі. Бедная схуднела так, што лапаткі ў яе нагадвалі крыльцы ў птушаняці і намаганняў каштавала падымаць рукі, зашпільваць гузікі. Асабліва не даваўся апошні, на каўнерыку,— выкоўзваўся і ніяк не лез у пятлю.

Катавалі дзяўчынку, пэўна, [redacted] аглядкаю, мяркуючы — можа, прыйдзецца каму-небудзь паказваць, і слядоў пабояў не астаўлялі. Але як затое яны выматалі яе! Як знясілілі!

Калі з адзяваннем было скончана, загадчыца ўчэпіста схапіла Ганначку за руку і, падвёўшы да Сяргея, перадала яму.

— Яна з азлобленых,— зморшчыла нос, пад якім натапырыліся прыгладжаныя вусікі.— Бяскарнасць разбэсціла гадаўку. Нат навучылася кусацца.

Цяпер самым важным стала — вывесці Ганначку з гэтага ўбогага пекла, пасадзіць у машыну і, пятляючы, дамчаць да бліжэйшых ад Балотнай станцыі руін. Нават абурэнне, абуджанае жорсткімі словамі вусатай, кранула толькі краёчак сэрца — яно адгукалася на адзін клопат — важнейшы.

— Вядзі,— загадаў ён Сяргею па-нямецку.

Руіны тут былі рыжыя, струхлелыя, быццам з цэглы-сырца. З цягам часу яны не падалі, а асядалі. На іх парос чартапалох, дрэўцы. Дажджы апошнімі днямі не праходзілі, дзьмуў вецер, і руіны курыліся. Як толькі за імі схавалася вуліца, здарылася нечаканае — Ганначка раптам абяссілела і, укленчыўшы, абхапіла Андрэевы ногі.

— Андрэйка, дарагі! — зайшлася ў плачы.

Адчуваючы, як павяло ўбок,— значыць, сястра, пазнала яго яшчэ там, у прытулку, здзіўлены — яна так па-дзіцячаму выказвала радасць. Андрэй разгубіўся. Ад замілаванасці, замяшання стала страшна. Малая Ганначка прыкідвалася, перамагала сябе, і ніхто з дарослых не падазраваў гэтага — не мог ні выкрыць, ні збіць яе з толку. Адкуль яна брала сілы? Што падтрымлівала іх? І што мусіла перажыць, каб стольказму навучыцца і столькі страціць!

Істота яго ўгадвала, чаго чакае ад яго таварыш. Дый самому хацелася апусціцца на калені і пацалаваць яе ў стрыжаную галоўку. Але нешта і не давала зрабіць гэтага.

— Ты маладзец, Ганначка! — сказаў ён з вінаватай усмешкаю.— Проста маладзец!

— Не-а,— адмоўна заківала галавою дзяўчынка.— Гэта мама маладзец! Бабуся казала, калі немцы кінуліся ў бакоўку, яна ім пад ногі ўпала. Ты, канечне, не ведаў пра гэта. Праўда?

— Залаты ты мой агадасік-карандасік! — захліпнуўся Андрэй.— Якія вы ў мяне ўсе...

Ён асекся. Вочы ў яго перасталі быць шчаслівымі, і ён перавёў іх на Сяргея. Але той, гуляючы бровамі, засмяяўся.

— Нічога, камандзір, хвалі, хвалі,— азваўся, падбіваючы чуб.— Як мага болей хвалі і шкадуй! Не думай, што гэта некага прынізіць або папсуе. Псуе бяздушнасць. Калі бачыш, што ты адзін...

Разумеючы — гэта адкрыты дакор, Андрэй, аднак, не знайшоўся што сказаць,— перад вачыма мільганулі цярплівыя матчыны вочы, Надзюшка, Васілёк... Няўжо сур'ёзна Сяргей хоча развярэдзіць раны? Чаго яму трэба яшчэ?

Як укараняецца, робіцца тваёй любоў? Мусіць, для гэтага неабходна, каб зерне яе прарастала на жыватворнай глебе? Каб натура чалавека была адкрыта перад ёй? Але ж бывае, што пачуццё заяўляе пра сябе насуперак яго волі. Можа абрынуцца як бяда. Дык як жа ж тады?..

Гітлераўцы абрушылі на горад новыя рэпрэсіі.

Ціхім вераснёўскім ранкам яны аблажылі горад, нібыта збіраліся браць яго зноў. На дарогах, ля мастоў, на ўскраінах лесу акапаліся цэлыя падраздзяленні. Сам жа горад быў разбіт на квадраты. І абшуквалі іх, ператрасаючы дом за домам. Некалькі вуліц тады абязлюдзелі зусім. У сіняве і золаце над горадам праплывала бабіна лета, а ён стагнаў, захліпаўся ў горы.

Сваё гора злівалася з людскім, і, пакутуючы, Андрэй сабраў членаў штаба — як заўсёды ў далёкім доміку, за Чэрвеньскім рынкам, на другім канцы горада. У адказ на страшны нечуваны гвалт рашылі арганізаваць групы знішчальнікаў-паляўнічых — заўтра ж.

Што ён адчуваў і думаў, калі з другімі пайшоў «адкрываць рахунак»?

Павуцінне ўначы не лётае. Не відаць і зіхатлівых фарбаў. Але неба было густа ўсыпана мігатлівымі, прыветлівымі зорамі, ядрана пахла сагрэтай за дзень зямлёю, і, калі прабіраліся да месца засады, мілая сэрцу пара́, якая расслабляе і бадзёрыць адначасова,

напамінала пра сябе кожны міг. І Андрэй, адкрыўшы гэтую раскошу, прагна ўбіраў яе ў сябе.

Месца аблюбавалі за абсерваторыяй — на Маскоўскай шашы. У кювеце. Побач узвышалася таўшчэзная гузаватая таполя, крона якой засланяла палову неба. Кювет укрывала апалае лісце, і добра было адчуваць яго рукамі, грудзьмі, удыхаць ягоны водар. Лажыліся задыханыя, узрушаныя, ды духмянае паветра, цёмная аграмадзіна таполі, усыпанае зорамі неба,— усё знаёмае і дарагое — зрабілі сваё: Андрэй і хлопцы паспакайнелі.

Аднак са спакоем у Андрэевай душы прачнулася — не, зноў паднялося, і тое шчымлівае, цёплае і страснае пачуццё, што цяпер жыло ў ім. Надзюшка, маці, бабуля!.. Прыгорбленай чарадою ва ўяўленні прайшлі пакутнікі з бязлюднай цяпер Беламорскай вуліцы. І як ніколі хацелася ўзяць іхнія пакуты на сябе.

Па шашы, мацаючы цемру жоўтымі промнямі, праходзілі калоны грузавікоў, бронетранспарцёры. Калі яны набліжаліся, спярша святлела неба, потым — далёкі ўзгорак, цераз які пераваливала шаша, і толькі тады — аспідная асфальтавая стужка, што пачынала звінець, як напятая струна — то басавіта, то тоненька. І, чакаючы машын-адзіночак, успамінаючы сваіх, знаходзячы нейкую сувязь ва ўласнай пазіцыі тады і цяпер, Андрэй знемагаў ад нецярпення.

Недзе пад поўнач з-за перавалу выбліснула пара калючых агнёў і, выцягнуўшыся, уміг набрала сляпучую сілу. Падумалася: во каб у гэтым «опелі» ці «мерседэсе» ехаў лабаты, які поркаў пальцам у Надзюшкін твар! Што б ён заспяваў, калі б месцы іх памяняліся?

Як толькі легкавушка параўнялася з засадаю, Андрэй, перамагаючы амаль непрытомны холад, шпурнуў гранату. Наткнуўшыся на пошуг агню, машына крутнулася, стала ўпоперак шашы і лягла на бок. Нехта сыпануў па ёй бранебойназапальваючымі, і там, тут, як пры ветры, па днішчы заскакалі агеньчыкі.

— Вось так! Пакуль што так!..— выкрыкнуў Андрэй. Але сэрца ў яго, як чакаў, не вырасла. Наадварот, заныла. Не цікавіла і хто ехаў у машыне.

У канцы кастрычніка крута пахаладала. З зямлі стала праступаць сівая шэрань, і адтавала адно к поў-

дню. Здавалася: руіны і тыя сівеюць, і толькі спакваля, пад сонцам, набываюць звычайны — руды з падпалінамі — колер. Дзейнічалі падпольшчыкі, зразумела, уначы. У Андрэя не было ні паліто, ні шаліка, ні шапкі, і холад даваўся ў знакі. Добра Сяргей падзяліўся сім-тым і сёе-тое раздабыў. І гэта ўсё па-свойму напаміняла пра родных — такія клопаты раней цалкам брала на сябе маці. А галоўнае — неяк вельмі востра адчувалася іх значэнне, цана. І зноў-такі страчанае праз напамінкі аб сабе — няхай і дробныя,— памагала ўсведамляць сутнасць таго непараўнальнага, што з днямі ўсё мацней асвятляла Андрэева жыццё.

Вобразы маці, Надзюшкі, бабулі, у якіх Андрэй цяпер як бы ўглядаўся і ў якіх кожны раз адкрываў новае, застаючыся канкрэтнымі, выраставалі ў вачах, нітаваліся з навакольным, пачыналі прамянець, аддаваць асаблівай — роднай цеплынёю. Калі дасюль іхнія клопаты аб ім здаваліся абавязкам, які наканавала ім жыццё і на якім яно трымалася, дык цяпер раптам адкрылася: так праяўлялася іхняя натура. Бо не жыццё прымушала іх так рабіць, а яны самі рабілі так, што іхнія клопаты станавіліся законам жыцця, вызначалі ягоную плынь — яны клапаціліся аб жыцці. Дый ворагі прызналі іх небяспечнымі, асудзілі на мукі і гэтым прыраўнівалі да ўдзельнікаў народнай вайны. Удзель-ні-каў, якіх гіне не менш, чым баевікоў.

На пасяджэнне штаба пайшлі ўтрох — Андрэй, падобны спрытам да Васілька, Міця Вырвіч, якога нядаўна каапталі ў члены штаба, і Сяргей. Трэба было перад святам падсумаваць, што зроблена, намеціць наступныя задачы. Але, крочачы з таварышамі, Андрэй зноў і зноў вяртаўся ў думках да маці, да сваіх. Яны як бы былі з ім.

— Як адзначым свята? — хаваючы хваляванне, спытаўся ён, калі мінулі Чэрвеньскі рынак, за пабеленым плотам якога чуліся тлум і піліканне губных гармонікаў.

Домік, што служыў прытулкам штабу, нічым не вылучаўся між другіх — як і яны, драўляны, урослы ў зямлю, з запушчаным палісаднікам і дваром, пасярод якога ўскінулася груша-дзічка. Звычайна Андрэй заходзіў сюды, перажываючы ўзрушанасць — тут

у тайніках хавалі пішучыя машынкі, паперу для лістовак, тут праводзілі нарады. Ды сёння яго ўзрушанасць была асаблівая — нібыта ішоў ён сюды гаварыць пра сваіх і шукаць паратунку іменна ім.

Перагнуўшыся цераз фортку, слухаючы таварышаў, Андрэй адсунуў засаўку і ўзбег на ганак. Аднак, калі ў сенцах бразгнуўшы тры разы клямкаю, ён адчыніў хатнія дзверы, адтуль шчапаючы падлогу і сцены, разанула чарга. Падумаўшы — стралялі для пастраху, пэўна, іначай чарга перарэзала б яго, Андрэй адскочыў за вушак і выхапіў з кішэняў пісталет, «эфку». Убачыў на залітым сонцам ганку спалатнелых Вырвіча з Сяргеем. І дзіўна — адчуў: ён быццам бы чакаў гэтага выпрабавання і яно неабходна яму, каб нешта выказаць, сцвердзіць.

Падаўшы таварышам знак: «Назад! Я прыкрываю!», не вытыркаючыся з-за вушака, Андрэй зубамі выцягнуў чаку з гранаты і кінуў яе ў дом. Аднак, калі выскачыў на ганак, здзівіўся другі раз: з рукі выпаў пісталет. Не зусім верачы — паранены, здаровай рукою падхапіў яго, і, папярэджаны думкаю,— небяспека цяпер пагражае з вокнаў, пульнуў у адно і ў другое акно.

З дома ўсё не стралялі, і яму ўдалося дабегчы да грушы. Але толькі Андрэй схаваўся за ёю, у камель, ля самых ног, ударылі кулі. Скеміўшы, як лепей яму стаць, ён прыпаў плячом да шурпатай кары. Перамагаючы боль, што пацёк к сэрцу ад параненай рукі, стрэліў з левай зноў — гэтым разам у акно, у якім не было ўжо шыб. І тут жа заўважыў: да брамкі, узняўшы ад рэзкага тармажэння пыл, падляцеў грузавік.

«Нічога, Андрэй,— заспакоіў сябе, адчуваючы, аднак, як млоснасць туманіць думкі.— Нічога... Праўда... Шкада вас, мама... Каму-каму, а самае вялікае гора — зноў вам з Надзюшкаю...»

# ОТ СКОНЧЫЦЦА ВАЙНА

*Апавяданне*

Станцыйная платформа і падлога ў вагоне былі на адным узроўні, але Анатоль замарудзіў — вагон быў набіты бітком. Канваір гіркнуў і поркнуў аўтаматам у спіну. Тыя што стаялі ў дзвярах, адхінуліся, і Анатоль, ледзь не ўпусціўшы брусочак атрыманага эрзацхлеба, ступіў у смярдзючую цеснату.

У ім кіпела раздражненне. Аж з той хвіліны, як вастраплечы сівы прафесар, якога ў лагеры ведалі ўсе, узяў пад руку бязважкую, тупую да навакольнага жонку і падаўся к душагубцы. Калі ж калона, у якую трапіў сам Анатоль, пацягнулася па вуліцах горада, туга і раздражненне проста душылі яго.

Адчуванне — іх таксама гоняць на знішчэнне, знікла: занадта вялікая была калона і невялікі канвой. Дый перш чым пастроіць і гнаць па вуліцах, ім загадалі здаць бялізну ў «вошабойку» і абдацца вадою ў лазні. Але думкі ўсё адно раіліся як перад вялікай бядою: былі то пра дом і маці — бездапаможную, вінаватую, якой была, калі, вярнуўшыся ўначы з-пад Астрашыцкага гарадка, ён пераступіў парог і вымушаны быў падняць угару скалелыя рукі; то пра пабоі ў кабінеце следчага і тлустых астрожных клапоў, што падалі аднекуль зверху; то пра таварышаў, якія недзе тут жа, у калоне, ледзь перасоўвалі ногі — і нельга было спыніцца на чым-небудзь адным.

Раздражнялі і сустрэчныя на тратуарах: «Астаюцца! Прыйдуць неўзабаве дамоў, да сваіх... Пачнуць рабіць, што захочацца. Аднак, нябось, і не падумаюць памагчы!.. А прафесар? Паказуха! Стары пазёр! Як і ўсе!» Пасля таго, як смерць перастала вісець над галавою, гэта асабліва абурала. Варушылася зайздрасць да варон, якія вадзілі ў небе карагоды, і памяць, што раптам стала датклівай, зноў падсоўвала карціны, як гадзінамі мёрз у натоўпе на заснежаным

лагерным двары, а пасля каманды «Па сваіх месцах — арш!» імчаў у «свой» барак, дзе абапал дзвярэй з палкамі чакалі ахоўнікі. І калі што трошачкі весяліла, дык гэта гудкі, якія далятталі ад чыгункі, нагадваючы аб нечым мірным, звязаным з харошым. Ды хіба яшчэ светленькі, нібыта памыты, дзянёк, што звычайна бывае напрадвесні.

Калі, злосна натужыўшыся, канваіры зачынілі дзверы, вагон ахапіла цемра. Яна сціснула людзей і трымала нейкі час, не даючы паварушыцца, загаварыць. Потым чуць парадзела, дыхнула хлоркаю, і людзі, як бы ачуўшыся, сталі шукаць спосабу сесці. Шмат хто, выцягнуўшы з-за пазухі атрыманую пайку, узяўся адшчыкваць крошкі. Міжволі падпарадкуючыся ім, зачаўкаў і Анатоль — хлеб з пілавіння здаваўся салодкім і да непрытомнасці гнаў сліну.

Дасюль ён не заўважаў холаду — усё было быццам не сваім. А тут адчуў у сабе азноб. Заўважыў: саграваючыся ад чужой цеплыні, ад таго, што еў, ён калоціцца. Каб прыдушыць ненасытную спакусу есці яшчэ, сплюшчыў павекі. Сагнуты ў тры пагібелі, з тварам, схаваным у далонях, паспрабаваў заснуць.

Як ён спаў? Колькі? Здавалася — вечнасць. Бо небыццё было цягучае і перарывістае адначасова. Яно не прыносіла палёгкі і, калі Анатоль на міг прачынаўся, яму рабілася яшчэ горш. Ад перастуку колаў, ад таго што побач надрыўна дыхалі, стагналі — нудзіла. І марнымі былі намаганні вызначыць, куды ідзе цягнік — наперад у чарнату ці назад, дзе, нягледзячы ні на што, ціхія світанні. Дзе асталіся дом, Ніна, маці!

— Толік? — пачулася ў адно з такіх імгненняў.

— Ён тут, начальнік,— кпліва адгукнуўся нехта з кутка і зайшоўся сухім кашлем.

Анатоль пазнаў абодвы галасы і кашаль. Значыць, зноў усе разам. Але слухаць Сяргея або Міхаля таксама не хацелася, хоць свядомасць і адзначыла: «А што ты зробіш? Усё роўна жыць жа з імі давядзецца... Жыць!»

Неяк побач з гэтым варухнулася іронія — адрасаваная тым, што трымалі яго ў холадзе і гібенні: «Няхай, няхай... Але ж управіліся ўгнаць тады грузавікі і перадаць боепрыпасы. Наце, выкусіце! Сяргей хоць і абгабляваны, але часам умее прыкмеціць. Вам прый-

шлося бегаць за намі, а не нам даганяць вас...» — Аднак, уявіўшы, як пад падлогаю, у снежным віры, круцяцца, шалеюць колы, зноў аддаўся смутку...

На чацвёртыя суткі на ціхім, пустынным паўстанку дзверы ў вагоне таргануліся. Завішчалі. Вынырнуўшы па грудзі як з-пад зямлі, у іх паказаўся ўхутаны, у акулярах, канваір.

— Gibt's Tote? — спытаўся. І, каб яго зразумелі, склаў на грудзях крыж-накрыж рукі, зрабіў посную фізіяномію.— Schmeiβe, Jan! Sofort alle Leichen raus! [1]

Малочныя клубы, што ўкаціліся ў вагон, прымусілі Анатоля аглядзецца. І пакуль зачыняліся дзверы, ён убачыў таварышаў — яны стаялі абняўшыся, паклаўшы падбародкі адзін аднаму на плечы.

— Чаго маўчыш? — не вызваляючыся з абдымкаў, здаля працягнуў яму руку Сяргей.

Яго, як і ўсіх, пастрыглі. І таму, што з-пад кучомкі не кучаравіўся чуб, а твар зарос, у бледным святле Сяргей выглядаў падобным на галалобага, з сінімі вачыма, абрэка. У Міхаля ж брудная тонкая шыя ледзь трымала вялікую, прыпляскаую на цемені галаву. Уразіла — і па спіне было відаць: мешкаваты, у пажаваных трантах, ён нядаўна быў сыты і катастрафічна, знячэўку схуднеў.

«Няўжо і я такі?» — самалюбіва жахнуўся Анатоль...

Крыху пасвабаднела. Пераступаючы цераз чужыя ногі, Сяргей прабраўся да яго. Агледзеўшыся, гукнуў Міхаля і папрасіў пасунуцца бліжэйшых.

— Будзем, андрэеўцы, варушыць мазгамі,— усмешліва сказаў.— Паслужым сабе. А? Спачатку няхай Міхаль на тваіх і маіх нагах паляжыць, а потым ты, Толя... Далібог, чэснае камсамольскае, будзе цяплей...

— Папіць бы! — не даслухаў яго Міхаль, але адразу пачаў, сапучы, ладкавацца на нагах у таварышаў.— Астачарцела ўсё. Лепей здохнуць бы ўжо!

Але Сяргей не даў яму заснуць.

— На жалезным каркасе, мабыць, асеў іней,— падказаў праз колькі хвілін. — Надыхалі. Во кацялок — наскрабі.

---

[1] Ёсць мёртвыя? Выкідай, Іван! Выкідай усе трупы! *(ням.)*

— Я? — здзівіўся Міхаль і раптам, абражаны,— яму прапануюць нешта рабіць, заенчыў: — Ай, ідзіце вы ўсе! І не сорамна? Вунь ад мяне што асталося!

Сяргей закрыў яму рот далоняй.

— Ціха. Не рві сабе і другім сэрца.

— А мне навошта рвуць? — распальваючыся, адкінуў яго руку Міхаль.— Скажаш — не рвуць? Вунь, калі грузіліся, і то кожны другому стараўся на ногі наступіць. Дай волю, і перагрызуць адзін аднаму горла. Не?.. А немцы?.. Якая трасца прымушае іх мучыць нас? Ну, скажы, камандзір!

— Якая? — заражаючыся ягонай уедлівасцю і адначасна злуючыся на яго за гэта, нечакана для самога сябе ўмяшаўся ў размову Анатоль.— Простая выгада. От якая! Хочуць, каб дзейнічаў натуральны адбор. Ім дужая скаціна трэба.

— О-о, не! — перапыніў і яго Сяргей.— Не-не! Гэта — словы. А прычына адна: яны — фашысты і не ўпраўляюцца зрабіць усяго, што намыслілі. Дый апетыт большы за сілу.

— Пачало-ося! Давайце, давайце, калі не надакучыла яшчэ! — затросся ў кашлі Міхаль.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Родная зямля і Польшча асталіся ззаду. Абапал пабегла зямля нямецкая. Здагадаліся пра гэта па барабанных ударах у сцены. Яшчэ там, у Мінску, звярнулі ўвагу — на вагонах накрэмзана: «Rusisch Banditen!» І вось знаходзяцца вернападданныя, якія паказваюць свой шчыры запал — кідаюць каменнямі ў цягнік. Але затое той пайшоў хутчэй. Канваіры апусцілі жалезнае вечка на закаваным акенцы. І ў начы Анатоль нечакана ўбачыў месяц — бадай што поўню. Месяц нырaў у мярэжныя перыстыя хмаркі і нёсся следам за цягнікам. Трывожным, родным абдало Анатоля. Падалося: гэта, пакінутае там, у цемры, выслала за ім ганца, каб напомніць аб сабе і быць яму спадарожнікам.

«Ну, што ж...— думаў Анатоль, намацваючы на левай руцэ вену і лічачы пульс.— Ну, што ж... там Ніна... Можа, і ўспамінаюць...»

На сёмыя суткі дзверы адчыніліся другі раз. Гуртам спусціўшы на зямлю адзервянелых мерцвякоў, паклалі іх, як дровы, ля вагона. Атрымалі загад самім выйсці з кацялкамі.

Хадзіць за гэты час развучыліся і да захлюпаных грузавікоў з тэрмасамі папляліся, сціскаючы лбы і хістаючыся. Міхаля ж прыйшлося трымаць пад рукі — ён ступаў, як спутаны.

Калі чарга атрымліваць баланду падышла да яго, ён раптам задрыжаў і роспачліва закаціў вочы. Але потым адштурхнуў ад сябе таварышаў і сарваў з галавы аблавухую шапку. Пацяшаючыся і гагочучы, вясёлы, ў белых нарукаўніках і фартуху немец зачэрпнуў поўны чарпак жаўтаватай, смярдзючай жыжкі і плюхнуў яе ў Міхалёву шапку бы ў прыгаршчы.

Вылупіўшы вочы на немца, а потым на Міхаля, які зацкавана прысеў непадалёк на шпалы і пачаў хлябтаць жыжку,— амаль людзі як людзі! — Анатоль, гідзячыся, адступіў убок. І ў час — знаёмы канваір у акулярах, які, каб не даць каму-небудзь ачуцца, спяшаўся і ўсіх падганяў, носцыкам паддаў Міхалю пад зад, і той, папярхнуўшыся, тыцнуўся тварам у прамазучаны жвір.

Падняцца ён ужо не здолеў, і назад яго павалок на плячах Сяргей. Стараючыся не глядзець на Анатоля, ён данёс небараку да вагона, прыўзняўся на пальчыкі і кульнуў на падлогу. Але не палез за ім, а адступіў ад дзвярэй і, унураны, упёрся лбом у сцяну вагона.

«І тут не ўрымсціцца,— непрыхільна падумаў Анатоль.— Навошта гэта яму цяпер? Дый Міхалю, мабыць, нічога ўжо не трэба. Бр-р-р...»

І напраўду, праз дзень, скрыгочучы зубамі, адводзячы калючыя, галодныя вочы ад схіленых над ім таварышаў, Міхаль сканаў. Ікнуў, пацягнуўся і пачаў камянець — спачатку твар, пасля грудзі, ногі, рукі. І разам з тым, як адыходзіў, ён, як здавалася, рабіўся для ўсіх абузаю — чужым, непатрэбным, які палохаў, замінаў жыць. І Анатолю ўжо зусім не верылася, што не так даўно ён сядзеў з ім у школе за адной партаю, разам хваляваўся на падпольных сходках, прымаў удзел у аперацыях. «Добра, што ўсяго гэтага не бачыць Ніна,— маркотна, трывожачыся, думаў ён.— Клапатлівая і непрымірымая ты мая! Можа, і сустрэнемся яшчэ...»

Калі, лёгшы на жывот, Анатоль спусціўся з вагона на палатно — перона тут не было таксама,— лінуў вясёлы дождж. І таму, што ліўся ён з празрыстых, пад-

свечаных сонечнымі праменнямі хмарак, і гэтак жа нечакана, як пачаўся, перастаў, ён здаўся па-незнаёмаму ласкавым. Гэткімі здаліся і чысценькая, пад чарапічным дахам, станцыя ўдалечыні, акуратныя прысады, цагляныя будачкі пры ёй. За кюветам, у леташняй, але абмытай ужо траве,— зыркія лужыны. А над галавою — шаўкавістае, крыху сінейшае за роднае, неба і цяплейшае, пэўна таму, што яго даўно не бачыў,— сонца.

Апошнія дні наогул адчувалася, як цяплее. Па словах, што далятаді з-за сцен на прыпынках, можна было здагадацца: Францыя. Сяргей нават рызыкнуў — спусціў у акенца на папружцы кацялок. І, калі выцягнуў назад, той аказаўся поўны вады...

Многія вагоны ўжо былі пустыя: жанчын — гэта падгледзеў праз акенца Сяргей — выгрузілі першымі і, не марудзячы, некуды пагналі. А вось мёртвымі не пацікавіліся зусім. Наадварот — загадалі пакінуць у вагонах. І самым страшным тут было: у цёмным загаджаным кутку заставаўся скарчанелы ў нязручнай позе Міхаль, і гідка было дакрануцца да самога сябе.

Таксама не па сабе рабілася ад таго, як, вылезшы з вагонаў пад каманду канваіраў, строіліся ўздоўж палатна мужчыны. У лахманах, атопках, пазеляне-лыя, бы нябожчыкі, яны няўклюдна тупалі як не на сваіх нагах і, каб захаваць раўнавагу, хапаліся адзін за аднаго. Ад іх бездапаможнасці канваіры шалелі — падазравалі падвохі, нежаданне рабіць, як было намечана імі. Відаць, і нелюдзям трэба часам пераканаць сябе ў нечым. А мо і напраўду адчувалі маўклівае, прытоенае супраціўленне...

Упарцячыся, але і баючыся адчужанасці, што пралягла паміж ім і Сяргеем, Анатоль пастараўся прыстроіцца да яго — ніколі не быў адзін ні ў школе, ні пасля. Дый Сяргей больш чым хто нёс у сабе тое, што асталося там, за краем свету, і нагадвала: а вайна ўсё-такі некалі кончыцца! Да таго ж усё сведчыла: у жыцці пачалася новая паласа, якая пазней будзе ў гаворках.

На шашы калону сустрэлі манашкі — нечаканыя, у чорна-белым адзенні і таму таямнічыя. Стоячы прыдамі на абочыне, замахалі рукамі, як крыламі, і ў калону паляцелі акрайцы хлеба, сушаная рыба.

— Sest p'our vons, Les Russes! Prenez — be! — падбадзёрвалі, прыцягваючы ўвагу канваіраў да сябе,— няхай злуюць на іх. Le Deiu est aux marturs, les Russes! [1]

Пад вечар калону ўпершыню кармілі пад паветкамі, за сталамі. На начлег загналі ў падобныя да ангараў баракі з гафрыраванай бляхі. Анатоля тэмпературыла, але на падлозе была салома, і ён, бахнуўшыся ў яе, праваліўся ў чарнату, з якой адно раз-пораз выступалі таямнічыя постаці манашак, а потым стала вярзціся страшнае — як гналі з горада грузавікі. Карбюратар, мусіць, пераліваў, і ў кабіне смярдзела бензінам. Сціскаючы абаранак, Сяргей знаў толькі дарогу ды машыны, што кацілі наперадзе, а ён, Анатоль, з пустымі рукамі і таму як бы безабаронны, душыўся ад смуроду, зіркаў то на бакі, то на люстэрка, дзе коса адбягала дарога, то, пакуль не скіравалі ў лес, адчыняў дзверцы і назіраў за белаватым небам, адкуль магла пагражаць не меншая небяспека — «кастыль»-разведчык... Анатоль сніў гэта і, перажываючы, адначасова, як часта і наяве, стараўся разгадаць, па якой гэта прычыне думка з манашак пераскочыла на прыгоду, што хоць і кончылася шчасліва, але стала апошняй у падпольным Анатолевым жыцці... Сон успамінаўся і назаўтра, пакуль дапляліся да наступнага лагера — большага, абгароджанага дротам у два рады, з вартаўнічымі вышкамі і драўлянымі баракамі, дзе пры дзвярах стаялі бочкі з вадою, а абапал праходу двухпавярховыя нары. «Тое ж самае, тое ж самае! — шкадаваў сябе Анатоль.— Хто наступны?..»

Раніцою паднялі зацемна. Далі папіць сурагатнага чаю з шэрым хлебам, пастроілі на двары. Лагер, як выявілася, туліўся паміж аднастайных, панылых узгоркаў. Пятляючы між іх, жаўцела пяшчаная дарога, якая пачыналася ад лагерных варот. Анатоль прасачыў за ёй — яна бегла да самага высокага ўзгорка і, вільнуўшы ля яго падножжа, узнімалася на вяршыню.

Калі ўзвалакліся туды, убачылі перад сабою расчышчаную пляцоўку, вузкакалейку з нязвыкла ма-

---

[1] Гэта, рускія, вам! Бярыце. Бог з пакутнікамі, рускія! *(франц.)*

ленькімі платформамі і вагонамі, зеленкаватыя ад цэментнага пылу складскія памяшканні. Ля круглага катлавана ў апалубках узвышалася бетонамяшалка, ад якой да катлавана ішлі дашчаныя тачачныя ходы. А ўдалечыні паблісквала водная гладзь — пустэльная, без суднаў і дымкоў — Ла-Манш.

Варочаючыся ўначы на нарах,— бяссонніца бывае і ад бяссілля,— чуючы, як раз-пораз хутаецца ў транты Сяргей, Анатоль стараўся пераканаць сябе: цяпер — гэта яго жыццё. І хоць усё тут чужое, мучае стома, тузаюць, баляць расціснутыя кулямі цэменту фурункулы на шыі, трэба спаць: што ён тут парадзіць сабе? І, калі забыццё прайшло, зноў узяўся за шуфель. Але той быў шырачэзны, не па сіле, і кожны раз, як Анатоль, размахнуўшыся, кідаў гравій у тачку, шуфель цягнуў яго за сабою, валіў на зямлю як п'янага. І было прыкра, бо аднекуль, бы ранішняя хмарка, што вось толькі паднялася з-за небасхілу, на ўсё глядзела Ніна.

Бяссілле, знямога і наяве ўзнімалі каламуць у душы. У галаве складаліся ўедлівыя сказы, якімі можна было пры пэўных акалічнасцях апраўдацца і паразіць Сяргея.

Неяк, робячы выгляд, што набірае шуфлем гравій, той пацікавіўся:

— Ты яшчэ не забыўся пра Мінск? Помніш, як прафесар, каб не трапіць сюды, пайшоў на смерць?

За арматуршчыкаў і цесляроў на будоўлі былі ў большасці французы — прыходзілі адбываць павіннасць з бліжэйшых ферм. Застаючыся самім сабою, Сяргей, які скрозь да ўсяго прыслухоўваўся і ўсё неяк стараўся скарыстаць, завёў з імі дружбу. Прыносіў ад іх цыгарэты, сухары, навіны. Нечаканыя зморшчыкі, што пралеглі на пераноссі, старылі яго, але невынішчальная настырнасць расла. І, здагадваючыся, куды той гне, Анатоль адпарыраваў:

— Ці пайшоў? — перапытаў уедліва.— Твой прафесар проста пазіраваў і спадзяваўся, што яго як славутасць павязуць не ў Трасцянец, а ў дом адпачынку. Папраўляйцеся, калі ласка, васпане!

Твар у Сяргея пабіла на яблычныя кругі.

Але над Ла-Маншам, у шызым блакіце, што быццам сцяна стаяў паблізу берага, паказаўся самалёт. Ракочучы маторамі, нацэліўся на дот. Ды, наблізіўшыся, нечакана лёг на крыло і, сыпануўшы кулямёт-

най чаргою, бокам падаўся ўздоўж узбярэжжа. І гэта памагло Сяргею ўзяць сябе ў рукі.

— Ты зняверыўся, Толя, горш, чым Міхаль перад смерцю,— сказаў ён стрымана.— Чэснае камсамольскае.

Аднак Анатоля ўжо цягнула ў прорву.

— Твой Міхаль таксама не зняверыўся, а аскаціneў! — выскаліўся ён, устаючы з зямлі і не спускаючы позірку з самалёта.— І наогул... я жраць во хачу! Мне пакуль што пра гэта думаць трэба!

— Хіба можна так пра нябожчыка?

— Ідзі ты!

— Ну, тады адкажы хоць. Няўжо, калі вайна скончыцца, гэтак жа адгаворвацца будзеш? «Што рабіў?» «Жраць хацеў!»

Пасварыліся яны перад нядзеляй, а ў панядзелак у немцаў знайшлася пільнейшая прарэха — лагернікаў паднялі па трывозе, спехам пасадзілі ў грузавікі і павезлі ў ноч.

Новая будоўля, відаць па ўсім, мела большае значэнне — работы на ёй былі механізаваны. Чыгуначная ветка ўваходзіла ў самую гару, дзе былі высечаны адсекі і прасторныя залы з нахіленымі выхаднымі люкамі. Бетон падаваўся сюды па металічных каленчатых трубах. Праўда, часамі ён застраваў. Прыходзілася біць па трубах кувалдамі, развінчваць калены. Але факт быў фактам. На столі і сценах тунеля гарэлі электрычныя агні, і праца ішла круглыя суткі.

Па начах над гарою, у бок Ла-Манша, выкідаючы вогненныя струмені, якія аж вагалі паветра, праносіліся беспілотныя самалёты. Казалі: тунель — для фаўснарадаў, што заменяць і гэта дзіва. Лагер тут размяшчаўся непадалёку ад гары, у гайку. Такімі хвілінамі ў ім таксама святлела, і барачныя шыбы паблісквалі, як ад блізкіх пажараў.

Хадзілі чуткі і пра небывалую зброю, якую гітлераўцы вынайшлі і збіраюцца неўзабаве ўжыць. Аднак і Анатоль пачынаў адчуваць: іх захліствае хада падзей. Нават самалёты-снарады і тыя з днямі радзей чыраць свае вогненныя трасы — англічане адкрылі спосаб перахопліваць іх над пралівам.

А ў першую майскую ноч — адтуль, дзе схавалася рыжае сонца і дагарэла зара — накаціўся цяжкі,

шчыльны гул. Наблізіўшыся, як непазбежнасць, абхапіў гару і, абрынуўшыся на яе, пашкуматаў цемру.

Заляскалі зеніткі. Праўда, запознена. Але хвалі гулу накатваліся адна за адной, і выбухі, ірвучы перапонкі, гулка разлягаліся па тунелі. Потым мігнуўшы, пагасла святло. Па адзін і другі канец тунеля сталі відаць прасветы — там нешта гарэла, і мігцелі ракеты-ліхтары. Неўзабаве скалануўся і сам тунель. Недалёкі адсек з нахіленым выхадным люкам нібы раздаўся ад успышкі. Тугое пыльнае паветра ўдарыла Анатолю ў рот, нос, вушы і, прыўзняўшы, кінула яго на сцяну.

Калі раніцою ён разам з другімі выбраўся вонкі і ўбачыў белы свет, яго ўразілі ржавыя каркасы згарэлых вагонаў на пакарэжаных рэйках і стужкі фальгі. Фальга паблісквала ўсюды: на чыгуначным палатне, на схілах гары, на пасечаных асколкамі кустах, што раслі на схілах,— немцы зноў адставалі!.. Не, уразіла і яшчэ адно — сярод рабочых не аказалася ні Сяргея, ні яго сябрукоў.

Куды яны зніклі? Навокал узгоркаватая, але адкрытая разлегласць. Пад бокам — шаша з рэдкімі бярозкамі на абочынах. Грозныя шчыты: «Achtung, Minen!», «Atlen tioni mines!» Панатыканыя, як дзяды, завостраныя калы́. І толькі ля гарызонта — раскіданыя фермы з садкамі. «Чужына!» Куды ты тут драпанеш? Дзе схаваешся? Ды, здаецца, ніхто, уцягнуты ў нявольніцкае жыццё, не рыхтаваўся да гэтага. Усе мірна раскладалі пасля работы касцёрчыкі наводшыбе ад баракаў — «вэндзілі» завашывелую бялізну, выразалі драўляныя лыжкі, майстравалі вядзерцы з кансервавых банак... Ды вось зніклі і, мабыць, назапасілі перад гэтым харчоў! І трэба было ў думках, не хочучы ні жыць, ні паміраць, лаяць Сяргея, апраўдвацца перад Нінаю, у нечым прысягаць ёй, бажыцца.

Калі Анатоля схапілі і кінулі ў карцар, ён адчуў і палёгку — да жыцця вяртаўся нейкі звыклы сэнс. Нават іранічна падумалася: смерць, пэўна, больш страшная таму, хто глядзіць на яе збоку.

Праўда, у карцары было адно акенца, і віднелася ў ім толькі неба. А гэтага вачам было мала. Ім трэба была зямля, штосьці прадметнае на ёй, на чым мог бы

спыніцца позірк, з чым непасрэдна або ўскосна ніталася б жыццё, і праз гадзіну рука Анатоля сама пацягнулася да каўнера расхрыстанай кашулі...

Гэта здарылася ўжо ў трэцім лагеры — вялізным, інтэрнацыянальным, з наладжаным побытам. Баракі ў ім рэгулярна дэзінфіцыраваліся смярдзючымі шашкамі, якія палілі ў тыглях; дзень графіўся з дакладнасцю да хвіліны, ежу выдавалі ў «харчовым блоку» з акенцаў. Затое тых, хто бавіўся пры пад'ёме ці блізка падыходзіў да калючай агароджы, прымушалі бегаць, скакаць; мерцвякоў тут хавала і абясшкоджвала бомбы запаволенага дзеяння пасля бамбёжак спецыяльная каманда ў драўляных калодках і паласатай арыштанцкай вопратцы.

Працаваць даводзілася пад зямлёю. Апрача наглядчыкаў і прарабаў па шахце расходжвалі эсэсаўцы — у гумавых плашчах, касках, з аўтаматамі. Але раз-пораз гарэла праводка, сыходзілі з рэек гружаныя стальнымі дзвярыма і плітамі ваганеткі, перарывалася груднoе вуркатанне бетонамяшалак. Дыверсіі сталі такімі частымі, што было не да разбораў — арыштоўвалі, хто трапляў пад руку, і ўсе намаганні аддавалі на тое, каб ліквідаваць аварыю. Ну і суд, расправа, натуральна, былі кароткія — на іх адпускаліся суткі-двое.

І вось на досвітку другога дня да Анатоля далянела глухое грукатанне.

Спачатку ён падумаў: гром. Але грымоты быццам пульсавалі — то набіралі сілу, то слабелі. Такога з навальніцаю быць не магло. Не магла гэта быць і бамбёжка — грымоты не змаўкалі і нібы клубіліся.

Пранікаючыся ўжо знаёмым адчуваннем — смерць страшна не таму, хто памірае, ён пачаў чакаць. І пакуль неба ў акенцы святлела, а пасля сінела, жыў адным: «От каб паспелі!..»

Калі ў акенцы пацямнела, шыбы яго затрымцелі ад рокату. Рокат апанаваў Анатоля, і ён стаў жыць ім. Праўда, да моманту, калі пасля страшэннага трэску, ачомаўшыся, з пылам і ўдушлівым смуродам не ўцягнуў у сябе свежасць.

Яна ўзбадзёрыла яго, памагла зарыентавацца, забыць пра рокат. Выбраўшыся з-пад цагляных глыб, Анатоль папоўз да агароджы. Пры чарговым выбуху ўгледзеў: з ім паўзуць яшчэ двое. Адзін — сусед па

барачных нарах, які ўражаў сваёй злосцю, што нават не давала яму шырока расплюшчыць вялікіх, як азёры, вачэй.

З адчуваннем — калючы дрот перашчыкваеш зубамі, а не кусачкамі, яны выбраліся з лагера. Ранячы калені, рукі, не адчуваючы болю, папаўзлі па камяністай зямлі, а потым — іржэўніку, збітыя з тропу: палі ўжо зжаты, прыбраны і, значыцца, лета канчаецца. Задыханыя, ушчэнт змучаныя, дапалі да аколіцы нейкага сяла. Кульнуўшыся цераз плот, трапілі ў сад і наткнуліся на пуньку, што раптоўна, як з-пад зямлі вырасла з цемры.

Душылі смага, стома. І гэта на хвіліну стала важнейшым, чым што. Шукаючы навобмацак, дзе б сесці і перадыхнуць, Анатоль выцяўся каленкаю аб бочку. Пузатую з кранам! Прынюхваючыся, усляпую намацаў над галавою нізку падвяленых яблык і, сарваўшы яе, стаў узахлёб піць халодны казытлівы сідр.

Паснулі яны ўсе трое п'янымі, на голым, як ток, доле. А калі разляпілі павекі, жахнуліся — у ледзь прычыненыя вароты глядзеў заліты сонцам сад. Над пунькаю ж, строчачы з скарастрэльных пушак, праносіліся штурмавікі.

Калі гаспадар пуні, параіўшы кінуць дручкі, правёў іх на пыльную вясковую плошчу, дзе пад клёнамі тоўпіліся пры танках англійскія салдаты, у Андрэя разбегліся вочы — усё здалося незвычайным,— ад танкаў да салдацкай вопраткі — колеру хакі, чуць неахайнай, але па-свойму франтаватай, з процьмаю кішэняў на штанах, куртках. І хоць развальвалася галава, з пахмелля ўсё ўспрымалася, як у свята.

А тут яшчэ, быццам спраўджваючы падзеі, цыбаты, па-добраму спакойны салдат прынёс мяснога супу. З перцам, з лаўровым лістам. Паказваючы пальцам на міскі, растлумачыў: суп можна есці, а потым правёў Анатоля і яго спадарожнікаў да трохвосевых грузавікоў-фур з слюдзянымі акенцамі ў брызенце.

Аднак неўзабаве сёе-тое як бы вярнулася з перажытага. Уначы затрыманых здалі ў лагер-загон з ненавісным калючым дротам і тупою людской таўханінаю. З цемені церусіў дождж. Дыхала блізкай вялікай вадою. Загон быў у бомбавых варонках, і, каб не мок-

нуць, прыйшлося шукаць прыбежышча ў адной з варонак і нацягваць атрыманыя байкавыя коўдры як тэнт. Хоць — не. Пасля зноў дало знаць новае. У загон трапілі палонныя немцы. І, калі іх пазналі па асцярожных прысутуленых постацях, ушчалася бойка. Кулачная, лютая, са стогнамі і мацяршчынаю — пакуль самалёт не павесіў над галовамі асляпляльныя ліхтары і лагерная ахова, адкрыўшы пальбу, не кінулася ў людскі вір...

Адчуванне — радзіма недзе блізка — і дасюль з'яўлялася ў Анатоля. Але цяпер яшчэ дадалося: яна не толькі блізка, а і падпірае як сіла. І няхай, пагрузіўшы яго і ягоных таварышаў у трум дэсантнай баржы, ім не сказалі, куды іх павязуць, няхай пры люках паставілі вартавых,— калі прышвартаваліся к прычалу па другі бок праліва, ім падалі *пасажырскія* вагоны! Няхай іх, лагерных бедалаг, зноў чакаў калючы дрот, палаткі і пляц, які пасля трох-чатырох пастраенняў стане, як бубен,— накармілі іх рысавым супам з пячонкаю, правялі медагляд, абяцалі адкрыць парыкмахерскую.

Праўда, праз тыдзень пасля чарговай санапрацоўкі, зноў быў выкінуты фортэль — ля палатак з грузавікоў скінулі цюкі дзіўнага абмундзіравання.

Падскокваючы на адной назе, Анатоль ужо нацягнуў падораныя штаны, калі ад суседняй палаткі даляцеў крык.

— Ты сюды паглядзі, на правую калашыну! І сюды — на спіну! — надрываўся абураны голас.— Бачыш? За каго яны прымаюць нас? За уркаў ці катаржнікаў?

Зірнуўшы на штаны, якія ён апранаў, Анатоль зразумеў, у чым справа, шпурнуў іх ад сябе і, на хаду нацягваючы старыя транты, выскачыў на двор.

Да цэнтра пляца, размахваючы над галавою атрыманай адзежаю, збягаліся людзі — шмат хто проставолосы, расхрыстаны, у сподніх кашулях.

— Га-а-а! — лунала над імі.

Зноў асянёны здагадкаю, Анатоль вярнуўся ў палатку, падабраў кінутую вопратку і пабег следам за ўсімі. Калі ён з хмяльной лютасцю шпурнуў яе ў кучу, як у агонь, ад камендатуры і казармы ўжо спяшаліся салдаты — разгрупоўваючыся, як на вучэнні, бралі пляц у клешчы.

— Forward, forward! — крочачы наперадзе ланцуга, камандаваў грудасты афіцэр.— Dan't be mitineers! L demond the order to be done! [1]

Натоўп шарахнуўся, пачаў адступаць да кучы вопраткі. Анатоль, адбіваючыся локцямі, упёрся і стаў — з упартасцю чалавека, у якога здзяйсняюцца яго спадзяванні, што жылі ў ім як бы падспудна. Падумалася пра Ніну, Сяргея. Захацелася, каб яны ўбачылі ягоную датычнасць да таго, што адбывалася наўкол.

Схамянуўся ён, калі побач спыніўся жылісты бледны хлопец з вялікімі, як азёры, вачыма.

— Без панікі, таварышы! — разляпіў той абсівераныя, парэпаныя да крыві губы.— Бубновы туз не памылка, а проба. Камбінатары думалі, што ўдача дасць ім магчымасць круціць намі, як захочацца. Але трасцы! — І, схапіўшы пад рукі Анатоля і пажылага, з ацёчным тварам мужчыну, які падвярнуўся з другога боку, заспяваў: — Паўста-ань, пракля-аццем скатава-аны!

Натоўп спыніўся, замёр. Аднак праз імгненне, як бы апрытомнеўшы, падхапіў «Інтэрнацыянал».

Наступнай раніцаю падзеі разгорталіся яшчэ імклівей. Захаваўшы прыняты парадак пры пад'ёме, пасля снедання ўсе раптам сыпанулі да камендатуры. А як дапалі да яе — ураз пастроіліся. Не бавячыся, з радоў выйшлі трое і нага ў нагу закрочылі да ганка. Услед ім ускінуліся воклічы. Крычалі кожны сабе. Скандавалі групамі, узнімаючы над галовамі сціснутыя кулакі.

— На радзі-іму!

— Мы па-тра-буем ад-праў-кі!

Не саромячыся — тое абрыдлае, што наліпла за страшныя, праклятыя месяцы, навідавоку ва ўсіх згарае на ім, забушаваў і Анатоль.

Ліверпуль сустрэў лагернікаў застаялым туманам. Караблі ля прычалаў акрэсліваліся няясна. Неба над імі вісела нізка. Туман, ірваныя хмары мяшаліся, і адно алавяная вада ды караблі памагалі вызначыць, дзе што,— хмары ўсё ж некуды сунуліся, а туман стаяў — шчыльны, золкі.

---

[1] Марш, марш! Не будзьце зачыншчыкамі! Я патрабую, каб загад быў выкананы! *(англ.)*

За час пагрузкі вопратка ў Анатоля набралася сырасці, пацяжэла. Ды сырасці і цяжару ён не адчуваў, хоць новаспечаных пасажыраў доўга разводзілі па каютах, а пасля паказвалі месца на палубе, куды бегчы пры трывозе, тлумачылі, як карыстацца выратавальнымі камізэлькамі і як запальваць на іх плячах электрычныя лямпачкі, калі апынешся ў вадзе. Цяпер гэта бадай што страціла сваё значэнне. Як і тое, што наперадзе — халодны марскі прасцяг, магчымыя сустрэчы з самалётамі і падводнымі лодкамі немцаў. Цешыў туман, дый выяўлялася: апрача пакутлівага — жыць або не жыць, ёсць яшчэ нешта і, можа, не менш важнае. Асабліва калі не за гарамі мірнае, дарагое, куды цябе цягне ступіць нанава.

У Баранцавым жа моры наваліўся шторм. Карабель раз-пораз правальваўся ў бездань, а туман як быў, так і быў. Наадварот — пагусцеўшы, ён схаваў канвойныя эсмінцы, чые сілуэты са скошанымі да кармы трубамі маячылі дасюль па борту. І толькі калі абагнулі Нарвегію, паўвостраў Рыбачы, пачало яснець. Яснасць, знячэўку прабіўшыся адтуль, дзе мусіла быць сонца, разлілася па небе і тут жа па вадзе.

Вырастаючы навідавоку, замільгалі чайкі. Прыцішыўшы ля караблёў лёт, падалі голас. Іх прарэзлівыя крыкі, як і трэба было чакаць, сталі прадвесцем — у зіхотным марыве белым казачным Страцім-Лебедзем з вады падняўся бераг. І няхай бы адразу за гэтай радаснай хвілінаю, Анатоля падпільноўвала чарговая бяда, яна не змяніла б нічога — ён ужо ведаў і такое,— чаму з-за свету людзі нават паміраць едуць на радзіму.

# АПОШНІ ГОД

*З успамінаў*

У мяне, як відаць, і ў многіх у той час, прыгоды-выпрабаванні найбольш прыпадалі на дарогу. Не на выкананне самога задання, а на тое, каб наблізіцца да яго. А можа, мне так проста здаецца, бо занадта многа дарог пройдзена, дый вартасць разведчыка прынята вымяраць колькасцю «выхадаў» у тыл ворага.

Гэтым разам нам давялося прызямліцца на выпадковым аэрадроме ў Пухавіцкіх лясах — далёка ад намечанай базы ў Лагойскім раёне. Справа ў тым, што калі мы падляцелі да расчышчанай для нас пляцоўкі, навокал яе неспадзявана разгарэўся бой, загаварылі мінамёты. Я кажу пра мінамёты, бо з зорнай вышыні ў цемры, якая панавала на зямлі, іх «работа» была відаць найлепш: жаўтаватыя, не дужа моцныя пошугі святла — стрэлы, і затым на нейкай адлегласці асляпляльныя рваныя плямы — выбухі.

Аднак дарога ў Лагойшчыну мела і харошае. У рукзаках у нас быў цукар. У лясах паспела маліна. І я ніколі, здаецца, не еў яе так уволю і такую духмяную, салодкую, як тады. А навакольная прыгажосць?!.

Нас перадавалі, як кажуць, з рук у рукі. У першай Мінскай брыгадзе я сустрэўся з даўнім добрым знаёмым — Валодзем Леўшыным, з якім пасябраваў яшчэ ў верасні сорак другога — калі ішоў на Міншчыну ўпершыню. Ён адгадаваў бародку, пасаліднеў і ўзначальваў ужо асобы аддзел брыгады. Начавалі мы з ім пад адкрытым небам, у ляшчэўніку, на калёсах, поўных духмянага сена. Глядзелі ў зорнае, шаўкавістае неба, успаміналі Дзвіну, агульных знаёмых. Неба як бы зыбалася, пульсавала, потым пачало падсвечвацца з усходу, а мы гаварылі — дзяліліся навінамі, перабіралі знаёмых. І помніцца — адкрылі: у вайны адметныя законы, і яна па-свойму растасоўвае людзей. Асабліва ў партызанскіх умовах, дзе лёгка выяўляць

здольнасці і заганы. У аднаго раптам выяўляецца талент партызанскага тактыка, і ён — зірк! — узначальвае ўжо штаб брыгады. А ў другога — гарачага, неўраўнаважанага, наадварот — пачынае распухаць самалюбства. І, паспрабаваўшы падначаліць сабе бліжэйшыя атрады, групы, ён дае волю сваім слабасцям і каціцца як з гары. Але, нягледзячы на тое, што ва ўсім гэтым хавалася нешта сумнае, нам з Леўшыным было радасна — нібыта само неба ўмешвалася ў жыццё і аднаўляла справядлівасць...

Каб трапіць на Лагойшчыну, трэба было перайсці цераз чыгунку і аўтамагістраль Мінск — Масква, з яе рухомымі пастамі, сакрэтамі, з магчымымі засадамі. Таму было вырашана зрабіць гэта, падзяліўшыся на групы. Першымі ў дарогу выправіліся маёр Хвясько, капітан Мельнікаў, лейтэнант Салдаценка і я. Распрацоўваючы план, «ішлі ад адваротнага» — наважылі перасякаць чыгунку і шашу ледзь не пад самай станцыяй Жодзіна, дзе немцы, па ўсім мяркуючы, чакалі парушэнняў найменш.

Ноч стаяла цёмная, густая. Нават здзіўляла, як у такой цемрадзі праваднік з мясцовых сялян не спыняецца, каб агледзіцца, не шукае абапал і наперадзе знаёмых арыенціраў. Яго ўпэўненасць падтрымлівала нас, і, не зважаючы на поўную паходную выкладку — на шыі аўтамат, цераз плячо плашч-палатка, на рэмені запасны дыск, «эфачкі», фінка, за спінаю рукзак з энзэ,— перадышак мы амаль не рабілі. Дый яшчэ адна акалічнасць падганяла нас: хмары магло разагнаць, і тады стане як удзень, бо была поўня.

Спыніліся мы толькі за ахоўнай сцяною елак, перад чыгуначным кюветам. Селі ланцужком, як ішлі, каб, аддыхаўшыся, прыслухацца да навакольных гукаў і перамахнуць цераз чыгуначнае палатно. Нічога падазронага не пачулі. Але здалося: небяспека таіцца іменна ў цішыні. Я сядзеў за праваднікам і адчуў: завагаўся і ён — у кожнага свая мяжа смеласці. Прыйшлося трошкі счакаць. Ды калі я паклаў праваднікy на плячо рукі і націснуў, ён не зрэагаваў на гэта. Адчуваючы — захваляваліся і ззаду, злуючыся ўжо, я лёганька штурхнуў яго ў спіну. Праваднік сядзеў на самым краі кювета, нервы ў яго былі напятыя, і ён паехаў па схіле на ягадзіцах. Я кінуўся следам.

Але да гукаў прыслухоўваліся не мы адны. Калі, перамахнуўшы чыгуначны пуць, не пачуўшы за сабой таварышаў, я залёг у процілеглым кювеце, між рэек вырасла цёмная постаць. Я зрабіў, што і трэба было зрабіць,— узяў яе на мушку. Але тут здарылася нечаканае — пачуўся тупат, трэск галінак: таварышы, ведаючы, што наперадзе аўтамагістраль, рашылі адыходзіць. Цёмная ж постаць рынулася да станцыі, але ўсё ж ускінула ўгору руку і стрэліла. Паказваючы, куды адыходзяць нашы, у неба ўзвілася ракета. Забахалі стрэлы.

Вярнуцца да сваіх або нечым памагчы ім не было як. Я выбраўся з кювета і, прыкрыўшы далоняй вочы, пралез праз калючыя елкі. А калі пралез, раптам убачыў чалавека, які памкнуўся да мяне. Я схапіўся за фінку.

— Свае! — паспеў прашаптаць чалавек.

Гэта было дарэчы... Праўда, у мяне ўкаранілася прывычка, і я перад паходам засякаў азімут — напрамак, у якім трэба ісці. Але наперадзе ляжала аўтамагістраль!

Перад намі распасціраўся поплаў. Злева цямнеў хмызняк.

— Ён далёка цягнецца? — схіліўшыся да вуха праваdніка, спытаўся я.

— Да самай шашы і далей,— як здалося, радасна адказаў той.

— Тады пойдзем поплавам...

Навокал пасвятлела. Поплаў,— мусіць, пала раса,— засвяціўся. Як бы бліжэйшы стаў хмызняк. Сям-там стала можна распазнаць белыя ствалы бярозак.

Неўзабаве мы ўбачылі аўтастраду — аспідную палосу, за якой пачыналася гусцейшая цемра. Па прасветлінах у хмарах зрабілася відаць: яны не навіслі над зямлёй, а некуды плывуць, спяшаюцца, і там, за імі, многа святла.

Страляніна ззаду сціхла, але ішлі мы, прыгінаючыся, лажыліся і таму першыя заўважылі немцаў. Двое, пэўна, паставых, выйшаўшы з хмызняку, паволі падаліся абочынаю магістралі.

Тузануўшы праваdніка за крысо, я ўпаў на зямлю.

Колькі мы ляжалі? Нямнога. Але за гэты час па магістралі пракаціў бранявік. Лязгаючы гусеніцамі, прайшла танкетка, а пасля зніклі і паставыя — расталі

ў імглістай цемры. Ад таго, як мы перабягалі асфальт шашы, асталося толькі адчуванне — бегчы даводзілася па нечым гарачым.

На ўзлеску праваднік здаўся зусім: пачаў прасіцца дамоў — там дзеці, жонка. Хутар яго непадалёк ад станцыі, нахопіцца чыгуначная ахова, як апраўдаецца жонка, дзе гаспадар. Асабліва пасля такой мітрэнгі.

Іншай рады не было — успомніліся Урал, уласная жонка, сын, з якімі нядаўна бачыўся,— і я, распытаўшы пра дарогу да бліжэйшай лясной вёскі, адпусціў праваднікa.

З хмар выплыў месяц — ясны, быццам начышчаны мядзяк. Цемра з дарогі адступіла ў прыдарожныя кусты, у чашчобу, адкуль патыхала грыбнымі, прэлымі пахамі.

Жнівень — месяц зарніц, лясной цішыні. Нават удзень і то рэдка можна пачуць хіба што трывожнае цвырканне дразда або дзятла. Уначы ж лес замірае — сам як бы прыслухоўваецца да нечага. І ў гэтай цішы душою адчуваеш, як выспявае, множыцца і набірае сілы жыццё. Паспелі буякі, ажына, парэчкі, брусніцы. Зачырванелі гронкі рабіны. З кустоў і дрэў з парашуцікамі, ветразямі, учэпістымі калючкамі, з пушком і паплаўкамі сеецца насенне. Трэці прыплод прывяла зайчыха. Па расе — на золку і перад захадам сонца — кормяцца вывадкі дзікіх курэй, якія днююць у густых хмызняках і, калі горача, купаюцца ў разагрэтым пяску. Услед за качкаю-гогалем з дуплаў на зямлю спусціліся яе дзеці, падраслі на роўнядзі пасвятлелых вод крыжанкі. На добрых кармах набіраюцца моцы буслы, кнігаўкі. І, як увасабленне жніўня, высока ўзняў галаву залаты сланечнік.

Я ішоў адзін сярод бору, прыслухоўваўся да яго цішыні і хваляваўся за таварышаў — ці не здарылася бяда? Што яны думаюць там пра мяне? І было непамысна, што гэта адбываецца ў зарнічны жыццядайны жнівень, што там, куды паказваў азімут, пачынае чырванець неба — значыць, загарэлася вёска або лес.

Урал, помніцца, уразіў мяне сваёй суровай будзённасцю. Ды яшчэ хіба тым, што ў гарадах не было светамаскіроўкі. Узяць білет на Казань не ўдалося, і я

паехаў акружной дарогаю — на Перм — Свярдлоўск. Вайна, вядома, адчувалася і тут — насустрач імчалі эшалоны з танкамі, з салдатамі, з зачахлёнымі гарматамі. На станцыях таўкатня, у кожнага кацялок — або ў руцэ, або прывязаны да пояса. І ўсюды шынялі, вінтоўкі, рыжыя пудовыя чаравікі — ваенны абутак салдат або горкія іх неданоскі.

Праўда, Свярдлоўск сустрэў цюбецейкамі, стракатымі азіяцкімі халатамі. Панурыя, як бы высечаныя з дрэва, людзі сядзелі і напаўляжалі прама на бруку прывакзальнай плошчы, не стараючыся прыладзіцца хоць бы куды да плота ці сцяны будынка. Хто яны? Куды, навошта едуць?.. А потым, калі не лічыць прыстанцыйнага бярозавага гайку ў Краснаўфімску — чыстага, запаветнага, зноў будзёнасць — гразкія, з глыбокімі каляінамі дарогі. Самотныя касілкі, веялкі на сядзібах МТС, ба́кі з гаручым сярод гразі, расквашанай коламі аўтамашын.

Я ехаў сюды да любімых і хацеў любіць усё ў тым кутку, што прытуліў іх. Хацеў і не мог, пакуль не прыпаў плечуком да шызага валуна на бурым гарыстым беразе Іргінкі, за якой, таксама на схіле гары, перада мной адкрыўся пасёлак — камяніцы, дамы, прысадзістыя ўжо таму, што стаяць на махіне, гледзячы на якую, не заўважаеш неба. Гэта было раніцою. Над быстрай Іргінкаю плыў туман. Ніжнія вуліцы ахінала смуга. Дзьмула халадком. А вось вышэй гару і дамы на ёй залівала прамяністае сонца. І было нешта магутнае, спрадвечнае ў гэтай карціне — такое, што сэрца маё ўздрыганула і раскрылася, прымаючы бачанае ў сябе як дарагое, патрэбнае.

Я спусціўся да Іргінкі, чакаючы абавязковага цуду. У грудзях жыло нейкае складанае пачуццё — нецярплівая радасць, трывога, беспрадметная рэўнасць. Іргінка пад мостам цурчала, плёскалася. І гэта цурчанне, плёскат здаліся мне такімі мілагучнымі, што захацелася паслухаць іх. Але раптам увагу ўзяло іншае — дзіцячыя галасы, што ішлі з недалёкай камяніцы. Камяніца гула — як вулей.

Папраўіўшы шапку, лямкі ад рукзака, упэўнены: сын таксама тут! — я звярнуў да высокага ганка і ўзбег на яго.

У пярэдняй, за столікам сядзела кучаравая выхавацелька ў белым. Кінуўшы пісаць, яна перасмыкну-

лася і спалохана ўтаропілася на мяне пакруглелымі вачыма.

Што яе магло спалохаць? Мае брудныя боты, шынель, шапка-вушанка? А мо мая ўзрушанасць? Нешта знаёмае, што ўбачыла яна ва мне? Чужая, рэдкая тут радасць? Свая бяда, якую я нагадаў?

— У вас ёсць Вова Карпаў? — паспешліва спытаўся я, каб не мучыць яе страхам.

— Вовачка?..— выдыхнула яна.— Вова?.. Зараз!..

Праз колькі хвілін я ўжо нёс сына на плячы, а ён, збянтэжаны, усхваляваны, не матляючы нават ножкамі, паказваў мне, куды ісці.

— Мы з мамкай на Вежы жывём! Вы-ысо-ока! — шчабятаў, захліпаючыся ад наплыву пачуццяў.— У бабкі Фаціннi! Во! Яна справядлівая. Як убачыла, калі нас прывезлі, так і ўзяла з канцылярыі. Адну ноч толькі і перабылі там на падлозе!..

Калі мы амаль падняліся на Вежу, нас дагнала жонка. Задыханая, бледная, ашчарэпіла абодвух рукамі і бяссільна абвісла. Я падтрымаў яе вольнай рукою. Але павітацца і сказаць што-небудзь таксама не здолеў. Гэтак у нейкім пакутлівым, салодкім чадзе, мы прастаялі, можа, з хвіліну.

Жонка ачулася першая. Як і ўсякая жанчына-клапатуха, акінула мяне позіркам з ног да галавы, правяла далоняй па зарослай шчацэ.

— Я ніколі не бачыла цябе з такой шчэццю,— роспачліва пашкадавала і раптам пацягнулася да губы.— А гэта што? Параніліі?

— Кранула, калі вяртаўся з Мінска...

Па твары ў яе пацяклі слёзы. Не, яна не скрывілася, твар астаўся прасветлена-здзіўлены, але яна заплакала.

— Ты, Валодзя, калі што-якое не сярдуй на гаспадыню. Яна, разумееш, з тых, хто гаворыць, што думае... Парадак у яе непарушны. Курыць нельга. Падлога палавікамі засланая. У святліцу ніхто з староннiх не смее ступаць, як у алтар...

— Мо і з конавак розных п'яце? — усміхнуўся я, хоць мне зусім было не да смеху.

Праз дашчаную брамку мы ўвайшлі ў двор, забудаваны сарайчыкамі, клецямі, хляўкамі. На высокім старанна выскрабленым ганку разуліся, надзелі малаліцы,— старыя атопкі.

Фацiння — мажная яшчэ бабка, з чыстым, уладарным тварам — сустрэла нас з годнасцю. Агледзеўшы мяне, потым — разгубленую паружавелую жонку, шчаслiвага сына, неспадзеўкi пасвятлела, ступiла да створкавых дзвярэй у запаветную палавiну.

— Спаць там будзеце. Для цябе не шкада,— тыцнула яна ў мяне пальцам i расчынiла дзверы, як залатую браму.— Здымай транты ды памыйся. А ты, Мар'я, тым часам самавар пастаў. Што я надоечы, паваражыўшы, казала табе!..

Пабеглi сумятлiвыя, радасныя днi, за якiя не адбылося нiчога значнага, але якiя асталiся ў памяцi дасюль i, значыць, былi вельмi важныя для нас.

Харчы я атрымаў у Падольску, пад Масквою, сухiм пайком i дарогаю эканомiў iх. Добрыя людзi памаглi мне «прымацавацца» ў Iргiнску да сталоўкi, атрымаць харчовыя карткi. Перад Першым маем з раённага цэнтра прыслалi пасылку — баранiны, гарэлкi, круп, цукру: партызан на Урале — дзiва... Так што бедным ласункам пачалi ўжо здавацца вялёнкi i сушонкi з неўбранага калгаснiкамi, прыхопленага марозцам турнэпсу, якi позняй восенню ўправiлася накапаць жонка ў полi.

На радасць Фацiннi я дамогся, i нам адклеймавалi на блiжэйшай гары некалькi сосен. Снег у лесе бадай што сышоў, патыхала прыгрэтай зямлёю, мокрай карою, хвояй. Гара аказалася крутою, i здавалася, што дрэвы нахiлiлiся — не стаяць, а ўзбiраюцца па яе адхоне. Але, купаючыся ў сонцы, у свежых павевах ветру, адчуваюць сябе добра — iм не цяжка i так. Хораша было за працаю i нам.

У пойме Iргiнкi жонцы адвялi агарод. Узброiўшыся лапатамi, мы ўзялiся i за яго. Зямля была глейкая, ссохлая, аж патрэскалася, i камлыгi яе прыходзiлася разбiваць рубам лапаты. Аднак, як потым пiсала жонка, бульба i памiдоры ўрадзiлiся надзiва. Праўда, вазiць гэтае багацце на Вежу прыйшлося на двухколцы— цягнуць, упрагаючыся ў яе, як худоба, або пхаць перад сабою, збiваючы, калi аступалася, каленi аб скальнае каменне.

Не зусiм пашанцавала i з дровамi. Выпрасiўшы ў зазiмкi каня ў калгасе, жонка з сынам паехалi пасля трэцяй школьнай змены ў лес. Смяялiся, радавалiся марозцу, сiняватай снежнай белi, i калi ехалi туды, i

калі вярталіся назад, спускаючыся з гары. Лядашчы, махнаногі конік нават бег трухам. А вось калі сталі падымацца на Вежу, парвалася супоня. Цямнела. На вуліцы пуста, ні душы. Жонка зняла панчохі і звязала імі клешчы. Але конік, беручы з апошніх сіл, пачаў кідацца на бакі і перакуліў воз. Акалелымі, непаслухмянымі рукамі жонка ўзялася парадкаваць дровы. Ды, калі ўпарадкавала, зноў падвяла змардаваная жывёліна — кучаравая ад поту, заінелая на марозе, ужо не магла крануць сані з месца. Прыйшлося аднесці сына дамоў, а потым поначы на сабе цягаць вялікія мятровыя плашкі на Вежу, складаць у шурку. І можна ўявіць, чаго каштавала гэтае самакатаванне знясіленай галоднай жанчыне, якая не ведала, калі адпачывала!..

Аднак пісала яна мне пра ліхія здарэнні з усмешкаю, пакепліваючы з сябе, з сваёй планіды... Нават тут жа расказала, як улетку хадзілі яны ў ягады і натрапілі на палянку. «Уся спрэс чырвоная, і ступіць няма куды. Так што за якую гадзіну, паверыш, і наеліся да адвалу і назбіралі цэлую вялікую бляшанку з-пад каўбасы, што прыслала нам тваё начальства фельдпоштай...» — пісала яна мне ў Падольск, дзе я жыў перад палётам у тыл ворага.

Ды ўсё гэта было пазней, а пакуль на бязвоблачным небе свяціла і пякло сляпучае сонца. Яно кацілася над гарамі, і таму з поймы здавалася надта высокім, недаступным, мала ласкавым. Расчырванелая ад работы жонка загарэла ўраз, ажно стала аддзяляцца зацянёная хусткаю палоса на лбе. Непадалёк ад нас гуляў сын — прымушаў божую кароўку ўзляцець з пальца.

— Кароўка, кароўка, узляці! — маліў ён.

Я глядзеў на сына, на жонку, і сэрца маё агортвала мірнае шчасце. Хіба не радасць, што чалавеку, якога ты любіш, не трэба будзе ўжо сляпіцца вечарамі, вышываючы чужыя кофтачкі і камбінашкі, каб атрымаць абцятыя бульбіны, з якіх зрэзалі для пасадкі вочкі-парасткі?.. Многа і мала трэба чалавеку ў час усенародных бедстваў.

Неўзабаве пашэнціла і астатнім маім таварышам — яны пераехалі чыгунку і магістраль у возе сена. Удзень. Другая палова групы — наш камандзір падпалкоўнік Юрын, яго намеснік маёр Бобылеў, старшы лейтэнант Амелькін і разведчык Уладзімір Конанаў —

пераадолелі злашчасную перашкоду пад грымоты бою, што завязалі, каб адцягнуць увагу чыгуначнай аховы, пад станцыяй Жодзіна партызаны. Радысткі ж — Лена і Маруся, апранутыя пад вясковых дзяўчат, з сярпамі на плячах, перайшлі чыгунку прама па пераездзе, непадалёк ад семафора. Вяла іх тутэйшая кабета, а падстрахоўваў баявік Пятро Дзеравянка, якога мы ўзялі ў Першай Мінскай брыгадзе.

Украінец, уцякач з лагера ваеннапалонных, хлопец-душа, ён заваяваў нашу павагу. Яго меткасць проста захапляла. Ён сходу мог трапіць у вераб'я, у падкінуты камень. Без промаху страляў на шум. Жыло ў ім набытае і ў лагеры — нейкая глухая зацятасць, і, калі выпадала вольная хвіліна, Пятро выцягваў з рукзака брусок і пачынаў тачыць цясак. Тачыў моўчкі, старанна, раз-пораз правяраючы, ці пераразаецца прыстаўлены да ляза валасок, калі на яго дзьмухнуць.

Сабранасць памагла яму і гэтым разам. Рабы, камлюкаваты, у ніжняй кашулі, з качаном капусты пад рукою, ён выклікаў падазрэнне патрульных, якія якраз стаялі тады на пераездзе. Але, калі яго спынілі, ён, даючы радысткам адысці як мага далей, з самым сур'ёзным выглядам пачаў пратэставаць, паказваць пальцам у напрамку недалёкага хутара, дзе, як казаў, жыў. А калі яму ўсё-такі загадалі ісці па шпалах на станцыю, Пятро, пераканаўшыся — радысткі набліжаюцца да лесу, выхапіў з-за пояса наган і ўлажыў канваіраў. Ды вось зацятая нянавісць і партызанская закваска! На станцыі ўсчалася пальба. Да пераезда на стрэлы кінуліся салдаты. І ўсё-такі сігануў ён толькі тады, калі зняў з забітых патранташы, падперазаўся імі і падабраў вінтоўкі...

Сышліся мы ўсе ў лагеры партызанскай брыгады «Смерць фашызму», адкуль ужо і падаліся на Лагойшчыну. Але ўсё-такі мы, пэўна, трапілі ў поле зроку абвера. І варта было нам асталявацца ў невялікай лясной вёсцы — Паўляняты, правесці некалькі радыёсеансаў з Масквою, як наляцелі «юнкерсы» і абрынулі на ціхую вёску грымотныя бомбы.

Для маіх таварышаў і мяне надышла пара нейкіх не зусім ваенных клопатаў. Шукалі вёску — Бабры, Радзькавічы, Сярпішчына,— дзе б як след атабарыцца. Падбіралі людзей — у групу прыйшлі мае сябры па Мінску: Грыша Страшко, Іван Луцкі, Якаў Шымано-

віч. Вывучалі шляхі і спосабы пранікнення ў Мінск, падбіралі дзяўчат-сувязных, явачныя кватэры ў самім горадзе. Падпольны райком замацаваў за намі вёску Сліжына, і давялося прызначаць туды каменданта, ствараць гаспадарчы ўзвод.

Дый самі радасці нагадвалі нейкія ваенна-мірныя. У верасні Масква павіншавала радыёграмаю Амелькіна і мяне з урадавай узнагародаю — ордэнам Чырвонай Зоркі. Некаторых з нашых павысілі ў званні. Прыйшлі пісьмы ад родных.

Вёска Радзькавічы — тыпова Лагойская: адна вуліца, блізкі лес, камяністае поле навокал, пасярэдзіне могілкі на парослым хмызняком узгорку. Пасяліліся мы ўтрох — Валодзя Конанаў, Салдаценка і я — у адной з лепшых хат Радзькавіч — на дзве палавіны, з вазонамі на вокнах.

Найбольш я зблізіўся і пасябраваў з Уладзімірам Конанавым, таксама віцеблянінам. Праўда, цяжка сказаць — чаму? Ён на дзесяць гадоў быў маладзейшы за мяне. Яму спрыяў камандзір, які да мяне ставіўся афіцыйна... Але ў гэтым хлопцы падкупляла ўраўнаважанасць, чысціня натуры — адкрыты прыгожы твар, шэрыя вочы, якія молада і насмешліва паблісквалі, крутыя атлетычныя плечы, падцягнутая стройнасць. Рухі ў яго былі акруглыя, упэўненыя, за імі ўгадваліся сіла, спрыт. Ён, як і Дзеравянка, выдатна страляў, ведаў прыёмы самба, прыкархнуўшы на прывале, мог суткамі не спаць. І яшчэ. Ёсць маладыя людзі, на якіх ляжыць водбліск матчынай любві і турбот. Цёзка належаў да іх. Нават вайна, што перапыніла яго вучобу і сама стала ягонай школаю, не пагасіла гэты водбліск.

За ім ужо быў подзвіг. Вайна, не ў прыклад некаторым, якія любілі погалас, катавасіі, спрактыкавала Валодзю Конанава, зрабіла цвярозым у рашэннях. Калі цяперашні наш камандзір, а тады начальнік Віцебскай аператыўна-чакісцкай групы, дазволіў яму выбіраць сабе паплечнікаў — каго і колькі заўгодна — ён назваў усяго аднаго — Івана Наўдзюнаса. І не памыліўся — з ім яны двойчы пабывалі ў пекле. Раз пад Пудаццю, калі немцы ліквідавалі Віцебскія вароты, і раз — на нейтральнай паласе, на якой, уцякаючы ад пагоні, пятлялі да таго раз'юшаныя, што калі на мушку аўтамата трапляў гітлеравец, думалася: «Пальнуць бы па жываце, няхай памучыцца!» І гэта ў дваццаць год!

Заданне было бескампраміснае, павучальнае — знішчыць Аляксандра Бранта — шпіка з даваенным стажам, якога паставілі ўзначальваць брудную газетку «Новы шлях».

Гаспадары ахоўвалі яго як свайго і па крыві і па хаўрусе. Дый ён сам ведаў, чыё жэр сала. Так што падступіцца да яго можна было хіба раніцою, на пустым Пралетарскім бульвары, калі Брант, як бы шпацыруючы, кіраваўся на работу ў супраўджэнні паліцаяў.

І вось зноў!.. Незвычайны, гераічны быў не так ажыццёўлены скрупулёзна па плану акт пакарання, як тое, што паследавала за ім. Адстрэльваючыся і шукаючы паратунку, хлопцы не беглі, а ляцелі на крылах. Бралі ■ ходу пагарэлішчы, платы, зацягнутую лядком Віцьбу, Суражскую шашу з засушканымі вартавымі, прыпарошаны сняжком лясок, Заходнюю Дзвіну... Ці не замнога для простых смертных, узброеных аднымі пісталетамі ды гранатамі? Праўда, калі пераправўляліся на лодцы цераз Дзвіну, іх прыкрылі партызаны. Але ж гэта здарылася бадай што ўжо тады, калі можна было сказаць: шукай ветру ў полі...

Наша група насіла назву «Мсціўцы», і хоць задачаю яе была разведка і контрразведка, мы ў той жа час павінны былі шукаць спосабы пакарання Вільгельма Кубэ, па чыёй віне ліліся рэкі крыві. Аднак, калі сілы былі расстаўлены, нас нечакана апярэдзіла партызанская група «Дзімы», чые сувязныя — Марыя Барысаўна Осіпава і Алена Рыгораўна Мазанік — выканалі прысуд над ваенным злачынцам. Перад намі паўстала новая задача — павесці работу супроць заступніка Кубэ — генерал-маёра паліцыі, брыгадэнфюрэра СС фон Годберга і адначасова — беларускіх нацыяналістаў, якія пры пэўных акалічнасцях маглі аблегчыць выкананне асноўнай задачы.

Тумашаў, Гадлеўскіх, Іваноўскіх, Ермачэнкаў, Казлоўскіх гітлераўцы прывезлі ў абозе. Некаторыя з іх, адчуўшы здабычу, з'явіліся ў захоплены Мінск самі — калі ласка, нанімаемся. Захмялелыя ад перамог, гітлераўцы прынялі іх не надта гасцінна, хоць паслугі і скарысталі. Давайце ствараеце пакуль што ўправы, уціраецеся ў давер'е да акупаванага насельніцтва, памагаеце чмурыць яго, сварыць з мінулым. Але разам з тым як гітлераўскія армады сталі цярпець паражэн-

не на фронце, пачала расці і стаўка гітлераўцаў на добраахвотных халуёў. Дый выразней станавілася відаць нікчэмнасць спадзяванняў тэрорам і беспардоннай хлуснёй зрабіць савецкіх людзей паслухмянымі.

Каб атруціць іх ядам нацыяналізму, гітлераўцы стварылі мёртва народжаныя «Беларускую народную самапомач», «прафсаюзы», «Раду даверу», «Саюз беларускай моладзі», «Беларускае культурнае згуртаванне», узяліся выдаваць часопісы, газеты.

Дасюль мне не выпадала сутыкацца з «жывымі нацыяналістамі». Мае адносіны да іх вызначала наша вуснае і друкаванае слова. Засвоенае, яно было procіяддзем ад усякага заалагічнага пачуцця. Прабыванне ў акупаваным Мінску, дакументы, з якімі я пазнаёміўся там, гарачыя сведчанні Алеся Матусевіча, які пабываў у нацыяналістычных колах, як бы нанава раскрылі мне *палітычную* сутнасць нацыяналістаў і іхнюю *чалавечую* вартасць.

Прыйшла яснасць: спекулянт — наогул стварэнне паскуднае. Планы свае ён будуе на карыслівых разліках. Прадумоваю яго поспехаў з'яўляецца чужое няшчасце. Гэта — мяняла, ігрок, паразіт. Дык што ж гаварыць тады пра спекулянтаў святым, якія спекулююць адданасцю Бацькаўшчыне, любоўю да роднага, свайго з дзяцінства. Высокія, святыя пачуцці яны скарыстоўваюць на тое, каб распаліць нянавісць паміж людзьмі. Іхняя мэта — калатня, усеагульная варожасць, кроў. І ўжо таму яны не могуць аставацца шчырымі, чыстымі, ідэйнымі.

Так яны сталі для мяне жывым увасабленнем самага злога, нялюдскага.

За кароткі час нам удалося арганізаваць і правесці супроць іх дзве аперацыі, якія ўзрушылі мяне дзелавітай няўхільнасцю.

Нам была падпарадкавана спецгрупа «Суседзі», што дыслацыравалася ў небагатай, раскіданай вёсачцы на славутай Лысай Гары, дзе, дарэчы, мы таксама прымалі сувязных з Мінска і адкуль накіроўвалі сваіх пасланцоў у Мінск.

Аднойчы, у пахмурны верасёўскі дзень, на Лысую Гару сувязны з Мінска прывёў двух ваеннапалонных і высокага, стройнага юнака ў шэрай уніформе, які памог ваеннапалонным уцячы з лагера. Юнака звалі Іван Шнігір. Падцягнуты, хударлявы, з тонка акрэсленым

прыгожым тварам, ён абуджаў прыхільнасць да сябе. Але форма эсэсаўца, унтэр-афіцэрскае званне, атрыманае па заканчэнню спецыяльнай школы, насцярожвалі. Яму хацелася і не хацелася верыць. Нават паўстала пытанне, як з ім быць,— расстраляць або пакінуць у Лысай Гары і праверыць заданнем. Перамагло апошняе, бо надта гарачымі, шчырымі былі яго словы. Так Шнігір стаў на пэўны час непрыкаеным лысагорскім парабкам — калоў вяскоўцам дровы, памагаў па гаспадарцы, харчаваўся ў найбольш спагадлівых.

Вось выбар маёра Хвясько і паў на гэтага хлопца, былога студэнта, які з вераю і цярплівай усмешкаю стаічна пераносіў наканаванае яму.

Чаму Хвясько? Справа ў тым, што ў нашай групе адбыліся змены. Адклікалі на Вялікую зямлю Юрына і Мельнікава. Замест іх у разгар восені прыслалі капітана Ганцова з старшым лейтэнантам Петуховым. Забралі і Бобылева, суправаджаць якога на Бягомльскі аэрадром паехалі Ганцоў, я і радыстка Лена. Старшым у групе астаўся Фама Хвясько. Вопытны чэкіст, ён адчуў у Шнігіры спружыністы, рашучы характар і тое гарэнне, што не дазваляла яму панікаць у цяжкіх умовах. Прыкмеціў і яго гарачае імкненне праявіць сябе — імкненне, якое, як часта бывае, падпіралася ўсведамленнем сваёй віны.

Так што, калі было вырашана спыніць здрадніцкую дзейнасць стаўленіка СД — рэдактара «Беларускай газэты», які, як ніхто, аплакваў гібель Кубэ і ажно слаўся, заклікаючы да барацьбы з бальшавікамі і партызанамі, усе сышліся на думцы: лепш за ўсіх гэта зробіць Іван Шнігір. А каб было больш пэўна, «прывязалі» да яго патомнага мінчаніна — непрыкметнага, але непахіснага ў перакананнях і ўчынках Кастуся Немчыка.

Тым часам залатая восень здарожылася, прыпынілася адпачыць каля вады. Стомленыя рабіны апранулі шызаваты вэлюм, ніжэй прыгнулася чаромха. Над парыжэлымі пожнямі і паплавамі паплылі раскудлачаныя туманы. У сярэдзіне кастрычніка, праўда ненадоўга, выпаў нават снег. Дрэвы не паспелі скінуць убор, лісце з клёнаў злятала па адным, нехаця адрываючыся ад галінак. Чаранкі ў лістоў пераважвалі, і яны, утыркнуўшыся ў снег, стаялі ў ім, як панатыканыя дзецьмі. Пасля снег, вядома, растаў, але ўсё роўна было холадна, слотна.

Сырым, непагодным ранкам і выправіліся Шнігір з Немчыкам у Мінск. У кожнага была свая легенда. Батальён, у якім служыў Іван Шнігір, днямі прыняў пад Вілейкаю бой з партызанамі, і Ваня мусіў перадаць у «Беларускую газэту» жалобны артыкул пра аднаго з забітых камандзіраў і запрасіць спадара рэдактара на яго пахаванне. Немчык жа павінен быў зайсці ў рэдакцыю па больш празаічнай справе — даць аб'яву аб нібыта прапаўшай карове.

Непрадбачныя акалічнасці пачаліся адразу — як толькі хлопцы назаўтра падняліся на трэці паверх дома, дзе змяшчалася рэдакцыя. Пакінуўшы таварыша на лесвічнай пляцоўцы, Шнігір увайшоў у калідор. Адшукаў дзверы з шыльдачкаю «Рэдактар» і заглянуў у іх. Убачыў вялікі пакой з столікам, за якім сядзеў прылізаны худы дзяцюк, і другія дзверы. Яны былі адчынены, і праз іх далятаві стук пішучай машынкі і голас чалавека, які нешта дыктаваў.

«Ён!» — падумаў Шнігір і памкнуўся пайсці туды. Але дарогу яму заступіў прылізаны дзяцюк. Выслухаўшы са схіленай на плячо галавою Ваніны тлумачэнні, ён узяў у яго артыкул і, трошачкі бянтэжачыся, папрасіў зайсці праз гадзіну. Гэта яўна азначала: Казлоўскі не прымае незнаёмых наведвальнікаў без папярэдняй праверкі, і смешна спадзявацца, што кудысьці паедзе па нейкіх запрашэннях. Што заставалася?

Перачакаўшы гадзіну ў скверы на плошчы Свабоды, хлопцы вярнуліся назад. Прынялі новы план. Немчык уваходзіць у прыёмную першы, за ім заяўляецца Шнігір. Прарваўшыся ў другую палавіну і сустрэўшы Казлоўскага, пускае ў ход фінку. Немчык жа, выхапіўшы з кішэні пісталет, прымусіць тых, хто акажацца пры гэтым, падняць рукі. Потым яны, страхуючы адзін аднаго, паспрабуюць змыцца.

Аднак не паспеў Шнігір пераступіць парог калідора, як пачуў крык-грай. З прыёмнайываліўся натоўп. Дакладней — яго выцягнуў за сабой Немчык. Учапіўшыся ў яго, як рак, лямантуючы галасней за астатніх, худы, прылізаны, стараўся яго затрымаць. Убачыўшы Шнігіра, кінуўся з просьбаю памагчы даставіць падазронага тыпа ў паліцыю.

— Яна тут насупраць, спадар унтэр-афіцэр! — выгукваў ён, глытаючы сліну.— Пэўна, заўважылі дзяжурныя матацыклы і паставога...

У смелых людзей рашэнне ў крытычныя хвіліны прыходзіць імгненна. Шнігір ірвануў з кабуры наган.

— Стой! — гаркнуў на Немчыка.— Гэта яшчэ што? Дакументы! Усіх, апрача шэфа, прашу разысціся па сваіх месцах! Спакойна!..

Яшчэ ў Лысай Гары ён вывучаў фатаграфію Казлоўскага. І калі з ім астаўся нізкаросльі, з выпнутымі грудзьмі і паношаным, як пасля выпіўкі, тварам чалавек, Шнігір стрэліў яму ва ўпор.

Форма эсэсаўца выратавала Ваню. Немчык таксама дабег да плошчы Свабоды. Але тут паставы паліцай, які пагнаўся за ім, падставіў нагу і, наваліўшыся, выкруціў за спіну рукі. Далей, як і трэба было чакаць, здарылася жахлівае — у смярдзючым засценку СД Немчыка доўга катавалі, а пасля, абліўшы бензінам, падпалілі...

Самабытнай, каларытнаю фігураю быў і Саша Камінскі — мажны, атлетычна скроены мацак, з шэрымі лупатымі вачыма, што трапляюцца ў дзёрзскіх, хвацкіх людзей. Прыйшоў ён у групу «Суседзі» таксама не вельмі даўно, але, па ўсім было відаць, сумаваў на дробных справах і блукаў па вёсачцы, нібыта насіў на плячах цяжар.

Лысую Гару не мінула пошасць сорак першага года — на скрыжаванні вуліц абчасаны дубовы крыж, апавіты вышыванымі ручнікамі. Праўда, ручнікі ніхто ўжо не мяняў, яны заплеснявелі. На крыж перасталі звяртаць увагу. Толькі пад час апошняй бамбёжкі Мінска, чые агні віднеліся ўначы, старэнькая бабка Хрысціна, укленчыўшы, малілася яшчэ на яго — прасіла бога дапамагчы пабіць гітлераўцаў.

Аднойчы я сустрэўся тут з Сашам.

— Які дзівак ставіў гэтую ганьбу? — сцепануў Саша крутым плячом, паціскаючы мне руку,— ён лёгка знаёміўся і зближаўся з людзьмі.

Я ўсміхнуўся:

— Пэўна, той, хто шукаў падтрымкі.

— Ад каго? — абурыўся Саша.

— Ну, скажам, ад найвышэйшага... А мо проста хітраваў. Хітранька жадаў улітасцівіць гітлераўцаў. У іх жа на спражках таксама напісана «Got mit uns» [1].

— Усё адно не разумею! Па-мойму, пажыўшы пры

---

[1] З намі бог *(ням.)*.

савецкай уладзе, сорамна быць халуём і ў самога пана бога!..

Фама Хвясько сабраў весткі. Выявілася: родам Саша са Смаргоншчыны, камсамолец, былы оперупаўнаважаны, дэпутат раённага савета. Быў пасланы служыць у мінскую паліцыю, трымаў партызан у курсе паліцэйскіх навін, траляваў з участка патроны, зброю, гранаты. Але папаўся — адвячоркам на кватэру, дзе ён жыў, наскочыў начальнік паліцыі і, зрабіўшы вобыск, знайшоў пад маснічынаю пісталеты. Трымаючы драцяны павадок, прывязаны за правую Сашыну руку, павёў ва ўчастак. Ды не на таго напаў. Скарыстаўшы па дарозе момант, Саша злаўчыўся, аглушыў начальніка ўдарам літога кулака і ўцёк. Праз некалькі дзён, ідучы са старой кватэры, куды хадзіў па свой, не знойдзены начальнікам паліцыі, пісталет, зноў напароўся. Толькі на меншае начальства — унтэра, які ехаў па пустой вуліцы на веласіпедзе. Унтэр спыніў Сашу, ды той абяззброіў яго і, паставіўшы тварам да плота, загадаў стаяць не азіраючыся. Сам ускочыў на веласіпед і знік. Але аставацца ў Мінску не было ўжо як. Аднак і дарогі ў родную Налібоцкую пушчу былі перакрыты — гітлераўцы якраз праводзілі там карную экспедыцыю. Так Саша на трафейным веласіпедзе трапіў у Лысую Гару — прыехаў з сувязным, таксама веласіпедыстам.

Другім хлопцам, якога вылучылі тады з навакольных, быў Жэня Кунцэвіч — смуглы, сімпатычны, з гордай, як у шахматнага каня, галавою.

Ён працаваў у Мінску механікам у гаражы і з'явіўся ў групу «Суседзі» ў нямецкай шафёрскай спяцоўцы, на «мерседэсе-бенцы» з самаробным чырвоным сцяжком на радыятары. Дробныя заданні, якія ён выконваў тут, яго таксама не задавальнялі, і ў цёмных карых вачах Кунцэвіча часта ўспыхвала няспраўджаная, зацятая рашучасць. У яго раскідалася сям'я, і ён пакутаваў. Негаваркі, замкнуты, трымаўся адасоблена ад таварышаў. Але тыя гарнуліся да яго, адчуваючы ў ім моцнага, непрыклоннага чалавека, якому можна даверыцца ў любых абставінах.

К таму часу подступы былі знойдзены і да бургамістра Мінска Вацлава Іваноўскага — старшыні Рады даверу, сфарміраванай Кубэ пры генеральным камісарыяце Беларусі. Іваноўскі адкрыта супрацоўнічаў з СД і насіўся з ідэяй умацавання так званага корпуса

самаахова. Яшчэ большай крыві маглі каштаваць распрацаваныя ім для камісарыята рэкамендацыі па барацьбе з партызанамі і іншамыснымі.

На нарадзе, што адбылася ў той жа Лысай Гары, Хвясько, Баця Мароз, які вёў аператыўную работу ў групе «Суседзі», і Дзмітрый Петухоў рашылі вывезці бургамістра з Мінска жывым. Для гэтага намецілі некалькі планаў. Арганізаваць вечарынку і ўзяць Іваноўскага «цёпленькім», калі наш сувязны, якому бургамістр давярае, павядзе яго дамоў. Пераняць Іваноўскага ў руінах, калі будзе вяртацца з работы на Ратамскую, дзе жыве. Прапанаваць Іваноўскаму сустрэчу з камандзірам партызанскага атрада, які нібыта змагаецца на два фронты — з гітлераўцамі і бальшавікамі, і з канспіратыўнай кватэры даставіць ужо ў Лысую Гару.

Аднак арышт Захара Галы, які ўсім здаваўся надзейнейшым з надзейных, пакаранне Акінчыца, Кубэ, Казлоўскага напалохалі бургамістра. У час прыёму наведвальнікаў ён пачаў ставіць за гардзінамі паліцаяў і, куды б ні накіроўваўся, стараўся ездзіць у пралётцы. На прапанову нашага сувязнога — прыняць удзел у вечарынцы — ён адказаў здзіўленым, поўным падазрэння позіркам, пасля чаго навязваць яму сустрэчу з міфічным камандзірам міфічнага партызанскага атрада стала гэтаксама неразумна.

Томячыся і хвалюючыся, мяняючы кватэры, Камінскі з Кунцэвічам упустую прабылі ў Мінску некалькі дзён. Бачачы — іншага выйсця няма, пайшлі на крайнасць. Засеўшы ў высмаленай каробцы дома насупроць управы, высачылі пры дапамозе сувязной Іваноўскага і, калі той сеў у пралётку, пабеглі следам. Дагналі толькі ля Жоўтай царквы, на павароце з Нямігі на вуліцу Астроўскага. Выбегшы на брук, Кунцэвіч схапіў каня за вуздэчку і спыніў яго. Камінскі скарыстаў гэта і ўскочыў у пралётку.

— Ні слова, спадар, злазьце! — кінуў з пагрозаю.— Забіваць мы вас не збіраемся і гарантуем жыццё! — Але бачачы: бургамістр выцягвае з кішэні пісталет, вырваў яго з дрыжачых бургамістравых рук і схапіў таго за каўнер.

Усё, што адбылося, не пагаджалася са свядомасцю — свяціла сонца, па тратуары ішлі людзі, непадалёк атабарылася Смаленскае СД — і бургамістр закры-

чаў, каб яго ратавалі. Кучар гікнуў і шмаргануў лейцамі, спадзеючыся — конь падамне Кунцэвіча. Што было рабіць? Камінскі [redacted] усяе сілы тузануў здрадніка да сябе і разам з імываліўся на брук.

— Страляй! — крыкнуў таварышу.

Потым яны кінуліся бегчы — Саша Камінскі ў руіны Ніжняга базара, Кунцэвіч — за царкву, да Татарскіх агародаў.

Вярнуліся мы з аэрадрома па першым зазімку. Дарога была цяжкая, валакітная — спачатку хлюпота, гразь, потым — храпа, снег. На калодках і спіцах намерзла зямля, пудовыя колы круціліся кепска. Непадкутыя коні ступалі няўпэўнена, коўзаліся.

Затое мы даставілі зброю, боепрыпасы, белыя дублёныя кажушкі, шапкі-вушанкі, маскхалаты, нават цёплыя рукавіцы з двума пальцамі. І трэба было бачыць, якую радасць прывезлі мы ў групу. Кожны цешыўся з новага аўтамата, «ТТ», цёплай вопраткі, [redacted] таго, што на яго не забываюцца, што аб ім клапоціцца Вялікая зямля, у якой столькі турбот.

Усе сабраліся ў прасторнай чыстай палавіне хаты, якая служыла нам сталоўкаю. Нібы прайшоўшы на бяседу, паселі кожны па-свойму за сталы, толькі ўсе тварам да сярэдзіны пакоя. Ківаючы задуменна галавою, сутуліўся ў чаканні Кунцэвіч. Выняў з кішэні брусок і цясак з ножан Пятро Дзеравянка. Паклаўшы моцныя рукі на калені, падаўся наперад ад нецярпення Саша Камінскі. Радысткі, прымасціўшыся на лаўцы пры сцяне ў кутку, зіркалі адтуль вачыма і, як жанчыны, заўважылі ўсё.

Не сеў адзін Валодзя Кананаў. Стоячы ў сваёй любімай паставе — шырока расставіўшы ногі, ён хітравата ўхмыляўся, гуляў вачыма і ляпаў сабе рукою па сцягняку. Калі чарга дайшла да яго, спрытна апрануў абновы, ведаючы, што яго з цікаўнасцю вывучаюць радысткі, казырнуў і прайшоўся страявым па пакоі.

— Вось і пабагацелі,— кінуў весела: ён любіў рабіць абагульненні. Потым падышоў да мяне, схіліўся к вуху.— Калі я той раз трапіў у Віцебск, мама частавала мяне бульбай і тушонай свіной скураю. Перад вайной смаліць кабанчыкаў забаранялася, і непадалёк ад нас быў склад гэтых скур. Дык мама мне ўсё бульбу падсоўвала, а я на свінінку налягаў... Весела было, як зараз...

Саша Камінскі, прымяраючы белы, трошкі вузкаваты яму кажушок, захваляваўся як малы. Выцягнуўшы аднекуль камсастаўскі рэмень з партупеяй, падпяразаўся паверх кажушка і горда агледзеў сябе як мог без люстра.

— Здарава! — пахваліў і пахваліўся.— Цяпер бы маёрскія пагоны, і парадак... Каб мне яго тады, з бургамістрам, хіба я так бы з ім размаўляў?

— Табе яшчэ мала? — падкалупнуў Дзеравянка, не кідаючы свайго настырнага занятку.

— А ты тачы, тачы,— тужэй падцягнуў рэмень Саша.— Мне не сорамна, што мала. Я мсцівец!..

Крадком разглядаючы яго мажную — касая сажань у плячах — постаць, я ўяўляў, як ён утаймоўваў бургамістра, як крычаў Кунцэвічу «Страляй!», і думаў.

Я не быў баязліўцам. Але смеласць мая, як здавалася, вынікала з наіўнай веры ў абавязковую ўдачу. Яна была бадай што міжвольная, імпульсіўная. У Сашы, мусіць, справа абстаяла інакш. Не, ён таксама, безумоўна, верыў у сваю зорку. Але гэтая вера вынікала з адчування ўласнай сілы, з упэўненасці — яго сіла большая, чым у таго, супроць каго выступае, і таму абавязкова прынясе яму перамогу. Сашына мужнасць, паўтараю, была ўсвядомленая, дзелавая. Яго ўчынкі ў крытычны момант аставаліся глыбока мэтазгоднымі. Ён да канца аставаўся цвярозым у сваіх рашэннях. Каб выйсці, скажам, з горада, яму трэба было перабрацца цераз Свіслач, і Саша выбраў адзіна правільнае — рызыку — папрасіўся на калёсы ламавіка, які вёз муку, і такім чынам мінуў паставых, што стаялі на мосце. Жэня Кунцэвіч, як і Пятро Дзеравянка, перш чым кінуцца ўцякаць, падабраў партфель Іваноўскага, а прыстрэліўшы ля Татарскага моста эсэсаўца, які хацеў затрымаць яго, не забыўся сарваць афіцэрскія пагоны, нашыўкі, прыхапіць пісталет, дакументы...

Я думаў пра іх, і мне хацелася ўзяць іхнюю цвярозую рашучасць сабе.

Ды радасць у вайну рэдка не азмрочваецца бядою.

Я ўжо казаў, у нашым раёне ўстанавілася своеасаблівая раўнавага сіл — пралегла граніца, усталяваліся свае адменныя парадкі па адзін і другі яе бок. Немцы не патыкаліся да нас, мы таксама толькі па начах пераходзілі новаяўленую мяжу. Нават нашы адносіны да насельніцтва, якое жыло за мяжою, былі іншыя, чым

да свайго, што побач. Паводле няпісанага закону там можна было рэквізаваць скаціну, вупраж, калёсы — лічылася: яны ўсё роўна дастануцца чорту лысаму. Дык няхай тамтэйшыя вяскоўцы памагаюць хоць так. Таму партызаны нярэдка выязджалі за шашу на гаспадарчыя аперацыі.

Сліжынцы кармілі нас. Але група расла, харчоў, асабліва прыварку, не хапала, і даводзілася шукаць дадатковыя крыніцы. Дзе? Яша Шымановіч, які выконваў абавязкі старшыні, біўся як рыба аб лёд. Ён і выказаў думку пра падобныя аперацыі.

Паехалі той раз на двух санях — Кононаў, Дзеравянка, Шымановіч, Луцкі...

Снег ужо ўкрыў зямлю наглуха. І хоць ціснуў ядраны марозік, дарога была ненаезджаная, пачувалі сябе хлопцы добра — да начных вылазак і паходаў прывыклі. У свядомасці ўкаранялася: уначы ты ўсюды гаспадар і табе павінна шанцаваць.

Пад Паперняй, дзе стаяў гарнізон, завіталі на хутар. Самога хутараніна-паліцая не аказалася, але затое ў хляве ляжалі карова з цёлкаю — без гаспадара нанач худобу ў гарнізон не павялі. Забратаўшы за рогі цёлку, прывязалі за аглоблі і, пакончыўшы з галоўным, падаліся шукаць яшчэ чаго-небудзь у клець. Ды тут не дагледзелі — драхлы дзядок, які дасюль ляжаў на печы, некуды знік. Калі ж спахапіліся, было позна. Абураныя, забраталі і карову.

Дзьмуў ужо вецер. Нізам гнала пазёмку. Ехаць трухам не выпадала — нахіляючы і выжыльваючы шыю, побач з коньмі клыпалі карова і цёлка. І хоць было непамысна, хлопцы пазручней леглі на сані і, хаваючы ад ветру твары, сцішыліся, гатовыя для дальняй дарогі.

Неспакойным астаўся адзін Дзеравянка. Узяўшы напарніка, дазорным пайшоў перад падводамі.

Што ён думаў? Перажываў? Цяпер можна толькі здагадвацца. Не дайшоўшы да хвойнічка, у які, вільнуўшы, хавалася дарога, ён раптам пачуў, як закляцкала жалеза. Шапнуўшы напарніку, каб бег да астатніх і завярнуў іх назад, ён, як бы нічога не здарылася, пакрочыў насустрач небяспецы.

Дзеравянку патрэбны быў час, ён цягнуў яго і таму не паспеў упасці, адкаціцца ў кювет — чарга разанула яму па нагах. Пятро, які і так нібы грузнуў па калені ў снезе, паменшаў яшчэ і быццам праваліўся ў

пазёмку. На момант, глушачы, запанавала цішыня і каламуць. Але потым стала відаць, як з снегу вырваўся агонь і застракатаў аўтамат — Пятро апярэдзіў залп.

Тыя, хто быў у засадзе, зрабілі дзве памылкі — не загналі патронаў у каналы ствалоў і заселі па абодва бакі дарогі. Так што і забіць Дзеравянку ім удалося толькі калі, панёсшы страты, пусцілі ў ход гранаты з даўгімі драўлянымі ручкамі.

Раззлаваныя няўдачаю, ведаючы — калі мёртвага кінуць тут, па яго рана ці позна прыйдуць, яны адцягнулі цела Пятра на абочыну і замініравалі — кране і ўзарвешся з ім разам. Ды хіба стрымае такое, калі ратуеш таварыша?

Пахавалі мы Дзеравянку на Слiжынскіх могілках. Гаварылі прамовы, кляліся, салютавалі. Але зусім не верылася, што пад свежай гурбаю пяску, сярод заснежаных і таму ледзь прыкметных магіл вяскоўцаў, ляжыць ён — зацяты, няўрымслівы душа-хлопец.

Напрадвесні мне дастучылі шукаць подступы да новага генеральнага камісара Беларусі. Гэта была не менш злавесная, чым Кубэ, фігура. Фон Готберг учыняў крывавыя пабоішчы за пабоішчамі. На яго сумленні была адна з самых масавых і страшных акцый — аперацыя «Чароўная флейта», у час правядзення якой Мінск быў абложаны, як варожая крэпасць. Былі мабілізаваны ўся паліцыя бяспекі і СД Беларусі, 2-гі паліцэйскі полк СС, Асобы батальён Дырлівангера, узмоцненая штабная рота, часці вермахта, размешчаныя ў Мінску, 12-я танкавая рота, ахоўныя часці чыгунак Беларусі, аварыйны атрад у Мінску... Салдаты знешняга акружэння стаялі праз кожныя дваццаць пяць метраў. Горад быў разбіты на квадраты, вобыскам падвяргаўся кожны дом.

Пяцьдзесят дзве тысячы мінчан былі арыштаваны тады. Мінск наогул увесь час знаходзіўся ў стане аблогі — вобыскі, аблавы, арышты... Толькі ў бараках Грушаўскага пасёлка было спалена жывымі паўтары тысячы чалавек. А колькі схоплена і адпраўлена на катаржныя работы ў Германію?! І ўсё гэта з ведама і па распараджэннях Готберга, чые мазгі маньяка нараджалі самыя жахлівыя планы рэпрэсій.

Міхась Ганцоў, які быў цяпер за камандзіра і даваў мне заданне, хваляваўся сам. Праводзячы далоняй па

вузкім бледным твары, ён не стараўся, як звычайна, глядзець на таго, з кім гаварыў, а пазіраў у акно — на пустую, наезджаную да бляску вуліцу, дзе стракаталі і лёталі сарокі.

— Гэта — каварны тып...— чухаючы брыво, падбіраў ён словы.— Засакрэціўся так, што і інфармацыю не збярэш... Пакуль вядома толькі, што аблюбаваў былыя ўрадавыя дачы ў Драздах і даволі часта прыязджае туды пасля работы.

— Значыць, стаўка на Драздьі? — спытаўся я, разумеючы — гэты выбар зроблены таму, каб на выпадак удачы пазбегнуць нявінных ахвяр.

— На Драздьі! — ужо цвёрда адказаў Ганцоў і ўтаропіў на мяне шэрыя, мігатлівыя вочы.— Але многа табе не дам. Назаву толькі аднаго з Чучаноў. Былога лейтэнанта, з акружэнцаў. Жыве ў другой хаце ад канца. Мяркую, што супрацоўнічаць згодзіцца.

Смерць Дзеравянкі падцягнула нас. Перад паходам кожны пачысціў зброю, для зручнасці пачапіў рукавіцы на шнурок і прапусціў яго ў рукавы кажушка, забінтаваў ложа аўтамата ў белае. Калі прыцемкамі мы выйшлі з Радзькавіч, самі здзівіліся: у маскхалатах постаці нашы раствараліся ў змроку.

Ноч выдалася каламутная, цёмная, якая бывае ў адлігу. Перасекшы Радашковіцкую шашу, пайшлі пакручастымі палявымі дарогамі — на іх немцы засад не ставілі. Лес абыходзілі ўскрайкамі. Ён стаяў чорны, маўклівы, і, можа, упершыню здавалася: небяспека ідзе ад яго.

Калі да Чучаноў было зусім блізка, ноч знячэўку разрэзалі промні. Асвяціўшы дарогу, пачалі мацаць яе. Мы пападалі ў снег, знерухомелі. Асепленыя, адчулі, як промні ўпіліся ў нас. І пакуль сляпілі, варушылася, жыло адчуванне — вось зараз абзавецца кулямёт і цябе прашыюць кулі.

— Навіна! — як пасля цяжкай працы, прыцмокнуў Валодзя Конанаў, калі промні пагаслі.— Перайшлі да абароны і тут...

Падкраліся мы да хаты Івана Валадзько агародамі. Дзверы нам адчыніла бабуля ў накінутай на плечы ватоўцы. Паверыўшы нам неяк адразу, прапусціла ў чыстую палавіну і, не запальваючы агню, засакатала, просячы садзіцца.

Шлёпаючы босымі нагамі, на сярэдзіну хаты выйшаў напаўадзеты хлапчына. У вокны ледзь цадзілася белаватае святло, але можна было заўважыць — ён высокі, шырокай косці. Відаць было і як, прыкрыўшы дзвюма рукамі рот, ён пазяхае — ці то ад хвалявання, ці то ад таго, што прахапіўся раптоўна.

— Што гэта ў вас за пражэктары? — пацікавіўся я, жадаючы завязаць з ім гаворку.

Але старая забегла з адказам наперад — гаспадыняй тут, пэўна, лічылася яна.

— Гэта на вышках у Зміёўцы паставілі. Ледзь што — і ўключаюць іх. А потым з мінамёта пачынаюць бахаць, нелюдзі. Летась адны перайшлі на бок партызан, дык пасля другіх прыгналі — больш верных. Жывём, бы ля самага фронту...

Нібыта пацвярджаючы яе словы, за вокнамі блiснула, пасвятлела і вухнуў выбух — адзін, другі.

Іван аказаўся ціхім, усмешлівым хлопцам з дзіцячымі вачыма, у якіх, праўда зрэдку, мільгала хітрынка. Нельга сказаць, каб мая прапанова ўзрадавала яго, але наша абмундзіраванне нагадала яму армію. Дый Валодзя Конанаў успомніў пра армейскі статут, прысягу, і гэта зрабіла гаспадара памяркоўным. З людзей, якіх ён мог рэкамендаваць нам, Іван назваў суседа Лясніцкага і рыбака з Зарэчча — Петрыка.

Я прыкінуў: і Лясніцкі і Петрык былі дарэчы — адзін даваў нам магчымасць укараніцца ў Чучанах, другі ж — крыху наблізіцца да мэты.

Падстаўляць цяпер Валадзько пад лішнюю небяспеку было не варта — ад яго мусіла пацягнуцца сцежка далей. Я параіўся з Конанавым, і мы дамовіліся дняваць у Лясніцкага — у канцавой мураванцы. Праўда, паўз яе праходзіла дарога ў Сёмкаў Гарадок і Зміёўку, але затое ад яе было бліжэй да бярэзнічку — нязменнага, хоць і няпэўнага паратунку.

Пачалося брацца на світанне. Змардаваныя дарогаю, мы адмовіліся ад ежы і, калі спрытны, шчыры Лясніцкі правёў нас у вузкую спаленку, пападалі хто на ложкі, хто на падлогу.

Аднак не прайшло, як здалося, і некалькі хвілін, як мяне раскатурхаў гаспадар.

— Немцы, таварышы! Уставайце! — быццам просячы прабачэння, прашаптаў ён, шарэючы ад уласных слоў.

У акно біла зыркае сонца. Я ўсхапіўся і зірнуў на вуліцу — да мураванкі пад'язджала некалькі абсыпаных салдатамі саней. На пярэдніх, з раскірэчанымі ножкамі, стаяў нацэлены на хату кулямёт. Я хутка падняў хлопцаў. Сігаючы за гаспадаром, мы выскачылі ў сенцы.

— Цяпер толькі туды! — паказаў Лясніцкі на вышкі, што былі пад адным дахам з мураванкаю.

Па драбінах мы ўзляцелі на вышкі. Прыбраўшы за сабой, як трап, драбіны, замерлі з нарыхтаванымі аўтаматамі. «Няўжо нехта высачыў і данёс?!»

Пра тое, што адбывалася знадворку, цяпер можна было меркаваць адно па гуках. Праўда, паміж дахам і сцяною свяцілася незашаляваная палоса, але праз яе віднеўся толькі пажаўцелы пры сцяне снег. Мы прыслухаліся.

Вось віскнула брама. На падворку зажвякала некалькі пар ног. Вось нехта сярдзіта загергатаў. Потым рыпнулі дзверы ў сенцах, у хаце... Я страпянуўся і раптам адчуў: на мяне глядзяць — падышоўшы да сцяны і задраўшы галаву, пад дах зазіраў рыжы веснушкаваты салдат. Ён жмурыўся, крывіў губы і як бы нешта намагаўся ўцяміць. Я не мог ні адхіліцца, ні адступіць — гэта выдала б нас. Спадзеючыся — сонца, святло, якіх так многа на падворку, не дадуць яму ўбачыць мяне, я толькі скіраваў на яго аўтамат. І ў гэты момант позіркі нашы сустрэліся. «Пекану, калі затрывожыцца,— усё-такі стрымаўся я.— Калі затрывожыцца, тады!..»

Я ніколі так пільна і блізка не глядзеў у вочы ворага. Я бачыў яго звужаныя і таму злосныя зрэнкі. І самі вочы! — залацістыя, колеру спелага жолуда... Хто ён? Мяркуючы па простым хударлявым твары, па ўчэпістых жылаватых руках, у якіх ён трымаў аўтамат,— рабацяга. Можа, нават рабочы.

Дык што ж тады за сіла прыгнала яго сюды, прымусіла азлобіцца, праяўляць ініцыятыву? Ці не страх — занадта далёка зайшоў, і дарогі назад няма?

Не ведаю, як бы ўсё павярнулася, ды тут пачуўся голас гаспадаровай дачкі:

— Пану салдату нешта трэба? Так? Дык няхай пан скажа...

— Фуру...— буркнуў той, падбіраючы найбольш зразумелае слова.

— Куру? — не дайшло да дзяўчыны.— Пачакайце, я сама злаўлю!

— Фуру,— упарта паўтарыў салдат і скасіў на яе вочы — у цемры, што панавала на вышках, мяне ён не ўбачыў...

Калі, забраўшы Лясніцкага з канём, яны паехалі, мы злезлі долу. Здалося: прабылі на вышках доўга, так доўга, што прагаладаліся — усім вельмі хацелася есці.

Акалічнасці, другія сустрэчы перашкодзілі нам назаўтра пайсці ў Зарэчча, і мы трапілі туды праз тыдзень-паўтара, пабываўшы на сваёй базе. Ад Чучаноў за праваднікa ўзялі Івана Валадзько, які за гэты час звязаўся з Петрыкам і пагутарыў з ім. Узялі мы з сабой Івана не толькі, каб паказаў дарогу і быў пасрэднікам. Яму — дамаседу, чалавеку не схільнаму праяўляць ініцыятыву — патрэбна было ўзрушэнне, карысна было пабыць у кампаніі нашых хлопцаў. Бо ў задуманай аперацыі ён мог спатрэбіцца і, у першую чаргу, як старажыл, які цудоўна ведаў наваколле.

Зарэчча прытулілася на процілеглым — вышэйшым — беразе Свіслачы і, як усе прырэчныя вёскі, цягнулася ўздоўж берага. Петрыкаў дом — пад бляшаным дахам, з акеніцамі, зрублены, па-мойму, на нямецкі вугал,— стаяў ля самай ракі, на лукавіне.

За цёплыя дні лёд з краёў падтаў, і нам прыйшлося класці ад берага дошку, якую гаспадарлівы Іван Валадзько прыхапіў па дарозе. Пад нагамі прагіналася, патрэсквала, і мы сунуліся па лёдзе як на лыжах.

Петрык прыняў нас з нейкай суровай гасціннасцю. Прысадзісты, каржакаваты, павольны ў рухах, на ганку павітаўся з кожным за руку і, зайшоўшы ў дом,— запушчаны, быццам нежылы, запаліў газніцу.

— Аканіцы зачыненыя,— растлумачыў.— Вокны гэтыя к Свіслачы. Так што не страшна. Дый у вёсцы, на тым канцы, застаўся адзін сабака. Калі што-якое, забрэша.

Круглаваты твар у яго зарос шчэццю, рыжаватыя бровы навіслі над вачыма, і ўвесь ён быў нашорстаны, пануры. Я ведаў: Петрык — удавец. Нядаўна трагічна загінулі яго жонка, дачка, сын. Нявестку адправілі ў Германію, і няшчасны чалавек жыве-гібее адзін, нелюдзіма, з аднымі ўнукамі-малалеткамі.

— Нам трэба ад вас дапамога,— мякка сказаў я.

— Пра гэта пасля,— спадылба разглядаючы нашы маскхалаты і забінтаваную зброю, кінуў ён.— Раней падсілкуйцеся.

— А ёсць чым?

— У бядзе людзі вынаходлівыя. А не хопіць свайго — пазычу.

— Уначы?

— Прывыклі і да гэтага. На злосць... От малыя толькі звязваюць...

Днявалі мы ў лазняку, што парос на ніжэйшым баку Свіслачы, супроць Зарэчча. Пад раніцу вада пайшла паверх лёду і як бы адгарадзіла нас ад вёскі. Дый праз кусты можна было назіраць, што ў вёсцы робіцца. З другога ж боку ў прасветлінах паміж кустоў віднелася і наваколле — камяністае ўзгоркаватае поле, лес у канцы яго.

Валодзя Конанаў ляжаў са мною побач. У белым капюшоне твар яго выглядаў зусім юным, вочы паблісквалі. Суровая панурасць Петрыка ўразіла яго. Ён глядзеў на высокае пасвятлелае неба, якое, калі ляжыш на зямлі, заўсёды здаецца недасяжным, абуджае думкі, і не мог заснуць. Угадваючы — сон таксама не ідзе да мяне, заварушыўся.

— Ты мог бы жыць, як ён?..— спытаўся паціху і, каб бачыць мяне лепш, павярнуўся на бок, падклаў пад шчаку руку ў рукавічцы.— Кажуць, сына яго памылкова расстралялі партызаны. Думалі, што ходзіць у Ждановічы і Мінск інфармаваць немцаў. Петрык нібыта ў гэтым лазняку яго знайшоў. Пацярпеў і ад ворагаў і ад сваіх... Сумненняў няма ў цябе?

— Не,— адказаў я, адчуваючы, што забалела сэрца.— У яго іншая парода. Дый унукі нітуюць не са здрадаю.

— Гэта правільна, я перад паходам сюды круціў у радыстак салдат-матор, а пасля слухаў апошнія паведамленні. Перамога не за гарамі. А яна падганяе, падказвае штоколечы. Даражэйшымі сталі і жыццё, і заўтрашні дзень, і ордэны...

— У Петрыка, па-мойму, гэта глыбей, трагічней. Ён служыць, нягледзячы ні на што...

Калі добра развіднела, стала бачна: за полем, ля лесу, маячаць постаці салдат. Вёска таксама абудзі-

лася — пачалі снаваць людзі. З рэзгінамі, кошыкамі, так проста — без усяго.

— Ну, ты! — даляцеў ломкі вокрык падлетка.— Мама, збірайся хутчэй!

Кананаў папрасіў у мяне бінокль і навёў на лес.

— Ваеннапалонныя, мусіць. Або сагналі з вёсак лесарубаў і ахоўваюць,— сказаў грэбліва і, вярнуўшы бінокль, заплюшчыў вочы.

Гэтае адкрыццё быццам бы супакоіла яго, і ён праз хвіліну мірна засоп носам.

Да вечара ўсе празяблі так, што ледзь дачакаліся, калі вёска заснула. Радыя — можна размяцца, пабіць сябе рукамі, некалькі хвілін скакалі на сваім лежыве і, крыху сагрэўшыся, падаліся назад да Петрыка, які абяцаў завесці нас у Банцыраўшчыну да лесніка Ксяневіча.

З Зарэчча выйшлі гужам — далёка наперадзе Петрык, за ім — адзін за адным — мы. Начная дарога сцягваецца. Затое не так адчуваецца небяспека — ты нічога не бачыш наўкол, значыць, не бачаць і цябе. Пляліся мы доўга, полем, з адзіным клопатам — трымаць прыняты парадак. Не даходзячы да лесу ці, можа, проста купкі дрэў, што нечакана выраслі наперадзе, Петрык спыніў нас — там працякала рачулка і яе трэба было пераходзіць па кладках.

— На іх ждановіцкія ваякі каравуляць часам,— хрыпла прамовіў ён.— Я сам спачатку праверу...

Гэта вярнула адчуванне рэальнага. У Ксяневічаў дом — невялікі, але, калі не памыляюся, пад шатровым дахам (я ні разу днём не бачыў яго) — мы ўвайшлі ўтрох: Петрык, Валодзя Кананаў і я.

Што мне кінулася ў вочы? Сціплая, даўно забытая ўтульнасць. Вайна нібы не заглядала сюды — палавічкі, скацеркі, чысціня. Спакой, ветласць ішлі і ад самога гаспадара — сярэдняга веку, з адкрытым, хораша акрэсленым тварам.

Ён не тое каб усцешыўся, а як бы адчуў задаволенне, палёгку — быццам чакаў нас, і мы прыйшлі.

— Маці! — сказаў за сценку няголасна, ведаючы, што жонка таксама не спіць і прыслухоўваецца.— Завіхніся, маці!..

Калі Петрык пайшоў да хлопцаў, я скіраваў гаворку на яго лясны абход. Ксяневіч заўсміхаўся.

— Што абход! Спярша сёй-той кінуўся быў з гарач-

кі рубіць. Але неўзабаве паастылі. У доме адпачынку — немцы, на ўрадавых дачах — немцы, не дужа разгарнешся.

— І на дачах? — як бы здзівіўся Валодзя Конанаў.

— А вы думалі! — Туды наогул носа нельга паткнуць. Сігналізацыя, аховы, сабакі. Нават па Свіслачы на лодцы не пакатаешся. Пацаны паспрабавалі там рыбу лавіць, дык дзесятаму заказалі.

Ці здагадваўся Ксяневіч аб прычыне нашай цікавасці да яго асобы? Магчыма. Але выгляду не падаў, хоць доўга яшчэ гаварыў пра дачы, пра былую ўрадавую шашу, якая вядзе туды з горада, пра Крупцы — вёску, што стаіць пры шасейцы. Намякаў: мае там знаёмага — дарожнага майстра.

Банцыраўшчына зрабілася нашым апорным пунктам. Адсюль мы ўзялі пад кантроль наваколле, праклалі яшчэ адну сцежку ў Мінск. Сюды з масюкоўскага лагера ваеннапалонных, дзе якраз актыўнічаў упаўнаважаны РВА, пацягнулася трывалая нітачка. Праз домік Ксяневічаў да нас пайшло папаўненне. Тут напаткалі нас удачы...

Спачатку падспудна, потым адкрыта працавала вясна. Пачарнелі поле, лес. Расквасіла дарогі. На Свіслачы адшумеў крыгаход. І цяпер, каб пераправіцца цераз яе, трэба было шпурляць каменьчыкі ў дах Петрыкавага дома — падаваць гаспадару знак, каб гнаў лодку.

Шнырачы адзін раз пад Масюкоўшчынай, мы натрапілі на жытло — даволі вялікі дом з прысадамі і гаспадарчымі пабудовамі. Адсюль было чуваць, як брахалі вартавыя сабакі ў лагеры ваеннапалонных, і я загадаў хлопцам акружыць дом.

— Хто там? — спалохана азваўся жаночы голас з-за дзвярэй, калі Валодзя Конанаў пастукаў у іх.

— Савецкая ўлада,— адказаў ён сур'ёзна.

Вокны ў пакоі, куды нас запрасіла стузаная, і абвязанай галавою жанчына ў халаце, былі зашторaны. Гарэла лямпа. На пакрытым цыраткаю стале — пустыя бутэлькі, талеркі з недаедзенай закускаю. У душным, цяжкім паветры — пах гарэлкі, смажанай свежыны, нейкіх лекаў.

Гаспадар выйшаў да нас заспаны, ускудлачаны, з чырвонай плямаю на памятай шчацэ. Зашпільваючы

на хаду піжаму, раптам зазлаваў на жанчыну, якая, заціснуўшы ў жменю барты махровага халата на грудзях, прытулілася да буфета.

— Ідзі, ідзі, богам прашу,— скрывіўся ён і вінавата заўсміхаўся нам: — Даруйце, у кожнага нервы. Вось нават выпіў для разрыўкі.

— Выпілі? А пад бокам у Масюкоўшчыне паміраюць! — указаў яму на такую неадпаведнасць Валодзя Конанаў.

— Даруйце... Прысаджвайцеся...

Хмель яшчэ брадзіў у ім і перашкаджаў як след ацаніць становішча, трымаць сябе ў руках.

Я чакаў: ён зараз загаворыць і будзе гаварыць ужо не па сваёй волі. Ахоплены парывам самаўніжэння, магчыма, пачне наракаць на сябе, на абставіны, у якія трапіў. Але атрымалася не зусім па-мойму. Навінчанка — такое было яго прозвішча — пачаў прадстаўляцца, употай, з п'янай хітрасцю набіваць сабе цану. Ён — бухгалтар на торфапрадпрыемстве: «Трэба ж неяк жыць», з рабочымі ладзіць: «Сам не пражывеш, калі другім не дасі», мае сяброў і ў Масюкоўшчыне, і ў Мінску: «Не выветрылі яшчэ колішнія традыцыі!» Ды назваўшы сярод іншых прозвішча Рабушкі, раптам спацеў, падаўся быў адчыняць фортачку.

Гэта мог быць член Рады даверу, шэф «прафсаюзаў», якога не так даўно за верную службу пасылалі на экскурсію ў Нямеччыну.

Я насцярожыўся.

— Рабушка?

Навінчанка папярхнуўся, кашлянуў у кулак.

— Ён часамі прыязджае адпачыць з дубальтоўкаю... Кастусь некалі таксама працаваў бухгалтарам.

Запала маўчанне. Поўныя шчокі ў Навінчанкі — і нават тая, налёжаная,— як бы спэрхлі і пахудзелі.

— Ён што, цікавіць вас? — з прыхліпам уздыхнуў ён і, адсапваючыся, выпусціў паветра.

— У яго, мусіць, ёсць пра што расказаць,— пацiснуў я плячыма.— Таму не шкодзіла б пазнаёміцца з ім.

— Гэта якім чынам?

— Ну, скажам, запрасіць яго на паляванне.

— Паляванне?.. Ага!..— зноў уздыхнуў ён і скоса паглядзеў на лісцік паперы, які падсоўваў яму Валодзя Конанаў, стаў прасіць ручку: — Жыву як у гасцініцы. У чарніліцах, паверыце, усё чарніла высахла...

— Сярод людзей ёсць шлюхі. А можа, чаго добрага, і сярод шлюх ёсць людзі,— нявесела пажартаваў Валодзя Конанаў, калі мы выйшлі да хлопцаў.

— Потым сам будзе дзякаваць,— згадзіўся з ім я.

Ідучы назад на днёўку пад Зарэчча, мы, як і было дамоўлена звечара, завярнулі да Ксяневічаў. Яны не спалі. У знаёмай утульнай святліцы сядзеў і госць — пажылы мужчына з сумнымі, здаецца, пагаслымі вачыма. Убачыўшы нас, не зварухнуўся і толькі, калі гаспадар падвёў мяне, працягнуў руку.

— Дарожны майстар Несцяровіч,— сказаў глуха.

Весткі пра яго мы збіралі асцярожна, па крупінцы. Дарожны майстар, залатыя рукі. Хата стаіць адасоблена, з краю вёскі, на ўзгорку. Жывуць Несцяровічы замкнута, удваіх — ён і жонка, якая моцна хварэе. Адзіны сын, пра якога старыя часта ўспамінаюць, у Савецкай Арміі. Калі забрацца на гарышча іх хаты, у дахавае акно добра відаць шашу, да якой метраў пяцьдзесят. Якраз супроць — бетонная труба, што пралягае пад шашою, крушні камення, нарыхтаванага для рамонтных патрэб.

Бачачы — першым гаварыць ён не збіраецца, я падсеў да яго і развязаў на шыі плашч-палатку. Лепшае месца наўрад ці можна знайсці!

— Як маецца жонка, Іван Мікалаевіч? — спытаўся, шануючы і яго гонар, і жыццёвыя беды, што гнялі старога.

— Нішто, дзякую,— не захацеў прыбядняцца ён.— Камень і той не вечны. Але ў нашага сялянскага жыцця свае законы — што б там ні было, а жыта сей.

— А як з вайной тады?

— Так і з вайной. Я пра яе і кажу. Задача ворагаў — знішчыць нас. Значыць, наша задача — супраціўляцца. Рабіць сваё насуперак ім. Бо на тое ж мы і людзі.

Было ясна: ён прапануе свае паслугі. Невядомай аставалася толькі мера яго рашучасці, і, каб падмацаваць яе, аддзячыць старому за тое, як мудра і проста вырашае ён усё, я спытаўся: ці не хоча ён атрымаць вестачку ад сына.

Несцяровіч страпянуўся.

— Дык вы і пра яго знаеце? Малайцы. Толькі якім чынам вы ўсё гэта змайструеце?

— Звяжамся па радыё з Вялікай зямлёй, папросім

пашукаць. Цяжка будзе адразу пераслаць пісьмо, паведаміць, як і што з ім.

— Малайцы! І які цяжар вы на мяне ўзваліце? Цяпер жа жонка і тая будзе за вас...

Ксяневіч пайшоў праводзіць Несцяровіча, а мы, перакусіўшы, рушылі пад Зарэчча, каб перадняваць і падацца да сябе на базу,— трэба было даць справаздачу і прыняць канчатковае рашэнне.

Крочачы за хлопцамі, я, магчыма, упершыню так па-харошаму хваляваўся і быў поўны думкамі — аперацыя, якая дорага каштавала кожнаму з нас — цела аднаго нават абсыпала як пры крапіўніцы,— набліжалася да завяршэння. «Што б там ні было, а жыта сей»,— успаміналася мне, і сэрца маё поўнілася павагаю да гордага старога чалавека, для якога выкананне абавязку — натуральная жыццёвая функцыя.

Удакладніўшы некаторыя аспекты, Ганцоў ухваліў план. Праўда, адчувалася: ён нешта не дагаворваў, меў на думцы сваё. З ускінутай па звычцы галавою, прайшоўся па пакоі, крута, па-ваеннаму робячы павароты. Пагуляў планшэтам.

— Добра! — рэзюмаваў.— Будзем узрываць бетонную трубу. А Рабушку возьмем жывым і прывядзём сюды...

Неўзабаве на аэрадроме Вілейскага міжраённага партыйнага цэнтра мы прымалі груз. Зразумела, не абышлося без казусаў. Замест пяці скінутых парашутных цюкоў у нашы рукі трапіла тры, і спатрэбіліся даволі вялікія намаганні, каб аэрадромная ахова праз дзень вярнула астатнія — на вагу золата цанілася такое багацце сярод партызан.

Ставіць у бетонную трубу міну нацяжнога дзеяння і весці шнур на гарышча Несцяровічавай хаты было недарэчна — яго не замаскіруеш. Давялося шукаць кабель, электраўзрывальнікі, батарэйкі, правяраць, як будзе выглядаць і дзейнічаць падобная канструкцыя.

Тым часам, пасля некалькіх паходаў сувязной, пад Масюкоўшчыну накіравалі Сашу Камінскага і Аляксея Дубеню — такога ж, як Саша, смельчака. Яны прымусілі Навінчанку выканаць абяцанне — з'ездзіць у Мінск і запрасіць Рабушку. Днявалі ў суседняй вёсцы Бараўкі і ў Навінчанкавым хляве, на сене, назіраючы за падворкам і недалёкімі торфараспрацоўкамі, дзе з рыдлёўкамі капаліся палонныя і пахаджвалі вартавыя.

Рабушку Навінчанка завёў у хлеў нібыта паказваць сваю гаспадарку. Хлопцы загадалі прафсаюзнаму шэфу падняць рукі, забралі ад яго пісталет, дакументы і, пратрымаўшы да вечара, разам з гасцінным гаспадаром павялі на нашу базу.

Убачыў я Рабушку ў доміку, дзе размяшчаўся наш штаб і жыў Ганцоў з Хвясько і Петуховым. Мяне здзівілі яго вуглаватая фігура і грубы, пабіты воспаю твар з развітымі надброўнымі дугамі. Людзі часам нагадваюць жывёл. Рабушка нечым быў падобны на стараватага ардэна. І толькі ўчэпістыя рукі ды панурыя прыплюшчаныя вочы выкрывалі ў ім жорсткага, хітрага чалавека. «Жлоб! — падумалася тады.— Жылаваты кулак, якога вынесла наверх...»

Ганцоў папрасіў мяне пераначаваць з Рабушкам, пагутарыць, пацікавіцца, што ўжо той напісаў, падказаць, што цікавіць нас. І зноў-такі, балакаючы з ім пры святле лямпы, я адчуў: ён таксама набівае сабе цану, апранае маску барацьбіта за ідэю. Дый страчыў ён свае паказанні, бадай, ахвотна, смакуючы дэталі — вось, маўляў, якія мы і якія сакрэты ведаем!..

Праз некалькі дзён, адвячоркам, калі на небасхіле пачалі расці, грувасціцца навальнічныя хмары, мы выйшлі ў чарговы паход. Вясна ў той год выдалася без навальніц і была павольная, халаднаватая. Праўда, першая навальніца грымнула ў канцы красавіка, на голы лес, і абудзіла ў прымхлівых трывогу. Але потым, звычайна ў другой палове дня, хмары ўкрывалі неба спакойна і праліваліся на зямлю дробным, амаль асеннім дажджом. Не было нават ліўняў. І вось над гарызонтам узняліся цёмныя, з падпалінамі, хмары, на якіх раптам праступіла пакручастая вогненная жылка. І хоць грымоты яшчэ не даляталі, стала цяплей.

— Дождж у дарогу — значыць, пашанцуе,— сказаў нехта весела, ігнаруючы, што давядзецца дыбаць пад дажджом, без надзеі дзе-небудзь высушыць вопратку.

Гэтым разам мы ўжо неслі тол — важкія, кілаграмаў па пяцьдзесят, скрынкі. Таму, калі пацямнела зусім і да Радашковіцкай шашы асталося нямнога, прыйшлося вылучыць дазорных і бакавую ахову. Пайшлі з пачаканкамі — група спынялася, а дазорныя ішлі далей. Праз метраў трыста-чатырыста спыніліся таксама, і адзін з іх вяртаўся па астатніх.

Недзе далёка грукатала, жыхалі маланкі, а мы ішлі і ішлі, згінаючыся па чарзе пад пудовымі скрынкамі.

Я ведаў за Чучанамі, у лесе, склеп-схованку. Хто яе выкапаў? Хутчэй за ўсё — вяскоўцы на ліхі выпадак або партызаны падрыўнікі для днёвак. Схаваўшы тол пад стог сена, мы адшукалі гэты тайнік, спусціліся ў яго і, прыкрыўшы спецыяльным векам лаз, палеглі на кімсьці нарыхтаваных яловых лапках. Ногі, рукі прасілі адпачынку. І хоць навальніца не пашкадавала нас — мы прамоклі, у склепе было душна, ляжаць даводзілася на баку, праз хвіліну ўсіх змарыў сон.

Выбар прыпаў на Івана Валадзько і Лёню Багданава — мінёра, якога прыслалі нам увосень з Вялікай зямлі. Ім было наканавана замініраваць шашу, забрацца на вышкі і, счакаўшы, калі гаспадароў вывязуць, узарваць картэж машын. Выбух мусіў быць моцным. Павінны былі зрабіць сваё і дзікія камяні, якімі хлопцы меліся заваліць толавы зарад. Усяго гэтага, як меркавалі, хопіць і на Готберга, і на яго ахову... Івана і Лёню грунтоўна рыхтаваў Ганцоў, але рупіла сказаць ім уласнае слова. Яны ляжалі абапал мяне. Я чуў іхняе дыханне, але так і не паспеў нічога сказаць — праваліўся ў небыццё, хоць гэтае жаданне не пакідала мяне нейкі час і ў сне.

Як выявілася, навальніца бушавала ўсю раніцу, а дождж ліў ледзь не да паўдня і, пакуль мы спалі, абмыў лес і ўволю напаіў зямлю. Ды потым, як бы навёрстваючы страчанае, прыгрэла сонейка. Паміж дрэў павіс туман, які пад вечар спусціўся долу. У дарогу мы выправіліся ўжо ў шызай каламуці.

Стала рупіць адно — не напароцца на засаду. І прыйшлося ўзмацніць разведку. З прыгодамі дабраліся да Свіслачы. Петрык перавёз нас на лодцы, паказаў, як найлепш прыгуменнем абысці вёску. Не пытаючыся, чаго і куды ідзём, пажадаў шчаслівай дарогі — вялікае яднанне адчуваюць людзі ў такія хвіліны.

Да Банцарыўшчыны і далей ішлі, больш спадзеючыся на слых, чым на вочы. І толькі калі дасягнулі Крупіцкіх могілак, адкуль да мэты аставаліся крокі, туман парадзеў — напэўна, паў расою.

Абдымаючы Валадзько, Лёню Багданава, шкадуючы іх і захапляючыся імі, я не вытрываў:

— Такое, хлопцы, выпадае раз у жыцці... Адзін

толькі раз!..— прарвала мяне.— Але вам пашанцуе, як і нашым тады ў Мінску!

— Вядома, пашанцуе... Неабходна, каб пашанцавала...— згадзіўся Валадзько.

Трэба было спяшацца — ночы станавіліся кароткія. Прыслухоўваючыся, мы счакалі, пакуль Валадзько і Багданаў паводле нашых разлікаў дапялі да Несцяровічавай хаты, і таропка, з пачуццём няпрошанай палёгкі павярнулі назад. Нам было неўпрыцям, што мы спазніліся. На няпоўныя суткі! — Готберг пераехаў у Барысаў, каб адтуль кіраваць яшчэ не бачнай па сваіх памерах акцыяй.

Не паспелі мы, ушчэнт змардаваныя, вярнуцца на базу, як нас аглушыла навіна — блакада!

Пасля бурных спрэчак — аставацца на месцы і, пакуль блакада не перакоціцца цераз нас, адсядзецца ў нетрах Руднянскага лесу або адступіць у балоты Паліка, куды блакада наўрад і дакоціцца,— большасць схілілася: адступаць. Дакладней, было прынята кампраміснае рашэнне: ядро групы — Ганцоў, Хвясько, Петухоў, Амелькін, я, радысткі і некаторыя сувязныя — накіроўвалася на Палік, астатнія ж павінны шукаць схованак у блізкім лесе.

Наспех узяліся рыхтаваць энзэ — сушыць сухары, насычаць іх салёным шмальцам. Чысцілі зброю, правяралі боепрыпасы. Камандаванне наладжвала адпаведныя сувязі з навакольнымі атрадамі, падпольным райкомам. Хлопцы з гаспадарчага ўзвода рылі ямы — для зімняй вопраткі, збожжа, маёмасці, што невядома калі і як назбіралася.

Лагойшчына — старана лясная, маляўнічая. Май, дажджы, што праліліся апошнімі днямі, зрабілі травы, кусты, дрэвы ізумруднымі. Яны ласкалі вока і ажно свіціліся. Ажылі пахі — прэлай зямлі, маладога клейкага лісця, смалы-жывіцы. Крочачы па дарозе, пераплеценай жылістымі, набрынялымі карэннямі, бачачы абапал вынасістыя сосны-красуні, папараць, верасы пад імі, зусім не верылася: недзе за спінаю гараць вёскі, ліецца кроў, лютуе смерць. І толькі ныючы гул самалётаў, якіх раптам пабольшала ў чыстым, зіхотным небе, напамінаў — гэта так.

Рабушка крочыў панылы, маўклівы, несучы вядро са шмальцам, якое далі яму, каб заняць рукі. Але ў ім

абудзіліся ілюзіі, і ён, мяркуючы па яго напускной абыякавасці, унутрана зларадні чаў з нас, з таго, што адбывалася наўкол. Пераканаўшыся ў мірных нашых намерах, ён наогул спакваля набіраўся нахабства — на начлегах стараўся заняць зручнейшае месца ля цяпельца, калі садзіліся есці, цягнуўся за смачнейшым кавалкам. І ўсё гэта з вераю ў сваё права на прывілеі, на асаблівую ўвагу да сябе.

Аднаго разу, мусіць, апанаваны жаданнем не згаджацца і пярэчыць ва ўсім, ён нават раскрыўся перада мною.

У прасветлінах між дрэў займалася зарыва. Яно мігцела, расло, налівалася чырванню.

— Вось твар вашых былых гаспадароў,— паказаў я ў той бок.

Рабушка выскаліўся.

— А вы што, паводзілі б сябе іначай на іх месцы?

— На іх месцы мы наогул не маглі б быць,— абурыўся я.

— Ну, як сказаць... Я, між іншым, паспытаў Сібіры, малады чалавек...

У лясах паміж Лагойскам і Плешчаніцамі нас сабралася некалькі тысяч. Акрэслілася і тактыка гітлераўцаў — яны акружылі вялізную тэрыторыю і з кожным днём звужалі кола. Вілейскі міжраённы цэнтр прыняў рашэнне рваць блакаду.

Пад вечар мы разам з партызанамі «Штурмавой» занялі зыходны рубеж — залеглі на нядаўняй лесасецы, парослай бярэзнічкам, над якім узвышаліся рэдкія сосны-насеннікі. Дзень быў цёплы, сонечны, і ляжаць на сагрэтым імху было прыемна. Верылася: усё абыдзецца добра. Не вельмі трывожыў і Рабушка — хутчэй за ўсё, будзе як міленькі, бо разумее: у баявых умовах не да сантыментаў. На смяротную ж рызыку не пойдзе — няма ў яго заўтрашняга дня. Дый не з той ён пароды. Ну, а бой? Што бой — яго не мінеш, і з гэтым трэба мірыцца.

Аднак хутка выявілася: падзеі набягаюць не так, як хацелася б.

Граду́ воблакаў на небе яшчэ падсвечвала сонца, а мы ўжо ўбачылі немцаў. Прама перад намі, як з-пад зямлі, выраслі радыст-разведчык і два аўтаматчыкі, якіх вёў бялявы хлопчык у зрэбнай кашулі. За спінаю радыста пагойдвалася вудзільна-антэна, у руцэ быў мі-

крафон, у які ён няголасна, але з запалам нешта гергетаў — мусіць, перадаваў, што бачыць навокал.

Паласнула кулямётная чарга. Яна зрэзала ўсіх чатырох напавал, як каса траву. І тут жа, адразу за чаргою, ускінуліся крыкі:

— Выключыце рацыю!

— А-а-а! Сяргей-ейка!

— Рацыю выключыце!

— А-а-а!

— Куды ты? Звар'яцеў?

Нехта кінуўся да забітых. Двое ці трое, схапіўшы за рукі расхрыстанага, без шапкі партызана, сталі адбіраць у яго аўтамат...

Але маса была прыведзена ў рух, і, хоць фактар нечаканасці адпаў, у вызначаную хвіліну ланцугі падняліся.

Змяркалася. І, можа, пасля неспадзяванай прыкрай гісторыі найбольш трывожным стала тое, што даводзілася ісці ў змрок.

Наткнуліся мы на карнікаў таксама неспадзеўкі. Праўда, сустрэлі яны нас беглым агнём — абстрэльвалі, відаць, адступаючы на загадзя падрыхтаваныя пазіцыі і ўцягваючы нас у нерат. Ды з кожным крокам агонь узмацняўся, рабіўся шчыльнейшым. Страляць, здавалася, пачыналі і з дрэў. Побач, усхліпнуўшы, упаў партызан у кубанцы. Мы з Амелькіным паднялі яго, пасадзілі на маю кабыліцу. Але, азірнуўшыся праз хвіліну, я ўсё роўна не ўбачыў яго.

Кажуць, калі ідзеш у атаку, навокал свішчуць кулі. За блізкімі стрэламі я не чуў іх. Не чуў, магчыма, яшчэ таму, што ўвагу бралі вогненныя, імклівыя трасёры.

Знячэўку ў лесе пасвятлела — перад намі загарэліся вогнішчы. З цемры выступілі меднастволыя сосны, людзі.

Скочыўшы за сасну, я агледзеўся. Убачыў Ганцова, які распластаўся на зямлі чуць наперадзе, ззаду, таксама на зямлі, Рабушку з Амелькіным, кабыліцу ля іх. Заўважыў нямецкага кулямётчыка, які, лежачы метраў за дваццаць у акопчыку, прыкіпеў да кулямёта. Прыцэліўшыся, я даў чаргу. Кулямётчык ускінуў галаву і як бы ўнурыўся.

На момант пацішэла, і ў гэтай адноснай цішы маю свядомасць кранулі словы — мяне зваў Амелькін.

Прыгнуўшыся, я кінуўся да яго. Убачыў: абязно-

жаная кабыліца б'ецца на зямлі, стараючыся падняцца. Сам не ведаючы навошта, я схапіў повад і пачаў тузаць, памагаючы ёй устаць.

— Што ты робіш? — крыкнуў мне Амелькін са страшным тварам.— Глядзі сюды!

Прытуліўшыся спінаю да камля сасны, напружыўшы выцягнутую шыю, сядзеў Рабушка. Па шчацэ ў яго цякла кроў і сплывала за каўнер кашулі.

— Устаньце,— папрасіў я, жадаючы пераканацца, ці ёсць у яго сілы і ці варта рабіць перавязку.

Рабушка павёў вачыма і ўпяў іх у мяне.

— Ну, што ж, страляй...— прахрыпеў стараючыся і не могучы падняцца.— Якая гадасць, паскудства... будзь яно ўсё проклята! — скляў ён свет, нас і тых, хто паслаў у яго кулю.

— Валодзя! — пачулася зноў.

Працуючы локцямі і нагамі, я папоўз да камандзіра.

— Што там? — спытаўся той.

— Рабушку раніла. Сканаў... Апрача Амелькіна, нікога з нашых няма...

Ад шашы, што была за вогнішчамі, даляцелі скрогат гусеніц, гул. Вухнула гармата, і непадалёк палыхнуў пошуг, ад якога, як здалося, адхіснуліся сосны.

Патронаў асталося па адным дыску — мы рашылі адыходзіць.

Засечаны азімут аказаўся ў аднаго мяне. Праз метраў сто нас акружаў ужо цэлы натоўп. Ён рос і рос. Я пастроіў людзей у калону, вылучыў ахову для Ганцова з Амелькіным, выслаў наперад разведку.

Раніца застала нас ў вёсцы, назва якой забылася, а можа, я не пацікавіўся ёю і тады. Даведаўшыся нейкім чынам, што мы там, з просьбаю вярнуць людзей пачалі прыбываць пасланцы атрадаў. Прыйшоў з сувязнымі Петухоў, радысткі, прыехаў Хвясько.

У Плешчаніцкім падпольным райкоме мы расстараліся сцягно ялавічыны. І, напоўніўшы сваё небагатае энзэ вэнджаным, чорным ад дыму, мясам, пашкандыбалі далей — на Палік.

Спыніліся мы на Пупку — пясчанай выспе, парослай разгалістымі соснамі. Навокал у балоце чарнелі вольхі — часцей сухадрэвіны, зялёныя толькі ля кам-

лёў. На захадзе не змаўкала кананада. Ведаючы — выспу будуць абстрэльваць, бярлогі сабе змайстравалі каля сухадрэвін, навокал якіх зялёныя парасткі раскусціліся найбольш.

Пацягнуліся дні.

На трэці-чацвёрты дзень міма прайшлі партызаны з брыгады Цябута.

Раніцою балота бамбілі, там і тут чуліся глухія, падземныя выбухі-ўсхліпы. Партызаны былі мокрыя па пояс, у твані, ледзь перасоўвалі ногі. Некаторыя з іх неслі цынкавыя скрынкі з патронамі, разабраны мінамёт, цягнулі за сабою каровіны скуры — на ежу, і здавалася: яны адтуль — з-пад бамбёжкі. Ганцоў, які пераняў старшага, прынёс страшную чутку — у балотах Паліка блакіравана некалькі дзесяткаў тысяч, і карнікі гатовы ўжыць газы. Магчыма — заўтра.

Спалі ў тую ноч не ўсе. Кожны з нас пры патрэбе паставіў бы на кон жыццё. Але памерці атручаным? З бескарыснай зброяй у руках? Няздольным адказаць чым-небудзь ворагу? Гэта абурала, страшыла — мужнасці трэба мэта. Успаміналася: мінскія таварышы папярэджвалі таксама...

Раніца надышла ясная, звонкая. На захад, нібы іх гналі сонечныя праменні, аддаляліся аранжавыя, з кудзелістымі краямі аблачынкі. Хутка цяплела. Гэта лашчыла азябшае за ноч цела, цешыла душу. «Готберг!.. Няўжо сёння?» — здзіўляла думка.

Нізка праляцеў бусел. Заўважыўшы нас, шарахнуўся ўбок, але ўраз падняцца не здолеў і, з цяжкасцю лавіруючы паміж сухадрэвін, скасабочаны, знік за выспаю.

Гул самалёта з'явіўся знячэўку, працяўшы сэрца стрэмкаю. Яго стала відаць, калі самалёт пачаў заходзіць на круг. Гэта быў «фоке-вульф» — «рама». Яна звычайна не бамбіла, рэдка абстрэльвала, але яе люта ненавідзелі як прадвесніцу бяды.

«Няўжо яна?..» — забілася думка.

«Рама» зрабіла круг і, быццам спыніўшыся, выкінула нейкі прадмет, які тут жа з трэскам распаўся на мірыяды матылёў.

— Агітснарад! — плюнуўшы, вылаяўся Ганцоў, які, грузнучы па калені, праходзіў міма мяне.— Лістоўкі, віншую!

Яго лютасць перадалася мне.

— Слабо, аказалася! — закіпеў і я.— Баяцца, каб самім пасля не захлынуцца ў сваіх логавах. Слабо!..

Амелькін — ён стаяў поруч, па грудзі ў зарасніку,— злосна ўхмыляючыся ў злямчаную бараду, выставіў у неба кукіш.

— На!

— Ха-ха-ха! — зарагатаў недзе блізка Хвясько.— Ха-ха!..

Іржавая балотная вада, недаяданне паступова даваліся ў знакі. Пухлі, крываточылі дзёсны. Арганізм пакутаваў, патрабаваў: солі!

Не помніцца, якім чынам да нас дайшло: за чатыры-пяць кіламетраў, у лазняку, пры зліцці двух ручаёў, схаваны човен з аўсом. Гэта было за лініяй нямецкіх пастоў, але ўсё роўна зрабілася надзеяй. Паспрабаваць удачу выпала нам з Амелькіным.

Узяўшы торбы, карту-кіламетроўку, са зброі — «ТТ» і фінкі, мы завідна выправіліся па выратавальны авёс. Ішлі, вязнучы ў тарфяным месіве або пераскокваючы з купіны на купіну. Пад шыю падступала млоснасць — мучыў абуджаны надзеяй голад, поедам елі камары.

Перад захадам сонца, як і паказвала кіламетроўка, натрапілі на выспу — крыху меншую за нашу. Заўважылі здратаваную асаку, прывялыя галінкі прыбярэжных кустоў... кладкі, і выбраліся на бераг з засцярогаю. Убачылі пад соснамі зямлянкі. У крайняй — нары, забітых у споднім, побач — жывую кошку з агністымі зрэнкамі, кацянят. Забітыя валяліся і ля астатніх зямлянак — напаўадзетыя, з перавязанымі рукамі, грудзьмі. Стала ясна — партызанскі шпіталь, дзе не так даўно, намасціўшы кладкі, пабывалі карнікі.

Асцярожны Амелькін настаяў, і мы збочылі ў цывільны лагер, з жыхарамі якога сустракаліся яшчэ, калі дыбалі на Пупок. Знайшлі гэты ўбогі, падобны на першабытную стаянку, лагер-табар у высокім непралазным чароце. У першым, што трапіўся, будане, дзе паціху стагналі ў сне дзеці і чуліся ўздыхі, загітавалі правадніка — сівога лахматага дзядка, і адразу паспакайнелі.

Апоўначы, самі не ведаючы таго, мы мінулі лінію нямецкіх пастоў. Здагадаліся пра гэта толькі тады, калі за спінамі раптам узнялася ракета. А вось калі вярталіся назад, трапілі ў пераплёт — нас пачулі. Бо як не

стараліся ступаць ціха, пад нагамі хлюпала, чвякала.

Ноч некуды адступіла — балота заліло мёртвым святлом. З дзвынканнем плюхаючыся ў ваду, засвісталі кулі. Вартавы кацер на Бярэзіне і той, запаліўшы пражэктар, азваўся кулямётнай чаргою.

Як мы выбраліся з пекла? Ратавалі, мусіць, купіны, асака. Ды тое, што немцы не адважыліся сысці ў ваду са сваіх насланых лежываў.

Знясіленыя, што аж хістала, з парэзанымі аб асаку рукамі, вярнуліся мы да Пупка. Зніклі жаданні, думкі. Зніклі... Але праўду кажучы — калі перад гэтым праходзілі па выспе, дзе карнікі расстралялі раненых, не забыліся прыхапіць з сабою ліст бляхі, каб смажыць авёс...

Канчаўся блакадны месяц. Нас цяжка было пазнаць. Эканомячы сілы, некаторыя перасталі ўставаць, не галіліся. У радыстак ацяклі ногі. Давялося турбаваць Маскву. «SOS!»

Самалёт прыляцеў у ноч на дваццаць пятага чэрвеня. Усе разумелі: ён нясе нам цяпло, сілы, боепрыпасы, і падрыхтаваліся як след. На самую высокую хвою пасадзілі назіральніка, назбіралі сухой, як порах, ігліцы, лапак, нацягалі ламачча.

І калі над галовамі пачуўся родны гул, зрабілі так, што з раскладзеных трохкутнікам вогнішчаў угору шуганулі полымя, залатыя іскры.

— Ёсць адзін! — аж захліпнуўся назіральнік.— Яшчэ адзін!.. Трэці!..

Разгарнуўшыся з пэўнымі інтэрваламі ланцугом, мы спусціліся ў балота — туды, куды закамандаваў назіральнік. Аднак, калі вада дасягнула грудзей, спыніліся — парашуты як праваліліся.

Ці ёсць мяжа чалавечых сіл і вытрымкі? Аддыхаўшыся, мы зноў разгарнуліся ланцугом і зноў, толькі ўжо ў іншым кірунку, падаліся ў балота.

— Хлопцы!.. Далібог, яны падалі там!..— енчыў назіральнік.

Колькі захадаў мы зрабілі? Не ведаю! Ведаю толькі, што калі выбраліся на выспу апошні раз, то ўжо не селі, а ўпалі на сыраватую зямлю.

На золку мяне раскатурхаў знаёмы сакратар Барысаўскага падпольнага гаркома Смірноў.

— Хочаш бачыць нашых? — спытаўся з шырокай усмешкаю.

Смірноў не супроць быў разыграць чалавека, пасмяяцца пасля, але так усміхацца пры розыгрышы ці проста з майго нягеглага выгляду ён не мог. Гэта дайшло да маіх затуманеных цяжкім сном мазгоў і скаланула мяне. Я ўсхапіўся.

— Вы сур'ёзна? Дзе?

— На халопенічаскім бальшаку...

Праз гадзіну, потныя ад стомленасці і хвалявання, мы ўжо мясілі рудую балотную жыжку, стараючыся, каб не так грузлі ногі, ступаць на асаку. Сонца ўзыходзіла хораша. І хоць ноздры казытаў пах ціны, ад далёкага сіняга берага цягнула свежым ветрыкам. Але разам з тым, як мы набліжаліся да берага, пах ціны змешваўся яшчэ з нечым — душным, саладкаватым. Ён як бы шчыльнеў.

Гэта абудзіла падазрэнне, трывогу... Ды тое, што чакала нас, аказалася вышэй усякай фантазіі. Божа мой! Уздоўж берага ўзвышаліся кастры трупаў. Васковыя, раздзетыя, трупы былі старанна ўкладзены — як дровы. Дый расстрэльвалі небарак старанна — усіх у патыліцу. Гэта, мусіць, былі тыя, што, не вытрываўшы голаду, выходзілі з балота — некаторыя, можа, нават з лістоўкамі-прапускамі, скінутымі тады «фоке-вульфам».

А далей? На нейкай адлегласці ад гэтых кастроў, на маляўнічай палянцы, нас спаткала новая навіна — спартыўны гарадок, з пасыпанымі жаўтапескам дарожкамі. Тут, мяркуючы па ўсім, у вольны час карнікі займаліся фізкультураю.

Страшныя кастры і спартыўны гарадок! Забягаючы наперад, прызнаюся: калі пазней нам сустрэлася калона гэтых, ужо толькі панылых і паланёных, спартсменаў, я сам крычаў аўтаматчыкам-канваірам: «Куды вы вядзяце іх? Навошта?..»

Над бальшаком, што пралягаў тут па лясах і балотах, стаялі пыл, гул. Яны, як здавалася, перамяшаліся ў адно, як перамяшалася і ўсё, што рухалася па бальшаку. З лязгатам сунуліся танкі і цягачы з бярвеннем, са скруткамі жалезных тросаў. Фыркаючы ад пылу, заграбалі нагамі коні — везлі гарматы і скрыні са снарадамі. Следам або па абочынах пляліся запыленыя пехацінцы.

Мы спыніліся ў кустах, як зачараваныя, не могучы адарваць вачэй ад бальшака. Радысткі плакалі — эк-

зальтаваная Лена, усміхаючыся, ціхмяная Маша з скрыжаванымі на грудзях рукамі — без крывінкі на твары, яна нібы малілася.

Зусім паўз нас праехаў на каштанавым коніку брывасты маёр з пшанічнымі ўкраінскімі вусамі. Нешта прыкінуўшы ў галаве, вярнуўся, спешыўся. Пачаў распытваць, першы абняў Ганцова, потым — астатніх і, убачыўшы паходную кухню, што з дымком калывалася па абочыне, падняў руку.

— Толькі не ешце многа,— папярэдзіў збянтэжана і вінавата. І па гэтай яго разгубленай вінаватасці можна было здагадацца, як выглядалі мы.

Лена з Ганцовым нырнулі ў прыдарожны падлесак, закінулі антэну на літы сук старога дуба, што віднеўся і з бальшака. Доўга чаравалі над рацыяй. Загад атрымалі нечаканы — абагнаць франтавыя часці і зноў увайсці ў тыл працўніка.

«Нам!.. Абагнаць?..»

Мы папрасіліся на танкі — незнаёма масіўныя, з зеніткамі, са спаранымі кулямётамі. За Крайцамі, на брукаванай высокай грэблі, абапал якой зелянеў хмызняк і разлягаўся прастор, калона спынілася — наперадзе былі Бярэзіна і спалены мост.

Вараннём наляцелі «юнкерсы». Але зенiткі і кулямёты на танках як бы прачнуліся. Шалеючы, адкрылі загараджальны агонь. Чорныя кусты бомбавых разрываў ускінуліся далёка — там, на зялёнай прырэчнай разлегласці.

Удача не пакінула нас і тут. Пакуль сапёры падвозілі пантоны, пакуль меліся наводзіць пераправу, мы па рэштках моста пераправіліся на другі бераг Бярэзіны і ўжо сваімі сцежкамі — дзе пехатою, дзе на падводах — рушылі на Лагойшчыну.

Ва ўцалелых Радзькавічах я атрымаў ад Ганцова апошняе заданне. Днямі нацыяналісты сабіралі ўстаноўчы кангрэсік, які разагнала наступленне нашых. Трэба было сабраць аб ім звесткі, захапіць, калі паспеем, каго-небудзь з супрацоўнікаў СД. З Валодзем Конанавым, Амелькіным і некалькімі аўтаматчыкамі я мусіў кіравацца пад Мінск і ўвайсці ў яго з армейскай разведкаю.

Зацемна наблізіліся да Радашковіцкай шашы. На ўсходзе шугалі сполахі і грымела кананада. Там, дзе

быў Мінск, трапятала барвовае зарыва. Мы ведалі: гарнізон у Паперні разбегся. Але па шашы цёк шумны паток — рыпелі колы, надрываючыся, завывалі машыны. І толькі калі там сціхла, мы перасеклі шашу і пайшлі без дарогі — па азімуту.

У горад увайшлі здзіўленыя блізкай цішынёю.

Мы ўваходзілі па Даўгінаўскім тракце. Ускраінныя домікі тут уцалелі. Шэранькія, убогія, але з палісаднікамі, у зяляніне, яны, як здалося, самі не верылі, што пазбеглі разбурэння. У скасабочанай брамцы крайняга доміка стаяла жанчына ў плюшаўцы, з хусткаю на шыі. Падпершы па-вясковаму шчаку, яна прырасла плячом да шула і таксама верыла і не верыла сваім вачам. Ды пілоткі, зялянковыя плашч-палаткі, аўтаматы з круглымі дыскамі пераканалі яе. Яна рванулася да нас, абняла першага, хто ёй трапіўся, і хапатліва пачала соваць яму ў рукі фанерны карабок.

— Вазьміце, вазьміце,— паўтарала са слязамі.— Гэта — цыгары. Спецыяльна хавала.

З-за шула высунулася другая жывая душа — хлопчык — віхрасты ў майцы і трусіках — як спаў.

— Мама! — гукнуў ён жанчыне, відаць па ўсім, баючыся за яе.— Годзе, мамка.

— Дык гэта ж нашы, Іллюшанька! — кінулася апраўдвацца жанчына.— Хадзі і ты сюды... Не бойся!

На Старажоўцы пустую вуліцу, крадучыся, перабягалі прыгорбленыя постаці з паклажаю на спінах. З разбуранай каробкі дома выскачыў сабака, але не забрахаў, а нібы ішоў па нечым следзе, з апушчанай мордаю пабег па тратуары.

Нагледзеўшы ля Старажоўскіх могілак пакінуты домік з белымі аканіцамі — няхай будзе прытулак, прыйшлі ж назусім! — мы паспешна рушылі ў цэнтр. Адтуль далятала перастрэлка. Па Савецкай вуліцы на захад з грукатам каціла жалезная лавіна нашых войск. У небе патрулявалі ястрабкі. А нам здалося: мы ўступаем ў мёртвы горад, можа, нават нядаўна адкапаны археолагамі. Недзе стралялі, недзе грукатала, а тут усё спавіло небыццё — руіны, руіны. Жоўтыя, вычварныя, у якіх дзівіла і тое, што яны стаяць, ні на што не абапіраючыся.

А ўначы нямецкія самалёты абрынулі на ўсё гэта бомбы. Злыя, вісклівыя, яны скаланалі мёртвыя кварталы — зенітны агонь прыкрыў ад іх жывое — чыгун-

ку, станцыю, Дом урада, які заліты святлом ракет-ліхтароў, як бы ўзняўся над морам руін.

Адмовіўшыся ісці ў самаробнае сховішча на падворку аблюбаванага доміка, я назіраў за паядынкам неба і зямлі. Зямля ўздрыгвала, стагнала. Неба ж гуло, зыбалася. Па ім матляліся промні пражэктараў, яго рвалі агністыя ўспышкі. Раптам у адным з промняў засвяціўся самалёт. Да яго кінуўся другі промень. І калі яны скрыжаваліся, самалёт знік — на яго месцы бліснула агністая, ірваная пляма.

Я ўжо любіў Мінск. З ім былі звязаны найвышэйшыя ўзлёты маёй душы. Але ў гэты момант я адчуў: ён уваходзіць у мяне як нешта бясконца вялікае, табою абароненае, без чаго нельга жыць. І, як здаецца цяпер, іменна тады ва мне загарэлася жаданне расказаць пра яго, пра таварышаў, пра перажытае...

Не скажаш — былі ў нас свае грахі і слабасці. Нярэдка мы спрачаліся праз амбіцыю. У нястрыманасці хапаліся за пісталет. Некаторыя не супроць былі асляпіцца сабой. Калі, скажам, часу было ў абрэз, а аперацыя супроць Готберга падрыхтавана, чамусьці спатрэбілася мяняць адказнага за яе. Сёй-той ачарсцвеў. І, як выявілася, калі мы плявалі на Паліку крывёю, у аднаго з нас у рукзаку ляжала соль. Усё гэта было. Але... але мы не шкадавалі сябе і рабілі ўсё, што маглі, вось для гэтай хвіліны.

# СЛОВА ПРА МУЖНАСЦЬ

*Нарыс*

Прырода надзяліла чалавека цудоўным дарам — рашучасцю аддаваць сябе высокай мэце, ставіць у імя яе на шалю вагаў сваё жыццё. Гэты дар мы называем мужнасцю. Без яго само жыццё, напэўна, было б іншым — без полымя. Бо мужнасць жыла ў людскім імкненні скарыць агонь, ваду, маланку. Гэта яна адкрывала мацерыкі, абжывала пустыні, праз ільды, сцюжу праклала Паўночны шлях. А хіба без мужнасці магчыма было пабудаваць Волхаўскую ГЭС, калі бетон утрамбоўвалі нагамі?.. Мужнасць прыводзіла чалавека і чалавецтва да перамог у вайне і міры — у працы, барацьбе, навуцы!

Касманаўтыка — наогул арэна мужных. Пачынаючы са старту, калі ўзлятаць у зоркавую вышыню даводзіцца ў вогненным грукатлівым смерчы, і канчаючы прызямленнем, калі небяспека тоіцца ў табе, навокал цябе і там, куды ты імкнешся душою, на зямлі,— гэта вялікае выпрабаванне і тваёй вартасці, і тваёй адданасці запаветнаму.

Хіба не бессмяротным з'яўляецца выхад Аляксея Лявонава з касмічнага карабля ў адкрыты космас? Дастаткова ж было аднаго іголачнага праколу ў скафандры, каб кроў закіпела ў жылах касманаўта. Дастаткова непрадбачнай моцнай успышкі на Сонцы, каб на касманаўта хлынулі смертаносныя промні.

Веліч подзвігу вымяраецца, вядома, небяспекаю, якую пераадольвае чалавек. Але яшчэ ў большай ступені яна вызначаецца тым, што процістаіць герою, з чым ён апынуўся сам-насам, што яму неабходна пераадолець і сцвердзіць.

Аляксей Лявонаў, выходзячы з люка карабля, ступаў у пустату. Ён пакідаў адзінае і апошняе, што звязвала яго з родным, звыклым светам. Вакол жа прасці-

ралася пустата — маўклівая, бязмежная, мёртвая. Недзе страшэнна далёка была Зямля ды на чорна-аксамітным небе ззяла вялізнае сонца. Касманаўт апынуўся сам-насам з Зямлёю і Сонцам! Але затое подзвігам сваім ён устанавіў новыя ўзаемаадносіны паміж зямлянамі і Галактыкаю. Дапамог чалавецтву па-новаму ўсвядоміць сябе, сваё месца і ролю ў светабудове, адкрыў новыя далі.

Мне думаецца: подзвігам з'яўляецца і гісторыя роднага Мінска. Ён узнік як вартавы славянскіх земляў. Узняўшыхся на ростанях — скрыжаванні гандлёвых шляхоў, славіўся кірмашамі, вырабамі саматужнікаў-умельцаў. Але ўжо і тады па дарогах яго ішлі не адны тавары.

Мінск асаджалі полчышчы Койдана, нямецкія псы-рыцары, польская шляхта, шведскія лангскнехты, салдаты корпуса Даву.

Але што знамянальна! Полчышчы Койдана знайшлі тут свой бясслаўны канец. Калі шведы прарвалі крапасны вал, мінчане самі падпалілі свае дамы. Партызанскімі налётамі на абозы і інтэнданцкія склады адказалі яны на тэрор і здзекі французскіх захопнікаў.

І яшчэ. Горад нязменна паўставаў з попелу. Што выратоўвала яго ад заняволення? Што не давала яму загінуць? Яго нязменная адвага, патрыятызм — пачуцці, якія не ўявіш адно без другога. Бо баязлівец, наўрад ці можа быць патрыётам — баязлівасць абавязкова перашкодзіць яму па-сапраўднаму любіць народ, бо сапраўдная любоў сцвярджаецца гатоўнасцю бараніць тое, што ты любіш.

Нараджэнне пралетарыяту паклала свой адбітак як на ходу падзей так і на мужнасць тых, хто вызначаў лёс горада: было разарвана зачараванае кола — горад прачнуўся для заўтрашняга дня.

У адным 1895 годзе ў Мінску адгрымела пяцьдзесят чатыры стачкі!

Першая руская рэвалюцыя знайшла тут самую гарачую падтрымку. На Крывавую нядзелю ў Пецярбурзе мінскія пралетарыі адказалі тыднёвай забастоўкаю і дэманстрацыяй пад лозунгам «Далоў самаўладства!». Горад забурліў у віры чырвоных сцягоў. Кастрычніцкую ўсерасійскую палітычную стачку мінчане падтрымалі ўсеагульнай забастоўкай. 18 кастрычніка

1905 года яны не адступілі перад строем настаўленых штыкоў, і рабочая кроў заліла маставую Прывакзальнай плошчы.

Незабыўны семнаццаты — самаадданая барацьба бальшавікоў-ленінцаў, дзеянне атрадаў народнай міліцыі і чырвонагвардзейцаў — паставілі Мінск у шэраг самых рэвалюцыйных гарадоў таго бурнага часу. «Абласны з'езд і прапанову з Мінска трэба выкарыстаць для пачатку рашучых дзеянняў»,— указаў Уладзімір Ільіч на гістарычным пасяджэнні ЦК РСДРП (б), калі было прынята рашэнне аб узброеным паўстанні.

Подзвігам, гістарычнай заслугаю мінчан з'явілася абвяшчэнне Савецкай улады ў Мінску праз некалькі гадзін, пасля таго як яна перамагла ў Петраградзе. Наступальная, рэвалюцыйная мужнасць зрабіла сваё — Мінск стаў бальшавіцкім сэрцам Беларусі.

Уздым рэвалюцыйнай хвалі быў такі высокі, што яна раскідала і змыла ўсе перашкоды, пабудаваныя контррэвалюцыяй. У тым ліку і так званы «Камітэт выратавання рэвалюцыі» і так званую «Беларускую раду».

Не зламалі мужнасці мінчан і акупанты. 20 лютага 1918 года легіёны Доўбар-Мусніцкага ўварваліся ў горад; услед за імі ўвайшлі кайзераўскія войскі, а ўжо 28 лютага на нелегальным сходзе камуністаў быў створаны падпольны гарадскі камітэт. 8 жніўня 1919 года Мінск захапілі легіёны Пілсудскага, а праз два тыдні пачаў дзейнічаць падпольны гарком, а затым і асобы штаб паўстанскага руху.

Калі ж народжаная ў рэвалюцыйных баях беларуская сталіца вызвалілася ад захопнікаў, жыццё ў ёй і мужнасць мінчан набылі мірны, стваральны характар.

Ужо ў 1921 годзе быў адноўлены першы ў Беларусі чыгуналіцейны і металаапрацоўчы завод «Энергія» (цяпер імя Кастрычніцкай рэвалюцыі). 1 мая 1922 года, як герояў працы, мінчане ўрачыста віталі Ф. Васанскага — ліцейнага майстра і К. Паўлоўскага — вагранщчыка з завода «Метал», П. Пярлоўскага, Г. Позняка, П. Габрыловіча з Эльвода і многіх іншых. У 1927—1928 гадах уступілі ў строй гарбарны завод «Бальшавік» і станкабудаўнічы «Камунар» (цяпер імя С. М. Кірава). Будаваліся масты, стадыёны, бальніцы, дзіцячыя сады, кінатэатры, школы, інстытуты, клубы.

I не проста бальніцы, а клінічны гарадок. I не проста інстытуты, а універсітэцкі гарадок.

Аднак у працоўным жыцці краіны трывала і неад'емна ўкараняліся гераічныя асновы, і гэта памагала жыць, працаваць, дамагацца свайго.

Сацыялістычнае спаборніцтва, зачынальнікамі якога былі рабочыя «Энергіі», сустрэчнае планаванне, «грамадскія буксіры», гаспадарчы разлік, тэхнічная вучоба (першым прадпрыемствам суцэльнай тэхнічнай пісьменнасці стаў зноў жа завод «Энергія»), рух рацыяналізатараў, рэйды «лёгкай кавалерыі», творчыя экскурсіі рабочых садзейнічалі бурнаму ўздыму эканоміі горада.

За дзесяць перадваенных гадоў Мінск вырас, расправіў плечы, папрыгажэў. Некалі далёкі бор стаў паркам культуры і адпачынку. На вуліцах зазвінеў трамвай. У цэнтры ўзняліся шматпавярховыя гмахі. На ўскраінах ля новых і старых фабрык і заводаў вырaслі добраўпарадкаваныя пасёлкі. Мяняўся сам воблік Мінска — усё выразней і настойлівей вырысоўваліся абрысы стольнага горада Савецкай Беларусі.

Абставіны, пры якіх пачалася Вялікая Айчынная вайна, паставілі Мінск у дужа цяжкае становішча. На другія ваенныя суткі ў ім заняліся пажары, а на трэція — ён ужо гарэў. 26—27 чэрвеня наша Трынаццатая армія вяла жорсткія няроўныя баі на яго подступах. Змагалася зацята. Аднак сілы ворага няспынна папаўняліся, і неўзабаве праціўніку, які прарваўся да горада з поўдня і поўначы, удалося авалодаць ім.

Сваё гаспадаранне захопнікі пачалі з паспешлівай арганізацыі канцэнтрацыйных лагераў, гета. Увялі драконаўскія абмежаванні, сістэму заложнікаў, кругавую паруку. У турмы кінулі сотні гараджан.

I ўсё ж, не лічачыся са смяротнай небяспекаю, мінчане давалі прытулак байцам і афіцэрам, якія трапілі ў акружэнне, аказвалі ім медыцынкую дапамогу. Многія з патрыётаў паплаціліся за гэта жыццём, і аднымі з першых — Вольга Шчарбацэвіч і яе чатырнаццацігадовы сын Валодзя. Знойдзеныя ў кішэні забітага на фронце фашысцкага афіцэра фотакарткі, на якіх адбіты момант Валодзінай смерці, зараз узрушаюць свет.

Не, горад не здаўся! 28 чэрвеня гітлераўцы ўвайшлі ў Мінск,— успомніце нямецка-кайзераўскую аку-

пацыю,— а ў пачатку ліпеня ў доме № 1 па Вірскай вуліцы ўжо адбыўся нелегальны сход камуністаў-чыгуначнікаў, і чыгунку затрэсла, закалаціла. Арганізацыйна аформіліся падпольныя групы на чале з камуністамі С. Зайцам, Н. Герасіменкам, І. Казінцом, Д. Караткевічам, удзельнікам Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. А. Арнтам... У барацьбу ўключаліся цэлымі сем'ямі — бацька, маці, дзеці.

З чаго пачалі падпольшчыкі? Успомніце нямецка-кайзерскую і белапольскую акупацыі! Са збору ўсяго, што трэба было барацьбе,— зброі, адзення, медыкаментаў. З тэрора ў адказ на гвалт захопнікаў, з прапаганды, якая нейтралізавала гебелеўскую хлусню. Горад перапляла закансПіраваная сетка баявых, дыверсійных, разведавальных, прапагандысцкіх груп, і зямля пад нагамі захопнікаў загарэлася.

Адной з галоўных задач падпольнага партыйнага камітэта створанага на агульнагарадской нарадзе ў лістападзе месяцы, стала арганізацыя партызанскіх атрадаў з мінчан і пасылка ваенных спецыялістаў, палітработнікаў, медыкаў у дзеючыя ўжо на Міншчыне атрады. І цяжка пераацаніць тое, што неслі ў партызанскі лес з сабою рабочыя, партыйныя работнікі, ваенныя спецыялісты, урачы, якія, апрача ўсяго, усялялі надзею — і параненаму табе памогуць! Мінск даваў партызанам парады, папярэджваў аб блакадах, карных экспедыцыях, планах ворага, паказваў прыклады мужнасці.

І ўсё гэта адбывалася ва ўмовах страшэннага акупацыйнага рэжыму. На мінчан абрынуўся нечуваны тэрор. Толькі за адзін майскі дзень сорак другога года гітлераўцы павесілі дваццаць восем найбольш актыўных дзеячаў падполля і дзвесце аднаго расстралялі. Вешалі на тэлеграфных слупах, на пабудаваных шыбеніцах, на дрэвах у скверах. Расстрэльвалі ў казематах турмы, у засценках СД, за горадам, недалёка ад вёскі Копішча.

Але барацьба працягвалася. Такі ўжо закон —

пралітая за справядлівую справу кроў не дае спакою жывым, кліча на барацьбу. Разгромлены гарком быў адноўлены. У падполле ўступілі новыя людзі. Барацьба перамясцілася на прадпрыемствы, ва ўстановы.

Выключны размах набыла дыверсійная работа. Рабочыя выпускалі бракаваную прадукцыю, выводзілі са строю абсталяванне, ламалі інструменты, выносілі і псавалі гатовыя вырабы, сыравіну, матэрыялы. Чыгуначнікі выводзілі са строю паравозы, узрывалі саставы. На заводах імя Варашылава і Мяснікова рабочыя ўзарвалі важнейшыя цэхі. Былі арганізаваны падпалы бензаскладаў, гаражоў з аўтамашынамі, абутковай і лямцавай фабрык. У маі 1942 года адбылося незвычайнае — убачыла свет падпольная «Звязда». У шмат якіх раёнах горада нават начныя фашысцкія патрулі баяліся паказвацца. Шэраг кварталаў Камароўкі, Даўгабродскай вуліцы, Пушкінскага, Грушаўскага пасёлкаў гарадскі камендант аб'явіў на асобым становішчы і забараніў салдатам і афіцэрам, калі цямнела, хадзіць там. Генерал фон Шперлінг вымушаны быў прызнацца: толькі на вуліцах Мінска знайшлі сваю смерць звыш тысячы шасцісот ваеннаслужачых і акупацыйных чыноўнікаў...

Мужнасць у чалавека, таксама як і дабрата,— ад прыроды. Як вялікі дар, яны могуць праяўляцца або не. Іх можна развіць. Але ў адрозненне ад дабраты мужнасць больш чым што-небудзь іншае залежыць ад асяроддзя, ад падрыхтаваных часам абставін. Мужнасці патрэбны пэўная атмасфера, прыклады, сцяг. Яна часта перадаецца як эстафета. У Мінску якраз былі гэтыя прыклады, гэтая атмасфера, якія рабілі мужнасць нормаю паводзін... Рэдкая ноч у горадзе праходзіла без таго, каб дзесьці нешта не гарэла або не чуліся выбухі, перастрэлка.

Прычым радасна адзначыць: мужнасць тут была накіравана не толькі супроць захопнікаў — яна брала пад ахову мірных людзей, іх здабыткі. У лясы паўднёвай прыгараднай зоны Мінска перад вырашальнымі баямі сорак чацвёртага года з горада было выведзена больш як пяць тысяч сем'яў мінчан. Створаныя гаркомам спецыяльныя групы ўзялі пад ахову фабрыкі, заводы, уцалелыя будынкі. Перадавыя армейскія часці

ўстанавілі з імі кантакты, і гэта выратавала Дом урада, будынак ЦК КП(б)Б, акруговы Дом афіцэраў, хлебазавод «Аўтамат»...

Што ўяўляў сабою вызвалены Мінск? Мора жоўтых пачварных руін. А паміж іх — чэзлыя гародзікі, абгароджаныя калючым дротам і спінкамі ложкаў, што пабывалі ў агні. Наўкол цяперашняй плошчы Перамогі каласілася жыта, расла бульба...

Ды вось цуд! Як толькі ў горад пачалі вяртацца мінчане, на закураных знявечаных каробках адразу ж з'явіліся клятвы: «З попелу і руін узнімем цябе, родны горад! З раніцы, па выхадных днях, і пад вечар, у рабочыя дні, да руін сцякаліся людзі. Неслі кіркі, лапаты. Прыходзілі з песнямі, нярэдка ў калонах, разыходзіліся моўчкі, часцей па адным. І, хоць на расчышчаных пляцоўках выраставалі клеткі цэглы і кучы жалеза, здавалася: руіны па-ранейшаму ўзнімаюцца ўсюды і ў вячэрнім змроку сталі нават вышэйшыя.

А з чаго пачынаўся цяпер славуты МАЗ? Яго рашылі будаваць у Чырвоным Урочышчы, дзе да вайны быў ваенны гарадок з аўтарамонтнымі майстэрнямі. Адступаючы, немцы паспелі адтуль сёе-тое вывезці, многае ўзарвалі. Вось сюды, накіраваныя Цэнтральным штабам партызанскага руху, і прыйшлі першыя будаўнікі. Некаторыя — прама з парада, якім завяршылася партызанская эпапея.

Пасяліліся адразу ў буданах пад соснамі, ва ўцалелых бараках. Жылі, як і ваявалі,— атрадамі. Мелі агульныя запасы харчоў. Штодзённа прызначалі дзяжурных у арцельных кухнях, па чарзе вазілі ў бочках ваду са Свіслачы. Вечарамі разводзілі вогнішчы, і тады зусім па-партызанску выглядаў бор.

Збядненне, разбурэнне, што прыносяць народам войны,— не навіна ў гісторыі, як не навіна і тое, што людзі працаю пераадольваюць іх. Пра гэта, як мы ба-

чылі, сведчыць і мінулае Мінска, які не раз паўставаў з руін. Але яго мінулае дасюль не ведала яшчэ ні такога працоўнага гераізму, ні такіх поспехаў і тэмпаў у самаадраджэнні.

Пры брацкай дапамозе шматнацыянальнай радзімы мінчане ўзнялі з нябыту горад рэдкай красы. Яны ператварылі яго ў буйнейшы прамысловы, навуковы і культурны цэнтр, у горад вышэйшых навучальных устаноў, даследчых інстытутаў, месца ўсесаюзных навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, міжнародных спартыўных спаборніцтваў.

Яго шырокія прыгожыя праспекты, дзе чалавек адчувае сябе гаспадаром, прасторныя плошчы — Уладзімір Ільіч на галоўнай з іх, абеліск з Вечным агнём у падножжа на плошчы Перамогі, мілыя ліпы на вуліцах ля тратуараў, бульвары, паркі, Купалаўскі і Коласаўскі мемарыялы — цешаць вока. Іх прымае сэрца, робіць любымі, сваімі.

А гэта ж яшчэ і цяпер не выходзіць з памяці, як на адну з кастрычніцкіх дэманстрацый мінскія аўтазаводцы ўзялі з сабой свае першынцы. Помню: калона іх рухалася па Савецкай вуліцы, абапал якой узвышаліся жоўтыя руіны, а наперадзе сцягоў і самадзейнага аркестра сунуліся чатыры грузавікі. Гэта было наіўна, але цудоўна! Бо адчувалася: у гэтым — пачатак вялікага, за якім — яшчэ большае, як і за ўсім, што стварае мужнасць.

У дзень жа 50-годдзя рэспублікі на колішняй Савецкай вуліцы, а цяпер Ленінскім праспекце, можна было бачыць ужо цэлы незвычайны парад.

Мы прывыклі і палюбілі дэманстрацыі, парады — урачыстыя маршы нашых воінаў, разліў сцягоў і свабодную хаду дэманстрантаў, маляўнічае шэсце фізкультурнікаў, бляск і сонца на трубах аркестраў. Але гэтым разам па галоўнай сталічнай магістралі рухаліся сотні машын, створаных уласнымі рукамі. Дэманстравалі мірныя працаўнікі палёў і фермаў! Яны ішлі доўга, ды ўсе, каму пашчасціла бачыць гэта, з павагаю глядзелі на іх.

Зараз цяжка пералічыць, што вырабляюць мінскія

фабрыкі і заводы. Многае, вельмі многае даюць яны краіне і свету — ад шарыкападшыпнікаў да аўтаматычных ліній, ад халадзільнікаў да электронна-вылічальных машын.

Не, дасягнуць такога без адвагі і мужнасці не дадзена!

Час, калі нямецка-фашысцкія захопнікі былі выгнаны з беларускай зямлі, аддаліўся на дзесяткі гадоў. У жыццё ўступілі і бяруць на сябе клопаты аб заўтрашнім дні пакаленні, для якіх Вялікая Айчынная вайна — далёкае мінулае. І ўсё-такі памяць аб ёй не гасне. Мажа быць, нават наадварот — з гадамі паўней раскрываецца веліч здзейсненага, глыбей усведамляецца яго цана, роля ў вызначэнні лёсу нашага і іншых народаў.

Чаму? Ды, мабыць, таму што час — найвышэйшы суддзя. Што вялікія, сусветныя падзеі лепш відны здаля. Што становіцца вядома, як і што зрабілі прапаўшыя без вестак. Таму што ў бронзу, у граніт апранаецца праўда, героі, а крыўда, чалавеканенавіснікі, іх чорныя тайныя планы і справы выкрываюцца да канца. Таму што мы пажынаем плёны вялікай перамогі і мірных сваіх намаганняў.

І вось што яшчэ хочацца нагадаць — марачы некалі пра пераможныя дні, мы верылі: савецкі народ-пераможца будзе народам-ардэнаносцам. Так, так! І няхай гэтыя мары сяму-таму здаваліся трошачкі несур'ёзнымі, яны ажыццявіліся. Ратных і працоўных ордэнаў удастоіліся і выдатныя воіны-працаўнікі, і рэспублікі Савецкага Саюза. Спраўджаннем нашай мары стала і прысваенне Мінску ганаровага звання горада-героя, якое далучыла яго да азоранай славаю кагорты, дзе,— Масква, Ленінград, Кіеў, Валгаград, Севастопаль, Адэса, Брэсцкая крэпасць, Наварасійск з яго легендарнай Малой зямлёю, Керч. Гісторыя ўвянчала Мінск высокім званнем, прызнаючы неўміручасць яго ваеннага подзвігу і тое, што ён астаўся жыць у працоўнай мужнасці мірных дзён. Недарэмна ж, калі едзеш па Мінску, пралятаеш над ім, мільённым, па раптоўных, нечаканых сувязях перад вачыма часта паўстаюць яго

ваенныя, пустыя, насцярожаныя вуліцы, гатовыя абваліцца руіны і зарыва над імі.

Працаю, клопатамі, любоўю сваёй мы загаілі ваенныя раны. Краіна наша развінула крылы, набрала разгон.

І, ой, як гэта верна:

Революция требует,
чтоб имелась
смелость,
смелость и еще раз —
смелость!

Як гэта правільна!..

# ГАЮЧЫЯ КРЫНІЦЫ

З цэлым народам гутарку весці,
Сэрцы мільёнаў падслухаць біцця —
Гэткай шукаю цэлы век чэсці,
Гэта адно мне падпорай жыцця.

*Я. Купала. «З кутка жаданняў», 1913 г.*

Буйныя гістарычныя падзеі ў жыцці народа, якія прыводзяць народ у рух, звычайна выклікаюць да жыцця такія ж буйныя падзеі і ў літаратуры. На іх хвалях узнімаюцца волаты мастацкага слова.

Адной з такіх выключна важных гістарычных падзей для беларускай літаратуры была рэвалюцыя 1905 года. Выкрыўшы антынародную сутнасць царызму, паказаўшы сапраўдную вартасць існаваўшых партый, сацыяльных груп і класаў, яна стала багацейшай школай палітычнага выхавання працоўных мас і ператварылася ў магутны фактар іх творчай актывізацыі і росту. Ужо напярэдадні рэвалюцыі, у 1902 годзе, Уладзімір Ільіч Ленін пісаў:

«Мы перажываем бурныя часы, калі гісторыя Расіі крочыць наперад сямімільнымі крокамі, кожны год значыць часам больш чым дзесяцігоддзе мірных перыядаў. Падводзяцца вынікі паўстагоддзю пасляреформеннай эпохі, закладваюцца камяні для сацыяльна-палітычных пабудоў, якія будуць доўга-доўга вызначаць лёс усёй краіны» [1]. Гэта, безумоўна, цалкам адносілася і да Беларусі — ускраіны былой царскай Расіі.

Адзначаючы рост сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці беларускага народа, Янка Купала ў артыкуле «Чаму плача песня наша?» пісаў:

«Калі ў памятны 1905 г. зрабілася завіруха, калі ў Расіі ў кожнага чалавека стала будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця,— то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго «я», стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі. Паявіліся паэты, песняры свайго забытага богам і людзьмі краю і долі народнай...» [2].

---

[1] Ленин В. И. Сочинения, издание IV, т. 6, с. 165.
[2] Газета «Наша ніва», 1913, № 30.

Рэвалюцыя 1905 года выклікала да жыцця цэлую плеяду выдатных паэтаў на чале з Я. Купалам і Я. Коласам, на долю якіх выпала стварыць сучасную беларускую літаратурную мову і з'явіцца заснавальнікамі і творцамі сучаснай беларускай паэзіі. Іх буйнейшы папярэднік Ф. Багушэвіч (1840—1900 гг.) сваёй творчасцю ўжо сцвердзіў у беларускай літаратуры крытычны рэалізм як галоўны напрамак яе развіцця. У яго творчасці выразна і моцна прагучаў пратэст сялянства супроць памешчыкаў і царызму, супроць нацыянальнага прыгнёту. Грамадзянская страснасць, дэмакратызм прасякалі творы Багушэвіча. Ён узбагаціў літаратуру ў жанравых адносінах, стварыўшы ўзоры сатырычных вершаў, балад, баек, апавяданняў, удасканаліўшы сам верш. У гэтым кірунку працавалі і сучаснікі Ф. Багушэвіча — Янка Лучына, Адам Гурыновіч. І ўсё-такі рэвалюцыя стала як бы мяжой паміж паэзіяй мінулага стагоддзя і навейшай паэзіяй. Яна фактычна знаменавала сабою нараджэнне беларускай прозы.

Янка Купала і Якуб Колас, выступіўшы як прадстаўнікі рэвалюцыйнага сялянства, выяўляючы запаветныя думы і мары яго, узнялі сцяг барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа і з чэсцю пранеслі гэты сцяг праз усе нягоды тагачаснага жыцця. З'яўляючыся стваральнікамі палітычнай лірыкі ў беларускай паэзіі, Янка Купала і Якуб Колас адначасова стварылі ўзоры манументальнага эпічнага мастацтва, у тым ліку ў галіне драматургіі, а Я. Колас — і прозы.

Адметнай рысай усёй беларускай дакастрычніцкай літаратуры з'яўляліся відавочная перавага паэзіі і моцны ўплыў вуснай народнай творчасці на ўсе жанры. Паэзія, як літаратурны род, не толькі мела большую і значна багацейшую гісторыю, чым драматургія і проза, і колькасна ды якасна пераўзыходзіла іх, але яна ўладарна вызначала і шляхі развіцця для ўсяе мастацкай літаратуры. Яна з'явілася своеасаблівым выходным пунктам і для драматургіі і для прозы. З лібрэта оперы і вадэвіля па сутнасці пачынаецца новая гісторыя беларускай драматургіі, а з жанраў, што стаяць дзесьці на грані прозы і паэзіі,— гісторыя беларускай прозы. Сольныя і харавыя песні, дуэты і прыпеўкі, вершаваныя маналогі былі істотнымі і неад'-

емнымі кампанентамі п'ес ад В. Дуніна-Марцінкевіча да Янкі Купалы. Вершаваныя аповесці і апавяданні былі ўлюбёнымі жанрамі беларускіх пісьменнікаў ад таго ж Дуніна-Марцінкевіча да Якуба Коласа.

Вызначаючы спецыфіку паэзіі і прозы, М. Някрасаў у сваёй рэцэнзіі на вершаваную аповесць «Вясковы выпадак» Н. Хвашчынскай падкрэслівае: «Розніца паміж вершамі і прозай не ёсць толькі знешняя: яна абумоўлена самім зместам літаратурнага твора. «Вясковы выпадак» іменна па зместу свайму належыць да ліку аповесцей, якія патрабуюць прозы, той ужо выпрацаванай у апошні час прозы, здольнай перадаць усе адценні думкі, усе звівы псіхалагічнага развіцця характараў... Справа прозы — аналіз, справа паэзіі — сінтэз... Празаік цэлым радам рыс — разумеецца, не па-нявольніцку прыкмечаных, а па-мастацку схопленых,— аднаўляе аблічча жыцця; паэт адным вобразам, адным словам, часам адным шчаслівым гукам дасягае той жа мэты» [1].

Многім празаічным творам таго часу якраз і бракавала гэтай эпічнай апавядальнасці, шырыні і шматграннасці ахопу рэчаіснасці, глыбіні псіхалагічнага аналізу, гэта значыць, таго, што складае сутнасць, сілу і прыгажосць рэалістычнай мастацкай прозы.

З другога боку, беларуская проза не магла пазбавіцца ад прымітыўнага бытавізму, алегарычных вобразаў, наіўнай дыдактычнасці. Нязменнай крыніцаю яе сюжэтаў, тэм, стылістычных прыёмаў з'яўлялася вусная народная творчасць. Празаічныя творы самых розных паводле сваёй ідэйна-палітычнай накіраванасці пісьменнікаў канца XIX і пачатку XX стагоддзя — Ф. Багушэвіча, К. Каганца, Ядвігіна Ш., Цёткі, М. Багдановіча і нават празаічныя рэчы Зм. Бядулі — часцей за ўсё ўяўлялі сабою невялікія гумарыстычныя або алегарычныя апавяданні, якія шмат у чым нагадвалі народныя казкі, байкі, дасціпна расказаныя анекдоты ці лірычныя, усхваляваныя імпрэсіі. Жанр аповесці і рамана наогул адсутнічаў.

Не багацейшай была і драматургія канца XIX і пачатку XX стагоддзя. У ёй панаваў бытавізм. Кола яе вобразаў і тэм было надзвычай вузкае. Янка Купала,

---

[1] Некрасов Н. А. Полное собрание сочинений и писем, ГИЗ, 1950, т. 9, с. 670.

безумоўна, перад усім — паэт і пясняр. I гэта не толькі таму, што паэтычная спадчына пісьменніка ў першую чаргу вызначае яго месца і ролю ў гісторыі развіцця грамадскай думкі беларускага народа, ролю і месца ў станаўленні і развіцці беларускага мастацкага слова. Ва ўсім успрыняцці рэчаіснасці, у падыходзе да яе адлюстравання ён заставаўся паэтам нават і ў сваіх драматычных творах. Ды і да твораў, прызначаных для сцэны, ён прыйшоў праз драматызаваныя паэмы. I ўсё-такі, калі нельга гаварыць пра стварэнне Купалам-драматургам уласнага тэатра, дык затое зусім праваМерна гаварыць пра выключна важнае значэнне, якое мела творчасць Я. Купалы ў гісторыі беларускай драматургіі, у вызначэнні кірунку яе развіцця.

Уся літаратурная дзейнасць Янкі Купалы ўяўляе сабою не толькі прагныя пошукі шляхоў жыцця і форм барацьбы за лепшае будучае, але таксама і няспынныя пошукі запаветнага слова, нязведаных паэтычных шляхоў. Ён шукаў гэтае запаветнае слова ўсюды: і ў жыцці, і ў вуснай творчасці народа, і ў здабытках сваіх папярэднікаў, і ў здабытках сваіх сучаснікаў, і, вядома, маюць рацыю даследчыкі купалаўскай спадчыны, калі імкнуцца асэнсаваць яе ў пэўным аспекце, апасродкаваць яе, скажам, у сувязі з фальклорам або ўстанавіць наяўнасць на пэўным этапе творчасці паэта тых ці іншых уплываў.

Аднак часта падобныя правамерныя апасродкаванні прыводзяць даследчыкаў, на маю думку, да неправамерных вывадаў і заключэнняў.

Даследчыкі часам праходзяць міма такіх фактаў, як пэўная агульнасць эканамічных, гістарычных і палітычных умоў, у якіх жылі народы былой царскай Расіі і якія нараджалі шмат у чым падобныя літаратурныя з'явы. Не ўлічваючы магчымасці скрыжавання супярэчлівых уплываў, а галоўнае — ігнаруючы ці недаацэньваючы ролю самой асобы паэта як творцы, некаторыя даследчыкі разглядаюць пісьменніка як амаль пасіўны чыннік, нібыта гісторыя літаратуры — гэта толькі просты працэс паступовай эвалюцыі, а дзейнасць пісьменніка — толькі звычайнае ўдасканальванне таго, што зроблена папярэднікамі. Яны не ўлічваюць, што літаратурны працэс, як і працэс развіцця наогул, ёсць бурны супярэчлівы рух наперад — не толькі праз эвалюцыйнае развіццё, але і рэвалю-

цыйныя пераўтварэнні. Сапраўды магутны мастацкі талент наватарскі па сваёй прыродзе і існасці, і на яго долю, як правіла, прыпадаюць адкрыцці ў літаратуры. Наўрад ці будзе хто пярэчыць супраць таго, што талент Янкі Купалы — паэта, які, імкліва ўзняўшыся з народных нізоў, зрабіўся сцягам беларускай літаратуры, быў іменна такі. Таму нішто не можа паасобку быць названа адзінай крыніцай купалаўскай паэзіі ці драматургіі і не можа служыць адзінай меркай пры вызначэнні іхняй прыроды, метаду, характару ці стылю. Пошукі Я. Купалы былі не толькі звычайнымі пошукамі самастойнасці, непазбежнай пры фармаванні мастака, яны былі свядомымі пошукамі шляхоў для ўсяе беларускай літаратуры, і ў першую чаргу шляхоў яе ўзбагачэння. Паэт глядзеў на сваю дзейнасць як на грамадска-патрыятычны абавязак.

Верачы ў будучае беларускай літаратуры, Ф. Багушэвіч у прадмове да зборніка вершаў «Смык беларускі» (1894 г.) пісаў: «Вот я і запісаў з дзесятак песняў «сякіх-такіх»... Граю трошкі на скрыпачцы, ну дык няхай і мая ксёнжачка завецца струмантам якім; вот я і назваў яе «Смык». Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе, а там была «Дудка» — вот і мы зробім музыку...». «Скрыпку беларускую» напісала Цётка (1906 г.). Каб «зрабіць музыку», Янка Купала палічыў сваім абавязкам стварыць «Жалейку» (1907 г.), а затым — «Гусляра» (1909 г.).

## I

Росквіт драматургіі Янкі Купалы прыпадае на 1912—1913 гг., перыяд новага рэвалюцыйнага ўздыму, калі паэт стварыў тры сцэнічныя рэчы — «Паўлінку», «Прымакі» і «Раскіданае гняздо», да якіх, нібы падрыхтоўчымі працамі, былі драматызаваныя паэмы — «Адвечная песня» (1908 г.) і «Сон на кургане» (1910 г.), напісаныя ва ўмовах рэакцыі, што наступіла пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года.

Першая драматызаваная паэма — значная з'ява ў творчасці Янкі Купалы. Яна была, па сутнасці, адной з першых спроб паэта ў галіне буйнага жанру і ў пэўных адносінах як бы падагульвала пройдзенае і ў скандэнсаванай форме падавала тое, аб чым ужо гаварылася ў лірыцы папярэдніх гадоў. Тут, як і ў вершах,

скажам, «З песень беззямельнага», адлюстравалася цэлае жыццё селяніна-бедняка ад дня яго нараджэння да самай смерці — жыццё, поўнае гора, цяжкой працы, пазбаўленае нават скупых рэдкіх радасцей, не зацямнёных нястачай або сумнымі думкамі аб будучыні. Хрэсьбіны, служба парабкам, вяселле, сталасць, праца ўвесну, улетку, увосень і ўзімку, дачасная смерць і хаўтуры — вось вехі гэтага жыцця ў паэме. Доля, бяда, голад, холад, поры года тут персаніфіцыраваны і выступаюць як прыяцелі, дарадцы ці ворагі селяніна, якія прымаюць дзейны ўдзел у яго лёсе, спачуваюць яму ці злараднічаюць з яго бяды.

«Адвечная песня» Я. Купалы была напісана праз два гады пасля таго, як убачыла свет «Жыццё чалавека» Леаніда Андрэева (1871—1919 гг.) — «відовішча ў пяці карцінах з уступам». Наяўнасць падабенства ў сюжэтнай схеме, а таксама знешняя блізкасць умоўных па свайму характару вобразаў у гэтых творах, бадай, з'яўляюцца відавочнымі і агульнавядомымі. На гэтае падабенства звярталі ўвагу амаль усе даследчыкі творчасці Я. Купалы, пачынаючы з акадэміка Е. Карскага [1]. Пра сваю часовую зацікаўленасць творчасцю Л. Андрэева гаварыў таксама і сам паэт. «Потым я аддаў даніну часу,— пісаў ён у лісце ад 21 верасня 1928 г. да свайго біёграфа,— і захапіўся, што называецца, сімвалістамі — Андрэевым, Салагубам і інш., з польскіх — Пшыбышэўскім».

Таму вельмі важна для разумення таго, як фармаваўся творчы метад народнага паэта, высветліць сілу і «ўдзельную вагу» гэтага ўплыву на яго творчасць.

Мне здаецца паказальным у дадзеных адносінах, напрыклад, такі купалаўскі верш, як «Снег», і гісторыя яго напісання, аб якой гаворыць у сваіх успамінах жонка паэта У. Луцэвіч.

«Я памятаю, былі мы аднойчы ў польскім тэатры, глядзелі драму Пшыбышэўскага «Снег». Пастаноўка нам вельмі спадабалася. П'еса гэта захапіла да глыбіні душы Я. Купалу. Калі мы выйшлі з тэатра, на вуліцы падаў снег. Была дзіўная цішыня... Назаўтра я атрымала ад Купалы ліст нарачным. У лісце быў укладзены новы верш «Снег» [2]».

---

[1] Карский Е. Белорусы, т. III, ч. 3, с. 229.
[2] Часопіс «Беларусь» 1945, № 6, с. 27.

Але вось тут, у творы, напісаным пад непасрэдным уражаннем ад пастаноўкі п'есы С. Пшыбышэўскага (1868—1927 гг.), як непасрэдны водгук на яе, у вершы, дзе найбольш выразна праявілася гэтае часовае захапленне паэта «модным» напрамкам, адчуваецца, што Я. Купала, захоўваючы асобныя атрыбуты сімвалістаў, усё-такі ішоў ад натуры. «Калі мы выйшлі з тэатра, на вуліцы падаў снег. Была дзіўная цішыня...» Справа ў тым, што і ў гэтым вершы паэт не пакідаў жыць думкамі і падзеямі канкрэтнага дня і не цураўся надзённых запатрабаванняў.

У купалаўскім «Снезе» рэчаіснасць не губляецца ў туманных метэрлінкаўскіх намёках-недамоўках, у двухпланавасці вобразаў, што было так характэрна для драмы С. Пшыбышэўскага. Больш таго — некаторыя строфы верша гучаць амаль іранічна, бо рэфрэн — «гэта снег, толькі снег» — не перамагае жыццёвай перакανальнасці карціны, намаляванай у папярэднім пяціраадкоўі, і не можа зняць тую ідэю, якая вынікае з гэтага пяціраадкоўя:

Хтось сваяк, не сваяк,
Як жыў, скончыўся так,
Прагудзеў поп і звон,
Ідзі з памяці вон:
Бой за хлеб не на смех!
Гэта снег, толькі снег.

Усё гэта яшчэ ў большай ступені можна сказаць пра «Адвечную песню» — паэму з выразнай сацыяльна-палітычнай тэндэнцыяй, надзвычай далёкай ад андрэеўскай пропаведзі асуджанасці чалавека і яго намаганняў вырвацца з жалезнага кола, наперад акрэсленага нейкім няўмольным лёсам, пропаведзі, поўнай песімізму і містыкі, у якіх адлюстраваўся адчай буржуазіі, што прадчувала сваю пагібель.

Нягледзячы на ўмоўнасць некаторых вобразаў і сітуацый «Адвечнай песні», персаніфікацыі такіх паняццяў, як Жыццё, Доля, Бяда, Холад і Голад, якую, дарэчы, можна сустрэць і ў народных песнях ды казках, тут дзейнічаюць персанажы, што захоўваюць свае істотныя класавыя адзнакі. Ва ўступе да драмы Л. Андрэева «Жыццё чалавека» «Нехта ў шэрым», прадракаючы лёс чалавека, гаворыць: «Нарадзіўшыся, ён прыме воблік і імя чалавека і ва ўсім зробіцца падобны да іншых людзей, якія ўжо жывуць на зямлі. І іхні

жорсткі лёс будзе ягоным лёсам, і ягоны жорсткі лёс адстане лёсам усіх людзей». У першай жа праяве «Адвечнай песні» хор зданей, спяваючы над калыскай нованароджанага, адразу ж дае яму імя Мужыка і вызначае яго пэўнае месца ў грамадстве:

Гэй, спраўма над ім тут хрысціны —
Слязы і крыві церушыны!
Хай будзе ні мал, ні вялік,
Няхай носіць імя: Мужык.

«Усясільнай рукою тварэння» Жыццё дае яму права на існаванне, яно ахвяруе яму, як істоце «самага найдасканальшага роду», ва ўласнасць ваду і зямлю і малюе неабсяжныя перспектывы, што павінны раскрыцца перад чалавекам, як перад царом і пераўтваральнікам прыроды:

Ён будзе ўсіх чыста дужэй,
Ён будзе ўсіх чыста мудрэй.
І рэкі, і долы, і горы
Яго будуць слухаць з пакорай...

Гэта проста супрацьлегла таму, што заяўляе «Нехта ў шэрым», калі гаворыць пра чалавека: «Прыйшоўшы з начы, ён вернецца да начы і згіне бясследна ў бязмежнасці часу, не мыслімы, не адчуваемы, не веданы нікім».

Не злавесны і непераадольны лёс, а толькі цень ад цямніц атуманьвае тут будучае Мужыка. І калі ў Л. Андрэева жыццё пазбаўляецца сэнсу, рэальныя адносіны і прапорцыі парушаюцца, прычыны і вынікі блытаюцца і ўсё вырашае выпадак, дык у Я. Купалы карціны ў сваёй аснове застаюцца рэалістычнымі, усе з'явы і падзеі ў паэме маюць сваё лагічнае выйсце і строга абумоўлены. І хаця Нядоля, Бяда, Холад і Голад неадступна ідуць следам за Мужыком, тут яны — не нейкія містычныя істоты, а проста вобразнае ўвасабленне таго, што нараджае тыя ўмовы, у якія трапляе селянін і ахвярай якіх ён нарэшце робіцца. Дворны парабак, затым — гаспадар-бядняк, абцяжараны вялікай сям'ёй, падаткамі і паборамі, які не мае магчымасці выблытацца з даўгоў, спрацаваны і знясілены, ён гіне. Аб непазбежнасці паўперызацыі асноўнай масы сялянства ва ўмовах капіталістычнага грамадства гаворыць у паэме Янка Купала. І калі герой Л. Андрэева адмаўляе і праклінае ўсё: і жыццё, і гора, і радасць, і дзень, калі ён нарадзіўся, і дзень, калі ён

памрэ, і сваё сэрца, і свой розум, герой Я. Купалы адмаўляе толькі несправядлівасць грамадскіх умоў, у якіх ён жыў і якія не далі магчымасці здзейсніцца сапрароцтву Жыцця. Кантраст паміж магчымым і сапраўдным, паміж навакольным багаццем і сялянскай беднасцю чырвонай ніткай праходзіць праз усю купалаўскую паэму і завяршаецца ў наступных словах Мужыка, вельмі блізкіх да вядомага някрасаўскага двухрадкоўя («Вместо цепей крепостных люди придумали много иных»):

Вынімала мне паншчыны дух,
Зжыў яе — думаў, воля дасць хлеб,
А ці звёў, ці не звёў той ланцуг,
Як за паншчынай, бедзен і слеп.

Няма тут і «жыццёвага кола» Л. Андрэева. У росквіце сваіх сіл купалаўскі Мужык, звяртаючыся да касы — нязменнай зброі сялянскага паўстання і традыцыйнага вобразнага ўвасаблення ідэі гэтага паўстання, марыў пайсці з ёй «здабываць шчасце новае». І няхай яшчэ «не зломлены к шчасцю вароты, слязы не ўбыло — прыбыло», нашчадкі Мужыка ўжо не абмяжоўваюцца толькі марай — яны дзейнічаюць: адзін яго сын «у здзеку загінуў, за праўду, за крыўду сваю», «другога чужына змагае», «варта пры трэцім стаіць».

Аднак сталыпінская ноч, што ахінала краіну, звужала далягляд паэта. У атмасферы рэнегацтва і адступніцтва значнай часткі інтэлігенцыі, у атмасферы, што атручвалася прадстаўнікамі дэкадансу — гэтага «кодла «бледнай немачы», што спадарожнічае заняпаду класа» (Г. Пляханаў), ён да некаторай ступені губляў перспектыву. А бліжэйшае будучае ўяўлялася паэту значна больш змрочным, чым, скажам, у перыяд «Жалейкі». У той жа час у «Адвечнай песні» не толькі няма прымірэння з рэчаіснасцю, але няма і адмаўлення ад барацьбы. Адмаўленне існуючага парадку рэчаў у ёй спалучаецца з паэтавым дакорам па адрасу той часткі сялянства, якая пагадзілася з сваім лёсам і не здолела ажыццявіць сваё абяцанне, адтачыўшы касу, «пад песню слёзную» пусціць яе ў ход —

Хай зноў бачыць свет
Сілу грозную.

У ёй ёсць нешта зноў-такі ад някрасаўскага абурэння на сялянскую пасіўнасць і пакорлівасць:

Их нищета, их терпенье безмерное
Только досаду родит...

Янка Купала і раней быў далёкі ад ідэалізацыі сялянства, бачыў ягоныя слабыя бакі і калі-нікалі ўказваў селяніну на абмежаванасць ягоных інтарэсаў, на бязропатнасць і пасіўнасць, на вузка асабісты дробнаўласніцкі характар ідэалаў. У «Адвечнай песні» ён паказаў гэтыя слабыя бакі сялянства ў дзеянні. Усім развіццём сюжэта паэмы Я. Купала давёў нікчэмнасць надзей пакорай і плачам дасягнуць шчасця і волі. Вуснамі Лета ён з затоенай журбой, болем звярнуўся да селяніна:

І не стыдна ж табе век-вяком,
Хоць і дуж, як той дуб векавы,
Вясці гутарку ўсё са плачом,
Ніжэй гнуцца павялай травы!

Нараканнем не зможаш бяды,
Хоць дзень, ноч наракай, небарак:
Шчасце ходзіць рады у гады,
Абнімаючы вёску ўсяляк.

У шчыльнай сувязі з гэтым знаходзіцца другі матыў творчасці Янкі Купалы — матыў пошукаў шчасця, будучыні. Водгук яго чуваць і ў «Адвечнай песні»:

Эй ты, небарача,
А дзе шчасце тое?

Ужо значна пазней, аглядаючыся назад, на сваё мінулае, Янка Купала ўспамінаў: «З краю ў край па палях роднай Беларусі блукаў я ў пацьмах народнага гора і няволі народнай. Дзе шляхі да яснай долі і волі? Дзе светазарная праўда? Калі ўзойдзе наша сонца і ці ўзойдзе яно калі-небудзь?»

У 1911 годзе Янка Купала напісаў вялікі сюжэтны верш «У купальскую ноч». Выкарыстоўваючы народныя паданні пра дзівосную кветку-папараць, паэт малюе ў ім настойлівыя, але пакуль што марныя намаганні героя верша здабыць гэту красу шчасця, бо яе пільна ахоўваюць дух пушчы і злыя нямыя немачы. І знясілены, пасля доўгіх дарэмных пошукаў, як сноп жыта, валіцца гаротны чалавек пры сасонцы. Аднак з яго змучаных грудзей, як і раней, вырываецца крык: «Дайце кветку! Дайце сонца!»

У алегарычнай форме раскрыў паэт «У купальскай ночы» і прадумовы поспеху: чалавеку, каб здабыць

цудадзейную папараць, трэба, як горкаўскаму Данко, самаахвярна вырваць уласнае сэрца і запаліць яго паходняй, асвятліўшы сабе шлях.

Верш «У купальскую ноч» быў нібы варыянтам драматызаванай паэмы «Сон на кургане» і ўдакладняў змест і ідэю паэмы. Герой яе са знамянальным імем Сам, як і герой «У купальскую ноч», таксама шукае скарб-шчасце і таксама не знаходзіць яго.

Скарб сцеражэ Чорны і яго найміты — касцятрупы-відмы. На іх баку — закон, права, варта і грошы. А Сам — адзін. Ягоныя аднавяскоўцы, такія ж гаротнікі, не хочуць, а магчыма, пакуль і не могуць зразумець яго. І калі здараецца ў вёсцы пажар, Сама як падпальшчыка выдаюць прыставу.

Знамянальна, што ў паэме Янка Купала таксама выкарыстоўвае горкаўскі вобраз палаючага сэрца-паходні, але пераасэнсоўвае яго ў крыху іншым аспекце. У час арышту Сама з'яўляецца стары-жабрак і глуха, панура выракае:

> З грудзей вырві сваё сэрца,—
> Зіму, лета сушы ў печы;
>
> А як высахне, смалою
> Злі жывое сэрца тое,—
>
> Падпалі тады лучынкай,
> Каб гарэла без упынку,
> Як пажар гарэў сягоння,—
> І ідзі ў свет, як з паходняй:
> Праўду йдзі так і ім шукаці...

Побач з заклікам ісці шукаць праўды, тут акцэнт робіцца ўжо на сцверджанні, што ў навакольным жыцці праўды няма. Праўды няма таму, што яе схавалі цёмныя сілы, якія пануюць у жыцці, што рэвалюцыя пацярпела паражэнне, што народ зноў не згуртаваўся для барацьбы і не падтрымлівае праўдашукальнікаў, і нават бацькі выракаюцца сваіх дзяцей.

Недарэмна пасля слоў Старца з'яўляюцца дзяўчынка і хлопчык і са слязамі пытаюць маці, што звар'яцела ў час пажару:

> Маці, маці!
> Дзе наш тата, дзе наш тата?

І ў адказ чуюць гнеўны голас вар'яткі:

> Вон ягнята, вон шчанята!

Ключавым, мне здаецца, у паэме з'яўляецца апошні, чацвёрты абразок, напісаны ў журботна-іранічным тоне, з затоеным болем.

Ноч. Лютая зіма. У карчме збіраюцца ўбогія наведвальнікі. Яны шумна рассаджваюцца вакол сталоў, п'юць гарэлку і час ад часу падымаюць кплівыя, жорсткія тосты-праклёны. Яны п'юць за згубу ўласнай долі, за ланцугі, у якіх закуты, за тых, хто, спажываючы плён іхняй працы, асудзіў іх на вечныя пакуты і здзекі.

За тыя дзікія напасці,
За нашу брацкую нязгоду,
За тых, што след закрылі к шчасцю,
А паказалі сюды ходы!

Сярод наведвальнікаў карчмы — Сам. Ён таксама прымае ўдзел у гэтай роспачнай весялосці, якая шмат у чым нагадвае памінкі.

Аднак у горкіх і злых словах прысутных і нават там, дзе Сам гаворыць пра абяздолены народ як пра пакорных нявольнікаў і шкадуе, што яго яшчэ замала пёк сівер, адчуваюцца ўпартасць, воля, якія з развіццём падзей у паэме ўсё больш выразна прарываюцца на паверхню. І калі ў карчму прыходзіць мнішка і просіць міласціну на божы храм, ёй замест грошай даецца парада:

Дзяцей ідзі лепш гадаваці —
На бітву будучую сілы.

Затое медзякі шчодра сыплюцца ў шапку фокусніка, які, робячы маніпуляцыю з паперкай, дасціпна дэманструе добра вядомыя прысутным карціны з жыцця селяніна-лапатніка. Не з меншым спачуваннем сустракаюць карчомнікі і сумную Самаву песню-мару пра той час, калі народ кіне стагнаць ды маліцца і зноў пачне кляпаць косы «на чырвоныя на росы, што палеткі сушаць нашы», і нават падпяваюць яму. Маўчыць толькі шынкар. І песня штораз мацнее. Калі ж у шынкоўні з'яўляецца стражнік, яна пераходзіць у нямы — без слоў — гул, але не сціхае.

Гэта — найбольш змрочны, у сэнсе надзей і спадзяванняў на заўтрашні дзень, купалаўскі твор, дзе даволі моцна гучаць ноткі горычы, адчуваецца хваравітая рэакцыя на перажытае ды бачанае і пануюць улюбёныя дэкадэнтамі тэмы начы, цемры, асенняга ўвядання, настроі тугі і суму.

У барацьбе з буржуазна-феадальным рэжымам сялянства — як адна з рухаючых сіл рэвалюцыі 1905 года — было пераможана, і гэта напоўніла творчасць паэта цэлай гамай складанейшых супярэчнасцей. Яны былі не столькі вынікам уплыву варожай па самой сваёй класавай прыродзе і духу дэкадэнцкай літаратуры, колькі адбіткам самой рэчаіснасці, адлюстраванием «магутнасці і абмежаванасці... сялянскага руху» (У. І. Ленін), песняром якога з'яўляўся паэт, прычым «магутнасці і абмежаванасці» ва ўмовах паражэння рэвалюцыі, калі ўзмоцненая рэакцыяй абмежаванасць часам засланяла магутнасць. І як вынік — слабасць, абмежаванасць сялянскага руху Янка Купала інтэрпрэтыраваў як абыякавасць народа да лёсу сваіх абаронцаў. Часовы спад рэвалюцыйнай хвалі здаўся яму бясконцым, немаччу, якія пэўны і значны прамежак часу будуць трымаць народ у сваіх абцугах. Незадаволенасць абурэнне з прычыны паводзін бяссільных людзей, якія адмовіліся ад барацьбы за лепшае будучае, знешне набылі ў яго форму дакору ўсяму народу. Таму і падзеі, і здарэнні, і лёс людзей, што падаюцца ў «Сне на кургане», афарбаваны ў тужліва-журботныя тоны, і дарэмна тут шукаць карцін чалавечай радасці. А калі і малюецца гэтая радасць — скупая весялосць на хвіліну, дык ад яе яшчэ больш балюча сціскаецца сэрца і яшчэ больш змрочнай здаецца ўся намаляваная карціна.

Побач з гэтым, з'яўляючыся актыўным удзельнікам рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху, Я. Купала застаўся далёкім ад пагарды да рэальнага жыцця і чалавека, як гэта было з эстэтамі дэкадансу, якія, прадчуваючы пагібель свайго класа, канчаткова згубілі ўсякую веру і надзею на будучае. Купалаўская туга, сум, як туга і сум вялікага рускага «печальника горя народного», імя якога я ўжо ўспамінаў двойчы,— дзейсныя і мэтаімклівыя пачуцці. Выкліканыя змрочнай сапраўднасцю, нясцерпным становішчам працоўных мас, яны абуджалі крытычную думку народа і сілай свайго адмаўлення актывізавалі яго свядомасць, волю.

Абараняючы ў дыскусіі, што ўзнікла ў 1913 годзе на старонках газеты «Наша ніва», рэалістычны напрамак у беларускай літаратуры, Янка Купала ў артыкуле «Чаму плача песня наша?» пісаў:

«Невясёлая цяпер態шчына не магла настроіць у вясёлы тон думку паэта. Душа яго лунала над бацькаў-

шчынай, як над безгранічным абшарам, дзе пошасць і пажары аставілі груды непахаваных касцей, а неба пачарнеўшае ад дыму. Мінуўшчыну ўспомніць — гэта значыць успомніць паншчыну... Углыбіцца ў народныя песні? Праўда, у іх ёсць хараство яшчэ некранутае, як доля беларуса, як шум пушчы ўвосень, і калі прабіваецца вясёлая нотка, то толькі ў песнях карчомных, бяседных. Скажаце: сігаць у будучыню. Але народ, каторы не найшоў яшчэ веры ў сябе, ці ж захочыць паверыць у казкі аб будучыні? І паэт воляй-няволяй не можа абмінуць і замаўчаць цяперашняга жыцця. Не да пацехаў, калі хата гарыць...»

«Такім вось парадкам,— пісаў Я. Купала,— не магла не зляжыцца, трохі, можа, і залішне наракаючая на цяжкую людскую долю, наша сучасная песня,— але яна вечна такой не будзе, як і народ жывы вечна не будзе спаць мёртвым сном».

Дык вось песні журбы, абурэння і смутку, у якіх «трохі, можа, і залішне наракалася на цяжкую людскую долю», былі, па думцы паэта, сродкам, каб абудзіць народ ад сну, сродкамі, якія вымагалі і абставіны і час. І калі немачы, сон пачалі праходзіць, Янка Купала стварыў сваю трэцюю драматызаваную паэму «На папасе» — «абразок з 1906 года».

У цэнтры паэмы паэт паставіў вобраз Незнаёмага — чалавека мужнага сэрца, змагара. Выхадзец з бядняцка-сялянскай сям'і, які сам асіліў «кніжны лад», ён з юнацкіх год аддаў сябе вялікай справе барацьбы за народнае вызваленне. І які ні камяністы і цяжкі быў яго шлях, ён крочыў наперад. Гарачая любоў да шматпакутнага роднага люду жывіла яго, упэўненасць, што народ нарэшце ўстане і сонцу падасць свой голас, ратавала ад роспачы.

Паэма прасякнута верай у заўтрашні дзень, усхваляваным прадчуваннем наступных вялікіх падзей — новай рэвалюцыйнай навальніцы. І як гімн гэтаму дню, гэтай навальніцы, гучыць славутая песня Незнаёмага пра бяссмертнага адважнага Лявона, песня, у якой герой, у скарочаным выглядзе паўтарыўшы пройдзены Мужыком і Самам шлях, ператвараецца ў сапраўднага змагара.

Змяняюцца таксама і ўзаемадачыненні паміж героем і масай — народам. Парою, падобна Саму, наракаючы на народную пакорлівасць, Незнаёмы ўжо з упэўне-

насцю глядзіць у заўтра і з поўным давер'ем ставіцца да сіл і здольнасцей народа. Развітваючыся з падарожнымі, ён пераконана заяўляе, што праз некаторы час — «як звянуць сёлеташнія лісці» і зноў прыйдзе «радаўніца» — абавязкова сустрэнецца з імі. З другога боку, як і раней аднавяскоўцы Сама, варожыя і недаверлівыя ў адносінах да Незнаёмага падарожныя паступова пранікаюцца да яго прыхільнасцю, павагай, ратуюць ад паліцыі і нават абяцаюць пры патрэбе дапамогу. Песня Незнаёмага пра асілка-Лявона западае ім у сэрца, і ў канцы яны зладжана заводзяць яе, бо першы запомніў сумны пачатак, другі — галасістую сярэдзіну, а трэці — яе баявыя заключныя страфы.

Рэвалюцыянізіруючую ролю купалаўскіх паэм добра адчувалі ідэйна-палітычныя праціўнікі паэта. Як толькі «Адвечная песня» ўбачыла свет, польскі буржуазны крытык Зенон Пяткевіч у тыднёвіку «Праўда» выступіў з рэзка адмоўнай рэцэнзіяй на паэму. Абураючыся супроць «тэндэнцыйнага», «агітацыйнага» характару сучаснай беларускай паэзіі наогул, З. Пяткевіч абвінаваціў Я. Купалу ў тым, што ён палівае твор «штучнымі слязьмі», груба, без прыкрас паказвае жыццё селяніна-бедняка і, відаць, імкнецца, каб селянін узненавідзеў гэтае жыццё і задумаўся над сваім лёсам. «Аўтар,— з абурэннем піша крытык,— ні на адну хвіліну не дазваляе беднаму Мужыку забыцца, што ён самы нешчаслівы чалавек пад сонцам, што яго праца на полі — гэта цяжкая работа катаржніка. Нават у святочныя дні прысылае да яго падатковых агентаў і зборшчыкаў магазіннага збожжа».

Такім чынам, у драматызаваных паэмах Янкі Купалы на матэрыяле з жыцця беларускай вёскі ў перыяд рэакцыі адлюстраваўся цэлы, надзвычай важны ў сэнсе абуджэння і фармавання сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці беларускага працоўнага сялянства, этап. У паэмах паэт паказаў гістарычны шлях, па якім ішло і прыйшло сялянства да новай рэвалюцыі. Вобраз касы — як сімвал сялянскага паўстання, які нязменна прысутнічае ва ўсіх трох паэмах, лішні раз сцвярджае гэта. Вось чаму мне здаецца, што драматызаваныя паэмы як бы ўяўляюць сабой адзіную ў сваёй мэтанакіраванасці трылогію — твор аб сіле і слабасці сялянства, аб яго абмежаванасці і яго магчымасцях.

Адносіны Янкі Купалы да сімвалістаў — А. Андрэева, П. Салагуба, С. Пшыбышэўскага — не могуць быць правільна зразуметы без уліку таго, як ставіўся паэт да літаратуры наогул, да ролі пісьменнікаў у грамадскім жыцці свайго часу, як ён ацэньваў уласную творчасць, у чым бачыў прызначэнне сваёй паэзіі, якія мэты ставіў перад сабой — гэта значыць, без уліку яго палітычных і эстэтычных поглядаў.

Ужо юнага Купалу непакоіла і хвалявала тое, што беларускі народ не мае песняра, які б прадстаўляў народ перад светам і спяваў бы аб яго горы і радасці. Але ўжо і тады паэт заяўляў:

Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Пазней думка аб сваім прызначэнні як народнага паэта, паэта-трыбуна і наватара, адкрышталізавалася ў Купалы канчаткова і знайшла сваё выяўленне ў цэлай нізцы праграмных вершаў — «Каму вас, песні?», «З кутка жаданняў», «Родныя песні», «Мая песня»,— дзе раскрываўся купалаўскі сімвал веры.

Паэт не мог пагадзіцца з тым, каб ягоныя песні («Каму вас, песні?»), як некалі вершы некаторых яго папярэднікаў, напаткаў лёс, калі яны будуць для «молі вучонага» толькі «матэрыялам, каб прасачыць быт людзей Беларусі» (падкрэслена мною.— Ул. К.). Яго запаветным жаданнем было, каб у паэмах і вершах адбіліся

... нядоля і доля,
Уздыханні, што ходзяць з сахою, з сякерай,
І холад, і голад, няволя і воля,
І ў будучнасць ясну надзея і вера.
(«Родныя песні», 1906)

Маштабы, якімі мысліў паэт, былі сапраўды агульна-народныя. Яго погляду адкрываліся неабсяжныя далягляды. І што асабліва хацелася падкрэсліць,— адчуваючы ўласныя сілы, ён разумеў, што іх дае яму народ, знітаванасць з роднай прыродай, з сціплымі і мужнымі людзьмі працы, з іх мінулым, цяперашнім і будучым. У сваім славутым вершы «Мая навука» (1919 г.), гаворачы пра прыроду сваёй творчасці, ён указваў, што навуку неслі яму «ўсходы палеткаў і гоманы ў сёлах», што першым яго настаўнікам быў беларускі абшар, што плюскат бурлівай рэчкі і млына гутарлівага падказваў яму «мастацкія звівы» вершаў,



Уладзімір Карпаў і Іван Чыгрынаў. 1976 год.



Пісьменнікі Уладзімір Карпаў (у другім радзе пасярэдзіне), генерал-маёр Мікалай Аляксееў, Алесь Ставер, Анатоль Астрэйка, Мікалай Кругавых з работнікамі акруговага Дома афіцэраў. 1975 год.

што зялёнае поле і залітая сонцам сенажаць «песню квяцілі ўзорам прыгожым, вучылі, як словы ў вянок завіваць», а «ад шопату спелых пшанічных калоссяў, ад шэлесту лісцяў узмежных ігруш» у песню лілося музычнае водгулле і «злівалася з жальбамі скрыўджаных душ».

Каса і сякера, і цэп малацьбітны
Магутную волатаў сілу далі;
Марозы і спёкі далі гарт нязбытны —
Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.

Паэт хацеў размаўляць з цэлым народам, слухаць, як б'ецца сэрца мільёнаў, і быў перакананы, што плён яго працы не згіне бясследна і з'явіцца бацькоўскай спадчынай для нашчадкаў і будучыні.

У святле гэтага робіцца відавочным, што ні аб якой сталай вучобе Купалы ў дэкадэнтаў не можа ісці і гутаркі. Аналіз драматызаваных паэм сцвярджае тое ж самае. Але трэба адзначыць і другое: драматызаваныя паэмы сведчаць аб прызнанні паэтам недастатковасці рэалізму беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя і ўяўляюць сабою пошукі новага творчага метаду і новых шляхоў развіцця беларускай літаратуры.

У сваіх пошуках паэт можа нават і кінуў позірк на фармальна ўтончаную, хоць убогую, бедную ў ідэйных адносінах, рэакцыйную па сваёй сутнасці творчасць сімвалістаў. Аднак не толькі ідэйная накіраванасць, але і сама прырода мастацкага вобраза ў Я. Купалы і ў прадстаўнікоў дэкадансу заставаліся розныя. У дэкадэнтаў вобраз — сімвал глыбока суб'ектыўны, яго прызначэнне вычэрпваецца тым, што ён сцвярджае існаванне іншага свету, таямнічага і непазнавальнага, які нібы хаваецца пад вонкавай абалонкай рэальнага. Светапогляд жа Купалы, наадварот, матэрыялістычны, змест яго нават умоўных вобразаў звычайна акрэслены, трывалы. Купалаўскія вобразы ў паэмах — гэта вобразы, блізкія да традыцыйных у народным мастацтве паэтычных абагульненняў, што пры сваім значным ідэйным змесце маюць вялікую эмацыянальную ўплывовасць. Больш таго, ужо нават тут праявіліся адзнакі купалаўскага рэалізму — калі сіла абагульнення, укладзеная ў вобраз, узнімае яго да ўзроўню сімвалу і ў той жа час не пазбаўляе жыццёвай канкрэтнасці. У драматызаваных паэмах праявілася

імкненне Я. Купалы вызваліць беларускую літаратуру ад прымітыўнага бытавізму і натуралізму.

Цікава — нешта падобнае мы маем у тагачаснай творчасці рускага пралетарскага пісьменніка А. Серафімовіча.

«Сярод розных дэкадэнтаў і сімвалістаў,— пісаў ён, гаворачы пра свой раман «Горад у стэпе», закончаны ў 1910 годзе,— узвышаўся Леанід Андрэеў, які спалучыў у сваёй асобе велізарнае мастацкае чуццё і маляўнічасць, якая захплівала. У яго творчасці былі элементы рэалізму. Вось іменна ў яго я многа запазычваў,— папрасту кажучы, вучыўся ў яго. Гэта зусім не значыць, што я падпаў пад яго ідэалагічны ўплыў. Мы ішлі рознымі дарогамі. У Андрэева выпіралі містыцызм, сімвалізм і ўсялякая чартаўшчына. Усё гэта праходзіла міма мяне. У афармленні ж вобраза я многаму ў яго навучыўся, тое-сёе, з праверкай, усё-такі ў яго браў. Браў асобныя рысы і метады замалёўкі, браў, застаючыся строгім рэалістам» [1].

Зусім відавочна, што ў драматызаваных паэмах, «аддаючы даніну часу», Янка Купала таксама заставаўся строгім рэалістам. Вось чаму Аляксей Максімавіч Горкі, непрымірымы вораг «мастацтва для мастацтва» ва ўсіх яго праявах, не толькі не знайшоў патрэбным агаварыць, скажам, сімвалістычны характар «Адвечнай песні», але, наадварот, даўшы надзвычай высокую ацэнку творчасці Янкі Купалы, у якасці яе прыкладу ў лісце да А. Чарамнова прывёў іменна гэту драматызаваную паэму.

У другім шырокавядомым лісце, адрасаваным М. Кацюбінскаму і напісаным амаль у той жа час, М. Горкі проста супрацьстаўляе творчасць Якуба Коласа і Янкі Купалы антыграмадскай, гранічна вычварнай літаратуры дэкадансу.

«У Беларусі ёсць два паэты,— зноў паўтарае ён,— Янка Купала і Якуб Колас... Так проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра: нашым бы крыху гэтых якасцей. О госпадзі! Вось бы добра было!» [2]

Пад уплывам рускай рэвалюцыйнай літаратуры і ў першую чаргу іменна М. Горкага далягляды Янкі Купалы пашыраліся і святлелі, а ўмоўнасць яго некато-

---

[1] Серафімовіч А. Собрание сочинений, ОГИЗ, 1947, т. 5, с. 354.
[2] Часопіс «Новый мир», 1928, № 1, с. 187.

рых мастацкіх вобразаў набывала характар горкаўскай, узнёсла-рамантычнай умоўнасці.

Так магутны паэтычны талент разам з перадавым рэвалюцыйна-дэмакратычным светапоглядам, кроўная знітаванасць з жыццём і народам, з яго патрэбамі, імкненнямі не толькі не далі Янку Купалу трапіць у палон дэкадэнцкіх аблудаў, але і прывялі крыху пазней на падступы да горкаўскага рэалізму, што з асаблівай выразнасцю праявілася ў драме «Раскіданае гняздо».

## II

5 чэрвеня 1912 г. Янка Купала з Акопаў паведамляў у Пецярбург праф. Эпімах-Шыпілу: «Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў Лявіцкаму, і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхецкага жыцця».

«Паўлінка» (3/VI 1912 г.) — двухактовая п'еса з простым і амаль традыцыйна пабудаваным сюжэтам. Сюжэтная канва п'есы, асноўныя сюжэтныя ходы, ужытыя ў камедыі, даўно вядомы аж з народных песень ды казак і раней вар'іраваліся ўжо Дуніным-Марцінкевічам (1807—1884 гг.). Але тут вельмі лёгка заўважыць і якасна новае: насуперак традыцыі, канфлікт у камедыі вырашаецца драматычна, прычым на пэўнай класавай аснове, і ўскладняецца грамадска-палітычнымі матывамі. І калі, скажам, у Дуніна-Марцінкевіча ў яго камедыі «Пінская шляхта» апазіцыя дзяцей дэспатызму бацькоў ледзь намячалася і барацьба пасля некаторых перыпетый завяршалася ўсеагульнай згодай, дык у Янкі Купалы гэтая апазіцыя выліваецца ўжо ў форму рашучага змагання ў імя свабоды асобы, у імя справядлівых узаемадачыненняў паміж людзьмі і таму не можа быць шчасліва вырашана пры існуючых абставінах.

Ліберал-дваранін Дунін-Марцінкевіч, імкнучыся «асвячаць» народ, палепшыць яго звычаі, нават абудзіць яго нацыянальную самасвядомасць, у сваёй дарэформеннай творчасці часта ідэалізаваў патрыярхальныя адносіны і меў за мэту пропаведзь класавага міру паміж прыгоннымі сялянамі і прыгоннікамі-абшарнікамі, ствараючы ўтапічныя ідыліі. Галоўныя намаганні яго герояў былі накіраваны або на тое, каб разбурыць сцяну, збудаваную ліхімі панскімі паслугачамі

паміж прадстаўнікамі простага народа і «гуманнымі», «высакароднымі» панамі, або пераадолець уласныя хібы, спакусы, карыслівыя намеры. Ціхамірнасцю, пакорай, сумленнай шчырай працай здабываюць яны шчасце і ўдачу. Дабро тут заўсёды перамагае зло. Далей крытыкі асобных адмоўных з'яў рэчаіснасці Дунін-Марцінкевіч не пайшоў і ў сваіх камедыях «Пінская шляхта» (1866 г.) і «Залёты» (1870 г.).

Дэмакрат-рэвалюцыянер Янка Купала, імкнучыся абудзіць у народзе сацыяльную і нацыянальную самасвядомасць, меў за мэту барацьбу са светам эксплуатацыі і гвалту ва ўсіх яго праявах і заклікаў на гэтую барацьбу. Таму сюжэтная сітуацыя «Паўлінкі», блізкая да сітуацыі камедыі Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», вырашана Я. Купалам іначай.

Праўда, можна заўважыць нешта агульнае ў некаторых персанажах драматургаў (Куторга з «Пінскай шляхты» і Быкоўскі з «Паўлінкі»; Кручкоў з «Пінскай шляхты» і ўраднік з «Прымакаў»). У гэтым сэнсе варта ўказаць на недапушчальны, але паказальны факт, што ў пастаноўцы 1943 года «Прымакаў» у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы пастаноўшчык палічыў нават магчымым знамяніты прысуд Кручкова ўкласці ў вусны купалаўскага ўрадніка.

Магчыма, ад Дуніна-Марцінкевіча ў драматургію Купалы прыйшла ўвага да этнаграфічнага фону, увага, узмоцненая, відаць, і ўплывам украінскай драмы. Вельмі падобна ў абодвух драматургаў пабудова масавых, з спевамі, скокамі і слоўнымі паядынкамі сцэн, сінтэтычны характар якіх сваімі карэннямі ўваходзіць у народныя відовішчы. Вельмі блізкая ў іх камедыях роля народнай песні і прыпеўкі, якія часам замяняюць звычайныя рэплікі, нагадваюць імправізацыі з поваду таго, што адбываецца навакол, і пакліканы дапамагчы раскрыць узаемаадносіны персанажаў і іх характар. Адзіным таксама з'яўляецца прыём праз пачаткавы маналог гераіні ўводзіць гледача ў самую сутнасць дзеяння і г. д.

Але бачыць у гэтым больш чым звычайнае крытычнае асваенне Купалам спадчыны мінулага наўрад ці можна.

Зусім новым у беларускай драматургіі з'яўляецца вобраз героя камедыі Якіма Сарокі. Яму Купала на-

даў не толькі рысы духоўнай і фізічнай прыгажосці, імкненне выйсці з-пад апекі старых звычаяў, але і рысы актыўнага адмаўлення існуючага ладу. Якім — грамадскі дзейная асоба. Ён абураецца з людской пакоры, з таго, што народ дазваляе «душыць сябе зверху ўсялякай пошасці і злыдням». Ён вядзе рэвалюцыйна-асветніцкую работу на вёсцы, распаўсюджвае лістоўкі. Праўда, у камедыі Сарока з'яўляецца толькі адзін раз у другой з'яве першага акта і толькі фінал праліівае пэўнае святло на яго дзейнасць, але затое ён нябачна жыве на працягу ўсёй п'есы ў словах дзейных асоб і ў першую чаргу ў словах і ўчынках Паўлінкі, каханне і паводзіны якой, апрача асабістых сімпатый і антыпатый, абумоўлены ўсёперамагаючым імкненнем да лепшага будучага, імкненнем, што абудзіў любы. І ў гэтых адносінах меў рацыю паэт Максім Лужанін, калі ў артыкуле «Паўлінка» і яе вытлумачэнне ў тэатры» (ЛіМ», № 532, 1945 г.) пісаў: «Мяркуючы па назве, можна было б сказаць, што галоўная гераіня п'есы — Паўлінка. Вядома, Паўлінка — найбольш яскравы характар твора, але лічыць яе асноўным чыннікам у падзеях было б таксама наіўна, як, скажам, за багатым цветам на маладой яблыні не бачыць садоўніка, які выкапаў у лесе дзічку, прышчапіў яе і зрабіў культурным дрэвам».

Камедыя вырасла з невялікай імпрэсіі ў прозе «А вербы шумелі», дзе на фоне вясновай прыгожай прыроды, харaства якой не бачаць толькі «сыны гэтай няшчаснай старонкі», малюецца трагічнае каханне вясковай дзяўчыны і хлапца. Героі імпрэсіі, пабудаванай амаль на адным дыялагу,— Паўлінка і Мікола [1]. Характар канфлікту і ўзаемадачыненні паміж дзейнымі асобамі ў гэтым творы такія ж, як і ў п'есе. Нават сустракаюцца рэплікі, што цалкам, без змен пазней былі перанесены Купалам у камедыю. Але сацыяльна-палітычны матыў гучыць у імпрэсіі менш выразна. Мікола, які згодзен «чарвяком перад імі (бацькамі.— Ул. К.) поўзаць», выглядае значна пасіўнейшым за Якіма Сароку; прапанова ўцячы з дому, каб ажаніцца насуперак бацькоўскай волі, належыць тут самой Паўлінцы. Імпрэсія абрываецца на словах

[1] У першых накідах камедыі «Паўлінка» Якім Сарока таксама называўся Міколам Дульскім, затым — Якімам Дульскім і нарэшце Якімам Сарокам.

Міколкі: «...горкімі слязьмі вымалю цябе, мая ненаглядная зорачка...»

Змены пры далейшай рабоце над гэтым творам пайшлі ў напрамку актывізацыі Якіма Сарокі і ўзмацнення сацыяльна-палітычнага матыву. За аснову канфлікту паміж Якімам Сарокам і бацькам Паўлінкі з цягам часу ўсё выразней і выразней бярэцца класавая няроўнасць і розніца ў поглядах на рэчаіснасць. Словы «схізматык», «дрэнь», адрасаваныя Сцяпанам Крыніцкім да Якіма, замяняюцца выразна афарбаваным «недавярак», «свінапас», «забастоўшчык».

Павялічваецца камічны элемент у вобразе Адольфа Быкоўскага, узрастаюць памеры яго хлусні, большы накал атрымоўвае пафас яго выкрыцця.

У канчатковым варыянце камедыі ў рэпліцы Паўлінкі — «Якімку арыштавалі!.. Звяры сляпыя!!! Бязвінную авечку пагубілі!» — апошні сказ выкрэсліваецца, што ўзмацняе ўжо вядомы з драматызаваных паэм матыў — адсутнасць патрэбных узаемаадносін паміж народам і яго абаронцамі.

Ідучы ў гэтым напрамку, Купала няўхільна павінен быў прыйсці і прыйшоў да неабходнасці зрабіць фінал «Паўлінкі» трагічным.

— Якімку арыштавалі! — з болем гаворыць Паўлінка.— Маю зорачку ясную арыштавалі...— І гнеўна выракае: — Звяры сляпыя!!!

Як мізэрна выглядае пасля гэтага п'яненькі сусед Пустарэвіч са сваім недарэчным і не да месца сказаным жартам, як па-самадурску гучаць апошнія словы спахмурнелага Сцяпана Крыніцкага:

— Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе і скончылося.

Аднак, што вельмі важна, гэты трагічны фінал не перамагае ўнутранай бадзёрасці і жыццярадаснасці камедыі ў цэлым. Наадварот, ён па-новаму асвятляе намаганні, гора і радасць дзейных асоб камедыі, дапамагае разгадаць сэнс іх барацьбы, звязаць падзеі, адлюстраваныя ў творы, з падзеямі 1912 года — пачатку новага ўздыму рэвалюцыйнага руху. Фінал, апрача таго, нібы сцвярджае, што не самадурства бацькоў, а ўвесь сацыяльны ўклад, пры якім пануюць «пошасці і злыдні», вінаваты ў тым, што шчасце немагчыма.

Зусім не выпадкова буржуазны нацыяналіст Ф. Аляхновіч, імкнучыся ў палітычных мэтах пры-

глушыць рэвалюцыйнае гучанне «Паўлінкі», якая атрымала шырокую вядомасць у народзе, палічыў неабходным перарабіць купалаўскую камедыю і перш за ўсё змяніць яе фінал, дапісаўшы новы трэці акт[1]. З прычыны гэтай фальсіфікацыі сацыяльна-палітычная накіраванасць твора была знята і гісторыя трагічнага кахання Паўлінкі і Сарокі набыла нявінны характар вясёлага здарэння са шчаслівым канцом-ідыліяй, што абурала Купалу і выклікала яго пратэсты.

Якой паўстае з купалаўскай камедыі Паўлінка?

Гэта — дасціпная, поўная жыцця і весялосці дзяўчына, зграбная і спрытная, прыгожая ў каханні і журбе. Яна зачароўвае сваёй непасрэднасцю, багаццем і хараством сваёй душы. Часам здаецца, што Паўлінка быццам жыве ў песні. І цяжка сказаць, ці песня прымушае яе радавацца або сумаваць, ці сваю весялосць або сум яна выказвае ў песні. Нават падзеі ў навакольным і сама будучыня ўспрымаюцца і ўяўляюцца ёю, як у народнай песні.

Яе каханне чыстае і ўзнёслае і ў той жа час зямное і натуральнае. «Мне дужа добра, весела і так лёганька, лёганька на сэрцы»,— шэпча яна Якіму, даверліва тулячыся да яго. На яго заўвагу — «Ты мая на векі вечныя», Паўлінка гарэзліва, але з пераконаннем адказвае: «Не я твая, а ты мой на векі вечныя!»

Яна знаходзіць у сабе патрэбную разважлівасць, каб супакоіць Якіма — «Смелы будзь, як у бога пад прыпечкам»,— стрымаць яго паспешлівасць і маладую гарачнасць — «Хто спяшыць, той людзей смяшыць... Уедзеш гэтак у нерат, што ні ўзад ні ўперад...» Упартасць, воля адчуваюцца ў яе словах, калі Паўлінка адказвае бацьку — «Зломак — не зломак, але і за ламаку не пайду» — ці прызнаецца Пустарэвічысе — «А няхай сабе будзе, што мае быць, я свайго такі даб'юся або загіну, каб і следу не засталося»,— ці абурана кідае ў вочы Пустарэвічу: «Па кабыле сваёй пі хаўтурнага, а не па чалавеку, якога і падноска не варты!» Назіральная, разумная, яна ўмее прыкмеціць у чалавеку добрае ці благое і смела выказаць свае погляды, часам у рэзкай, нават грубай форме. «Ого! Гэтых свянцовых кропель дзядзька і канаючаму не даў

[1] «Заручыны Паўлінкі» — п'еса ў адным акце з песнямі і скокамі. Адбітак з «Беларускага звону», Вільня, 1921 г.

бы, не то, што...» — гаворыць яна пра Пустарэвіча. «Ліха не возьме! Гэткі цукар не размокне... Дурню плюнь у вочы, а ён скажа: дождж ідзе!» — гэта пра Быкоўскага. Але затое якія шчырыя, пранікнёныя словы знаходзіць Паўлінка, калі ўспамінае пра Якіма Сароку, пра яго погляды на жыццё і людзей. Тады здаецца, што яе словы ззяюць і ў іх гучаць нястрымныя парыванні да святла і шчасця.

Асноўную трагедыю сваёй гераіні Я. Купала бачыў у непрымірымай неадпаведнасці яе мары, народжанай каханым, з сапраўднасцю. У экспромце, прысвечаным паэтам Паўліне Мядзёлцы, якая выконвала ролю Паўлінкі ў адной з першых пастановак камедыі (Пецярбург, 1913 г.), ён пісаў:

Снілася дзяўчыне
Квяцістае поле,
А наяве выйшла —
Палыны, куколле.

Снілася дзяўчыне
Воля і багацтва,
А наяве выйшла —
Няволя, жабрацтва.

Снілася дзяўчыне
Дома жыць да смерці,
А наяве выйшла —
Ў чужыне памерці.

«Слоўны партрэт» Паўлінкі асабліва па-майстэрску зроблены Купалам. Яе мова складаецца з прыгожых элементаў народнай мовы, вабіць сваім лексічным багаццем, разнастайнасцю сваіх стылявых і рытмічных ходаў. То лірычна-песенная, плаўная і павольная, то ўсхваляваная і рэзкая, то кпліва-пагардлівая, то сціплая і выразная, як прымаўка або прыказка, яна сама па сабе дае пэўнае ўяўленне аб гэтай чароўнай дзяўчыне, у якой абудзіліся духоўныя сілы.

Наогул, пры недастаткова напружаным (з прычыны адсутнасці галоўнага героя на сцэне) развіцці інтрыгі ў камедыі сіла псіхалагічных і бытавых замалёвак тут хаваецца ў сакавітых, жыццёвых размовах. Купала праз знамянальныя асаблівасці гаворак, інтанацый раскрывае самую сутнасць намаляванага характару. Важкая і грубая мова Крыніцкага, надзьмутая,

фанабэрыстая, перасыпаная паланізмамі,— Быкоўскага, мова Пустарэвічавай Агаты з яе дзівосным «тудэма-сюдэма», блытаная мова яе мужа — самі па сабе даюць уяўленне аб духоўным і інтэлектуальным вобліку персанажаў.

Цікава пабудаваны ў камедыі і самі вобразы. У персанажаў, напрыклад, Дуніна-Марцінкевіча пануючая рыса як бы спыняе рух характару, з прычыны чаго атрымліваецца аднабаковасць характарыстыкі і яны ясныя амаль з першых сваіх слоў. Купала ж на аснове адзінага ў сваёй мэтанакіраванасці характару разгортвае разнастайнае багацце індывідуальнасці.

Паўлінцы ўласціва сялянская разважлівасць, у вырашальны момант яе наведваюць сумненні. У яе душы бурна ідзе змаганне.

Душэўныя працэсы тут адбываюцца глыбока ўнутры, і новая якасць, часам зусім нечаканая, прарываецца навонкі толькі пасля пэўнага выспявання, пасля папярэдняй вострай барацьбы супрацьлеглых настрояў і думак. Матывы паводзін дзейных асоб знаходзяцца ў іх саміх і адначасова абумоўлены абставінамі, уплывам другіх персанажаў, супрацьлеглых ці блізкіх. Не выпадкі, як у Дуніна-Марцінкевіча, а характары развязваюць тут справу. Купала акцэнтуе ўвагу не на паказе вонкавых падзей, а на раскрыцці псіхалогіі персанажаў, іх светаадчування, іх духоўных сіл, якія не заўсёды праяўляюцца ва ўчынках, але існуюць як зародак, як магчымасць. Псіхалагічны аналіз Я. Купалы надзвычай тонкі: асобныя адценні ў псіхалогіі дзейных асоб ён перадае праз іх будзённую працу, песні, танцы.

Паказальна, што ў рэцэнзіі на «Залёты» Дуніна-Марцінкевіча, змешчанай у пятым нумары газеты «Наша ніва» за 1915 год, Купала, крытыкуючы свайго папярэдніка, пярэчыў супроць аднабаковага і просталінейнага паказу чалавека. «Сабковіч у «Залётах»,— пісаў ён,— гэта ёсць шэльма з шэльмаў, узвялічаны аўтарам да нейкага горшага гатунку карыкатуры, а не чалавек з яго добрымі і благімі старонкамі». У выніку — і Альжбета Крыніцкая, і Пустарэвіч, і яго жонка Агата, і нават Сцяпан Крыніцкі, хаця і п'юць, сварацца, б'юцца, паказаны як людзі з пэўнымі станоўчымі задаткамі. Відаць, зыходзячы з гэтых меркаванняў, драматург у апошнім варыянце «Паў-

лінкі» выкрэслівае з рэплікі Сцяпана Крыніцкага слова: «Хе-хе-хе, як пагаварыў учора з кім трэба, дык сягоння раз, два і гатова. Гэтае плюгаўства не будзе ўжо нашых сцежак таптаць», бо гэта занадта кампраметавала б бацьку Паўлінкі.

Гуманіст і асветнік, Купала шукаў у людзях з народа добрае, прыгожае, што часам было знявечана і засушана жыццём.

«Ціха, мае дзеткі, ціха,— тулячы да сябе Паўлінку, праз слёзы гаворыць Агата, калі застаецца сам-насам з дзяўчынай.— Не гаруй, не маркоцься, міленькая, вельмі. Неяк жа ды будзе...» І перад намі нечакана раскрываецца станоўчае ў характары Агаты: у гэтай жанчыны-волата, якая падымае за каршэнь свайго мужа,— пяшчотнае, спагадлівае сэрца.

Адзіным паслядоўна адмоўным характарам надзелены толькі Адольф Быкоўскі. Ён у той ці іншай меры супрацьпастаўлены ўсім астатнім вобразам камедыі. У яго выкрыцці Я. Купала бязлітасны, бо гэта — носьбіт фанабэрыстай пагарды да ўсяго народнага, сялянскага — дарагога драматургу. Бессаромны хлус, пусты шукальнік багатага пасагу, ён робіцца прадметам кпінаў усіх гасцей Сцяпана Крыніцкага. Нават бясклопатны п'яненькі Пустарэвіч і той разумна дапякае ганарлівага шляхцюка.

Гумар паэта-драматурга жыццярадасны, чалавекалюбівы. Камічныя сітуацыі і палажэнні, у якія трапляюць дзейныя асобы, поўныя бляску і цеплыні. У камедыі пануе паэзія прастаты, праўды і такту.

Шырока і маляўніча паказаны ў камедыі побыт. Ён падаецца праз спевы і скокі, праз гутарку, клопаты і заняткі персанажаў, ён падаецца цераз усю дынаміку п'есы.

Упершыню «Паўлінка» была пастаўлена ў лютым 1913 года ў Пецярбургу па ініцыятыве беларускага таварыства студэнтаў. П'есу з студэнтамі ставіў артыст імператарскага дзяржаўнага тэатра Дэкін-Драздоў. На вечары Я. Купалу быў прэзентаваны залаты гадзіннік з надпісам: «Бацьку Паўлінкі ад беларускіх студэнтаў». У 1913 годзе «Паўлінка» ставілася і ў Вільні першым беларускім драматычным таварыствам з удзелам Ігната Буйніцкага, а затым у Радашковічах і розных кутках Беларусі. У 1917 годзе камедыя была пастаўлена рабочымі-аматарамі Пуцілаўскага завода.

Вялікім поспехам карысталася «Паўлінка» ў гуртках мастацкай самадзейнасці былой Заходняй Беларусі ў часы яе акупацыі белапалякамі.

Паэт В. Таўлай у артыкуле «Янка Купала і Заходняя Беларусь» сведчыў:

«Нельга адшукаць куток Заходняй Беларусі, у якім бы не ведалі «Паўлінкі», не карысталіся дасціпнымі прыказкамі персанажаў п'есы.

Высмейванне «панскага» жаргону і пустой фанабэрлівасці Быкоўскага накіроўвалася супроць паланізацыі, узмацняла пачуццё пагарды да адшчапенцаў і здраднікаў, якія цягнуліся да панскай рукі» [1].

Гэтак успрымалася камедыя, у якой так шырока і маляўніча, здавалася б, паказаны толькі побыт.

Увага драматурга да вясковага сялянскага побыту знайшла сваё выяўленне і ў другім драматычным творы — аднаактовым сцэнічным жарце «Прымакі» (31/XII 1913 г.). Звычаі, гульні, песні, танцы, этнаграфічна-бытавыя малюнкі ў «Прымаках» уяўляюць сабою, бадай, галоўны інтарэс. Але і тут побыт не з'яўляецца для драматурга самамэтай, а прызначаны служыць маляўнічым фонам, на якім адбываюцца камічныя і трагікамічныя падзеі твора.

Камедыі Янкі Купалы, і ў асаблівасці «Паўлінка», з'явіліся буйным крокам наперад па шляху росту і развіцця ўсёй беларускай драматургіі, прадстаўленай у той час такімі пісьменнікамі, як К. Каганец. А. Паўловіч і інш. І гэта ў першую чаргу дзякуючы таму, што камедыя «Паўлінка» адкрывала сабою новы этап у мастацкім развіцці драматургіі, клала мяжу побыту ў драматычных творах, наносіла моцны ўдар па камедыях і п'есах, пазбаўленых ідэйна-палітычнага гучання. На месцы героя-пакутніка, пакрыўджанага лёсам і людзьмі, яна паставіла актыўнага героя, чые намаганні і сілы ішлі на барацьбу не толькі за свой асабісты дабрабыт і шчасце, але і дабрабыт і шчасце народа. Такім чынам, тут знайшла сваё выяўленне новая для беларускай драматургіі канцэпцыя чалавека, якая ў сваю чаргу абумовіла мастацкія своеасаблівасці купалаўскай камедыі.

Творчыя здабыткі, дасягнутыя Я. Купалам у камедыі «Паўлінка», у спалучэнні з здабыткамі дасяг-

[1] «Літаратура і мастацтва», 1945, № 541.

нутымі ім у драматызаваных паэмах, далі магчымасць пісьменніку стварыць такую выдатную рэч, як драма «Раскіданае гняздо».

## III

Калі нацыянальная беларуская камедыя да Купалы мела сваю прадгісторыю і гісторыю ды была прадстаўлена такім камедыёграфам, як Дунін-Марцінкевіч, дык жанр драмы, калі не лічыць першых, у большасці недавершаных спроб Каруся Каганца (памёр у 1918 г.) і ў прыватнасці, яго «Сына Данілы», гэты жанр адсутнічаў у беларускай драматургіі. «Раскіданае гняздо» (4/IX 1913 г.) Янкі Купалы з'явілася першай спелай нацыянальнай драмай. За тэму гэтага твора Купала ўзяў, як і ў паэме «Адвечная песня», трагічную і характэрнейшую з'яву з жыцця Беларусі пачатку XX стагоддзя — паўперызацыю беларускай вёскі, прычым не ў прыклад «Адвечнай песні», гэты працэс пісьменнік падаў ужо не ў плане канстатацыі. Ён раскрыў у драме не толькі прычыны гэтага працэсу, якія хаваліся ў самім сацыяльна-эканамічным укладзе, у наяўнасці буржуазна-памешчыцкай эксплуатацыі, але паказаў і непазбежнасць узнікнення і росту рэвалюцыйнага руху, у выніку якога існуючы парадак рэчаў непазбежна быў асуджаны на знішчэнне. У той жа час ён захаваў у драме здабытак, дасягнуты ў драматызаваных паэмах,— велізарнейшую сілу абагульнення.

У лісце да біёграфа ад 11 студзеня 1929 года Я. Купала пісаў:

«Некаторыя свае творы я назаву, адкуль я запазычыў, г. зн. што паслужыла задумай.

З жыццёвых фактаў:

1. «Адплата кахання», 2. «Раскіданае гняздо», 3. «Паўлінка», 4. «Прымакі», 5. «Тутэйшыя», 6. «Зімою», 7. Сват», 8. «Страх», 9. «За што».

З этнаграфіі:

1. «Магіла льва», 2. «Бандароўна», 3. «Два браты».

Фантазія:

1. «Адвечная песня», 2. «Сон на кургане», 3. «У купальскую ноч», 4. «На куццю», 5. «Курган», 6. «На дзяды», 7. «Чараўнік», 8. «На папасе», 9. «Страшны вір», 10. «За чужую елку».

Карыстаючыся тэрмінамі Я. Купалы, я падкрэсліваю, што не «фантазія», а «жыццёвыя факты», як і ў камедыі «Паўлінка», складаюць аснову драмы «Раскіданае гняздо».

У драме паказваецца жудаснае, поўнае гвалту і здзекаў жыццё сям'і селяніна-бедняка Лявона Зябліка — сям'і, асуджанай законамі капіталістычнага грамадства на жабрацтва.

Лявон — своеасаблівы двайнік героя «Адвечнай песні» — ахвяра непасільнага змагання, трагедыя якога павялічваецца з-за пераканання, што «трэба праўду шукаць не тапаром, а розумам». Роспач і гора, крушэнне наіўнай веры ў справядлівасць закону прыводзяць Лявона Зябліка да самагубства. Дачка яго Зоська, наіўная, як і бацька, у сваіх надзеях на панскую літасць, загубленая і зняслаўленая панічом, вар'яцее. Спрацаваная, хворая жонка Зябліка Марыля разам з малымі дзецьмі надзявае жабрацкую торбу. І толькі Сымон, старэйшы з сыноў, застаецца непахісным у сваёй упартасці адшукаць праўду, але... ужо іншымі сродкамі.

Першы акт драмы адбываецца ў хаце Лявона Зябліка, астатнія — на яе руінах: «тырчыць шулле, печ; валяецца бярвенне, латы, салома, хатняя абстаноўка. У глыбіні сцэны — сад, бліжэй да рампы стаіць адно дрэва, недалёка ад яго ў непарадку: стол, лавы, табурэткі». Да чацвёртага акта — прыпіска: «Позняя восень. З саду апала лісце. Сцюдзёна». Да пятага — «Каля ўсіх святых. Вечар. Цёмна. Глуха. Заводзіць вецер».

Працэс збяднення і разбурэння сялянскай гаспадаркі вельмі хваляваў Я. Купалу. Апрача «Адвечнай песні» яшчэ ў 1908 годзе на гэтую ж тэму ён напісаў невялічкую паэму «За што», у якой апавядае пра трагічны лёс гаротнай сям'і Юркі Дзягеля, падобна Лявону Зябліку выгнанага панам з зямлі, здобранай ягоным потам. Лёс, паводзіны і характар Юркі надзвычай нагадваюць лёс, паводзіны і характар Лявона: тая ж нечалавечая цягавітасць у працы і кроўная сувязь з зямлёю, тыя ж дарэмныя спробы скаргамі і просьбамі дамагчыся справядлівасці, тая ж наіўная вера ў магчымасць знайсці праўду па судах, тое ж пакутлівае пытанне: «Зямля гоніць тых ад сябе, што з веку ў век

свенцяць яе сваёй крывёй гарачай і потам салоным! І за што? За што?»

Лёгка таксама заўважыць аднолькавасць абставін, акалічнасцей, пры якіх пачынаюцца пакуты гэтых гаротных сем'яў.

У паэме:

«Новы пан прыехаў
І змяніў парадкі:
Загадалі Юрцы
Выбірацца з хаткі».

У драме: «Як вярнуўся малады паніч недзе з далёкага краю, з навук, дык усё пайшло ўверх дном — усіх чыншавікоў сталі чысціць. Не чакае, пакуль суды пакончацца, а наперад за ўсіх заставы кладзе і высяляе; з намі таксама выйшла...»

У паэме:

«І пайшоў ён рады
Па судах шукаці.
І прапаў спакой з ёй.
Прапала багацце».

У драме: «А гэты суд у майго з дваром... То ж не давядзі ты божанька. Гаспадарку ўсю змарнавалі, да няма нічога дайшлі і сягоння ўжо не ведаеш чалавек, дзе заўтра сонейка прыйдзецца сустрэць...»

У паэме:

«Дабрыцо красуе,
Траўка зелянее.
Юрка кіне вокам—
Так і абамлее:
Ўся яго работа
Каля маткі-нівы
Пойдзе, як у процьму,
Марна, нешчасліва».

У драме: «Ах, мамачка, як цяпер хораша на сенажаці! Травіца зелянеецца, кветкі цвітуць, ой, як прыгожа цвітуць... А як жа будзе з пасевамі? Няўжо нам і пажаць не дадуць?..»

Нягледзячы на розніцу ў ідэйнай накіраванасці і вырашэнні канфлікту ў паэме «За што», названай Я. Купалам «песняй слёзаў», і ў драме «Раскіданае гняздо», якая канчаецца заклікам да змагання, можна прыйсці да вываду, што ў аснове абодвух твораў ляжаць адны і тыя ж жыццёвыя факты, што моцна ўразілі пісьменніка.

І сапраўды, гэтыя факты былі ўзяты народным

паэтам з гісторыі ўласнага роду. У сваёй аўтабіяграфіі 1919 года ён пісаў: «Бацька мой родам з Ігуменшчыны, паходзіць з дробнай засцянковай шляхты, выгнанай нейкім польскім князем са сваёй зямлі».

«Раскіданае гняздо» не мае строгай выразнай драматычнай кампазіцыі і па сваёй будове хутчэй нагадвае шэраг сцэн, абразкоў, звязаных паміж сабою агульнай тэмай і аднымі і тымі ж героямі, якія, занятыя сваімі клопатамі і горам, жывуць не столькі ў дзеянні, колькі ў размовах. Але ва ўсім тут адчуваецца строгая логіка, паслядоўнасць і адзіная мэтанакіраванасць.

Найбольш драматычна-рухомай лініяй у драме з'яўляецца лінія Зоська — Паніч. Зоська — дзіўная летуценніца. Яна жыве ў свеце прыгожых дзявочых мар, і навакольнае вабіць яе сваім нязведаным харастром: «Так цёпла, так прыгожа на свеце»! Ёй сняцца цудоўныя, блакітныя сны. Нават смерць бацькі не робіць яе відушчай. Яна ўся ва ўладзе сваіх пачуццяў, яны не даюць ёй мажлівасці ўведаць, «дзе праўда, а дзе мана». «Усё перамяшалася ў маёй няшчаснай галаве,— прызнаецца яна маці.— Нейкі туман сіні-сіні кругом мяне разаслаўся, і я, здаецца, плаваю па ім, так ціха-ціха плаваю, як тыя гусі белыя на возеры або воблакі сівыя пад небам далёкім!»

І да такой дзяўчыны прыходзіць каханне да паніча — забойцы яе бацькі і ўсяе сям'і. Яе кляне матка, як за здраду, пагражае адплатай Сымон, меншы брат Данілка спрабуе адкрыць ёй вочы. Моўчкі зносіць Зоська балючыя дакоры, раздвайваецца, пакутуе, але не можа пагасіць свайго злачыннага кахання і пакорліва аддаецца лёсу. Ёй незразумела ўпартая заўзятасць Сымона і натуральная варожасць маці да паніча. У яе свая праўда — «жыццё свае кросны жалобныя тчэ і будзе ткаць, пакуль яму самі людзі не дадуць асновы з вечнай праўды і братняга мілавання, а ўтоку — з вечнай шчаслівасці і радасці». Яна пераканана, што ўсіх ворагаў можна перамагчы, калі людзі будуць любіць адзін аднаго, як яна любіць паніча, што «праціўленне цэламу свету» прыводзіць толькі да пагібелі, і таму гордасць спапяліць яе брата.

Жыццё само разбівае гэтую згодніцкую, своеасабліва талстоўскую філасофію Зоські, і, кінутая панічом, яна спрабуе павесіцца каля яго палаца.

Па сваіх цвярозых поглядах на навакольнае гэтай летуценніцы супрацьстаіць яе маці. Марыля бачыць жыццё без прыкрас, такім, якім яно ёсць. Але хаця праўда звычайна на яе баку, яна застаецца бездапаможнай што-небудзь змяніць і ў «старым парадку бессумленнага жыцця», і нават ва ўласным лёсе.

Аднак драматург падаў яе ў знамянальнай эвалюцыі. Зусім хворая, няздольная без чужой дапамогі падняцца з ложка ў пачатку драмы, яна ў фінале выглядае амаль здаровай. Да яе вяртаюцца сілы, надзеі, хаця яна з жабрачымі торбамі за плячыма і пакідае родныя мясціны. Цяжкія выпрабаванні, пакуты нібы гартуюць яе. І ў гэтым сэнсе Марыля ўвасабляе ў сабе выдатнейшыя рысы народа — яго нязломную жыццяздольнасць і трываласць.

Як Купала часта вар'іруе адзін і той жа сюжэт, пакуль не знаходзіць яго найбольш дасканалае вырашэнне, гэтак жа ён вар'іруе і пераносіць адзін і той жа вобраз з аднаго твора ў другі, пакуль той не раскрываецца поўна. Гэта відаць і на некаторых вобразах з «Раскіданага гнязда». Незнаёмы — змагар і прарок, што заклікае людзей на «вялікі сход», на змаганне са «Смокам-Упырам»,— з'яўляўся ўжо ў вобразе Старца ў драматызаванай паэме «Сон на кургане» і з'явіўся пазней зноў пад сваім імем у паэме «На папасе». Незнаёмы прысвячае сябе вялікай справе — падрыхтоўцы мас да наступных боек. Ён рэвалюцыянер-прафесіянал, які бачыць сваё прызначэнне ў распальванні барацьбы, у выніку якой павінна быць знішчана ўлада эксплуататтараў, эксплуатацыя чалавека чалавекам наогул і створана царства працы на зямлі.

Данілка, меншы брат Зоські, таксама шмат у чым нагадвае падростка з паэмы «Сон на кургане». Гэта — маленькі музыка. Ён жыве ў адасобленым свеце ўласных думак і мар, крыху чужы і мала зразумелы для блізкіх, узвышаючыся над імі сваім веданнем схаваных прычын падзей і вышэйшага сэнсу жыцця. Ён амаль не бярэ ўдзелу ў тым, што адбываецца ў сям'і Зяблікаў. Спакойна Данілка майструе сваю скрыпку, упэўнены, што «калі зробіць, дык вот жа зайграе — цэлы свет дзіву дасца».

Аб чым збіраецца іграць Данілка? «Каму вяселле, каму — хрэсьбіны, а каму...», відаць, хаўтуры. Ва ўсякім выпадку ён думае «так зайграць, што ўжо нікому

з нас галасіць не захочацца». Ён марыць адшукаць крыніцу з жывой і мёртвай вадой, каб жывой пачаставаць народ, а мёртвай — «паню горкую нядолю». Ён рыхтуецца для будучага і жыве ім. Праз вобраз Данілкі Янка Купала выказаў свае погляды на мастацтва як на сілу, якая павінна пракладаць людзям дарогу ў заўтрашні дзень і падтрымліваць іх веру ў гэты дзень.

Калі Зося ўпершыню з'яўляецца на старонках твора «з кветкамі ў руках», дык Сымон «уваходзіць з тапаром і кладзе яго на лаву». Першымі яго словамі, адрасаванымі да Старца, былі словы: «Э! Нічога, дзядочак. Пакуль будзе хоць якая малая магчымасць, то не дадзімся жыўцом воўку ў зубы». Аднак і Сымон не адразу ўсведамляе мэту і сэнс барацьбы і доўга іх бачыць у абароне свайго права на зямлю — бацькаву спадчыну, за якую трэба «рукамі і зубамі трымацца». Ён таксама доўга марыць аб тым, што «суд будзе, і праўда верх возьме», што «давядзецца яшчэ зажыць нанова і хату адбудаваць на сваім загоне». Толькі ўгневаны і абураны несправядлівым прысудам, Сымон паўстае супроць «крывапрысяжных сведак і тых, хто іх падкупіў». Але ён пакуль што і тут не ўзнімаецца вышэй бунту супроць канкрэтных носьбітаў зла. Заклік Незнаёмага ісці на «вялікі сход», каб агульнымі сіламі перамагчы Смока-Упыра, «праз якога пайшлі на цэлы свет усялякія беды і няшчасці», выклікае спачатку ваганне, барацьбу ў душы Сымона. Толькі паступова ён вызваляецца з цяжкога палону «ўлады зямлі». Гэта — моцная, цэласная натура, актыўная, валявая. Яму агідны свае і чужыя пакуты. Адчуваючы моц, Сымон не можа быць бяздзейным. Ён, як і Данілка,— у будучым, у дзеянні. Вера ў гэтае будучае жывіць яго сілы, павялічвае ўпартасць, штурхае на змаганне, яна ж прыводзіць яго да ўразумення агульнанародных інтарэсаў. Падпаліўшы панскі маёнтак, Сымон з паходняй у руках ідзе ўзнімаць народ на барацьбу «Па бацькаўшчыну!».

Янка Купала не раскрывае, які змест ён укладае ў слова «бацькаўшчына». І няма падстаў сцвярджаць, што пісьменнік разумее, што здабыць бацькаўшчыну можна толькі праз пралетарскую рэвалюцыю. Але, як паказвае аналіз драматычных твораў і ўсёй дакастрычніцкай творчасці народнага паэта, кірунак, у якім

развіваліся палітычныя ідэалы Я. Купалы, быў кірункам да сацыялізма. І праўда была на баку народнага паэта, калі ён пазней пісаў пра сябе:

Што думаў селянін, што парабак-работнік
думаў,
Падслухаў іх і ў песню шчыра пераліў...
(«Шляхмі гадоў», 1925)

Дзейныя асобы «Раскіданага гнязда» — адораныя, таленавітыя людзі, здатныя на вялікія пачуцці і справы. Іх трагедыя, за выключэннем Сымона і Незнаёмага, заключаецца ў тым, што яны ў сілу гістарычных умоў не могуць праявіць свае здольнасці і талент і таму пакутуюць, а некаторыя з іх гінуць. І ў гэтым сэнсе ў «Раскіданым гняздзе», як у іншай форме ў драматычных паэмах і «Паўлінцы», Янка Купала ўзнімае агульначалавечую праблему, вырашэнню якой былі прысвечаны лепшыя творы сусветнай літаратуры — праблему Чалавека і яго лёсу ва ўмовах жорсткіх, несправядлівых адносін класавага грамадства.

Выдатна, што прадчуванне сацыяльных зрухаў, вера ў сілы і здольнасці свайго народа і яго будучыню знайшлі сваё выяўленне яшчэ ў вершы «Прарок» (1912 г.), у якім фактычна былі сцісла перададзены сэнс і ідэя ўсяго «Раскіданага гнязда».

Пара у рукі браць паходні,
Ўставаць,ісці ноч рассвятляць,
Бо што не возьмеце сягоння,
Таго і заўтра вам не ўзяць.
Назло крывавым перашкодам
Скідайце ермы, клічце сход
І дайце знаць другім народам,
Які вы сільны йшчэ народ.

У той жа час «Раскіданае гняздо» пазбаўлена нацыянальнай абмежаванасці. Тут знайшла сваё праяўленне толькі шчырая і моцная любоў драматурга да свайго народа, жаданне дапамагчы яму пазнаць сябе, абудзіць яго сілы, указаць шлях у барацьбе. Аб гістарычнай прадбачлівасці пісьменніка сведчыць гэты твор, накіраваны ў першую чаргу супроць буржуазна-памешчыцкага грамадства, заснаванага на эксплуатацыі чалавека чалавекам.

«Раскіданае гняздо» — рэалістычна-псіхалагічная драма. Праўда, у ёй сустракаюцца паасобныя сімвалічныя сітуацыі, вобразы і размовы. Цьмянасць вобраў Зоські і малога музыкі Данілкі, за рэальнымі

ўчынкамі якіх прапануецца ўгадваць іншы сэнс, сімвалічныя завіткі дыялагу і да т. п. у нейкай ступені зблiжаюць «Раскіданае гняздо» з драматызаванымі паэмамі.

Няма слоў, што ў драме таксама адчуваецца рамантычнае гарэнне, узлёт паэтычнай мары, сум па лепшым і прыгожым жыцці. Але тут яны спалучаюцца з гарачымі пошукамі шляхоў жыцця, форм барацьбы за лепшую будучыню, з упэўненасцю ў сілы народа. Гэта не перашкаджае драме заставацца рэалістычным творам і толькі сведчыць, што Я. Купала ва ўсім успрыняцці рэчаіснасці, у падыходзе да яе адлюстравання і ў драматычных творах заставаўся паэтам.

«Раскіданае гняздо» сведчыць таксама аб паглыбленні рэалізму Я. Купалы, пралівае святло на напрамак, у якім ішлі пошукі Купалы ў яго драматызаваных паэмах. Я. Купала ў «Раскіданым гняздзе» здолеў спалучыць драматызм прыватнага лёсу героя, як звычайнай спружыны развіцця дзеяння ў творы, п паказам гістарычных працэсаў. Ён падаў сваіх герояў у непасрэднай сувязі з эпохай, сутыкнуў іх з важнейшымі падзеямі ў жыцці краіны. У залежнасці ад таго, якое месца дзейныя асобы займаюць у гісторыі грамадскага жыцця, якую ролю адыгрываюць у пэўных канфліктах, яны жывуць у творы, з'яўляюцца, знікаюць, змяняюцца. І ў гэтым нельга не бачыць наватарства Я. Купалы і плённага ўплыву М. Горкага.

Задачы рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці падпарадкавана і кампазіцыя п'есы. Ідучы следам за М. Горкім, Купала адкінуў залішнюю складанасць інтрыгі з яе традыцыйнай заблытанай завязкай і нечаканай эфектнай развязкай. У п'есе, дзе найбольш лёгка было пабудаваць усё дзеянне навакол Зоські і паніча — найбольш дынамічнай сутычкі чалавечых узаемаадносін, драматург зрабіў гэта толькі адным з эпізодаў, што раскрывае трагізм тагачаснага вясковага жыцця, толькі адным з доказаў неабходнасці шукаць выйсця з капіталістычнага тупіка. Ідучы следам за Горкім, ён адчыніў на сцэну дарогу праўдзе і прастаце, той высокай прастаце, якая не цягне за сабой страту мастацкасці, а ўзнімае яе на вышэйшую ступень. Нават самагубства Лявона Зябліка (параўнайце з самагубствам акцёра «На дне» М. Горкага) — не звычайны сцэнічны прыём, які павінен узмацніць уражанне ад

п'есы, а непазбежны драматычны эпізод, што вынікае з хады падзей.

У драме Янкі Купалы, як і ў горкаўскіх п'есах, адсутнічае штучны падзел персанажаў на такія, што выключна рухаюць дзеянне твора, і другарадных, што не маюць ніякага самастойнага значэння. На самай справе, хто «герой» «Раскіданага гнязда»? У звычайным сэнсе слова тут яго няма, бо сапраўдным героем з'яўляецца народ, а кожны купалаўскі вобраз мае самастойную каштоўнасць толькі як жыццёвы тып, як характар, у якім раскрываецца пэўны бок рэчаіснасці.

А Сымон? Хіба ён не нагадвае герояў ранніх рамантычных твораў М. Горкага?

На маю думку, ад Горкага таксама ідуць антыталстоўскія матывы драмы «Раскіданае гняздо», высокая інтэлектуальнасць яе герояў і культ Чалавека з непахіснай верай у яго непазбежную ўрачыстасць.

Гімн Чалавеку прагучаў яшчэ ў маналогу Жыцця в «Адвечнай песні»:

Так будзе ён царам прыроды,
Сам найдасканальшага роду.
І будзе цар гэты навек
Названне насіць — чалавек.

Незнаёмы в «Раскіданага гнязда», уторачы Жыццю, на пытанне перапалоханай Зоські «Хто ты?» з гонарам адказвае:

— Хто я? А ўжо ж чалавек! А што болей трэба ведаць, калі толькі не гэта?

Вядома, усё гэта было ў Купалы адменна самабытным, дапаўнялася лепшымі здабыткамі вуснай творчасці беларускага народа і з'явілася ўзорам творчага ўнаследавання, на якое быў здольны толькі магутны наватарскі талент. Нарэшце, усё гэта падказвалася пэўнай агульнасцю эканамічных, сацыяльных і палітычных умоў, у якіх жылі рускі і беларускі народы.

Упершыню драма «Раскіданае гняздо» была пастаўлена толькі ў 1919 годзе першым таварыствам беларускай камедыі і драмы ў горадзе Мінску, але неўзабаве была забаронена белапольскімі акупацыйнымі ўладамі.

Апошні драматычны твор Янкі Купалы — п'еса «Тутэйшыя» (31/VIII 1922 г.) — трагіка-смяшлівыя

сцэны ў 4-х дзеях, у якіх малююцца першыя паслярэвалюцыйныя гады на Беларусі (ад лютага 1918 года да чэрвеня 1920 года).

У цэнтры «Тутэйшых» драматург паставіў палітычнага прыстасаванца, абываценя-хамелеона Мікіту Зносака, які лёгка і бесклапотна, змяняючы свае перакананні, перажыў нямецкую, а затым белапольскую акупацыі і поўным банкротам сустрэў зварот савецкай улады. Паказаць асвяжаючую, жыццятворную ролю першых бурных рэвалюцыйных год было, відаць, мэтай Янкі Купалы. Аднак, нягледзячы на цікавасць самой тэмы, вырашана яна драматургам няўдала. Памылковай у п'есе з'яўляецца і сама ацэнка падзей гэтага складанага, цяжкога перыяду ў жыцці беларускага народа, і сама трактоўка антыпода Зносака — настаўніка Янкі Здольніка, апанаванага нацыяналістычнымі ідэямі. Глыбока памылковым у п'есе з'яўляецца таксама і сам факт супрацьстаўлення вёскі гораду ў адмоўным для яго плане.

Якія ж рысы купалаўскай драматургіі адрозніваюць яе ад драматургіі папярэдняй?

Гэта перш-наперш — яе дзейнасць, сацыяльная завостранасць і мэтанакіраванасць.

Шчырая любоў да людзей шматпакутнага роднага краю, журба і абурэнне з прычыны паднявольнага і цяжкога жыцця працоўнага чалавека кіравалі пяром драматурга, словы-заклікі рваліся з яго душы, заклікі на змаганне за права «людзьмі звацца», за справядлівыя грамадскія адносіны. Як і ў паэзіі, Я. Купала ствараў такія драматычныя рэчы, у аснове якіх ляжалі праблемы сацыяльна-палітычнага парадку і перш за ўсё — праблема Чалавека і яго лёсу ў буржуазным грамадстве, праблема пошукаў форм і метадаў барацьбы за яго будучыню і шчасце. У бесклапотным сцэнічным фарсе «Прымакі» Я. Купала сцвердзіў чалавечую годнасць моладзі з народа. На ледзь не традыцыйнай сюжэтнай канве ў камедыі «Паўлінка» ён выткаў прыгожыя вобразы прадстаўнікоў новай вясковай моладзі, якія смела паўстаюць супроць абмежаванасці і кансерватыўнасці бацькоў, адстойваючы ідэю роўнасці паміж людзьмі, і свядома становяцца на шлях барацьбы.

У «Раскіданым гняздзе» канчатковае вырашэнне атрымалі праблемы, узнятыя ў драматызаваных паэ-

мах. Зрабіўшы прадстаўнікоў сям'і Лявона Зябліка шукальнікамі праўды, Купала паказаў розныя жыццёвыя дарожкі, па якіх пайшлі ў сваіх пошуках ісціны і справядлівасці людзі ў часы ўздыму новай хвалі рэвалюцыйнага руху. На вобразах Лявона, Марылі, Зоські, на эвалюцыі вобраза Сымона Я. Купала паказаў нікчэмнасць ідэі несупрацiўлення і пасіўнага супрацiўлення, ідэі прымірэння ці бунту адзінкі і сцвердзіў адзіна правільны шлях у вызваленчай барацьбе — шлях усенароднага паўстання.

Само ўспрыняцце свету, лад думак і пачуццяў былі ў Купалы народнымі. У сваіх творах ён узнімаў праблемы, над вырашэннем якіх працавалі выдатнейшыя людзі розных эпох і краін. Праўда, там, дзе Купала адыходзіў ад гэтых прынцыпаў, яго спасцігала няўдача. Такой няўдачай былі «Тутэйшыя». Але не яны вызначалі творчае аблічча драматурга-паэта і таму не могуць засціць генеральнага напрамку ў развіцці яго творчасці і ў прыватнасці драматургіі.

Імкнучыся да найбольш поўнага адлюстравання разнастайнасці і супярэчлівасці жыцця, складанасці ўнутранага свету сваіх персанажаў, Купала ў «Паўлінцы» ўдала спалучыў лірычную камедыю з бытавой і завяршыў яе трагічнай канцоўкай, у «Прымаках» ён з'яднаў фарс з вадэвілем і надаў гэтаму сплаву характар народнага відовішча, «Раскіданае гняздо» ён зрабіў рэалістычна-псіхалагічнай драмай, дапускаючы сімвалічную і рамантычную афарбоўку асобных вобразаў, і г. д.

Купала давёў псіхалагічны аналіз да дасканаласці. Кожная створаная Купалам асоба мае сваю гісторыю, яна рухаецца ў пэўным часе і пэўнай прасторы, расце, развіваецца, жыве. Да таго ж рух гэтай асобы абумоўлены як самім яе характарам, так і тымі абставінамі, у якія яна трапляе.

Сапраўднае майстэрства Я. Купалы як мастака-драматурга асабліва выразна выявілася ў нябачнай да яго высокай моўнай культуры. Ён не толькі свабодна валодаў бязмежнымі багаццямі беларускай мовы, а ўмеў прыдаць слову выразнасць, гучанне, уласцівае ўнутранаму свету дзейнай асобы.

З усяго сказанага можна таксама зрабіць вывад, што метад Купалы ў «Раскіданым гняздзе» пачынае адрознівацца ад метаду крытычнага рэалізму. Купа-

лаўская канцэпцыя чалавека, заклік да рэвалюцыйнага пераўтварэння свету, рамантычная ўзнёсласць многіх вобразаў, ацэнка людзей з пункту гледжання будучага, элементы сімволікі — гавораць, што драматург імкнуўся і ў метадалагічных адносінах пайсці па шляху М. Горкага.

Вось чаму зусім слушна і патрэбна гаварыць аб тым, што Купала з'яўляецца стваральнікам сучаснай беларускай драматургіі. Ён узняў наш тэатр на новую ступень і вызначыў кірунак яго далейшага развіцця. Сацыяльная завостранасць, рэалізм і народнасць зрабіліся сцягам беларускай савецкай драматургіі.

*1946—1947 гг.*

# ДАРОГАМІ ЖЫЦЦЯ

«Якуб Колас — волат беларускай паэзіі, пясняр і паэт простай, шчырай, глыбокай прыгажосці,— пісаў М. Ціханаў аб Коласе-паэце.— Вершы яго падобны на вясновы задуменны шум яго родных лясоў, плюскат ціхіх рэк, на ціхія дарогі сярод вячэрніх палёў, на песні яго землякоў, песні аб волі, аб працы, аб жыцці».

Пісьменнік шматгранны і глыбокі, Я. Колас даў беларускай літаратуры і выдатныя ўзоры прозы і драматургіі, якія, як і яго паэзія, поўныя простай, шчырай, глыбокай прыгажосці. У іх таксама чуюцца правевы беларускіх лясоў і палёў. Яны, як і паэзія, прасякнуты любоўю і замілаваннем да роднага краю, да працавітага народа, песнямі аб волі, аб працы і жыцці якога яны з'яўляюцца.

Лепшыя коласаўскія творы, як і творы Янкі Купалы, уяўляюць сабою цэлыя этапы ў станаўленні і развіцці беларускага мастацкага слова, з'яўляюцца вехамі ў яго гісторыі.

## I

Самымі значнымі літаратурнымі з'явамі ў галіне прозы да Кастрычніцкай рэвалюцыі былі каларытныя, сакавітыя апавяданні Якуба Коласа, якія па сутнасці і паклалі пачатак беларускай прозе.

Праўда, некаторыя адзнакі фармавання беларускай прозы — прозы, якая б «цэлым радам рыс узнаўляла аблічча жыцця» (М. Някрасаў), мы знаходзім і ў творчасці іншых пісьменнікаў і ў прыватнасці Ядвігіна Ш. (1869—1922 гг.). Яму, апрача вершаваных і драматычных твораў, належаць два зборнікі апавяданняў — «Бярозка» (1912 г.) і «Васількі» (1914 г.), мемуары «Лісты з дарогі» (1910 г.) — нататкі пра ўласнае падарожжа пехатою з Вільні ў Мінск і няскончаны раман «Золата». Але ў параўнанні з апавяданнямі

Якуба Коласа, якія да таго ж пачалі публікавацца раней, яны не ўносілі прынцыпова новага ў прозу.

Памяркоўны ліберал пранародніцкага кірунку Ядвігін Ш. зрабіў аб'ектам сваёй сатыры цёмныя бакі сялянскага побыту, вясковую цемру, забабоннасць, людскую нязгоду, асобныя праявы сацыяльнай несправядлівасці, сялянскую наіўнасць і палітычную бясклапотнасць, паразітычную сутнасць царскіх чыноўнікаў, здраднікаў і адшчапенцаў народа.

Сваё палітычнае крэда Ядвігін Ш. выказаў у «Лістах з дарогі».

«Хай кожны, каму дораг свой родны край,— пісаў ён,— загляне ў бліжэйшыя вёскі, загляне пад падгніўшыя стрэхі хатак, хай дзеліцца сваімі думкамі, радасцямі, вестачкамі... Хай кожны святлейшы чалавек ідзе паміж гэтага народу і запальвае паміж яго светач навукі, свядомасці і справядлівасці».

І, застаючыся верным сабе, выступаючы супроць асобных адмоўных з'яў рэчаіснасці, пісьменнік ні на крок не выходзіў за межы асветных маральных мэтаў. Яго апавяданні носяць падкрэслена павучальны характар, а некаторыя з іх нават нагадваюць звычайныя прытчы — ілюстрацыі да пэўнай маральнай тэзы. Вобразы ў іх настолькі аднагранныя, палажэнні і сітуацыі настолькі казачна-анекдатычныя, што толькі ў вельмі ўмоўным сэнсе могуць быць названы рэалістычнымі. Праўда, пісьменнік аздабляе гэтыя творы бытавымі дэталямі, карыстаецца спецыяльнымі прыёмамі, каб пераканаць чытача ў праўдападобнасці намалянага, але гэта мала змяняе сутнасць справы. Фальклорныя запазычванні тут угадваюцца лёгка — угадваюцца ў сюжэтах, прыёмах, сказавай манеры, у выяўленчых сродках.

Творы Я. Коласа, змешчаныя ў кнігах «Апавяданні» (1912 г.), «Тоўстае палена» (1913 г.) і «Родныя з'явы» (1914 г.), а пазней таксама і лепшыя імпрэсіі ў прозе Зм. Бядулі, што ўвайшлі ў зборнік «Абразкі» (1913 г.), і нешматлікія ягоныя навелы, апублікаваныя ў перыядычным друку і выдадзеныя разам з паслярэвалюцыйнымі творамі асобнай кнігай пад назвай «На зачарованых гонях» у 1923 годзе, уяўлялі сабою ўжо якасна новыя як у ідэйных, так і мастацкіх адносінах рэчы ў беларускай прозе. Хаця глебай, што жывіла многія творы Якуба Коласа і Змітрака Бядулі, у нека-

торай ступені быў фальклор, на іх ужо, не ў прыклад апавяданням Ядвігіна Ш., які заставаўся ў вузкім коле фальклорных сюжэтаў, відаць ужо выразна адзнакі жыцця, эпохі і адчуваюцца літаратурныя ўплывы. Разам з гэтым Я. Колас і Зм. Бядуля ідуць рознымі кірункамі: першы абвяшчае сваім сцягам крытычны рэалізм, а сябе — паслядоўнікам традыцый рускай класічнай літаратуры, паслядоўнікам ідэй рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў XIX стагоддзя; другі ж фармуецца пад уплывам моднай у той час сярод пэўнай часткі інтэлігенцыі плыні — імпрэсіянізму, з яго сузіральнасцю, суб'ектывізмам і псіхалагізмам, з яго ўцёкамі ў казачную фантастыку, і прыходзіць да рэалізму праз павольнае пераадольванне гэтага ўплыву.

Дух Гогаля прысутнічае шмат у якіх творах Я. Коласа, пачынаючы ад ранніх апавяданняў, і асабліва тых, дзе выкрываюцца чыноўнікі і іх заплеснявелы побыт, і канчаючы апісаннем Прыпяці ў аповесці «Дрыгва». Аб вялікім рускім сатырыку Я. Колас успамінае ў апошнім сваім празаічным творы — «На ростанях», і, як бы падкрэсліваючы блізкасць яму гогалеўскіх вобразаў, надзяляе адно з персанажаў славутымі вусамі гогалеўскага вінакура, гледзячы на якога, здавалася, што ён нібы трымае ў зубах мыш.

Дарэчы, Якуб Колас сам неаднаразова гаварыў аб той вялікай ролі, якую адыграла спадчына рускіх класікаў у яго ўласнай творчасці. Крылоў і Някрасаў, Пушкін і Горкі, Бялінскі і Гогаль натхнялі, жывілі творчасць народнага паэта. У артыкуле «Пушкін і наша культура» Я. Колас, напрыклад, піша:

«...Вялікі ўплыў зрабіў Пушкін на нас, маладых пісьменнікаў народа, пісьменнікаў-дэмакратаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру разам з рэвалюцыяй 1905 года,— на Янку Купалу і мяне. Пушкінская нянавісць да нявольніцтва і ланцугоў — «увы! куда ни брошу взор — везде бичи, везде железы», пушкінскае імкненне да свабоды — «хочу воспеть свободу миру, на тронах поразить порок», пушкінскі заклік да барацьбы з самадзяржаўным дэспатызмам — «самовластительный злодей, тебя, твой трон я ненавижу, твою погибель, смерть детей с жестокой радостию вижу»,— усе гэтыя вялікія запаветы і ідэі Пушкіна беларускія пісьменнікі прынялі як сваю спадчыну і развівалі іх у новых гістарычных умовах...

Калі б не было Пушкіна з яго «Анегіным», одай «Вольнасць» і «Пасланнем у Сібір», «Капітанскай дачкой» і казкамі,— не было б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», маёй лірыкі і прозы».

Раннія апавяданні Якуба Коласа, як і яго вершы, глыбока рэалістычныя. Побыт вёскі і мястэчка з яго пазітыўнымі і негатыўнымі бакамі, барацьба сялян з перажыткамі феадалізму і царскімі чыноўнікамі, выкрыццё бескарыснага існавання абываценяў — вось тэмы коласаўскіх апавяданняў. Такія апавяданні, як «Кантракт», «Думкі ў дарозе», «Нёманаў дар», «Бунт», «Андрэй выбаршчык», «Соцкі падвёў», «Васіль Чурыла» і інш., выкрывалі гвалт і сацыяльную несправядлівасць у тагачасным жыцці, падвяргалі крытыцы інстытуты самаўладства, гаварылі аб бяспраўі і цяжкім лёсе працоўнага чалавека — г. зн. былі непасрэдна накіраваны супроць усёй памешчыцка-самаўладнай сістэмы.

Будучы паслядоўным рэвалюцыйным дэмакратам, Я. Колас узнімае ў сваіх творах праблему гістарычнага лёсу Радзімы, яе будучыні, праблему ўлады зямлі, жыцця і смерці, прызначэння і сэнсу жыцця, праблему рэвалюцыйнага ператварэння свету.

У цэнтры ўвагі пісьменніка стаяць вобразы пратэстантаў, бунтароў — барацьбітоў за інтарэсы працоўных — такія, як Сцяпан Ляўшун з «Бунту», Васіль Падбярозны і Андрэй Зязюлька з «Нёманава дару» — самаадданых абаронцаў справядлівасці і сялянскай справы, якія сімвалізуюць сабою бядняцка-серадняцкую частку, што ўзнялася да актыўнай палітычнай дзейнасці ў эпоху першай рускай рэвалюцыі.

Уторачы М. Горкаму, Якуб Колас выступае супроць нявольніцкай «мудрасці», якую М. Горкі развянчаў у п'есе «На дне» і якую выказаў акцёр, успамінаючы верш:

Если к правде святой
Мир дорогу найти не сумеет,
Честь безумцу,
Который навеет
Человечеству сон золотой.

Вуснамі старога волата Дуба пісьменнік у навеле «Чыя праўда» (1913 г.) заяўляе:

— Лепш быць няшчасным, але відушчым, чымся шчаслівым, ды сляпым.

Колас заклікае мужна глядзець праўдзе ў вочы і таксама, як Я. Купала, узнімаецца да крытыкі слабых бакоў сялянства. Бачачы ў народзе невычэрпныя крыніцы талентаў, жыццёвай сілы, маральнай чыстаты і прыгажосці, Я. Колас адначасова выкрывае ў ім носьбітаў адмоўных якасцей, звычак, традыцый. Ён разглядае іх як вынік грамадскіх адносін, дзікага несправядлівага парадку рэчаў («Кажух старога Анісіма», «Дзяліцьба», «Кірмаш» і інш.). Але адмоўныя вобразы Коласа выклікаюць у чытача, як правіла, уяўленне аб супрацьлеглым, станоўчым, бо прасякнуты горкім сумам аб тым, што адсутнічае,— аб ідэальным. Гэтаму, паміж іншым, спрыяе і цікавае спалучэнне эпічнага, лірычнага і сатырычнага элементаў, так уласцівых апавяданням Коласа.

Падобнае мы назіраем і ў алегарычных навелах Коласа. У іх моцны крытычны струмень, яны таксама апавядаюць пра беспрасветнае жыццё абяздоленага люду, але тон бадай усіх навел-казак жыццесцвярджальны, наступальны. Яны прасякнуты гэтым імкненнем да ідэальнага. І хоць вобразная сістэма іх не асабліва багатая (крыніца, бярозка, дуб, хмарка, каршун, гара, вецер, бура — вось іх персанажы), яны поўныя паэтычнай прыгажосці, у іх сабрана шмат цікавых назіранняў над прыродай, яны перасыпаны новаўтваральнымі прыказкамі, афарызмамі. Архітэктоніка іх зграбная, і аздоблены яны маляўнічымі пейзажамі. І ўсё гэта накіравана на тое, каб паводле закону кантрасту абудзіць у чытача патрэбу ў прыгожым жыцці, пераканаць, што такое жыццё можа прыйсці толькі праз рэвалюцыйную навальніцу.

У зборніку навел Якуба Коласа «Казкі жыцця» ёсць адна мініяцюра, прысвечаная Змітраку Бядулю. Называецца яна «Кучаравае дрэва». У ёй Я. Колас расказвае пра цудоўнае дрэва, на галінках якога праменні сонца развешваюць мнагаструнную арфу. Ветрык кранае струны, і яны спяваюць. Да дрэва збіраюцца русалкі, садзяцца на ягоных карэннях і слухаюць музыку. Часам прыходзіць лясун з гуслямі і стараецца пераняць напеў. У гэтым напеве — жыццё палявых абшараў, шум лесу, звон шырокіх лугоў.

У алегарычнай, вобразнай форме Я. Колас удала раскрыў своеасаблівасць і прыроду дакастрычніцкай творчасці Зм. Бядулі з яе казачнай фантастыкай, сузі-

ральнасцю і псіхалагізмам, панаваннем фарбаў і гукаў, што затуманьвалі лінію, форму, думку.

У 1913 годзе, як я казаў ужо, на старонках «Нашай нівы» ўспыхнула палеміка аб прыродзе і прызначэнні паэзіі, аб ролі паэта ў грамадскім жыцці. Буржуазна-нацыяналістычныя крытыкі, якія стаялі фактычна на пазіцыі прыхільнікаў «мастацтва для мастацтва», выступілі супроць рэалістычнага напрамку ў беларускай літаратуры. Гэты напрамак абаранялі паэты-дэмакраты. Паказальна, што Зм. Бядуля непасрэднага ўдзелу ў палеміцы не прыняў, а ў творчасці хістаўся паміж гэтымі процілеглымі лагерамі.

Матывы смерці, беспрычыннага, часам нават беспрадметнага суму (імпрэсіі «Смерць», «Восенню» і інш.) — тыповыя матывы «Абразкоў» Зм. Бядулі. Апрача кахання, хваравітага і двaістага — платанічнага, але палкага, бесперспектыўнага, але да болю прыемнага — пісьменніка мала што хвалюе ва ўзаемаадносінах людзей. Сапраўдную прыгажосць ён знаходзіць толькі ў прыродзе, яна толькі і дае яму асалоду.

У імпрэсіі «Ці я вінаваты?», што з'яўляецца, магчыма, адказам на дыскусію, якая выспявала ў газеце «Наша ніва» на працягу доўгіх год, Зм. Бядуля прызнаецца:

«От пазіраў бы, як сонейка на балоце заходзіць і стагі залоціць... Як канюх плача над яварам... Цягаўся б начамі па хвойніку, апусціўшы галаву на грудзі, заламаўшы рукі на плечы... Заўсёды ад маладзіка да ветаха гэтак рабіў бы...

Ці я вінаваты, што неяк люблю пазіраць, як жудасны лес моўчкі калышацца пад ззяннем зорак паўночных?.. Ці я вінаваты, што люблю на чаўне па шырокім плёсе плыць... Над маёй галавой дзікая качка кружыцца, і салодкі смутак напаўняе душу маю, нібы келіх чыстай крынічнай вадою...

Ці я вінаваты?..»

У артыкуле «Чаму плача песня наша», які цытаваўся раней, Янка Купала пісаў:

«Не думайце, што «парнаснікі» (Я. Купала і яго прыхільнікі ў дыскусіі.— **Ул. К.**) не бачылі і не адчувалі ўсёй багатай красы нашай зямелькі з яе гарамі, далінамі, рэкамі і лясамі. Але што маглі казаць, калі большая палавіна гэтага прыроднага багацця, гэтай неапетай красы была і ёсць не наша... Гледзячы на гэтую

несправядлівасць, у паэта радзіўся толькі жаль, што побач лішняй раскошы народ яго гібее ў хатах, дзе «вокны затканы анучай», што яго шнуры — «гразь, балота ды пясок», што людзі — «Янка ды Сымонка» — мужыкі беззарадныя».

Параўнайце гэтыя два выказванні, і эстэтыка Зм. Бядулі стане яснай.

Адораная, таленавітая асоба ў творах Бядулі заўсёды трагічна адзінокая, незразумелая і чужая для навакольных, дзікаватая і далёка ад людскіх інтарэсаў і клопатаў. Перад ёю раскрываецца вышэйшае хараство, але хараство, скажам, не барацьбы ці духоўнага багацця чалавека працы, а хараство прыроды, нейкай адцягненай творчасці, сузірання.

І ўсё-такі ў мастацкай прозе Зм. Бядулі больш выразна, чым у паэтычных творах, адчувалася сувязь пісьменніка з рэчаіснасцю. Бядулеўскія фантастычныя пейзажы выраслі ў прозе на глебе рэальных беларускіх пейзажаў, і побач з сімвалічнымі імпрэсіямі сустракаліся імпрэсіі тыпу «За тканінай», «Без споведзі», дзе з спачуваннем і болем малявалася поўнае нястач паднявольнае жыццё працоўнага люду, імпрэсіі накшталт «Два словы», дзе гучаў гнеўны пратэст супроць тагачаснага парадку рэчаў, прычым рэалістычныя тэндэнцыі паступова ўмацоўваюцца («Тулягі» — 1912 г., «Пяць лыжак заціркі» — 1912 г., «Умарыўся» — 1913 г., «Летапісцы» — 1914 г., «Туга старога Міхайлы» — 1915 г.). На змену сумненням у Зм. Бядулі пачынае прыходзіць вера ў сілы народа, у яго светлую будучыню. У радзе твораў пісьменнік паказвае, якія таленты хаваюцца ў людзях-працаўніках і на што былі б здольны яны, калі б іхнія творчыя сілы былі раскуты. Ужо ў гэтых творах выявілася адна з істотнейшых асаблівасцей творчасці празаіка — яе глыбокая чалавечнасць. Аднак да ўсведамлення таго, што шлях да шчасця працоўных пралягае толькі праз упартую класавую барацьбу, Зм. Бядуля прыйшоў пазней.

Такім чынам, Якуб Колас з'явіўся пачынальнікам сучаснай беларускай прозы. Творы Я. Коласа — іх сюжэты, калізіі, характары — выраслі непасрэдна з жыцця, неслі яго ў сабе і з'яўляліся вынікам яго мастацкага абагульнення. Змітрок Бядуля, працуючы поруч з народным песняром, узбагаціў прозу ўзорамі псіхалагічных навел. У цэнтры ўвагі абодвух празаі-

каў, як правіла, стаяў іх сучаснік — чалавек працы з яго пачуццямі і думкамі, паказанымі ў творах Я. Коласа і ў лепшых творах З. Бядулі праўдзіва. Навелы і апавяданні Я. Коласа і Зм. Бядулі вызначаліся ўжо высокімі літаратурнымі якасцямі — лаканічнасцю, ясным сюжэтам, акрэсленасцю вобразаў і арыгінальнасцю ў распрацоўцы тэмы. Гэта былі сапраўды мастацкія празаічныя творы, якія не згубілі і ніколі не згубяць свайго літаратурнага мастацкага значэння.

## II

Беларуская мастацкая проза, як асобная галіна нацыянальнай літаратуры, набыла ў поўным сэнсе слова самастойнае значэнне толькі ва ўмовах савецкага ладу. Кастрычніцкая рэвалюцыя, адкрыўшы новую эру ў гісторыі чалавецтва, адкрыла новую эру і ў гісторыі беларускай літаратуры. Рэвалюцыя забяспечыла развіццё беларускай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу, выклікала да жыцця магутныя творчыя сілы, узнятыя ёю з народных глыбінь, і стварыла ім умовы для такога ж магутнага росту. Рэвалюцыя ўдыхнула ў літаратуру новае быццё і дала ёй новы кірунак.

Абрысы гэтай літаратуры У. І. Ленін бачыў яшчэ ў 1905 годзе і так вызначаў яе новую прыроду:

«Гэта будзе свабодная літаратура, таму што не карыслівасць і не кар'ера, а ідэя сацыялізма і спачуванне працоўным будзе вербаваць новыя і новыя сілы ў яе рады. Гэта будзе свабодная літаратура, таму што яна будзе служыць не перасычанай гераіні, не «верхнім дзесяці тысячам», што сумуюць і пакутуюць ад атлусцення, а мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных, якія складаюць красу краіны, яе сілу, яе будучыню. Гэта будзе свабодная літаратура, якая апладняе апошняе слова рэвалюцыйнай думкі чалавецтва вопытам і жывой работай сацыялістычнага пралетарыяту, якая стварае пастаяннае ўзаемадзеянне паміж вопытам мінулага (навуковы сацыялізм, які завяршыў развіццё сацыялізма ад яго прымітыўных утапічных форм) і вопытам цяперашняга (цяперашняя барацьба таварышаў рабочых)» [1].

---

[1] Ленин В. И. Сочинения, издание IV, т. 10, с. 30—31.

Натуральна, што фармаванне маладой савецкай літаратуры ішло ва ўмовах палітычнага размежавання ў старым пісьменніцкім асяроддзі, ва ўмовах класавай барацьбы. Беларускія савецкія пісьменнікі павялі змаганне за стварэнне самай перадавой і ідэйнай у свеце літаратуры, прычым іх дзейнасць і практыка наносілі ўдар і па буржуазных нацыяналістах, якія сцвярджалі, нібы пралетарская культура руйнуе нацыянальную форму, і па трацкісцкіх ліквідатарах, якія адмаўлялі сацыялістычны характар савецкай літаратуры.

Паслядоўнае адмаўленне аджыўшага, старога ў чалавеку, у людскіх узаемаадносінах і палымянае сцверджанне савецкіх форм жыцця сталі яе першымі новымі якасцямі. Яна выступіла як літаратура-змагар, актыўная, мэтаімклівая, героем якой з'яўляецца чалавек — воін і будаўнік. Пашырыўся круг вобразаў, тэматыка і праблематыка прозы, узбагаціліся яе жанры.

Вырашальную ролю ў гэтым стваральным працэсе адыгралі як пісьменнікі старэйшага пакалення — Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, так і маладыя тады — Міхась Чарот, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны, чые першыя гады сталасці супалі з гадамі Кастрычніка і грамадзянскай вайны, якая з'явілася для іх асабістай ідэйна-палітычнай школай, прычым пісьменнікі старэйшага пакалення пачалі пераважна з пераасэнсавання тэм, прысвечаных мінуламу, маладыя ж празаікі — з паказу боек з белагвардзейскімі бандамі і іншаземнымі інтэрвентамі, з адлюстравання зрухаў, якія адбываліся ва ўмовах савецкай улады ў горадзе і ў вёсцы. У гэтых адносінах характэрны нават самі назвы іх першых зборнікаў навел і апавяданняў: «Веснаход» у М. Чарота, «Срэбра жыцця», «Па дарозе» ў К. Чорнага, «У віры жыцця», «Пела вясна» ў М. Зарэцкага і да т. п.

Сацыялістычная рэвалюцыя як бы ўзняла Якуба Коласа на высокі грэбень сваёй хвалі і дазволіла з вышыні яго зірнуць на мінулае, перажытае. Перад пісьменнікам развінуліся шырачэзныя далягляды, і падзеі, людзі, справы іх рук паўсталі ў сваёй сапраўднай сутнасці.

Вынікам гэтага было з'яўленне першых буйных твораў у беларускай прозе — аповесцей «У Палескай глушы» (1921—1922 гг.) і «У глыбі Палесся» (1926—



Уладзіміру Карпаву — 65 год. Вечар у Тэхналагічным інстытуце. У прэзідыуме вечара — Мікалай Аляксееў, Іван Грамовіч, Марыя Барысаўна Осіпава, Іван Шамякін, Алесь Асіпенка. 1977 год.



Рабочы кабінет пісьменніка. На стале —
недапісаная старонка аповесці «Адкрытая зорка»,
над якой Уладзімір Карпаў працаваў 6 жніўня 1977 года.

1927 гг.), задуманых пісьменнікам як часткі трылогіі, якую пазней завяршыла аповесць «На ростанях» [1].

У прадмове да першай аповесці Якуб Колас пісаў: «У палескай глушы» ёсць нязначны адбітак жыцця вясковай інтэлігенцыі і, галоўным чынам, вясковага настаўніцтва. Жыццё гэтае адносіцца к самаму пачатку XX веку, да часоў першай рэвалюцыі 1905 года.

Выхаваная пры чыста казармавых абставінах, узгадаваная па катэхізісу Філарэта і нашпігаваная начынкаю ў духу «веры, царя и отечества», гэта інтэлігенцыя, штучна адарваная ад жывых крыніц жыцця, часткаю аставалася вернаю казённым прынцыпам, часткаю, не бачачы прасветліны, апускалася на дно і зацягвалася балотам. Болей жа дзейная і жывая частка яе імкнулася зліцца з гэтымі крыніцамі і вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць «корань рэчаў».

Гісторыя беларускай літаратуры, бадай, не ведае другога пісьменніка, творы якога былі б так непасрэдна прымацаваны да канкрэтных жыццёвых, больш таго — аўтабіяграфічных фактаў, падзей і з'яў, як творы Якуба Коласа. Але ў той жа час, бадай, немагчыма прыгадаць другога беларускага пісьменніка, які б так глыбока, па-філасофску асэнсоўваў факты, узнімаўся над імі і заставаўся аб'ектыўным, як Якуб Колас.

«Кожнае, самае праўдзівае апавяданне, разумеецца, не ёсць фатаграфія,— гаворыць герой аповесці «У палескай глушы» вясковы настаўнік Андрэй Лабановіч,— але ў яго аснове ляжыць праўда. І кожная звычайная з'ява жыцця, калі ахінуць яе больш-менш яскрава тым ці іншым светапоглядам і пры гэтым умець яшчэ вызначыць тыя, часта незаметныя спружыны выяўлення нашай душы, што звычайна не ўлаўліваюцца нашым вокам,— можа быць тэмаю для вельмі цікавага апавядання».

Аднак аб'ектыўнасць адлюстравання жыцця ў творах Коласа вынікае не толькі з самой прыроды мастацкай літаратуры, якая паказвае чалавека ва ўсёй складанасці яго жыццёвых абставін, з канкрэтнымі дэталямі і драбніцамі, што захоўваюць сваё значэнне, як бы сам мастак да іх ні адносіўся. «Мастацкі вобраз амаль заўсёды шырэйшы за ідэю пісьменніка» (М. Горкі), бо

---

[1] Над вялікім эпічным творам, пачатым яшчэ ў 1914 г.— раманам «Сокі цаліны» (1929 г.), працаваў і Ц. Гартны.

апошні бярэ чалавека з усёй разнастайнасцю яго духоўнага жыцця, з усімі супярэчнасцямі яго пачуванняў і думак. На гэту асаблівасць мастацкай літаратуры ўказаў У. І. Ленін, гаворачы пра Льва Талстога, як пра «люстра рускай рэвалюцыі». Але ў той жа час Уладзімір Ільіч тут устанаўлівае і пэўную градацыю аб'ектыўнасці — непасрэднай залежнасці, глыбіні і паўнаты адлюстравання рэчаіснасці мастацкім творам ад светапогляду творцы. Вось аб'ектыўнасць Коласа і вынікала якраз, апрача ўсяго, з своеасаблівасцей яго магутнага таленту мастака-рэаліста, які меў перадавы светапогляд і ідэалы якога супадалі з ходам гістарычнага працэсу. Нават у тым выпадку, калі коласаўскія героі адлюстроўваюць істотныя якасці ўласнай натуры пісьменніка, пакутуюць над развязваннем тых жа праблем, над якімі калісьці пакутаваў сам аўтар, яны амаль заўсёды застаюцца жыць у творах сваім, самастойным жыццём.

Не цяжка, скажам, заўважыць, што родная вёска Лабановіча надзвычай нагадвае вядомую прынёманскую вёску Мікалаеўшчыну — радзіму пісьменніка, а жыццёвыя варункі, у якія трапляе герой,— жыццёвыя варункі, у якія трапляў сам пісьменнік. Не цяжка давесці, што пытанні філасофскага, прафесійнага, грамадскага і палітычнага парадку, якія хвалююць Лабановіча і прымушаюць яго шукаць пэўнага месца ў жыцці, былі ў свой час таксама прадметам глыбокага роздуму Якуба Коласа. Не цяжка, скажам, давесці і тое, што за значнаю часткаю дзейных асоб твора і іх справамі стаяць справы і людзі, некалі блізкія пісьменніку. І ўсё-такі не аднакальныя адносіны сталага чалавека, які ўзбагаціўся ўжо вопытам жыцця, да наіўнага, неспрактыкаванага юнака, што робіць яшчэ часам недарэчныя памылкі, а аб'ектыўныя адносіны мастака-мысленніка, якія грунтуюцца на ацэнцы грамадскай вартасці чалавека і адпаведнасці яго намаганняў, спраў гістарычнаму развіццю падзей, характарызуюць адносіны Коласа да свайго героя.

Андрэй Лабановіч належыць да той часткі вясковай інтэлігенцыі, якая ўсёй сваёй істотаю імкнулася зліцца «з жывымі крыніцамі жыцця» і настойліва, але «вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць «корань рэчаў». Два фактары штурхалі яго на пошукі — сам час і сама натура.

Няўрымслівая натура вясковага хлапца, «выведзенага ў людзі» на бацькоўскія мазольныя грошы, як бы падхлёствала Лабановіча і патрабавала ад яго вызначыць сваю пэўную лінію паводзін.

Аднак акалічнасць «вобмацкам» была таксама абумоўлена. Папярэдняе жыццё не навучыла, ды, бадай, і не магло навучыць Лабановіча, дзе шукаць «корань рэчаў». Наадварот, настаўніцкая семінарыя, якую ён скончыў, з яе схаластычнай, наўмысля адарванай ад сапраўднасці навукай і прапаведдзю архірэакцыйнай увараўскай формулы, як непарушнай асновы грамадскага ладу, паклала адбітак на яго свядомасць. Гэта ставіла Лабановіча ў двaістае, супярэчлівае становішча, якое хавала ў сабе непазбежнасць унутранай драмы.

Развязванне канфлікту ў Лабановіча, як і трэба было чакаць, пачалося з адмаўлення таго, што было прышчэплена семінарска-папоўскім выхаваннем. Дарэчы сказаць, бунт супроць поглядаў, якія пад выглядам асветы прышчапляліся семінарыяй, і ў першую чаргу супроць рэлігіі, сярод яе выхаванцаў быў пашыраны. Думка, што «хто не чытаў Бокля, Дарвіна і Дрэпера, той проста невук і чалавек, які нічога не ведае і з якім няма аб чым гаварыць», атрымала амаль усеагульнае ў гэтым асяроддзі прызнанне. Падзел адбываўся пазней.

У раздзеле «На бацькаўшчыне» Якуб Колас падаў партрэт аднаго з мікуцічанскіх настаўнікаў Іванка Перагуда — дзівака і філосафа. Амаль абыякавы да ўсяго, ён дзейнічаў звычайна па формуле — «плюй на ўсё, шануй сваё здароўе». Але і ён, інертны і безалаберны, лічыў сваім абавязкам выкрываць царкву і папоў, бачачы ў гэтым справу чэсці «развітага чалавека».

— Сынок,— казала яму маці, богабаязная жанчына,— пайдзі ў царкву, памаліся. На табе саракавачку, пастаў, сынок, свечачку ў царкве.

Атрыманую саракоўку ён прапіваў з сябрамі, а маці ў такіх выпадках гаварыў:

— Я табе, маці, потым пяць рублёў дам за тваю саракоўку, але цяпер я прапіў яе: лепей прапіць, як аддаць папу.

Іванок Перагуд як бы сімвалізаваў сабою першую ступень у эвалюцыі вясковай інтэлігенцыі.

Працэс пераадолення рэштак семінарскай «навукі» ў Лабановіча адбываўся пакутліва і ўскладняўся да-

датковымі матывамі і, у прыватнасці, пошукамі сэнсу жыцця.

Ідэй у Коласа было многа, і ўзнікалі яны, як відаць, у працэсе творчасці — асэнсавання і абагульнення жыццёвых фактаў. Але былі ў яго таксама ідэі, калі так можна сказаць, працяглыя, што ахоплівалі значны прамежак часу. Да ліку іх, напрыклад, можна аднесці ідэю ўлады зямлі і прагі да яе як галоўнага імпульсу сялянскай псіхалогіі або ідэю жыцця і смерці, прызначэння і сэнсу жыцця. Яны ўзнімаліся Коласам нават у ранніх творах. Яшчэ героі апавядання «У старых дубах» (1912 г.) — маленькія сябры-хлопчыкі Грышка і Базыль па-дзіцячаму наіўна, але з запалам разважаюць пра тое, каб халеру-смерць злавіць ды спаліць: «Тады людзі жылі б і жылі б».

Пошукі адказаў на «адвечныя пытанні» вельмі займалі Лабановіча. Развагі з поваду, «чаго мы на свеце жывём?» — звычайна прыводзілі да высновы: «Жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство,— чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасць чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго ўзаемаадносін да другіх людзей бясконца разнастайныя, аканчальна не выяўлены і ніколі не могуць стаць аканчальнымі. А прырода! Колькі вялікага здавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачыма кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?» Роздум над уласнымі пачуццямі, думкамі аб «таямнічасці і непазнавальнасці чалавечай натуры», аб наяўнасці нейкага свядомага жыцця ў прыродзе, аб загадкавасці і недасяжнасці далёкіх светаў і «мізэрнасці чалавека і яго жыцця ў параўнанні з сусветам і вечнасцю» — усё гэта досыць доўга засланяла ад Лабановіча вострыя сацыяльныя праблемы рэчаіснасці. Часам развагі над лёсам чалавека, які «паслухмяна згаджаецца з тым, што асуджаны на смерць», і не пратэстуе супроць гэтага неадхільнага і няўмольнага, заканчваліся думкай: калі парушаюцца драбязговыя правы, дык чалавек гатовы грызціся і кусацца зубамі; там жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорліва згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе

пад абух. Узнікала імкненне «глыбей увайсці ў сябе самога і там шукаць крыніцы радасці і здаровага пачуцця».

Грамадскую абыякавасць Лабановіча Колас падкрэсліў адным мала прыкметным, але вельмі характэрным фактам. Цельшынская школа, куды быў прызначаны малады настаўнік, знаходзілася кіламетраў за пятнаццаць ад вёскі, дзе была воласць і дом айца Кірылы. З прычыны вялікай адлегласці, поп папрасіў Лабановіча, каб той узяў на сябе выкладанне закону божага. І настаўнік, пераконаны атэіст, зусім не задумваючыся, у якое дзіўнае становішча ён сябе ставіць, без ваганняў прыняў папоўскую прапанову.

Індывідуалізм Лабановіча таксама праявіўся і ў ягоных поглядах на тое, што з'яўляецца рухаючым пачаткам у паводзінах і дзейнасці людзей. Ён рашуча абвяргае сцвярджэнне свайго сябра Турсевіча, што «чалавек жыве дзеля дабра, для служэння праўдзе, каб стварыць нейкія вартасці жыцця і каб быць карысным для другіх». На яго думку, людзі, калі нават і робяць гэта, дык робяць для таго, «каб як мага болей вывудзіць карыснага і прыемнага для сябе». І няхай то будзе выдумшчык — Эдысон, летуценнік-паэт або «самазрокшыся дзеяч, вечны служка выключна для другіх» — яны ўсе пры розных шляхах маюць адну і тую ж мэту — асабістую выгоду. Гэта была, па сутнасці, пропаведзь скептыцызму.

Тут варта прыгадаць другога мікуцічанскага калегу Лабановіча — Янку Тукалу. Замкнёны і адзінокі юнак, працуючы першы год у школе, фанатычна выношваў мару — «паехаць на Валаам». Ён упарта песціў гэтую мару і збіраў грошы. Але вярнуўся з святых месц Тукала з перакананнем, што такое жыццё нагадвае «быдлячыя ляпёшкі, параскіданыя па выганах», і яго патрэбна змяніць.

Нешта падобнае здарылася і з Лабановічам — чалавекам сумленным і самакрытычным ад прыроды, які добра ведаў, што «жыццё не стаіць на месцы, і ўсё на свеце мяняецца». Расчараванне ў рэчаіснасці нарадзіла ў яго апазіцыйныя адносіны да рэчаіснасці, у якой ён бачыў шмат гора і несправядлівасці, прычым гора і несправядлівасць прыпадалі на долю блізкіх людзей. Ён балюча адчуў, што «гэтак жыць няможна», «што апрача чыста асабістых інтарэсаў у чалавека ёсць і

другія — чыста грамадзянскія абавязкі». Абудзілася патрэба бліжэй стаць да народа, прыглядзецца, як ён жыве і чым ён жыве і ці нельга палепшыць яго дабрабыт.

Нельга сказаць, што першыя Лабановічавы крокі былі плённымі. Наіўны і неспрактыкаваны, ён спрабуе ўнесці ў павольнае, коснае жыццё палескай вёскі, як яму здавалася, новы, культурны пачатак. Ён абсаджвае школу дрэвамі, намагаецца — праўда, марна,— каб школу наведвалі дзяўчынкі, дапамагае сіратам, арганізуе лекцыі для дарослых, дзе звяртае ўвагу на становішча сялянскага побыту і імкнецца паказаць сялянам, як жывуць іншыя людзі і як яны дайшлі да лепшага жыцця.

Палешукі для прыліку слухалі яго, але часта шырока разявалі рот і пазяхалі.

Такі ж лёс напаткаў і праект адбудовы Чорнай грэблі — сялянскай бяды і гора, грэблі, дзе праехаць — «духі вытрасці, кішкі збоўтаць, а ў мокрае лета і каня ўгрузіць». Так сталася і з планам угнаення пясчанага неўрадлівага поля.

Часта ўмяшанне маладога настаўніка ў жыццё народа толькі пагаршала справу і прыводзіла да адваротных вынікаў. Лепшыя яго намеры нярэдка ператвараліся ў сваю процілегласць (няшчасны выпадак з Ляявонам Шкуратом, ледзь не забітым з-за настаўніцкай ласкі).

Так Лабановіч, паводле яго ўласнага параўнання, трапляе ў становішча мухі, якая заляцела пад шкляны каўпак: і свет вакол відаць, і месца ёсць выбіцца з гэтага каўпака, але няма здольнасці папасці ў выйсце.

Такім чынам, аповесць «У палескай глушы» фактычна з'яўляецца паказам палітычнай няспеласці пэўнай часткі беларускай інтэлігенцыі ў перадрэвалюцыйную эпоху 1905 года, паказам крушэння народніцкіх ілюзій у асяроддзі гэтай інтэлігенцыі, утапічнасці самой практыкі прыхільнікаў так званай тэорыі дробных спраў.

Пісьменнік падводзіць чытача да вываду, што ў існуючых умовах шчасце людзей немагчыма, і развенчвае бездапаможныя намаганні свайго героя здабыць яго.

Колас сцвярджае неабходнасць рэвалюцыйнага пераўтварэння свету. Каб людзі былі шчаслівымі, гаво-

рыць ён, трэба змяніць самую аснову грамадскага ладу, трэба зрабіць яго вартым чалавека. Ён паказвае, як пад уплывам падзей фармаваўся рэвалюцыйны светапогляд Лабановіча, як ад усведамлення свайго грамадскага абавязку і пераадолення ранейшых памылак ён ідзе да актыўнай рэвалюцыйнай дзейнасці. Іншымі словамі,— адлюстраваўшы працэс нараджэння і дыферэнцыяцыі беларускай інтэлігенцыі, пісьменнік паказвае, як мацаваліся сувязі перадавой часткі гэтай інтэлігенцыі з народам і як яна ў дні вялікіх рэвалюцыйных падзей узнялася разам з народам на барацьбу за ажыццяўленне сацыяльнай справядлівасці.

Характэрна, што своеасаблівай прадумовай палітычнага росту Лабановіча з'явілася абуджэнне яго нацыянальнай самасвядомасці. Яно як бы ўяўляла першую ступень у яго палітычным развіцці. У ім абудзілася жаданне павандраваць па родным краі, бліжэй пазнаёміцца з беларускім настаўніцтвам, паспрабаваць раскатурхаць яго. Яго пачынаюць хваляваць пытанні нацыянальнай годнасці і гонару беларускага народа.

— Кожны народ мае свой гонар,— з крыўдаю гаворыць Лабановіч.— А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народа, як нацыі, многа выліта памыяў, уся істота яго прыніжана, і мова яго асмеяна, у яго няма імя, няма твару.

Такія настроі Лабановіча былі гістарычна апраўданымі, і іх, вядома, нельга блытаць з выказваннямі буржуазных нацыяналістаў. Справа ў тым, што перадрэвалюцыйныя гады, і ў асаблівасці рэвалюцыя 1905 года, далі моцны штуршок развіццю нацыянальна-вызваленчага руху на ўскраінах царскай Расіі, і ў тым ліку на Беларусі. Асноўны канфлікт паміж шырокімі працоўнымі масамі і самаўладствам тут абвастраўся незадавальненнем шавіністычнай, русіфікатарскай палітыкай царскага ўрада. Таму барацьба супроць царызму, чыноўнікаў і абшарнікаў часта спалучалася з нацыянальна-вызваленчай барацьбой. Нягледзячы на буржуазную прыроду нацыянальна-вызваленчага руху, У. І. Ленін прызнаваў яго для тагачаснай Украіны і Беларусі глыбока прагрэсіўным.

Выступаючы ў абарону «бацькаўшчыны», роднай мовы, Лабановіч, такім чынам, выступаў у абарону

палітычных правоў для шырокіх працоўных мас, супроць самаўладства і сярэдневечча.

Навучаючы Аксёна Каля — селяніна-праўдашукальніка, наіўнага абаронцу грамадскіх спраў, які за прычыну ўсякага ліха на свеце лічыў толькі паноў і чыноўнікаў,— малады настаўнік цярпліва і настойліва растлумачвае яму, што бескарысна шукаць справядлівасці ў царскіх установах або ў самаго самаўладцы, што знішчэнне аднаго крыўдзіцеля не можа палепшыць становішча сялянства. Ён падкрэслівае, што і аднаго ведання ісціны мала,— «трэба закладваць свае саюзы і арганізацыі».

Разам з адыходам ад утапічных ідэй Лабановіч у значнай ступені перамагае гістарычны грэх інтэлігенцыі — разлад паміж словам і справай. Цяжкасці і перашкоды палохалі яго і часта прымушалі адмаўляцца ад першапачатковых намераў. Яму бракавала галоўнага — волі, умення настойліва і паслядоўна ператвараць імкненні ў дзеянне.

— Бывае так,— не то жартуючы, не то сур'ёзна аднойчы прызнаецца ён,— што думаеш адно, а робіш другое, хочаш жыць так, а жывеш іначай.

Але гэта і сапраўды было так. Між іншым, паслядоўнае і арганічнае зліццё свайго слова і сваёй справы мы сустракаем пазней у вобразе Сцяпана Баруты з аповесці «На прасторах жыцця», у якога адзінства вырастае ўжо на глебе ўсведамлення сябе як значымай адзінкі калектыву, на глебе ўсведамлення свайго абавязку перад народам і дзяржавай. Удзел у барацьбе гартуе Лабановіча. Усведамленне мэты падзесяцярае сілы. Вось чаму фінал «У глыбі Палесся» гучыць не трагічна. Больш таго — выразна адчуваецца, што гэта — не столькі канец, колькі пачатак, і вялікія вырашальныя падзеі — там, за мяжою кнігі, у будучым.

Гэта, відаць, меў на ўвазе і сам Якуб Колас, калі пісаў у прадмове да аповесці «На ростанях»:

«Многа часу сплыло ад далёкіх дзён мае юнацкасці. Новыя шляхі, іншыя падзеі і з'явы накіравалі мае мыслі і дзейнасць да другіх задач і мэт, і першапачатковыя намеры напісаць трэцюю кнігу з цыкла палескіх аповесцей засталіся нявдзейсненымі... Дарога ж героя палескіх аповесцей, Лабановіча, не скончана, і мне хочацца пахадзіць з ім нейкі час па яго дарогах, каб аповесці набылі пэўную мастацкую закончанасць».

І сапраўды — апошняя частка трылогіі пачынаецца з моманту, калі Лабановіч, сышоўшы на станцыі, каб накіравацца на новае месца работы, глядзіць на адыходзячы цягнік і думае, што цягнік, які знікае на павароце, кладзе сабою рубеж паміж тым, што было раней, і тым, што будзе наперадзе. Вольны ад утапічных пражэктаў, ён уважліва пачынае вывучаць жыццё, даходзіць да сапраўднай першапрычыны сялянскай беднасці і ўбогасці, выношвае і ажыццяўляе ідэю стварэння рэвалюцыйнага настаўніцкага саюза.

Якуба Коласа ў аповесці «На ростанях» цікавіць, галоўным чынам, ужо фармаванне пазітыўных поглядаў маладога настаўніка і рост яго рэвалюцыйнага светапогляду. Пісьменнік расказвае, як расце ў Лабановіча прынцыповасць, як яго палітычныя перакананні робяцца больш сталымі, вызначаючы сабою нават лінію яго паводзін у асабістым жыцці. Так палітычныя рознагалоссі паміж ім і Турсевічам прыводзяць да заняпаду дружбы і таварыскасці ў іх адносінах. Змяняюцца таксама адносіны Лабановіча да калектыву. Ён канчаткова адмаўляецца ад «інтэлігенцкага» балота і ўсе свае думы і сімпатыі аддае народу, сялянскім дзецям, у якіх абуджае дапытлівы розум, вучыць крытычна ставіцца да навакольнай рэчаіснасці, прыходзіць да высновы, што няроўнасць пры існуючым ладзе не ліквідуе нават смерць.

Навокал Лабановіча ствараецца новае акружэнне. Навокал яго згуртоўваюцца людзі, няхай пакуль што з не зусім яснымі, але затое бясспрэчна чыстымі і высокімі парываннямі, поўныя гатоўнасці служыць справе барацьбы з самаўладствам, справе барацьбы за дабро і шчасце свайго народа. Лабановіч выступае адным з ініцыятараў склікання настаўніцкага з'езда і рыхтуе да яго даклад. Няўдача з'езда і наступнае звальненне з пасады настаўніка не бянтэжыць яго і ўмацоўвае на думцы, што трэба і неабходна шукаць новых шляхоў і форм барацьбы, прычым на будучую барацьбу ён пачынае глядзець як на патрыятычны абавязак.

Развітваючыся з верханьскім наваколлем перад тым, як пакінуць вёску, якая стала Лабановічу блізкай, ён падышоў да адной з любімых сваіх мясцінак.

«Лабановіч доўга пазіраў на рэчку,— піша Я. Колас.— У памяці ўсплывалі падобныя ж блізкія і дарагія сэрцу малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць

не адзін раз. А колькі малюнкаў, яшчэ не бачаных ні разу! І колькі ў іх прывабнага, заспакойваючага душу хараства! Дык наперад, брат, наперад! Пракладай сабе дарогу ў жыццё, не зважаючы ні на якія нягоды, дарогу прасторную, ясную, з бясконцымі краявідамі і далячынямі і склікай народ на гэтую дарогу».

Такой паўнаты і грунтоўнасці паслядоўна рэалістычнага адлюстравання з'яў жыцця, такой глыбіні псіхалагічнага аналізу, які забяспечваў раскрыццё самых складаных і супярэчлівых працэсаў развіцця чалавечай асобы, беларуская проза да Коласа не ведала.

Адбітак грамадскага жыцця пэўных пластоў беларускага народа ў пачатку бурнага XX стагоддзя атрымаўся ў трылогіі праўдзівым і мастацкім. Якуб Колас добра перадаў непазбежнасць надыходзячай рэвалюцыі — тую перадрэвалюцыйную сітуацыю, калі нізы народа ўжо не могуць жыць па-старому, а вярхі няздольны па-ранейшаму кіраваць. Як сведчанне гэтай жа сітуацыі, пісьменнік паказаў знітаванасць і адзіную накіраванасць падзей, што адбываліся ў далёкай Маньчжурыі і ў закінутай у неабсяжныя палескія балоты вёсцы з шматзначнай назвай Выганы. Ён прыкмеціў і адлюстраваў тую рысу першай рускай рэвалюцыі, якая характарызавала яе, як рэвалюцыю буржуазна-дэмакратычную, сялянскую, стварыўшы, нібы сімвал яе, вобраз Аксёна Каля.

Каль — селянін з Высокага. Ён, як і большасць аднавяскоўцаў, верыў у праўду, тую «адвечную праўду, якую так прагна чакаў народ і якая за сямю замкамі хавалася ад яго».

— Праўда — не скварка, з кашаю не з'ясі,— гаварыў пра яе стары, амаль стогадовы дзед Мікадым.— Выйдзе наверх яна, родная, бо ўжо сама зямля прысягала небу не пускаць адгэтуль цёмнай, заблытанай праявы.

Аднак вера ў непазбежную ўрачыстасць праўды шчасліва спалучалася ў Аксёна Каля з пераканаlittleм, што сама яна не прыйдзе, што яе патрэбна здабываць. Ён не мог спакойна глядзець на несправядлівасці, што чыніліся над людзьмі. Яго ведала воласць, ведаў земскі як чалавека неспакойнага і небяспечнага.

Настойліва, упарта, на працягу дваццаці год Аксён Каль вёў судовую справу з панам Скірмунтам з-за адной рачной затокі, якую той прыбраў да сваіх рук.

На дваццаць першым годзе справа «захлынулася» ў сенаце. Але Каль не згубіў надзеі. Узненавідзеўшы ўсёй істотай кручкатвораў-чыноўнікаў і панскіх прыслугачоў, ён усё-такі спадзяваўся на цара як асобу, што нібы стаіць па-за межамі грамадскіх інтарэсаў.

Да палітыкі Аксён быў амаль абыякавы. Але сіла Аксёнавай нянавісці была незвычайная. Калі настаўнік думаў пра Каля, той паўставаў перад ім то ў постаці строгага абаронцы грамадскіх спраў, то ўдалым атаманам разбойніцкай шайкі, бязлітасным мсціўцам за сялянскую крыўду. У час арышту сялян, пасля таго як тыя самаўпраўна пачалі лавіць рыбу ў скірмунтаўскай затоцы, Каль кінуўся з цэпам на афіцэра, а потым, як злы дух, знік ад атарапеўшых казакаў.

Паказальна, што коласаўская крытыка сялянства ішла не ў напрамку палемікі з народнікамі, як гэта сталася, напрыклад, з А. Чэхавым у аповесцях «Мужыкі» і «У сухадоле» (хоць палемічны элемент у ёй і быў даволі моцны), аднак і не ў напрамку павярхоўнага шаржыравання асобных недахопаў і абмежаванасці сялянства, як гэта рабіў, скажам, Ядвігін Ш. (хоць у бытавых замалёўках Коласа і можна заўважыць элементы шаржу). Коласаўская крытыка пайшла па лініі ацэнкі сялянства з пункту погляду яго ролі і месца ў рэвалюцыі, ацэнкі, пазбаўленай імкнення згладзіць тыя ці іншыя недахопы або апраўдаць іх, прычым за сілаю масавага сялянскага руху Якуб Колас разгледзеў і яго слабасці і ў той жа час паказаў, што 1905 год, стаўшы «пачаткам канца «ўсходняй» нерухомасці» (У. І. Ленін), паклаў размежавальную лінію паміж варожымі лагерамі.

Адначасова вялікую ўвагу Колас удзяліў і паказу бескарыснага, нікчэмнага існавання той часткі вясковай і мястэчковай інтэлігенцыі, якая «асталася вернаю казённым прынцыпам», або, «не бачачы прасветліны, апусцілася на дно і была зацягнута балотам». Сіла аповесцей «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» і «На ростанях», апрача ўсяго,— у цэлай галерэі па-майстэрску выкананых партрэтаў і, бадай, у першую чаргу партрэтаў гэтых «інтэлігентных» абывацеляў — пісараў, папоў, аптэкараў, настаўнікаў, падлоўчых — людзей, адарваных ад народа, абыякавых да яго інтарэсаў або проста варожых яму.

Доўгай чаргой праходзяць яны перад чытачом.

Жылаваты і нахабны настаўнік хаткаўскай школы Саханюк, які па капейцы збірае капітальчык і не сароміцца браць з сялянак плату нават за напісанне лістоў. Прышчаваты, з ласымі вачыма, закаханы ў сябе хлюст Сухавараў — распутнік і цынік. Стары п'яніца і гуляка, валасны пісар Пятро Восіпавіч з трыма пераспелымі дочкамі, сярдзітымі і злымі з-за доўгага чакання суджаных, «якіх дзесь затрымалі чэрці». «Шырокая натура» пан падлоўчы, які любіў выхваляцца дзвюма рэчамі: сваім нібыта літвінскім паходжаннем і тым, што аднойчы здолеў з'есці сто сорак калдуноў. Школьны інспектар Хрысціцкі, «важны, строгі і з такім выглядам, як бы ён трымаў у руках лейцы, каб не разбеглася спудзіўшаяся зямля, на якой мы жывём». Лясьнічы Іван Пракопавіч Бяляўскі — махровы рэакцыянер-чарнасоценец, які сумаваў, што на Русі пераваліся «волаты», абураўся, што ўсякае «нікчэмства» дамагаецца сваіх правоў, «выпаўзае, як гад з нары на віднае месца», і верыў ва ўсемагутную сілу кулака і розгі. Каравы стары дзяк Бацяноўскі — пляткар і шпік. Гаспадарлівы і хітры айцец Мікалай, які імкнуўся дагадзіць «богу і мамоне». Былы настаўнік пісар Дулеба — адступнік і рэнегат, аматар царкоўных спеваў. Калі пісар цягнуў «апостала» і даходзіў да вышэйшага пункту, дык здавалася, што ад шчырасці ён «не вытрымае, трэсне, рассыплецца, або разарвуцца ўсе яго жылы і пуп, або проста з ім зробіцца нешта такое, чаго ў царкве няможна рабіць». Запалоханы жыццём настаўнік Анцыпік, чыя філасофія і мудрасць заключаліся ў тым, каб жыць спакойна, ціха і сытна, падпарадкуючыся правілу: не чапай ты мяне, і я цябе не зачаплю. Сухі, высачэзны і сівабароды ўраднік Кабяк, напрактыкаваны на вобысках і барацьбе з «крамолай», і г. д.

У большасці — гэта пададзеныя на фоне побыту характары, сакавітыя і тыповыя, хаця і намечаныя контурна. Побач з трапнымі і дасціпнымі аналітычнымі аўтарскімі характарыстыкамі тут мы маем і канкрэтнае апісанне знешняга вобліку персанажа з толькі яму ўласцівымі манерамі, жэстамі, паставай, з трапна заўважанай спецыфічнай рысай твару, хады, вопраткі, якія хаваюць у сабе надзвычай багаты матэрыял для ўнутранай характарыстыкі. І тут пісьменніку можна кінуць, бадай, толькі адзін папрок: малюючы чыноўніцкую Расію, ён не ўзнімаўся па прыступках (што да-

вала б яму магчымасць развіваць ідэю выкрыцця), а заставаўся ўвесь час у адным асяроддзі і адно вар'іраваў вобразы царскіх служак, не асабліва клапоцячыся пра астатняе.

Адмоўныя героі Коласа статычныя. Яны жывуць асобнымі эмоцыямі, да таго ж самымі звычайнымі, якія не ўзнімаюцца над узроўнем будзённых чалавечых адчуванняў. Таму пры паказе іх пісьменнік абмежаваўся толькі пошукамі найбольш выразных ракурсаў, часам паварочваючы іх да чытага то адным, то другім бокам.

Ёсць у Коласа і ўлюбёныя прыёмы. Ён часта ставіць сваіх герояў у аднолькавае становішча або перад аднымі і тымі ж фактамі, з'явамі і ўважліва назірае, як рэагуюць яны на іх. У выніку — з розніцы настрояў, паводзін, думак і пачуццяў дзейных асоб навочна вырастае і розніца іхніх характараў.

Калі дзяк Бацяноўскі, пабыўшы пад акном у Лабановіча, прыйшоў са сваімі падазрэннямі і здагадкамі да айца Мікалая, той, асцярожны і дыпламатычны, пераведзеўшы вочы ў неазначаныя прасторы, унікліва адказаў:

— Усё можа быць...

— Пустое! Семінарскі ідэалізм яшчэ не зусім выветрыўся,— буркнуў ляснічы, які меў свае намеры ў адносінах настаўніка і час ад часу засылаў яму рэакцыйны часопіс «Новое время» ды творы Разанава і Лютастанскага.

А пісар Дулеба, прыкідваючы ўсё на сваю мерку, зазначыў:

— Папулярнасці сабе шукае.

Часам пяро Коласа проста нагадвае спакойнае, выразнае пяро мастака-этнографа. Сялянскі побыт, праца і адпачынак, свята і будні, непазбежныя ў старой вёсцы сваркі, лаянкі і бойкі, «страшныя» здарэнні, пасмешныя гісторыі, народныя прыкметы і забабоны, палескія легенды і паданні, абвеяныя таямнічасцю і аздобленыя багатай народнай фантазіяй,— знайшлі свой адбітак у аповесцях. Асабліва грунтоўна Коласам паказаны адносіны палешукоў да рэлігіі і паноў, да начальства і навучання ў школе.

Якуб Колас малюе падзеі як чалавек, што ўведаў іх вытокі, усвядоміў іх ходу. І хаця строгай паслядоўнасці ў развіцці сюжэта тут няма, пісьменнік метадыч-

на, крок за крокам вядзе чытача за сваім галоўным героем, па дарозе знаёмячы з навакольнымі людзьмі і жыццёвымі праявамі і дапускаючы значныя адхіленні ад асноўнага апавядання. Бо не лёс прадстаўнікоў асобных сацыяльных груп, а цалкам жыццё беларускага грамадства пэўнай эпохі цікавіць пісьменніка. Ён умее зацікавіць ім чытача. Таму даруецца заглыбленасць твораў і іх абцяжаранасць пабочнымі эпізодамі, за якімі ледзь угадваецца скразная дзея і якія моцна затрымліваюць яе развіццё.

У аповесцях, нібы ў фокусе, сканцэнтраваліся лепшыя здабыткі папярэдняй творчай дзейнасці Якуба Коласа-празаіка. Каларытнасць ранніх апавяданняў, такое характэрнае для прозы Коласа спалучэнне эпічнага, лірычнага і сатырычнага элементаў, тонкі гумар, незвычайная назіральнасць, увага да псіхалогіі, што хораша стасуецца з ідэяй твора і падпарадкавана яе выяўленню,— знайшлі свой адбітак і ўвасабленне ў трылогіі. Асобныя раздзелы аповесцей нават нагадваюць некаторыя дакастрычніцкія коласаўскія апавяданні і навелы («Староста», «Пісараў баль», «З дзёўніка пана Жылкі», «Бунт» і г. д.), але паўтараюць яны іх на значна больш высокім ідэйна-мастацкім узроўні.

«У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» (як і «На ростанях») — не толькі асабістае дасягненне пісьменніка. Аповесці з'явіліся цэлым этапам у развіцці беларускай літаратуры і як першыя ўзоры глыбока рэалістычных твораў буйнога жанру, у якіх высокая ідэйнасць спалучылася з добрай мастацкай формай, вызначылі на пэўны прамежак часу кірунак далейшага развіцця ўсяе нашае прозы.

## III

Думы і мары пра лёс свайго народа прасякалі творчасць лепшых прадстаўнікоў і дакастрычніцкай літаратуры.

Яны шчыра любілі сваю бацькаўшчыну і марылі аб яе свабодзе, прычым замілаванне да роднай прыроды і спачуванне працоўнаму чалавеку — творцы ўсіх багаццяў спалучалася ў іх з прагнымі пошукамі шляхоў жыцця.

І ўсё-такі іх патрыятызм быў супярэчлівы. Любоў да бацькаўшчыны, да яе сціплай прыгожай прыроды

азмрочвалася журбой і сумам з прычыны паднявольнага стану працоўных.

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор.
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Хоць гарыста яна, камяніста яна,
Вераб'ю па калена, што сею, расце,
Дык й люблю ж я яе, шкода хаткі, гумна:
О, такіх няма, мусіць, нідзе!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ды і што гаварыць! — дзе я толькі гляджу,
Бачу родненькі край, сваю матку-зямлю;
Тут і людзі... ат... што!.. аб іх после скажу...
Долі іх надта ж я не люблю!..—

з болем пісаў Янка Купала ў вершы «Гэта крык, што жыве Беларусь» (1915 г.).

Выратоўвала толькі мара і вера ў будучыню, заклік да якой так моцна гучаў у творах Я. Купалы і Я. Коласа.

Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць,
Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба залівацъ,—
Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,— жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.
(Я. Колас, «Не бядуй», 1907)

Трагічная супярэчнасць была знята толькі Кастрычнікам, што знішчыў сацыяльны і нацыянальны прыгнёт і даў беларускаму народу ўпершыню ў гісторыі дзяржаўнасць.

У выніку — сэнсам і зместам усёй творчасці беларускіх савецкіх пісьменнікаў зрабіўся паказ таго, як змяняецца аблічча роднай краіны, якія зрухі адбываюцца ў самой сацыяльнай структуры грамадства, у псіхіцы і светапоглядзе людзей, як нараджаецца і высявае ў іх савецкая нацыянальная гордасць, якая жывіцца ўсведамленнем таго, што на долю савецкага чалавека выпала найвялікшая роля здзейсніць адвечныя мары папярэдніх пакаленняў. Асаблівае значэнне набывае тэма калектыўнай стваральнай працы — працы, як асновы ўсіх матэрыяльных багаццяў і духоўных сіл

чалавека, як зарукі магутнасці і непераможнасці Радзімы. Ёй прысвечана і шырокавядомая аповесць Якуба Коласа «На прасторах жыцця» (1926 г.).

Побач з работай над буйнымі творамі, дзеянне ў якіх адбываецца да Кастрычніка,— паэмамі «Новая зямля» (1923 г) і «Сымон музыка» (1924—1927 гг.), аповесцямі «У Палескай глушы» і «У глыбі Палесся» — Якуб Колас выдае зборнікі апавяданняў: «Казкі жыцця» (1921 г.), «Першыя крокі» (1924 г.), «Крок за крокам» (1925 г.), «У ціхай вадзе» (1925 г.), «На рубяжы» (1925 г.), «На прасторах жыцця» (1926 г.). Даволі значная частка твораў, уключаных у гэтыя зборнікі, апавядае пра жыццё і барацьбу маладой савецкай краіны. Нельга сказаць, каб у той час Якуб Колас меў зусім выразнае ўяўленне аб некаторых падзеях, якія адбываліся ў жыцці савецкага грамадства. Выпадковае і наноснае часам засланяла ад яго істотнае і галоўнае («Курская анамалія»). Увага да адмоўных з'яў не заўсёды дазваляла яму разглядзець і беспамылкова ацаніць новае, што нараджалася ў тагачасным жыцці («Хаім Рыбс»). Абвостранасць нацыянальных пачуццяў, што захавалася з мінулага, тады-сяды прыводзіла да скажонага паказу рэчаіснасці («Туды, на захад»). Аднак галоўнай дамінантай, якая вызначае прыроду і накіраванасць творчасці Я. Коласа, з'яўляўся пафас сцверджання савецкіх форм жыцця і сацыялістычных ідэалаў. Гэта яскрава відаць нават на апавяданнях, у якіх крытыкуюцца адмоўныя з'явы жыцця і іх носьбіты («Царскія грошы», «Пракурор», «Калектыў пана Тарбецкага» і інш.). Я. Колас выкрывае дзікіх уласнікаў, прыстасаванцаў, замаскаваных ворагаў, выступае супроць мяшчанства, за новую мараль і этычныя нормы паводзін людзей у калектыве.

Цікава зноў параўнаць коласаўскія апавяданні з творамі Зм. Бядулі. Гаворачы ў ранніх сваіх апавяданнях і навелах пра беднасць і пакуты працоўнага сялянства пры царызме, Бядуля акцэнтаваў увагу амаль выключна на трагічных баках вясковага жыцця — жахлівай цемры, нястачы, голадзе, бяспраўі, непасільнай працы, загубленым дзяцінстве, цяжкой старасці. Людзі-пакутнікі, пакрыўджаныя лёсам, чые мары аб светлым жыцці разбіваліся аб варожую рэчаіснасць, былі яго героямі. Пытанне — чаму гэта так? — звычайна заставалася без адказу. Прычыны і вынікі блыталіся.

— Чаму я такі? — думаў Ігналя — герой апавядання «Сорам».— Людзі і не больш зямлі за мяне маюць, а лепш жывуць. У іх хаты агледжаны, скаціна ў парадку; ёсць і харч для сябе і корму для жывёлы, а ў мяне вецер свішча па ўсіх вуглах. Чаму так?

І ён у роспачы, сціснуўшы кулакі, праклінаў... сябе.

П'яніца Арцём («Тулягі»), пахаваўшы адзіную дачку, якая захварэла на сухоты ад непасільнай працы ў багацея, у бяссільнай злосці кляне... боль сваёй душы.

Бядак Сымон з аднайменнага апавядання ўсю сваю злосць на жыццё, беднасць спаганяе на жонцы, а яго цёзка з апавядання «Як у бібліі» — на сваёй знясіленай кабыле.

Быў ва ўсім гэтым, вядома, і папрок у абмежаванасці, адрасаваны да селяніна, але гэты папрок не мог стаць дзейсным, бо пазітыўнай праграмы Зм. Бядуля не раскрываў, а жаль да тых, на каго накіроўваліся злосць і абурэнне герояў, засланяў усё астатняе.

Натоўп у Зм. Бядулі звычайна страшны ў сваёй жорсткасці. У ім абуджаюцца такія першабытныя інстынкты, якія кожны чалавек паасобку адкінуў бы з сорамам і гневам («Чараўнік», «Сорам»).

Змітрака Бядулю больш за ўсё цікавяць ракавыя, трагічныя крызісы ў жыцці чалавека: калі прыходзіць старасць, і чалавек раптам, згубіўшы сілу, усведамляе гэта («Умарыўся»); калі рушацца мары ўсяго жыцця, і чалавек бездапаможны знайсці ў сабе сілы, каб зажыць новымі марамі і надзеямі («На каляды к сыну», «Бондар»); калі ціхі і сумленны чалавек вымушаны стаць злодзеем («Сорам»). І нязменна — крызіс завяршаецца гібеллю чалавека, якая прыходзіць ад уласнай роспачы, ад няшчаснага выпадку, ад стыхіі. Бездапаможныя разабрацца ў навакольнай рэчаіснасці, героі Зм. Бядулі, нягледзячы на свае станоўчыя чалавечыя якасці, робяцца ахвярамі бязлітасных абставін, незразумелых, варожых, непераадольных. Гэтыя ж акалічнасці, апрача ўсяго, перашкодзілі і самому пісьменніку адразу зразумець гістарычную сутнасць Кастрычніка.

Якуб Колас горача любіў чалавека-працаўніка, верыў у яго і ягоныя творчыя сілы. Ён ведаў яго сяброў і ворагаў і ўсведамляў, што шляхі да светлай будучыні пралягаюць праз рэвалюцыйную барацьбу. Да таго ж ідэйна-палітычны рост Я. Коласа ішоў у кірунку да марксізма. Аб гэтым сведчыла крытыка Коласам ся-

лянскай абмежаванасці, канстатацыя класавай дыферэнцыяцыі сялянства, прызнанне рэвалюцыйнага ўзброенага паўстання як сродку, пры дапамозе якога толькі і можна знішчыць свет эксплуататацыі. Недарэмна герой аднаго з першых коласаўскіх апавяданняў на сучасную тэму («Дачакаўся», 1923 г.) — селянін-бядняк Пятро Мазалеўскі, які з'яўляўся лагічным развіццём вобразаў ранейшых бунтароў і пратэстантаў, шчыра віtae рэвалюцыю, бо яна «паланіла, захапляла яго веліччу і хараством ідэі, калі людзі будуць мець роўнае права на карыстанне дабрабытам, калі не будзе гэтага абірання чалавека чалавекам і знікне гэтае векавечнае прыгнечанне багатым беднага». Таму відавочна — памылкі пісьменніка ў тых ці іншых выпадках вынікалі не з разладу яго з рэчаіснасцю, а ў працэсе добразычлівага вывучэння яе, у працэсе авалодвання метадам сацыялістычнага рэалізму.

У апавяданні «Сяргей Карага», напісаным у тым жа годзе, што і «Дачакаўся», Якуб Колас імкнецца ўсвядоміць ролю Камуністычнай партыі ў рэвалюцыі, дакладней — у грамадзянскай вайне, і першы ў беларускай прозе стварае вобраз рабочага-бальшавіка як носьбіта рэвалюцыйнай волі. Праз мужную смерць свайго героя пісьменнік сцвярджае правату і непераможнасць бальшавіцкіх ідэй, якія вызначаюць поступ гісторыі і накіроўваюць яго па пэўным рэчышчы. Вырасшы ў рэвалюцыі, Сяргей Карага аддае ёй сваё жыццё, шкадуючы толькі аб адным, што не прыйдзецца «быць сведкаю тых вынікаў жыцця, якія прынясуць з сабою камуністы, і тых форм новага будаўніцтва, у якія выльецца гэтае жыццё».

Характэрна, што і Зм. Бядуля ў аповесці «Дзесяць» (1927 г.) бярэцца за гэтую ж тэму і спрабуе падаць рэвалюцыйны рух і рэвалюцыйнае змаганне сялянства як вынік пашырэння ленінскіх ідэй, паказвае іх цэментуючую і накіроўваючую сілу. Разам з Я. Коласам ён прысвячае рад твораў паказу новага ў побыце вёскі і ў свядомасці працоўнага селяніна: бядняк Янка Гарбач ліквідуе сваю непісьменнасць («Тры крыжыкі»); цярплівая, слаўная Аўгіння — жанчына з залатым сэрцам, якую на працягу ўсяго папярэдняга жыцця няшчадна біў п'яніца-муж, паўстае на абарону годнасці жанчыны («Дэлегатка»); развейваецца вера ў бога, у рэлігію («Пуд жыта», «У глушы»). У той жа аповесці «Дзесяць»

Зм. Бядуля гаворыць аб магчымасцях, якія раскрыла савецкая ўлада перад працаўнікамі вёскі. І гэта, апрача ўсяго, было вынікам уплыву на Зм. Бядулю творчасці Я. Коласа і, у першую чаргу, яго аповесці «На прасторах жыцця».

Аповесць «На прасторах жыцця» сведчыць аб далейшым ідэйна-творчым уздыме беларускай прозы.

Раскрываючы сутнасць сацыялістычнага рэалізму, М. Горкі гаварыў:

«Сацыялістычны рэалізм сцвярджае быццё як дзеянне, як творчасць, мэта якой — бесперапыннае развіццё каштоўнейшых індывідуальных здольнасцей чалавека дзеля перамогі яго над сіламі прыроды, дзеля яго здароўя і доўгага жыцця, дзеля вялікага шчасця жыць на зямлі, якую ён адпаведна бесперапыннаму росту яго патрэб жадае апрацаваць усю, як прыгожае жыццё чалавецтва, аб'яднанага ў адну сям'ю.

Вельмі блізкае да гэтага сцверджанне жыцця знаходзім мы і ў аповесці Я. Коласа. Паказваючы жыццё як барацьбу за сацыялістычныя ідэалы, Якуб Колас гаворыць тут не толькі аб рэчаіснасці сённяшняга дня, але і аб тых яе тэндэнцыях, якія вынікаюць з хады падзей. Ён увасабляе ў мастацкія вобразы свае мары, жаданні. Сцверджанне жыцця як дзеяння, як творчасці знайшло сваё праяўленне і ў імкненні пісьменніка сілаю мастацкага слова ўзнавіць вобраз чалавека-будаўніка, даць адказы на хвалюючыя пытанні сучаснасці, дапамагчы чалавеку правільна зразумець і вырашыць праблемы асабістага жыцця і ўстанавіць патрэбныя ўзаемадачыненні з навакольным светам. Усё гэта рабіла аповесць наватарскай, актуальнай і вызначала яе месца ў маладой беларускай прозе.

У аповесці «На прасторах жыцця» Якуб Колас апавядае аб першых парастках новага ў побыце вёскі, аб рабоце ленінскага камсамола, аб імкненні вясковай моладзі да навукі і культуры, як адказ на запатрабаванні жыцця і заклік У. І. Леніна, кінуты ім з трыбуны III з'езда камсамола, аб тых прасторах, якія раскрыла перад моладдзю савецкая ўлада. Шчырая ў сваім імкненні перабудаваць жыццё, моладзь абвяшчае барацьбу рэлігійным забабонам, вясковай цемры і кансерватызму, узаемнай адасобленасці людзей — гэтай спадчыне мінулага, і асабістым прыкладам сцвярджае перавагу калектыўнай працы над аднаасобнай. Рухаючай

сілай яе паводзін і ўчынкаў становіцца ўжо савецкі патрыятызм, мары бачыць жыццё светлым, прыгожым.

Герой аповесці Сцяпан Барута — вясковы юнак, параўшы з бацькамі, ідзе пехатою ў горад, каб паступіць на рабфак. «Бяскрайнія прасторы ляжаць перад ім, пазіраюць на яго незлічонымі вачыма, пазіраюць маўкліва і ўдумна, як бы пытаючыся: «Якая бура нясе цябе, хлопча? Куды і чаго?..» «Усё, што было найдаражэйшае ў яго жыцці,— піша Колас,— дзяцінства, таварышы, сям'я, Аленка і гэтае пяшчотна-кволае дрыганенне струн яго сэрца — усё гэта засталося там, пад саламянымі стрэхамі...»

Дык што ж за бура несла гэтага хлапца?

Аказваецца, гэтай сілай было ўсведамленне таго, што рэвалюцыя раскрыла перад вясковай моладдзю магчымасць стаць актыўным удзельнікам будаўніцтва новага жыцця, быць свядомым памочнікам савецкай уладзе ў будаўніцтве новай дзяржавы.

Настойлівы і паслядоўны, ён упэўнена ідзе да пастаўленай мэты, ні на хвіліну не забываючыся на свой абавязак перад Радзімай і народам. І чым больш устае перад ім перашкод, тым больш расце ў яго жаданне дабіцца свайго. Калі пасля сканчэння пачатковай школы яму не выпадае паступіць у сямігодку, ён самастойна пачынае рыхтавацца на рабфак. Калі першая яго спроба выступіць супроць рэлігіі і вясковай цемры канчаецца няўдачай і замест разбуранага «святога калодзежа» сяляне пабудавалі новы,— верны сваім планам, ён кідае родную вёску і ідзе ў горад. На рабфаку Сцяпан паступае ў камсамол і, рыхтуючыся да будучага, грунтоўна і стала распрацоўвае сваю «праграму дзейнасці на вёсцы». У асобе Сцяпана Баруты Я. Колас паказаў фармаванне новага чалавека, для якога пазнанне — радасць, служэнне народу — сэнс жыцця.

Узбагачаны ведамі, вярнуўшыся ў родную вёску, Барута арганізуе моладзь і сялян на асушку Гнілога Балота, захапляе іх веліччу тых магчымасцей, якія адкрываліся перад аднаўляемай краінай, прычым важна адзначыць, што і яго і ягоных сяброў не толькі вабіць і прыцягвае матэрыяльная карысць, што можа быць у выніку ажыццяўлення гэтага плана, але і «самы размах і велічыня тае задачы, што ўставала перад імі», бо яны разумелі — калектыўная праца, натхнёная вялікай ідэяй, перамагае прыроду і перарабляе людзей.

Так Сцяпан Барута прыходзіць да думкі аб неабходнасці стварэння «калектываў працы», праз якія толькі і можна змяніць вёску.

Аб ператварэнні прыроды марыў і Лабановіч.

«Каб людзі грамадою паўсталі на работу,— думаў Лабановіч,— яны асушылі б балоты, пазносілі б пяскі з палёў, а балотны гной і яго ўраджайны грунт перанеслі б на пясчанае поле — хапіла б і хлеба і сенакосу».

Ён верыў, што здолее заклікаць грамаду на новую дружную работу. Грамада асушыць балоты, створыць новыя землі, правядзе дарогі, абсадзіўшы іх пладовымі дрэвамі, зробіць масты, пабудуе прыгожыя дамы і пачне жыць шчасліва і багата. Яму здавалася, што адзінай перашкодай у гэтым з'яўляецца людская нядбайнасць і закаранеласць форм людскога жыцця. Што б значыла для сялян адвесці тыдні два часу, каб гуртам збыць такую злыбяду, як Чорная грэбля? Няўжо нельга балотнай тванню ўгноіць поле? Але хутка высветлілася, што зямля не сялянская, а арандаваная, і невядома, як павернецца справа далей, бо «скарб хоча пусціць гэтую зямлю на замену з канцамі сялянскіх шнуроў, што падыходзяць або ўкліняюцца ў скарбовы лес, каб такою заменаю акругліць княжацкія лясы». Аказалася таксама, што патрэбных для гэтага ні сіл, ні часу не мае і не можа мець селянін: усё забірае штодзённая катаржная праца.

Утваралася нейкае зачараванае кола, адкуль не было выхаду. Не дапамаглі яго знайсці і найбольш блізкія сябры-паплечнікі Лабановіча — практычны, разважлівы Турсевіч і шчыры, экспансіўны Садовіч, якія самі ў той час заставаліся ў такім жа «замкнутым крузе агульных пытанняў маралі, ідэалізму і ў няясным парыванні да «разумнага жыцця».

Сцяпан Барута здзяйсняе сваю задуму, бо за яго плячыма стаіць савецкая дзяржава з яе ўсенароднай уласнасцю на зямлю і нетры, з яе справядлівымі грамадскімі ўзаемаадносінамі паміж людзьмі, раскутыя сілы якіх ужо не сустракаюць перашкод. Ды і сам Барута зусім іншы, чым Лабановіч таго часу. Ён чалавек справы. Яго мары і замыслы не ўтапічныя, а глыбока рэальныя, і вырастаюць яны з патрэб і магчымасцей самога жыцця. Іншымі сталі і адносіны паміж героем і наваколлем. Навука, асвета не толькі не аддаліла Сцяпана Баруту ад народа, але, наадварот, ліквідавала не-

каторыя прыватныя канфлікты, узняла яго ў вачах людзей, зрабіла важаком. Іншымі сталі і адносіны паміж чалавекам і прыродай.

Любоў да прыроды і майстэрства яе паказу заўсёды былі ўласцівы народнаму паэту.

У лісце ад 18 чэрвеня 1927 года да Л. Клеймбарта, дзе Якуб Колас выкладае сваю біяграфію, ён пісаў: «У кожным моманце з'яў прыроды для мяне ўсё было поўна глыбокай цікавасці і сэнсу, і кожны бачны элемент прыроды для мяне меў свой твар, сваю акрэсленую індывідуальнасць, сваё пэўнае жыццё, свядомае, адухоўленае».

У аповесцях «У Палескай глушы», «У глыбі Палесся» і «На ростанях» карціны беларускай прыроды, то статычныя і велічныя, як на палатне мастака, то рухавыя і зменлівыя, як на кінастужцы, амаль непарыўнай панарамай праходзяць перад чытачом. Карціны прыроды раз-поразу ўплятаюцца ў душэўнае жыццё героя і робяцца адным з важнейшых сродкаў яго характарыстыкі. Пры гэтым Колас ужывае падвойную залежнасць. З аднаго боку, тыя ці іншыя з'явы прыроды ўплываюць на чалавечую псіхіку, на настрой і пакідаюць свой адбітак на чалавеку, з другога боку, прырода афарбоўваецца ў тон настрояў героя. Часам герой шукае ў прыродзе адказы на пэўныя пытанні, часам яна з'яўляецца прадметам яго роздуму або сцверджаннем яго думак, доказам іх правільнасці, тады пейзаж пераходзіць у лірычныя адступленні, напісаныя ў манеры Гогаля, у разважанні аб лёсе людзей, што жывуць на ўлонні гэтай прыроды.

У аповесці «На ростанях» пейзаж часам набывае сімвалічнае гучанне. Пісьменнік праз яго падае падзеі грамадскага жыцця (напр., апісанне завірухі, якая сімвалізуе сабою чорную рэакцыю, наступіўшую пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года, у IV раздзеле) або паказвае месца і пазіцыю дзейнай асобы ў гэтых падзеях (напр., апісанне змагання Лабановіча з завірухай у тым жа раздзеле). Колас часта сам раскрывае гэта другое, унутранае значэнне пейзажу. Улавіўшы ў жалобных завываннях і галашэннях завірухі нешта вельмі падобнае да плачу над дарагім нябожчыкам, Я. Колас ставіць рытарычнае пытанне:

«Хто ж ён, гэты нябожчык? Можа, гэта той усенародны выбух гневу і абурэння супроць царскага сама-

ўладства, памешчыцкага гнёту, выбух, які заліваецца зараз крывёю народа шляхам карных экспедыцый, шыбеніц, расстрэлаў, узаконеных царом і «святою» царквой?»

І адразу карціна лютай завірухі набывае новы сэнс, пачынае несці выразна сацыяльную думку.

Зніташанасць чалавека і прыроды — характэрная рыса твораў Коласа. Часта чалавек і прырода нават мяняюцца тут месцамі, і тады чародкі па-святочнаму прыбраных дзяўчат-паляшучак ператвараюцца ў макавыя кветкі ў агародзе, а ахіненыя вячэрнім шэрым змрокам поле і лес — у жывую істоту, апанаваную смуткам.

Адухоўленай успрымаюць прыроду і дзейныя асобы. Турсевіч, напрыклад, прывыкае да дрэў, як да блізкіх істот, і яму здаецца, што прыдарожныя старыя бярозы смуткуюць і аб чымсьці скардзяцца і што яны таксама нешта пачуваюць, «іменна пачуваюць».

Гэтую ж думку выказаў і сам пісьменнік у эпіграфе да зборніка «Казкі жыцця».

Заўсёды адухоўленая, нібы разумная, прырода з'яўляецца не столькі фонам, колькі своеасаблівай дзейнай асобай у аповесцях «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» і «На ростанях». Але знамянальна тут тое, што ў другой аповесці малюнкі прыроды саступаюць месца малюнкам побыту і штораз падаюцца ўсё радзей; развіццё дзеяння ў творы набывае ўсё большую і большую дынамічнасць, мэтаімклівасць, а ўвагу героя пачынае перад усім браць сацыяльны бок жыцця. Гэтым Якуб Колас як бы гаворыць, што прадумовай патрэбных узаемаадносін паміж чалавекам і прыродай з'яўляецца належнае ўладкаванне грамадскіх узаемадачыненняў паміж людзьмі. У трэцяй жа аповесці малюнкі прыроды, як ужо гаварылася, набываюць сімвалічнае значэнне і часта выконваюць ролю своеасаблівай уверцюры да наступных падзей.

Яшчэ больш дзейсны пейзаж у аповесці «На прасторах жыцця». Праўда, у трылогіі пісьменнік таксама не заклікае чалавека падпарадкавацца прыродзе, скарыцца перад яе веліччу або адмовіцца ад усяго людскога і зліцца з ёй. Яго адносіны да прыроды актыўныя і там. Аднак у аповесці «На прасторах жыцця», падаючы малюнкі прыроды, Колас паслядоўна праводзіць думку, што прырода з'яўляецца не толькі крыніцай хараства,

але і багацця, якое чалавек-творца павінен выкарыстаць і пачынае выкарыстоўваць для свайго дабрабыту і шчасця. Чалавек можа быць бяссільным і вартым жалю толькі сам-насам з прыродай, калектыўная ж воля ўсюды і заўсёды скарае яе, ставіць на службу чалавеку.

«З кожным паваротам чыгункі, з кожнаю новаю вярстою Сцёпка глыбей адчувае ўладу гэтых незнаёмых прастораў, сярод якіх параскіданы цёмна-сінія палоскі лясоў. І гэтыя вёсачкі, і людзі, і гаі побач дарогі пазіраюць на яго, як на чужынца, неспагадліва і нават, здаецца, варожа. Маркотна і неспакойна на сэрцы...»

«Яшчэ гучней загаманілі Сухія Груды, а балота маўчыць панура, закрыўшыся зялёнаю коўдраю. Дзед-дуб з-за балота глядзіць на Сухія Груды, як бы грамадою любуецца. А грамада працуе. Яшчэ гусцей ляцяць сінія, жоўтыя, белыя камякі зямлі, срэбрам і золатам кладучыся па адзін і другі бок канала... Паглядзець — любата. Усё сяло часам збіраецца тут. Адны працаваць, другія — проста так сабе, палюбавацца. Нават чужыя людзі заходзілі сюды. Глядзяць ды галовамі трасуць.

— Сенакос, сенакос будзе!..»

Параўнайце гэтыя абразкі, і вы ўбачыце творчыя адносіны пісьменніка да прыроды. Цяпер у пейзаж Коласа трапляе чыгунка, станцыя, горад. Упершыню ў беларускай прозе сустракаем шырокія карціны Мінска.

Можа здацца, што канфлікт, які ляжыць у аснове аповесці «На прасторах жыцця», з'яўляецца канфліктам паміж бацькамі і дзецьмі. Па-мойму, гэта толькі знешняе ўражанне. Праўда, Я. Коласу і тут яшчэ не зусім выразна ўяўлялася сутнасць і характар класавай барацьбы, якая ішла ў тагачаснай вёсцы і вызначала кірунак яе руху. Але мяжа, што падзяляе дзейных асоб аповесці на розныя лагеры, не супадае з мяжою, што лягла паміж пакаленняў. Супярэчнасці паміж старым, аджываючым, наносным, з аднаго боку, і здаровым, новым, што нарадзіла рэвалюцыя і савецкая ўлада, з другога боку,— вось што складае сутнасць і змест калізій аповесці.

Сцёпка разумее сваіх бацькоў і шмат у чым падзяляе іхнія думкі. Ён пакідае іх з надзеяй на зварот, бо

ўпэўнены, што рана ці позна яны стануць яго аднадумцамі і паплечнікамі.

А нагадайце сцэну, калі Сцёпка пакідае родную хату. Бацька ж, па сутнасці, таксама спачувае сыну, і толькі неадольная сіла інерцыі, тая чорная сіла, якой ён прывык падпарадкавацца на працягу ўсяго папярэдняга жыцця, штурхае яго на разрыў. Гэта — не вынік яго волі, а як бы часовая ўступка Ціту, коснаму, але трываламу пакуль што вясковаму ўкладу. Была ва ўсім гэтым і бацькоўская крыўда на сына, які дапусціў учынак, што не мог прынесці карысці, хоць і жывіўся самымі добрымі намерамі. Вось чаму, калі пасталелы Сцёпка, зразумеўшы, што «разбураць трэба саму ідэю, а зруб і крыж — гэта што», распачынае асушку Гнілога Балота, Міхась Барута далучаецца да сына і дапамагае моладзі ў яе пераўтваральнай працы.

Побач з гэтым Якуб Колас падае чыстыя высакародныя адносіны паміж героем аповесці і Аленкай — разумнай, цнотнай дзяўчынкай з слаўным адданым сэрцам. Узнікшае з пачуцця шчырай прыязні і наіўнага спаборніцтва, іх каханне вырастае на грунце агульных інтарэсаў, узаемадапамогі, блізкіх мар, беззаветнай адданасці навуцы, агульнага стаўлення да навакольнага і будучыні. Мацнеючы і нарастаючы з падзеямі, яно загартоўваецца ў выпрабаваннях. У вырашальныя моманты Аленка заўсёды побач з любым юнаком. Вобраз дарагой дзяўчыны нават ва ўспамінах бадзёрыць Сцёпку. Іх пачуццё глыбокае, сучаснае, мілае і натуральнае. На іх адносінах Я. Колас паказаў нараджэнне новых пачуццяў і сувязей паміж людзьмі, абуджэнне ў іх вялікай прагі жыцця. На вобразах Сцёпкі і Аленкі пісьменнік раскрыў ролю савецкай школы ў фарміраванні гарманічнай, дзейснай і мэтанакіраванай асобы, якая пачынае глядзець на сэнс і мэты свайго жыцця з пункту погляду інтарэсаў народа.

Высокаму чыстаму пачуццю Сцёпкі і Аленкі ў аповесці супрацьстаіць кароткае і нездаровае каханне ціхай даверлівай Ніны Ральніцкай і Шулевіча — цыніка і фразёра, для якога ўсякая дзявочая сарамлівасць з'яўлялася мяшчанствам.

«Ну, зышліся, разышліся. Узялі падатак ад сваёй маладосці і — квіта»,— так разважае сам сабе Шулевіч аб узаемаадносінах з Нінай, якія прынеслі дзяўчыне многа пакут і гора.

Я. Колас зрывае маску з Шулевіча, з яго «левых» фраз, бязлітасна выкрывае фальш яго сябелюбівай чэрствай натуры, паказвае ўсю яго старасвецкасць.

Гісторыя Ніны і Шулевіча ў кампазіцыйных адносінах стаіць крыху ў баку ад агульнай плыні аповесці. Але яна адыгрывае важную ролю ў развязванні абранай пісьменнікам калізіі, у развіцці і сцверджанні асноўнай ідэі твора. Указваючы, як на пачэсны абавязак і патрыятычны доўг моладзі, на яе ўдзел у будаўніцтве новага жыцця ў краіне, Якуб Колас папярэджвае моладзь, што вынікі яе ўдзелу шмат у чым залежаць ад таго, ці будуць адносіны паміж моладдзю абапірацца на сапраўды новую этыку і трывалыя маральныя нормы, вартыя савецкага чалавека, ці не.

У 1931 годзе Якуб Колас піша аповесць «Адшчапенец». Гэта — твор аб сацыялістычным пераўтварэнні вёскі, аб тых велізарных зрухах, што адбываліся ў свядомасці сялянства ў гады «вялікага пералому». Сюжэт аповесці — дынамічны стрыжань яе кампазіцыі — складаюць вандраванні селяніна Пракопа Дубягі, які, не прыняўшы ідэі калектывізацыі, асудзіў сябе на самавыгнанне.

Характэрна, што падобны сюжэт ці сюжэтны матыў у свой час абралі таксама Ф. Панфёраў (раман «Бруски», 1928—1933 гг.) і А. Твардоўскі (паэма «Страна Муравия», 1939 г.). Як і Якуб Колас, ідэю перамогі калгаснага ладу яны выказалі праз паказ краху ілюзій сваіх герояў, якія, як і Пракоп Дубяга, кінуўшы сям'ю і гаспадарку, падаліся на пошукі «зямлі, дзе няма калектывізацыі». Як і адшчапенец Дубяга, «апошні аднаасобнік» Мікіта Маргунок з «Страны Муравии» і Мікіта Гур'янаў з рамана Ф. Панфёрава песцілі мару аб нейкай краіне, дзе, кажучы словамі А. Твардоўскага,

Земля в длину и в ширину
Кругом своя.
Посеешь бубочку одну,
И та — твоя.
И никого не спрашивай,
Себя лишь уважай.
Косить пошел — покашивай,
Поехал — поезжай.

И все твое перед тобой,
Ходи себе, поплевывай.

Колодец твой, и ельник твой,
И шишки все еловые.

Тое, што бачылі яны ў час падарожжа, шукаючы гэты дробнаўласніцкі «рай», таксама разбівае і іх ілюзіі. Перад імі адкрываецца дарога ў калгаснае жыццё.

Падабенства тут не вычэрпваецца адным адзінствам сюжэтнай канвы. Яго можна прасачыць і ў рысах характару герояў, і ў іх думках, і ў рэакцыях на падзеі. Магчыма, у гэтым яшчэ нельга бачыць факта ўзаемаўплываў, бо хутчэй за ўсё тут мы маем вынік уплыву басамога жыццёвага матэрыялу на пісьменнікаў, але бачыць у гэтым пэўнае сведчанне адзінства шляхоў, па якіх ішло развіццё брацкіх літаратур, можна і трэба.

Абраны сюжэт даваў магчымасць Я. Коласу пранікнуць у сацыяльныя канфлікты таго часу, адлюстраваць працэсы, што адбываліся ў вёсцы на рубяжы дваццатых і трыццатых гадоў. І што таксама важна — гэты сюжэт дазваляў не толькі раскрыць характар героя, але і паказаць гісторыю яго росту і арганізацыі.

Пракопа Дубягу нарадзілі заскарузлыя патрыярхальныя адносіны. У яго дзіўныя ўяўленні аб свабодзе, шчасці, чалавечай годнасці, аб сваіх абавязках перад навакольнымі людзьмі. Яго інтарэсы, імкненні і мары — гэта інтарэсы, імкненні і мары ўласніка. Што перашкаджала яму адразу пагадзіцца з калгасам і прыняць яго? Гэта перш-наперш перакананне, што ў калгасе ён не будзе гаспадаром сваёй зямлі, свайго каня, сябе і што павінен будзе рабіць, калі, дзе і што яму загадаюць. «Не, ён не скарыцца перад чужой воляй!..» Да таго ж ён вельмі шкадаваў сваё старое котлішча, звыклы і любы круг работы, шкадаваў рахманага чырвоненькага коніка, карову з закарэлымі ад гною сцёгнамі. Ён не верыў у людзей, у іх сумленнасць, у іх гатоўнасць жыць і працаваць у калектыве, а з гэтага нявер'я вырастала нявер'е ў новыя формы жыцця. Ды і наогул ва ўсім гэтым было не столькі свядомага і разумнага, колькі прадузятага, упартага. Калі аргументы яго блеклі, трацілі сілу нават у яго ўласных вачах, Пракоп Дубяга пачынаў ламаць галаву, шукаючы новых, прагавіта лавіў іх на вуліцы, на сходах — усюды, дзе толькі можна злавіць. Гэта быў сляпы пратэст і бунт себялюба. І зусім натуральна, што яго абурэнне і крыўда выліліся ў форму старых традыцыйных прочак.

Што зламала яго ўпартасць?

Хутчэй за ўсё адчуванне поўнага свайго адзіноцтва, бесперспектыўнасці і адарванасці ад людзей. Пераканалі ж — толькі важкія, відавочныя факты. Надзвычай характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца сустрэча Пракопа з трактарам. Раней ён многа чуў пра трактары, але ніколі не бачыў, хоць і «разносіў на ўсе застаўкі». І вось, сутыкнуўшыся з трактарам, ён адчуў перад ім некаторы страх, як перад жывой істотай, што прыйшла спецыяльна для таго, каб зрабіць рэвалюцыю ў гаспадарцы. Пракоп доўга тупаў каля трактара, аглядаў яго з усіх бакоў, стукаў па ім кулаком, распытваў пра яго работу. І хоць для смутку і незадаволенасці не было падстаў, адышоў ад трактара з такім пачуццём, з якім адыходзіць пераможаны ад свайго пераможцы. Але і тады для яго даволі доўга заставаліся незразумелымі тыя «спружыны і ўся тая механіка», што прыводзіла ў рух жыццё ў калгасе.

Падрабязна і нават празмерна падрабязна апісвае Якуб Колас «свой калгас» «Хваля рэвалюцыі». Па-гаспадарску, з дакладнасцю будаўніка, што складае вытворча-тэхнічны праект, паводле якога на заўтра павінна весціся будаўніцтва, пісьменнік апавядае аб калгасных пабудовах.

З няменшай дакладнасцю гаворыць ён пра падзел і арганізацыю працы ў калгасе, пра догляд за жывёлай і мерапрыемствы па ўзняццю ўраджайнасці, пра тэхнічныя вынаходкі калгаснікаў, пра іх вучобу, быт і адпачынак.

Праўда, не ўсё, што культывавалася ў калгасе «Хваля рэвалюцыі», прыжылося пазней у калгаснай практыцы, і тое-сёе выглядае цяпер наіўным, але агульны напрамак, па якім пайшлі ўмацаванне і рост калгасаў, прадбачліва быў улоўлены пісьменнікам. І ўжо таму верыцца ў перараджэнне Пракопа Дубягі, калі ён пазнаёміўся з людзьмі і справамі такога перадавога, дружнага калектыву, з яго культурай і творчымі адносінамі да працы.

Аднак аб'ектыўнасць патрабуе адзначыць, што пры абмалёўцы жыцця калгаса «Хваля рэвалюцыі», пераважае апісальніцтва, знешні паказ. Жыццё калгаса не ахінена атмасферай паэзіі калгаснай працы, у ім не адчуваецца біцця пульсу краіны, яно як бы ізалявана ад наваколля і нечым нагадвае жыццё на утапічнай выспе Томаса Мора.

Гэта бачыў і сам празаік. У нататцы Якуба Коласа «Як я пісаў аповесць» «Адшчапенец» ёсць такое прызнанне: «Да хібаў аповесці трэба аднесці вузкасць і непаўнату разгорнутасці сюжэта. Мастацкі паказ часта падмяняецца простым пераказам ад аўтара. Для аповесці ў цэлым было б лепей, калі б вандраванне Пракопа было паказана з пачатку да канца ў форме рада сцэн, эпізодаў».

Дый сам вобраз «упартага нехацімца», «самавыгнанніка» пазбаўлены багацця індывідуальнасці, што толькі і робіць вобразы жывымі, цікавымі. Ён схематычны. Нездарма пісьменнік, каб кампенсаваць гэта, надзяляе Дубягу дзівацтвамі. Таму аповесць «Адшчапенец», сведчачы аб пашырэнні тэматыкі і праблематыкі ў творчасці Коласа, не заняла ў ёй пачэснага месца.

## IV

Індустрыялізацыя і сацыялістычная перабудова вёскі ў корані змянілі аблічча нашай краіны. Сацыялізм стаў сапраўднасцю. І натуральна, што само жыццё, поўнае рэвалюцыйных пераўтварэнняў, вялікія справы народа патрабавалі для свайго адлюстравання ў мастацтве глыбокіх думак і шырокіх абагульненняў. І як адказ на гэтае патрабаванне ў беларускай прозе ў пачатку трыццатых гадоў, як ніколі дагэтуль, з'яўляюцца шырокія эпічныя палотны. Якуб Колас піша аповесць «Дрыгва» (1933 г.), Змітрок Бядуля — вялікі двухтомны раман «Язэп Крушынскі» (1932 г.), Міхась Зарэцкі — раман «Вязьмо» (1932 г.), Кандрат Крапіва — раман «Мядзведзічы» (1932 г.), Платон Галавач — аповесць «Спалох на загонах» (1930 г.) і раман «Праз гады» (1934 г.), Міхась Лынькоў — раман «На чырвоных лядах» (1934 г.), Кузьма Чорны — раманы «Бацькаўшчына» (1932 г.) і «Трэцяе пакаленне» (1934 г.).

Аповесць «Дрыгва» Я. Коласа адыграла важную ролю ў развіцці буйных жанраў беларускай прозы. Вылучаючыся глыбокім веданнем жыцця, людзей, яна адначасна вызначалася сваім глыбока філасофскім асэнсаваннем рэчаіснасці. Аснованая на канкрэтных жыццёвых фактах, аповесць паказала, як калізіі і сітуацыі, узятыя непасрэдна з сапраўднасці, пад пяром пісьменніка — сацыялістычнага рэаліста, могуць стаць калі-

зіямі і сітуацыямі сапраўды мастацкага рамантычна прыўзнятага твора. Аповесць яшчэ больш прыкавала ўвагу пісьменнікаў да нашай багатай рэчаіснасці, паклаўшы ў беларускай прозе пачатак каштоўнай традыцыі — браць за героя мастацкага твора народнага героя, у якім якасці народа праяўляюцца з асаблівай паўнатой.

Праўда, непасрэднае дзеянне ў творы адбываецца на тэрыторыі з радыусам усяго ў 15—20 кіламетраў, у адным з глухіх куткоў Палесся, куды нават «водгулле таго, што дзеялася на свеце, далятала ў прыглушаных тонах або з такімі напластаваннямі людской фантазіі, што ўжо трудна было вылушчыць з іх зерне праўды». Але пісьменнік пры гэтым выходзіў з таго, што «на фоне падзей шырокага маштабу, дзе ставіліся на карты лёсы мільёнаў, дзе вырашалася пытанне, быць ці не быць новай, маладой сістэме жыцця, за якую біліся бальшавікі, адбываліся падзеі малых ахватаў, выступалі паасобныя людзі ці групы людзей, як адгаліненне падзеі вялікага размаху, з тою толькі розніцаю, што тут яны не такія згушчаныя, не такія яркія і мала каму вядомыя». Гэты кантраст і ўяўная неадпаведнасць далі пісьменніку магчымасць падкрэсліць усеагульнасць паказваемых падзей, сцвердзіць іх паўсюднасць. Трымаючы ў полі зроку агульны ход вайны панскай Польшчы з маладой савецкай краінай, а з другога боку, абмяжоўваючы сябе ў канкрэтным паказе «падзеямі малых ахватаў», Я. Колас пашырыў гэтым рамкі твора і, узнавіўшы агульную карціну эпохі, яскрава паказаў працэсы і змены, якія выклікала вайна ў жыцці тых пластоў грамадства, што яго асабліва цікавілі.

Іншаземная інтэрвенцыя выклікала магутную хвалю рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы і гранічна абвастрыла класавую барацьбу ў самім заняволеным народзе, прычым размежаванне класава варожых лагераў пайшло па той жа лініі — адносін да інтэрвенцыі. У выніку — барацьба працоўных мас супроць захопнікаў стала класавай барацьбой за сацыялістычны лад, супроць усіх і ўсялякіх ворагаў наогул, якія наважыліся аднавіць мінулае.

Зразумела, што гэтая барацьба ў сваім развіцці прайшла пэўныя стадыі — ад стыхійных, адзіночных пратэстаў да арганізаванага змагання тысяч. Паказ гэтага і складае як бы знешнюю тэму аповесці. Але з рос-

там руху, у гарніле рэвалюцыйнай барацьбы, раслі і яе ўдзельнікі: яны вызваляліся ад перажыткаў старога, узбагачаліся духоўна і інтэлектуальна. Паказ ідэйнага, палітычнага перавыхавання, росту працоўных мас у сацыялістычнай рэвалюцыі складае, на маю думку, другую, унутраную і больш шырокую тэму аповесці «Дрыгва».

У агульных межах гэтых тэм Я. Колас узняў і вырашыў рад праблем і ў першую чаргу праблему стваральнай прыроды рэвалюцыйнай барацьбы. Ён паказаў, што рэвалюцыйная барацьба, асвятляючы жыццё чалавека высокай мэтай і ствараючы ўмовы для росквіту яго здольнасцей, абнаўляе чалавека і гэтым падрыхтоўвае яго да місіі будаўніка сацыялізма.

У цэнтры аповесці празаік паставіў вобраз камандзіра партызанскага атрада дзеда Талаша, чыё прозвішча шырока вядома ў нашай рэспубліцы.

Павольна і ціха цякло яго жыццё. Сталы, ураўнаважаны, ён любіў свой родны куток — лес, балота, Прыпяць. І толькі калі на Палессе, нібы хвалі, наплылі такія падзеі, як вайна, рэвалюцыя і зноў вайна, трывога і цікаўнасць да будучага абудзіліся ў Талаша, хоць засталася незразумелым — навошта яно ўсё гэта? Чаго не падзялілі людзі і калі ж будзе той спакой? Першая сустрэча з акупантамі адбылася каля стажка. І тут праявілася тое, што можна было толькі часам заўважыць у яго быстрых цёмных вачах. Гвалт жаўнераў, якія забіралі апошняе сена, здзек і знявага, якія дазволілі яны сабе ў адносінах дзеда, выклікалі бурны пратэст, нарадзілі нянавісць і патрэбу адпомсціць. Выхапіўшы з-за пояса сякеру — нязменную спадарожніцу ва ўсіх дзедавых вандроўках,— Талаш шыбануў яе ў аднаго з рабаўнікоў. Пазней, калі стрэлы засталіся ззаду і сціхлі, а дзед Талаш апынуўся адзін у лясным гушчары, яго адчуванні Я. Колас сфармуляваў так:

«Ох, паганцы! І нагнаў жа іх чорт на яго галаву. І як было іначай рабіць з імі? Прасіў, маліў іх, як добрых, станавіўся на калені, а яны толькі здзекаваліся з яго, як бы ён і не чалавек... І злосць з новай сілай агортвала яго, і тады ён шкадаваў, чаму не расшчапіў галоў гэтым грабежнікам».

Паўстала пытанне: але што ж рабіць далей? Выразнага адказу на яго адразу не знайшлося. Праўда, у галаве Талаша блукалі нейкія няпэўныя думкі. Пакідаю-

чы сям'ю, ён наказаў сыну, каб той быў асцярожным і прачуваў сёе-тое аб паляках. Падумалася таксама, што па лясах шмат схавана зброі і што, можа, прыйдзе час, калі яна спатрэбіцца людзям. Але, апрача бязмэтнага туляння і бадзяння, наперадзе нічога не маячыла. Першы час нават з'яўлялася здрадлівая думка — а што калі б пайсці ды павініцца? І толькі гордасць і зацятасць адганялі спакусу.

Няпэўнае, прыкрае становішча абвастрыла ўспрыняцце. У Талаша з'явілася цікаўнасць да падзеі. Уласная бяда адкрыла вочы на бяду ўсеагульную. Тэрор, гвалт, паборы, няволя, якія прынеслі з сабою чужынцы, сталі балюча ўражаць Талаша. Ён як бы адчуў сваю адказнасць за тое, што робіцца навокал. І ўласная крыўда пачала траціць вастрыню, адыходзіць некуды назад, а «на першае месца выпіналася агульнае ліха сялянскай галечы».

Мне хацелася б падкрэсліць апошняе. Бо звычайна чамусьці лічаць, што барацьбіт у Талашу пачынаецца са славутай «баталіі каля стажка». Гэта месца асабліва ахвотна і шырока цытуюць, бачачы ў ім ледзь не праяўленне рэвалюцыйных накіраванняў будучага партызанскага камандзіра і пачатак усіх пачаткаў. Бясспрэчна, гэты выпадак як бы абумовіў далейшы лёс Талаша і нават спрыяў яго абуджэнню. Магчыма, ён стаў своеасаблівым зыходным пунктам, водападзелам паміж мінулым і будучым. Але бачыць у ім больш чым выпадак, які пазбавіў Талаша мажлівасці жыць па-ранейшаму і прымусіў, каб унікнуць бяды, шукаць нейкага выйсця, аповесць падстаў не дае. Больш таго — Колас падкрэслівае, што барацьбіт у Талашу пачынаецца там і тады, калі стажок і звязаная з ім гісторыя перастае закрываць ад Талаша наваколле.

«Слухаў дзед Талаш навіны,— піша Я. Колас,— і яго ўласная крыўда зацiралася, адступала на задні план, і стажок, што забралі палякі, паслужыўшы прычынаю ўсёй гэтай бяды, здаваўся цяпер маленькаю купінкаю і губляўся ў дзедавых думках. Справа абарачвалася значна горш, а на першае месца выпіналася агульнае ліха сялянскай галечы. І што рабіць?»

«Што рабіць?» Цяпер гэта прагучала ўжо зусім іначай. Трывога за сябе спалучылася тут з трывогай за ўсю «сялянскую галечу». А імкненне абысці ліха саступіла пошукам таго, што можна было б супрацьпаста-

віць гэтаму ліху. У свядомасці Талаша пачынае умацоўвацца актыўны пачатак, які настойліва пачынае вымагаць практычнай дзейнасці.

Папярэдняе жыццё навучыла яго, былога пастуха, беззямельнага гарапашніка, быць замкнёным, недаверлівым. Непаспешлівы ў сваіх рашэннях, ён думаў звычайна спакваля, грунтоўна, планы выношваў доўга. Так было і цяпер. Але калі ўжо Талаш на што наважваўся, то не адступаў ад таго ні на крок. І ён вынасіў сваю неспакойную думу і, да глыбіні душы абураны несправядлівасцю і жорсткасцю акупантаў, прыйшоў да пераканання, што патрэбна «народ збіраць, бухтарыць яго на вялікае рушэнне супроць катаў, гвалтаўнікоў». Талаш устанаўлівае сувязі з часцямі Чырвонай Арміі, прагна ўбірае праўду слоў Нявіднага — арганізатара і кіраўніка бальшавіцкага падполля, пераймае ваенны вопыт ад камандзіра ўзвода Букрэя — адважнага чалавека і камбінатарскай галавы,— г. зн. рашуча і ўпарта рыхтуецца да ажыццяўлення сваёй мэты. І хоць ёсць яшчэ ва ўсім гэтым значная доля чыста прыватных разлікаў і меркаванняў, ён выступае ўжо як свядомы змагар, інтарэсы якога супалі з інтарэсамі агульнанароднымі. Просты, шчыры, ён у той жа час выяўляе здольнасці хітрага, кемлівага камандзіра і арганізатара. Дружба ў калектыве, арганізаванасць, строгая дысцыпліна, усведамленне мэт барацьбы — робяцца прынцыпамі, на якіх Талаш будуе партызанскі атрад. Якуб Колас хораша перадае, як у працэсе змагання вырастае кіраўнік мас, як устанаўліваюцца патрэбныя адносіны паміж гэтым кіраўніком і масамі, якую ролю ў падзеях адыгрывае асоба, што кіруецца ў сваіх паводзінах і ўчынках інтарэсамі народа. І ў гэтых адносінах Я. Колас, які неаднаразова ўказваў на неабходнасць самага шырокага скарыстання здабыткаў і традыцый рускай савецкай літаратуры, улічыў багацейшы яе вопыт і ў прыватнасці творчыя дасягненні Д. Фурманава, А. Серафімовіча і А. Фадзеева.

Удзел у баявых аперацыях, і асабліва ў засадзе на Ганусаўскай грэблі, яшчэ больш змяняюць дзеда Талаша. Яго погляды на рэчы робяцца значна шырэйшымі. Пры ацэнцы падзей, з'яў, сваіх і чужых загадаў ён пачынае зыходзіць з пункту гледжання іх карыснасці ці шкоднасці для справы далейшага разгортван-

ня барацьбы. Змяняюцца нават рэакцыі дзеда Талаша на жыццёвыя здарэнні. У барацьбе ён знаходзіць і радасць і шчасце.

Што зрабіла дзеда Талаша важаком масы? Безумоўна — яго асабістыя чалавечыя якасці, якія імпанавалі большасці і ў нейкай меры былі ўласцівы гэтай большасці. Яго ўменне выяўляць і афармляць імкненні і самыя патаемныя жаданні масы, прымаць мудрыя рашэнні, якія адначасова былі праяўленнем волі самой масы, уменне ісці ў нагу з масай, запаліць людзей простым моцным словам і павесці іх за сабою да высокай мэты,— карацей кажучы, яго народнасць.

Усякі народ мае свой гістарычны лёс, жыве ў пэўных прыродных умовах, і яны накладаюць на яго духоўны і фізічны воблік самабытны і трывалы адбітак. «Клімат, спосаб праўлення, вера,— пісаў яшчэ А. Пушкін,— надаюць кожнаму народу асаблівае аблічча... Ёсць лад думак і пачуццяў, ёсць безліч паданняў і звычак, што належаць выключна якому-небудзь народу».

Імкненне стварыць характар, які б увабраў у сябе своеасаблівасць народа, спецыфіку народа, было заўсёды ўласціва Я. Коласу. Аб гэтым сведчаць вобразы Міхала, Антося з паэмы «Новая зямля», Сымона з паэмы «Сымон-музыка», Лабановіча з палескіх аповесцей і інш. Не супрацьстаўляючы адно дасягненне пісьменніка другому, усё ж хочацца адзначыць, што вобраз Талаша з гэтага пункту гледжання раскрыт больш разнабакова, і ў ім найбольш поўна ўвасобіліся жывыя — прытым лепшыя — рысы народа. Якубу Коласу ўдалося стварыць яркі нацыянальны характар. Але характар не як сукупнасць нейкіх нязменных і адвечных нацыянальных асаблівасцей і рыс, якіх у прыродзе, вядома, не існуе, а як увасабленне спецыфічных якасцей народа, што найбольш поўна праявіліся ў пэўны гістарычны перыяд або былі набыты народам за гэты час, прычым паняцці народнае і нацыянальнае, якія ў класавым грамадстве не супадаюць цалкам, бо народнае — гэта толькі тое лепшае, што ёсць у нацыянальным, у вобразе дзеда Талаша амаль зліліся ў адно. Сведчаннем, што яго характар, як пэўны тып чалавечых паводзін, якраз нацыянальны ў такім сэнсе, з'яўляецца ўжо той факт, што ў летапіс двух

апошніх войн Беларусь увайшла як мужная краіна-партызанка.

З пашырэннем партызанскага руху расце арганізатарскі талент, мудрасць Талаша. Разам з сваімі паплечнікамі ён распачынае работу па ўмацаванню атрада і груп, устанаўлівае формы сувязі паміж імі, прымае захады, каб уцягваць новых людзей у атрады, размяркоўвае раёны баявых дзеянняў. Рэзка абвастраецца яго пільнасць, гартуецца воля. Не помста, а класавая непрымірымасць ужо кіруе ім. Перад ім па-новаму раскрываецца сэнс падзей, і па-новаму вызначае ён задачы свае і свайго «партызанскага войска». Мэты партызанскай барацьбы ён звязвае з агульнай задачай разгрому інтэрвентаў і ёй падпарадкоўвае сваю стратэгію і тактыку — вось якімі катэгорыямі і маштабамі пачынае думаць Талаш. Паслядоўна здзяйсняючы свой план, ён, каб падтрымаць контрудар Мозырскай групы Чырвонай Арміі, прадпрыняты для аслаблення націску праціўніка на Кіеў, громіць варожыя камунікацыі, перашкаджае польскім рэзервам своечасова падысці да месца прарыву, захоплівае пераправы, знішчае жывую сілу ворага. Калі ж прарыў Чырвонай Арміі быў ліквідаваны, Талаш з атрадам дапамагае часцям, трапіўшым у акружэнне.

Так змяніўся і вырас дзед Талаш у барацьбе за рэвалюцыю і яе заваёвы.

Блізкімі дарогамі прыходзяць у лагер барацьбітоў баявыя сябры, бліжэйшыя паплечнікі дзеда. Мартын Рыль трапляе ў лес, вызваліўшыся з-пад арышту і раззброіўшы разам з іншымі вязнямі канвой. Бядняк, у якога толькі і былі што маленькі дворык, крывенькая хата, стрэльба, рыбацкая снасць ды прыгожая постаць, Рыль без хістанняў прымае прапанову Талаша ўзнімаць народ на паўстанне. Ён носіць у сабе душэўную драму, яго моцныя рукі сумуюць аб працы, але ён беззаветна і да канца аддаецца барацьбе. Цімох Будзік прыходзіць да дзеда Талаша са сваімі адменнымі метадамі барацьбы. Яшчэ да рэвалюцыі яму давялося адбыць два гады арыштанцкіх рот за падпал панскай стадолы. І цяпер ён у палоне гэтых традыцыйных спосабаў помсты і змагання і носіць у сваёй галаве самыя шырокія планы падпалаў панскіх маёнткаў. Марка Балук далучаецца да Талаша, маючы ўжо сваю «грамаду адважных людзей». Былы салдат царскай арміі,

удалец, хітры, смелы камбінатар, ён з'яўляецца аўтарам усіх найбольш рызыкоўных і вынаходлівых аперацый. У сваёй вернасці ідэі барацьбы ён не шкадуе ні сіл, ні свайго жыцця, заўсёды ўпэўнены ў сваёй шчаслівай зорцы... Іх, як і дзеда Талаша, асабіста закранула акупацыя. Яны, як і дзед Талаш, мелі асабістыя рахункі з акупантамі, з той толькі розніцай, што ім не трэба было даходзіць да ісціны спачатку. І Мартын Рыль, і Цімох Будзік, і Марка Балук дагэтуль мелі дачыненні да «бальшавіцкай рэвалюцыі», выступалі за савецкую ўладу, усталёўвалі новыя парадкі ў сваіх вёсках. Аднак, будучы ўдзельнікамі наступных падзей, яны таксама вызваляюцца ад рэштак індывідуалізму, анархічных звычак, робяцца больш арганізаванымі. Ідэйна-палітычныя кругагляды іх пашыраюцца. Іх шлях, як і дзеда Талаша, сімвалізуе сабою шлях бяднейшага сялянства ў рэвалюцыі. На іх вобразах Я. Колас таксама раскрывае творчую прыроду сацыялістычнай рэвалюцыі.

Душою і розумам гэтага пераўтваральнага працэсу ў аповесці выступае Нявідны — камуніст, рабочы, падпольшчык. Ён з'яўляецца як бы далейшым развіццём вобраза Сяргея Карагі, пададзенага ў апавяданні эпізадычна і пазбаўленага магчымасці ў абраных пісьменнікам абставінах праявіць сябе як арганізатар.

Невысокую ж хударлявую постаць Нявіднага можна бачыць у армейскіх штабах, на лясных малаходжаных сцежках, у вёсках, на закінутых паміж балот выспах, сярод партызан. Колас назваў яго сейбітам буры і змагання, праз якія «прыйдзе новы лад і народзіцца новы чалавек».

Я. Колас імкнецца падаць беззаветнае служэнне Нявіднага сваім ідэалам не як ушчамленне асобы, а як росквіт яе, надаць вобразу Нявіднага рысы жыццялюба, які бачыць хараство жыцця, цешыцца з яго, бо пераўтварае гэтае жыццё.

Вера ў перамогу, любоў да жыцця, усведамленне яго няспыннасці даюць Нявіднаму сілы без страху глядзець у вочы смерці і мужна сустрэць яе.

Якуб Колас у «Дрыгве» першы з беларускіх празаікаў шырока асвятліў ролю Камуністычнай партыі ў грамадзянскай вайне і імкнуўся стварыць вобраз камуніста-кіраўніка.

І ўсё-такі вобраз Нявіднага, як жывы, непаўторны характар, не можа ісці ў параўнанне з вобразам таго ж дзеда Талаша ці Мартына Рыля. Ён залішне службны і, я сказаў бы, праграміраваны. Яму не стае пачуццёвасці. Нявідны і прыроду ўспрымае не сэрцам, а галавою. У ім як бы скрыжаваўся падвойны рацыяналізм: уласны і аўтарскі. І яны пазбавілі яго аб'ёмнасці, пульсу, душы.

Белапольская інтэрвенцыя актывізавала кулацтва. На акупіраваную тэрыторыю вярнулася цэлая плойма буйной і дробнай шляхты, выгнанай рэвалюцыяй з ранейшых сваіх котлішчаў, пацягнуліся беларускія нацыяналісты, чорныя служкі Ватыкана. Яны ўтварылі стракаты, але адзіны ў сваіх рэстаўратарскіх імкненнях, лагер контррэвалюцыі. Нянавісць да рэвалюцыі аб'яднала дзікага кулака Бусыгу з «павятовым камісаржам» Крулеўскім, арыстакрата пана Длугошыца з палітычным шарлатанам нацыяналістам Галінічам, саноўнага палкоўніка Дэмбіцкага з абшарпаным адвакатам Ладунскім і ксяндзом-езуітам Пацяйкоўскім, і ад іх пацягнуліся ў народ ніці правакацый, шпіянажу. Выконваючы іх волю, рушылі карныя атрады, палілася кроў.

Адсюль — з выкрыцця тых, хто вядзе вайну і ў чыіх інтарэсах яна вядзецца,— у Коласа вырастаюць антываенныя матывы аповесці. Але побач з трагічным, як кантраст яму, Я. Колас стварае светлы вобраз вясны. Сваім чыстым, ясным ззяннем ён азарае нават самыя трагічныя падзеі аповесці. Карціны ажываючай вясновай прыроды, з'явіўшыся недзе ў сярэдзіне твора, вырастаюць к канцу яго ў велічны сімвал. Услаўляючы жыццё, няспыннае і ўсёперамагаючае, яны як бы прыпадымаюць заслону над будучыняй і дазваляюць за асобнымі, няхай вельмі цяжкімі няўдачамі, ахвярамі і паражэннямі ўбачыць абрысы агульнай перамогі і міру. Колас раскрывае сугучныя гэтаму вобразу мірныя імкненні савецкіх людзей. Яны ў марах Мартына Рыля аб працы, аб сяўбе, у словах Нявіднага. Яны ў прадчуванні вялікага светлага жыцця пасля перамогі. Непераадольнай сілай жыцця прасякнута аповесць «Дрыгва». Жыццё і любоў — яе героі, а эстэтыка пісьменніка — эстэтыка міру.

Своеасаблівае месца ў сутычцы варожых лагераў займае Аўгіння. Яшчэ вясёлай, жвавай свавольніцай

з прыгожымі заваблівымі вачыма, яна пакахала Мартына Рыля дзіўнай гарачай любоўю. Было ў гэтым каханні і моцнае шчырае пачуццё, і дзявочая дураслівасць, і нейкі надрыў, саперніцтва. Спачатку яно нагадвала паядынак, потым нейкае вяселле на ўласных хаўтурах. І абарвалася яно раптоўна, нечакана. Не лічачыся з тым, што радасць не ў дастатку, а шчасце не ў багацці, Аўгіння выйшла замуж за нялюбага багацея. Але пачуццё да Мартына не знікае зусім і часам нараджае ціхі жаль і сум аб страце. Арышт Мартына Рыля па даносу мужа яшчэ больш парушыў спакой Аўгінні, прымусіў з трывогай зірнуць на сваё жыццё. Калі ж Васіль Бусыга паведаміў ёй, што яго прызначылі войтам, Аўгіння не вытрымала. Праўда, пратэст яе быў неакрэслены, з сямейных рамак не выходзіў, але з гэтага дня дарогі Аўгінні і мужа пачалі разыходзіцца. Яе стаў палохаць той прамежкавы стан, у які трапіла яна, пацягнула да людзей. І калі Аўгіння даведваецца пра гісторыю з Саўкам Мільгуном, яна папярэджвае сям'ю Талаша. Логіка развіцця падзей прыводзіць Аўгінню да поўнага разрыву з Бусыгам, з якім яна жыла, але заўсёды заставалася чужой.

Характары ў аповесці глыбокага індывідуалізаваны і тыпізаваны. І дзед Талаш, і Мартын Рыль, і Аўгіння — кожны з іх з'яўляецца непаўторнай асобай, якая жыла і фармавалася ў пэўнай абстаноўцы, у акружэнні пэўнага быту, прыроды. Дзед Талаш прадстае перад чытачом у самых разнастайных праяўленнях свайго чалавечага «я». Селянін-бядняк, які бярэцца за сякеру, каб абараніць сваю ўласнасць і сваю годнасць. Клапатлівы, дбайны гаспадар, чые думкі нават у самыя небяспечныя хвіліны блукаюць каля хаты і гаспадаркі. Паляшук, не вольны ад прымхаў і забабонаў («Талаш напэўна і сам не адказаў бы сабе, каго яму болей страшна: нячыстай сілы, вера ў якую ўсё ж такі тлелася дзесь у закарвашках дзедавай душы, звера ці ліхога чалавека ў вобразе польскіх жаўнераў»). Добры сем'янін, бацька, які ў імя вызвалення меншага сына стварае партызанскі атрад, а ў імя вызвалення Радзімы прымушае старэйшага сына ўступіць у гэты атрад. Шчыры, непасрэдны, часамі дзівакаваты стары, што марыць аб сапраўднай стрэльбе і любіць эфектныя сцэны. Хітры дыпламат, дахожы чалавек, важак, які можа і ўмее падпарадкаваць сабе

людзей («Мартын зірнуў на дзеда Талаша і адчуў мімавольны страх. Дзед Талаш гаварыў не на вецер. Вочы яго гарэлі неспакойным злавесным агнём і зачароўвалі Мартына, адбіралі яго волю»). Аматар station наназірацць за жыццём і яго праявамі. Здольны, смелы военачальнік, арыгінальны прамоўца, патрыёт, непрымірымы да ворагаў савецкай улады. Але разам з гэтым і з прычыны гэтага дзед Талаш успрымаецца як тыповы прадстаўнік бяднейшай часткі беларускай вёскі нагул, а яго жыццёвы шлях — як шлях бядняцкіх мас сялянства ў рэвалюцыі.

Падаючы ўчынкі персанажаў, іх рэакцыі на падзеі, пісьменнік звычайна ўстрымліваецца ад вялікіх аўтарскіх тлумачэнняў. Ён тактоўна падае факт, азараючы яго патрэбным святлом пры дапамозе трапнай дэталі, адной нейкай выпуклай рысы, іроніі і да т. п.

«Бруй увайшоў у хату і спыніўся каля парога: у хаце нікога не было. Завярнуўся і хацеў ужо ісці назад, аж з печы пачуўся голас: «Хто там?» «Гэта ты там, Саўка?» — запытаў і Бруй. «Я!» — спакойна азваўся Саўка і не дужа спяшаўся падымацца — прост не хацелася варушыцца: хата халодная, а печ была цёплая».

Тут гэтую ролю адыгрывае дэталь з іранічным гучаннем — «хата халодная, а печ была цёплая».

Для раскрыцця душэўнага стану герояў, паказу матываў, што вызначаюць іх паводзіны, Я. Колас часта карыстаецца ўнутранымі маналогамі. Але і яны ў яго маюць своеасаблівы характар. Гэта хутчэй развагі, прычым такія, калі персанаж думае аб падзеях і аб сабе, як бы абстрагіруючыся ад сябе, дзякуючы чаму захоўваецца непасрэднасць адчування і дасягаецца большая аб'ектыўнасць. Арыгінальна, і ў гэтым выпадку застаючыся даследчыкам, малюе Я. Колас знешні выгляд сваіх герояў. Ён як бы паступова знаёміць з імі, не даючы іх партрэтаў цалкам, а спыняючы ўвагу чытача на тых іх рысах твару, постаці і г. д., якія асабліва выгадна вылучаюцца ў дадзеных абставінах і патрэбны, каб падкрэсліць тыя ці іншыя своеасаблівасці дзейнай асобы. Аб Аўгінні, напрыклад, мы спачатку даведваемся, што гэта прыгожая дзяўчына, са зменлівымі, зваблівымі вачыма, якія часам здаюцца карымі, пацягнутымі зеленаватаю паволокаю, а часам — проста шэравата-зялёнымі. І гэта тады, калі

пісьменнік гаворыць пра няпэўны, свавольны характар Аўгінні. Затым паступова Колас наносіць на партрэт гераіні новыя рысы. У яе аказваецца гнуткая, руплівая постаць, пругкія рукі, доўгія цёмна-русыя косы, звонкі голас. А пра гэта Колас гаворыць, калі дзяўчына падыходзіць да свайго кахання, зараніўшы яго навечна ў душу Мартына Рыля. Адначасова Я. Колас падкрэслівае нейкую адну, найбольш характэрную рысу ў знешнім абліччы дзейнай асобы. Так, ён неаднаразова звяртае ўвагу на дзівосныя вочы Аўгінні, «цемнаватыя, як лёгкі змрок ясных чэрвеньскіх вечароў», на высокую дужую постаць Мартына Рыля, на буйны, з калючымі жорсткімі вусамі твар Букрэя.

Выключна важную ролю ў шматбаковай абрысоўцы характараў, у іх паглыбленым раскрыцці адыгрывае ў Якуба Коласа мова персанажаў. Увабраўшы ў сябе, калі так можна сказаць, жыццёвы вопыт, культуру, псіхалогію дзейнай асобы, яна, як і ў п'есах Янкі Купалы, сама па сабе дае ўжо магчымасць меркаваць аб уласцівасцях і якасцях характару, аб абстаноўцы, у якой ён складаўся. Гэта, уласна кажучы, падкрэслівае і сам Якуб Колас, калі гаворыць пра макаранічную мову шляхціца Бусыгі, колішняга кандыдата ў валасныя старшыні, кандыдатуру якога «адвялі рэвалюцыя і ўсе наступныя падзеі»: «У польскай мове Васіль Бусыга быў не дужа моцны, хоць сякія-такія польскія словы ён ведаў. Размовы ж ён меў пераважна з валаснымі пісарамі, з папамі,ураднікамі, часам з прыставамі. Ад іх запазычыў ён і расійскія словы, хоць вымаўляў іх з сваім палескім акцэнтам».

Нагадаем таксама размову Букрэя з Дарвідошкам, якога затрымалі разведчыкі. Кароткія, выразныя пытанні Букрэя, чалавека з багатай ваеннай практыкай, і блытаныя, з дзівакаватымі паўторамі адказы напалоханага п'янага Дарвідошкі, апрача ўсяго, адбіваюць тут змены ў настроі і стане першага і другога: у Букрэя з'яўляецца сур'ёзнасць, зацікаўленасць, у Дарвідошкі ж праходзіць страх, хмель і паступова вяртаецца, відаць, заўсёдная бесклапотнасць.

А вось размова дзеда Талаша з Мартынам Рылем:

— Пашукаўшы, людзей знойдзеш,— упэўнена гудзе Мартын і дадае: — Ды вось ты і я — ужо нас двое.

— Эге ж! — азываецца дзед Талаш, а вочы яго пазіраюць кудысь углыб.

— Людзі, дзядзька Рыгор, ёсць. Пазбіраць іх толькі трэба ды на добрую дарогу наставіць, ды даць ім добрага камандзіра.

— Вось я, голубе, і думаю пра гэта.

Яны прымаўкаюць, думаюць. Мартын чакае, покі дзед выкажацца да канца.

— Калі будуць людзі, то чалавек, хто пакамандаваў бы імі, знойдзецца.

— Часамі адзін чалавек даражэй за цэлыя дзесяткі людзей.

— Эге ж!.. але адзін чалавек без грамады — малая сіла.

Па адным гэтым дыялагу ўжо відаць, што размаўляюць людзі球 рознага веку і розных характараў: адзін — памяркоўны, непаспешлівы ў рашэннях стары, другі — больш прасталінейны, крыху нецярплівы мужчына. У самай іх манеры выказваць свае думкі, у рытме мовы, у наяўнасці характэрных славечак выяўляецца іх чалавечая індывідуальнасць.

Так у Коласа — пісьменніка, які вельмі ясна бачыў свет, характар пераходзіць у мову, і мова робіцца формай раскрыцця гэтага характару.

Максім Горкі назваў слова першаэлементам мастацкай літаратуры. Назваў таму, што яно для пісьменніка з'яўляецца і матэрыялам і сродкам, прычым адзіным матэрыялам і адзіным сродкам. Яно адыгрывае ролю і рухаў, і фарбаў, і ліній, і гукаў,— г. зн. усяго, што толькі ёсць у арсенале такіх мастацтваў, як музыка, жывапіс, тэатр, скульптура, разам узятых. У гэтым хаваецца адна з прычын таго, што звычайна называецца «пакутамі слова». Але цяжкасць карыстацца словам як матэрыялам не вычэрпваецца адной яго універсальнасцю. Яна хаваецца і ў незлічоных багаццях слоўнага запасу, якім трэба авалодаць пісьменніку, і ў шматзначнасці аднаго і таго ж слова, з якой трэба выбраць толькі адно пэўнае і толькі гэтае пэўнае.

Колас — класік беларускай літаратуры. Яго слоўная практыка фармавала, нарміравала і ўзбагачала сучасную беларускую мову. Таму, натуральна, валодае ён гэтым цудадзейным мтэрыялам дасканала. Але ўсё ж хацелася б адзначыць адну характэрную рысу — асабліва ўменне Коласа скарыстоўваць універсальныя магчымасці слова і адносную абыякавасць да шматзначнасці слова. З слова Колас здабывае тое, што кам-

пазітар можа здабыць з гамы, а мастак — з спектра. Вобраз акрэсліваецца ім бадай што з скульптурнай выразнасцю, а карціны жыцця, намаляваныя ім, часта набываюць сцэнічную дакладнасць і адчувальнасць. Але мастацкай выразнасці Я. Колас дамагаецца пераважна першаісным, простым значэннем слова і толькі пры стварэнні пейзажу і ў найбольш напружаных месцах апавядання звяртаецца да складаных тропаў. Колас любіць сакавітае народнае слова, выраз, лаканічна сфармуляваны сказ, прыказку. Схільны да філасофскіх абагульненняў, ён часта падае іх у выглядзе афарызмаў («Гутарка паміж жанок — вір слоў, бясконцы паток іх»; «Маладосць не так кратаюць згрызоты, як старасць»; «Людзі не адзін раз прыкрывалі дружбаю нешта большае, чым дружба»; «Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш» і г. д.).

Падтрымліваючы непарыўную сувязь з народнай творчасцю, глыбока адчуваючы яе слоўна-мастацкі лад і сістэму яе вобразаў, Я. Колас нязменна кіраваўся ёю ў сваёй літаратурнай практыцы.

## V

Талент Якуба Коласа надзвычай шматгранны. Ён лірык і эпік, драматург і публіцыст, яму належаць паэмы і вершы, аповесці і апавяданні, п'есы і драматычныя абразкі, рэчы з глыбокім філасофскім сэнсам і творы для дзяцей. Лепшыя з яго твораў, як ужо казалася, з'яўляюцца цэлымі падзеямі ў развіцці беларускага мастацкага слова і прозы ў прыватнасці.

Значны ўклад зрабіў Я. Колас і ў беларускую драматургію. Ім напісана некалькі драматургічных твораў, у тым ліку драматычныя абразкі «Антось Лата» (1916 г.), «На дарозе жыцця» (1917 г.), «Забастоўшчыкі» (1925 г.), драмы «Вайна вайне» (1938 г.) і «У пушчах Палесся» (1939 г.).

У драматычных абразках пісьменнік знаходзіцца ў знаёмым нам па дарэвалюцыйнай прозе і палескіх аповесцях коле вобразаў і ідэй. То на бытавым матэрыяле з вясковага жыцця ён імкнецца зразумець, хто вінаваты ў трагізме сялянскага лёсу («Антось Лата»), то ставіць праблемы прызначэння, сэнсу жыцця і шукае шляхі яго абнаўлення («На дарозе жыцця»), то падае малюнкі з жыцця вясковай інтэлігенцыі, прад-

стаўнікі якой, узняўшыся на барацьбу з самаўладствам, але па-рознаму ўяўляючы сабе метады і канчатковыя мэты гэтай барацьбы, намацваюць яе арганізацыйныя формы («Забастоўшчыкі»).

Дзеянне ва ўсіх трох творах адбываецца ў часы сталыпінскай рэакцыі, і атмасфера ў іх, апрача абразка «Забастоўшчыкі», шмат чым нагадвае атмасферу «Адвечнай песні» і «Сну на кургане» Я. Купалы. Тыя ж матывы цемры, трывогі і беспрасветнасці, той жа нясцерпны цяжар на душах людзей, той жа трагізм людскіх лёсаў. Падобны нават месцы іх дзеяння — убогая карчма, ахутаны начнымі змрокамі лес з прывідамі («Антось Лата»), пустыннае раздарожжа з пахілым крыжам («На дарозе жыцця»).

Адкідаючы памылковую ідэю «На дарозе жыцця», дзе прапаведваецца нейкае жыццёвае кола, якое прадвызначана прайсці чалавеку, і развіваюцца памылковыя думкі аб характары згуртавання нацыянальных сіл і сутнасці чалавечага шчасця, трэба сказаць, што сіла драматычных абразкоў у іх адмаўленні, у пратэсце супроць дзікага парадку жыцця, які асуджае чалавека на пакуты.

Па сутнасці, характэрным для драматургіі Я. Коласа з ранніх драматычных твораў з'яўляецца адзін «Антось Лата».

Справа ў тым, што ні ідэі, якія праводзіліся ў абразку «На дарозе жыцця», ні прынцыпы, на якіх будаваўся абразок, не знайшлі свайго далейшага развіцця ў драматургіі Я. Коласа, і абразок застаўся адзінокім эксперыментам, што не даў і не мог даць станоўчых вынікаў. Ні ўмоўна-сімвалічных вобразаў, ні такіх жа сітуацый мы не знаходзім ні ў драме «Вайна вайне», ні ў драме «У пушчах Палесся». А калі шукаць далейшую яго пераемнасць, дык яе можна ўбачыць толькі ў асобных алегарычных навелах з «Казак жыцця».

Каб пацвердзіць гэты вывад, падамо змест абразка.

Спрацаваная, няшчасная кабета разгубляла сваіх дзяцей. Упэўненая, што яна толькі тады «пазнае радасць доўгажаданага спачыну пасля труднай дарогі, калі пазбірае дзетак сваіх», кабета ідзе ў пошукі. На раздарожжы яна сустракае сына, які прагульваецца з каханай дзяўчынай. Але ўжо сын — паніч і таму, саромячыся маці, падобнай да жабрачкі, адмаўляецца

ад яе. Абураная жорсткасцю, няўдзячнасцю каханага, дзяўчына ганьбуе яго і прапануе старой жанчыне ісці да яе ў школу, дзе дзяўчына жыве. Але кабета не прымае гэтай прапановы, хоць і не ведае, куды падацца далей. Калі кабета застаецца на ростанях адна, да яе падыходзіць падарожны. Гэта вандроўнік, які «ўвесь век у дарогах, а дарог не знае», які «людзям дае рады, а сам сабе ніяк не парадзіць». Паміж імі завязваецца гутарка, і падарожны павучае кабету «мудрасці жыцця», накшталт:

«Шчасце або далёка ад нас ззаду, мы перабываем яго і пазнаем толькі тады, як ужо адыдземся ад яго, або яно далёка наперадзе, у нашых думках. Я, галубка, тужу аб далёкім-далёкім мінулым, да каторага ёсць адна дарога — дарога маіх думак».

Нават па пераказу відаць, што дзейныя асобы тут — проста персаніфіцыраваныя ідэі, што кожнае слова і ўчынак тут сімвалічныя і маюць не столькі прамое, колькі іншасказальнае значэнне, што для драматурга тут важна не падаць кавалак жывога жыцця і раскрыць яго закон, а праілюстраваць абраную думку.

Нельга лічыць характэрным для драматургіі Я. Коласа і твор «Забастоўшчыкі». Гэта, па ўсім відаць, фрагмент, які абрываецца на кульмінацыйным пункце. Больш за ўсё аўтара ў ім цікавіў сам факт, навакол якога разгортваецца дзеянне ў абразку,— скліканне з'езда і стварэнне настаўніцкага саюза, адным з ініцыятараў якога быў сам пісьменнік[1]. Адсюль надзвычайная ўвага да дробязей, што самі па сабе мастацкага значэння, бадай, не маюць (спрэчкі аб колькасным складзе бюро — тры ці пяць чалавек, вызначэнне памераў членскіх узносаў — тры рублі ў год, чытанне ўсяго пратакола і г. д.). Таму з усіх дзейных асоб (а іх каля дваццаці) вырысаваліся як вобразы толькі Грэнка — арганізатар з'езда, які разумее, што дарога да лепшай будучыні пралягае праз змаганне і рэвалюцыю, памяркоўны, дасціпны Шумяка — прыхільнік павольнай культурна-асветнай работы сярод сялян і Гарнак — філосаф, дзівак, якога перад усім цягне рамантыка распачатай справы, небяспечнай, а

---

[1] Гл., напр., успаміны Я. Маўра «Сорак гадоў назад», «Беларусь», 1946, № 10.

таму і цікавай. Паказальна, што Якуб Колас палічыў неабходным яшчэ раз вярнуцца да пададзенага ў «Забастоўшчыках» факта і зноў апісаў яго ў апошняй кнізе палескай трылогіі — «На ростанях», захаваўшы тыпаж і сюжэтныя ходы абразка.

Але ёсць у «Забастоўшчыках» і прынцыпова новае, такое, што стала здабыткам усёй далейшай творчасці пісьменніка і ўсёй беларускай драматургіі,— гэта пільная ўвага да палітычных перакананняў чалавека, якія ў рэшце рэшт вызначаюць сабою лінію яго паводзін, а значыць, і яго месца і ролю ў жыцці. І ў гэтых адносінах «Забастоўшчыкі» папярэднічалі драме Я. Коласа «Вайна вайне».

Што ж захавалася ў лепшых драматычных творах Я. Коласа ад «Антося Латы»?

У першай рэдакцыі абразок называўся «Чарка ўсё на свеце робіць», і першая дзея яго была апублікавана выдавецтвам «Загляне сонца і ў нашааконца» з прыпіскай — «працяг будзе». Відаць, у першапачатковым замысле пісьменнік меў пераважна асветніцкую мэту — выступіць супроць такога сацыяльнага зла, як п'янства. Але, захапіўшыся каларытнай фігурай Антося Латы, узрушаны яго трагічным лёсам, Я. Колас пашырыў замысел і, выступаючы супроць п'янства як сацыяльнага зла, накіраваў свой галоўны ўдар супроць прычын, што нараджалі гэтае зло. У выніку твор набыў выразна сацыяльнае гучанне, а вобраз Антося Латы — увасабленне сялянскай сілы і слабасці — ператварыўся ў грознае абвінавачванне грамадскага ладу, што не дае чалавеку быць вартым сябе і асуджае яго на гібенне, пакуты, гібель.

Гуляка, балагур, але адораны, незвычайны чалавек Антось Лата абуджае да сябе прыхільнасць і павагу. Думкі яго часта загадкавыя, але ў іх заўсёды ёсць нешта такое, што прымушае задумвацца, шукаць схаваны сэнс («Быў салдат Батура, у яго была кепская натура. Чаму ён салдат Батура?»). Яго хвалююць «загадкі жыцця» («Што крапчэй жыцця і смерці?»), ён умее азадачыць субяседніка («Колькі раз іголка ляжа ад Нясвіжа да Міра?»), шукае прычыны сваёй слабасці («Чаму я плачу там, дзе трэба смяяцца, і смяюся тады, калі трэба плакаць?»). Яго абурае, што «цяперашнім светам» чалавек стаў «нуль! пацяруха!», і ён марыць:

— Эх, каб я быў пісьменным! Напісаў бы я пра наша цёмнае, мужыцкае жыццё, ды як напісаў, слязьмі і кроўю!.. Вось смешна: Антось — камедыянт — пацяшае вас, і вы смеяцёся, але ці бачылі вы, як Антось плача? Ці чулі вы, як Антось праклінаў час, той час, каторы падарыў яму гэтае сабачае жыццё? Эх, свінячае жыццё!

Праклящцем жыццю, якое губіць чалавека, і смерцю Антося Латы канчаецца абразок. Але гэта праклящце і гэта смерць успрымаюцца не столькі як канец самага героя, колькі канец яго пасіўнасці і пакоры.

Вось гэтая сацыяльная завостранасць твора, гэты прынцып пабудовы сюжэта, які развіваецца праз вострыя, нечаканыя калізіі, прыёмы раскрыцця ўнутранага свету герояў, своеасаблівасць у разгортванні дзеяння і развіцці ідэі, скарыстанне традыцый т. зв. народнай драмы (у абразку шмат народных песень, прыпевак, вершаваных імправізацый, прыказак, райка і да т. п.) родніць «Антося Лату» з драмамі «Вайна вайне», «У пушчах Палесся» і нават з такім творам К. Крапівы, як «Партызаны».

«Вайна вайне» — сацыяльная драма. Тэма яе — барацьба супроць імперыялістычных войнаў, якія прыносяць народам незлічоныя беды. Сцверджанне, што гэтая барацьба будзе паспяховая і дасць вынікі толькі тады, калі стане барацьбой за сацыялізм,— яе ідэя.

Дзеянне ў драме разгортваецца навокал падзей першай сусветнай вайны — ад яе пачатку і да перарастання ў вайну грамадзянскую. Дакладней, разгортванне гэтых падзей складае і змест драмы, а сутыкненне розных сацыяльных сіл навокал падзей — сутнасць яе драматычнага канфлікту, які рухае дзеянне. Сяляне-беднякі — Аслаў, дзед Мікіта, яго сын Міхась, бабыль Дзяменя, сяляне-серадиякі — Дроб, Гузыр, шахцёр Думака Патап, бальшавік Максім Кучаравы, настаўнік Алесь і настаўніца Марына, стараста, поп, кулак Бухрай, земскі начальнік абшарнік Будан-Рыльскі, ураднік Шышла, афіцэр-ліберал Жухін — галоўныя дзейныя асобы драмы.

Якуб Колас уводзіць іх у твор па адным-двое, але амаль усіх у першым акце. Яны паяўляюцца спачатку ненадоўга, хутка знікаюць, кінуўшы ўсяго некалькі рэплік. Але потым, трапіўшы ў плынь падзей, раней

нібыта раз'яднаныя, яны групуюцца ў калектывы і ўступаюць у барацьбу як прадстаўнікі гэтых калектываў, як носьбіты пэўных сацыяльных тэндэнцый.

Найбольш поўна ў драме раскрыты вобраз Алеся. Мы даведваемся аб яго мінулым, бачым цяперашняе, угадваем будучае. Былы палітссыльны, пакараны за рэвалюцыйную прапаганду і перапіску з с.-д. фракцыяй IV Дзяржаўнай думы, ён з першых дзён на фронце вядзе гутаркі, распаўсюджвае лістоўкі, згрупоўвае навокал сябе перадавых салдат, стрымлівае залішне гарачых, раскатурхвае празмерна памяркоўных. Калі яму пагражае арышт, радавы Алесь Шабура становіцца радавым Макарам Макаруком, але распачатай работы не кідае. Бальшавік, ён смела прапаведуе паражэнне царскай Расіі ў вайне, арганізуе братанне, выступае на мітынгах. Сіла яго перакананняў такая, што праўду яго прымае Марына, якая спачатку хварэла на пацыфізм і ніяк не магла зразумець, як гэта можна зычыць паражэнне сваёй краіне, калі «вораг прыставіў нож к яе сэрцу». Праўду яго прымае і нявытрыманы Гузыр, які абураны несправядлівасцю і нахабствам Будана-Рыльскага, што ўжо атрымаў чын капітана і камандуе ротай, наважыўся пранізаць апошняга штыхом, і нават салдаты-ўсмірыцелі, якія гатовы былі ўзняць руку на паўстаўшых. Але, распальваючы вайну вайне, Алесь — усёй душой у мірным часе. Прыслухоўваючыся пасля аднаго з шумных мітынгаў да ціхай салдацкай песні, ён летуценіць:

— Якая незвычайная для фронту цішыня! Фронт замірае. Шчаслівы будзе той час, калі ён замрэ тут назаўсёды.

Для гэтага Алесь жыве, змагаецца, рызыкуе сабою.

Пабудова драмы нагадвае як бы круг. Чацвёрты акт своеасабліва паўтарае першы.

Уражанне кампазіцыйнага круга павялічваецца яшчэ больш, калі ўзнікае песня — драма канчаецца тым, чым пачыналася. Гісторыя прайшла пэўны адрэзак свайго шляху, і людзі, якія адмаўлялі чужую, ненавісную вайну, рушылі супроць яе вайною.

«Што такое мастацкая літаратура і ў чым яе асаблівасць? —пісаў Я. Колас у рэцэнзіі на раман М. Лынькова «На чырвоных лядах».— Мастацкую літаратуру можна азначыць, як асобную форму грамадскай свядомасці, класавай ідэалогіі, форму, якая праз сі-

стэму вобразаў вядзе да пазнання рэчаіснасці і служыць задачам класавага самаўмацавання. Для таго, каб мастацкая літаратура найбольш эфектна выконвала сваю ролю, яна павінна стаяць на належнай вышыні і з фармальнага боку, іменна — актуальнасцю праблемы, сюжэтнасцю, глыбінёй ахвату рэчаіснасці, праўдзівасцю, уменнем проста, ясна, правільна, прыгожа і ў той жа час цікава раскрыць усе тыя элементы, з якіх наогул складаецца ўвесь комплекс таго, што мы называем мастацкім творам. Сюды ж, само сабою разумеецца, уваходзіць і слоўнае майстэрства пісьменніка ў шырокім значэнні».

І з гэтым азначэннем нельга не згадзіцца, калі не лічыць, што некаторыя моманты зместу Я. Колас памылкова адносіць да «фармальнага боку» мастацкага твора. Але, зразумела, як звычайна і ва ўсякім азначэнні, зробленым практыкам, тут у першую чаргу адбіўся ўласны вопыт Я. Коласа-пісьменніка, яго ўласная эстэтыка. Ступень пазнавальнага і выхаваўчага значэння мастацкага твора, г. зн. яго дзейнасць і дасканаласць, Я. Колас якраз ставіць у залежнасць ад таго, чым моцны яго ўласныя творы. Аб гэтым сведчаць і палеская трылогія і аповесці «На прасторах жыцця» і «Дрыгва», сведчыць і драма «Вайна вайне». Сапраўды, праблема, узнятая ў драме, актуальная і жыццёва важная (была і застаецца) для ўсіх народаў. Больш таго, актуальнасць яе ўзрасла, набыла новае гучанне і будзе ўзрастаць. Далей, праблема была пастаўлена і вырашана Якубам Коласам як праблема лёсу і будучыні народаў. Драматург перакрыжаваў жыццёвыя дарогі дзесяткаў людзей — рабочых, сялян, інтэлігентаў, памешчыкаў, царскіх чыноўнікаў і афіцэраў,— паказаў, як паміж імі разгарэлася гістарычная барацьба: за вайну і вайну да пераможнага канца адных, за мір і вайну вайне другіх, як гэта барацьба прыйшла да свайго лагічнага канца іншымі словамі, драма ахоплівае рэчаіснасць шырока, бярэ яе ў рэвалюцыйным развіцці і ўзнаўляе плынь падзей у натуральнай паслядоўнасці, строга падпарадкаванай мастацкай логіцы. Нарэшце, прывабнасць драмы хаваецца ў глыбокай праўдзівасці і маляўнічасці яе агульнай карціны, ва ўменні драматурга проста, ясна і хораша расказаць аб людзях з народа, іх барацьбе і лёсе, у дынамічным дыялагу драмы, у якім амаль кожная рэпліка нясе ў

сабе пэўны зарад, што рухае дзеянне, у сакавітай гутарковай мове прадстаўнікоў народа.

Варта ўспомніць і гісторыю напісання драмы. Яна, фактычна, мае тры варыянты. Першы варыянт яе пад назваю «Вайна да пераможнага канца» быў апублікаваны ў часопісе «Полымя» № 2 за 1927 год і № 11 і 12 за 1931 год. Другі варыянт пад назваю «Вайна вайне» — у тым жа часопісе № 10 за 1936 год. Трэці варыянт выйшаў асобнай кнігай у выданні Дзяржаўнага выдавецтва БССР. І ад варыянта да варыянта паглыблялася аўтарскае пранікненне ў характары дзейных асоб і сэнс апісваемых падзей, пашыраўся іх ахват. Драма вызвалялася ад налёту пацыфізму, ідэя яе ўсё выразней адкрышталізоўвалася, а адпаведна гэтаму больш стройным і завершаным стаў сюжэт твора, больш рэльефна вырысаваліся характары персанажаў.

Драма «У пушчах Палесся» з'яўляецца сцэнічным варыянтам аповесці «Дрыгва». Але паўтараючы сюжэт аповесці, яна мала чым нагадвае інсцэніроўку ў звычайным сэнсе слова. У драме свая спецыфічна-драматургічная логіка ў развіцці падзей і вобразаў, свая расстаноўка акцэнтаў, свая трактоўка многіх вобразаў.

Паказваючы падзеі грамадзянскай вайны ў творы для сцэны, Я. Колас надаў ім большую арганізаванасць і імклівасць. Больш выразна, чым у аповесці, ускрыў ён фактары, што абумоўлівалі ходу падзей.

Дадатковае напаўненне атрымаў вобраз Мартына Рыля. Ужо ў першай карціне першага акта кулак Бусыга характарызуе яго як чалавека, які «хутка стане камісарам». Пры адступленні часцей Чырвонай Арміі бальшавік Жыбуль (у аповесці Нявідны) прапануе яму застацца для падпольнай работы ў тыле ворага.

Па сутнасці, Мартын Рыль у драме становіцца арганізатарам і важаком партызанскага руху. Сустрэўшыся каля славутага дуба з дзедам Талашом і выслухаўшы расказ аб прыгодах апошняга, Рыль заключае:

— Што рабіць далей, само жыццё кажа. Трэба за зброю брацца...

Праўда, тут амаль знік «нічыйны» лагер — тая хісткая «сярэдзіна», якая часта спачувае аднаму, а робіць другое. І гэта не столькі ад патрэбы спрасціць залішне складаныя для сцэнічнага твора перыпетыі аповесці, колькі ад крыху іншага погляду на чалавека. Так, у характары прыгожай і гордай Аўгінні для дра-

матурга стала найбольш важным тое, што вынікала з яе класавай сутнасці. Чужая ў сям'і Бусыгі, яна ўсёй душой цягнецца да дзеда Талаша, Мартына Рыля і справы, на абарону якой яны паўсталі. Яна дапамагае сям'і Талаша, ірве ■ нялюбым мужам і сама ўключаецца ў барацьбу. Ацэньваючы чалавека не па яго імкненнях і парываннях, а па ягоных справах, Я. Колас канчаткова развенчвае Саўку Мільгуна — вяскова-га злодзея, п'яніцу і канакрада, які, падкуплены кулакамі, стаў на шлях здрады. І, наадварот, Я. Колас развіў вобраз дзікаватага, напалоханага жыццём парабка Дарвідошкі, даў магчымасць праявіцца ва ўмовах, якія раскрылі яму вочы на сапраўдны сэнс падзей. У Дарвідошкі знікае абыякавасць да падзей, ён пазбаўляецца палахлівасці і знаходзіць сваё месца ў змаганні.

У гэтым жа раду стаіць і той факт, што Я. Колас палічыў неабходным увесці ў драму фактычна новую дзейную асобу — польскага салдата-перабежчыка Кухарыка. Кухарык дапамагае выратавацца Панасу, ён выкрывае шпіка-дыверсанта Гембіцкага-Краскіна (таксама новага персанажа). Яму чужыя і варожыя мэты вайны, якую распачалі паны-захопнікі і, каб пакласці канец гэтай вайне, ён пераходзіць на бок Чырвонай Арміі — арміі, што абараняе інтарэсы працоўных. І тут драма «У пушчах Палесся» як бы працягвае ідэю драмы «Вайна вайне», пераносячы яе праблему ў новую сферу.

У сваіх драматычных творах Якуб Колас ішоў ад народнай драмы, трансфармуючы і ўзбагачаючы яе лепшымі дасягненнямі сучаснай драматургіі. Водгулле народнай драмы ў сцэнічных творах Я. Коласа мы адчуваем і ў накіраванні коласаўскай сатыры (супроць духавенства і шляхты галоўным чынам), і ў своеасаблівасці кампазіцыі, стылю (затушаванасць сюжэтнага стрыжня, наяўнасць камічных бытавых сцэнак, спрошчанасць прыёмаў камізму, бытаванне райка), і ў шырокім скарыстанні народных песенных жанраў. У той жа час драмы Я. Коласа застаюцца глыбока сучаснымі як па сваёй ідэйна-палітычнай устаноўцы і тэматыцы, так і па сваіх стылёвых і кампазіцыйных прыёмах. Кожная з'ява, што трапляе ў поле зроку драматурга, не пакідаецца ім да таго часу, пакуль ён не ўскрывае прычыны, якія абумовілі яе з'яўленне, пакуль не прасочыць сувязі з навакольнымі

з'явамі і падзеямі, пакуль не асэнсуе кірунак іх далейшага развіцця. Якуб Колас ускрывае ў рэчаіснасці элементы мінулага, цяперашняга і будучага, знаходзіць і вызначае іх ролю і значэнне ў руху грамадства наперад. Гэта вымушае драматурга імкліва разгортваць дзеянне твораў і часам нават нагнятаць падзеі. Але падзеі ў драмах Я. Коласа не засланяюць чалавека. Наадварот, уключаны ў іх, чалавек атрымлівае магчымасць быць актыўным, праявіцца ў дзеянні, а аўтар — раскрыць яго сувязі з калектывам. Кампазіцыйныя і стылёвыя прыёмы Я. Коласа якраз і абумоўліваюцца ў першую чаргу гэтай устаноўкай драматурга.

Якуб Колас заснаваў сучасную беларускую прозу і ўзняў яе да ўзроўню самастойнай галіны нацыянальнага мастацтва. Ён пашырыў кола вобразаў, тэм, ідэй прозы і драматургіі, узбагаціў іх жанры, даўшы ім першыя дасканалыя ўзоры нацыянальных аповесцей і такі буйны твор, як трылогія, стварыўшы такія сацыяльна-палітычныя драмы, як «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся». Ён прынёс беларускай прозе і драматургіі эпічнасць і нябачаную да яго глыбіню аналізу. Увагу яго звычайна прыкоўвалі праблемы, якія мелі агульнанароднае значэнне, і асвятляў ён гэтыя праблемы з пункту погляду інтарэсаў народа. Ідучы следам за рускай савецкай літаратурай, Я. Колас разам з пісьменнікамі новага пакалення сцвердзіў сацыялістычны рэалізм як адзіны творчы метад у беларускай прозе і драматургіі. Якуб Колас унёс у прозу і драматургію высокую прастату, якая з'яўляецца вынікам яснага бачання свету мастаком, вынікам яго народнасці.

На коласаўскай прозе і драматургіі выхоўваецца і выхоўвалася не адно пакаленне беларускіх пісьменнікаў. Аб сіле ўплыву яго твораў на беларускую савецкую літаратуру сведчыць хоць бы ўжо тое, што ўплыў яго «Дрыгвы» выразна заўважаецца нават на апавяданнях і аповесцях, напісаных празаікамі ў часы Вялікай Айчыннай вайны і прысвечаных паказу барацьбы беларускіх партызан з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*1947—1950 гг.*

# НА ВАРЦЕ ЗАПАВЕТНАГА

Кандрат Кандратавіч Крапіва — адзін з буйнейшых і папулярнейшых беларускіх пісьменнікаў. Аўтар сатырычных вершаў, памфлетаў, баек, сатырык-навеліст, раманіст і, нарэшце, драматург, Крапіва ўяўляе сабою адменную літаратурную з'яву. Як усякі буйны мастак, ён прынёс з сабою ў літаратуру свае непаўторныя тэмы і вобразы, свае жанры, адкрытыя ім нанава, сваю дасціпную народную мову, сваё свежае, глыбока аптымістычнае ўспрыняцце рэчаіснасці.

Ёсць пісьменнікі-трыбуны, якія раскрываюць перад народам яго будучыню і клічуць да яе. Ёсць пісьменнікі-настаўнікі, што за мэту сваёй творчасці абіраюць асвету народа, яго духоўнае і інтэлектуальнае ўзбагачэнне. Ёсць пісьменнікі-гісторыкі, якія перш за ўсё клапоцяцца, каб народ пазнаў самога сябе. Такая творчасць Я. Купалы, Я. Коласа і К. Чорнага. Кандрат Крапіва — мне здаецца — не трыбун, не настаўнік і не гісторык, хоць яго творчасць накіравана ў будучыню, хоць у ёй даволі моцна гучаць ноткі навучання і па ёй можна скласці ўяўленне аб шляху, пройдзеным народам. Але ні першае, ні другое, ні трэцяе не з'яўляецца тут усёвызначаючым. Пісьменнік, з яго самабытным, схільным да сатырычных апасрэдкаванняў талентам, як бы стаіць на варце народных інтарэсаў — ахоўвае сённяшні дзень народа дзеля яго заўтрашняга дня. Ён папярэджвае народ аб небяспецы, калі яна ўзнікае, дапамагае яму распазнаць ворагаў, вынішчае аджыўшае, не грэбуючы ні агіткай, ні вершам-плакатам, ні памфлетам. Ён падтрымлівае і дбайна расціць новае, нязменна знаходзячы для гэтага задушэўныя словы. Каб уславіць народ і ўсё лепшае ў ім, ён стварае народна-гераічныя драмы, поўныя жыцця і радасцей жыцця п'есы. І ўсё гэта для народа, дзеля яго дабрабыту.

# I

Першым друкаваным творам Кандрата Крапівы быў вершаваны фельетон «Жылі-былі», змешчаны ў 1922 годзе ў газеце «Красноармейская правда». Гэта быў пачатак бурнай і плённай творчасці пісьменніка, які як бы адразу адчуў сваю творчую задачу. Ужо ў 1925 годзе выходзяць у свет два яго зборнікі баек, сатыр — «Асцё» і «Крапіва», у 1926 годзе з'яўляецца «Біблія» і зборнік празаічных твораў «Апавяданні», затым «Байкі» (1927 г.) і «Людзі-суседзі» (1928 г.). Гэтыя вершы і сатыры ў большай сваёй частцы ўвайшлі ў пазнейшыя зборнікі — «Жывыя праявы» (1930 г.), «Ухабы на дарозе» (1930 г.), «Пра нашых шкоднікаў, папоў ды ўгоднікаў» (1930 г.), «Скрозь калючы строй» (1932 г.), «Выбраныя вершы» (1935 г.), «Выбраная сатыра» (1938 г.), «Смех і гнеў» (1946 г.).

Шмат увагі аддаваў К. Крапіва жыццю вёскі, барацьбе з старым вясковым укладам, што перашкаджаў ёй выйсці на шлях савецкага будаўніцтва. Тое, што Карл Маркс называў ідыятызмам вясковага жыцця, адсталасць, цемра зрабіліся прадметам ранняй сатыры Крапівы. На канкрэтных жыццёвых прыкладах пісьменнік жорстка высмейваў забабоны, наіўную веру ў шаптух і знахароў, паказваў шкоднасць саматужнай сялянскай «медыцыны», ад якой «ачуньваюць — ёсць слухі — людзі хворыя, як мухі», ганьбаваў неахайнасць і бруд, бескультур'е і грубыя звычаі, выступаў супроць пляткарства, што атручвае жыццё, жорсткасці ў сямейных адносінах, занядбання дзяржаўных інтарэсаў і г. д.

З вёскі змываць
дакастрычніцкі бруд —
Задача мая
ударная,—

дэклараваў Крапіва ў вершы «Хто там чухаецца?».

Вельмі ўважліва ахоўваў сатырык чыстату і дзейснасць савецкіх асяродкаў на вёсцы — сельсавета, кааператыва, саўгаса, якія выраташалі будучыню вёскі, ахоўваў іх ад растратчыкаў, «казлоў-адміністратараў», бюракратаў, няўмек. Уласцівая Крапіве стрыманасць пакідала яго ў гэтых выпадках, верш рабіўся калючым, злым, а звычайная баечная мараль замянялася канцоўкай-заклікам:

Дык вось, браткі,
Калі такія свінцюкі
(А свінцюкоў нямала ёсць на свеце)
Дзе завядуцца ў сельсавеце
Ці ў кааператыве ў вас —
Ганіце вон, на мой адказ!

(«Далікатныя парасяты»)

Стоячы на варце інтарэсаў народа і заваёў рэвалюцыі, К. Крапіва бязлітасна караў «ганарыстых парсюкоў», душыцеляў самакрытыкі, «махальнікаў-падхалімаў», шкоднікаў, апартуністаў розных колераў, выкрываў тых, хто намагаўся засланіць «аслінымі вушамі савецкае сонца».

А калі надышоў час вялікага пералому ў жыцці савецкай вёскі, сатырык рашуча стаў на бок сацыялістычнай яе рэканструкцыі, бо бачыў у гэтым — адзінае выйсце з сялянскай беднасці і цемры, вызваленне працоўнага селяніна з кулацкай кабалы.

Асабліва цікавымі і дасканалымі былі байкі Крапівы. Пазбаўленыя традыцыйнага ў свой час усходнеэкзатычнага каларыту, амаль выключна пабудаваныя на матэрыяле беларускай вёскі і беларускай прыроды, яны вызначаліся прастатой, лаканічнасцю характарыстык, дасціпнасцю і трапнасцю дэталяў. Карціны вясковай працы, быту, беларускі пейзаж з'яўляліся тым фонам, на якім разгортваліся падзеі ў байках. Сяляне, хатнія і дзікія жывёлы, птушкі былі іх дзейнымі асобамі. Сакавіты гумар, народныя прыказкі, пагаворкі, падслуханыя ў сялян трапныя выразы, блізкія да гутарковай мова, гнуткі, рухавы рытм надавалі байкам К. Крапівы нацыянальную самабытнасць і рабілі іх надзвычай любімымі творамі шырокіх народных мас. У аповесці Зм. Бядулі «Дзесяць» ёсць кароценькая, але вельмі арыгінальная ацэнка баек К. Крапівы, дадзеная адным з персанажаў аповесці — селянінам Міхалкам. Жартуючы над сваімі сынамі, якія захапіліся складаннем вершаў, ён гаворыць: — Вашымі вершыкамі не зацягнеш на сход сялян, як байкамі Крапівы. Яго байка ласкоча. Ад яе — люд рагоча.

У пошуках вострай, дзейснай формы прыйшоў К. Крапіва да гэтага жанру, бо думкі і пачуцці сатырыка былі актыўнымі і імкнуліся пераліцца ў рэчаіснасць, каб змяніць яе. Асаблівасці баечнага жанру і, у прыватнасці, баечныя персанажы далі яму магчымасць у агульнадаступнай форме, але надзвычай рэзка

шаржыраваць прыкрыя з'явы сапраўднасці, людскія недахопы і іх носьбітаў і тым самым павялічыць значэнне сатыры.

Творчасць К. Крапівы-байкапісца, апрача плённага ўплыву рускай савецкай літаратуры і, у прыватнасці, Дзям'яна Беднага, фармавалася пры асэнсаванні творчых здабыткаў рускай класічнай літаратуры і, у першую чаргу, І. Крылова. У вялікага рускага байкапісца К. Крапіва вучыўся майстэрству байкі, наследуючы яго лаканізм, адточанасць канцоўкі і ўмелае выкарыстанне фальклору. Сатырык для ўзмацнення іроніі часта адкідаў нават алегарызм баек, які лічыўся абавязковым для гэтага жанру, і надаваў мастацкаму вобразу проста карыкатурны выгляд. Часам карыкатура ў байках Крапівы перапляталася з пародыяй, чым дасягалася найбольш поўнае асмяянне абранага прадмета. Часта ў аснову баек пісьменнік клаў шырокавядомыя прыказкі, выбіраючы найбольш простыя і саркастычныя. Такім чынам, К. Крапіва абнавіў змест і форму беларускай байкі і часам з жанру агульнадыдактычнага ператвараў яе ў жанр публіцыстычны.

Ідэйна-творчыя здабыткі Крапівы-байкапісца, Крапівы — паэта-сатырыка шмат у чым абумовілі і ідэйна-творчыя здабыткі Крапівы-празаіка, Крапівы-драматурга.

## II

У 1932 годзе выйшла першая кніга рамана Крапівы «Мядзведзічы». Пераход пісьменніка да новага жанру — шырокага эпічнага палатна, быў папярэдне падрыхтаваны выдадзенымі ў 1926, 1928, 1930 гг. зборнікамі сатыр у прозе — «Апавяданні», «Людзі-суседзі» і «Жывыя праявы». Матывы, што знайшлі сваё адлюстраванне ў такіх апавяданнях, як «Каровін мужык», «Споведзь», «Пальчык», «Людзі-суседзі», «На пасёлкі», былі паглыблены і пашыраны ў рамане, а некаторыя апавяданні — «Аднае раніцы», «Снег ідзе» — цалкам увайшлі ў твор як самастойныя яго раздзелы.

Сатырычныя апавяданні і навелы К. Крапівы ў тэматычных адносінах шчыльна звязаны з яго вершамі і байкамі. У іх пісьменнік апавядае то пра распуснага вясковага папа, то пра гарадскую цётку Палусю, якая разносіць бясконцыя плёткі аб вайне, то пра бессаром-

нага прыстасаванца Лукавіцына — Цыбульскага — Цыбулевіча, то пра двух «руплівых» гаспадароў-суседзяў, якія ў адну і тую ж ноч, пасвячы коней, назнарок патравілі адзін аднаму пасевы. Пісьменнік крытыкуе дробнаўласніцкія настроі і імкненні сялян, паказвае, як праламляўся нэп у свядомасці абывацеляў, выкрывае розныя праявы вясковай цемры.

Побач з сатырычнымі апавяданнямі і навеламі ў зборніках сустракаюцца таксама і мініяцюры, прысвечаныя паказу жыцця і побыту вёскі («На пасёлкі», «Снег ідзе», «Пальчык» і інш.). У іх асабліва хораша, то цёпла і са спачуваннем, то з ледзь улоўнай іроніяй, схаванай ухмылкай, то з абурэннем і горыччу пададзены вясковы быт, вясковыя звычаі, сямейныя трагедыі і радасці.

Арыгінальна пабудаваны сюжэт, нечаканыя сюжэтныя ходы і асабліва канцоўкі, прастата і канкрэтнасць фактуры — вось характэрныя асаблівасці апавяданняў і навел К. Крапівы — дасціпных і смешных па-народнаму, або ахіненых смуткам, праз які чуецца смех чалавека, якому балюча. Камізм у апавяданнях К. Крапівы, як і ў байках, дасягаецца шляхам стварэння незвычайных, смешных сітуацый і палажэнняў, у якія трапляюць дзейныя асобы (напр., апавяданне «Людзі-суседзі»), шляхам паказу незвычайных, смешных іх паводзін, якія парушаюць агульнапрынятыя грамадскія нормы (напр., апавяданні «Вайна», «Клас»). Але ўлюбёным прыёмам сатырыка з'яўляецца прыём неадпаведнасці ўрачыста ўзнёслага стылю апавядання самаму простаму і няхітраму прадмету апавядання ці наадварот:

«Недзе ў мыцельніку загула муха. Не вытрымала мушынае сэрца хараства ночы».

«Што такое час? — пытаецца пісьменнік, іранізуючы з свайго героя — нікчэмнага прыстасаванца, які імкнецца з усяго мець асабістую матэрыяльную выгаду.— Гэта нішто: яго нельга ўбачыць, пачуць, памацаць, панюхаць, папрабаваць на язык; ім нельга заткнуць дзірку ў страсе або ў бюджэце; яго нельга запрэгчы ў плуг, запрасіць на шклянку гарбаты».

У апавяданнях можна сустрэць і апісанне ўчынкаў, падаваемых у абстаноўцы, якая вымагала зусім процілеглага, і трапную гульню слоў («Часамі ішоў з мяшком на ссыпны пункт і збіраў ля вазоў рассыпаныя

бульбіны»), і сказы з двухсэнсоўным гучаннем, і іранічную пахвалу дрэннага і да т. п.

Многія з гэтых твораў пісьменніка ўвайшлі ў залаты фонд беларускай савецкай прозы.

«Мядзведзічы» — раман-хроніка. Своеасаблівасць «Мядзведзічаў» у тым, што ў гэтым рамане грамадска-палітычныя факты і сацыяльна-гістарычныя падзеі складаюць сутнасць твора, яго змест. Драматычную напружанасць рамана ствараюць сацыяльныя канфлікты.

К. Крапіва намаляваў шырокую карціну жыцця дакалгаснай вёскі, паказаў працэсы і зрухі, што адбываліся ў ёй. Ён яскрава раскрыў чалавечую сутнасць дзейных асоб, вызначыў іх ролю і месца ў жыцці абнаўляемай вёскі, стварыў рад сакавітых, бытавых і пейзажных замалёвак. Нягледзячы на тое, што ў «Мядзведзічах» няма цэнтральнага героя і адзінай сюжэтнай лініі, пісьменнік удала скампанаваў паасобныя сцэны і эпізоды твора, скампанаваў іх у шчыльнай сувязі з ідэйнай задумай рамана. У той жа час «Мядзведзічы» — вядома, не мясцовая хроніка, а твор вялікага мастацкага абагульнення. У ім Крапіва падагуліў свае шматгадовыя назіранні над жыццём вёскі, якая заўсёды была яму блізкай і добра вядомай.

Як сонца ў кроплі расы, гэтак жыццё, побыт і лёс аднаасобнай вёскі адлюстраваліся ў жыцці, побыце і лёсе сям'і селяніна-серадняка Верамейчыка. Ваўкаватая панурасць, азлобленасць і ўзаемная варожасць панавала ў Верамейчыкавай хаце. Людзі маўчалі па цэлых днях, не маглі глядзець у вочы другому, бо зычылі адзін аднаму такое, што, «каб хаця дваццатая часць таго сталася, дык бы ўсіх іх назаўтра павыцягвалі на могілкі». І здавалася, што з кожнага кутка хаты шчэрыць зубы нешта прагавітае і агіднае. Толькі часам гэта панурасць узрывалася. І тады — «крычалі, ляманталі, скавыталі, скрыгаталі зубамі з бруднай лаянкаю, са страшнымі кленчамі... І ўсё гэта за пусцяковіну, за глупства, за зламаную іголку, за лапаць недатопак, за тое, што курыца «мусіць» знеслася ў суседавых каноплях».

Адсутнасць узаемнай павагі, нейкае ўпартае саперніцтва і нават варожасць, імкненне да нажывы, што вынікала з самога ўкладу аднаасобнай вёскі, рабілі жыццё ў сям'і Верамейчыкаў немагчымым. Ачарсцвела

ў сваёй лютай ненавісці да нявесткі Зосі і пасынка Юзіка старая Верамейчыха. Ачарсцвеў і замкнуўся ў сваёй непрыхільнасці да другіх стары Верамейчык. Нават белагаловы Піліп — дзесяцігадовы хлапчук, уцягнуты ў сямейную калатню і грызню, брыдка лаяўся і кожнаму соваў фігі ледзь не пад самы нос. Толькі Зося і Юзік захавалі ў сабе чыстату чалавечых пачуццяў.

— Дзе выхад? — пакутліва думаў Юзік.

Былы чырвонаармеец, удзельнік грамадзянскай вайны, ён вынес з арміі шчырую любоў да кнігі, аддانасць да ўлады, якую бараніў, і веру ў разумную, цвёрдую волю бальшавіцкага кіраўніцтва.

— Дзе ж выхад? Няўжо ж так заўсёды і будуць ірваць адзін у другога з зубоў, таптаць другога ў гразь, каб самому вылезці з балота, стаўшы на спіну суседа?

Не прыхарошваючы рэчаіснасць, не спрашчаючы складаных і супярэчлівых з'яў яе, Крапіва правёў свайго героя праз памылкі, пакутлівы роздум і хістанні, перш чым той знайшоў правільнае выйсце.

У змаганні з кулацтвам, прышчэпаўшчынай, коснасцю дробнаўласніцкай псіхікі змянялася аблічча беларускай вёскі, ствараліся новыя формы жыцця і адносін паміж людзей. Гэта змаганне разгарнулася ў чалавеку, у сям'і, у вёсцы, і ў найбольш вострай форме выявілася ў сутычцы двух непрымірымых лагераў — кулацтва і беднаты. У рамане гэтая барацьба паказана дакладна і маляўніча: з аднаго боку — агніста-рыжы, азлоблены злачынец-забойца Сомік, па-езуіцку хітры, прыхільнік метаду «ціхай сапы» Каржакевіч, у сажань ростам, нахабны і прыдуркаваты Грамабой, пасобнік бандытаў, «культурны гаспадар» Жыгула — мядзведзіцкія кулакі, што абаранялі сябе, сваё багацце, «права» эксплуатаваць ды рабаваць, і з другога — загартаваная ў працы і нястачы, але чулая і чэсная Аўдоля, Юзік і Зосяй, разумны і ўпарты Варанец Рыгор — бядняцкая частка Мядзведзічаў, што шукала для сябе і ўсёй вёскі новых шляхоў. На жаль, раман застаўся незакончаным, і змаганне, аб якім апавядалася ў «Мядзведзічах», не было паказана ў сваім лагічным завяршэнні, а героі толькі падведзены да парога вялікіх падзей.

Чым абумоўлены зварот пісьменніка да буйнога эпічнага жанру? Што новае нясе ў сабе раман «Мядзведзічы» ў параўнанні з папярэднімі творамі і, у

прыватнасці, апавяданнямі і навеламі? Мне здаецца, што гэты зварот сімптаматычны. Ён адбіваў як агульны рост і ўздым беларускай літаратуры, так і ідэйна-творчы рост самога К. Крапівы, сілам якога сталі завузкія раней аблюбаваныя формы, завузкія паводле сваіх магчымасцей, структуры. Пафас сцвярджэння новага ўжо дамінуе ў рамане над усім. Характары ў ім набываюць выразны сацыяльны змест. Бытавізм, характэрны для ранніх твораў К. Крапівы, траціць сваю прыземленасць і пачынае рабіцца сродкам рэалістычнага паказу рэчаіснасці (напрыклад, сцэны сутычак старых і моладзі ў сям'і Верамейчыка). Увагу пісьменніка бярэ ўжо не быт сам па сабе, а сацыяльная практыка вёскі ў канкрэтна-гістарычных умовах на канкрэтна-гістарычных этапах класавай барацьбы. Аднак найбольш шчасліва знайсці сябе як мастака К. Крапіва здолеў толькі ў драматургіі.

## III

З 1933 года Кандрат Крапіва амаль цалкам аддаецца драматургічнай дзейнасці. У 1934 годзе выходзіць яго п'еса «Канец дружбы», у 1937 г.— драма «Партызаны», у 1939 г.— камедыя «Хто смяецца апошнім», у 1943 г.— п'еса «Проба агнём», у 1945 г.— камедыя-сатыра «Мілы чалавек», у 1947 г.— п'еса «З народам» і, нарэшце, у 1950 г. «Пяюць жаваранкі» [1].

Унутраную заканамернасць сваёй творчай эвалюцыі ўскосна раскрыў сам К. Крапіва, калі, выступаючы на юбілейным пасяджэнні, прысвечаным стагоддзю з дня смерці І. Крылова, адзначаў жанравую блізасць байкі і камедыі. Аналізуючы іх асаблівасці, ён прыйшоў да вываду, што розніца паміж байкай і камедыяй хутчэй колькасная, чым якасная, і што яны з'яўляюцца найбольш зручнымі формамі сатырычнага адлюстравання адмоўных з'яў рэчаіснасці. І сапраўды, у драматычных творах К. Крапівы мы маем нават паўтарэнне асобных баечных сюжэтных матываў, вобразаў. Так, другая карціна трэцяй дзеі ў п'есе «Канец дружбы» надзвычай нагадвае байку «Хлеб і вата»;

---

[1] Апрача вышэйпералічаных драматычных твораў, К. Крапіва напісаў таксама п'есы «Зацікаўленая асоба» (1953 г.) і «Людзі і д'яблы» (1958 г.).

вобразы хвравіта-палахлівага абываделя і самазванца-невука, што зрабіўся навуковым супрацоўнікам, абсмеяныя ў байках «Дэкрэт», «Чорт», «У папа ды быў сабака», былі бліскуча паўтораныя на больш высокай мастацкай і ідэйна-палітычнай ступені ў камедыі «Хто смяецца апошнім». Трыбуннасць драматычнага жанру вабіла Кандрата Крапіву і абумовіла сабою яго пераход да драматургіі.

Разам з ростам беларускага савецкага тэатра пачынае больш хутка развівацца і беларуская драматургія. Адразу пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў у Мінску былі створаны два тэатры — БДТ I, з акцёраў-прафесіяналаў ды аматараў рабочых клубаў, і тэатр Галубка — на базе першага таварыства беларускай камедыі і драмы ды гурткоў мастацкай самадзейнасці; 20 кастрычніка 1926 г. у Віцебску дэбютаваў БДТ II, створаны з былых студыйцаў, якія навучаліся пры МХАТе.

Генеральны шлях беларускай драматургіі, як і ўсёй літаратуры, пачынаючы з першых мірных паслярэвалюцыйных год, вызначыўся тым агульным напрамкам жыцця, які пракладалі законы гісторыі і воля партыі. Беларуская драматургія, развіваючыся ў творчым супрацоўніцтве з рускай драматургіяй, паступова, але няўхільна пачала набываць сацыялістычныя якасці. Важную ролю ў гэтым працэсе адыгралі такія рэчы, як «Шторм» (1925 г.) В. Біль-Белацаркоўскага, «Любоў Яравая» (1926 г.) К. Транёва, «Бронецягнік» (1927 г.) Ус. Іванова, «Разлом» (1927 г.) Б. Лаўранёва, п'есы М. Пагодзіна і Ус. Вішнеўскага, якія да таго ж перакладаліся і ставіліся на сцэне беларускіх тэатраў.

На рубяжы дваццатых і трыццатых гадоў стаў асабліва прыкметным ідэйна-мастацкі рост беларускай драматургіі, тэматыка і праблематыка якой робіцца ў лепшым сэнсе надзённа-актуальнай. Увагу беларускіх драматургаў усё больш і больш прыцягваюць працэсы, што адбываліся ў навакольнай рэчаіснасці, і тая барацьба, якую вялі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі рабочы клас і працоўнае сялянства рэспублікі за пабудову сацыялізма. На сцэне БДТ I і БДТ II з'яўляюцца такія п'есы, як «Мост» (1929 г.) Я. Рамановіча, «Гута» (1930 г.) Р. Кобеца, «Качагары» (1931 г.) І. Гурскага, «Лён» (1932 г.) Е. Міровіча і г. д., становучы ацэненыя савецкай гра-

мадскасцю. У іх драматургі адлюстроўвалі ўжо важнейшыя падзеі сваёй сучаснасці — класавую барацьбу, рост свядомасці і творчай актыўнасці працоўных, перавыхаванне старых кадраў тэхнічнай інтэлігенцыі, сацыялістычную рэканструкцыю вёскі.

Аднак маладой беларускай савецкай драматургіі тады яшчэ не зусім ставала філасофскай глыбіні, шырокіх абагульненняў, псіхалагічна-абгрунтаванай і ўсебаковай характарыстыкі вобразаў. Недастатковасць традыцый і вопыту адмоўна адбівалася на абмалёўцы станоўчых герояў-сучаснікаў, якія часта падаваліся аголена-плакатна, выступалі ў п'есах толькі як рупары аўтарскіх ідэй, як бесцялеснае ўвасабленне адцягненых сацыяльных катэгорый. У выніку няпоўна вырашалася галоўнае — праблема станаўлення новага чалавека наогул. Многія драматургі слаба валодалі сюжэтам, уменнем звязаць з'явы, падзеі, якія абіралі прадметам твора, у адзін моцны вузел, уменнем надаваць гэтым з'явам, падзеям строгую мэтанакіраванасць. Да таго ж п'есы звычайна былі перагружаны. Значная частка іх не вызначалася і багаццем слоўнага матэрыялу. Таму першачарговай і важнейшай задачай перад беларускай драматургіяй стала задача спалучэння вялікай ідэйнасці, сюжэтнай глыбіні твораў і актуальнасці іх тэматыкі са змястоўнасцю чалавечых характараў і мастацкасцю мовы, з дасканаласцю формы наогул. І гэтую задачу па-свойму ўдала вырашылі Я. Колас у «Вайна вайне», К. Чорны ў «Бацькаўшчыне» і К. Крапіва ў «Канцы дружбы» — п'есах, якія адкрылі наступны этап у развіцці беларускай савецкай драматургіі.

Характэрнейшыя рысы творчасці К. Крапівы — актуальнасць тэматыкі, ідэйная насычанасць, змястоўнасць і акрэсленасць характараў, праўдзівасць у паказе чалавечых перажыванняў — знайшлі сваё праяўленне і ў першым драматычным творы пісьменніка. К. Крапіва стварыў п'есу, у якой у мастацкіх вобразах ставілася і вырашалася складанейшая праблема — праблема новай сацыялістычнай маралі. Іншымі словамі, п'еса пракладала шлях да сталасці беларускай драматургіі, адной з першых адзнак якой (сталасці) з'яўляецца імкненне даць адказы на хвалюючыя пытанні сучаснасці, дапамагчы савецкаму чалавеку правільна зразумець і вырашыць праблемы асабістага

жыцця і ўстанаўлення патрэбных узаемадачыненняў з навакольным светам.

У «Канцы дружбы» драматург узняў праблемы сям'і, кахання, бацькоў і дзяцей, асабістага і грамадскага і, перад усім,— асноў дружбы. На чым грунтуюцца прыязныя адносіны паміж людзьмі? Што ў сапраўднасці жывіць вялікае пачуццё сяброўства? Што кладзе мяжу паміж дружбай і варожасцю? Вось якія пытанні імкнуўся развязаць драматург у п'есе. Ходам развіцця сюжэта — логікай развіцця падзей і вобразаў, Кандрат Крапіва давёў, што сапраўдная дружба і ўзаемная павага могуць грунтавацца і грунтуюцца толькі на адданасці грамадскай справе, на супольнасці інтарэсаў, на прынцыповасці. Побач з гэтым, драматург упершыню ва ўвесь рост паставіў і больш поўна, чым гэта рабілася да яго, вырашыў праблему стварэння сапраўднага героя часу.

Характар героя п'есы Карнейчыка драматург раскрывае праз яго канкрэтныя справы і ўчынкі — пранікаючы ў сутнасць яго практыкі і тых жыццёвых абставін, якія фармавалі Карнейчыка як чалавека ўжо сацыялістычнага тыпу. Дзякуючы гэтаму герой К. Крапівы як бы ўбірае ў сябе дух эпохі, яе рысы і таму становіцца жывым яе ўвасабленнем. Але несучы ў сабе агульныя адзнакі часу, Карнейчык выступае ў той жа час чалавекам адменнага духоўнага «я». Прынцыпова новым у стварэнні вобраза станоўчага героя для беларускай драматургіі было таксама і тое, што К. Крапіва падаў Карнейчыка ў працэсе духоўнага і інтэлектуальнага ўзбагачэння. З п'есы паўстае даволі шматгранны вобраз разумнага і рашучага чалавека, якому не чужыя некаторыя сумненні, слабасці, але які знаходзіць у сабе сілы пераадолець іх, вызваліцца ад іх застацца паслядоўным.

Канфлікт паміж старымі баявымі сябрамі, удзельнікамі грамадзянскай вайны — Карнейчыкам і Лютынскім — стварае асноўную драматычную калізію п'есы. У сумесным змаганні далёкага дзевятнаццатага года паміж Карнейчыкам і Лютынскім нарадзілася і вырасла вялікая дружба. Кроўю першага і высакародным учынкам другога была замацавана яна. Але мінула дванаццаць год, і час паказаў, што ў агульнай барацьбе ў людзей, што так блізка сышліся, былі не агульныя мэты і розныя мары аб асабістай будучыні.

Фактычна стаў іншым толькі Лютынскі. Ды ці іншым? Дакладней, «прагавітая звярушка» ўласніка, якая раней хавалася недзе глыбока-глыбока, у самым цёмным кутку яго душы, у сілу пэўных прычын асмялела, авалодала пачуццямі і свядомасцю Лютынскага, штурхнула яго на барацьбу з партыяй, ператварыла ў пасобніка кулака. І калі гэта стала зразумела і прыйшло ўсведамленне, што былыя сябры ідэйна чужыя, разам з шчырымі адносінамі знікла і дружба, саступіўшы месца непрымірымасці і варожасці.

Да драматургіі Кандрат Крапіва прыйшоў ужо вопытным пісьменнікам, і таму на вобразе Лютынскага таксама можна прасачыць некаторую істотную асаблівасць творчага метаду мастака. Кандрата Крапіву яўна не задавальняе рэзультатыўны паказ з'яў. Драматург не толькі раскрывае меру злачынства Лютынскага, але імкнецца раскрыць і ўсю глыбіню яго падзення. Ён сутыкае Лютынскага з бацькам — вяскова-вым кулаком,— на абарону якога апартуніст становіцца, з чэснай савецкай настаўніцай — жонкай і ўласным сынам, якіх па-свойму той любіць, пакідае яго сам-насам з сваімі думкамі, сумненнямі.

Пры гэтым пісьменнік не абмяжоўваецца паказам вынікаў псіхалагічнага працэсу, а паказвае сам працэс у яго складанасці, паказвае, як з паплечніка Карнейчыка Лютынскі, у мінулым барацьбіт з польскімі захопнікамі, у якога ледзь улоўна адчуваліся праэсэраўскія перакананні, вырас у двурушніка і кар'ерыста, як логіка барацьбы фармавала светапогляд гэтага чалавека.

Вырашаючы тэму дружбы, К. Крапіва адмовіўся ад вузка-бытавога плана і звязаў тэму з больш шырокімі пытаннямі — з выкрыццём варожай ідэалогіі наогул і з сцвярджэннем савецкай рэчаіснасці. Гэта дазволіла драматургу стварыць карціну жыцця гадоў наступлення сацыялізма па ўсім фронце і адначасова не толькі паказаць, дзе знаходзіцца пачатак дружбы ў людзей, якія будуюць сацыялізм, але і сцвердзіць ісціну, што сацыялізм стварае ўмовы для гарманічнага развіцця асобы, якой неўласцівы супярэчнасці паміж розумам і пачуццямі.

«Людзі вельмі складаныя,— пісаў М. Горкі,— на жаль, шмат хто ўпэўнены, што гэта ўпрыгожвае іх... Складанасць — сумны і пачварны вынік гранічнай

раздробленасці «душы» бытавымі ўмовамі мяшчанскага грамадства, безупыннай дробязнай барацьбы за выгоднае спакойнае месца ў жыцці. Іменна «складанасцю» тлумачыцца той факт, што сярод сотняў мільёнаў мы бачым гэтак мала людзей значных, характараў выразна пэўных, людзей, натхнёных адзіным пачуццём, вялікіх людзей...

Нашы маладыя драматургі знаходзяцца ў шчаслівым становішчы, яны маюць перад сабою героя, якога яшчэ не было. Ён просты і ясны, таксама як і вялікі,—вялікі ён таму, што непрымірымы і мяцежны значна больш, чым Дон Кіхоты і Фаусты мінулага».

Кандрат Крапіва п'есай «Канец дружбы» многа зрабіў для прыходу ў беларускую драматургію такога героя.

І ўсё-такі першы драматычны твор К. Крапівы мае цяпер для нас больш гісторыка-літаратурнае значэнне. Справа ў тым, што драматург хутчэй за ўсё ствараў п'есу, зыходзячы з загадзя абранай думкі, якую ілюстраваў фактамі з жыцця. Прасталінейнасць у расплажэнні галоўных герояў і канфліктаў, незавершанасць многіх вобразаў знізілі мастацкую вартасць п'есы, і таму, выклікаўшы шматлікія дыспуты, карыстаючыся поспехам у нашых тэатрах, яна праз пэўны час сышла са сцэны, нягледзячы на цікавасць і ўдзячнасць тэмы.

## IV

1936—1937 гады, калі над сусветам зноў пачалі згушчацца ваенныя хмары, адзначаны ў прозе і драматургіі шэрагам твораў, як тады называлі, з абароннай тэматыкай. Шырокае бытаванне іх было выклікана, апрача ўсяго, асаблівымі ўмовамі, у якіх знаходзілася Беларусь — фарпост на мяжы з капіталістычным Захадам. Праяўляліся ва ўсім гэтым і гістарычныя прычыны: на долю Беларусі ў войнах звычайна выпадалі найбольш цяжкія выпрабаванні. Таму, стоячы на варце народных інтарэсаў, К. Крапіва абраў за тэму твора, прысвечанага XX гадавіне Кастрычніка, тэму справядлівай вайны.

П'еса «Партызаны» — народна-гераічная драма. Яна апавядае пра барацьбу супроць белапольскіх акупантаў у гады станаўлення савецкай дзяржавы. Серыя эпізодаў гэтай барацьбы і складае сюжэт п'есы.

У беларускай прозе пэўны час панавалі бессюжэтныя і з аслабленым сюжэтам творы, пабудаваныя ў выглядзе падарожжаў, жыццяпісаў або скампанаваныя з паасобных сцэн і эпізодаў, што аб'ядноўваліся адной пэўнай ідэяй, адной пэўнай падзеяй, навокал якой разгортвалася дзея (Палескія аповесці Я. Коласа, «Мядзведзічы» К. Крапівы, «На чырвоных лядах» М. Лынькова і інш.). Гэта паклала адбітак і на драматургію, тым больш што часта п'есы былі інсцэніраванымі раманамі і аповесцямі («Салавей» Зм. Бядулі, «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Сержант Дроб» Э. Самуйлёнка, «У пушчах Палесся» Я. Коласа і г. д.). Нешта ад падобных твораў перайшло і ў «Партызаны» К. Крапівы.

У п'есе, як мы бачылі гэта і ў «Мядзведзічах», няма адзінага цэнтра, няма строгай скразной сюжэтнай лініі. Асноўная калізія п'есы — калізія паміж Данілам Дрылем, камандзірам партызанскага атрада, і панам Яндрыхоўскім, начальнікам павета — ацяжарана пабочнымі калізіямі і матывамі, якія не маюць непасрэднага дачынення або маюць вельмі далёкія дачыненні да барацьбы гэтых асоб. Ахоп падзей тут настолькі шырокі, што сувязь паміж асобнымі карцінамі аслабленая і драматург, каб падмацаваць яе, вымушаны звяртацца да ўспамінаў, апавядаць аб тым, што адбылося паміж гэтымі карцінамі.

Але так здарылася не таму, што драматург не пераадолеў супраціўлення матэрыялу, а ў выніку таго, што ён насцеж расчыніў дзверы жыццю, і яно хлынула ў твор, пакрышыла некаторыя драматычныя каноны. Кандрат Крапіва першы ў беларускай драматургіі, апрача смелага спалучэння напружана-драматычных эпізодаў з гумарыстычнымі, адважыўся побач з паказам гераічных учынкаў і трагічных падзей даваць разгорнутыя карціны быту. Гэтае чаргаванне героіка-трагічных і бытавых сцэн надае п'есе жыццёвасць, а героіка-трагічным сцэнам — зямны, блізкі і зразумелы для кожнага характар. К. Крапіва, як некалі Я. Купала, стварыў шырокае і праўдзівае палатно, сутнасць якога складаюць сутычкі і канфлікты паміж антаганістычнымі сіламі грамадства. Героем твора стаў народ — рэвалюцыйныя сілы нацыі, што ў сваю чаргу дало магчымасць узняць праблемы вялікага сацыяльнага значэння (адзінства інтарэсаў працоўных розных

нацыянальнасцей, абавязак асобы ва ўсенароднай барацьбе, інтэрнацыянальная салідарнасць, дружба і братэрства працоўных усяго свету). Само адхіленне ад нормы і канонаў узмацняе тут непасрэднасць і натуральнасць сітуацыі і падзей, што знайшлі сваё адлюстраванне ў п'есе. Тактоўнае чаргаванне гераічных і бытавых сцэн пры яркасці і маляўнічасці саміх карцін народнага жыцця і барацьбы з яе высокай драматычнай напружанасцю ўзнімае эмацыянальную ўплывовасць п'есы.

Напярэдадні адкрыцця ў Беластоку Народнага Сходу, які прыняў рашэнне — прасіць аб уз'яднанні Заходняй Беларусі з БССР, драматычны тэатр імя Янкі Купалы паставіў перад дэлегатамі п'есу «Партызаны». І вось што паведамлялася ў газеце «Правда» пра гэты спектакль:

«Здарылася тое, чаго не прадбачылі ні аўтар, ні рэжысёр. Сцёрлася грань паміж сцэнай і залай. Людзі, на тэатральнай гаворцы называемыя публікай і абавязаныя сядзець ціха, займаючы месца згодна білетам, ускаквалі з крэслаў і горача ўдзельнічалі па ходу дзеяння ў масавых сцэнах спектакля.

Дзеянне адбываецца ў 1920 годзе, але глядач забыўся на тэрміны і даты, бо на сцэне тыя ж ненавісныя паны, тая ж барацьба, што нядаўна адбывалася ў Заходняй Беларусі.

На сцэне партызаны ў лесе клянуцца над трупам забітага таварыша, клянуцца ачысціць край ад панскіх катаў. Глядач паўтарае тую ж самую клятву. Сотні чалавек ускакваюць з месца, махаюць кулакамі і крычаць: «Смерць панам!»

Народ тут, паўтараю,— калектыўны герой. Даніла Дрыль — барацьбіт за савецкую ўладу, яго мужная маці, сястра, сяляне — стары Бадыль, яго ўнучка, вясёлы, дасціпны Батура, Рыгор, партызаны — Міхал, Халімон, Антон, падпольны партыйны работнік ваенком дывізіі Скіба-Кузін, камандзіры Чырвонай Арміі — прадстаўнікі народа. Яны ўтвараюць даволі маналітны ў сваіх канечных імкненнях і накіраваннях лагер. Скіба-Кузін і Даніла Дрыль з'яўляюцца важакамі гэтага лагера — людзьмі з ясным разуменнем як агульных задач і мэтаў барацьбы, так і сваёй ролі і месца ў змаганні. Драматург добра перадаў арганічнае адзінства народа і яго авангарда — камуністаў, выраз-

нікаў інтарэсаў народа, які ў сваю чаргу выступае як сапраўдны творца гісторыі.

Творчай удачай пісьменніка з'яўляецца вобраз Бадыля — самавітага, разважлівага дзеда, носьбіта народнай мудрасці і аптымізму. Спакойны, дабрадушна-гумарыстычнымі адносінамі да жыцця, што не пакідаюць яго ў самыя крытычныя хвіліны, Бадыль ва ўсім дзейнічае з нейкім сваім, хітрым прыцэлам на заўтрашні дзень. Ён часам можа нават прыкінуцца наіўным неразумекам, які быццам бы не ведае, за што яму паграsevereжаюць, або зрабіць выгляд, што не заўважае кпінаў з сябе, але заўсёды і скрозь у яго словах, то іранічных, то жартаўлівых, адчуваецца розум і ўсведамленне ўласнай годнасці.

Гаворыць Бадыль вобразна, афарыстычна, перасыпаючы гаворку прымаўкамі, сярод якіх шмат уласных новатвораў. Ён любіць абагульняць з'явы, жыццёвыя выпадкі, і гэтыя абагульненні нязменна выліваюцца ў яго ў лаканічныя, паэтычна аформленыя афарызмы, народныя як па самой сутнасці, так і па спосабу выражэння. Яны вырастаюць у яго з цвярозага погляду на жыццё і грунтуюцца на багатым, уласным жыццёвым вопыце.

Перад Бадылём не стаяла пытання, ці прымаць удзел у змаганні, ці не, і на чыім баку змагацца. Само жыццё былога панскага парабка і беззямельнага селяніна вызначыла яго месца ў барацьбе. Ён абураецца тымі, хто спрабуе ўхіліцца ад змагання, неактыўна ўдзельнічае ў ім, і, наадварот, захапляецца такімі, як Даніла Дрыль, Бадылёвы надзеі і спадзяванні скіраваны да Чырвонай Арміі, яго любоў і сімпатыі — на баку той справы, за якую армія-вызваліцельніца вяла змаганне. Не зусім ясным для Бадыля заставалася толькі, як і чым ён, чалавек пажылога веку, асабіста можа дапамагчы ў вайне супроць контррэвалюцыі і агрэсіі. Хвалявала і тое, ці шмат могуць зрабіць бадай што бяззбройныя людзі, выступіўшы супроць узброенай да зубоў плоймы акупантаў. Бальшавік Скіба рассейвае гэтыя сумненні і калі звяртаецца да яго за дапамогай, Бадыль ахвотна ідзе на рызыку. На месца горкага роздуму і пошукаў, як самому прыняць удзел у барацьбе, да Бадыля прыходзяць задавальненне і гордая радасць чалавека, які ўсведамляе, што і ён

паўнацэнны, і яго намаганні ідуць на карысць вялікай справе.

У перамогу Бадыль верыў, як ва ўсход сонца. Гэта стварае навокал Бадыля атмасферу сімпатычнай яснасці і спакойнай упэўненасці. Непасрэднасць, прастата, яго народнасць робяць вобраз старога абаяльным, глыбока чалавечным.

Сакавіта пададзены ў п'есе таксама вобраз бежанца-паляка Батуры, майстра на ўсе рукі, выдатнага гарманіста, веселуна, аматара на жарты і прыпеўкі. У адрозненне ад дзеда Бадыля, у якога сапраўднае душэўнае багацце хаваецца пад вонкавай сціпласцю і праставатасцю, Батура ўвесь у слове, у руху, жэсце, у яго — усё на паверхні. Ён любіць эфекты, нават бравіруе сваёй зухаватасцю. Але гэта не перашкаджае яму быць разумным чалавекам, душа якога поўна павагі і прыхільнасці да людзей працы. Батура ўзнімаецца да ўсведамлення агульнасці і адзінства класавых інтарэсаў працоўных розных нацыянальнасцей і, па закліку Скібы, разам з іншымі паўстае на змаганне з польскімі панамі. «Па вёсках хаджу, людзям праўду кажу, дзе прыпеўкаю, а дзе жартам з дзеўкаю»,— гаворыць ён пра сябе, як звычайна ў форме райка.

Між іншым, наяўнасць прыказак і раешніка ў пэўных адносінах таксама набліжае «Партызан» да народнай драмы — з яе характэрнай блізкай да верша рыфмаванай прозай, аздобленай вострым слаўцом, метафарай, параўнаннем. Тое ж можна сказаць і пра даволі вялікую колькасць народных песень і прыпевак у п'есе. Кандрат Крапіва вельмі любіць падаваць у сваіх драматычных творах сямейныя абрады, асабліва вясельныя,— з іх урачыстым рытуалам, нязменна скарыстоўваючы тую акалічнасць, што вясельная гульня складаецца не толькі з традыцыйных сцэнічных палажэнняў і сталых песенных тэкстаў, але і з своеасаблівых імправізацый (прычытанні маладой, прыгаворы дружкі, умоўная гутарка сватоў з бацькамі маладой і г. д.). Не выходзячы за рамкі стылёвага канона, драматург удала абнаўляе слоўную тканіну вясельнага дзейства, надае яму гучанне, адпаведнае часу, які апісваецца. (Гэта асабліва ярка праявілася ў пазнейшай п'есе К. Крапівы — «Пяюць жаваранкі».)

Успомніце, напрыклад, як размаўляюць Скіба і дзед Бадыль, да якога першы прыехаў нібыта сватаць унучку Настулю.

А вось што спявае неўгамонны Батура, калі прысутныя госці закруціліся ў польцы:

Скачы, скачы, хлопча, смела,
Пакуль твая скура цэла!
Не сягоння — заўтра рана
Будзе твая скура драна.
Будзе драна бізунамі,
Што не ўмееш жыць з панамі.

Гэта з трэцяй карціны п'есы. У другой жа карціне драматург падае прычытанні Марылькі — сястры Данілы Дрыля — над трупам забітай жаўнерамі маці. У пятай — вясковую гулянку з песнямі, песеннымі паядынкамі-імправізацыямі.

Наогул К. Крапіва свядома і паслядоўна захоўвае ў сваіх творах пэўныя традыцыі і нават часам традыцыйныя вобразы. Так, адзіны сатырычны персанаж п'есы «Партызаны» — шляхціц Шмігельскі, цалкам вытрыманы ў духу дарэвалюцыйных беларускіх камедый і вадэвіляў, нават у дэталях нагадвае пустога фанабэрыстага Пранцішка з «Моднага шляхцюка» (1910 г.) К. Каганца і не менш фанабэрыстага і пустога Адольфа Быкоўскага з «Паўлінкі» Я. Купалы, з іх пагардай да народа, гульнёй у гжэчнасць і самахвальствам. К. Крапіва таксама падае Шмігельскага ў бытавым плане, ставіць яго ва ўжо знаёмую сітуацыю — у ролю згрыбелага жаніха — і выключае з той барацьбы, якая вядзецца паміж народам і акупантамі. Таму станоўчыя героі ставяцца да яго не як да небяспечнага ворага, а як да пыхлівай нікчэмнасці.

Спалучэнне наватарства і традыцый, з аднаго боку, робіць п'есу К. Крапівы арыгінальнай, гістарычна-нацыянальнай, з другога,— сведчыць аб пошуках пісьменнікам шляхоў далейшага развіцця беларускай драматургіі, пошуках гарманічных нацыянальных форм для выяўлення новых, сацыялістычных ідэй.

Побач і ў сувязі з паказам барацьбы партызан з захопнікамі, К. Крапіва разгортвае асабістую драму Данілавага сябра — вясковага бедняка Рыгора. Той даўно і безнадзейна кахаў дачку кулака Маргуна Кацярыну. Уплыў багацейкі, якая забаўлялася з ім, «як кошка з жабай — гадка з'есці і шкада кінуць», пе-

рашкодзіў Рыгору разам з іншымі пайсці ў лес. Да таго ж ён быў шчыра перакананы, што ў яго паводзінах няма нічога благога.

«Што ж я дрэнна раблю? Люблю дзяўчыну, хачу з ёй пажаніцца, хачу зямлі кусок, каб было на чым з ёй жыць спакойна і шчасліва. Хіба гэта грэх вялікі? Крыўды ж я нічыёй не хачу»,— разважаў ён.

Але логіка змагання хутка паставіла Рыгора перад дылемай, якая патрабавала неадкладнага рашэння. У душы хлопца ўзнікла пакутлівая барацьба паміж каханнем і дружбай, уласніцкімі імкненнямі і ўсведамленнем свайго абавязку перад другімі. Найвышэйшага напружання гэтая барацьба дасягнула ў момант, калі ў Рыгораву хату, дзе спаў схаваны Даніла, прыйшла з сваімі здрадлівымі прапановамі дачка Маргуна. Драпежная, хцівая, яна адкрыта прапанавала Рыгору забіць важака партызан, абяцаўшы за гэта сябе і багацце. Лёс Данілы, а разам з гэтым і лёс Рыгора быў пастаўлен на вастрыё нажа...

Гэтая сюжэтная лінія ў некаторых адносінах звязвае п'есу «Партызаны» з першай п'есай драматурга і сведчыць, што яго па-ранейшаму цікавіць працэс фармавання духоўнага свету асобы і фактары, якія абумоўліваюць гэты працэс. Крыху змяніўшы плоскасць пастаноўкі пытання, як і раней, даводзячы, што трывалая дружба можа вырастаць толькі на грунце агульных інтарэсаў, К. Крапіва паказвае ў «Партызанах», як гэтае прыгажэйшае і гуманістычнае пачуццё, калі непарушны яго асновы, само ў сваю чаргу можа дапамагчы чалавеку вызваліцца з аблудаў і пераадолець памылкі. Дружба ратуе Рыгора. Яна дапамагае яму пададавіць у сабе дробнаўласніцкія спакусы, раскрывае яму вочы на сапраўдную сутнасць падзей і людзей.

Здрадлівая Кацярына, якая нават і каханне да сябе імкнецца выкарыстаць у змаганні за багацце, бацька яе Маргун — паслугач акупантаў, новаяўленая Салтычыха, бажона-абшарніца Яндрыхоўская, яе сын — начальнік павета, езуіт-ксёндз складаюць варожы лагер, адзінадушны ў сваіх накіраваннях, у сваёй зняважэ і нянавісці да народа. Вогненная рака пралягла паміж імі і народам. Кожны з іх, азлоблены і дзікі, усімі сродкамі, якія даюць яму ўмовы акупацыі, вядзе змаганне супроць народа.

У п'есе пераважаюць масавыя сцэны, якія, дарэчы, напісаны з вялікай сілай. Яны экспрэсіўныя, маляўнічыя, дынамічныя, і, што асабліва важна, у іх надзвычай выразна праяўляюцца індывідуальнасці дзейных асоб. Талент мастака, апрача ўсяго і нават перш за ўсё, заключаецца ў тым, каб беспамылкова ўлаўліваць і экспрэсіўна перадаваць рэакцыю дадзенага характару ў дадзеных абставінах. «Геній у тым і састаіць,— пісаў Бальзак,— каб пры кожнай сітуацыі ўзніклі словы, у якіх праяўляўся характар». І ў масавых сцэнах гэтую рэакцыю і гэтыя «словы» драматург знаходзіць асабліва трапна.

Станоўчыя персанажы як бы вырастаюць з масы, жывяцца яе энергіяй, злітаваны з ёй арганічна і ў той жа час уяўляюць сабою асобы самабытныя. Кандрат Крапіва ўжо тады адчуў душу народа, убачыў патэнцыяльныя жыццёвыя сілы, якія так выразна праявіліся ў часы ўсенароднага змагання з нямецка-фашысцкай навалай у Вялікай Айчыннай вайне. П'еса «Партызаны», як і коласаўская «Дрыгва», паказвае, як фармаваліся ў народзе партызанскія традыцыі, як у змаганні яны набывалі ўсё дасканалейшыя формы, і ў гэтых адносінах у п'есе ўгадваецца Беларусь 1941—1944 гг.— краіна класічнага партызанскага руху.

## V

У 1939 годзе святло рампы ўбачыла камедыя Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім». Новы твор драматурга знаменаваў сабою зварот пісьменніка да сатыры. Поспех камедыі быў незвычайным. З 1939 года па 1950 год Беларускі Дзяржаўны драматычны тэатр імя Янкі Купалы даў 215 спектакляў «Хто смяецца апошнім». Звыш пяцідзесяці тэатраў Савецкага Саюза ставілі камедыю Крапівы. Яе бачылі гарнякі Чэрамхоўскага вугальнага басейна на Далёкім Усходзе, яе бачылі ў Пярмі, на Урале, у Азербайджане, Ленінградзе, Сімферопалі, Томску, Кіеве. Разам з драмай «Партызаны» яна з поспехам ішла ў часы беларускай дэкады ў Маскве.

Чым тлумачыцца такі поспех камедыі? Чаму яна, нягледзячы на сваю падкрэсленую злабадзённасць, дагэтуль хвалюе і смяшыць гледача? Чаму не бляднеюць з цягам часу драматычныя сітуацыі яе? Ды таму,

што тут К. Крапіва паказаў сябе драматургам, які можа надзвычай глыбока бачыць і адчуваць сучаснае жыццё і ўзнімаць канкрэтныя факты да ўзроўню высокага мастацкага абагульнення. Таму што яе прывабнасць вынікае з праўдзівасці ўнутранага дзеяння, дасціпнага гумару, арыгінальных палажэнняў, умення паказаць, як само савецкае жыццё дапамагае людзям вызваляцца ад уплыву старога і ў працэсе вызвалення набываць новыя якасці. Яснасць сюжэтнай лініі, чысціня і выразнасць сцэнічнага дыялагу, чысціня і глыбокая шчырасць пачуццяў, а галоўнае — акрэсленасць і змястоўнасць вобразаў зрабілі камедыю высокамастацкім творам і забяспечылі ёй даўгавечнасць.

«Хто смяецца апошнім» — сатырычная камедыя. У ёй драматург пайшоў ад традыцый высокай камедыі і ў першую чаргу сатыры Гогаля — камедыі вострай і дзейснай, у якой за персанажамі хоць і лёгка ўгадваюцца канкрэтныя людзі-сучаснікі, але яны, дзякуючы сваёй яркасці і характэрнасці, тыпізуюцца ў свядомасці гледача або чытача і ўспрымаюцца ім як вобразы-тыпы.

Побач з гэтым тут сустракаюцца элементы камедыі палажэнняў, з яе падманамі ды падменамі дзейных асоб, і элементы камедыі звычак, з яе стаўкай на раскрыццё псіхалогіі дзейных асоб у працэсе напружанай барацьбы, і элементы драмы. У гэтым знайшла свой адбітак, па-першае, уласцівасць беларускай драматургіі наогул, гістарычнай асаблівасцю якой з'яўляецца адсутнасць жанравай чысціні, і, па-другое, пошукі форм, якія б далі неабмежаваныя магчымасці для выяўлення сатырычнай і дыдактычнай устаноўкі драматурга. Не выпадкова ў камедыі «Хто смяецца апошнім» надзвычай шырока прадстаўлены элементы вострай палітычнай сатыры — сатыры дзейнай, народжанай савецкай грамадскай думкай, поглядамі і кірункам думак савецкага чалавека. Камедыі К. Крапівы ўласціва баявая актуальнасць галоўнай ідэі, выразна выяўленая тэндэнцыя да выкрыцця ўсяго чужога, варожага сацыялістычнаму парадку рэчаў і маралі савецкага чалавека і не менш выразнае сцвярджэнне сацыялістычнага ідэалу. На вострых супастаўленнях, уласна кажучы, і пабудавана ўсё дзеянне «Хто смяецца апошнім».

Галоўнай дзейнай асобай твора Крапіва зрабіў Тулягу — палахлівага, але чэснага савецкага працаўніка, псіхіка якога была засмечана перажыткамі мінулага. Стары вучоны, кваліфікаваны спецыяліст, Туляга, каб не памыліцца, не адважваўся нават друкаваць свае навуковыя працы. Гэта было ўвасабленне хваравітай палахлівасці, той палахлівасці, якая, як спадчына, перайшла да Тулягі ад далёкіх продкаў — маленькіх забітых чыноўнікаў Гогаля, Дастаеўскага, Чэхава. Змяніце абставіны, час — і Туляга, як калісьці Макар Дзевушкін з «Бедных людзей» Дастаеўскага, будзе «в должность входить бочком, бочком, сторонясь ото всех», і «всегда все делать так, как будто бы его и на свете не было», нават гарбату дома піць будзе толькі з-за страху, каб пра яго не гаварылі дрэнна.

Аднак у Тулягі, як і ў беднага Дзевушкіна, побач з прыніжанасцю і спалохам перад жыццём цяпліўся агеньчык чалавечай гордасці і гонару. Пад уздзеяннем перадавых людзей гэтае станоўчае зерне ў душы Тулягі дае парастак. І выдатна,— працэс духоўнага перараджэння Тулягі Крапіва прадставіў як абнаўленне чалавека, як вынік таго, што існаваўшыя раней прычыны, якія выклікалі страх перад жыццём, знікаюць.

Вось як выглядаюць рашаючыя для лёсу Тулягі мясціны ў камедыі на сцэне тэатра Янкі Купалы, дзе ролю Тулягі таленавіта выконвае народны артыст СССР Г. Глебаў.

...Раз'юшаны натоўп урываецца ў кабінет... На канапе сядзіць растрапаная сакратарша Зёлкіна і збялелы, разгублены Туляга. Натоўпу невядома, што хвіліну таму назад палахліўца уцягнуў у пакой праз акно яго шэф — Гарлахвацкі і, прыгразіўшы «выкрыццём», прымусіў згадзіцца прыняць ганьбу чужога ўчынку. Небарака ўзрушаны і падаўлены. Маленькія ручкі яго складзеныя, быццам перад малітвай, галава схілілася набок, вочы хутка і разгублена міргаюць. Здаецца, што вар'яцкі рогат ярка і безгустоўна апранутай жонкі Гарлахвацкага сцябае яго, як пугай. Ён гатовы праваліцца.

— Дык вось ты з кім, нягодніца! — гнеўна крычыць да сваёй «супругі» Зёлкін — падхалім і паклёпнік, што міжволі паставіў сябе на паслугі ворагу. Але тая, адштурхнуўшы яго і лавіруючы між людзей,

амаль спакойна выходзіць. Гнеў абражанага мужа шукае выйсця.

— А з вамі, даражэнькі, я зараз расквітаюся! — пагрозліва гаворыць ён і падступае з кулакамі да Тулягі.

— Што вы да мяне маеце, таварыш Зёлкін? — толькі і можа сказаць той. У гэтых словах і незаслужаная крыўда, і спалох, і вартая жалю просьба аб літасці.

Зала, уражаная болем, заціхла. Зрабілася крыўдна за гонар чалавека, які без дай прычыны дазваляе так кампраметаваць сябе. І таму, калі баязлівец-абывацель у роспачы закрыў твар рукамі, чакаючы ўдару і ўцягнуўшы шыю, глядач пакараў яго смехам.

...Вучоны савет. Цішыня і агульная ўвага. Не адчуваючы яшчэ сваёй пагібелі, самазванец-палеанталог Гарлахвацкі з апломбам чытае даклад-лухту аб «Свінтусе грандыёзусе», які (даклад) пад той жа пагрозай «выкрыцця» напісаў яму Туляга. Але як напісаў.

Туляга зноў сядзіць на памятнай яму канапе і моўчкі слухае шэфа. Але колькі цяпер радасці — гарэзлівай, зухаватай. Яна ахапіла ўсю яго істоту, свеціцца ў яго жывых, рухавых вачах, на памаладзелым шчаслівым твары. Не здольны стрымацца, ён радасна гойдаецца на канапе ў такт словам невука. І чым больш бязглуздыя словы Гарлахвацкага, тым больш радасці ў рухах Тулягі. Ён спраўляе падвойную ўрачыстасць — над сваёй пераможанай палахлівасцю — спадчынай мінулага, і ворагам — абаронцам гэтага мінулага. І зноў смяецца глядач, але на гэты раз яго смех спачувальны...

М. Гоголь пісаў аб «Рэвізору»: «Мне шкада, што ніхто не заўважыў сумленную асобу, што была ў маёй п'есе. Так, была адна сумленная, высакародная асоба, яна дзейнічала ў ёй на працягу ўсёй яе. Гэта сумленная, высакародная асоба быў смех... Смех, які ўвесь праменіць з светлай прыроды чалавека». І гэтая высакародная дзейная асоба — таксама адзін з герояў «Хто смяецца апошнім». Яна беспамылкова дае ацэнкі Тулягу, ганьбуе яго баязлівасць, падбадзёрвае, калі баязлівасць пачынае саступаць месца рашучасці. Наогул камедыя выклікае цэлую гаму па-рознаму афарбаванага смеху. У ёй мае месца і сарказм, накіраваны супроць Гарлахвацкага і Зёлкіна, і гумар, і лёгкі жарт над людзьмі, што выпадкова трапілі ў камічнае становішча,

і здаровы смех над выкрытым ворагам і яго пасобнікамі. Смех пераможцаў. Смех, што выклікаецца самымі разнастайнейшымі сродкамі — і камізмам слоў, і камізмам формы, і камізмам палажэння, і камізмам дзеяння,— бадай скрозь спадарожнічае Тулягу.

Можна без перавелічэння сказаць, што падобна таму, як вобраз Абломава з'яўляецца лагічным давяршэннем бліскучай галерэі «лішніх людзей» Пушкіна — Тургенева, так вобраз Тулягі давяршае сабою, дакладней, кладзе канец шэрай сумнай чарзе маленькіх забітых чыноўнікаў Гогаля — Чэхава.

Спачуваючы Тулягу як мастак-гумарыст, драматург адначасова даводзіць, што камічныя рысы ў яго характары ганебныя і грамадска шкодныя, бо яны спрыяюць дзейнасці Гарлахвацкага. Так з галоўнай тэмы камедыі — вызваленне чалавека ад спадчыны мінулага — вынікае другая тэма — шкодніцтва і паклёпу, якая з не меншым бляскам была развіта камедыёграфам на вобразах Гарлахвацкага і яго добраахвотнага пасобніка Зёлкіна.

Гарлахвацкі — вораг, зацяты, небяспечны. Яго «паплечнікі», баючыся выкрыцця, часова схавалі Гарлахвацкага на «зацішнай» пасадзе. («Сядзі і не рыпайся, а то можаш і нас аскандаліць. Сядзі ціха, а калі спатрэбіцца — пазавём».) Спадзеючыся стварыць у інстытуце атмасферу баязлівасці і падхалімства, гэты прайдзісвет метадам сваёй дзейнасці выбірае шантаж і паклёп, сеючы залішнюю падазронасць і адводзячы гэтым удар ад сябе. Ён тэрарызуе Тулягу, каб прымусіць працаваць на сябе, шальмуе сумленнага Чарнавуса, каб нейтралізаваць яго, выкарыстоўвае добраахвотнага лёкая і шаптуна Зёлкіна.

Камедыёграф стварае тып двурушніка — чалавека, у якога няма ніводнага шчырага слова, які хлусіць заўсёды, усюды і ўсім: і тым, хто яму дапамагае, і тым, супроць каго ён выношвае здрадлівыя планы, і ўласнай жонцы, і набытай любоўніцы. У яго азлоблена-напалоханай душы жывуць толькі клопаты аб сабе, аб захаванні сваёй скуры, ды капошацца бясконцыя планы, як бы ашукаць жыццё і ўрваць у яго як мага больш. Таму ён, вядома, нікога і нічога не паважае, не заўважаючы, абражае, не задумваючыся, здзекуецца і на кожнага глядзіць, як на такога, каго можна і трэба або падмяць, або скарыстаць, або абысці.

Прырода жорстка помсціць двурушнікам: яна пазбаўляе звычайна іх таленту. Гарлахвацкі — абмежаваны і недалёкі чалавек. Ён грубы і саманадзейны. І толькі даволі вялікі вопыт шантажыста і невялікія здольнасці акцёра, ды яшчэ такія людзі, як Туляга і Зёлкін, часова ратуюць яго і робяць дзейнасць яго магчымай. Рабалепствуючы перад Гарлахвацкім, Зёлкін, фактычна, давяршае шмат з таго, што пачаў вораг. Вольна ці міжвольна ён заўсёды яго спадарожнік і пасобнік. Яго плёткі падказваюць Гарлахвацкаму ідэі, муцяць навокал Гарлахвацкага ваду, сціраючы грань паміж праўдай і паклёпам ворага, маскіруюць ворага, дапамагаюць яму паклёпнічаць і шальмаваць савецкіх людзей.

Зёлкін — з'ява не менш агідная, чым Гарлахвацкі. Гэта — халуй па натуры, чалавечак дробны, гадзенькі, з нізкімі мяшчанскімі інтарэсамі. Корпацца ў чужой бруднай бялізне, смакаваць свае домыслы аб другіх, паклёпнічаць на другіх — для яго найвялікшая асалода. Ён ходзіць, як кажа прыбіральшчыца цёця Каця, быццам у яго не ногі, а мяккія лапы. Ходзіць, прыслухоўваецца, [redacted] потым, надаўшы ўсяму свой пачварны сэнс, [redacted] злой радасцю разносіць сваю атрутную лухту, ганьбячы супрацоўнікаў, выслужваючыся перад такім начальствам, як Гарлахвацкі.

Гарлахвацкі і Зёлкін — два бакі аднаго і таго ж медаля. Іх нельга ўявіць адзін без другога. Парушце іх сімбіёз, і яны загінуць абодва. І таму выкрыццё двурушніка-кар'ерыста ў канцы камедыі ёсць крах і канец паклёпніка-падхаліма.

«Што за карысць паразіць ганебнага і заганнага чалавека, выстаўляючы яго на паказ усім, калі няясны ў табе самім ідэал яму процілеглага выдатнага чалавека»,— [redacted] сумам пісаў М. Гогаль. І ў гэтым была трагедыя сатырыка XIX стагоддзя. К. Крапіва плённа выкарыстаў магчымасці, што давала яму савецкая рэчаіснасць, і не толькі давёў, што добра ведае, якім павінен быць чалавек нашай эпохі, але якім ён ужо з'яўляецца.

Найбольш акрэслена выпісаны вобраз прафесара Чарнавуса — салідцага вучонага, патрыёта навукі.

Якія галоўныя рысы яго характару? Па-мойму, высокае разуменне грамадскага. Нават трапіўшы, у выніку хітра сплеценага Гарлахвацкім паклёпу, у цяж-

кое становішча, Чарнавус не перастае думаць аб сваёй працы, аб тым, што звязана з ёю. Яго клапоціць не толькі і нават не столькі асабісты лёс, колькі справа, якая можа пацярпець ад паклёпу. Яго прынцыповасць і высакароднасць яскрава праявіліся і ў адносінах да Гарлахвацкага, які ўвесь час настойліва прыкідваўся яго сябрам і абаронцам. Пераканаўшыся ў невуцтве дырэктара інстытута, Чарнавус мужна выкрывае авантурыста, бо ні пры якіх абставінах не можа дазволіць апашляць савецкую навуку, якой прысвяціў лепшыя гады свайго жыцця.

На вобразе Чарнавуса, ды і вобразах Веры, Левановіча, на супрацьстаўленні іх Гарлахвацкаму ставіцца і вырашаецца, апрача ўсяго, праблема навукі і практыкі. Высмейваючы ідэалізм і беспрадметнасць у навуцы, за якімі нярэдка хаваецца шарлатанства, К. Крапіва выступае за дзейсную навуку, якая мае за мэту сваю дабрабыт і шчасце народа. Гэтая лінія камедыі глыбока сучасная. Дарэчы, сучаснай з'яўляецца і сама атмасфера, што акаляе Чарнавуса, Веру, Левановіча,— атмасферу росту і творчага ўздыму.

В е р а. Вось, цёця Каця, малады хлопец (Левановіч.— Ул. К.), а хутка прафесарам будзе.

Ц ё ц я К а ц я. Цяпер жа ўсе маладыя — разумныя, на тое ж вас і вучаць.

В е р а. І на чым жа вырас. На торфе!

Ц ё ц я К а ц я. Усюды растуць: на торфе, на гліне. На пяску і то растуць. Такі ўжо клімат у нас.

Вельмі каларытны атрымаўся вобраз цёці Каці — добрай, слаўнай жанчыны, якая сэрцам угадвае праўду і становіцца на яе абарону. К. Крапіва наогул — майстар слоўных партрэтаў. Але слоўны партрэт цёці Каці — адна з удач драматурга. Тут хацелася ўказаць толькі на некаторыя асаблівасці яе мовы — трапнасць і лаканізм яе характарыстык, вобразнасць і дасціпнасць яе рэплік, багацце прыказак, якімі карыстаецца простая жанчына.

Аднак найбольш удалымі ў камедыі ўсё-такі застаюцца адмоўныя вобразы — Гарлахвацкага, Зёлкіна і вобраз Тулягі, чые імёны ператварыліся ўжо ў назоўныя. Праўда, і яны — носьбіты адной пэўнай страсці, але затое на грунце яе, «унутры» яе пісьменнік раскрывае жывое багацце індывідуальнасці і, такім чынам, стварае класічна акрэслены тып.

Беларуская драматургія да К. Крапівы не вызначалася багаццем жанраў. У ёй шырока бытавалі толькі вадэвіль, п'еса, драма і драматычныя паэмы. «Хто смяецца апошнім» — першы ўзор сатырычнай камедыі. І ў гэтых адносінах камедыя не толькі пашырыла тэматыку беларускай драматургіі і кола яе вобразаў, але і ўзбагаціла яе адным з складанейшых жанраў. Камедыя з'явілася ўзорам высокамастацкага адзінства баявой надзённай тэмы і пільнай увагі драматурга да псіхалагічнага жыцця персанажаў, высокай ідэйнасці і сапраўднай сцэнічнасці, інтэнсіўнага дзеяння і яскравых змястоўных характараў,— чаго звычайна так не ставала нават многім лепшым творам беларускіх драматургаў. Па сваёй дасціпнасці і сіле абагульнення, заключанага ў вобразах, па сваёй фармальнай дасканаласці і сцэнічнасці камедыя з'явілася своеасаблівай вяршыняй усёй беларускай савецкай драматургіі 20—30-х гадоў.

У сакавіку 1941 года Савет Народных Камісараў Саюза ССР за выдатную працу ў галіне драматургіі — за камедыю «Хто смяецца апошнім» надаў Кандрату Крапіве званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі.

У камедыі «Хто смяецца апошнім» расстаноўка станоўчых і адмоўных сіл, логіка іх развіцця адпавядалі расстаноўцы і логіцы развіцця гэтых сіл у самой рэчаіснасці і сведчылі аб моцы і нязломнай жыццяздольнасці савецкага калектыву. Трапна была падмечана драматургам і сіла самога калектыву ў развязванні канфліктаў ва ўмовах сацыялістычнага грамадства, а таксама добра перададзена натуральнасць і непазбежнасць перамогі перадавога над старым. Крыху іншае мы маем у другой камедыі сатырыка «Мілы чалавек», дзе паказаны тыл часоў Вялікай Айчыннай вайны.

У «Мілым чалавеку» К. Крапіва, бадай, упершыню ў драматургіі ўжыў прыём, сутнасць якога заключаецца ў тым, што перад гледачом нібыта ўзнаўляецца сам творчы працэс пісьменніка: раскрываецца, як у свядомасці мастака тыпізуецца рэчаіснасць, адбіраюцца сітуацыі, узнікае сюжэтная канва, знаходзіцца фінальнае вырашэнне канфліктаў. У адпаведнасці з гэтым, каб рухаць дзеянне ў п'есе, аўтар стараўся знайсці і новыя фактары.

Героем камедыі драматург абраў аферыста і прайдзісвета Жлукту. Ратуючыся ад мабілізацыі, ён разам з эвакуіраванымі прыехаў у горад Н., завёў там «блаткантору» і зажыў прыпяваючы на крадзеных хлябах, пакуль не быў выкрыты намаганнямі журналіста-драматурга Язвы.

Жлукта — шкурнік. Для яго няма нічога святога, апрача ўласнага трыбуха. Сумленне не існуе для яго. Выбар сродкаў — таксама. Ён не грэбуе анічым: ні спекуляцыяй на цяжкасцях, ні спекуляцыяй на чалавечых слабасцях. Непамерныя жлуктаўскія апетыты стрымліваюцца толькі страхам перад небяспекай выкрыцця і артыкуламі крымінальнага кодэкса.

Гэта — блатмайстар-стратэг. Ён знаходзіць у сабе дастаткова розуму, каб у некаторых выпадках протары і страты пакрываць самому. Хітра сплеценая сістэма паслуг за паслугі робіць людзей, што маюць з ім справу, залежнымі і абавязанымі яму. У яго распрацаваны свае правілы канспірацыі і свае прыёмы, як абыходзіць закон. Паказаць людзям, што ён «нешта такоегэтакае», аб чым сам сціпла маўчыць, але аб чым павінен здагадвацца кожны, хто лічыць сябе «разумным чалавекам»,— адзін з галоўных яго сродкаў.

Паводле замыслу аўтара, гэта не Гарлахвацкі — выкапнёвая жывёліна, «свінтус грандыёзус», не Любынскі — кулацкі выкармыш, а ўвасабленне, хаця і спадчыннага, але такога, у чым старыя элементы знаходзяцца ў новым злучэнні і даюць якасна новую з'яву — жлуктаўшчыну.

Праўда, у савецкіх умовах, як сцвярджае драматург, жлуктаўшчына не мае трывалых карэнняў і тоіць у сабе зародкі ўласнай пагібелі.

Жлукта ў сваёй псіхіцы, у сваім светапоглядзе ўжо нясе мажлівасць свайго выкрыцця. Жлукта — гранічны цынік. Ён канчаткова згубіў усякую павагу да людзей, у кожным звык бачыць такую ж жывёліну, як і сам. Гэта — «бочка, у якой густа перамешаны прагнасць, цынізм і нахабства», прычым цынізм і нахабства павялічваюцца ў яго ў простай залежнасці ад росту яго дабрабыту і нарэшце павінны прывесці і прыводзяць яго да страты пачуцця рэальнага, а затым і да краху. Асуджанасць Жлукты і яго поглядаў К. Крапіва падкрэсліў і на ўзаемаадносінах Жлукты з жонкай.

Гнілым быў і грунт, на якім будуецца ўдачлівасць прайдзісвета. Абмежаваныя, празмерна даверлівыя «цецерукі» тыпу Канягіна, розныя Аляксандры Міхайлаўны, якія заблыталіся ў асабістых справах, бездапаможныя гаспадарнікі-кліенты і проста неразборлівыя, абыякавыя да ўсяго, апрача выпіўкі ды закускі, людзі з'явіліся той «шчаснай», але нетрывалай глебай, што жывіла Жлукту.

Новая камедыя Кандрата Крапівы вызначаецца вострай назіральнасцю, смеласцю і арыгінальнасцю думак. І яшчэ адным — здабыткам творчай сталасці пісьменніка — драматургічнай вынаходлівасцю. Аднак, празмерна разросшыся, Жлукта засланіў у камедыі ўсё астатняе і паклаў на ўсё сляды свайго агіднага ўплыву. Гнілое асяроддзе, якое склалася навокал Жлукты і павінна было сімвалізаваць сабою нетрываласць глебы, што жывіла Жлукту, страціла тыя рамкі, якімі яно абмяжоўвалася ў жыцці, і пачало здавацца, што ланцужок жлуктаўскіх прыяцеляў, які на самай справе абрываўся блізка ад аферыста, цягнецца кудысьці далёка.

У камедыі ніхто актыўна не вядзе наступу на носьбіта зла, хоць тут і ёсць яго антыподы. Такім антыподам аферыста, напрыклад, выступае Язва. Але ён іграе ў п'есе не зусім звычайную ролю. Язва як бы ў ходзе самога сцэнічнага дзеяння стварае гэтую камедыю. З гэтай прычыны ён знаходзіцца ў нейкіх своеасаблівых дачыненнях да другіх персанажаў і перад ім паўстаюць дадатковыя задачы. Ён упэўнена дзейнічае сярод сваіх будучых несамавітых герояў, кпіць, жартуе, вывучае, але... кіруючыся прафесійнымі меркаваннямі, амаль не ўмешваецца ў падзеі, хоць і бачыць сваё прызначэнне ў тым, каб ахоўваць чыстату душы савецкіх людзей, каб узнімаць іх чалавечую годнасць. У імя будучай уласнай п'есы Язва толькі назірае і занатоўвае падзеі ў кніжачку, але ведаючы, што Жлукта прайдзісвет і злачынца, марудзіць з яго выкрыццём і нават не абяззбройвае жлуктаўшчыну духоўна.

У выніку вобраз Язвы раздвойваецца, і Язва, які сам-насам або ў размовах з небаракам Праменным — яго сябрам, бязлітасна кляйміць і ганьбуе Жлукту, сам ахвяруе агульнымі інтарэсамі (выкрыццё Жлукты) ва ўгоду сваім інтарэсам (напісанне п'есы) — г. зн. робіць тое, супроць чаго збіраецца выступіць.

Што паводле замыслу драматурга павінна было рухаць дзеянне ў камедыі?

Драматычны канфлікт усёй п'есы драматург намерваўся пабудаваць на барацьбе антаганістычных сіл: творчай,— увасобленай у Язве, і згубнай,— увасобленай у Жлукце. А паколькі аўтар і персанаж цалкам зліваліся ў вобразе Язвы толькі ў пачатку п'есы (выпадак з ваенным білетам Жлукты) і ў канцы яе (грамадскае выкрыццё Жлукты), дзе барацьба з'яўляецца непасрэднай і відавочнай, у астатніх мясцінах камедыі яна павінна была б праяўляцца, як барацьба за ўплыў на ходу падзей. Але гэтай барацьбы не атрымалася. І калі, напрыклад, Жлукта сапраўды атрымлівае асалоду, калі яму ўдаецца разбэсціць чалавека (адносіны да Канягіна) або зганьбіць яго (адносіны да Аляксандры Міхайлаўны), Язва стрымлівае сябе ад праяўлення сваіх адносін да навакольнага. Староннi назіральнік, калі ён чаму-небудзь сапраўды і радуецца, дык толькі ў прадбачанні новага сюжэтнага ходу або арыгінальнай развязкі. Жлукта дзейнічаў. Язва ж толькі збіраўся, няхай нават і рыхтаваўся, уступіць з ім у змаганне.

Не змяніў карціны і фінал. Будуючы канфлікт на барацьбе жыццёвых прынцыпаў Жлукты і Язвы, драматург пры развязцы нечакана ўвёў трэцюю сілу — Бывалава, з'яўленне якога патрабавала жыццёвая праўда, але якое не вымушалася ні развіццём сюжэта, ні ідэйнай накіраванасцю твора. Не ўключаны арганічна ў сюжэтную тканіну вобраз Бывалага не мог удацца драматургу, а жаданне вуснамі адказнага працаўніка вынесці дзяржаўны прысуд Жлукце не магло быць з поспехам рэалізавана, і прысуд прагучаў непераканаўча. Штучнасць абставін, у якія быў пастаўлены Бывалаў, таксама не дала мажлівасці пісьменніку знайсці звычайныя для драматычных твораў Крапівы трапныя суадносіны паміж інтэлектам персанажа і яго паводзінамі, і Бывалаў атрымаўся надзіва непрадбачлівым. У выніку пісьменніку не ўдалося паспяхова завяршыць і канфлікт.

Барацьба за ідэальнага чалавека, безумоўна, не выключае неабходнасці самай рашучай барацьбы з перажыткамі ўчарашняга дня ў свядомасці і побыце нашых людзей. Наадварот, яна патрабуе ад пісьменнікаў паказваць людзям, якімі яны не павінны быць. І сацыя-

лістычны рэалізм прадастаўляе мастакам слова ў гэтых адносінах шырокія магчымасці. Праўда, уменне бачыць рэчаіснасць у яе рэвалюцыйным развіцці і мець на мэце не толькі цёмныя праявы старога, таго, што адыходзіць у нябыт, але і рэальныя сілы, якія будуюць новы свет,— важнейшае патрабаванне сацыялістычнага рэалізму. Станоўчае ў жыцці хоць і не з'яўляецца ў дадзеным выпадку прадметам паказу, але застаецца яго мэтаю і павінна абуджаць у чытача або гледача ўяўленне аб ідэальным. Пры дапушчаных праліках камедыя «Мілы чалавек» не магла прэтэндаваць на поспех, які выпаў на долю «Хто смяецца апошнім». Дый наіўна ўяўляць сабе лінію пісьменніцкага росту як ідэальна прамую, якая імкне ўгору. Часам, нават часта, наступны твор пісьменніка нясе ў сабе адзнакі не толькі ягоных новых здабыткаў, але і страт. Поспехі і няўдачы тут, бадай, непазбежныя.

## VI

Творчасць беларускіх драматургаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і ў першыя пасляваенныя гады разгортвалася ў трох кірунках: стварэнне п'ес на сучасныя тэмы і ў першую чаргу непасрэдна або ўскосна звязаных з вайной; па-другое,— п'ес, у якіх падаваліся найбольш гераічныя падзеі і слаўныя дзеячы мінулага, і, нарэшце,— п'ес, напісаных на матэрыяле фальклору і паводле яго матываў.

Да твораў, у якіх мастацкі абагульняўся вопыт вайны і раскрывалася сутнасць маральнага подзвігу савецкага чалавека на фронце і ў тыле ворага, адносяцца п'есы«Проба агнём» (1943 г.) і «З народам» (1948 г.) К. Крапівы, драмы «Заложнікі» (1945 г.) і «Гэта было ў Мінску» (1949 г.) А. Кучара, п'есы «Палешукі» (1942 г.) і «Таварыш Андрэй» (1943 г.) Я. Рамановіча, «Цэнтральны ход» (1947 г.) К. Губарэвіча і І. Дорскага, «Канстанцін Заслонаў» (1948 г.) А. Маўзона, лібрэта опер «Алеся» (1944 г.) П. Броўкі і «Андрэй Касценя» (1948 г.) П. Глебкі і інш.

Праўда, адны з гэтых твораў, як «Таварыш Андрэй» і «Палешукі» Я. Рамановіча, будучы нізкімі па сваіх ідэйна-мастацкіх якасцях, не вытрымалі выпрабавання часам. Другія, як, напрыклад, «Заложнікі» А. Кучара, у якіх, побач з каштоўным, добрым, меліся

надуманыя вобразы і памылковыя сцверджанні, выклікалі пярэчанні грамадскасці і неўзабаве сышлі са сцэны. Але лепшыя з гэтых твораў, такія, як «З народам» К. Крапівы, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона, «Гэта было ў Мінску» А. Кучара, увайшлі ў савецкую драматургію як мастацкія сведчанні спраў і духоўнай велічы беларускага народа, яго слаўных сыноў. Выхоўваючы ў савецкіх людзях камуністычную свядомасць і развіваючы высокія пачуцці, гэтыя творы адначасна выкрываюць чалавеканенавісніцкую прыроду фашызму, маразм і разлажэнне ўсіх, хто так або інакш звязаў з ім свой лёс.

У драме «Канстанцін Заслонаў» выведзена цэлая галерэя мужных і сціплых савецкіх людзей, да канца адданых роднай партыі: па-юнацку няўрымслівы, бясстрашны Аксаніч, заўсёды спакойны, вытрыманы слесар Крушына, вясёлы жартаўнік, аматар на розныя штукі Кропля, крыштальна чыстая ў сваім каханні Аня. І вартасць п'есы перш за ўсё ў тым, што яна прасякнута высокім пачуццём патрыятызму, што ў ёй створаны гэтыя яркія, запамінальныя вобразы рабочых-падпольшчыкаў. Але найбольшым дасягненнем драматурга з'яўляецца вобраз галоўнага героя драмы — цяпер ужо легендарнага Заслонава, чалавека высокіх страсцей і дум, самаахвярнага ў сваёй любві да радзімы. Ён захапляе, кліча на высакародныя справы, па ім хочацца праўляраць сябе.

Як і «Канстанцін Заслонаў», драма А. Кучара «Гэта было ў Мінску» пабудавана на фактах і калізіях, узятых непасрэдна з жыцця. Гэта — твор аб слаўных мінскіх падпольшчыках, я сказаў бы, аб вянцы іхняй гераічнай барацьбы — пакаранні гітлераўскага гаўляйтэра Беларусі, які бязлітасна ажыццяўляў чалавеканенавісніцкі план знішчэння беларускага народа.

Дзеянне тут пастаўлена на лязо нажа, характары раскрываюцца праз востра драматычныя сутыкненні і самыя нечаканыя павароты ў лёсе дзейных асоб, намаляваных буйнымі мазкамі.

Натуральна, што ў грозныя дні змагання і перамог, якія вылучалі беларускую рэспубліку ў першыя рады змагароў за вызваленне чалавецтва ад фашысцкай навалы, узрасла цікавасць драматургаў да гістарычнай тэматыкі, да слаўнага і багатага мінулага свайго свабодалюбівага народа. Асабліва плённа ў гэтай галіне

працаваў М. Клімковіч. Яго драматызаваная паэма «Адплата» (1944 г.), лібрэта оперы «Кастусь Каліноўскі» (1945 г.) і трылогія «Георгі Скарына» (1945—1949 гг.) уяўляюць значную цікавасць. Вострая інтрыга, яркія вобразы, маляўнічыя сцэны, наяўнасць спецыфічнай атмасферы і каларыту эпохі, якія адчуваюцца ў падзеях, паводзінах герояў, мове,— характэрныя для твораў М. Клімковіча. Глыбокае веданне гісторыі дазволіла драматургу пераканаўча перадаць эканамічныя, сацыяльныя і прававыя асаблівасці эпохі, паказаць побыт розных сацыяльных груп, іх месца ў гістарычным развіцці краіны, ідэі, якія хвалявалі народ і яго лепшых сыноў.

В. Вольскі, вядомы раней як аўтар п'есы-казкі «Цудоўная дудка» (1938 г.) і камедыі «Несцерка» (1940 г.), апублікаваў у 1946 годзе новую драму «Машэка». Драма была натуральным працягам работы драматурга над апрацоўкай беларускага фальклору. У аснову яе В. Вольскі паклаў не фантастычную легенду ці бытавую казку, як у першых двух творах, а народнае паданне пра Машэку, выкарыстанае ў свой час Я. Купалам у паэме «Магіла льва». Драматург даволі ўдала спалучыў рамантычную ўмоўнасць падання з рэальнымі рысамі гісторыі і па-свойму раскрыў яго. Ідэю неўміручасці народа, яго доблесці і вальналюбства ён зрабіў галоўнай ідэяй твора. Не ацэньваючы самога факта своеасаблівай трактоўкі народнага падання і, у прыватнасці, вобраза Машэкі трэба ўсё ж адзначыць, што драматург залішне «асучасніў» падзеі, сацыялагізаваў іх. Заслуга В. Вольскага заключаецца ў тым, што ён аднавіў у нашым тэатры традыцыю народнага спектакля-відовішча і ўзбагаціў беларускую драматургію здабыткамі народнай творчасці.

Гэта быў даволі плённы перыяд у развіцці беларускай драматургіі. І асабліва важным было тое, што драматургія, як асобная галіна нацыянальнай літаратуры, упершыню атрымала свае пэўныя і сталыя кадры пісьменнікаў-прафесіяналаў, якія раней прыцягваліся драматургіяй з сумежных галін — паэзіі і прозы (Я. Колас, Зм. Бядуля, К. Чорны, П. Глебка — «Над Бярозай-ракой», Э. Самуйлёнак — «Сержант Дроб» і «Пагібель воўка»). Але аб'ектыўнасць патрабуе адзначыць, што гэты рост быў усё-такі хутчэй колькасны, чым якасны, і большасць п'ес, напісаных па гарачых

слядах падзей, знаходзіцца недзе толькі на подступах да вырашэння тэмы.

П'еса «Проба агнём» паводле сваёй праблематыкі, жанру, фармальных прыёмаў найбольш блізка стаіць да п'есы «Канец дружбы». Гэта — твор аб тым, як у агні Айчыннай вайны выпрабоўваліся самыя прыгожыя пачуцці савецкіх людзей — дружба, каханне, любоў да радзімы, як у гэтым змаганні чалавек пазнаваў сябе і перад ім і для яго раскрывалася самае важнае.

Чытач і глядач нават і па драматургіі ведалі К. Крапіву як сатырыка па-шчадрынску суровага, які звычайна вельмі балюча караў смехам. У п'есе «Проба агнём» ён, як раней часткова ў «Канцы дружбы», з'явіўся зусім у новым святле. Ён давёў, што можа глыбока разумець і адчуваць думкі і пачуцці людзей новай прыроды, можа пад знешняй чэрствасцю заўважыць душэўную чыстату і прывабнасць чалавека-змагара.

Дзейныя асобы п'есы — Наталля, яе муж маёр Караневіч, лейтэнант Перагуд — людзі тонкага душэўнага складу, чэсныя і мужныя, з моцна развітым пачуццём таварыства і грамадскага абавязку. Іх асабістыя пакуты і бедствы вынікаюць з таго, што яны кепска разумеюць сябе і адзін другога. Вялікі сэнс змагання, удзельнікамі якога яны былі, як бы адкрывае ім вочы. Іх духоўнае абнаўленне — не перараджэнне, а проста — вызваленне ад выпадковага, неўласцівага, неістотнага. У раўнівага, замкнёнага Караневіча аказваецца добрае, чулае сэрца. На першы погляд эгаістычны і самалюбівы, як хлапчук, Перагуд на самай справе — вельмі добры сябра і адважны воін.

«Я толькі ўчора ад яго (мужа.— Ул. К.) пісьмо атрымала,— расказвае Наталля.— Яно мяне ўсхвалявала і ўзрадавала. Тут ён сапраўды такі, аб якім я некалі марыла, якім угадвала пры першых нашых сустрэчах. Ён лепшы, чым пра яго думаюць, чым думала я».

І гэта так...

Асаблівым душэўным багаццем і чыстатой вызначаецца Наталля — жанчына з узвышана-рамантычным успрыняццем рэчаіснасці. Яе адносіны да навакольных поўныя сяброўства, такту. Яна ўмее моцна, па-сапраўднаму сябраваць і кахаць. Але... каханне не

можа для Наталлі быць адзіным сэнсам жыцця: з разуменнея свайго абавязку перад другімі ў ёй нараджаецца ўсёперамагаючае імкненне да практычнай дзейнасці і самастойнасці. Жанчына з развітым пачуццём чалавечай годнасці і гонару, Наталля не можа пагадзіцца на тым, каб жыць чужым водбліскам, нават водбліскам любімага мужа. Яна марыць аб сваім, хаця невялікім, але сваім месцы ў жыцці і глыбока шчаслівая тым, што змагла быць карыснай, хоць крыху аблягчыць цяжар, які лёг на плечы людзей у вайне. Наталля шукае меру гарманічнага спалучэння паміж сваёй адданасцю-каханнем да мужа і імкненнем да ўласнай самастойнасці. Праўда, аўтар не дазволіў Наталлі знайсці гэтую меру ці адмовіцца ад яе пошукаў — заўчасная смерць Караневіча зняла канфлікт — аднак і не давяршоны ў мастацкіх адносінах вобраз Наталлі, авеяны цеплынёй і лірызмам, з'яўляецца адным з цікавых жаночых вобразаў у сучаснай беларускай драматургіі.

Супярэчнасці, што ўзніклі ў душы Наталлі, не антаганістычныя.

«Калі нам суджана жыць разам,— піша да яе ў лісце Караневіч,— мы будзем жыць так, каб жыццё было для нас радасцю, а не цяжарам». І верыцца, што надзея Караневіча мае рацыю, бо людзі, здатныя на такія ратныя подзвігі і самаахвярнасць, пазнаўшы ў змаганні сябе і другіх, здолеюць па-новаму пабудаваць свае ўзаемаадносіны. Знамянальна, што калі ў «Канцы дружбы» драматычны канфлікт адначасова быў і сацыяльна-палітычным, прычым больш вонкавым, чым унутраным, то ў «Пробе агнём» ён з'яўляецца выключна канфліктам пачуццяў і характараў. Такая пабудова драмы была вынікам аўтарскага ўсведамлення, што ў нашым бяскласавым грамадстве характар супярэчнасцей паміж людзьмі змяніўся.

Вось што пісаў аб гэтым сам К. Крапіва:

«Перад нашымі савецкімі драматургамі паўстаюць праблемы, якія вынікаюць з таго, што мы жывём у бяскласавым грамадстве. Класы старога капіталістычнага грамадства адышлі ў нябыт. Разам з імі адышлі ў нябыт і класавыя супярэчнасці, якія ў мастацтве былі прычынай бясконцых канфліктаў і драматычных калізій. Яны і жывілі драматургію мінулага. У гэтым мы лёгка пераканаемся, калі звернемся да лепшых

узораў рускай і сусветнай драматургіі. А мы, апынуўшыся ў бяскласавым грамадстве, сталі перад пытаннем — на чым нам будаваць свае п'есы? Старыя, пратаптаныя класікамі драматургіі, сцежкі для нас ужо не падыходзяць. Новае жыццё не ўкладваецца ў старыя схемы. А між тым, без супярэчнасцей, без сутычак інтарэсаў дзеючых асоб драматургія не можа існаваць. Без гэтага можна напісаць нарыс, аповесць, лірычны верш, але п'есы без канфлікту я сабе не ўяўляю».

Наколькі хвалявала К. Крапіву праблема канфлікту ў творах на сучасную тэму, сведчыць хоць бы тое, што да гэтага ён звяртаўся і звяртаецца кожны раз, як толькі кранаецца пытання драматургіі.

«Некаторыя крытыкі і драматургі,— зноў піша ён тры гады пасля,— сцвярджалі, што канфлікт, як і іншыя каноны драматургіі — гэта выдумка фармалістаў, што для савецкай п'есы ён зусім непатрэбны. Гэта грубая памылка. Канфлікт быў і ёсць неабходнай умовай драматургічнага жанру. Гэта адзіны сродак у драматурга паставіць людзей у такія ўзаемаадносіны, пры якіх яны з найбольшай паўнатой раскрываюць свае якасці. Канфлікт, які вымагае напружання ўсіх сіл героя, найлепш служыць раскрыццю вобраза.

Цяжкасць тут заключаецца ў тым, што, вучачыся ў класікаў, мы не можам запазычыць у іх гатовыя канфлікты. Канфлікты класічнай драматургіі — гэта для нас пройдзены этап. Усе яны ў сваёй аснове маюць супярэчнасці класавага грамадства. А мы жывём у бяскласавым грамадстве, у нас няма антаганізму паміж асобнымі групамі і слаямі насельніцтва, прырода нашых канфліктаў зусім іншая, яны не так рэзка вылучаюцца, па-іншаму развіваюцца і вырашаюцца. Трэба пільна ўглядацца ў жыццё, каб іх заўважыць і знайсці правільнае іх вырашэнне».

Роздум і творчыя пошукі прывялі драматурга ў п'есе «Проба агнём» да канфлікту пачуццяў і характараў, у якім у своеасаблівай форме знаходзіла сваё праяўленне барацьба старога з новым, адсталага і перадавым.

За ўзаемадачыненні, вартыя нашага часу, змагаўся Крапіва ў п'есе і, малюючы вайну, думаў аб людзях, якія будуць жыць пасля перамогі.

Пры разглядзе п'есы «Канец дружбы» я звяртаў увагу на глыбіню псіхалагічнага аналізу вобразаў, створаных Крапівой. Гэта яшчэ больш выразна выявілася пры абмалёўцы персанажаў «Пробы агнём». Душэўнае жыццё Караневіча яшчэ больш багатае, супярэчлівае і разнастайнае, чым у Карнейчыка ці Люцынскага. Караневіч ведае прыгожыя ўзлёты, яму ўласцівы тонкія душэўныя рухі, і ў той жа час яго могуць апанаваць грубыя эгаістычныя жаданні, у ім іншы раз абуджаецца звер. Верны жыццёвай праўдзе, Крапіва не хавае хібаў і слабых бакоў у характары дадатнага героя. Мужны воін, валявы камандзір, чалавек з палымяным сэрцам, Караневіч у прыпадку рэўнасці можа быць яўна несправядлівым. У гневе на жонку ён хапаецца за кабуру рэвальвера, незаслужана абражае Перагуда, дапускае памылкі ў кіраўніцтве разведкай, боем. Але поруч з гэтым — што вельмі важна — Крапіва падкрэслівае істотнае, тое, што вызначае яго грамадскую вартасць, умее зірнуць на чалавека з пункту гледжання будучага. Таму станоўчыя героі Крапівы хвалююць нас і клічуць за сабою.

Аднак адкрытая канцоўка, перагружанасць пазасюжэтнымі вобразамі, несуразмернасць маштабаў унутранай драмы, што перажываюць дзейныя асобы, маштабам падзей, на фоне якіх адбываецца дзеянне ў творы, робяць п'есу маласцэнічнай.

Мастацкая каштоўнасць «Пробы агнём» у трох вобразах, аб якіх гаварылася вышэй, у незвычайным па майстэрству дыялагу, натуральным, змястоўным, перасыпаным дасціпнымі жартамі. Узросшае на байках, адшліфаванае на празаічных апавядальных творах, майстэрства дыялагу тут дасягнула вышэйшай сваёй ступені.

Яшчэ ў ранніх сатырах і байках Кандрат Крапіва горача і страсна выступаў супроць усяго, што зводзіла літаратуру і мастацтва з шырокіх і ясных шляхоў рэалізму і высокай ідэйнасці. Ён непрымірыма ставіўся да ўсіх і ўсякіх праяў эстэцтва і фармалізму і вёў змаганне за народнасць, ідэйную чысціню і дзейснасць літаратуры. Ён стаяў за новы тып пісьменніка — працаўніка і грамадзяніна, адданага народу і высокім мэтам камунізма. Таму ён бязлітасна бічаваў нацыяналістычныя захапленні некаторых пісьменнікаў, адарванасць ад грамадскага жыцця, апалітычнасць,

абураўся групаўшчынай і беспрынцыпнасцю некаторых крытыкаў («Каршун і цецярук» — 1926 г., «Шчыры поп» — 1926 г., «Стары і Малады» — 1927 г. і інш.). Ён высмейваў паэтаў, што хварэюць на перайманне і трапляюць у палон упадніцкіх матываў і настрояў («Мода» — 1926 г., «Зубы» — 1927 г. і інш.).

У драме «З народам» К. Крапіва на матэрыяле Вялікай Айчыннай вайны зноў узняў праблему мастацтва і жыцця, мастака і народа, скіраваўшы адначасова ўвагу, як і ў п'есе «Проба агнём», на паказ фармавання і гартавання пачуццяў савецкіх людзей у вайне. Як і ў «Пробе агнём», ён зыходзіў з таго, што Айчынная вайна стала вялікім экзаменам для кожнага чалавека — цяжкім, але свяшчэнным выпрабаваннем яго сумлення і таленту. Больш таго, драматург сцвярджае, што, вызначаючы вартасць людзей, вайна з'яўляецца і праверкай ісціннасці іх поглядаў на рэчы і, у прыватнасці, на ролю і прызначэнне мастацтва, на ролю і месца мастака. Прасочваючы лёс сваіх герояў, К. Крапіва прыходзіць да вываду, што сапраўды сумленны і таленавіты чалавек вытрымлівае выпрабаванні з гонарам, як вытрымліваюць і яго перакананні, і выходзіць з выпрабаванняў нават узбагачаным і прасветленым. І ў гэтых адносінах драма «З народам» як бы працягвае і развівае ідэю п'есы «Проба агнём». Але ў той жа час, у адрозненне ад апошняй, драма нясе ў сабе і другую, не менш значную ідэю, выказаную ў загалоўку: усё сапраўды сумленнае і таленавітае заўсёды — і ў радасці і ў горы — непарыўна звязана з народам, і народ як бы ва ўдзячнасці дае гэтаму сумленнаму і адоранаму сілу і трываласць. У драме «З народам» К. Крапіва завяршае таксама і лінію выкрыцця буржуазных нацыяналістаў, якая прайшла праз многія байкі, сатыры, раман «Мядзведзічы» і п'есу «Канец дружбы».

Аб партыйнасці мастацтва, аб шляхах інтэлігенцыі ў вайне і яе роля ў жыцці і змаганні савецкага народа апавядае драма.

Вобраз станоўчага героя К. Крапівы ніколі не быў малазначным па ідэйным змесце. Яго станоўчы герой звычайна — носьбіт вялікай, грамадска значнай ідэі, разумовыя і душэўныя сілы яго ідуць на абарону ці пошукі сапраўды вялікіх ісцін. І таму, будучы ў некаторых адносінах нават чалавекам выключным, не

зусім звычайным, ён успрымаецца як тыповае ўвасабленне самага звычайнага і радавога. Да такой катэгорыі герояў К. Крапівы адносіцца і Гудовіч — герой драмы «З народам» — таленавіты кампазітар, які мэтаю і сэнсам усяго жыцця і творчасці зрабіў высокае служэнне народу.

Усведамленне свайго абавязку перад радзімай і дзяржавай, якое вынікае з усведамлення сябе як савецкага чалавека, рухае Гудовічам у яго творчасці. Вера ва ўсемагутнасць і вялікасць ленінскіх ідэй напаўняе яго душу аптымізмам і дае яму не толькі магчымасць чэрпаць сваё натхненне з сацыялістычнай рэчаіснасці, але і выкрываць носьбітаў так званага «чыстага мастацтва», якія на раптоўных паваротах гісторыі асабліва яскрава выяўляюць сваю гнілую і нізкую існасць.

Значэнне драмы «З народам» для беларускай драматургіі, апрача ўсяго, заключаецца ў тым, што яна ў мастацкай форме бараніла партыйнасць літаратуры і наносіла ўдар па тэорыі «мастацтва для мастацтва», па апалітычнасці і безыдэйнасці ў мастацтве.

## VII

Я ўжо казаў, што Кандрат Крапіва звычайна ўяўляецца як суровы сатырык, сэнсам і зместам творчасці якога з'яўляецца выкрыццё старога і хібнага ў рэчаіснасці, які, балюча караючы смехам людскія слабасці і заганы, бачыць прызначэнне сваёй творчасці ў барацьбе з перажыткамі мінулага. У гэтым, безумоўна, ёсць праўда. Але відавочным з'яўляецца і іншае: гэтая праўда не ўсеабдымная. Больш таго, яна засланяе сапраўдную прыроду і накіраванасць творчасці драматурга. Справа ў тым, што пафас не адмаўлення, а сцверджання з'яўляецца пафасам яго камедый і драм. Пошукі новага, таго, што народжана ў чалавеку сацыялізмам у працэсе яго будаўніцтва і барацьбы за яго, складаюць сутнасць творчасці К. Крапівы. Як мы ўжо бачылі, у п'есе «Канец дружбы» свае творчыя намаганні ён накіраваў на тое, каб раскрыць, на чым грунтуюцца сімпатыі і антыпатыі савецкіх людзей, на тое, каб паказаць, што вызначае лінію паводзін, раскрыць новую прыроду савецкіх людзей. Нават і тады, калі Крапіва бязлітасны ў сваім адмаўленні, ён

часта прасочвае з'яву да яе пераўтварэння ў сваю процілегласць. Герой камедыі «Хто смяецца апошнім» сімвалізуе сабою не толькі канец дробных бязвольных баязліўцаў, але і нараджэнне чалавека з развітым пачуццём уласнага гонару, сумленнага і адкрытага. У п'есах «Проба агнём» і «З народам» драматург галоўную сваю ўвагу засяродзіў на паказе высокіх духоўных і інтэлектуальных здабыткаў савецкіх людзей, іх якасцей, што праявіліся ў гады вайны і загартаваліся ў агні гэтай вайны.

І ўсё-такі ў п'есе «Пяюць жаваранкі», на маю думку, драматург больш паэтычна і паслядоўна раскрывае тыя зрухі, якія адбыліся і адбываюцца ў нашым грамадстве, у свядомасці нашых людзей. Справа ў тым, што ў «Канцы дружбы» ўзнятыя праблемы вырашаюцца крыху дэкларацыйна. У «Пробе агнём» і «З народам» ідэя арганічна вынікае з хады падзей, але затое п'есам не стае той адпаведнасці паміж агульным і прыватным, якая надае твору паўнакроўнасць і значнасць. Праўда, і ў п'есе «Пяюць жаваранкі» часам адчуваецца нейкая аблегчанасць і можна сустрэць умоўнасці, якія залішне напамінаюць, што дзея адбываецца на сцэне, але агульная плынь п'есы натуральная, тут арганічна зліліся агульнае і прыватнае, і, што асабліва важна, п'еса сагрэта пачуццём новага.

П'еса пачынаецца святочнай раніцай. Абстаноўка ў хаце калгасніцы Аўдоцці Вярбіцкай і настрой, які пануе ў ёй, бадай, знаёмы аж з дзяцінства: невялікі пакой, руская печ, дзверы ў бакоўку, стол, засланы абрусам.

За вокнамі сакавік. Праз вокны льюцца прамені сонца. Каля печы ўвіхаецца маці — пячэ блінцы. Дачка Вярбіцкай Насця збіраецца на работу... Адчуванне «знаёмасці» ўзмацняецца яшчэ больш, калі адна з сяброўак Насці дэкламуе з Коласа:

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне...

Але вось сакрэт мастака: у той жа час тут усё сучаснае. Яно не толькі ў знешніх атрыбутах: Насця — агратэхнік; яна разам з іншымі калгаснікамі збіраецца ісці церабіць хмызняк, бо лабараторыя яе яшчэ не абсталявана, а зямлю хутка пусціць і тады хмызняк, які расце ў лагчыне, залье вада. Гэтае сучаснае заў-

важаецца ў беражных, высокіх у сваёй прастаце адносінах маці і дачкі, у адчуванні дачкой уласнай годнасці, яе спакойнай упэўненасці ў заўтрашнім дні. Яно ўгадваецца ў жыцці, якое ідзе недзе па-за сцэнай і якое даходзіць сюды, у хату калгасніцы, праз размовы дзейных асоб. Яно адчуваецца ў самім жыццярадасным, дасціпным дыялагу, у самім ладзе мовы персанажаў — прадстаўнікоў калгаснай вёскі.

Канчаецца п'еса вяселлем з традыцыйнымі песнямі, з сватам, перавязаным вышываным ручніком, з традыцыйным караваем. І зноў (за выключэннем асобных дэталяў) абстаноўка знаёма нам з мінулага. Пасярэдзіне хаты — бяседны стол, устаўлены пітвом і ежай. За сталом вясельныя госці: на адным баку Насця і ўся яе дружына, на другім — малады са сваёй дружынай. Насця ў белым плацці. На грудзях яе ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга і букецік кветак. У маладога ў пятліцы таксама букецік белых кветак. Госці крыху падпілі, і ў хаце стаіць вясёлы гул. Гарманіст іграе вясельную песню... К. Крапіва любіць і ведае народныя звычаі. З рытуалам сватаўства мы сустракаліся яшчэ ў драме «Партызаны».

Але ўсё гэта ў п'есе «Пяюць жаваранкі» ў той жа час новае. Яно ў настроі, якім жывуць госці і маладыя, у вясельных песнях-імправізацыях. Яно ў пажаданнях шчасця-долі маладым, у высокім разуменні Аўдоццяй Вярбіцкай свайго абавязку маці, у натуральных, заснаваных на ўзаемнай павазе, адносінах маладых, у матывах, якімі кіруюцца ў сваіх паводзінах і ўчынках героі п'есы.

Тут няма вытворчага і асабовага канфліктаў, якія б, паводле няпісанага, але шмат кім прынятага закону, развіваліся паралельна, у асобных месцах перакрыжоўваліся і ў лепшых выпадках узмацнялі адзін аднаго. Тут вытворчы канфлікт з'яўляецца асабовым, а асабовы паглыбляецца на вытворчай глебе. Супярэчнасці паміж Насцяй і Міколам, Туміловічам і Пытляваным — героямі п'есы — узнікаюць таму і тады, калі высвятляецца, што ў іх розныя характары, розныя імкненні, свая адметная практыка, свае погляды на шляхі, па якіх павінна ісці жыццё. Насця не можа патураць хоць і каханаму, але залішне самаўпэўненаму, заспакоенаму на дасягнутым чалавеку, які прымірыўся з адсталасцю і бесперспектыўнасцю

таго, што робіць. Яна не можа пайсці ў калгас, дзе дабрабыт калгасніка будуецца за кошт грамадскай гаспадаркі, бо там ёй прыйшлося б адмовіцца ад сябе, рабіць, што не міла, пахаваць свае планы. Ёй не дазваляе гэта зрабіць уласная гордасць, адданасць роднаму калгасу, дзе клопаты аб сапраўдным людскім шчасці хвалююць усіх блізкіх. Так перад Насцяй узнікае дылема: або прымусіць любага ўзяцца за ажыццяўленне таго, аб чым некалі на курсах прысягалі адно аднаму, або дамагчыся, каб раскатурхаць, перайначыць Міколу, выкрыць старшыню яго калгаса Пытляванага — чалавека кансерватыўнага, але памылкова залічанага ў лік лепшых калгасных кіраўнікоў вобласці. Так барацьба за будучае сямейнае шчасце робіцца барацьбой за людзей, за высокую праўду. Так тыя, што кахаюць адно аднаго, трапляюць у розныя лагеры.

«Бывае ж так,— тлумачыць любаму матывы сваіх паводзін Насця,— што і блізкага чалавека кладуць пад нож. Ды яшчэ просяць дактароў, каб хутчэй яго рэзалі...»

Найбольш поўна выпісаны ў п'есе вобразы Насці Вярбіцкай і Пытляванага. Са старонак твора паўстае светлы вобраз валявой, прынцыповай дзяўчыны. Праца для Насці — радасць, яна і пагуляць у ахвоту можа толькі пасля работы. Поспех калгаса — яе поспех, перамога калгаса — яе перамога. Ёй чужая і варожая ўсякая коснасць. На адну, вельмі характэрную заўвагу Пытляванага — «Ды так яно вядзецца спрадвеку» — яна адказвае: «Спрадвеку сацыялізма не было, а мы яго збудавалі». І тут — уся Насця. Довады яе арыгінальныя, ідуць ад сэрца. І міжвольна пачынаеш бачыць сапраўдныя прычыны таго, што спачатку здавалася дзявочым дзівацтвам і свавольствам.

Ярка выпісаны і вобраз Пытляванага — гаспадарлівага, упартага, асепленага ўяўнымі поспехамі старога. Пытляваны лічыць адзіным паказчыкам, які характарызуе калгас,— меру таго, што атрымаў і спажыў калгаснік. «Працадзень — вось факт. Калі чалавек атрымаў сто дваццаць пудоў збожжа ды на кніжцы ляжыць тысяч дзесяць, дык тут адразу відаць, які калгас і які калгаснік» — вось уся яго нямудрая філасофія, якой ён кіруецца. Калгас «Новая ніва»,

дзе ён старшыня, першым у вобласці асвоіў даваенную пасяўную плошчу. Але пазбаўлены моцнай грамадскай базы, ён аказаўся няздольным рухацца наперад. Уяўляючы шчасце як матэрыяльны дастатак, звужана разумеючы асабістыя інтарэсы калгаснікаў і гэтым, вядома, недаацэньваючы іх, Пытляваны не клапаціўся ні аб умацаванні калгаса, ні аб узняцці культурнага ўзроўню вёскі. Месніцтва моцна трымала яго ў абцугах, дазваляла нажывацца за кошт другіх, засланяла заўтрашні дзень. Круты, дэспатычны, самаўлюбёны, ён ганарыцца неіснуючымі дасягненнямі, штучна раздувае іх, марыць аб славе. І толькі крытыка — вялікая рухаючая сіла нашых дзён — ратуе Пытляванага. Але і крытыку спачатку ён успрымае па-свойму — фармальна, бо для яго важна праформа. «Тут жа, мусіць, трэба памылкі прызнаваць?» — пытаецца ён на нарадзе ў абкоме партыі.

Пытляванаму ў п'есе супрацьпастаўлены старшыня другога калгаса Туміловіч — чалавек з шырокімі поглядамі на жыццё, які вядзе гаспадарку з заўсёдным прыцэлам на будучыню. Але, на жаль, Туміловіч павернуты да чытача толькі адной-дзвюма гранямі свайго характару і жыве ў п'есе перш за ўсё як ідэйны праціўнік Пытляванага. Яго чалавечыя якасці не выяўлены. Тое ж трэба сказаць пра некаторыя іншыя вобразы, якія выступаюць перад чытачом толькі ў сваёй службовай, рабочай ролі.

Сіла п'есы «Пяюць жаваранкі» ў карцінах народнага жыцця, у той атмасферы, якой ахінуты падзеі п'есы, у маляўнічасці жыццёвага матэрыялу, у карыснай ідэі, якую паслядоўна і пераканаўча развівае і сцвярджае драматург, у добра пададзеных вобразах Насці і Пытляванага. А галоўнае, у тым, што К. Крапіва хораша паказаў, як пераможна сацыялізм уваходзіць у быт людзей і робіцца нормаю іх паводзін.

Некамедыйны сюжэт п'есы спалучаецца з гумарыстычным струменем твора. Вясёлым жартам, трапным слаўцом, паказам смешнага здарэння Кандрат Крапіва стварае светлы і жыццярадасны настрой, які як бы знамянуе сабою непазбежную і натуральную перамогу новага. Гумар драматурга народны па прыродзе і сутнасці, ён увабраў у сябе бадзёрасць, невычэрпны аптымізм народа, яго весялосць, любоў да шматсэнсоўнага, дасціпнага жарту. Яго прызначэнне

надзвычай важнае: не толькі выклікаць камічны эфект, а і павялічыць дзейснасць мастацкага слова Смех і тут — тая цудоўная дзейная асоба, пра якую гаварыў Гогаль.

П'еса «Пяюць жаваранкі» таксама адзначана Дзяржаўнай прэміяй.

Кандрат Крапіва — пісьменнік-наватар. Драма «Партызаны» паставіла яго на чале беларускай драматургіі і, узбагачаючы яе сваімі таленавітымі творамі, у першую чаргу, такімі, як «Хто смяецца апошнім», ён адначасова адкрываў і пракладаў шляхі да яе росквіту. Сваёй творчай практыкай К. Крапіва шмат зрабіў для вырашэння найважнейшай праблемы драматургіі сацыялістычнага рэалізму — стварэння вобраза станоўчага героя, новага па сваёй прыродзе. Пазнанне заканамернасцей у развіцці савецкага грамадства дазволіла яму адкрываць новыя драматургічныя канфлікты, спалучэнне наватарства з захаваннем лепшых традыцый мінулага — знаходзіць высокамастацкую нацыянальную форму для выяўлення сацыялістычных ідэй. Ён унаследаваў ад драматургіі Я. Купалы яе сацыяльную завостранасць, грамадскую значнасць узнімаемых праблем, моўнае майстэрства народнага песняра і яго ўвагу да духоўнага і інтэлектуальнага жыцця чалавека. Творчыя пошукі найбольш дасканалай нацыянальнай формы ў галіне драматургіі ў К. Крапівы супалі з творчымі пошукамі другога народнага паэта — Я. Коласа. У выніку К. Крапіва ўзняў беларускую драматургію да вышыні лепшых здабыткаў драматургічнай творчасці савецкага народа і вывеў яе на ўсесаюзную арэну. Яго п'есы ідуць на сцэнах тэатраў брацкіх рэспублік побач з творамі М. Пагодзіна, Б. Лаўранёва, Ус. Вішнеўскага, А. Карнейчука і карыстаюцца заслужаным поспехам. З п'есамі К. Крапівы звязана слаўная гісторыя Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы і творчыя біяграфіі яго найбольш выдатных акцёраў.

Усё гэта робіць Кандрата Крапіву адным з лепшых савецкіх драматургаў, пісьменнікам шыракавядомым і папулярным далёка за межамі нашай рэспублікі.

*1946—1950 гг.*

# ПРА ЧАС І ПРА СЯБЕ

Нарадзіўся я ў сям'і земскага ўрача ў волжскім гарадку Хвалынску. Не ведаю, які ён сапраўдны, але мне ўяўляецца зялёным, у садах, з недалёкімі крэйдавымі гарамі, з якіх узімку на санках можна ехаць кіламетры. Тут прайшло маё маленства, тут я бачыў рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, тут навучыўся плаваць, чытаць.

Рэвалюцыя асталася ў маёй памяці як людскі вір на Саборнай плошчы і чырвоныя банты на грудзях у людзей. Грамадзянская вайна — як страляніна на вуліцах, узрушаныя коннікі на ўзмыленых конях, разрывы снарадаў, што прылятаілі ад Волгі, ахопленыя полымем прыволжскія склады ды яшчэ, хіба, гаркаваты смак праснакоў, спечаных з падгарэлай мукі вось з гэтых складаў.

Плаваць і чытаць я навучыўся не зусім звычайна. Старэйшыя хлапчукі зацягнулі мяне на якарны ланцуг ад баржы і пакінулі там аднаго. Я доўга плакаў, прасіўся, але, калі зразумеў, што ўсё гэта дарэмна, адштурхнуўся ад ланцуга і, барахтаючыся, як шчанё, паплыў да берага. Мабыць, таму я ў сем год пераплываў Волажку. А чытаць? Я многа ведаў на памяць казак — вершаваных і ў прозе. І пачаў з таго, што гуляў у чытанне: казаў тое, што ведаў на памяць, і вадзіў пальцам па радках кнігі. З цягам часу гэта памагло мне вылучыць са сказаў словы, а потым, пры дапамозе сястры, літары-гукі. Вучыцца ж у школе я пачаў значна пазней — адразу паступіўшы ў трэці клас, калі мы пераехалі ў Беларусь.

Маці мая — самаахвярная, цярплівая жанчына — працавала выхавацельніцай у дзіцячым доме, і, можа, толькі гэтая акалічнасць выратавала нас. Голад наваліўся на спустошаны вайною гарадок адразу, як толькі завітаў у Паволжа. Як ні дзіўна, першымі па-

чалі паміраць сыцейшыя. Бацька пакінуў нас даўно. Апрача мяне, на матчыным гарбе сядзелі яшчэ двое — старэйшы брат і сястра. Таму, натуральна, мы не маглі быць сытымі. Дый дзіцячаму дому сёе-тое ўсё ж перападала. Калі ж стала зусім цяжка, дзіцячы дом эвакуіравалі ў Гомель. Так я трапіў у Беларусь.

Нельга сказаць, каб жыццё ў прыдняпроўскай вёсцы Ёлча на Камарыншчыне было вельмі лёгкае. Дзевяцігадовым хлапчуком я каштаваў ужо хлеб падпаска — пасвіў вясковых свіней, вадзіў на начлег чужых коней. Але дабрабыт і спагаду ёлчанскіх кабет, сваю першую настаўніцу — самотную Марыю Ёсіпаўну Шастаковіч, ігрышча, што распасціралася паміж вёскай і Дняпром і па вечарах звінела ад дзявочых галасоў, я заўсёды буду ўспамінаць з замілаваннем і ўдзячнасцю.

Пасля я жыў і працаваў шмат у якіх вёсках Камарыншчыны, ды павага і любоў да людзей, якія прытулілі нашу сям'ю, ідуць усё-такі з Ёлчы. І тут я, у свае дзесяць год, прысягнуў аддзячыць ім, чым толькі будзе ў маіх сілах.

Пазней я вучыўся ў школе другой ступені (так называлася тады сярэдняя школа), дзе перада мной раскрыўся свет чароўных ведаў і не знаёмых раней пачуццяў, ды усё роўна альма-матэр для мяне аставалася аднакамплектная Ёлчанская школа, дзе я пачаў разумець геаграфічную карту, адчуў асалоду ад таго, што малюю, дзе стаяла нефарбаваная драўляная шафа з кнігамі, якія з захапленнем чытаў пры цьмяным святле коміна або ў абед на ігрышчы, калі свінні спакойна адпачывалі на беразе затокі.

Да тысяча дзевяцьсот дваццаць дзевятага года, калі я скончыў «другую ступень», брат — шчыры, працавіты хлопец — ужо рабіў канцарэзчыкам на Рэчыцкім лесапільным заводзе і абзавёўся сям'ёю. Працаваць побач з братам вырашыў і я. Не падаючы заявы ў інстытут, паехаў да брата.

Што я вынес з сярэдняй школы? Перш за ўсё прагу да работы, ружовыя мары, веру ў дабро і бязмежную адданасць часу, жыццю.

За гады работы на Рэчыцкім лесапільным заводзе кім я толькі не працаваў. Адносіў аполкі ад пілорамы да канцарэзкі, адвозіў з мурла тачкай тырсу ў кача-

гарку, быў цыркулярншчыкам, памочнікам станкавога, качагарам, сарціроўшчыкам.

Працаваў я ахвотна, многа. Тады мне было семнаццаць. Каб паступіць на завод, давялося выдаць сябе дарослым, прыпісаўшы год. Але і ў свае семнаццаць, адпрацаваўшы поўную змену, я, калі не хапала рабочых рук, грузіў вагоны лесам, прымаў удзел у штурмах, у суботніках ці завіхаўся на лесаскладзе каля штабялёў дошак. Так што пазней у мяне доўга з левага пляча, на якім я насіў аполкі і дошкі, не зыходзіла нарасць-мазоль, і левае плячо ў мяне нават цяпер асталося дужэйшым.

Я палюбіў завод, зладжанасць, што панавала ў калектыве. Было хораша, думна сярод працавітых людзей, каля станка або цыркуляркі. Цяжка прыходзілася толькі ўзімку. Па цэху гулялі скразнякі. У шырачэзныя вароты, праз якія саматас падцягваў бярвенні, дыхаў сцюдзёны Дняпро. Жалеза абпякала рукі. Але і тады, калі пілавалі бярозу, чулася вясна, патыхала хмяльным бярозавым сокам. Усё выкуплялі кароткія хвіліны адпачынку ў цёплай пілаточцы або качагарцы. І вельмі радавала, калі над вільчыкам заводскага даху загаралася чырвоная зорка — сведчанне, што завод перавыканаў план.

Не меншым маім захапленнем, як і раней, былі кнігі. Чытаў я прагна ўсё, што траплялася пад рукі,— ад Эўрыпіда да Ляонава, і паважаў кнігу вельмі. Я нават яскрава помню, дзе і як атрымліваў кнігі. Помню, як, адчыніўшы нефарбаваную скасабочаную шафу, Марыя Ёсіпаўна выдавала іх нам, віхрастай дзятве, беражліва беручы з палічкі, уважліва разглядала, каб запомніць, якія былі, і не працягвала, а ўручала іх. Помню бібліятэку ў школе другой ступені і той запаветны пакойчык з стэлажамі, куды выбіраць сабе кнігі дапускаліся толькі любімчыкі. Помню бібліятэку на лесапільным заводзе — маладую бібліятэкарку Дору Бэр, маленькі столік пры дзвярах, за якім яна сядзела, кніжныя паліцы і шафы. Я забыўся, дзе знаходзіўся заўком, назву вуліцы ў рабочым пасёлку, дзе жыў, а вось бібліятэку помню і буду помніць да апошняга дня...

У трыццаць другім памёр брат. Цяжка перажыўшы гэта, я пакінуў Рэчыцу і вярнуўся да маці ў Камарын.

Зноў паўстала пытанне будучыні, і зноў я аддаў перавагу не вучобе, а працы.

Чаму? Скончыў я сярэднюю школу выдатна. У пасведчанні-атэстаце педагогі вызначылі «ўхіл» — літаратура, маляванне і чамусьці хімія. Значыць, і тут быў выбар, было, вядома, жаданне вучыцца. У школе ўсталявалася традыцыя — кожны выпуск (а ў нас было некалькі паралельных груп) пакідаў пасля сябе вялікі партрэт У. І. Леніна, і пісаць партрэт у дваццаць дзевятым даручылі мне. Усе мае неразлучныя таварышы наогул пайшлі ў мастацкае вучылішча — перад імі замаячыла вунь што! А я не захацеў, падаўся на завод. Думалася, што вучоба нідзе не дзенецца, «паварыцца ж у рабочым катле» чалавеку заўсёды карысна. Нават неабходна — тады ты будзеш зусім іншы. Дый рабочы стаж потым сам забяспечыць табе далейшую вучобу. Але чаму я не пайшоў вучыцца, маючы ўжо гэты рабочы стаж? Цяпер мне цяжка нават сказаць. Мусіць, шукаў яшчэ сябе, у мяне не было пэўнасці ў адносінах заўтрашняга дня, як не было пэўнасці і ў тых «ухілах», якія вызначыў мне педсавет. Больш таго, працуючы на лесапільным заводзе, я паступіў на завочнае аддзяленне Маскоўскага рэдакцыйна-выдавецкага інстытута, але, калі маё аддзяленне — рэдактарскае — закрылі, адмовіўся пераходзіць на якое-небудзь іншае і кінуў інстытут наогул. Так ці інакш, на Камарыншчыне я стаў настаўнічаць — якраз пачалі бурна расці школы і не хапала настаўнікаў.

Гэта былі слаўныя гады — гады гарэння, самаадданай працы, падрыхтоўчых і перападрыхтоўчых курсаў. Вучні школ, грамадская работа... Штудзіраваў методыку, складаў планы, даваў практычныя ўрокі, займаўся з адстаючымі, навучаў малапісьменных, выступаў з антырэлігійнымі лекцыямі, выпускаў насценгазету ў калгасе, у сельсавеце, у хаце-чытальні. Калі нарэшце бязбожнікі дамагліся і царква ў вёсцы, дзе я на другім годзе сваёй педагагічнай работы загадваў ужо навучальнай часткай НСШ і выкладаў літаратуру, была зачынена, сам здымаў з яе крыж. Разам з вучнямі з царкоўнага багету майстраваў рамы для партрэтаў, распісваў сцены школы, маляваў вучняў для школьнай галерэі выдатнікаў, кіраваў шумавым

аркестрам, будаваў спартыўны гарадок, ляпіў бюсты і цэлыя скульптурныя кампазіцыі, ды хіба можна пералічыць тое, што рабіў настаўнік-камсамолец у першай палове трыццатых гадоў!

Праўда, жыццё не заўсёды песціла мяне. Выпадалі хвіліны, калі яно паварочвалася спіной і было глыбока несправядлівым.

У трыццаць сёмым арыштавалі майго айчыма — таксама настаўніка. Айчым і пасынак — невялікае сваяцтва (не кажучы пра тое, што сам ён не быў вінаваты), але мяне выключылі з камсамола. Здзіўлены, абураны, я не мог ужо аставацца на Камарыншчыне і падаў заяву ў Наркамасветы, каб мяне перавялі куды толькі можна.

Так я трапіў на Віцебшчыну — край сініх азёр і харошых людзей. Працаваў там загадчыкам навучальнай часткі НСШ, дырэктарам СШ, як і заўсёды ўвесь аддаючыся рабоце. Але дзіўна — рос мой жыццёвы, педагагічны вопыт, а я ўсё выразней адчуваў, што мне не стае адукацыі.

Самаадукацыя, мусіць,— нешта такое, што характэрна для ўсяго майго пакалення. Краіне патрэбны былі кадры. Іх не маглі даць тагачасныя навучальныя ўстановы, і мы вучыліся працуючы, і працавалі вучачыся.

У тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмым годзе я здаў экстэрнам экзамены за настаўніцкі інстытут і паступіў на завочнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Мінск! Я ніколі не думаў, што ён адыграе такую ролю ў маім жыцці, што мой лёс зніцуецца з ягоным лёсам і я прысвячу гэтаму гораду жыццё. Не, я не думаў, але, праўда, адчуваў, што з ім звязана самае светлае, радаснае, запаветнае, бо тут я пазнаваў непазнанае, тут перада мной, як ніколі яскрава, развінуліся неабсяжныя далягляды чалавечай думкі і мудрасці.

Як на тое вайна застала мяне таксама ў Мінску (я здаваў дзяржаўныя экзамены і апошні здаў на другі дзень вайны), і такім чынам зрабіўся сведкам першай бамбёжкі Мінска. Пачатак вайны ўвайшоў у маю свядомасць як ахоплены агнём Мінск.

Дамоў, у вёску Доўгая Ніва Сіроцінскага раёна, я дабраўся толькі тады, калі грымоты вайны сталі чут-

ны і там. На кані, з жонкай і трохгадовым сынам, я рушыў на ўсход. Аднак ужо назаўтра раніцай танкі з белымі крыжамі абагналі нас, і давялося спыніцца ў Слабадзе — вёсцы, дзе мы асталіся начаваць.

Тут я і пражыў амаль год, пакуль не пайшоў у партызаны. Але жонцы і сыну пагражала небяспека, і неўзабаве іх таксама прыйшлося вывесці ў партызанскую зону, адкуль шчасліва, хоць і з прыгодамі, яны разам з другімі сем'ямі партызан перайшлі лінію фронту і былі эвакуіраваны на Урал.

У пачатку верасня адбыліся змены ў маім жыцці. Мяне ўключылі ў спецгрупу Мінскага абкома КПБ і прызначылі намеснікам яе камандзіра. Атрымаўшы асобае заданне, мы, дзесяць разведчыкаў-сувязных, рушылі ў глыбокі тыл праціўніка — пад Мінск. І выйшла так, што да канца вайны мне прыйшлося двойчы пераходзіць і двойчы пералятаць лінію фронту.

Ішлі мы ляснымі сцежкамі, прасёлкамі, забытымі екацярынінскімі шляхамі, перасякалі гравейкі, аўтамагістралі. Шмат дзе шаша і гравейкі былі перакапаны равамі. Замест мастоў тырчалі абгарэлыя пáлі. Там жа, дзе гаспадарылі акупанты, масты былі аплецены калючым дротам, падыходы да іх замініраваны. Лясы і хмызнякі адступалі ад дарог, а на абочынах выраслі дзоты, кулямётныя гнёзды.

Але па начах дарогі замiралі і там. Не вытрымліваючы цішыні і цемры, нямецкія часавыя ракецілі. Часам без дай прычыны ноч прашывалі кулямётныя чэргі і разразалі промні пражэктараў, устаноўленых на гарнізонных вышках. І заўсёды дзе-небудзь нешта гарэла, і зарыва залівала край або палову неба. Аднак раніцай, як толькі на дарогах пачынаўся рух, зямля грунязменна выкоўзвалася з-пад рубцаваных шын грузавікоў, з-пад грымучых гусеніц танкаў, і выбухі рвалі паветра.

Вёскі, здавалася, старэлі ўвачавідкі. Але і яны ператвараліся ў надзённыя звенні партызанскай абароны, хоць сюды часта заглядалі агонь і смерць. Сустракаліся дашчэнту выпаленыя вёскі, дзе ўцалелі толькі парудзелыя голыя дрэвы ды страшныя пад адкрытым небам печы. Нават былі ўзарваны калодзежы. Сустракаліся і пакінутыя вёскі, дзе ўсё спавіло небыццё. І толькі на гародах было відаць, што часам сюды з далёкага бору прыходзяць людзі.

Партызаны па-рознаму ладкавалі свой побыт. Некаторыя лагеры нагадвалі цыганскія табары. Сярод акораных васкова-жоўтых елак былі раскіданы буданы. Другія ж лагеры выглядалі, наадварот, падкрэслена строга. Траплялiся нават такія, дзе сцежкі да штабной зямлянкі пасыпаліся пяском і пад вартавым грыбам нерухома стаяў часавы, які сустракаў камандзіраў урачыстым яфрэйтарскім вітаннем.

А Мінск — пакутнік і герой, куды я зноў трапіў у пачатку сорак трэцяга і дзе нелегальна пражыў дзесяць дзён?

Гета ў Мінску стварылі ў першыя тыдні акупацыі. Ужо на кастрычніцкія святы ў сорак першым гітлераўцы правялі «скарачэнне тэрыторыі» гета, і свежыя равы ў Тучынцы былі засыпаны зямлёй. У скверах, на плошчах — шыбеніцы, канцэнтрацыйныя лагеры ў Драздах і на Шырокай вуліцы, набітыя да адказу турмы... і гераічнае падполле!

Так, я ўбачыў паўстаўшую Беларусь і вялікую еднасць народа ў барацьбе. І чым больш аддаляешся ў часе ад гэтых падзей, тым бясспрэчней робіцца ісціна: Беларусь гадоў Вялікай Айчыннай вайны з'яўлялася краем класічнага партызанскага руху, а Мінск — вартай яе сталіцай.

Праўда, было і іншае.

Паміж руін, каля калючай агароджы гета, аднойчы разыгралася драма. Жыхары гета падкупілі ахоўнікаў-паліцаяў, і тыя скрозь пальцы глядзелі, як каля агароджы часам ішоў гандаль. І вось аднаго разу раптам пачуліся стрэлы.

Паўз дом, дзе я знаходзіўся, прабегла старая — раскудлачаная, злосная. Яна трымала перад сабой чыгунок, [redacted] якога ішла пара і цераз край выплёскваўся боршч.

Праз колькі хвілін страляніна сціхла. Каля агароджы апусцела, толькі на калючым дроце астаўся вісець чалавек ды ля самых руін цямнела яшчэ адна постаць.

Зноў кроў!..

Але гэтая старая з чыгунком баршчу? Цёмны абветраны твар з незагарэлымі зморшчыкамі. Жорсткія складкі ля рота, злыя вочы. Такіх я бачыў і на рынку. Яны гандлявалі піражкамі з ліվернай начынкай, баршчом, гатаванай бульбай паштучна і хавалі атрыма-

ныя ад пакупнікоў грошы ў панчоху, дзелавіта прыпадымаючы спадніцы. А прыватныя цырульні, харчэўні і розныя забягалаўкі, што з'явіліся на Камароўцы і другіх ускраінах? Хто іх адкрываў? Мне казалі — шмат хто гоніць самагонку. Што за насланнё? Адкуль узялася гэтая дрымучая цемра? Хто мог узяць белую сурвэтку і стаць за стойку ўласнай харчэўні? Хто не пагрэбаваў адкрыць прытон?

Кроў і гразь! Яны, мабыць, часта бываюць разам. Мусіць, вайна страшная не толькі сваімі разбурэннямі і ахвярамі.

Пазней, калі я ўзяўся за пяро, усё бачанае і перажытае апісаў у аповесці «Без нейтральнай паласы» (1949 г.) і ў рамане «Нямігі крывавыя берагі» (1962 г.).

За свой паход у Мінск я быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і, калі вярнуўся на Вялікую зямлю, атрымаў двухмесячны адпачынак, які даў мне магчымасць убачыць сям'ю.

Знайшоў яе ў невялікім уральскім пасёлку — Ніжнім Іргінску, што туліўся на крутым горным схіле. Жонка настаўнічала ў школе, сын рос у дзіцячым садзе. Так, без маленькіх шчасцейкаў не бывае вялікага шчасця. Гэта востра адчуў я тады ў Іргінску, трымаючы на руках сына і бачачы, як да нас праз сілу ўгору бяжыць некім папярэджаная бледная жонка...

Улетку сорак трэцяга года ў складзе спецгрупы я зноў паляцеў на Міншчыну, і зноў баявыя будні паланілі мяне. Да ўсяго на гэты раз давялося перажыць небывалую блакаду: марна рваць кола нямецкага акружэння, адступаць, адседжвацца ў балотах Паліка, галадаць.

Увайшоў я ў вызвалены Мінск на чале групы аўтаматчыкаў следам за армейскімі разведчыкамі, калі яшчэ чулася перастрэлка, сям-там гарэлі будынкі і вуліцы раз-пораз перабягалі падазроныя постаці.

Горад уразіў нас разбурэннямі. У цэнтры з усіх бакоў насунуліся руіны — жоўтыя, вастраверхія. Сярод іх зелянелі градкі чэзлых буракоў і капусты, абгароджаныя спінкамі ржавых ложкаў. Навокал плошчы Перамогі і абапал Даўгабродскай вуліцы палавела жыта, і, нягледзячы ні на што, пілікалі сваё «піць-палоць» перапёлкі.

А назаўтра ўначы немцы абрынулі на Мінск бомбы, і выбухі зноў скаланулі знявечаныя кварталы.

У Мінску я перажыў самыя памятныя і небяспечныя хвіліны свайго жыцця, за Мінск пралілася мая кроў, і ў грымотах разрываў я раптам адчуў, што горад уваходзіць у сэрца як нешта бясконца роднае, адваяванае, табе неабходнае, без чаго цяжка будзе жыць.

Пачаў я пісаць даўно, хоць і ўрыўкамі. Пісаў вершы, прозу, займаўся даследаваннямі. Пісаў пра балоты і сыпучы пясок Камарыншчыны, што, як вада, сцякаў па спіцах колаў, пра чырвоную зорку на вільчыку заводскага даху, пра пошукі шчасця людзьмі, даследаваў творчасць Ф. Дастаеўскага. Але адчуць сябе літаратарам, хоць гэта, можа, гучыць парадоксам, мяне прымусіла вайна. Яна загадала ўзяцца за пяро, прымусіла яшчэ раз асэнсаваць сваё месца ў жыцці, свой абавязак перад другімі.

У вызваленым Мінску я зноў пачаў настаўнічаць — выкладаў мову і літаратуру, загадваў навучальнай часткай 42-й сярэдняй школы. Ды неўзабаве, паслухмяны нейкаму ўладарнаму загаду, пакінуў школу і перайшоў працаваць літаратурным работнікам у рэдакцыю газеты «Советская Белоруссия».

Пісаў я ў той час рознае: рэцэнзіі на спектаклі, кінакарціны, кнігі, юбілейныя артыкулы, успаміны пра партызан-паплечнікаў, а пазней — партрэты артыстаў, літаратурна-крытычныя агляды і нарысы аб творчасці беларускіх пісьменнікаў. Асабліва захапляўся творамі Кузьмы Чорнага.

Увесну тысяча дзевяцьсот сорак пятага года было прынята рашэнне аднавіць выпуск газеты «Літаратура і мастацтва», і мне прапанавалі перайсці ў яе рэдакцыю адказным сакратаром.

Газетная праца раўнівая. Яна не любіць, каб чалавек дзяліў яе з чым-небудзь іншым. Таму нярэдка даводзілася начаваць у друкарні, дыктаваць машыністцы перадавіцы, правіць артыкулы проста на лінатыпе, шмат чаму вучыцца на хаду самому.

Работа ў газеце ўвяла мяне, калі так можна сказаць, у самую гушчу літаратурнага жыцця, у літаратурную лабараторыю, памагла фарміраванню маіх творчых поглядаў. Я вельмі ўдзячны газеце.

І ўсё-такі праз два гады я мусіў перайсці на новую работу — рэдактарам аддзела прозы і драматургіі ў часопісе «Полымя», дзе працаваў трынаццаць год.

Біяграфія пісьменніка — гэта яго кнігі. У іх — і жыццёвыя дарогі, і роздум, і мары пісьменніка. І няхай сабе нават напісаны яны пра іншыя часы, пра людзей іншых прафесій, і г. д., у іх усё роўна так ці інакш адаб'ецца асабісты лёс пісьменніка, яго пошукі, яго барацьба за сваё запаветнае, іначай кажучы, як і чым ён жыў у гэты час.

Я стаў пісьменнікам позна, толькі пасля вайны. І натуральна, першай маёй кнігай стала ваенная аповесць «Без нейтральнай паласы». Да таго ж, нягледзячы ні на што, успаміны аб удзеле ў партызанскай барацьбе былі аднымі з самых дарагіх у маім жыцці.

Гады работы ў рэдакцыях газет і ў часопісе знайшлі сваё адлюстраванне ў наступнай кнізе — «Па шляху сталасці» (1952 г.), хоць у ёй змешчаны толькі літаратурна-крытычныя нарысы аб беларускай прозе і драматургіі.

Аднак вера і перакананне, што прызванне маё — літаратура, прыйшло да мяне толькі з раманам «За годам год» (1957 г.). Пісаў я гэты твор поўны любві да Мінска — горада-героя з такой трагічнай гісторыяй, поўны павагі і замілавання да тых, хто ўзнімаў яго — у які ўжо раз! — з безнадзейных руін.

З якіх крыніц чэрпаў я матэрыял для твора? Перш за ўсё — з перажытага, з уласных уражанняў. Як гаварыў ужо, увайшоў я ў Мінск бадай што разам з разведкай Савецкай Арміі і бачыў яго ў агні і дыме. Мне давялося прымаць удзел у суботніках па аднаўленню горада, і кніжачку, дзе адзначаліся адпрацаваныя гадзіны, я хаваю і цяпер. Мяне акружалі—і я іх ведаў— людзі, якія вярнуліся да мірнай працы і пачалі ладкаваць свой мірны побыт. Іх лёс, сцежкі-дарожкі, якімі пайшлі яны да свайго шчасця, хвалявалі мяне, тым больш што не заўсёды, як і мае, былі лёгкія і прамыя. Мне пашанцавала, нарэшце, бачыць, як з попелу і руін ўзнялі горад рэдкай красы.

Але я не гісторык, не архітэктар, не будаўнік. Таму, калі ўзяўся за працу, мне прыйшлося прачытаць дзесяткі кніг па гісторыі Мінска і градабудаўніцтва, дзесяткі кніг пра вопыт будаўнікоў. Прыйшлося днямі праседжваць у кабінеце галоўнага архітэктара,

знаёмячыся з яго работай, ездзіць з ім у майстэрні і на будоўлі, прысутнічаць на пасяджэннях архітэктурнага савета. Давялося знаёміцца з работай будаўнічых трэстаў і іх прафесіямі, з працай, побытам будаўнікоў.

Улетку 1953 года я паехаў у Валгаград. Там таксама заняўся вывучэннем жыцця тых, хто будуе гарады. Жыў разам з імі, разам з імі хадзіў на будоўлі, разам ездзіў у выхадныя дні адпачываць на Бакалду — левы бераг Волгі, стараўся ўведаць іх інтарэсы, імкненні, зразумець, што іх хвалюе.

Вось усё гэта, творча пераплаўленае, аздобленае фантазіяй, і вылілася ў раман «За годам год».

Пра што мой раман? Звычайна гавораць — пра будаўнікоў Мінска. Гэта правільна, але не ўсё. «За годам год» — кніга пра пасляваенны лёс людзей. У савецкага чалавека многа дарог да шчасця. Але дзе яна, карацейшая і найбольш пэўная? Вось хутчэй за ўсё пра гэта і апавядае раман. Ва ўсякім разе, калі я адбіраў падзеі, чалавечыя лёсы і стараўся прасачыць іх, я кіраваўся якраз гэтай задачай.

У кожным мастацкім творы ёсць знешняя і ўнутраная тэма. Унутраная тэма рамана «За годам год» — людзі і час, пошукі шчасця людзьмі.

Паездка ў Валгаград абудзіла прагу да падарожжаў. Я скалясіў Беларусь, Украіну. Узнімаўся на Кара-Даг у Крыме, праехаў Вярэцкі і Ужоцкі перавалы у Карпатах, пабываў у слаўным Ужгарадзе, дзе вольна, зусім як у лесе, стогнуць горліцы. Я бачыў зялёныя Кодры Малдавіі, сыпучыя дзюны Паланґі, лагоднае Рыжскае ўзмор'е, маляўнічыя дахі Таліна і старога Томаса на Талінскай ратушы, пабываў у Ленінградзе, любаваўся волжскай разлегласцю и Адхона ў Горкім... Але дзіўна — чым больш я бачыў свет, тым даражэйшым і мілейшым рабіўся Мінск, і чым далей ад'язджаў ад яго, з тым большай нецярплівасцю і душэўным трапятаннем вяртаўся назад.

Другі свой раман «Вясеннія ліўні» (1960 г.) я таксама прысвяціў Мінску. Кажу «прысвяціў» таму, што горад, як і ў раманах «Нямігі крывавыя берагі» і «За годам год», з'яўляецца тут адным з герояў, і ягоны лёс цікавіць і хвалюе мяне гэтак жа, як і лёс другіх жывых герояў. Наогул, раманы, з'яўляючыся закон-

чанымі, самастойнымі творамі, утвараюць адзіны цыкл — «На перавале стагоддзя».

«Вясеннія ліўні» з'явіліся вынікам майго знаёмства з працай і побытам мінскіх аўтазаводцаў. Да таго ж шмат хто з маіх добрых таварышаў па партызанскай барацьбе стаў будаўніком, а потым і рабочым або інжынерам аўтазавода. Мяне захапіў і сам пачатак будаўніцтва гэтага гіганта — рамантычны, непаўторны і так характэрны для Мінска.

Першымі мулярамі, мантажнікамі і прарабамі былі былыя партызаны. На Захадзе яшчэ шугала вайна, і яны доўга яшчэ жылі атрадамі, як і некалі,— у буданах пад соснамі, у бараках. Мелі агульныя запасы харчоў, штодзень вызначалі дзяжурных па арцельных кухнях, па чарзе вазілі ў бочках ваду са Свіслачы. Вечарамі па прывычцы раскладалі агні, і тады зусім па-партызанску выглядаў бор. Часам уначы разлягаўся гудок. Падхопліваліся ўсе, апранаючыся на хаду, як па трывозе, беглі да чыгуначных пуцей разгружаць вагоны, а потым на руках або па слегах цягнулі на тэрыторыю завода важкія скрынкі са станкамі і абсталяваннем. У выхадныя ж дні ў страі, калонамі, з кіркамі, рыдлёўкамі ішлі на разборку руін.

І зноў я вывучаў вытворчасць, сачыў за «Аўтазаводцам», гутарыў з рабочымі, інжынерамі, камсамольскімі і партыйнымі работнікамі, прысутнічаў на сходах, ездзіў у Горкі і пазнаёміўся са слаўным старэйшым братам Мінскага аўтамабільнага, пажыў у рабочым пасёлку сярод горкаўскіх аўтабудаўнікоў. Асабліва ўважліва сачыў за тым, як, вызваляючыся ад перажыткаў далёкага і недалёкага мінулага, мяняецца сама псіхалогія людзей, іх светаадчуванне, адносіны да сябе і другіх, як часам цяжка даецца гэта людзям.

Радасці ў маім пісьменніцкім жыцці было нямнога. Але яна была і найбольшая, калі я працаваў. Пішучы, забываўся на ўсё. З табою аставалася толькі тое, пра што пісаў: твае думы ды створаныя ўяўленнем карціны, якія трэба было пакласці на паперу. Вялікая радасць — працаваць.

Радасць нязменна прыходзіла таксама, калі я трапляў да простых людзей — працаўнікоў. Бачыць іх, слухаць, угадваць іхнія думкі, жыць з імі адным — шчасце. Асабліва цяпер — у наш час.

Адсюль вырас вывад, які я зрабіў сабе як пісьменнік,— самае вялікае шчасце і радасць — у рабоце, у служэнні людзям, якія навокал цябе, жывуць побач з табою, працуюць, радуюцца, бядуюць, шукаюць лепшага, найлепшага, дасканалейшага.

Зроблена пакуль што мала і не так, як хацелася б. Цешыць толькі думка, што Галоўная твая кніга яшчэ не напісана і што ты абавязкова напішаш яе. Будзе гэта ці не? Хочацца, каб было. Ва ўсякім разе, буду старацца, каб гэта было.

*12 верасня 1962 г.*

# ЗМЕСТ

**Карпаў У.**

К 26 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 5. Прызнанне ў нянавісці і любві: Успаміны і апавяданні. Крылаты ўзлёт: Літаратурна-крытычныя артыкулы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 461 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 80 к.

Успаміны і апавяданні — даніна гераічнаму мінуламу. Значная ўвага адведзена мінскім падпольшчыкам.

Літаратурна-крытычныя артыкулы, прысвечаныя даследаванню творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, раскрываюць працэс станаўлення і развіцця беларускай прозы і драматургіі.

К $\frac{4702120200-090}{М302(05)-85}$ 116—85

ББК 84Бел7

Бел 2

*Владимир Борисович Карпов*
СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ПЯТИ ТОМАХ
ТОМ 5
***ПРИЗНАНИЕ В ЛЮБВИ И НЕНАВИСТИ***
**Воспоминания и рассказы**
***КРЫЛАТЫЙ ВЗЛЕТ***
**Литературно-критические статьи**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**
**На белорусском языке**

**Рэдактар *П. З. Шаўцоў***
**Мастак *Л. Я. Прагін***
**Мастацкі рэдактар *А. І. Труханава***
**Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна***
**Карэктар *Л. П. Вялова***

**ІВ № 2195**
**Здадзена ў набор 04.07.84. Падп. да друку 24.04.85. АТ 06689. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 25,20. Ул.-выд. арк. 24,95. Тыраж 15 000 экз. Зак. 535. Цана 1 р. 80 к.**
**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**
**Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**